Падпісны індэкс: **74813**
Чытайце «Дзеяслоў» у Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



Ілюстрацыі на вокладцы С... П...:
на 1-й стар.: «...», 2002;
на 4-й стар.: «...», 2004.



Пасведчанне аб рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 631 ад 28 жніўня 2009 г., выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Заснавальнік — ГА «Літаратурна-мастацкі фонд «Нёман».
Юрыдычны адрас: вул. Кузьмы Чорнага, 18-2, 220012, г. Мінск.

Адрас рэдакцыі:
220025 г. Мінск-25, а/с 91
e-mail: dzieja@tut.by
www.dziejaslou.by
Тэл.: 200-80-91.

Здадзена ў набор 22.10.2014 г. Падпісана да друку 24.11.2014 г.
Фармат 70x108 1/16. Папера афсетная. Друк афсетны.
Аб'ём — 22 ул.-выд. арк. Наклад 1000 асобнікаў. Заказ №

Паліграфічнае выкананне: сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Медысонт».
№ 1/142 ад 9.01.2014
№ 2/34 ад 23.12.2013
ЛП № 02330/20 ад 18.12.2013.
Вул. Ціміразева, 9, 220004, Мінск.

Кошт нумара – па дамове.

№2(75)
/сакавік-красавік/ 2015

Дзе

# дзеяслоў

ЗМЕСТ

Леанід Галубовіч



...У прахалода...

# Граматыка жыцця

***Вершы розных гадоў***

* * *

...калі над вершамі я плачу,
то, значыць, нешта ўсё-ткі значу,
як чалавек, які астачу
жыцця не кінуў на абы,
а вызнаць сэнс яго таемны
і дух быцця адчуць нятленны
жадае,
каб знайсці збавенне,
не гледзячы на лёс сляпы.

*8 студзеня 2011*

* * *

Ужо паўгады як памерла мама:
жыццё прыпынілася,
а час ідзе...

*9 лютага 2011*

## СОН

Апоўначы,
схіліўшыся з краю нябёс,
да мяне дагукалася мама,
і кажа мне гэтак:
не вер, што тут цемра і нежыць,
тут – як і там,
толькі ўсё перавернута:
хто быў апошнім,
апынаецца першым,
і Авель зайздросціць
дару брата свайго...
Тут чалавек падобны
на свой першародны
вобраз...
І зямля адсюль
бачыцца гэтак жа,
як і неба – з зямлі...

Пасля адвярнулася,
накрылася воблакам –
і заснула...

*24 лістапада 2013*

* * *

*электарату*

Сабака звыкае да волі гаспадара
і да ўтульнай хатняе службы;
ненавязаным
не хоча выходзіць на вуліцу,
баіцца быць пакінутым
сам-насам...

З якой удзячнасцю
ён ліжа маю далонь,
калі я прышчэпваю
павадок...

*5 снежня 2013*

## ВЫРАК ВАРАННЯ

На полі бязлюдным падвечар,
зграіўшыся цёмнаю хмарай,
вароны наладзілі веча,
з усіх прыляцеўшы абшараў...

Свой чорны выкарквалі гонар,
і лютасць вытоптвалі яра,
пакуль не павыдзерлі з горлаў:
кра!
          край гэты – крыж наш і кара!..

Гарлалі над выстылым полем
да шарай гадзіны сыходнай,
пакуль іх гаротная доля
не сталася доляй народнай...

*27 снежня 2013*

* * *

Каторы дзень
сяджу і думаю:
якая марнасць жыцця,
хоць вазьмі ды
засілься
на вяроўчыне,
якой перацягнулі ўчора
купленае ў краме паліто
(а гэта ж не на адну зіму?!)...

Але ў нашай літаратуры
амаль ніхто не сыходзіў так,
як сыходзілі Маякоўскі, Цвятаева,
Місіма альбо Сільвія Плат...
Нашых часта выдавалі,
добра плацілі,
любілі і шанавалі,
а калі, бывала, наадварот, –
то не хапала волі,
каб да канца
выславіць сваё
Я
такім грэшным
чынам...

Ну,
хіба што Жэня Янішчыц
ды Гумянюк...
Астатнія ад гарэлкі ўгаралі,
хвароб і пражытых гадоў...
Яшчэ самазгубна сыходзіў Сыс,
зрэшты,
ён і сышоў крывёю...

А я?!
Ці мог бы сысці я,
замкнуўшы за сабой дзверы,
ачапіўшыся
на круку
запыленай
люстры?..

Наўрад ці...

Задыхаюся,
а – жыву...

Думаю,
каб самохаць сысці
трэба мець
сатанінскі талент,
а можа, нават,
выбітае на сэрцы ў спрэчках з Богам,
таўро геніяльнасці...

*28 снежня 2013*

## ГРАМАТЫКА ЖЫЦЦЯ

*Алесю Разанаву*

Ніхто не жадае быць словам,
а ўсё – клічнікам,
кропкаю
альбо хоць коскаю,
на крайні выпадак,
пытальнікам,
а хтосьці –
працяжнікам
ці шмакроп'ем...

Так,
у жыцці ёсць
правілы пунктуацыі
і выключэнні з іх,
а ўсё ж без Слова
няма ў нас сэнсу,
бо толькі ў ім –
крыж нашай сутнасці
і ўваскрашэнне...

Скурчваемся пытальнікамі
ў старасці –

ніхто нам не адказвае,
выструньваемся клічнікамі
ў труне –
ніхто нас не чуе...

І толькі
Слова моўчкі
стаіць наводдаль,
нікім незаўважнае
і непачутае...

*27 студзеня 2014*

* * *

Нам славы зямное не будзе
нікому,
а – ўсім і адна:
за тое, што – Божыя людзі
і нас не скарыў Сатана...

Ды нават і тых, хто скарыўся,
не кіне на гібласць Хрыстос,
а веры працягне скарынку
заместа адчаю і слёз...

*29 студзеня 2014*

* * *

прахапіўся ў сне
на магіле мамы
адчуўшы
як скрозь пальцы
прарастае трава

*3 лютага 2014*

* * *

Зямля, цяжарная быццём бацькоў,
і неба, лёгкае дыханнем Бога,
мой дух і плоць у свой спрадвечны схоў
павінны ўзяць, іх раздзяліўшы строга
на дзве сукупных сутнасці жыцця,
якія
у адной зямной істоце,
ратуючы сябе ад забыцця,
з'ядналіся наперакор Прыродзе.

*22 сакавіка 2014*

* * *

Паэт Рыгор Барадулін
жыў ад мяне недалёка –
наўскос – на вуліцы Мележа,
пры Севастопальскім парку...
Нядаўна перасяліўся
вышэй,
абжываючы неба
над тым зелянеючым месцам...
Цяпер, калі там гуляю,
гляджу ў паднебную вечнасць,
дзе ў высях,
пад яркімі зорамі
паэт наш
Рыгор Барадулін
Тварцу ненатомна чытае
на роднай матчынай мове
свае беларускія вершы...

Я думаю ўсё ж,
што аднойчы
Гасподзь не стрывае такога
нахабства й прэтэнзій
на Слова,
і вытурыць дзядзьку Рыгора,
як вытурыў калісь адтуль
яго першапродка Адама...

Ды ў тым пакаранні
Паэта
і цепліцца наша надзея
на існае ў нас адраджэнне –
вяртанне нямым беларусам
іх роднай памерлае мовы...

*31 сакавіка 2014*

* * *

Такі гожы
сонечны дзень!

А нехта падышоў збоку
і топчацца
па маім распластаным ценю...

*2 жніўня 2014*

* * *

Пагодзімся, паэзія –
душа чалавека.

Хіба скажаш,
што не любіш яе,
калі ты не бяздушны...

*13 снежня 2014*

* * *

Ніхто не ведае,
што ён будзе рабіць
у апошні момант:
радавацца жыццю
ці жахацца смерці?

Госпадзе,
самая страшная Твая кара –
забраць чалавека
без папярэджання...

А можа, ў гэтым
і ёсць Твая літасць?

*19 жніўня 2014*

* * *

Ах, смерць – абманка жыцця.
Немаўля, якое перастае плакаць
з пустышкаю ў роце...

*23 жніўня 2014*

Віктар Казько



...у Сібіры ўсе мы па-за нацыянальнасцю — проста сібіракі...

# На кручку

*Нізка апавяданняў*

## На Марка

Нездарма на Палессі кажуць, на Марка і дзеўцы ў хаце жарка. Спраўдзілася гэта і ў Маскве. Якраз на гэтага самага Марка, уначы з восьмага на дзявятае мая, невядомая пакута выкінула мяне з сябрамі, выперла з пракуранага, загрувашчанага падручнікамі пакоя інтэрната літінстытута на вуліцу. Вырашылі ні менш, ні больш, як неадкладна ехаць на рыбалку. На Аку. Чаму ўзбрыла ў галаву тая Ака, ні я, ні хто другі не ведалі. А гэта ж менавіта я нечакана загарэўся, запалаў жарсцю рыбаліць. Падбухторыў і сяброў.

Ні ў сне, ні на яве ніколі не бачаная мной Ака ажыла ў галаве ў фарбах і гуках. Гуллівая, плывучая, зазыўная. Як нехта гукаў, цягнуў мяне за каўнер да яе водаў, з апякаючай ружовасці якіх аднавокім цэрберам выплывала сонца. І мне чуўся поклічны яго посвіст, посвіст маёй

рыбацкай лёскі. Ад пёркавага паплаўка з вытыркнутай з ракі чырвонай дзюбкай кругамі разыходзілася вада.

Усё гэта нагадвала каляровы сон дзіцяці, яшчэ мо і няцямнага, мо нават і ненароджанага – у цяпельна абярэжных каляплодных водах у лоне маці. Такая мройная зыбкасць ахутвала, хістка ўтрымлівала ў сваіх абдымках і шматмільённы горад з падобнымі да зданяў людзьмі, машынамі, мігатлівымі святлафорамі, выразна пазначанымі павіслымі ў паўзмроку над чарнільным асфальтам белымі кубамі пераходаў. Над усёй Масквой у падвышаным асвятленнем небе ззяла серабром Астанкінская вежа, нібы хтосьці з далёкага космасу распасцёр над горадам вялізны лекавы шпрыц. І мы хапатліва і няўхільна імкнулі да яго ўзбуджальна вадкага святла, як імкнулі на яго і начныя матылькі, афарбоўкай, сыпкім прахам крылаў і тулавам падобныя на нежыць не нашых светаў.

Вуліцы былі амаль пустыя. Мы беглі, гулка тупацелі па асфальце, здаецца, адразу і цалкам вымерлага горада. Сустрэчна і напутна глядзелі ў плечы насупленымі татарскімі цюбецейкамі і спакусліва матрошкавымі хусткамі дзяржаўныя галавастыя вежы і закругленыя купалы царкоўных праваслаўных храмаў. Палахліва і паралічова тухла запальвалася рэклама закратаваных і зачыненых крамаў. Толькі чыгуначны вакзал, не падзяляючы час на ноч і дзень, трызніў рухам і жыццём, прывідамі скрыўленых і скасабочаных ліхтарнымі ценямі людзей, распляскана ўтаптаных і стаптаных тымі ж людзьмі.

Але, нягледзячы на гэта, мы адчулі палёгку. Мажныя бабулі на прывакзальнай плошчы прафесійна і бойка гандлявалі падмаскоўным, яшчэ не набрынялым сапраўднасцю свайго колеру ранім бэзам, прывазнымі, хутчэй з Узбекістану, цюльпанамі. Ноч, цемра выштурхнулі іх з непрагляднага выскалу ды хіжа і стоена спажывалі бліжнія завулкі і скверы. А па-над гмахамі вакзала ляжала сваё, вакзальнае неба з вялізную аўчыну, выробленае, сатканае на калячыгуначных кроснах з рознасці маўленняў, апратак люду, што тут раіўся – неба нервовага, хваравітага, якому нідзе, апроч вакзала, няма прыстанку.

Паўсюдна людская цывільная гурма была разбаўленая вайскоўцамі, салдатамі па адным і купкамі, якія, падобна, некага шукалі ці за некім сачылі. Паветра ў склянь было насычана прадчаканнем, настоем загубленых кветак, пахам таннай жаночай парфумы і салдацкага гуталіну.

Цацачнае вакзальнае неба гулліва пакалыхвалася накшталт жаночых грудзей, нібы створанае з адной толькі мэтай – працягваць жар і жарсць палескай дзяўчыны ў Маркаў дзень ці яго ноч. Тлуміла свядомасць, абуджала нейкія цьмяныя згадкі ў нечым нават непрыстойнае спалучэнне водару кветак, шкіпідарна пранізлівага паху таго ж гуталіну і свята, святочнасці настрояў, што мімаволі праменілі людзі. Душа сцішалася і адгуквалася на ўсе рухі, пахі і колеры. І нельга было зразумець, адкуль гэта бярэцца, дзе заканчваецца адно і пачынаецца другое. Усё было датычна да кожнага, знітавана з кожным, але адначасова і адрозна. Нехта ткаў з нашай свядомасці пасаг нашага ж мінулага, а мо і будучага.

Серпухаў яшчэ пацягваўся і пазяхаў, толькі-толькі прачынаўся, калі мы апынуліся ў ім. Бліскучыя, свежаўмытыя аўтобусы шлюбным пярсцёнкам паланілі пасярэдзіне плошчы горада Серпухова адзіны, як палец, слуп з груваcткім, накшталт кубла вароны гадзіннікам наверсе яго. Прыкархнулі на той плошчы ў чаканні, калі ранішняе сонца распраміць стрэлкі гадзін-

ніка на слупе, і кіроўцы аўтобусаў. І глянцава адманікюраная, маладая лістота, няздольная яшчэ нават утрымліваць на сабе сонечныя праменні на абезгалоўленых ці стрыжаных пад Катоўскага таполях, і застыглы ў одуме над сваім дзеркачом гарбаценькі дворнік, і самі кіроўцы аўтобусаў на лаве ў скверы млосна вычэквалі, дакурваючы, тое ж імгненне. Чакала яго раніца, чакалі сонца, неба, паветра і мы.

Але вось выбухнулі гукам куранты. І ўсё абудзілася. Зашоркаў дзеркачом, запакланяўся плошчы гарбаценькі дворнік. Жвава падхапіліся з лавы кіроўцы аўтобусаў. Асфальт, лістота дрэў і самі дрэвы, будынкі, іх дахі заняліся ласкавым посміхам ранішняга сонца. Яго ветлівасць вярнула да жыцця і нас – як і не было прывіднага бяссоння ночы, яе здзеклівага патурання нашаму глупству.

Ака ўжо была побач. Аўтобус бурыў цішыню, паглынаў дарогу ў напрамку да Пушчына. Па-над бэзава бліскучым уранні асфальтам курыўся і скрадваўся сонечным святлом ні то дымок, ні то пара, сіняваты туманок, што нацягваўся ад збочыны яе, ад кюветаў. Такой жа, толькі больш загусцелай і касмылёва трывалай бялёсай сінню была засланая і рака, што насоўвалася на нас, набягала і адбягала.

Вузенькая, але да цвёрдага пратаптаная сцежка наравіста і крута вільнула з-пад нашых ног, ад гмахаў камяніц, што да гэтага шворкай утрымлівалі яе каля сябе сярод голага поля. Занядбанымі хісткімі масткамі, павуцінна завіслымі над зяўрастымі прарэзамі равоў, напаўзасохлымі, але ўсё яшчэ ўчэпістымі і колкімі дзядоўнікамі, палынамі, хмызамі пацягнула, павяла нас ад сённяшняга хрушчобна-хрушчоўскага Пушчына да Пушчына пушкінскага, старажытна драўлянага, з задумліва застылымі белым пухам, сівізной вечнасці над чырвонымі абрывамі, нябачнымі ад квету яблыняў і груш.

Давяла і выкрыла нашым вачам незямную выроду. Трэба адзначыць – усё ж гожую, але ўсё роўна выроду. Нешта паўзучае і выгінастае, ці не з кіламетр сплеценае з белых кругла гнуткіх рабрынаў, накшталт шкілета дагістарычнага яшчара, што некалі прылёг тут, ды так і сатлеў. Мне ж у першы момант здалося гэта працягам Астанкінскай вежы. Так яно, пэўна, і было, так задумвалася і стваралася. Антэна-стэтаскоп Зямлі і чалавецтва – слухаўка мінулага і будучага: Родина слышит, Родина знает. Паміж гэтым мінулым і будучым сёння вяснова бруілася рака. На збялелым мелавым абрыве па-над ёй змрочна пагойдваўся малады лес, да якога ціснуліся каляровым роспісам вокнаў не надта паглядныя старыя хаты.

Апошні скрут сцежкі і апошняе котлішча – даўгі напаўапалены барак, каржакавата прыпалы да зямлі, няўклюдны, як вялізны грак на голай грушы. А за баракам, аддадзенае ўсім вятрам, мінулагоднае ўзаранае і ўжо шэразачарсцвелае поле. На краёчку яго – белая кіпень чаромхі. Такі вясельны велюм, што ў самой нявесты-чаромхі і ног не відно. Адно толькі – вада, рака пад ім. Не хапае чоўна, а мо і ёсць, ды цалкам схаваны ў вэлюме.

Закураны рабы буксірчык качкай калываецца на хвалях, цягне доўгае верацяно баржаў. Баржы адна ў адну, вялікія, вострадзюбыя і шырpackазадыя, ідуць не ахвоцькі як, што валы на вяроўцы. На пясчаную касу лена накочваюцца рачныя хвалі, губляюць сукравічна-рудую пену і бязгучна вяртаюцца зноў у раку. Кожны наш крок пячаткай кладзецца на вільготны пясок.

Бераг востра выскалены адмерлымі бамбуковымі зараснікамі, засеяны помнікава-скамянелымі постацямі рыбаловаў. Мы падышлі да аднаго з

іх. На доўгім кукане абыякава шчаперыў жабры, хлюпаў ротам шэры ў вадзе, ад знясіленасці, пэўна, акуньчык. Уся здабыча. Не зважаючы на прыпарны ранак, рыбак быў апрануты ў зашпілены на ўсе гузікі вайсковы бушлат. Каля яго пад раскладным крэсельцам сіроча стыла кансервавая, з-пад кількі ў тамаце, бляшанка з чарвякамі. На крэсельцы ў запалкавых каробачках – мурашыныя яйкі разам з заклапочанымі і нецямнымі мурашкамі, матылём, у асобных бляшанках, шкалянках і цюбіках з-пад зубной пасты – пярлоўка, цеста, апарышы і яшчэ нейкая невядомая нам адмысловая прынада – сям’ю пракарміць можна і сабе хопіць.

– Не жадае, не клюе. Хоць ты яго дустам ці сам на кручок. Акунь, ясна, яшчэ нерастуе. Шчупак пасля зімы зубы мяняе. А да ўсяго цяпер ці то поўня, ці то маладзік. І год вісакосны... – На працягу свайго журботнага маналогу рыбак з папрокам паглядаў на ссінелага ў адзіноце акунька, нібы жаліўся яму і на яго. Той жа па-сарочы толькі хвосцікам паварушваў.

Буксір даўно ўжо мінуў нас, чорнымі і белымі космамі дыму згубіўся ў даляглядзе, як растварыўся. Ака апусцела, нават цёку вады, плыні яе не адчувалася. Толькі зрэдку і месцамі, пэўна, на вірах і ямах разыходзіліся, забіраючы ўшырку, як па цыркулю, вадзяныя кругі. Нібыта хтосьці там, з глыбіні, прагнуў прабіцца на паветра. Хацеў і не мог.

Прыблудны налётны вецер сарваў з адзінага бліз берага дрэва, каравай і загушчанай пры каранях і збоку парасткамі, голлем грушкі, падкінуў мне пад ногі сувойныя парэшткі так да канца і не давітага птушынага кубельца. З яго ва ўсе бакі тырчэлі касмылі паклі з неахайна абабітай і неабтрэсенай кастрыцай, былкі жаўклявых сухіх травінак, скамечанага белага птушынага пуху, ці не ахвярна выскубанага птахам з сябе. Са свайго ж ахвярнага, у хуткім часе матчынага цела, каб было мякка, утульна і цёпла ў роднай хаце яе нашчадкам.

Якой птушкі было кубельца – сінічкі, чаратоўкі, малінаўкі... Як жа высільвалася Божае тварэнне, цягнучы ў дзюбцы, у ломкіх запалкавых лапках раскіданае па беразе, прыдатнае ёй майно. І ўсё марна, усё прахам. Прыкра, горка і сумна воку ад ачужанасці свету перад жыццём і жывымі.

У пошуках клёвага месца мы брылі ўздоўж берага супраць плыні Акі, бліжэй да яе вытокаў, дзе шчупак мо памяняў ужо зубы, а акунь адбіўся. Няўзнак схаваны сярод вербаў плёс адвёў нас ад ракі, зарослым прасёлкам скіраваў да возера з пакатымі берагамі. Таму падыходы да яго даліся з цяжкасцю. Па ўсім азёрным прасцягу панавала паводкавая роўнядзь вады, з якой выбівалася мінулагодняя бурая трава, пад якой відавочна бралася ўжо і securing нованарослая травіца. Купамі чарнелі лазовыя кусты, ні то адмерлыя, ні то няздольныя ў вадзе пырснуць маладым лістом.

Уладарылі задуменнасць і ціша. Толькі зрэдку ўсхліпвала ўзнятая, пэўна ж, намі і ці не тая, што страціла хату, птушка. Малілася небу, жалілася яму і нам. Прасіла спагады і дапамогі. Але жальба і просьба былі сціплымі, як скораныя непазбежнасцю і незваротнасцю адбытага.

Сярод травы і лозаў мы знайшлі акенцы, зрабілі па першым закідзе і засяродзіліся на паплаўках. А яны стаялі нязрушана. Нам заставалася адно, як на свечку ў царкве, маліцца на іх. Медытаваць падобна ёгам і заклінальнікам гадаў. На чым нас неўзабаве і падлавілі: пайшлі па воўну – вярнуліся стрыжаныя. Вечнасці вады і паветра заўжды ў асалоду гуляцца і штукарыць з дурнямі і блазнамі, бо ў іх ёсць сэрца, душа і нервы – яны заўсёды і ва ўсім шчырыя. Сапраўдныя, за што трэба плаціць.

Непрабіўна снулая сінь неба, перакуленая ў даляглядах вада, зыркая зеляніна травы з гудлівымі ў ёй чмялямі – усё было як звычайна. Але адначасова і ў такую навіну, што няўзнак мы забыліся, дзеля чаго і навошта апынуліся на беразе гэтага возера. Забыліся на сучаснае і старажытнае Пушчына. А найперш, пра рыбалку і пра нашыя маўклівыя паплаўкі сярод азёрнай вады.

Неўзабаве я ўжо проста палежваў у траве і пазіраў у неба, не ўсведамляючы, што гэта менавіта я разлёгся і пазіраю. Сівавата дымныя аблокі, што ціха сплывалі ў нікуды, падхапілі мяне і закалыхалі. Я згубіўся, страціў сябе сярод травы, неба і цішыні. Не ведаю, колькі такое доўжылася. Знайшоўся, узнавіўся похапкам, раптоўна і адразу. Ад неспадзеву, нечаканых гукаў, што працялі і скаланулі мяне, нібыта памяняўся з некім целам і сам пачаў гучаць. Як падчас храмавай службы пачынае – толькі пачынае, падае голас вернікам і небу з высяў званіцы арган.

Але гук не прыкіпеў да нечага пэўнага, множыўся, рос ушыркі і ўвысь і ўзмацняўся так, што дрыжэла ўжо неба, і было боязна, каб яно не трэснула. Я падхапіўся з зямлі. Возера арэльна і гулліва калыхалася, нібы яго разгойдвалі, што дзіўна, у аддаленасці ад берагоў, сярэдзінна, нібы там хтосьці умываўся яго водамі і невядома кім і адкуль спасланымі гукамі, што пераўвасобіліся ўжо ў песню без слоў, якую падхапіла і возера. Захлыналася ад замілавання музыкай, усміхалася з паверхні і глыбіні блакіту неба. Неба люстрана смяялася яму ў адказ.

Ува мне як нешта парвалася, струнна лопнула нейкая жылка, мо і лішняя, ніколькі непатрэбная. Але мне стала так яе шкада, што я гатовы быў заплакаць. І мо ўжо плакаў нябачнымі слязьмі, якія так і не праліліся ці не таму, што мне зрабілася горача. Горача, тужліва і сумна, аж увушшу зазвінела. Зазвінела звонам знаёмым, толькі даўнім і ў тое вуха, што бліжэй да нейкай перашкоды – сцяны ці перагарожы. Узнікла адчуванне, што ўсё – пачутае і перажытае зараз і ўначы ўчора, ранкам сёння і да гэтага, і пасля гэтага – ужо было са мной. Я толькі паўтараюся і павінен паўтарацца.

А возера працягвала спяваць і спеўна прыхарошвацца, пазбаўляючыся дзённай і будзённай самоты і здзічэласці, хвалева змываючы іх. Спявала і танчыла, гукамі музыкі засведчвала лучнасць з зямлёй, небам, а таксама і са мной. І такое яднанне было падобна самазнішчэнню мяне. Растваральна попельнаму спаленню на паганскім ахвярным капішчы, калі чалавек ужо і не чалавек ва ўпартай зацятасці веры і пакланенні бязлітаснаму свайму ж ідалу – полымя, сіні дымок і зліццё з вечнасцю.

Але агонь ува мне быў яшчэ стрыманы, прыняволены мной жа. Толькі прыняволенасць выдавала надта ж часовай і не трывалай, здольнай імгненна схапіцца полымем. І я адразу ж у выраі. Але тут спеўная азёрная хваля накрыла і схавала мяне ад агню, агарнула, ахапіла з ног да галавы і нават нешта ласкавае шапнула ў вушы. Я адчуў прахалоду і не толькі ў сабе і на сабе, але і ў паветры, гаючую, ратавальную, якую мы шануем толькі тады, калі ўжо добра прыпячэ.

У возеры ўсё было без пераменаў. Яно працягвала спяваць і танчыць, нібы ў ім нехта спраўляў народзіны ці хрэсьбіны, браў шлюб – само возера заручалася, гуляла сваё ж вяселле. Цугам, толькі белыя грывы нябачных конікаў па ветры, скакалі ў свой лёсавы пачатак, а мо і працяг яго, у будучыню, выпускаючы паперад сябе то серабраных змеек, то анёль-

на-белых ярачак. Першыя відавочна былі пастухамі, пугамі ярачкам. Але гэта, пэўна, так толькі тут, на нашым белым свеце. У вады ж, рэк і азёраў свае гульні і свае правілы.

Белыя ярачкі-анёлы і срэбныя лелі-пастухі змеева спляталіся ў адно. Пэўна, яны ж і спявалі, хорава і нявінна, як дзятва на клірасе. Галасы былі чыстыя, званкова ручаёвыя, калі той жа ручай скокам коціцца па гальцы. Коціцца, коціцца ды раптам упіраецца лобам у тупую нязрушанасць каменя. З шыпеннем і рогатам струменна абдымае і абмінае яго, як стракозка нябачным махам мігатлівых крылаў ухоплівае і ўтрымлівае сонечна ўгрэтае паветра.

Я пачаў ужо вылучаць і прыгадваць нешта да шчымлівасці блізкае мне ў былінных пераборах гусляў, напятым стогне струн піяніна і арганным гудзе ўвогуле чужой мне вады. Нешта зварухнулася ў маёй зусім не музычнай, можна сказаць, добра парушанай палескімі мядзведзямі памяці, але невыразна, сцерта. Да ўсяго, аднавіць успамін мне перашкодзілі.

Прыспеў час развітвацца з возерам. Мы нічога ў ім не злавілі, нават блазнаватага малюпасенькага акунька, што паласкаўся на кукане сустрэтага намі вудзільшчыка, у сваіх руках не патрымалі. Толькі я зусім забыўся пра якую б ні было рыбу. Пра ўсё забыўся. Чулі ці не мае хаўруснікі азёрныя спевы, а мне іх розгалас гучаў у плечы да самога Пушчына.

Гармонямі і гармонікамі, баянамі, маніставым россыпам жаночых галасоў поўніўся і гарадскі пасёлак. На вуліцу, падобна, выйшлі ўсе жыхары ускраінных баракаў. У кожнага з якіх – па высокім ганку. А на ганку – па гарманісту, ды не адным, безінструментныя выдзыгаліся на расчосках з закладзенай у іх паперкай. Зрэдку трафейныя баяны, акардэоны, як панычы, а больш гармонікі – трохрадкі, тулкі. У бараках жылі пераважна прыезджыя, будаўнікі: разанцы, кастрамічы, тамбоўцы – воканне, аканне, цоканне:

Мілка цё, мілка цё,
Осерцяла ты на цё.
Алі людзі цё сказалі,
Алі выдумала цё?..

Прыпеўкі з плясканнем і прытопам, старыя народныя, франтавыя і лагерныя песні, са слязой, надрывам і сумам. Стракаталі, мільгалі над галавамі вышытыя гарусам хусцінкі і каляровыя, пад цыганскія, хусткі на плячах. Жанчыны ўпраўна размякчалі зляжалую за зіму зямлю. Адна з іх з неахопнымі цыцкамі, што, як слуцкія бэры ці дулі, няспынна імкнулі да волі – вылузнуцца з цеснаватай, у аблiпку кофты, спавядала падпітога дзяцюка, пэўна, яе чалавека:

– Дзень Перамогі? А ты ваяваў? Ташкент штурмам браў? – маламеркавая, але ёмкая, каржакаватая, рукі ўбокі, на клубы, насоўвалася на няўцямна ўсмешлівага, вярбой пахілёнага мужчынку:

– Я табе вайну і перамогу пакажу ў адным малюнку. І на Курскай дузе не схаваешся, такіх пляскачоў навешаю, п’янчуга разанскі...

Жанчына верашчала на ўсю акругу, па-вясковаму безаглядна і пахатняму бессаромна. Але без сапраўднай злосці, па пілавальна-жаночай завядзёнцы. Гэта добра разумеў і яе чалавек, адзінай мэтай якога цяпер было ўстояць, разумелі і нястомныя ў скоках дзеўкі і жанчыны, мужыкі, што абселі гарманістаў на ганку. Не танчылі, пад’ялдыквалі кабету:

– Так яму, так яму... Бяры яго, пакуль ён цёпленькі... Куй жалезны, пакуль гарачы...

Жанчына распалялася, шалела ад гукаў свайго ж голасу. А яе чалавек адно толькі блазнавата пасміхаўся, сыпаў сіваватыя валасы на фуражкава размежаваны – загарэлы і белы – лоб. Ногі яго ўжо не слухаліся, але ён не зважаў на іх, не здаваўся, як не здаваўся і жонцы, спрабаваў танчыць, абапіраючыся галавой на цыцкі жонкі, бо адарваццa ад яе і абысці круга быў няздольны – з-за памераў жонкі і знясіленасці ўласных ног.

Жонка імкнулася зазірнуць яму ў вочы. Але і тут ён не даваўся – мужык усё ж. Рабіў выгляд, што вочы яму слепіць сонца. А сонца на самой справе шчыравала і зычыла падвяселенаму самаробнай бражкай і пакупной гарэліцай пасялковаму люду, маёўнічала ў згодзе з ім.

Векапомнае свята – Дзень Перамогі. Не без яго столькі пахавана на той яшчэ здалёк балючай вайне. Гарачкава, ідучы на схон, у наступны дзень, сонца прыпадала да маладой лістоты таполяў. Лістоты, яшчэ не сплаканай у навальніцах, і таму слінявай і коўзкай. Сонца люстрана драбнілася на ёй і прамянёвым друзам падала долу, пад ногі танцорам.

І бліскавічная гульня святла і ценю, стракатая апратка – усе лепшае і самае яркае на сябе і напаказ усім – барачнага люду, а да ўсяго пералівы і пераборы гармонікаў, баянаў з хуткім лётам іх каляровых зубкоў-гузікаў надавалі вуліцы надзвычайную святочнасць, якой не шкодзілі ні бруднаваты ручаёк, што каціўся па праезнай частцы дарогі, ні ўздыбленая гара зямлі амаль пасярэдзіне вуліцы. Мо якраз гэта хутчэй і падкрэслівала ненадуманасць, сапраўднасць свята.

Шчарбатае пяці- ці шасцігадовае дзяўчо, тупаючы ў хвасце абыякавага да яе вясёлага натоўпу, пляло вянкі з жоўценькіх кветак падплотавай маці-мачыхі і моўчкі, захінаючы шчарбатасць далонькай, даравала іх дарослым. Саромелася ўласнай шчодрасці, хавалася за ганак, пырскаючы смехам у смуглы кулачок.

Пасялковае гулянне з музыкай і нават аднекуль яўленымі бразготкамі ды бубнам было падобным да азёрнага балявання, было сугучнае яму. Хаця мо і не такое зладжанае, мілагучнае – не-не ды й прарывалася ў ім састарэлая і закарэлая туга. Аказвала сябе, як нервова аказвае на цалкам аздаравелым ужо целе зацягнуты новай скурай былы шнар, рубец, сведчанне колішняй раны і болю.

Я зноў адчуў зведанасць і пераэжытасць мной усяго, што тут цяпер і да гэтага адбылося і адбываецца. Ад вар’яцкага бегу па сталіцы да начной электрычкі пад нянаскае святло касмічнага шпрыца Астанкінскай вежы, вавілонскае месіва пахаў на вакзале да спеўнага возера і такога ж гуляння пасялковага барачнага люду – усё знаёма мне да слязы і горычы. Адно не мог уцяміць, адкуль ува мне гэтае веданне, гэтая сляза, гэтая горыч адначасова з радаснай узрушанасцю. Калі і дзе я пераэжыў гэтыя ноч, дзень і вечар. Хто і чаму зноў і зноў вярэдзіць душу. Якая чыстая і нячыстая сіла так круціць і зводзіць мяне прывідамі і зданямі былога і небылога.

Але і на гэтым дзень не скончыўся. У дадатак да ўсяго нам пажадалася яшчэ і “кіна”. “Сустрэча на Эльбе” – карціна старая, ужо бачаная. Толькі глядзелі мы яе новымі, сённяшнімі вачыма. І таму выйшлі з клуба аціхлыя і маўклівыя. Ужо сутонела. Дзяўчо, што пляло і даравала дарослым вянкі, цяпер лавіла хрушчоў. Тыя хаваліся ад яе ў лісцях бярозы. Дзяўчо на дыбачках адсочвала іх. Адзін зляцеў з дрэва, закружыў каля яе галавы.

Яна паспрабавала збіць яго далонямі. Ён не даўся. Дзяўчо пакрыўдзілася і заплакала. Мы суцяшальна кінуліся на дапамогу.

Піхаліся, нібы гулялі ў кучу малу, няўклюдна махалі рукамі і шапкамі. Радаваліся кожнаму злоўленаму жуку, нібы залатому самародку, як толькі можна радавацца ў дзяцінстве. Аднаго з іх я пусціў сабе на нос. Калісь, калі я яшчэ вучыўся ў школе, ў нас была прыкмета: перапаўзе жук з носа на лоб – перапаўзу ў наступны клас і я. Цяпер я загадаў на інстытут – агораю курс ці сарвуся, зрэжуся на якім-небудзь марксізме-ленінізме з іх палітэканоміямі.

Жук доўга соўгаўся і казытаўся, як на жучысе, на маім ужо спатнелым носе. Неймаверна карцела чхнуць, але я мужна трываў, як і ў дзіцячыя школьныя вёсны. Сённяшняя мая мужнасць пайшла прахам. Жук сарваўся, хаця нос у мяне быў бязгорбы, хутчэй кірпаты і кароткі. Дробным каменьчыкам, сапраўды як самародак, гупнуўся мне пад ногі. І адразу ж у мяне пасаланелі вочы, хаця я і не паспеў асэнсаваць – смяяцца мне ці плакаць. І засаромецца не паспеў.

Успомніў. Успомніў усё. Нібыта не жук казытаў мой куцы нос, а куля ці асколак міны патрапілі ў мяне з далёкага мінулага, металёва коўзаліся ў маёй развярэджанай зусім не майскім жуком памяці, а поклікам вады, даўняй і невычэрпнай. Не ведаю, ці прыхільнаю, гэта дадзена ведаць самой толькі вадзе.

Яна мяне прывабіла і спакусіла, як змей Адама з Евай, калі мне не споўнілася яшчэ і года, а свет ужо быў. Праўда, хісткі, які вымушаў мяне хадзіць больш на чатырох і рачкі. Пэўна так, рачкі, я дапоўз да нашай безыменнай рачулкі, хутчэй ручая. Думаю, што ён на маёй жа мове пачаў гаварыць са мной. Мы паразумеліся, і я пайшоў да яго, кульнуўся ў яго плынь. Ручай прыняў мяне, падхапіў і пацёг мо ўжо да сапраўднай вады, ракі і мора.

Як сведчаць старыя людзі, дзеці да года – пухіры, таму і не топяцца, але ж вада ў рэшце рэшт прымае і прыбірае іх. Выратаваў машыніст паравоза, у якога кватаравалі тады мае бацькі. Па яго словах, я плыў, пускаў бурбалкі і ўголас смяяўся. Сам, зразумела, я гэтага не памятаю. Увогуле, нашае жыццё складаецца зусім не з таго, што мы памятаем, убілі сабе ў галаву. Нашую памяць нам падказваюць, і таму часцяком яна падманлівая і абіральная і нават чужая нам, бо грунтуецца іншым разам на слыху і языку – аповедах бывалых людзей. Хаця і тут нездарма кажуць: хлусіць, як відавочца. А сама нашая памяць, як тая верная жонка, што запэўнівае мужа, нібыта яна ніколі яму не здраджвала і сама пачынае ўжо гэтаму верыць. А на самой справе – здраджвала, але не столькі, колькі хацела і магла. Так, пэўна, і з вадой, мана і праўда яе аднаго кшталту – ласкавая, цнатлівая і спавівальная. Мо таму і так любая нам.

Упершыню ўжо больш-менш асэнсавана я пайшоў за вадой, а мо і па яе, зноў жа не маючы яшчэ сілы ў нагах і клёпак у галаве, пайшоў шукаць невядома дзе раку з жаночым імём Харута. Надта ж спадабалася мне гэтае імя, як нешта нянаскае, паветранае. Я ведаў толькі напрамак, дзе яна можа працякаць, і то прыблізна, па падказцы старэйшых хлопцаў з нашай вуліцы. Яны лавілі ў той Харуце рыбу. Прыносілі дадому ў зрэбных палатняных і мокрых торбах, якія білі іх па боку – рыба яшчэ была жывая, яе з падскокам сыпалі ў медныя тазы. Рыбаловы сядалі побач і задаволена палілі. Цыгарэтны дым, рыбны дух са срэбным і

залатым жывым напамінкам пра Харуту, у якой гэтая рыба толькі што вольна плавала, чаравалі мяне.

І вось ужо я поўз, дзёрся да Харуты нацянькі праз хмызы, зараснікі крушыны, каліны і лазы, так шчытна і лоўка аплеценыя дзікім хмелем, што я сам, як аплытаны ім, заблудзіўся. Збіўся са сцежак, трапіў у балота, багульнік з буякамі і багну, якая не засмактала мяне толькі таму, што быў лёгкі. Скакаў па парэчкавых, асаковых і лысых купінах. На адной з іх натрапіў на звітую ў клубок гадзюку. І прыняў яе за пярэсты бабін клубок пражы, няўзнак спатыкнуўся на ім. Мо і не здагадаўся б пра небяспеку, але гадзюка стрэліла ў мяне пляскатай галавой. Укусіла, хаця і не да крыві, але да сукравічнагу кіпу прадзюбнула скуру. Я ўскінуў галаву і зароў апавяшчальным ровам нованароджанага.

Ці не з гэтай апавяшчальнасці перада мной адразу ж выткаўся сівы сухенькі дзядок. Проставалосы, з доўгай, супакоенай на грудзях барадой, у вясковай кужальнай белай апратцы і акуратных маленькіх лапціках, сплеценых, па ўсім, нядаўна мо з толькі што надзертага лыка, што дзядок адразу ж і пацвердзіў:

– Лыка тут на зімку сабе дзяру. Дарогі доўгія і неспазнаныя, лапці хутка зношваюцца.

Я скрозь слёзы прыгледзеўся да дзядка і сціх. Малы, малы, але сцяміў – непадобны ён да тых, хто дзярэ лыка і пляце лапці. Надта ж чысценькі, як толькі што з пральні. У такіх белых портках і сарочцы з прасветамі, спецыяльна зрэджанай, каб вецярок абвейваў, у балота па лыка не ходзяць. І кіёчак, кавенька ў яго надта адметная, пад далонь з разяўленай пашчай гадавай галоўкі, ці не той гадзюкі, якая толькі што дзюбнула мяне. А яна зноў пагражала мне.

– Нішкні ўжо, – кінуў на яе вока дзядок. – Сваё ўжо сатварыла. Цяпер зямля цябе зімаваць не прыме. Акалееш да першага ж лёду.

Пазней, дома ўжо, старыя людзі прасвяцілі мяне:

– На Белуна натрапіў. Бялун то быў. Пашчасціла табе спазнацца і пасябрыцца з самім Белуном.

Так гэта ці не, не ведаю.Але я з ім сустракаўся яшчэ двойчы. Двойчы ён адводзіў ад мяне немінучае.

Дзядок нешта доўга і нячутна шаптаў, схіліўшыся над маёй нагой. Толькі хуценька, хуценька, подбежкі пашавольваліся сухенькія, лыкава зморшчаныя, як падпечаныя, бураватыя вусны. Такога ж кшталту пальцамі сціскаў, зводзіў у адно скуру на пакусанай назе, абкладаў верхавым белым мохам і яшчэ нейкімі невядомымі мне сохлымі парэшткамі зёлак. І шараваў, уціраў усё гэта у мой невыносны боль ужо не толькі ў назе, а ва ўсім целе. Боль да спёкі і млоснасці. А пасля загадаў устаць:

– Падымайся і ідзі. Ідзі да хаты, дамоў. Толькі не азірайся і нікуды не збочвай. Ніхто цябе не кусаў.

Я падняўся і пайшоў. І не па балоце і дрыгве, а па сухенькаму, па мяккім белым зпадыспаду, пры каранях, дык крыху зеленаватым моху. Толькі дзядка я ўсё ж не паслухаўся. На чыстым без зараснікаў беражку азірнуўся, яго нідзе не было відно. Знік, як увайшоў, зашыўся ў сівую купіну, на якой мяне пакусала гадзюка. Толькі кавенька, што была ў дзядка ў руках, тырчэла пасярэдзіне купіны і дакорліва пагойдвалася. А на шчыку яе таксама пагойдвалася звітая ў клубок гадзюка.

Я кінуўся прэч, толькі зноў жа насуперак наказу дзядка, не ў бок хаты,

а ў накірунку, дзе па маім разуменні магла знаходзіцца рэчка Харута. Яна як клікала мяне, і не мелася сілы працістаяць яе клічу. Адначасова нехта ці нешта і адводзілі мяне ад яе – пракаветная супярэчлівасць: жадаю і раблю.

Ракі з казачным мне жаночым імем я так і не дасягнуў. Ці не дзядок, наш айчынны абярэг Бялун, збіў мяне з нагі, засляпіў вочы і праклаў прамую сцежку да хаты. Харута назаўсёды засталася нязведанай. Даводзіцца толькі гадаць, а ці ўвогуле ёсць яна, ці точацца дзе і бруяцца яе воды... Мо я толькі мроіў ёй, сніў, трызніў. І ніякая гадзюка на шляху да яе мяне не кусала.

Хаця, хаця. Мае блізкія часта дзівяцца з меціны на маёй правай назе каля лыткі, крыху вышэй костачкі. Дзіўлюся і сам я з гэтай чортавай паметы. Раней, адразу пасля ўкусу, там з'явілася не рана і не шнар – адрозная ад колеру нагі бляклая капейкавая плямка скуры. З цягам часу з бляклай яна перафарбавалася ў рудую. Нага падрастала, рудая пляма кропельна разышлася, пабуйнела. А потым парвалася, як вехаць, на дробныя плямкі, нібыта слядкі чужых востранькіх зубікаў – пазнака былога, таго, што ўсё ж было.

Блаславенне і праклядцце казачнай вады і ракі з жаночым імем Харута, што яшчэ ў маленстве паланіла мяне. Яе голас і покліч назаўсёды ўва мне і са мной. Дарагі і родны мне і на чужыне. Голас вады – голас крыві. Адсюль і маё шаленства на Марка. І назаўжды непарыўная повязь з тым, дзе з'явіўся на гэты белы, белы свет. Свядома ці падсвядома я ўсё жыццё непарыўна быў у гэтым, імкнуў да гэтага. Жыццё, якое пачыналася на чужых рэках і ў чужых водах, праз якія мне нарачона было яшчэ прайсці.

## СІБІРСКІЯ ЛОВЫ

### Том

Том – рака. Накацістая і наравістая. Як і ўсе ў Сібіры рэкі. Па-дзіцячы гуллівая, па-дзявочы цнатлівая. Укамянела-таежная, па-кержацку скітавапахмурная, па-чалдонску зацятая, на кожным сваім метры пераменлівая і непрадказальная. Удавана-скораная і аціхлая, калі яе плыні ніхто і нішто не замінае, не спакушаецца на жорстка здабытую ў прасцягу вечнасці волю. Люструецца з небам, давяраючы яму свае патаемныя глыбіні і непаваротных у іх тайменяў, перашэптваецца, сакрэтнічае з тайгой, кедрамі, лістоўніцамі і піхтамі, скальна і брываста навіслымі над ёй. Крышталём пырскаў шаруе і агладжвае тыя ж скалы, ліжа берагавую гладкую гальку, як час тое ж робіць з парэшткамі колішняй бойкі – ашчэпкамі, асколкамі бомбаў, мін і снарадаў.

Але ўсё можа перайначыцца ў адно імгненне. Том напоўніцу выкрывае сябе і свой сібірскі нораў, калі што хоць крыху не па ёй. Імгненна і з прыхропам ускідваецца грабенна пенавымі гадавымі галовамі, што вырастаюць з прыдоння каменных перакатаў, лабастых валуннікаў, няскораных ёй парогаў. Траншэева абвужаная ідзе ў лабавую на двухбаковыя танкавыя надоўбы гор, што каторае ўжо стагоддзе марна спрабуюць зацугляць яе. Рака насоўваецца і кідаецца на іх з гарлавым ваяўнічым крыкам і разлётнымі струменямі плыні, што сягаюць да скальна-аголеных горных высяў і зачараванага ў здзіўленні блакіту непарушнага неба, зорна кропяць яго і снегава растаюць, як адгарэлая пры дзённым святле слюдзяная машкарэча.

Такіх засад за савецкім часам на шляху Тамі значна паменела. Рака хоць і не судаходная, але сплаўная. На дрэва Заходняя Сібір багатая, як і на спажывальнікаў яго: шахты, руднікі, заводы – пражорлівыя на ўсё прыроднае і амаль халяўнае. Таму рэчка ад лёду да зімовай шугі забітая лесам. Сплаў молевы, вязаць платы няма часу: на наш век лесу хопіць. А каб паскорыць сплаў, рэчку пашыраюць дынамітам, аманітам ды толам. Такога дабра ў гэтым краі хоць ротам еж.

Том па-руску з мяккім знакам на канцы. І ў гэтым мне чуецца і бачыцца нешта дзявочае: Тома, стома, тамленне. Нешта ў гэтым падсвядома блізкае мне і адначасова чужароднае. Водгук нечага азіяцкага, татарскага, што невядома чаму хвалюе мяне, як усякая, пэўна, да нечага набліжанасць, але неспазнанасць. У той непазнанасці – школьны ўспамін пра пакарэнне Ермаком Сібіры і тое, што ў сучаснай Сібіры, побач са мной, мноства татараў. Яны прыцягваюць мяне далёкасцю і блізкасцю, як людзі па-за мяжой маёй свядомасці, якіх хацеў бы спазнаць.

Мо таму мне і сёння сніцца, сніцца юнацкая маладзёвая і бесшабашная Сібір, рака з настальгічна татарскім, дзявочым імем, з вачыма і панаднасцю таежнай рысі. Толькі ў снах усё зусім не так, як гэта было на яве. І мне цяжка ўжо адрозніць сны ад явы. Ці не прысніў я самога сябе. І тады ці не ўся нашая сапраўднасць – толькі няспраўджанасць, трызненне па ёй. А мы слепа і невідушча блукаем недзе пасярэдзіне, без даверу да сябе і свайго мінулага, а таму і будучыні. Ловім сябе ў змроку ўласнай памяці. Літасцівай ці бязлітаснай – ведаць бы. Выбудаваць бы сябе па прыстойных лякалах і пажыць бы ў сабе. Але, як кажуць: “хата пабудавана – хадзяін памёр”.

А ў маіх снах як нехта парупіўся пра такія лякалы – я зусім непадобны на сябе, хаця хто ведае. Сніцца мне і сібірская рака Том. Зусім не такая і зусім не там, дзе я сам насам сыходзіўся з ёй: як на пачатку ці напрыканцы веку ракі. Амаль ручаёва абвужаная, пераплюнуць можна. І мне карціць плюнуць, хаця добра ведаю – нельга, нельга. Пляваццa – гэта на тым свеце лізаць гарачую патэльню.

Рака ў снах сярод ночы не толькі маленькая, але і лагодная, ахайная. Вунь як абмыла і прычасала да шоўку ніцяную пры беразе траву. Б’ецца не сярод тайгі і скалаў, а сакоча ў бязлессі і па роўным. І такая крынічна чыстая, што мімаволі цягне напіцца – наўколенцы і нагбом, нагбом, пакуль зубы не зойдуцца. Рачулка ці ручаіна надзіва рыбная, што зусім і ніколькі не адпавядае яве: ельчыкі-бельчыкі, чэбакі – чырвоныя бакі, сарожкі-беланожкі. Прозвішчы рыбы мясцовыя, сібірскія, але недзе, вельмі далёка адсюль, я іх лавіў і пад іншымі імёнамі.

Ведаў па іх спрадвечных імёнах, цешыўся, назіраючы за імі на пясчаных косах пад крутым берагам ракі майго дзяцінства. Як гэта магчыма. Няўжо яны займелі машыну часу і зноў вярнуліся ў дарослыя, сталыя мае гады. І мо таму, што ніводную з гэтых рыбінаў я няздольны выправіць на іх радзіму, аднавіць іх тубыльскія імёны, яны і пазбягаюць маіх вудаў. Белым бокам, чырвоным вокам вераценна грэбуюць маёй прынадай. Развярэдзіўшы сваю мройную і невытлумачальную памяць, я пакрыўджана прачынаюся.

Але пакрыўджанасць на яве пераўтвараецца ў шчымлівую да замірання сэрца радасць: сніць і ўсцешвацца бачаннем таго, што бязмежна дорага мне. Недзе ўсё ж цячэ саснёная мной рака, як і тая, якую я зведаў. Яны сыходзяцца, зліваюцца ўва мне, рэкі майго дзяцінства, майго ўчора, сёння

і заўтра. Іх голас, даўняе рэха яго жыве ва мне і заклікае маю памяць абудзіцца.

У свой час я ўжо спавядаўся, да Сібіры, Кузбаса – Кузнецкага вугальнага басейна – мяне пасунула кніжка Гарбатава “Данбас”. Гэта праўда, але не ўся. У тую пару я ўвогуле быў зачараваны кніжнай рамантыкай. Жыццём патаемным і ні ў чым не сутыкальным з маім аднастайным і марным гібеннем у сваіх палесцінах. А недзе далёка і не так далёка ішло жыццё сапраўднае, ніколькі не падобнае да майго дзетдомаўскага – амаль па вайсковым раскладзе.

Савецкая дзіцячая душа прагнула подзвігаў і барацьбы, накшталт Овада з аднайменнай кніжкі Э. Войніч, гарэння горкаўскага сэрца Данка, ахвярнай смерці за радзіму Алега Кашавога з “Маладой гвардыі” Фадзеева і мноства і мноства іншых. Трызніла Карэяй, дзе змагаліся карэйскія паветраныя асы Лі-Сі-Цыны. Урачыста уручаны камсамольскі білет патрабаваў рэвалюцый – вызвалення амерыканскіх неграў, неграў афрыканскіх. Толькі б дапасці да тых Амерык ці Афрык. Чорнаскурыя хлопцы, пэўна, ужо вочы прагляделі ў чаканні савецкіх камсамольцаў-вызваляльнікаў з дзіцячага дому на Палессі.

Мелася таксама штосьці гераічнае і ў падземнасці шахцёрскай працы: штрэкі, штольні, квершлагі – і стагоддзі, стагоддзі над галавой, зусім не тое, што гэтае пустое і сіняе неба, часам кісла занавешанае хмарамі, завіслае назаўсёды тут сырадойнае ад ранку да вечара, пасля выгану і прыгону дахаты статку кароў – тавару, пасялковае паветра, брукаваная чырвоным каменем дарога, якая вядзе ў пяскі за ваколіцай, абрываецца за канцавой хатай. Па пяску можна прыйсці толькі ў такі ж пясок, у суседні калгас ці саўгас, дзе табе ўгатавана пачэсная пасада даглядчыка жывёлы.

І таму мімаволі мроіўся зорны бляск у падземнай шахтавай цемры антрацыту, скамянелая маўклівасць – некалі ж загамоніць і азавецца – горных парадаў, каменя, граніту, базальту і бліскавічных, нібы ўжо спрабуючых голас, украпленняў халькапірыту, пякельная пахкасць серавадароду, выбуховая нечаканасць метану і нават шахтавыя абвалы са смяротнымі наступствамі. Якраз за гэтым бачылася непадробная сапраўднасць жыцця, хаця і наскрозь кніжнага. Але ці не з такога алхімічнага сярэднявечча ішлі ў жыццё амаль усе дзеці казённага, дзетдомаўскага гарту. Таму іх лёгка было збіць з тропу, падмануць, лёсава знявечыць. Асабліва дзяўчат.

Такі быў бясконца зняверaны і падманны, але ж бясконца праўдзівы і чысты ў веры, не зважаючы на гібенне ў пасялковым савецкім сярэднявеччы, наш сірочы побыт, які папраўдзе мог і выхоўваў сучасных алхімікаў. Алхімікаў дваццатага стагоддзя. Асабіста я верыў у тое, што кляты і ненавісны шахцёрам медны калчадан, які нявечыць і ламае ўрубавыя камбайны, калі я буду кіраваць тым камбайнам, пераўвасобіцца ў залаты самародак. Я падарую яго дзетдому – кожнаму з бязбацькавічаў па новай пары штаноў і па белай булцы. І адразу ж наступіць камунізм.

У гэпэ – гарадскім паселку, у якім месціўся наш дзетдом, да камунізму было яшчэ тысячу вёрст пехатой ды ўсё лесам. Чаканая будучыня – цалкам прадказальная пры нашых пасрэдных здольнасцях і такім жа старанні да навукі і тых магчымасцяў, што мог даць на той час наш гэпэ. Райпрамкамбінат, хоць наперадзе назвы і “рай” – нічога райскага не абяцаў. Праца і завяршэнне яе – па сіпатым гудку. На поўны голас у раённым

раі няма сілы. Такімі ж негалоснымі былі і тыя, хто круціўся з аднае змены ў другую па тым жа сарамлівым гудку. Адзінае, дзякуючы яму, мы чатыры разы на дзень дакладна ведалі час – набліжэння сняданку, абеду, заканчэння яго, вячэры, як статак па сваім біялагічным гадзінніку ведае і прытрымліваецца пары дойкі, кармлення і вадапою.

Апроч райпрамкамбіната, ў нашым гэпэ, як і ў кожным з іх на той час, мелася яшчэ некалькі больш дробных мясцовых раёў: раймлынкамбінат, раённая фабрыка гнутай і плеценай мэблі, кустовая база гародніны, міжраённая майстэрня мастацкіх вырабаў. Але апошняя – гэта ўжо рай дзявочы, своеасаблівы па сённяшніх мерках тагачасны хоспіс. Прытулак калек, інвалідаў і разумова непаўнавартасных, які ужо зусім некуды было дзецца.

Лепшае выйсце кожнаму з нас – ФЗН ці РВ (чаго гэта ты равеш) – установы фабрычна-заводскага навучання ці рамяслуха, рамесленнае вучылішча так званых працоўных рэзерваў. Спецыяльнасць токара, слесара, столяра. У выніку – той жа райпрамкабінат, на якім замкнуты быў наш свет.

Вядома, тады я яшчэ не ўсведамляў гэтага і ніколькі не засяроджваўся на сваёй будучыні, трымаючыся нашага адвечнага: трэба жыць – як набяжыць. Але якраз набягала другая палова дваццатага стагоддзя з выкрыццём розных культаў, валюнтарызму, з адлігамі і паслабленнем гаек і закруткай нанава. Нас, казённых людзей, гэта таксама не тычылася. Ды толькі і ад самага малога ветру сучаснасці не затулішся і не схаваешся.

Нешта новае, невядомае дагэтуль варылася і ў нашых, стрыжаных пад Катоўскага, абнулёваных макацоўбінах. Спелілася непакора, хацелася выйсці са свайго жыцця, як гэтага ж, пэўна, хоча і кожная вавёрка ў коле. Таму я даў у хамут і пабег ад раявання на Беларусі, з дзетдому ў шахцёры, зачараваны пісьменніцкай маной. У нязведанасць нанава адкрытай тады – ці не спецыяльна для прыдуркаў і блазнаў – пасля Ермакоў, Пржэвальскіх, Сямёнава-Тяньшаньскіх – рамантыка-моладзевую камсамольскую краіну Сібір.

Пабег сапраўды на злом галавы, так нястрымна і зацята, што сёння, каб не быў паляшуком, а гэта значыць, адзін пішам – тры наўме, не паверыў бы, што я такі хуткі і лёгкі на нагу, што такое са мной магчыма. Хаця, цвяроза сёння разважаючы, мяркую, нягледзячы на відавочную бясспрэчнасць нашых дзеянняў і ўчынкаў, тым больш даўніх, усё крыху, а мо і зусім не так, як нам цяпер падаецца. Адгадка ў нашай сутнасці, паходжанні і прыродзе.

Мы ўсё робім, здзяйсняем і тым спраўджваемся ў большай ступені толькі насуперак самім жа сабе. Адмаўленнем і дратаваннем да самакатавання мы сустракаем хоць што-небудзь ды новае, у тым ліку і сваю будучыню. Праўда, ёсць і выключэнні. Ёсць на свеце адзіны народ, які асцярагаецца жыць, хадзіць і рабіць каму б то ні было насуперак і папярок.

І гэта мы з вамі.

Паклонімся ж самім сабе. Таму што яшчэ ў пазамінулым стагоддзі адзін з нас, Фёдар Міхайлавіч Дастаеўскі, сказаў: “Кротость – страшная сила”. Страшная сіла таму, што яна карэнна і ці не па крыві бунтоўная. Разважлівa і памяркоўна – бунтоўная. Зноў жа: адзін пішам – тры наўме.

У мяне ж наўме, стоена тады ад самога сябе, было не адно толькі чараванне веліччу Сібіры, гераічнасцю працы шахцёраў. Ад працы коні

дохнуць – гэта ведалі нават мы, дзетдомаўцы. Хаця ўсё ж крыху і сумняваліся, бачылі – калгасныя коні больш дохнуць ад бяскорміцы. І мае бегі ў новае жыццё былі зусім не ад дурноты і падлеткавай наіўнасці.

У мяне была мара. Парыбаліць на сібірскіх рэках. Злавіць сваю цар-рыбіну. Гэткі палескі Эрнест Хэменгуэйчык. Пазней уведаў – такіх Хэмінгуэйчыкаў на Беларусі тады было процьма. Пэўна, дух іх, бунтоўны і няўрымслівы, з выспы свабоды перадаўся і рахманым беларусам: свайго няма – дык хоць чужым пакарыстаемся. Але ж, каб і чужым карыстацца, трэба мець хаця б прыгаломшаную памяць на сваё.

Мара пра цар-рыбіну пацягнула, выбухнула і стрэліла мяне ў Сібір, як Жуль Верн з гарматы на Месяц. Падставы таму меліся пэўныя і абгрунтаваныя. Дома, на радзіме, па ўсіх рэках ці не ўсё было аблоўлена, вынішчана і стаптана, апроч уюноў, пячкуроў ды сухарэбрыц-ляскалак з верхаводкамі і плоткамі. Ніякай прыстойнай рыбіне сярод іх не захавацца. Іншая справа магутныя запаветныя рэкі Сібіры, некранутыя жываглотнай жарсцю здабытчыкаў – людзей, ног малавата. Пэўна, нішто не мае такой глыбіннай грунтоўнасці, як нашае ж уласнае глупства.

Упершыню на свае вочы я пабачыў сібірскую раку Том увосень. І амаль пралётна, з вышыні маста над ракой, праездам на трамваі з вакзала горада Кемерава да руднічнага пасёлка шахты “Паўночная”, у роднае мне на два гады кубло “ГорПВ №4”. Горнапрамысловае вучылішча, у якім з мяне павінны былі зрабіць шахтавага электраслесара. Убачыў Том з вакна трамвая, што прыгорблена завіс на кручы новага, нядаўна пабудаванага маста. Трамвай быў таксама новенькі, надоечы толькі пушчаны ў горадзе. Усё было новае і майму веку, і наваколлю. А вось рака – яшчэ з даўніны, хаця мне і наўём асязальная. На мой погляд панылая, пахмурная і гняўлівая, хоць і шырокая. Куды там маці-Прыпяці, бацьку-Нёману і маёй сціплай палескай рачулцы Случ.

Нічога, ніштаватая рака, прыдатная палешуку – крыху паблажліва прыкінуў я – абратаем.

Толькі да сустрэчы з ёй нос у нос было яшчэ як да моркавых загавінаў. Адразу ж месяц з гакам – уборка ўраджаю недзе на цаліне пад Алтаем, дзе я першы раз ад пуза наеўся белага хлеба. Той хлеб выйшаў мне бокам. Знясілены ад сытасці, я прастудзіўся, некалькі тыдняў праваляўся ў бальніцы: усе венгерскія падзеі, першы снег і першы сібірскі лёд.

Зімовай жа звычкі падлёднага лову тады яшчэ не ведалі. Да вясны я засвойваў навуку шахтавага электраслесара, а больш, падобна мядзведзю, спаў у пакоі свайго інтэрната. На ложку і пад ложкам, бо на ложку да адбою спаць забаранялася. Лежачы пад ложкам, чакаў вясны і думаў, як бы мне тут хутчэй выбіцца ў людзі і за зіму хоць трохі забагацець. Думак было багата, а багацця – нуль без палачкі. Але я яшчэ сёння дзіўлюся шырыні і бязмежнасці сваіх сібірскіх мрояў. Я цешыўся імі да цяпла, да прыходу вясны, калі ўжо і прыспеў час заняцца тым, дзеля чаго я імкнуў сюды праз Уральскі хрыбет, Еўропу і Азію, праз памежны ім знак. Дарэчы, непаглядны, няварты нават маёй дзетдомаўскай павагі і здзіўлення. Каменны напаўразбураны ідал паміж двума найвялікшымі ў свеце мацерыкамі – ні азіяту, ні еўрапейцу і каня не навязаць. А я так спадзяваўся і прагнуў убачыць нешта надзвычайнае, сніў на трэцяй паліцы вагона. А толькі расчараванне і горыч, лепш бы засляпіцца. З чаго, разявіўшы рот, прышчаміў у тамбуры вагона, усунуў паміж дзвярыма

ўказальны палец на правай руцэ. Ці не зламаў, бо ён і цяпер не надта гнецца. Што ж, з мінулым трэба развітвацца не толькі са смехам, але і з болем, ці, як папярэджвалі нашыя класікі: за праўду мала стаяць, за яе і пасядзець трэба.

Другая сустрэча з ракой Том адбылася па вясне ўжо, калі сышоў лёд. У сонечны і ўгрэўны дзень, выхадны нам, былым выхаванцам Хойніцкага дзетдому, а цяпер "наждакам" – так звалі ўсіх навучэнцаў першагодкаў нашага горнапрамысловага вучылішча. Было нас чалавек дзесяць – столькі падлеткаў збіў я з тропу са свайго дзетдому. А ўвогуле завезлі нас з Беларусі і раскідалі па Кузбасе цэлы эшалон палескіх сірат-дзетдомаўцаў. Сваіх рабочых рук у краі ўжо не хапала, а кузнецкія прадпрыемствы патрабавалі папаўнення, маладога паліва, свежаку.

І такім свежаком, лесам, аднае зімы зрэзаным, раскрыжаваным і вытраляваным з нетраў Кузнецкай Шор- і Мар-тайгі, дзе на той час яшчэ мелася з лішкам безыменных і танных працоўных рук, на некалькі кіламетраў, ад маста над ракой да бліжняй вёскі Жураўлі у пяць-дзесяць накатаў быў высцелены ўвесь бераг. Нагу не ўшчаміць і вокам не прабіцца – галаву ў неба задзірай ды шапку рукамі трымай. Піхтавыя, ліцвяныя і кедравыя сутункі сцягнутыя збегам у адзіны бурт. Такое я бачыў толькі з хлебам на цаліне – кіламетровыя, як чыгуначныя насыпы, бурты пшаніцы пад ветрам, дажджом і снегам.

Супакоеныя назаўсёды, бронзава загарэлыя і сукравічна аголеныя дрэвы ляжалі ўпокат адно на адным. Некаторыя нібыта сіліліся ў вырай, стырчаком, мачтава і строма ўздымаліся ў неба, як прасілі крылаў ці хацця б сцяга над сабой. Стрэмкава пагудвалі і трапяталі адслоенымі, яшчэ неакрэплымі кудзеркамі маладой кары. Патыхала дрэвавым, хваёвым тлом і тленам. Жалобай.

Мы чорнашынялёва і шэрабушлатна коўзаліся па гарышчы неспасцяжных розумам брацкіх могілак. Я вінаваціўся, што збіў хлопцаў, выцягнуў з-пад ложкаў, спакусіў рыбалкай. Амаль у кожнага з нас меліся прылады для ловаў. Назапасіліся за зіму, складваючы капейку да капейкі, эканомілі на курыве, збіраючы па вуліцах чынарыкі, недакуркі. Лепей бы курылі цэлыя, магазінныя гвоздзікі "Ракета" – "Россия атомом крепка, е...ем тебя, Америка" – ды "Бокс", боевой орган комсомольской сатиры.

З вяршыні прытомскай скалы, завіслай над трамвайнымі рэйкамі, за намі непрыкаянна і абыякава наглядаў Міхайла Волкаў, што адкрыў зямлю Кузнецкую, багатую на вугаль. Наглядаў абыякава, але аберуч прыцiскаў да грудзі нешта важкае, чорнае і па ўсім надта яму дарагое і каштоўнае. Па задумцы мастака – пэўна, вугаль, антрацыт.

Паглядзелі знізу ўверх, мы на яго, ён з гары на нас, дый разышліся. Прапала ахвота рыбаліць. Да ракі адно з-за лесу не падступіцца, другое – з-за вады: паводка ж. А трэцяе, ды гары яно ўсё гарам...

Так закончылася мая першая рыбалка на сібірскай рацэ Том. Я апраўдаў і ўсцешыў сябе тым, што не ў час удумаў рыбаліць: паводка ж, паводка. А ў паводку рыбе не да ловаў, яна ў разгоне, нараджальным і адраджальным гоне жыцця. Пасвіцца на свежых выпасах травы, што толькі-толькі спажыўна адскочыла ад зямлі. Труцца змарнелымі і цвілымі ад зімы мысамі і вуснамі, браклымі белымі чэравамі ў чаротах і карчах. Нерастуюць. Так загадана ад веку ў век. Пад гэты час калісь і ў званы па цэрквах было забаронена званіць. А мы паперліся на ловы.

Пра раку і рыбалку пасля нашага калектыўнага выпаўзу я, здаецца, і думаць забыўся. Вучыўся. Вучыўся, як на Палессі гавораць, на пень брахаць, бо тая навука мне ў жыцці і для пражыцця амаль не спатрэбілася, як і шмат іншага, чаму і на каго я вучыўся. Выбітная адметнасць і найхарактэрная рыса савецкага чалавека ў свеце – чаму ў нас ці не ўсё робіцца праз адно месца.

У горадзе Кемерава мелася даволі слынная і прэстыжная навучальная установа: КІТ – Кемераўскі індустрыяльны тэхнікум. На каго там вучылі так званых індусаў я даведаўся толькі пасля атрымання дыплома: шахтавы электрамеханік, майстра вытворчага навучання працоўных рэзерваў. Пад сотню майстроў і горных электрамеханікаў на адным курсе, у адзіны выпуск. А на шахтах кожны новы год пачынаўся з іх скарачэння. І не дзіва, што большасць з нас абмінулі пачэсную шахцёрскую працу і працоўныя рэзервы.

Адны атабарыліся ў аблпрафсаюзе, другія – у саўнаргасах, а самыя спрытныя – у абкаме і райкамах камсамолу. Найбольш пашанцавала спартсменам, а іх у КІТе было нямала. Падчас прыёму ў тэхнікум на парозе яго стаяла двухпудовая гіра: тры ціскі – першы экзамен. І спартоўцы нашага курса паспяхова пераселі ў інстытуты, трэнеры і чэмпіёны, аж да алімпійскіх. А некаторыя падаліся нават у дыпламаты. Спартыўныя ногі выратавалі аднаго з іх у інданезійскім пасольстве, калі прэзідэнт краіны пачаў выразаць камуністаў. Наш індус прабягаў стометроўку за дзесяць з паловай секунд (на той час – амаль сусветны рэкорд), дзякуючы чаму ён застаўся жывы.

Самыя апошнія кітаўскія нездары ішлі ў журналістыку альбо ў турму. Так, у турму. Бо яна была адным з прамысловых прадпрыемстваў Кузнецкага краю. І турме былі патрэбныя майстры вытворчага навучання. Да такой працы, скурай адчуваў, я быў няздатны і нягодны. Зэкі б з мяне вяроўкі вілі. Я, безумоўна, у самым хуткім часе папоўніў бы іх шэрагі. Такім чынам мне заставалася толькі журналістыка. Тым болей, што ў раённых, гарадскіх і нават абласных газетах ужо былі свае людзі. Сярод іх і сябра, аднагрупнік Віцька Маісееў, па мянушцы Шорац. Ён папраўдзе быў падобны на шорца, а да ўсяго – жыў паблізу Горнай Шорыі, у горадзе Асінніκі, як ні круці, а на зямлі шорцаў.

Узгадваю пра гэта як сведчанне вынаходлівай гульні лёсу, яго зададзенасці. Тая ж, здавалася, непатрэбная вучоба у тэхнікуме на паверку аказалася ці не нарачонай, як крыху пазней і Віцька Шорац, і сама Горная Шорыя. Ішоў па жыцці, на першы погляд, узбоч і крыва, а на самой справе па стрыжню яго і праменька. Хаця сёння мо гэта і сумнеўна, і спрэчна: не адбыўся адзін лёс, склаўся б другі. Але мне шанцавала, як нехта вёў мяне: у самую бядотную хвіліну аднекуль з’яўлялася нябачная літасцівая рука і адводзіла ліха. Падымала з каленяў, ставіла на ногі і падпіхвала ў плечы, пазбаўляючы іншым разам і ад немінучага.

Так скруцілася, звілося ў нас і з Віцькам Шорцам. Я ўсё ж папрацаваў нейкі час на шахце. Праўда, не па выпускной спецыяльнасці – мантажнікам, праходчыкам, лічыў, што кіраўнік з мяне, як з аднаго рэчыва куля. Але ж, як кажуць, не хочаш, ды мусіш. Будучы праходчыкам шахты Бірулінская, я атрымаў пісьмо ад Віцькі. Ён стажыраваўся перад пераходам у абласную камсамольскую газету ў газеце гарадской – “Красная Шория.” Паведамляў, калі ёсць жаданне замясціць яго, неадкладна выязджаць.

Я неадкладна і выехаў у сталіцу шорскага краю горад Таштагол, што месціўся, падобна Кемераву, на горнай рацэ, прытоку Томі – Кондаме. Але ўсё гэта было потым, потым. Гэта я крыху забег наперад самому сабе, звычайная ў рыбаловаў-аматараў справа. А Віцька Шорац быў з заядлых рыбаловаў, што і парадніла нас яшчэ ў Кемераве, на рацэ Том. Рыбалоў, не ў прыклад мне, сур'ёзны, амаль прафесійны, які ў недалёкім будучым стаў прафесійным сібірскім паляўнічым-прамыславіком, а ў тэхнікуме яшчэ – майстрам спорту па стральбе з малакаліберная вінтоўкі, нягледзячы на слабы зрок і страту слыху на адно вуха. Сёння ўжо нябожчык Віктар Максімавіч Маісееў – ганаровы грамадзянін горада Кемерава, Заслужаны работнік культуры Кузбаса. А на той час проста Віцька Шорац, што меў звычку прыкладваць указальны палец да галавы, намотваць на яго чупрыну і рэдзіць яе, нібыта шукаючы ў валасах нейкую забытую вельмі слушную думку і, як ні дзіўна, знаходзячы яе і выкладаючы на чысты аркуш паперы. Віцька Шорац, амаль татарын, па-азіяцку задуменны і нехапатлівы, з якім мы не аднойчы ўначы ціснулі на кухні гарэлку з цукру, а ранкам беглі папраўляць галоўку ў бліжні гастраном.

Ён вярнуў і павярнуў мяне да рыбалкі на сібірскай рацэ Том, што цякла пад вокнамі нашых кватэраў на Прытомскай набярэжнай на вуліцы Вясенняй. Нашыя ловы пачаліся з дэбаркадэра, прыстані невялічкіх катэраў. Месца даволі тлумнае, але прывабнае і прыкормленае той жа тлумнасцю. І таму на чарвяка рыба там не брала. Мы з Віцькам па мелкаводдзі стапталі ці не ўсю раку ад вуліцы Вясенняй да самага моста і далей, нават да ГРЭС і коксахім-заводу. Вышуквалі і здабывалі адмысловую і вельмі пажаданую сібірскай рыбе прынаду, так званых бікарасаў. І самі былі падобныя на тых зялёненькіх, прырослых да асклізлых рачных камянёў бікарасаў. Зеляпушна ссінелыя, як чэрвенькія ці ліпеньскія зморшчаныя яблыкі – Том усё ж сібірская горная рака.

Колькі мы перавярнулі і паднялі са дна ракі камянёў – за грошы ні за што б не пагадзіліся. Паднялі і пільна перагледзелі кожны. Работка – так, пэўна, і золатаздабытчыкі не шчыруюць. Бікарасы раскашавалі ў жаваных з друзу, па-гаспадарску трывала злепленых і прымацаваных да камянёў хатках, як у горных саклях. Звонку з тых хатак-сакляў – тырчыць толькі рухавая галоўка са жваламі ды рудыя, пільныя да нас вочкі – нешта накшталт нашых шыцікаў-ручэйнікаў, толькі сібірскай, а хутчэй татарскай пароды. Адным словам, чужыя і няскораныя яшчэ аніякімі Ермакамі, непадатныя прамыслова індустрыяльным мясцовым атрутам. Мо таму і рыба накідвалася на іх, як маладыя парасяты на сечку з бабоўніка і крапівы. А бікарасы вёртка і непарыўна трымаліся на рыбацкім кручку, выдзыгаліся на ім не горш тагачасных стыляг на танцпляцоўцы.

Чаму мы і ганяліся за трывушчымі, загартаванымі хімкамбінатамі, азотна-анілінавымі заводамі, злівамі шахтаў і горнаабагачальных фабрык, жывымі і жвавымі насуперак усяму бікарасамі. Іншапланетнага кузбаскага амбрэ – парыжскага шанэлю айчыннага разліву – часам мы самі не вытрымлівалі. Калі ружа навакольных вятроў сыходзілася і замыкалася на тэхнікумаўскім інтэрнаце, у нас спыняліся заняткі фізкультуры. Мы, як пацукі, разбягаліся па пакоях, шчытна закрываючы дзверы, вокны і фрамугі. І толькі так дыхалі і выжывалі. Мо й бікарасы таму заняліся будоўляй сваіх супрацьатамных сакляў.

Але ж ні адзін бікарас не можа ўстояць перад другім бікарасам, гэта

значыць, перад намі – аматарамі-рыбаловамі. І хутка на рацэ паблізу нашага з Віцькам котлішча яны зніклі. Якраз тады мой сябра і ўздумаў займець сваю лодку. Мясцовыя абставіны спрыялі гэтаму. На хімкамбінаце пачалі ўзводзіць капралактамавы стан, вырабляць на ім эпаксідную смалу, чым мы вынаходліва адразу ж і пакарысталіся. Самалётнай фанеры, невядома чаму і навошта, у горадзе мелася ўдосталь, як і шклотканіны – а гэта, лічы ўжо, гатовая лодка.

Мы з Шорцам зладзілі яе ў адно лета. Паставілі на ваду – не тоне. Паспрабавалі плыць – плыве. Ноч прабавілі на кухні. Ранкам паправілі галоўкі. А далей ужо і за справу. Але гэта здалёку, сёння так проста гаворыцца – за справу. Шорац па натуры рабіў усё грунтоўна, як і паляшук: сышлася парачка – баран ды ярачка.

З лодкай былі кветачкі, ягадкі пайшлі потым з пошукамі прыдатнай для рыбалкі гліны, варкі шрапнелі – кашы з пярловых круп, набыцця некалькі буханак чорнага хлеба, паходу ў лес па мурашкі і іх яйкі. Для недасведчаных, мурашкі з мураўіным спіртам не толькі лекі, санітары лесу, але і выдатная прынада на рыбу. Мурашак і мурашыных куч на той час па тайзе было ж яшчэ безліч, экалагічнай свядомасці – нуль, як і прысутнасці паблізу на той час так званых зялёных, што мы з Шорцам нявінна і выкарысталі.

Але і гэта яшчэ толькі працоўнае набліжэнне да рыбалкі. Усё здабытае палягала звесці ў адно. Рассыпаць па тканіне, змяшаць, размяць і зноў да знямення пальцаў перамяшаць. Хто сказаў, што рыбалка – занятак лайдакоў, плюньце яму ў вочы. Праца – і без дурняў. Адно, справіцца з мурашкамі, не даць ім разбегціся, уцячы са змесціва, крыху ўжо змочанага вадой. А потым з гэтага ж змесціва, дадаўшы алею і раствораных карамельных цукерак, паніровачных сухароў, кропу наляпіць поўнавагавых ядраў, прыдатных мо нават для гарматаў часоў таго ж Ермака. Яго гармата стаяла каля парога абласнога краязнаўчага музея. Ядры мы беражна пераносілі і грузілі ў лодку, сплаўляліся ўніз па рацэ. Якарыліся звычайна каля плытоў.

Работа. Але галоўнае яшчэ наперадзе – бамбаж. Бамбаж ракі ядрамі, як свежазнесенымі яйкамі дагістарычных яшчараў і дыназаўраў. Нешта накшталт таго, што рабілі мы ў дзяцінстве дома яшчэ, нанізваючы бульбіну на ражон і шпурляючы яе далёка і высока ў неба. Толькі тут высока, далёка і з усяе сілы бракавала: асцярожна, як на лапаце саджаюць хлебы ў гарачую печ, дакладна вышэй плыні ракі. Так, каб яны ўваходзілі ў ваду без бурбалак, булькаў і клёкату.

Пасля чаго кароткі перакур. І ловы. Само сабой – выключна на бікарасаў з казытлівай мурашкай на джале кручка дзеля распалення апетыту рыбы.

Толькі ў большасці, не зважаючы на ўсе нашыя высілкі і застылую помнікавасць на плытах сярод вады, клявала драбяза, мерныя, пад адзін капыл – чэбачкі-плотачкі-сарожкі, з іх жа заводу – ельчыкі ды байстручкі-акуньчыкі. А то і зусім ужо на здзек нам – лупатыя і валавокія смаркатыя ёршыкі з пабрацімамі-пячкурамі. Нікчэмнасць, але пасля зацятай працы на бязрыб'і і рак рыба.

А дзе ж тлустыя і славутыя на ўсю Сібір таймені з харыусамі, ляўнькамі. Ад іх у Тамі ні следу. Дык ці варта было мне ехаць у такую далеч, праз мацерыкі, горы і раўніны за тысячы вёрст кісялю хлябаць, каб зазірнуць у заслепленыя на мяне вочы смеццевай рыбы.

Нешта падобнае я лавіў у Тамі і пазней. Кемераўскі абласны саюз жур-

налістаў набыў на беразе ракі ў вёсцы Жураўлі дачу. Звычайную сялянскую стадолу. Каб даставацца туды, пусцілі параходзік. Журналісты звычайна бралі яго з боем. Ехалі сем'ямі са сваімі самаварамі і спінагрызамі – жонкамі, дзецьмі, цешчамі. Супрацоўнікі партыйнай газеты "Кузбасс" адпачывалі культурна. Загаралі, ганялі чаі, кайфавалі на сонцы пры беразе на коўдрах і гумавых матрасах. Мы ж, камса з моладзевай газеты, выстройваліся шэрагамі ў вадзе, каламуцілі яе, што коні, няспынна перабіраючы нагамі. Вада апякаюча-халодная. Толькі мы тады плявалі на холад. Так, падварушваючы дно, уздымаючы пясок, мы ўзбулгачвалі і прынаджвалі рыбу. Яна перла на дурняў, як будучыя дысідэнты ў псіхушку – псіхі да псіхаў. Калоцяцца да лядзянага поту зубы, падбіраюцца жываты, сінеюць вусны і насы. Яйцы падціскаюцца да памеру мурашыных. Але ж мы маладыя.

Дзеля справядлівасці адзначу: узначальваў наш моладзевы гурт таварыш з партыйнай газеты па прозвішчы Калачынскі, імя ўжо забыўся. У яго няма аднае рукі, як бы сімвалізуючы і нашую ўвечнасць. Калі ён закідвае вуду, мы мімаволі ўгінаемся – кручком можа выдзерці і вока. Кручок з бікарасамі пралятае па-над нашымі галовамі, што куля, а лёска свішча пугай пастуха.

Міхась Міхаевіч, намеснік рэдактара нашай газеты, кобрынскі хлопец, зусім нядаўна падводнік-пагранец, выпускнік Свярдлоўскага ўніверсітэта журналістыкі, непадалёку ад нас наразае кругі па беразе. Паходкі, звычак марымана-падводніка яшчэ не страціў. Ногу ставіць мякка, што кот, але адначасова і цвёрда, упэўнена. Ідзе прама, без хісту і сам прамы, тонкі, звонкі, як загартаваны і толькі што з-пад прэсу цвік. Па ўсім, яму і хочацца, і колецца да нас у раку з вудай. Але ж, па-першае, начальства, а па-другое, больш істотнае і складанае – беларус. І як кожны беларус ды яшчэ паляшук – перасцярагаецца сваёй беларускасці: што людзі, тым больш падначаленыя, падумаюць і скажуць. Хаця ў Сібіры ўсе мы па-за нацыянальнасцю – проста сібіракі. Але ж куды падзець сваё, калі што ўбілі ўжо ў галаву – не выбіць і колам. Цягавітасць і зацятасць да вар'яцтва – адданасць і вернасць свайму прыроджанаму і прыроднаму, той справе, у якую ўкручаны, хаця яна мо і папярок горла, што Міхаевіч пацвердзіў не толькі працай, але і жыццём.

Намеснік рэдактара маладзёжнай газеты ў Сібіры, намеснік рэдактара на Беларусі, у партыйнай брэсцкай газеце "Заря" і ў галоўнай газеце краіны "Звязда". Па сутнасці, чалавек, які цалкам цягне на сабе надта ж нялёгкі рэдакцыйны воз. Безаглядна і назаўжды зацугляны і ў аглоблях, з хамутом пад горла. І гэта таксама наша, такімі ўжо завяліся і выйшлі са сваіх балот і карчоў, за што нас паляпваюць па плячах, любяць і паважаюць, асабліва наш старэйшы брат падчас хаўтур, няспынных у нас.

Пра іншых гаварылі і гавораць, у жалобе схіляючы галаву, аб генацыдзе і халакосце. А тут прасунутая і адукаваная вальтэрыянка абязмовіла, жыўцом выдзерла язык, нізвяла народ цэлай краіны да быдлячага стану і ўсяму свету як засляпіла вочы і адняло мову – хаця б дзе нават дзеля прыліку хто вякнуў. Апалавінілі народ, на на дзве траціны вынішчылі яшчэ пры Алёшку Ціхім, настолькі ж абрэзалі і зямлю, пагосты і клады. І каб толькі аднойчы – кожны век адно і тое, што снапамі на таку жыцця высцілалі час і зямлю, надаралася і два разы ў адзін век. Выкацілі, абезгаловілі нацыю – і зноў нідзе і ніхто ні гу-гу. І мы зноў гатовы галаву на плаху. Так толькі воўк дзярэ авечку з яе маўклівай згоды.

А мы ловім ёршыкаў ды пячкуроў у сібірскай рацэ Том.

Далучаецца да нас і Міхась Міхаевіч. Натура паляшука, яцвяга і здабытчыка бярэ верх. І само нашае камсамольскае начальства хапае вуды і брыдзе да нас у раку. Рудольф Яфімавіч Цяпліцкі, проста Рудзік, хаця калі я так звярнуўся да яго пры сакратары абкама, а потым і ЦК камсамола, як толькі мы засталіся адны, выгаварыў: запомні, вось толькі цяпер я табе Рудзік. Ён, пэўна, яшчэ з маленства задуманы, скляпаны пад кіраўніка недзе на берагах Балхаша ў Казахстане, па ўсім, з пароды колішніх наменклатурных ссыльных зэкаў-інтэлігентаў. Нічога, зусім па-пралетарску перабірае, муціць сібірскую ваду. Хоць і старанна, але нядоўга. Ці то не вытрымлівае холаду, ці то і яго пасадзе бракуе такі занятак, а мо ён беражэ і захоўвае ў беззаганнасці свае кіраўнічыя яйкі. Хаця ён чалавек жарсці і рызыкі, асабліва, калі ёсць магчымасць, як у нас гавораць, уставіць фіціля старэйшаму таварышу – партыйнай газеце “Кузбасс”.

На беразе, непадалёк ад нас, вадзянікаў, на гарачай, распаленай сонцам поўдня Заходняй Сібіры акатышавай гальцы смажаць і параць бокі, сцёгны нашыя жанчыны, поўзаюць нашыя спінагрызы і караеды. Паветра ціхенька пазвоньвае званочкамі падвешаных у ім мядзяных аваднёў і хуткакрылых, да непрыстойнасці аголена-прасвечаных стракоз. Сарока блажыць і ганіць прэч аднаго з няўрымслівых нашых караедаў, што прагне ёй паспавядацца. Ідылія.

Толькі вось рыба не ловіцца. Нават печкуры. А такая вялікая рака. Столькі ў ёй вады, і align рознамоўнай. Такія галасы. Галасы ёсць, а таго, хто іх падае, нідзе не відно. Аняменне і безмоўе, нібыта ўсе неспадзявана і заўчасна адышлі, сплылі, адляцелі ў вырай. А навокал такія абшары, аблогі, прасцягі, не дзіва ў іх знікнуць да схону, назаўсёды заблукаць і прапасці. Толькі з высокай скалы гучыць, лунае ні то рэха, ні то нечы самотны голас.

Гукае голас сваю душу. А тая не адгукваецца. І няма каму падказаць, дзе і калі яны разышліся. Няма каму падказаць, дзе і як сысціся, указаць дарогу, паведаміць час. Безнадзейна ў глыбіні колішніх і будучых вякоў блукае і б’ецца голас. Хіліцца то да сваіх, то да чужых. І адусюль яго гоняць: прэч, прэч – тут не падаюць і слязам не вераць.

Крык, крык, крык, немы і галасны над усімі абсягамі адной шостай часткі сушы. Спуджаным і параненым птушанём папіскваюць на бескрайніх прасцягах Сібіры, Далёкага Усходу, Крайняй Поўначы, па ўсім белым свеце безмоўныя і непрытульныя, што недзе яшчэ амаль у сярэднявеччы страцілі сябе і сваё імя – памяць на сябе і сваё імя. Не выпадае ім адбыцца, здабыць сваю долю ні дома, ні на чужыне. Ні пад сваім, ні пад чужым небам, ні ў сваіх, ні ў чужых водах не злавіць ім цар-рыбу, ці хаця б маленькую залатую рыбку.

Не злавіць, бо злоўлены, залыганы і зацугляны сам. І па сваёй ахвоце. Бо памяркоўна мроіў, шукаў і спадзяваўся – сваё. І зусім невыпадкова склалася так, як склалася, выхапілася з табакеркі, што часцяком надараецца не толькі з чортам. Выхапілася Горная Шорыя. Я быў адлоўлены ёю яшчэ ў дзетдоме, а потым і ў водах Томі. Ва ўсіх маіх ловах былі і засталіся толькі два дурні: з аднаго канца чарвячок, а на другім – дурачок. Я быў адначасова і тым, і другім, што палягала спраўдзіць мне на новай сібірскай рацэ, сястры Томі – Кондаме.

# ШОРСКІЯ БЕГІ

## *Пасляпалудзенная навела*

Сёння я ўсё часцей і часцей думаю, што сасніў яе. І не толькі яе. Сябе, сваё жыццё: «Жизнь моя, иль ты приснилась мне...» На самой справе, усё ў нас пачынаецца з няцямнасці сноў. З маленства гоніцца за мной дзіўная гісторыя – праўда, казка, байка – вычытаў, пераказалі, сам прыдумаў? Не ведаю.

Хлопчык сасніў уначы кашу – галадна жыў. Цэлы дзень шкадаваў, што не было з сабой лыжкі. У наступную ноч прыхапіў яе ў ложак. А каша не прыснілася. Ці не так прадбачліва падманьваемся ўсё жыццё сваімі снамі, марамі і мы з вамі. А з другога боку, мо гэта адзіная праўджанасць нашай зямной існасці

Паравозік, ахутаны белымі космамі дыму і пары ад кірпата задзертага ўгару носа да зяўрастай глыбіні вугальнага тэндара, як нячысцік, што толькі-толькі непрамыта выхапіўся з лазні, каціўся па хвойна-колкай тайзе. Настыраўся крыкам, набіваўся ёй у сваякі. Але тайга не прымала яго, неправарана вывяргала са сваёй – толькі на чыстых і чыстага – вароўні. Паравозік злаваў, чадзіў, куродыміў і задышліва паглынаў кіламетры.

У вагонным вакне праблíснула і патухла прамянёва распаленая стужка вады. Паравозік замаскаваўся парай і пачаў сцішваць бег. Я не думаў тут выходзіць, але прыцягальная і гуллівая на сонцы вада ахапіла і захапіла мяне. Яшчэ на хаду я саскочыў на пусты перон. Вецер развітальным уздыхам сцепануў у хвост апошняга вагону апераджальным рэхам паравознага гудка. За цягнікам замкнулася тайга, і я застаўся сам-насам з ёй.

Як узгадваецца сёння, не ішоў, а нырцамі, падобна страказе, ціхенька слізгаў па паветры. Лунаў па-над снула схіленымі долу, ацяжэла тугімі галоўкамі кветак іван-ды-мар'і яшчэ ў бутонным скрутку двухкаляровых, мужчынскіх і жаночых, пялёсткаў. Небам, верхам, абмінаў ганарыстабелыя рамонкі, раскудлачаныя і бухматыя ад прыпару асокі. Цела нібы страціла вагу, а паветра было лёгкае і пранікальнае – я без супраціву працінаў яго. Здзіўлена кружыў побач, суправаджаючы мяне, стракаты матылёк, так пярлінна абсыпаны пылком, што мімаволі цягнулася да яго рука – страсянуць, каб яму больш лёгка і хутка ляталася.

Колькі гэта доўжылася, імгненне, вечнасць, не помню. Але вось перада мной паўстала трапяткая паверх і зпадыспаду вада, таксама ж гуллівая пры дне пераборамі зырка-бліскучай галькі. Помніцца, я засмяяўся. Не ўсміхнуўся, а засмяяўся ўголас. Я адкрыў раку. Рака адкрыла і прыняла мяне. Мы з ёй як заручыліся і пабраліся. Вада, тайга, зямля пад маімі нагамі – у падземных атожылках крыніц, тое, як імі сыціліся волатыкедры, зліліся ў бязгучным подыху неба і сонца, з маім і вады дыханнем.

Тут, у таемнасці адзіноты, усе былі шчаслівыя і радыя адно аднаму, адасобленасці, непадабенству і чужасці, адчуваючы за імі параднёнасць і будучыню. І я скарыўся і аддаўся імгненню і пракаветнасці. Падышоў да кедра і прылёг на яго звераватыя лапы. Мне на іх было ёмка, мякка і ўтульна, таму адразу ж заснуў. Сон мой быў глыбокі і спакойны.

Прачнуўся як сонечным ранкам у маленстве з адчуваннем радасці і ўздыму. Перакінуўся словам з няпужанай і цікаўнай зялёнай таежнай жабкай.

– Ты хто і адкуль? – па-дзіцячы, без цырымоній, спытала яна мяне.

– Дзед Піхто і з-пад кур, – не вельмі ветліва адказаў я. – Такая лупатая, а не бачыш. Не ўсе дома, клёпак не хапае?

Жабка, пэўна, пакрыўдзілася, намерылася скочыць прэч, да некага мо больш прыязнага і ветлівага.

– Ён харошы, свой, – шэптам спелай шышкі, што з ціхім шолахам с саслізнула з іголак кедра і ўпала долу, абаранілі мяне. – Ён наш.

– Нашы ўсе дома, – палагоднела жабка.

– Як бачыш, не ўсе, – трымаўся я свайго і ўжо крыху блазнаваў.

Але жабка была разумней за мяне. Пахіталася на задніх лапках, надзьмула горла, што адразу з бела-зялёнага набыло згушчаны колер світальнага неба.

– Не зважай, – выбачальна папрасіўся я. – Я з шукальнікаў. Я толькі яшчэ шукаю сваю хату.

– Здараецца, бывае, – цяпер ужо жабка супакойвала мяне. Непрытульніку і сярод жаб кепска.

Я пагадзіўся з ёй і каб задобрыць, сказаў:

– Затое я дапамагу табе хутчэй апынуцца ў тваёй хаце. Буду харошым табе, аднясу цябе да вады.

Падняў і пасадзіў жабку на далонь. Яна, што котка, падціснула пад сябе лапкі, не прывыкла, пэўна, да цяпла рук. Але сядзела смірна, даверліва. Адно толькі вільготная спінка зелена паблісквала на сонцы і злёгку пахіствалася, як ліст лотаці на ціхай плыні ракі. Разбаўленыя беллю праблiснулі на вадзе яе хуткія, смычкова-напятыя ногі, нібы яна намагалася здабыць імі ў рацэ музыку.

Рака малочным цялём, шаўровым аксамітам яго мысы аблізвала мае босыя ногі, не знаходзячы ў іх нічога спажыўнага сабе, вірліва ўзбіралася вышэй лытак. Толькі і там ёй не шчасціла. І яна струменна кучаравілася, абабягаючы мяне. Не надта шырокая і багатая на ваду, цнатліва паскубвала заплеценую ў бароды траву пры беразе, скокам кідалася і перакульвалася праз галаву, мінаючы ладны валун пасярэдзіне ракі.

У мяне ў кішэні меліся на ўсякі выпадак прыхопленыя і падрыхтаваныя рыбалоўныя прылады: лёска з паплаўком, грузілам і кручком. Але я забыўся пра іх, як забыўся і на сябе, рыбалова і здабытчыка. А цяпер успомніў, развітаўся з гасціннасцю кедра і пайшоў супраць плыні да вытокаў ракі. Яна, нібы заманьваючы, пацвельвала, кручкова кідалася ў хмызы і тайгу, шылася між скалаў, вылузвалася з іх. Агалялася калідорамі і палянамі і зноў хавалася ад мяне, замыкалася чаромхавай засенню. Але я не крыўдаваў на яе, не адчуваючы ні стомы, ні прыкрасці. Мы гулялі з ёй у нешта адвечнае і дзіцячае, а мо і юнацкае, маладое, пэўна, яшчэ і не асэнсаванае. А гульня ва ўсе часы гульня. Цягавітая плынь вады асвяжала мяне, вяла, як на почапе ці шворцы вядуць сабаку. Я браў яе след і прагнуў дайсці, як той жа сабака, да яе патаемнага логава, вытокаў. Не верыў, што гэта проста і будзённа.

Рака, вада, здаўна здавалася мне, тояць, нясуць нам пасланне. Па ўсім, мелася яно і ў гэтай рачулцы. Пасланне менавіта мне. Яна ж сама паклікала і дапусціла мяне да сябе. Сама была пасланнем. Я таксама быў пасланцом. Вось толькі адкуль, каго ці чаго – мінулага, цяперашняга, будучыні. Час збіўся і пераблытаўся ўва мне. То я быў у тайзе здабытчыкам, загоншчыкам, палюючы нейкага кудлатага і груваcткага звера. Папраўдзе,

а не морачна. Гнаўся за зверам разам з мноствам падобных да мяне і таксама звераватых. Крычаў, галёкаў, замаўкаў, некуды правальваючыся, бо прагнуў здабычы, крыві... А ў наступную хвілю ўжо саромеўся, папікаў і ганіў сябе за крыважэрнасць, чапляўся за поручні вагона цягніка, які выплюнуў мяне ў ачмурэнне таежнай глухамані, і перакідваўся невядома куды і няведама ў каго. Ні колішняга, ні сённяшняга, ні брыдкага, ні страшнага, але такога, якім не хацеў быць і пабойваўся.

Рака суцяшала мяне, але жорстка, не па-людску. Пакідала мяне, тагасветна як у прорву сыходзіла. Калі ж я ў адчаі прымiраўся з яе нябытам, аказвала сябе зноў. І зноў пачыналіся нашыя гульні. Я працягваў свае бегі за ёй, за пасланнем мне і патаемнасцю яе нараджэння, упэўнены, што за гэтым крыецца нешта вельмі і вельмі значнае, знакавае мне. З маленства верыў: рэкі нараджаюцца, як дзеці, з нічога. Нічога, нічога, а вось ужо і нехта. Смарката тупае па двары. Так і з рэкамі. Нічога, нічога – ды раптам вада. Дзіцячая, божая слязінка. Гэта ж колькі ім трэба плакаць, ні слёз, ні вачэй не набярэшся.

А ўсё павінна быць інакш, хутчэй, мо, так, чым ці кім нас пужалі ў дзяцінстве – прарокам Іллём: калі той прарок у жніўні памочыцца ў ваду, лезці ў яе, купацца нельга. Грэх, і выхвараеш, скуламі пойдзеш. Вось я змалку і прагнуў падгледзець, дзе ж той Ілля-прарок мочыцца і трошкі чыкільдык яму зрабіць, каб купацца, каб працягнуць лета.

І цяпер паганскае, дзіцячае ўсведамленне сатварэння вады зноў ачулася ўва мне, але ўжо без шкоднiцтва. Ачулася мо яшчэ і таму, што пачало патыхаць пакуль яшчэ далёкай навальніцай, дажджом. І мне ўжо мроіўся грукат прарокавай калясніцы.

Рачулка нечакана зусім звузілася. На яе шляху ўзняліся з двух бакоў дзве вялізныя і вельмі стромыя скалы, што тыя ж скулы на зялёным і здаровым целе тайгі. Збіваючы калені, здзіраючы пазногці, я падзёрся на бліжэйшую з іх. На вяршыні ўбачыў: скалы ідуцьградой, ланцугом адна за другой. Дзе паўзком, а дзе і котам мінуў іх. Лепей бы я гэтага не рабіў. Рака, нібы апошні раз, згуляла са мной. Прыпынілася і паўстала перада мной азярцом. Такое чысцюткае і гладзенькае люстэрка дурню, нават з пасярэбранай ручкай: дурням жа надта падабаецца ўсё, што блішчыць. Я, як быў у адзенні, кінуўся ў выскаленыя ў люстэрку азярка зубы. Бакавая адбойная плынь вады выплюнула мяне, скіравала і аднесла да скал. Я вылез на сухое і страсянуўся, пазбаўляючыся наслання.

І цяпер ужо другі кедр, ацеплены дзённым сонцам, прыняў мяне. Я зноў прыкархнуў на яго насычанай жывіцай лапе. Забыўся сном неглыбокім і пракідлівым. Няварта спаць у чужой хаце і ў няпэўны час – ні то ў мінулым, ні то ў будучым, пасярод рэальнага. Нячысцік вёз, нячысцік вёў, а цяпер во прыкідваецца добранькім, наганяе сон і слепіць вочы. Толькі мяне голымі рукамі не возьмеш. І аслепну, плюнь на мяне – шыпець буду.

І такі плюнулі. Уляпіла ў лоб такім агністым холадам, лядзянымі пырскамі, што сну ні ў адным воку. Ніхто на мяне не пляваў, гэта было толькі прадчуванне маючага быць. А прахапіўся я, абуджаны ці не тым жа Іллём-прарокам, што, пакуль я спаў, запрог коней і цяпер на нябесных калдобінах, выбоінах і ямах пракудзіў, катаўся на сваёй жалезнай і брынклівай калясніцы так, што з-пад колаў громы і маланкі, слёзы з яго вачэй і вачэй яго коней. Неба шалела навальніцай, хаця дажджу яшчэ не было.

Але кветкі ўжо схілілі долу разам ацяжэлыя галовы. Гром набліжаўся.

Амаль побач стрэлава надламілася маланка. Сіне набраклая сцяна дажджу ўпрысядкі скакала па вяршынях дрэў і насоўвалася на мяне. Першая вялізная кропля з разгону ўкінулася ў ваду і падскочыла знянацку. Рака закіпела і пачала выплёхвацца з берагоў. Хутка я ўжо наскрозь прамок і пайшоў прэч ад свайго лежбішча шукаць больш надзейны прытулак, вартоўню, паляўнічую заімку, каб абагрэцца. Толькі нічога з гэтага на маім шляху не было.

Сустрэлася поле не поле, нешта падобнае на ўзараную ўсцяж берага доўгую і даволі шырокую паласу белага прырэчнага пяску, ужо як бы і забаранаваную для пасеваў. Толькі што можна сеяць сярод адвечнай тайгі, адарвана ад чалавечага котлішча. Тут я прыгадаў, што ў гэтым краі па рэках пускаюць драгі, мыюць золата. Але як драга магла прабіцца ў такія кедрачы і выбіцца з іх? Мо і мне пафарціць знайсці тут адзін-другі самародак. Варта нагнуцца і пашукаць.

Але я адразу ж кінуў замарочвацца пошукамі і адказамі на мае дзіцячыя пытанні. Заняўся тым, што край было неабходна. Распрануўся дагала і выкруціў адзенне. Узгадаў пра вуды. Пад дзёрнам збоку паласы накалупаў чарвякоў, сярод якіх трапіўся і ладны выпаўзак. Яго я і пасадзіў на кручок. Паплавок, не паспеў я настроіцца, адразу ж знік, пайшоў на дно. Я падсёк, адчуў пругкую донную моц супраціўлення, нібыта я сам упёрся там, у вадзе.

Акунь. Ды не які-небудзь лядашчы матросік, а ўмацярэлы гарбыль з перасцярагальна калінава-чырвонымі, да рэзі ў рыбацкім воку плаўнікамі. Злосна тапырыўся ў паветры і рытуальна танчыў, непаразумела прыглядаючыся да мяне. Я вызваліў яго ад кручка і паклаў на далонь. Акунь адразу ж напруціўся, прагнуўся, даволі высока скочыў угару і знік у чорнай глыбіні вады. Мне заставалася толькі падзячыць яму за тое, што ён быў, ёсць і некаму яшчэ будзе.

Жаданне рыбаліць прайшло. Няварта псаваць фарт і пладзіць расчараванне, а то распалюся яшчэ, і ўвесь бераг, шукаючы самародкі, перарыю. Мне і так хораша тут, паблізу фартовага і шчаслівага ўжо недзе майго акуня, адоранасці знойдзенай і адкрытай мною ракі, задуменных волатаўкедраў, паслянавальнічнай самотнасці залатаноснага пяску, хаця, пэўна, ужо і спустошанага драгамі. Дождж скончыўся, перашчук, пабег далей. Травы і кветкі разагнуліся, свежа распрасталіся, кропельна зіхацелі на сонцы. Здавалася, надарся ветрык, і яны зазвоняць. Але было ціха і ўрачыста, як у царкве пасля служэння. Велічна, падобна лебедзям, плылі па рацэ белыя і ружовыя аблокі.

Ужо на змярканні я зацепліў касцярок і патануў у цішыні. Рака займалася сабой, як немаўля на самоце, нешта шапялявіла, гуляла. Журліва і сумна паблісквала ў мой бок скіраваным на яе водсветам цяпельца. Мне таксама было сумна – ноч усё ж. У траве агаркамі-зоркамі мігацелі светлякі – спарахнелыя парэшткі колішніх дрэў. Бязгучна, юхцева слізгалі ў вышыні нада мной і ныралі ў змрок тайгі, як лятучыя змеі, кажаны. Патаемна і нябачна сачыліся жывіцай кедры.

Я быў напагатове – усё нечага напружана чакаў. Такія ночы не бываюць пустымі. Вось-вось нехта адхінецца, адслоіцца ад таго ж кедра і ступіць да мяне. Дзікі колішні чалавек, сённяшні лесавік, а мо і сам валадар тайгі Берандзей. Падыдуць да агню, прысядуць, як людзі, пагрэцца, пагамоняць са мной. Адштурхнецца ад стылай ужо скалы вадзянік ці русалка. Але толькі бязмоўныя цені, сполахі полымя цяпельца жывілі мае вочы.

Выйшлі ж на яве зусім іншыя, каго я менш за ўсіх чакаў і хацеў бачыць. Двое, у вайсковым і пры чырвоных пагонах. З аўтаматамі навісу паперадзе сябе. І рукі ўжо на затворах, і пальцы на спускавых курках. Я адразу ж здагадаўся, хто гэта і адкуль, таму сустрэў іх моўчкі. Быў добра знаёмы з архітэктарам горада, кпіў і пацвельваў яго:

– Тут жа амаль нічога не будуецца, што ты праектуеш?

– Будуецца, – вымусова адказваў ён. – Толькі таго не бачаць і непатрэбна бачыць – за калючым дротам. Шортайга вялікая і ўкрыўная.

Двое былі якраз з тых, каго не патрэбна бачыць ні ўначы, ні ўдзень. Мяне распірала ад цікаўнасці. Гэта ж колькі я сёння прайшоў, папахадзіў і да гэтага. І нідзе ні калючага дроту і нікога за ім, тым болей – узброенай вайсковай аховы. Пытацца пра гэта ў маіх начных наведвальнікаў не выпадала. Яны, як я ведаў, не з гаваркіх, самі любяць пытаць іншых, задаваць ім пытанні.

І яны іх задалі: хто, адкуль, чаму і навошта тут.

Таіцца мне было нечага, баяцца таксама: малады, яшчэ няпужаны, як тая жабка. Да таго ж – свае людзі, савецкія. Да “Архіпелагу ГУЛАГ” Салжаніцына было яшчэ далёка. А ў яго “Адным дні Івана Дзянісавіча” я не знайшоў нічога надзвычайнага і страшнага мне. У лагеры яго ўсё ж кармілі, пайку і да пайкі давалі. А мне на волі, каб укупіць у краме бохан хлеба – два кілаграмы, і тыя распачатыя, з адрэзанай зверху скарынкай – у чарзе так душылі, што губляў прытомнасць. Мяне выкідвалі з той чаргі на свежае паветра, на траву каля ганка крамы, дзе я ачомваўся, правяраў, ці на месцы, заціснутыя і скамечаныя ў далоні рублікі і зноўку кідаўся на згуб душы ў краму.

Вайскоўцы выслухалі мяне, пераглянуліся і, не спускаючы рук з аўтаматаў, як прыйшлі так і пайшлі, расталі ў цемры. Спатканне і гаворка атрымаліся што з жабкай, кароткімі, толькі не такімі прыязнымі.

Следам за імі я таксама падняўся і ступіў у астужальную прахалоду тайгі, нават вогнішча не патушыў. Яно і без таго ледзь тлела, а ветру і зусім не было. Гучна трашчала пад нагамі адмерлае суччa. Ішоў спрэс у цемры, натыкаўся на дрэвы, слепа абмацваў і абыходзіў іх. Неўзабаве выбіўся да чыгункі. Прахадны ўжо світальным ранкам цягнічок падабраў мяне на глухой і бязлюднай станцыі. Мо нават на той самай, з якой і пачыналася мая вандроўка. З імпэтам пракудлівага нячысціка цягнічок панёс мяне прэч ад майго акуня, маёй, хацеў верыць, багатай усё яшчэ на золата, схоўнай і зацішнай рачулкі. Яна як адкрыла і дала мне праход з аднаго боку ў нікуды, а з другога – ведаць бы нам, куды мы ідзем, што шукаем, губляем ці знаходзім. Што гэта была за рачулка, праход, сцежачка ў маё ці нечае мінулае, альбо будучае, а мо яна проста бавілася са мной. Адкуль яна толькі ўзялася, куды спяшалася бегці – да другой ракі і мора-акіяну. А мо толькі да мяне, пагадаць мне на кроплі сваёй прарочай вады. Надаць мне хоць трохі розуму. Яе імя і прызначэнне былі невядомымі мне. І ці ўвогуле была яна на яве, тым болей, ці быў я каля яе.

Я сумую і шукаю тую рачулку і сёння і не магу знайсці. Мо сасніў яе, як малы хлопчык кашу. Дык няхай жа будзе бласлаўлёны мой дарослы сон, з якога пачыналася назаўжды мне мілая і любая Горная Шорыя з яе тайгой, гарамі, рэкамі, рачулкамі і, само сабой, шорцамі.

## КОНДАМА

Пачалося з прыкрага, але прыемнага. У Горную Шорыю я трапіў, як эмігрант-нелегал у замежжа. Як гаворыцца, так спяшаўся і бег, і апрануцца і абуцца забыўся. Не зарабіў на шахце Бірулінская ў горадзе Бярозаўскім грошай нават на праезд і на пражыццё. Прыехаў у сталіцу шорскага краю, горад, тады яшчэ гэпэ Таштагол, без кап'я ў кішэні. І ў карэннага шорца Віцькі Маісеева, які спадобіў мяне туды на працу ў рэдакцыю газеты "Красная Шория", у кішэні таксама было пуста. Нечым нават адзначыць нашую сустрэчу.

Мы сумна, што коні ў пустым стойле, пераміналіся з нагі на нагу пад пранізлівым, яшчэ зімовым ветрам на навясным мосце праз раку Кондама, якая распалавініла гэпэ на дзве амаль роўныя часткі. Банкруты поўныя. Я пісаў ужо: на небе, на зямлі ці з-пад зямлі нехта спагадваў мне ў цяжкую хвіліну. Не абышлося без гэтага і цяпер сярод белага дня на пустым, без адзінай чалавечай душы, на хісткім у напятасці сталёвых канатаў мосце праз горную раку Кондама.

Вецер паднёс і наўпрост мне пад ногі шпурнуў нейкую зеленаватую паперчыну, спярэшчаную друкаванымі літарамі. Я падсвядомасцю адразу яе пазнаў, але не даверыўся вачам, хаця на ўсякі выпадак прыціснуў тую паперчыну падэшвай чаравіка і чамусьці хуценька і зладзеявата азірнуўся. Нідзе нікога-нікагусенькі. І вецер ачах, і рака прыціхла. А была брынклівая і сварлівая – выгаворвала нешта, ляпіла ў лабаценне валунам, што заміналі яе бегу. З норавам рака.

Мы з Віцькам пераглянуліся, сцепанулі плячыма, усміхнуліся. Я то ведаў чаму, а ён яшчэ не. Я нагнуўся і выцягнуў з-пад падэшвы чаравіка траячку. Тры паслярэформавыя, неразменныя хрушчоўскія рублі, хаця і даволі брудныя – даронаму каню ў зубы не глядзяць – край неабходныя нам. Паказаў свайму сябру Шорцу. Але шорац на тое ён і шорац, зазірнуў мне пад ногі:

– А больш там няма?

І ні радасці, ні здзіўлення. Толькі крыху пазней:

– Не, болей і не трэба. Якраз на тое і на плаўлены сырок. І адна капейка лішняя. Маглі б падкінуць і на лепшую закусь.

Я павярнуўся на ўсе чатыры бакі і падзякаваў свету, небу, сонцу, асабліва рацэ. Пакланіўся ёй: яна прыняла і прызнала мяне, пра што адразу ж і абвясціла.

У Кондаме, з моста, здаецца, не глыбокай, калі меркаваць па разлогу яе крутых і стромых берагоў, былі закладзеныя пачаткі вялікай ракі (як, дарэчы, амаль у кожнай ракі ў нас, на Беларусі). Былая іх веліч пазнаецца толькі вясной, у паводку, ды падчас сухога лета, калі яны разліваюцца без канца і краю ці перасыхаюць да знямоглых ручаёў. Рэчак тады ўжо няма, а берагі, дно – жывыя, хаця і шкілетна, касцяком, магутнасці якога можна толькі дзівіцца і папікаць сябе. Гэта на нашых вачах і пры нашай памяці, гэта мы так мярзотна распарадзіліся невычэрпнасцю нашых водаў. Выпілі набгом, згвалцілі, выдзерлі язык, пазбавілі голасу, мовы.

Кондама ж у каменным абмежванні берагоў, у абдымках сточаных і пагрызеных плынню скал, з назіральна завіслай на іх тайгой, заставалася яшчэ пры сіле. Шары і чорны одум замшэлага каменя, зялёны абшар хвойнага лесу, прабегла-ўкрыўны прарыў паміж іх блакіту неба зверху, а

ўнізе такі ж блакіт вады. Тае ж чысцюткай вады – алмаз у абрамленым пярсцёнку вечнасці.

Жывы алмаз дыхаў, струменіў водарам жывіцы. Юрліва і гарэзліва перашэптваўся і ўскрыкваў living рознымі галасамі донна і паверхнева, горлава і сярэдзінна. Заманьваў, што ў жбан, у жалейкава спеўную гарлянку скал, якія з двух бакоў здушылі, заціснулі раку, неабачлівы вецер. Ён шалеў і вар'яцеў там, трапіўшы ў пастку, шырока і абложна ўздыхаў, вырываючыся на волю, і з усіх ног бег прэч, агалошваючы прасцяг радасцю збаўлення свайго няўдалага заляццання.

Так было летам, так было зімой. Стагоддзі і тысячагоддзі, з чалавекам тут і без яго. Але, на жаль, Зямля ўсё ж сутыкнулася з чалавекам, і ёй не пашанцавала.

У зімовай сібірскай, шорскай закутасці пракаветна былі стоены да шчымлівасці свае адметныя, часам мілыя і наіўныя, а часам жорсткія чараванні. Прыгажосць і забойства, якім вельмі собілі і лічылі заінелыя крышталікі хваёвых іголак, прыціхлых ад векавых дрэвавых думак. Нібыта там, у іх голкавай завостранасці нехта хаваўся і жыў, агораў сабе такую хатку. Пазіраў зверху на ўсё і ўсіх безліччу дробненькіх, бліскуча ўсмешлівых вочак, працінаючы зрок і сэрца тых, хто яго бачыў. Аднак не слепячы, неназольна, надаючы адчуванне і далі, і часу – далучанасці да іх кожнага і ўсяго існага на белым свеце.

Гэта ўвогуле адметнасць і ўласцівасць лясоў, асабліва баравых, хвойных. Мо адсюль і паходжанне навагодніх елак у нашых хатах. Але ў шортайзе хатняя казачная ёлка была заўсёды, у любую пору года, святочнай. Помнікавай, адначасова, пэўна, і жалобнай, памінальнай. І не толькі чалавеку – усяму існаму, яго ланцуговай бясконцасці, смяротнасці і бяссмертнасці. Супынкава перасцерагальнай аднадзёнасці – сёняшняй і будучай. І да абмірання сэрца выкрыццёвай. Выкрывальнай нашай няздатнасці стварыць у сабе, вакол сябе, нешта падобнае – толькі сляпое перайманне велічы сапраўднага творцы, высільваючыся хаця б трошкі наблізіцца, паўтарыць яго.

Нездарма мы паўсюдна больш-менш гожыя мясціны называем Швейцарыямі. Беларусь тут не выключэнне: няздольны прызнаць сваё – узвышаем і ўшаноўваем чужое. А тая ж Швейцарыя ў параўнанні з Горнай Шорыей можа затаіцца і маўчаць у кулачок. Усё, усё тут сваё, адметнае і непаўторна казачнае. І горы, і рэкі, і тайга, і нават мясцовыя экзоты, падобныя да амерыканскіх рэзервацый і тамтэйшых тубыльцаў – індзейцаў-шорцаў. Грузінскі савецкі пісьменнік пасля наведвання Амерыкі сказаў, што цяпер ён зразумеў розніцу паміж іхнімі і нашымі неграмі: нашыя негры – белыя. Дык вось, тутэйшыя нашыя індзейцы – шорцы. Іх лёс надта ж падобны да нашага. Яны вельмі і вельмі рэдка пракідваюцца пад сваім шорскім сонцам.

На той час, калі я жыў у Горнай Шорыі, там пераважалі зэкі – былыя зняволеныя, што пасля адсідкі ў лагерах аселі тут, і цяперашнія па схваваных у тайзе лагпунктах. Каб мець уяўленне пра Горную Шорыю і шорцаў, дастаткова ўзгадаць пра сям'ю Лыкавых, адкрытую ў Шор-тайзе нябожчыкам ужо, пісьменнікам і журналістам “Комсомольской правды” Васілём Пясковым, узгадаць, без перабольшвання – пячорнае існаванне той кержацкай сям'і. Як яе кранальна па ўсім СМІ ратавалі і ратуюць сёння адзіны паследак, хворую і нямоглую старыцу Агаф'ю. Але ўсю Шорыю, як і Расію, адным Пясковым, нягледзячы на яго прасвятасць, не

ўратуеш. Такіх Лыкавых па краіне – незлічона. І не раўня Лыкавым, што ні чытаць, ні пісаць не вучаны. Адукаваных, вучоных, прафесараў з веданнем і замежных моваў, што з закратаваных вокнаў сталыпінскіх вагонаў раскідвалі па ўсёй Расіі пісьмы з просьбай да самой Н.К. Крупскай, жонкі Леніна, аб дапамозе: расійцаў, немцаў, палякаў, украінцаў, беларусаў... Хаця турма, як і ўся Сібір, не ведаюць ці на той час не ведалі нацыянальнасці: асібіраныя сібіракі, адной доляй хрышчоныя.

А край невымерна багаты, на тую ж шчаслівую долю створаны. Як любілі казаць геолагі: кожнага жыта па лапаце. Толькі тое жыта, як замоўлены клад, цяжка было ўзяць. Бездараж, горы, рэкі, тайга. І самога жыта, як толькі для тутэйшых, усюды і ўсяго патрошку, на лыжку. Хаця жалезнай рудой Горнай Шорыі карміліся з трыццатых гадоў КМК – Кузнецкі металургічны камбінат, пазней – Запсіб. І руда – пад семдзесят асоткаў жалеза, а так званыя хвасты, адыходы – каля дваццаці, дваццаці сямі асоткаў руды, што ў іншых мясцінах здабывалася і лічылася прыймальным.

Апроч жалезнай руды – золата, прамысловае радовішча фасфарытаў. А яшчэ медзь, ды не якая-небудзь, а самародная. Дасведчыцца пра гэта можна каля краязнаўчых музеяў Кемерава і Навакузнецка. Ля ўваходу ў іх – пліты самароднай медзі па сем і восем тон, здабытыя ў Шорыі на гары Кайбын. Пліты гэтыя на месцы распілавалі, спусцілі долу з вяршыні гары пад два з лішкам кіламетры. Шорцы для спуску зладзілі некалькі саняў, ушчэнт разбілі іх, пакуль выцерлі з лобу пот. Пазней я чытаў, што нешта падобнае зрабілі, не памятаю толькі з чым, індзейцы ў Амерыцы. І Амерыка ганарылася імі, распісала па ўсім свеце. Пра нашых жа індзейцаў нідзе ні слова, ні паўслова. Адно – у паданнях і фальклоры. Вось такая братэрская пераклічка паміж двума народамі і мацерыкамі, нашымі і іхнімі індзейцамі.

Прамысловай здабычы самароднай медзі не дазваляюць малыя залежы яе на гары Кайбын. Недзе пад трыста тысячаў тон. Ведаю, таму што спадобіўся працаваць сам на даразведцы радовішча непадалеку ад гары, падымаўся на яе, шукаў санны след. Не знайшоў. Тайга, як і вада, хутка хавае ўсе сляды. Жалезная руда, золата, фасфарыты, медзь не адзіныя скарбы Горнай Шорыі і шорцаў. Хапае радовішчаў і іншых мінералаў, пра якія да пары да часу маўчаць. А яшчэ ж пушніна, лес, тайга і кедравыя арэхі. Выведкавых, геалагічных партый і атрадаў, у тым ліку і закрытых, па Шор-тайзе мноства. Не ўсім і кожнаму вядома, што яны шукаюць, а тым болей – знаходзяць. Вось Верхконадамская геалагічная партыя, у якую трапіў і я, спачатку пайшла па медзь, а выйшла на золата. Шорыя, як і ўся краіна, зямля нечаканасцяў, у ёй некалі мелася трыста мільёнаў шукальнікаў, і кожнаму шчасціла нешта знайсці. А Горная Шорыя вельмі і вельмі падобная да Кландайка Джэка Лондана.

Шорац, праходчык нашага горнага атраду, шукаў мядзведзя, каб упаляваць яго, а трапіў на золата. Такое адбылося тут не ўпершыню. Шорцы з аднаго боку – прыроджаныя паляўнічыя, а з другога – маюць абвостраны нюх на ўсё падземнае, воднае, нябавае і вельмі дасціпныя на гэта і кемлівыя. Трэба адзначыць, што сёння яны не надта замарочваюцца доўгімі бегамі па тайзе за зверам, тым болей за мядзведзямі. Тут набрыдзь апошніх часоў управілася і без іх. Яны ж прыглядаюць бяспрытульнага сабаку, прыкормліваюць яго і клічуць з сабой у тайгу. Валяць дрэва, пад два ці тры метры высякаюць цурбан. З металёвага тросу ладзяць пятлю і замацоўваюць на

там цурбане. Забіваюць сабаку і кладуць у пятлю – прынада касалапаму, і чым болей даўняя і смярдзючая, тым лепей.

Мядзведзь ідзе на пах і спажывае прынаду. Насычваецца, збіраецца прэч, толькі ён ужо ў пятлі, пры цурбану. Бедаку застаецца адно – цурбан на плечы і да мядзведзіцы. Але якая мядзведзіца з піхтовым ці лісцвяным гасцінцам на загорбку. Вось так і ўпаляваў Ягор Тадыгешаў свайго чарговага мядзведзя. Па шорскаму звычаю адхвастаў яго дубцом: маўляў, я цябе не чапаў, сам вінаваты. Сам забіўся, палез на кедр па шышкі, ды сарваўся. Такі вялікі, цяжкі, грымнуў долу і сканаў. І мне цябе, брат мой азыг (мядзведзь па-шорску) шкода. Толькі тут ужо нічога не паправіць.

Пабедаваў так са свайго шчасця Ягор Тадыгешаў і хацеў ужо ісці па каня, каб даставіць свайго неабачлівага брата ў лагер. Але змеціў непадалёку ручай. Не сказаць, каб вялікі і вабны, звычайны. Ды нешта ўсё ж цюкнула ў галаву Ягору: аднак нічога ручаіна – дно пясчанае, чыста вышараванае вадой, і вада гаваркая. А ў Ягора заўсёды на ўсялякі выпадак меўся золатамыйны латок – шорцы народ прадбачлівы, усё сваё носяць з сабой і проста так за нечым толькі адным з хаты не выходзяць, зусім як паляшукі, маючы пры гэтым і нешта яшчэ спадарожнае: мала што можа адбыцца і спатрэбіцца па-за хатай.

Мо толькі дзеля прыліку, яшчэ настраёва ў паляванні, Ягор узяўся прамываць пясок. І ўразіўся. Адразу ж пайшло золата. Такім чынам наш горнапраходны атрад перакінуўся з медзі – ад жорава ў небе да сініцы пад нагамі – на разведку золата. І гэта не адзіны выпадак нечаканага фарту мясцовым людзям. Жалезаруднае радовішча Шэрэгеш, сёння сусветна вядомы горналыжны комплекс, было адкрытае шорцам, у якога ў падполе мерзла бульба: нехарошы камень, пажаліўся ён геолагам, надта халодны аднак. Халодны камень аказаўся рудой, жалезам амаль без дамешак.

Увогуле Горная Шорыя і шорцы па сваёй чысціні і святой наіўнасці нагадваюць мне нешта даўно ўжо страчанае ў свеце, казачнае, яшчэ баслаўлёнае ўсмешкай самога творцы. Па-дзіцячы, цацачна гуллівая, і не такая ўжо маленькая краіна. Калі дакласці тое, на што яе ўкарацілі, абрэзалі, а папросту – абрабавалі, будзе ці не з Беларусь мо нават у колішніх яе межах, а тую ж Швейцарыю пакрые ў разы і разы. А так – маленькая, населеная маларослым народцам, рахманым, памяркоўным і добрым, а таму амаль нябачным, як нябачны зноў жа па тых Швейцарыях гномы, эльфы ці кніжныя хобіты, якімі так захапляецца сёння дзятва.

Я доўга не разумеў гэтага захаплення. А ўсё надта звычайна, проста і будзённа. Толькі, пэўна, у тым і справа, што будзённа звычайна і проста, як у дзіцячым свеце: сапраўдна і сапраўднае. Толькі нябачнае дарослым, бо па-за іх дарослым розумам. А маленькія дзеці і маленькія людзі бачаць. Яны не зусім яшчэ тут – больш у пракаветнай цішы планетарнага нехапатлівага руху нашай матухны-Зямлі. З тых, хто хаваўся і хаваецца ў зімовыя маразы ў іголках хвойнага лесу, ведаючы, што гэта часова, але толькі ў гэтым часовым можна схавацца навек. Яны выйшлі з шатаў дрэў, вылупіліся з яловых і кедравых шышак, вынырнулі з вады, з-пад лёду скаваных сіберам рэк. І разышліся па ўсім Божым белым свеце, каб прыхарошыць яго. Добразычліва і прыязна, але не без хітрынкі, усміхаюцца кожнаму, хто з даверам зазірне ім у вочы – часцей дзецям, бо і самі дзеці. Таксама і сумуюць, здзіўленыя няўважнасцю і неразуменнем невідушчых і часовых пакуль на свеце істотаў. Самі ж назаўжды вечныя і заможныя.

Усяго ім і ў іх удосталь, хаця і патрошку. Але колькі святой птушцы трэба, як і святой душы. Толькі сённяшні дзень такога не прымае і не разумее. Шорцы не аднойчы спрабавалі перайначыць свой лёс, асабліва на пачатку савецкай улады. Недзе ў сярэдзіне дваццатых гадоў намерыліся стварыць сваю незалежную краіну. Абралі ўжо і ўрад, і кабінет міністраў. Загвоздка была толькі ў тым, што некага ставіць на пасаду міністра культуры: не знайшлося ніводнага граматнага шорца. Думалі, гадалі і прыгадалі – ёсць, ёсць. У горадзе жыў і нечаму там навучаўся адзін чалавек. Па чутках, нават яшчэ і вершыкі крэмзае. Паэт. Само сабой, каму, як не паэту, быць міністрам культуры.

Сярод ночы кінуліся яго шукаць. Не знайшлі. Тыдзень ужо, як пайшоў у тайгу на паляванне. Выпрацавалі план дзеянняў: па першым кроку ўзяць прыступам Мундыбаш – тады ўлус, пазней пасёлак і руднік – там усяго два міліцыянты. Раз стрэліць, і яны разбягуцца. Масква ж потым здасца сама. На гэтым першае і апошняе пасяджэнне кабінету міністраў скончылася.

Паэт вярнуўся з палявання толькі на наступную ноч. Яго адразу, не паспеў ён лыжы зняць, і ўзялі. А пра тое, што ён адну ноч быў міністрам культуры, паэт даведаўся толькі праз сямнаццаць гадоў.

Калі я ўжо трапіў у Горную Шорыю, яна была як востраў. Водападзел паміж карэнным насельніцтвам і тымі, хто кінуўся асвойваць, скараць і пераўтвараць Сібір, асэнсаваць немагчыма. Хаця хрушчоўская адліга патыхала ўжо маразамі, хвалі яе, як потым і перабудовы, каціліся і гулялі па метраполіі. Сібір сатрасалася ад інтэлігентнасці і інтэлігентаў, вольнадумцаў – будучых дысідэнтаў, а прасцей, зноў жа крыху наперад – усенародна абраных балбатуноў – эрудытаў, рамантыкаў і рамантыкі. Панавала такая ўзнёсласць, што гелагічная справаздача аб жалезарудным радовішчы Каз, у хуткім часе Усесаюзнай камсамольскай ударнай будоўлі, была напісаная ямбамі і харэямі – вершамі. Хаця, як мне расказвалі потым, ліпа гэта была, самая кваліфікаваная зэкаўская звычайная туфта: руднік быў прывязаны і пасаджаны не на руднае цела, а ў большасці на пустую пароду. Ды пры тагачасным энтузіязме гэта дробязі.

Але гэта ўсё толькі прыказка. Час і справай заняцца б ды рыбу палавіць. Рыбы і яе ловаў не было. Дарэмна я раскатаў сваю памаўзлівую паляшуцкую губу на сібірскую халяўную рыбу. Кондама на яе была амаль пустой, і я з вудамі выглядаў тут ці не блазнам. Хаця такіх блазнаў па яе беразе бадзялася аж чацвёра. Завяршылася Усесаюзная ўдарная камсамольская будоўля Казскага рудніка. Таштагол папоўніўся трыма камсамольцамі-будаўнікамі з Масквы і Падмаскоўя. Музыкантамі: баяністам, трубачом і альтыстам. Два з і х прыпісаліся да таштагольскага дому культуры. Трэці з-за адсутнасці яму ў тым доме інструменту, быў накіраваны ў літсупрацоўнікі рэдакцыі газеты “Красная Шория”, у падначаленыя да мяне, загадчыка аддзела прамысловасці, транспарту і нечага там яшчэ.

Наш квартэт звычайна марнаваў вольны летні час каля вады, на рэчцы. Праўда, без музыкі, хаця яна мо і не пашкодзіла б. Марнаванне было мэтанакіраваным і традыцыйным для тагачаснай маладой і рамантызаванай Сібіры. Задавольваліся інтэлігентным сухім і танным рыслінгам, чамусьці не ў рубель, ні больш за яго – дзевяноста восем капеек за пляшку. Іншае пітво ў горад Таштагол летам амаль не завозілі. Было яно невыносна кіслым, а ў дадатак невядома чаму пенілася. І таму на сонцы мы паходзілі

на нявыстаяную хадзячую брагу з мыла і адыходаў грамадскага харчавання.

Зрэдку перападала анісавай ці карыяндравай гарэлкі, якіх я не любіў: я яе туды, а яна, як палонік, адтуль. У павазе быў чысты пітны спірт. Але ж розніца ў цане – 98 капеек і 5,87 рубля схіляла на карысць рыслінгу.

Зняможаныя, ачахалі і адмакалі ў Кондаме. У перапынках рыбалілі. Дакладней, спрабавалі рыбаліць, бо клявала адна драбяза: настырныя, вельмі малыя пячкуры. Іншай рыбы ў сібірскай рацэ Кондама пад Таштаголам я не памятаю. Пячкуроў жа было процьма. Яны нібыта помсцілі тут невядома каму і за што. Сёння думаю, менавіта мне. За грэбаванне і здраду сваім водам: прагла сініца чужога мора, хацела мора запаліць, ды згарэла сама.

Таштагол у перакладзе з шорскага – камень на далоні. І мы, чацвёра набраклых рыслінгам камянюкаў сярод іншых, раскіданых па беразе, дакаральна цвярозых. Такое трэба толькі бачыць. Неяк значна пазней мне трапілі на вочы чатыры блокаўскія радкі:

И сидим мы, дурачки,  
Нежить, немочь вод,  
Зеленеют колпачки  
Задом наперёд.

Гэта пра нас, пра мяне тае пары. А мо і не толькі тае...

Самым каларытным і цікавым у рэдацыі газеты “Красная Шория” безумоўна быў яе рэдактар Аляксандр Якаўлевіч Бабенка. Хаця і ўсе іншыя супрацоўнікі яшчэ пашукаць ды пашукаць – днём з агнём. Але ў першую чаргу трэба адзначыць адметнасць і самой газеты – стартавай пляцоўкі шмат і шмат якім журналістам абласных і нават цэнтральных газетаў. Сам Бабенка, здаецца мне сёння здалёк, неверагодна пасаваў Шорскаму краю і яго тутэйшым, карэнным жыхарам. Чаго варта адно толькі з’яўленне яго тут – амаль біблейскае, па Іванову: з’яўленне Хрыста народу.

Паходзіў ён з абласной партыйнай газеты “Кузбасс,” а да таго рабіў у самой “Правде”. На жаль, надараюцца такія перакруты часцяком, і са многімі. Я асабіста ведаў вайскоўца-лейтэнанта, якога адзначыў за ўзорную работу ў роце генерал:

– Вы, пэўна, са старшынь, з прапаршчыкаў? – пацікавіўся.

– Не, я з капітанаў, – з сумам адказаў лейтэнант.

Нешта падобнае адбылося і з Аляксандрам Якаўлевічам Бабенка, пасля чаго ехаў ён з газеты “Кузбасс” праз Навакузнецк у стольны горад Таштагол на грузатаксі. Калісь меўся такі транспарт: звычайны газон, крыты брэзентам, абсталяваны лавамі. Напакавалася у тое грузатаксі люду – і плюнуць некуды. Але ў тым шчытным натоўпе Бабенка адчуў, што ніхто яму нават ногі не адтоптвае, не гняце ні ў плечы, ні ў грудзі. Сядзіць вольна і адзін на лаве.

– Паважаюць, падумаў, – расказваў ён нам пазней. – Як жа, варты – рэдактар газеты. У капялюшы, пры гальштуку і ў мадняцкіх імпартовых акулярах.

Але тут грузатаксі спынілася, у кузаў залезлі суровыя людзі, вайскоўцы з аўтаматамі. Пасажыры-шорцы, што дагэтуль ціснуліся да бартоў, распраміліся і ўсе, як адзін, тыцнулі ў бок Бабенкі пальцамі:

– Ён, ён. Не наш, чужы чалавек. Шпіён...

І такіх здарэнняў з нашым рэдактарам, часам смешных, а часам і зусім

наадварот, было безліч. Ён прыналежаў да той рэдкай дзіцячай пароды смехарыкаў, што да старасці дзівяць народ, штодзень у іх нешта новае і неверагоднае.

– Пайшоў у прыбіральню. Занята, гляджу на дзверы, чытаю: паглядзі направа. Паглядзеў, чытаю: паглядзі налева. Паглядзеў, чытаю: паглядзі назад. Паглядзеў, чытаю: а чаго ты круцішся, як вош на... калу... Ну, пісакі, ну, пісакі. Не горш за вас, хоць зараз у газету.

Вяртаўся з сакратаром райкама партыі на матацыкле з палявання. Вядома, у якім стане з яго вяртаюцца. У цэнтры горада, на плошчы каля помніка У. І. Леніну, зрабілі круг пашаны. Стоячы, жэстам каменнага Ільіча павіталіся з правадыром. На другі ж дзень, ранкам, пазванілі з абкама: яшчэ адно такое вітанне, пойдзеце падмятаць вуліцы ў пасёлак Мундыбаш. Туды ж, у Мундыбаш, чамусьці палохалі менавіта ім, зверху пагражалі выправіць яшчэ аднаго чалавека, што з пэўнага часу, і як гаворыцца з-за тоўстых абставінаў, трывала атабарыўся ў Горнай Шорыі. Няпросты, не абы які быў чалавек, хаця і дзівак. Нават абліччам, паводзінамі, звычкамі вельмі і вельмі падобны да самога Бабенкі. Інтэлігент, з былых вучоных і зэкаў, мо накшталт геніяльнага Чыжэўскага – знаўцу ўсяго пра сонца і надвор'е планеты. Геліяметэаролаг Анатоль Вітальевіч Дз'якаў, у мінулым штатны метэаролаг Горшорлагу, ліставаўся з прэзідэнтамі і прэм'ерамі замежных краінаў. Прадказваў і папярэджваў аб землятрусах, тайфунах і іншых выбрыках стыхіі. Спрабаваў папярэдзіць пра неўрадлівы год і М.С. Хрушчова. Але той толькі нешта рыкнуў у адказ, боў яго на такія справы меўся пад рукой акадэмік Т. Лысенка. Хаця ўжо ў 1972 годзе Дз'якаў быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага сцяга з фармулёўкай "за поспехі ў павялічэнні вытворчасці зерня". Здзек, абраза, а мо і крамлёўскі жарт. Такім чынам, Дз'якаў быў перспектыўнай асобай на пасаду дворніка ў пасёлак Мундыбаш.

Дзіваком і інтэлігентам Анатоль Дз'якаў быў у паводзінах і адзенні. Апранаўся так, што за ім чародамі хадзілі дзеці і нават сталыя шорцы. Было з чаго дзівіцца: жоўтыя цяжкія горныя чаравікі на тоўстым белым каўчуку, стракатыя гетры пад калена да шортаў, стракаты шалік касынка ў дадатак да таксама ў розныя колеры пафарбаванай курткі. А на галаве ці не цірольская шапачка з пампушкай, як званочак у эльфа ці гнома: не наш чалавек. Не наш.

Тлумачыў жыхарства ў Горнай Шорыі адметнай ружай вятроў, што якраз і вызначала фармаванне і стан надвор'я на Зямлі. Асабліва паказальным гэта было ў пасёлку Цемір-Тау, дзе ён атабарыўся. З гэтай ружай вятроў ён і завітаў да Бабенкі ў рэдакцыю. Яны сядзелі ў яго кабінеце гадзіны са дзве, калі не болей. Дз'якаў пакінуў рэдакцыю непранікальна-захутаны сіваватай бародкай інтэлігента і пісьменніка-разначынца мінулага стагоддзя. Чыста паголены Бабенка пачырванеў, доўга бегаў і гучна ляпаў дзвярыма рэдакцыйных кабінетаў. Жаліўся нам:

– Ружа вятроў, ружа вятроў. А мы орган райкама партыі...

Але артыкул Дз'якава, пра ружу вятроў і неабходнасць стварэння для вывучэння яе ў Цемір¬-Тау лабараторыі, надрукаваў, за што атрымаў вымову і папярэджанне:

– Яшчэ адна такая ружа ў партыйным органе, і ты будзеш галоўным падмятальшчыкам вуліц у шорскіх улусах.

Абышлося. І пасля гэтага наш галоўны не страціў годнасці і журналісц-

кай смеласці. Толькі кідаючы нам на стол больш-менш спрэчны і востры допіс, бласлаўляючы яго ў друк, прыгаворваў:

– Ведаю, вы не будзеце насіць мне перадачы.

На што мы звычайна адказвалі:

– А чаму не, Аляксандр Якаўлевіч? Будзем, будзем насіць.

Вось так мы жылі і набіраліся розуму пры газеце “Красная Шория” і яе рэдактары. Мне падабалася. Я з канца ў канец аб’ездзіў і зведаў Шорыю. А гэта былі і адлегласць, і разнастайнасць. Руднікі, леспрамгасы, залатыя прыіскі, геолагаразведчыя партыі, прамыславікі, паляўнічыя. Я быў хуткі на нагу і нястомна цікаўны. Да ўсяго, не збыў мары знайсці прыдатную да рыбалкі раку, без дробных назолаў печкуроў.

Не паспеў. Спыніў і перашкодзіў Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў: прыкрыў усе раённыя газеты, у тым ліку і нашую “Красную Шорию.” Што рабіць, вагаўся нядоўга: у тайгу, у геолагаразведку. Гэта была таксама мая даўняя, яшчэ дзіцячая мара. Але я не наважыўся пайсці вучыцца на геолага. У навучанні на яго, як я прадбачліва даведаўся, было шмат матэматыкі. А я ў ёй быў дуб дубам, ды і грошай на навучанне, на пражыццё, дзе я вазьму. Таму і абраў шахту.

Цяпер жа выбраў геалогію з-за наяўнасці волі і тайгі, а больш – вады, рэк. Выпала зноў рэчка Кондама – лёс. Але ж мроілася, што ў тайзе Кондама будзе зусім інакшай, чымсьці пры горадзе Таштагол, некранутая і ўлоўная на хвацкую рыбу. І зноў наступіў на старыя граблі. Недамеркі-печкуры раскашавалі і далёка ад горада. Сустрэлі мяне як свайго.

Гэтая дробная пачвара і ў пракаветнай тайзе не вылучалася прыязнасцю да мяне. Наравіла знізаць прынаду і не аблізнуцца. А яна здабывалася ў нашым лагеры зусім няпроста і лёгка. Часам каштавала маёй уласнай крыві. Да чарвякоў было не дакапацца. Вудзіў на таежны гнюс, аваднёў, слепняў. Лавіў іх на голае цела, пажадана ўспатнелае. Выручалі і коні, што меліся пры партыі. Але не заўсёды і не ўсе. Адны разумелі – трэба чалавеку, ішлі насустрач нават з задавальненнем. Іншыя ж, мо прымаючы мяне за той жа гнюс, адбіваліся капытом, хвастом, а некаторыя і кусаліся. Выскалялі жоўтыя і буйныя зубы, наровячы ўмомант зняць скальп ці пазбавіць вуха.

Гнюсам, заяддзю карысталіся для прынады яшчэ і таму, што ён быў надта ж да спадобы мясцоваму харыўсу, які вось вось павінен быў скаціцца з вярхоўяў рэк, пайсці ў ручаі рыхтавацца да нерасту. Харыўса лавіць мне яшчэ не даводзілася. Я чакаў яго як прышэсця збаўцы. Але, як кажуць, не з маёй доляй аўдавець. Начальнік партыі, карэец Пак прыгледзеў мяне і ўздумаў павысіць, з праходчыкаў перавесці ў буравікі. Дарэчы, гэта не першая спроба зрабіць з мяне чалавека, вывесці ў людзі. Той жа Бабенка, як распавёў пазней, меў намер накіраваць мяне ў ВПШ – вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПСС.

Дзякуй Богу, што не атрымалася. Па-першае – беспартыйны. Па-другое, пры ўсім сваім юнацкім нігілізме, я быў з прававерных і верных сацыялізму і камунізму, хаця па маладосці яшчэ і не з задубелых, але ўжо добра ўпартых, што пры ўсіх “ізмах” вельмі і вельмі нябеспечна – гнуткасць патрэбна. А з такіх няпэўных, прамежкавых якраз і нараджаюцца пройды, прайдохі і чыстай вады паскудства, не ўкаранёныя людзі – куды вецер, туды і яны. І больш ў ахоўнікі ўладнага, дзяржаўнага ветру і духу, які яны падсвядома ненавідзяць, бо самі з душком, часцей наменклатурным,

амбіцыйна няспраўджаным – расійская імперская парода, створаная і вырашчаная за савецкім ладам. Парода, што яскрава выкрывае сябе сёння ў няпэўнасці і распадзе так званага былога і міфічнага славянскага брацтва, гатовая да якога загадаюць падману, а ў першую чаргу – самападману.

І добра, што нічога не атрымалася наконт мяне ні ў украінца Бабенкі, ні ў карэйца Пака. Дзякуй. І ў першую чаргу – Мікіту Сяргеевічу Хрушчову, а потым Ягору Тадыгешаву, каторы спакусіў мяне сваёй шорскасцю і адкрыццём золата. Наш атрад з пяці фартовых людзей, падрыўніка і праходчыкаў шурфаў, у ліку якіх быў і я, прыбыў на пошукі золата недзе ўжо ў другой палове дня. На беразе той жа Кондамы, што з прыемнасцю адзначыў я, стаяла казачна і па-мастацку ўпісаная ў наваколле хата. Стаяла даўно. Бёрны пайшлі ўжо маршчынамі, а маршчыны – трэшчынамі і рэпінамі, учарнелі. Падрыўнік, як самы вёрткі і бывалы сярод нас, адразу ж кінуўся да вакна, пагрукаў у шыбіну. Акно адчынілася, з яго высунуўся чарнабароды іканапісны твар – на ўсю аконную раму.

– Дайце папіць,– хуценька мовіў падрыўнік. – А то так есці хочацца, аж пераначаваць няма дзе.

– Адвалі, казліна, – асадзіў яго спрыт яўлены з барады даволі губаты рот.

Знаёмства і ветлівыя словы прагучалі. Пазней гэты чалавек даводзіў нам, што ён са стараувераў. Відавочна, хлусіў. Ён хутчэй прыналежаў да былых лагерных блюзнераў. Часцей успамінаў не Боскую маці, а зусім іншую. Калі пазней мы яго спыталі, а ці не сумна яму тут жывецца, а жыў ён з жонкай, двума сынамі і двума нявесткамі:

– Улетку мо, пэўна, яшчэ нічога. А вось зімой, у маразы, сярод снегу, тайгі тут, як у пустыні... Сумна?

– А нічога сумнага, – адказаў старавер. – Ноччу як улындзім у тры пі...ды, дык аж хата трасецца.

Такі быў наш новы сусед з сібірскіх “стараувераў”. Падгрэбціся ўвечары да нашага касцярка, пагаманіць, не цураўся. Але да сваёй хаты, да сябе не падпускаў. Нават вынесці кружку, напіцца вады не дазваляў: спаганіце. Аднойчы толькі я неяк праскочыў у яго хату. Абразоў было багата, на вельмі старых, сточаных шашалем дошках, цьмяналікія як у дыме вогнішчаў. Непадступныя, падобна гаспадару, у бліскучых пад золата акладах. І нечакана даволі багатая бібліятэка. Толькі ўсе кніжкі на лацініцы, падобна, на нямецкай мове. Мяне ад іх хуценька выперлі за парог.

Зранку, яшчэ па расе, мы ішлі на маршрут, на бліжэйшую да нас гару. Травы ў тайзе высокія. Але мы хутка пратапталі даволі шырокую сцежку і ўжо не аброшваліся ў пояс і вышэй. Па дарозе ласаваліся, вітамінілі здароўе надта ж сакавітай тут горнай чарамшой, бульбавай завяззю карэньчыкаў саранак, на самой справе – накшталт нашай сырой, але трохі падсаладжанай бульбы, з ледзь адчувальным прысмакам паху лясной чаромхі, разамлелай зямлі і бруснічніка з сунічнікам.

Закопваліся ў гару да карэнных парод – білі шурфы. Пры збегу на дне іх некалькі адрозных – з’яўленні і выпаданні скарна – злучалі шурфы канавамі, траншэямі. Былі падобнымі больш на салдат, чымсьці на гарнякоў-праходчыкаў – пяхота. На паверхневую мяккую глебу горка была беднай. Зрэдку закопваліся ўглыб больш за два-тры метры. Але месцамі выпадалі шурфы глыбінёй і па пяць-восем метраў.

На іх наш горны майстра звычайна ставіў Захара Зарыпава, праходчыка, нават па татарскіх мерках, да немагчымасці працавітага – жывое ўваса-

бленне сучаснага працаголіка. На глыбокіх шурфах ён звычайна ладзіў на свой рост, з улікам рук, мосцік, выкідваў грунт падвойным перасыпам. Якраз на такім шурфе і адбылося дзіва, што надоўга заняло і ўпрыгожыла наш аднастайны таежны побыт. Пазней Захар расказваў:

– Шурую і шурую лапатай, гружу масток. Але скурай чую, нехта кешкаецца і сапе, варочаецца вонку, на брустверы ўжо. Я без увагі: майстар падышоў праверыць, што ў мяне на выйсці з лапаты. Толькі пошум зверху працягваецца і мацнее. Ужо дробныя каменьчыкі з пяском на галаву скокам і сыпам. Гукнуў – цішыня. Працягваю капаць, зноў нехта кешкаецца. Уздзёрся на масток, заадно ўжо і ачысціць яго ад прыдоннага жвіру. Кінуў некалькі разоў, не, усё ж наверсе нехта ёсць. І ўжо не проста кешкаецца, а бурчыць. Захацеў праверыць, бо мне ўжо і ў кусцікі няўсцерп.

Абышоўся татарын без кусцікаў. На броўцы шурфа перад Захарам на поўны рост на задніх лапах стаяў мядзведзь. Пярэднімі праціраў засыпаныя пяском вочы. І ўжо не бурчаў, а роў, злосна аблізваючы вузенькім, але доўгім языком клыкастую пашчу. Захар заплюшчыў вочы і слізам зноў у ратавальную прахалоду шурфа. А мядзведзь, аслеплена, у маліннік непадалёку, з якога, пэўна, і выйшаў у пошуках мо нечага болей прыдатнага за ягаду, а мо проста з цікаўнасці. Бо ўвогуле ў тайзе няма звера больш дапытлівага за касалапага Мішу. Хіба толькі бурундук. Але той, хаця ў нейкай ступені аблічам і пад мядзведзя, – звычайны сяннік, толькі паласаты, а да ўсяго – вегетарыянец. Абвячшчае ён сваё з'яўленне і расстанне цененькім і мілагучным посвістам, як выбачаецца.

Пасля выпадку з мядзведзем і Захарам мой таварыш па працы Пецька-шорац, падпольная клічка Райспажыўсаюз, нараклі яго так не таму, што шмат чаго меў, а ўсё ўмеў, нечакана прапанаваў:

– А хочаш, я табе жывога мядзведзя злаўлю?

Быў Пецька невялікага росціку і ў плячах не надта шырокі. Пашкадаваў ён мяне, наглядаючы, як я звожу сябе на рацэ, спрабуючы ўлавіць хоць якую-небудзь прыстойную рыбіну.

Мядзведзь, ні жывы ні мёртвы, быў мне без патрэбы. Але я паглядзеў на Пецьку і паверыў: гэны можа. Ведаў і нават гаварыў з шорцам Пецькавага складу – прамысловым паляўнічым на мядзведзяў. Гаварыў, праўда, праз шыбу ў вакне бальніцы пасля таго, як ён жыўцом узяў у тайзе мядзведзя. Быў той мядзведзь на яго ліку саракавым. А ў медзвяжатнікаў лічыцца саракавы – ракавы. Прамыславік, пэўна, вырашыў праверыць, ці не хлусяць, як тое зрабіў напрыканцы свайго веку выбітны англійскі драматург Бернард Шоў, правяраючы прымаўку: не пілуй сук, на якім сядзіш. Узяўся пілiць, грымнуў долу і зламаў руку.

Паляўнічы шорац, падобна, меў дачыненне да брытанца. Пайшоў на свайго саракавога мядзведзя голымі рукамі і абораў яго. А каб канчаткова ўжо зацвердзіць: забабоны ўсе гэта з саракавым-ракавым, павёў яго з тайгі ў горад Таштагол на вяроўцы. Нейкі час збянтэжаны і абражаны гаспадар тайгі касалапа тэпаў за паляўнічым. Але хутка ачомаўся і абурыўся: нягожа мядзведзям упадабляцца каровам. І мядзведзь зняў з паляўнічага скальп. Тым жа скальпам яго, ці не каб збыць ганьбу, засляпіў яму вочы, нацёг свайму крыўдзіцелю на твар.

І я наадрэз адмовіўся ад прапановы Пецькі-Райпатрэбсаюза займець уласнага жывога мядзведзя. Абыйдуся. Хай мы лепей абодва будзем вольныя і жывыя. Тады Пецька пачаў вучыць мяне таму, як у шорскіх водах

трэба лавіць рыбу. Вучыў ці не на пальцах, бо рыбы ў Кондаме не назіралася. Звыклых нам вудаў шорцы не прызнавалі і не прызнаюць. Бяруць рыбу ці рукамі, ці адмысловымі сваімі прыладамі. Адна з іх называлася хаця і ёмка, трапна, але не для паўтору ўслых і пісьмова. Круглая пляцёнка з лазы з адной толькі адтулінай унізе, у дне – для заходу рыбы. Дарэчы, цалкам такой жа прыладай карыстаюцца і рыбаловы на Палессі і назву яна мае такую ж, як тут, не для друку. Толькі прылада гэтая зараз нам не падыходзіла, ёй карыстаюцца зімой, нават па познім ужо лёдзе, пры набліжэнні так званых прыдух.

Цяпер жа больш удалымі маглі быць ловы пятлёй з мяккага і не тоўстага меднага дроту ці адпушчанай на агні сталёвай гітарнай струны. Пецька прытрымліваўся, што лепей струной – не гнецца так, хаця за яе трэба і грошы плаціць. Але паперад струны і нават меднага дроту патрэбна было знайсці рыбу. Гэта мог быць харыўс і, зноў жа, лепей харыўс. Браць яго ў рацэ пятлёй найбольш проста і зручна, па Пецькавым сцвярджэнні – гэта самая бязглуздая, безгаловая рыба. Сапраўдны рыбак-шорац, накшталт Пецькі, нават грэбуе яе ловамі. Галоўнае – ціхенька да яе наблізіцца, бо яна пужлівая. А наблізіўся – твая. Падводзь пятлю да галавы, накідвай і шморгай.

– Во і струна ў мяне ёсць. Што трэба – гітарная, – сказаў Пецька. І сапраўды, дастаў з кішэні згорнутую ў клубок струну.

– Мо нам лацвей гітару зрабіць, – не без горычы азваўся я.

– Можна і гітару, – пагадзіўся Пецька і падміргнуў мне. – Толькі камыз лепей.

– Няхай будзе камыз. – Я не пярэчыў Пецьку, хаця падумаў, што камыз – гэта, пэўна, нешта, хаця і татарскае, але больш казахскае.

– Якая розніца, – супакоіў мяне Пецька, – як называецца. Абы грала. Музыка – яна ўсім музыка. А можна ўсё ж пятлю. І паставіць на зайца ці бурундука.

– Хай жывуць. Бурундук яшчэ арэшка на зуб не узяў. Дый заяц збегаўся, растросся і худы. Няхай жывуць і пасвяцца.

Пакуль Пецька, хаця і не наўпрост пярэчыў мне, адмаўляў намысленае мной, у галаве яго было зусім іншае. І я здагадваўся пра гэта іншае, як, пэўна, недзе здагадваліся бурундук з зайцам.

– Тады ўсё, зоймемся рыбай, – ухіліўся ад працягу гаворкі пра сваё Пецька, хітраваў. – Харыўса будзем лавіць, вялікага, тлустага і дурнога. Гэта проста, падвёў пятлю і шморгай.

Шморгаць не было каго. Больш плёну цягаць за хвост ката. Але і ката нідзе паблізу не назіралася. А харыўсы аніяк не аказвалі сябе ў шорскай рацэ Кондама. Мы з Пецькам, працінаючы да самай дробнай галькі на дне, неглыбокія, даступныя воку воды, надоўга замаўкалі. Да змяркання і нават наступнага дня. Хацелася цішыні і цемры.

І ў лагер вярталіся ў цемры, што да анямення абціскала нас. Пецька, як сава ці рысь, бачыў сцежку і вёў мяне, дзівячыся:

– Аднак ты сляпы. Зусім аднак сляпы...

Так, сляпы, але не глухі. Я слухаў ноч. Яна спявала мне набытую за вякі, стоеную пры святле, таежную калыханку – шорскую. Росна, млосна і, няведама чаму, да шчымлівасці журлівую. А я ж наскрозь тутэйшы. Тутэйшы і чужы. А Пецька свой, як старая і заўсёды маладая вада. Я ж расцёкся па чужых водах, іх шэпту, покліку, плыні і гоману незнаёмых

гартанных галасоў. І ці збяруся наноў. Дзе мая жывая і мёртвая вада, што мроіць мной. Ці ухаплю калі-небудзь хоць глыток яе. Замаладзею і састаруся ў яе гаючасці, напеўнай адраджонасці. І свая лясная родная зязюля закувае нада мной і па мне, прарочачы хаця і памерламу доўгія гады.

Нязбытасці і вырачона-страчанага прагла душа. Прыросласці, былой прыземленасці і чысціні, грэшнай і наіўнай святасці маленства, якога я мо і не меў у вечным гоне, бегу па прывіднасці светаў, створаных мной жа. Не без падказкі ўсё ж некага пабочнага, зданяў, прывідаў. Хапаў шырока разведзенымі рукам, дыханнем, душой толькі пустату. Падманную пустату таго, кім і чым ніколі не быў. А знемагаў – быць.

І ці не ўсе мы так. Абдымаем падман і цешымся пустатой. І таму да самога схону ў нас – неспатольная прага вяртання, назад, у мінулае. Але і там пустата, цалкам пустая пустата. Жорсткі падман, што час усё ж рухаецца наперад, нешта перайначвае і змяняе. На самой жа справе ў вечным руху зусім не час, а Зямля. Час жа нязменны, яго мо і ўвогуле няма.

А мы ўсё спісваем і наракаем на яго, а варта было б на сваю халдзейскую ўпёртасць, нязменнасць у часе, пад якія мы штодзень кладземся і штодзень здраджваем. А час толькі назіральнік за чалавекам-самагубцам, што заблудзіўся ў неахопнай вечнасці і ўжо пнецца рушыць назад. Але ў мінулае дарогі няма. І колькі можна кідацца з аднаго канца ў другі. Колькі можна ківаць на чорта, д'ябла, цара, бальшавікоў – фашыстаў, дэмакратаў. Хто там яшчэ не дагадзіў нам? Мо варта спыніцца і паглядзець на сябе і сказаць сабе згодна аднаму з заклікаў: беражыце прыроду – маць вашу. Прыроду чалавека.

Творцу бракуе падсаладжанае суцяшэнне нас як вянца прыроды, падманам, створаным спакон веку. Творцу бракуе гуляць у падкіднога дурня са сваім жа тварэннем. Таму вакол нас і існуе вечнасць. У тым ліку і вады – люстэрка і памяці ўсяго існага. Вінюся, але прадчуваю ці не кожнага з нас, непрыземленых, змые, сцягне ў небыццё гэтая вечна маладая і такая ж пракаветная вада, на якой мы толькі неўкаранёныя цені. Мітуслівыя цені пустаты. І гэта будзе не пакараннем нам, а літасцю.

Суцяшаюся тым, што маю, бачу і раблю. Грабарствам, далакопствам. Зачароўваюся зніцаваным з маім маўчаннем камня. Мілуюся годнасцю так званай «роговой обманки», якую я называю «роковой». Ракавой мне, як таму паляўнічаму шорцу яго саракавы мядзведзь. З гладка сколатай яе паверхні, як залізанага лосем саланца, за мной цікуе вечнасць. Вокам таго ж выкапнёвага лася, а не выключана – і маманта. Хаця іх там няма, але ж яны глядзелі на яго, бачылі і былі суразмоўцамі яму. І гэта ўцягвае мяне ў такую далячынь, што я не адчуваю ў ёй і чалавека.

Толькі адбітак імгнення, слядок на злёгку падзялененым камені няўлоўнай маім сённяшнім вокам былой існасці. А гэта ж было нешта жывое, парушынка яшчэ толькі маючага адбыцца свету, пялёстак, вейка касмічнага бытавання. Трапяткая на ветры травінка, часовасць якой ухоплена каменем і назаўсёды захавана і адлюстравана ў ім, як у надмогілкавым старых часоў помніку імя таго, хто ўжо нраздольны ўстаць з-пад яго.

Рагавая-ракавая падманка далучае мяне да вечнасці, адначасова і пазбаўляе яе. Я прагну зазірнуць углыб каменю, збоку і з-падыспаду. Марна. Гэта не падуладна ні майму воку, ні парушанай звычайнасцю і абыякавасцю побыту свядомасці. Мы адлучаныя ад вечнасці. Як костку з панскага стала, нам кінулі толькі трызніць ёй. Увогуле трызніць жыццём, чым, пэўна, я

цяпер і заняты, да чаго мяне падахвочваюць і падштурхоўваюць падманы каменю і шорскай тайгі, бязрыбнай рэчкі Кондама. Я ўпэўнены, ведаю, чаму яна такая пустая. Спустошыў, утварыў гэта чалавек, адукаваны, чалавек, узброены дваццатым стагоддзем, у дадзеным выпадку дынамітам і аманітам. Такое адбываецца паўсюль і з усім, на што пакладзе ён вока. Гэта тычыцца і самога чалавека. Дастаткова толькі прыгадаць пра двух мядзведзяў у адной бярлозе ці з пракаветнасці яшчэ – біблейскіх братоў Авеля і Каіна. Чалавек закаханы толькі адно ў самога сябе і не трывае побач нават свайго брата. Вянец прыроды павінен быць толькі адзіны, таму і зводзіць усіх астатніх, а найперш – сябе. Пакуль не пойдзе ў той жа камень, у тую ж рагавую-ракавую падманку. І застануцца, ацалеюць адны толькі печкуры. Сведчанне гэтаму – ужо сёння вялікае мноства іх у нашых водах. І не толькі. Яны ці не скарнавым збегам сваёй пустадомкавай пароды аплялі і маю жарсць, ды каб адно маю, што ім толькі на карысць, праз гэта яны і памнажаюцца, падрыхтоўваюць воды для некага іншага. Яны папярэднікі, чысцільшчыкі. Я ім донар, яны мне – вампіры. Такі ўжо наш свет, стаў на сёння такім. А чужына, якой бы прыязнай і любай не была, абяздольвае. Чужы кусок дзярэ рот. Ачужэла цяперашнему чалавеку некалі кроўная яму зямля.

Звузіліся нашыя рэкі, апалавінелі іх воды, сталі горкімі: худыя каровы з'елі тлустых, маленькія рыбы – вялікіх.

На нашай шматгрэшнай планеце адбыўся і адбываецца на вачах вялікі сыход, як калісь іудзееў з Егіпту. Сыход у паралельнасць і тагасветнасць. Там ужо нашы рыбы, звяры і некаторыя з людзей. І адтуль некаторыя прабіваюцца да нас. Праведаць, ці не змянілася што-небудзь на іх прарадзіме, ці не вымерлі ўжо і печкуры. А мо, дзіва дзіўнае, адрадзіліся ў колішняй магутнасці зямныя бары, рэкі, рыбы, звяры і людзі. І ці не пасланцы адтуль Лахнэскае страшыдла і снежны чалавек, з якім я, падобна, сустракаўся і сам у Шор-тайзе.

Не сцвярджаю, бо не зусім упэўнены. Але нехта ці нешта ўсё ж было. Расказваю пра гэта пасля таго, як у расійскіх газетах пачалі пісаць пра загадкавую істоту, што жыве у шорскай тайзе, з якой некаторым з людзей давялося сутыкнуцца. Я ж пра сваю сустрэчу нідзе і словам не абмовіўся: не паверацъ, засмяюць. Але пасля таго, як пачалі сведчыць іншыя, насмеліўся. Да таго ж там-сям вычытаў: у трыццатыя гады мінулага стагоддзя савецкія ўлады ў Шор-тайзе распачалі эксперымент па стварэнні новай пароды людзей, суперлюдзей – спарвалі чалавека з малпай. Эксперымент праваліўся, як праваліўся ён і ў Закаўказзі і недзе ў Афрыцы. Але нешта ў Шор-тайзе засталося. Мо з гэтым нешта і сустракаліся ўжо ў дваццаць першым стагоддзі людзі і я – у другой палове яшчэ стагоддзя дваццатага.

Ішоў пешкі са сваёй геалагічнай партыі ў горад Таштагол. Ганяўся за рабчыкамі, якія дробам разляталіся з-пад ног. Смяшыў глушакоў, што якраз мянялі апярэнне, галавешкамі грэліся ў куромніку пры балацінах – согры. А я іх, неакрыленых, спрабаваў злавіць. Дарога няблізкая, кіламетраў пад сто. І нікога. Але раптам на даўжэзнай пясчанай паласе каля ракі – чалавечыя сляды. Яшчэ курэюць пасля нагоннага, спелага і цёплага летняга дажджу. Кінуўся бегчы па тых слядах, ды як колам мяне аперылі. Такі жах, такая замарочка, што не ўцямлю – у лядоўні я ці ў доменнай печы. Палаю, гару і інеем, лёдам бяруся. І бачу бачу некага наперадзе. Сярод кедроўніку хаваецца і за мной цікуе. А валасы – ужо кожны паасобку і кожны дыбам.

Як я развярнуўся ды як скочыў ад таго некага ў супрацьлеглы бок, не памятаю. Так шпарка ў жыцці я не бегаў ні да гэтага, ні пасля. Думаў, начаваць давядзецца ў тайзе, але за адны суткі агораў пад сто шорскіх кіламетраў. А шорскі кіламетр – гэта нешта. У першы раз па дарозе да сваіх геолагаў сустрэў старога шорца, спытаўся, ці далёка яшчэ да іх стойбішча.

– Недалёка, – адказаў ён.

– Недалёка – гэта колькі? Кіламетр, дзесяць?

– Аднак кіламетр, дзесяць.

Прыджгаў я ў горад ужо апоўначы. Адно толькі на шляху да яго нахапаўся кляшчоў. Раўнютка дваццаць два выдзерлі і выпалілі запалкамі інтэрнатаўскія хлопцы з майго цела. Паспрыяў усё ж, йеці яго, снежны чалавек.

А бегі мае тады толькі пачыналіся і адначасова, па Шор-тайзе, заканчваліся. Браліся на новыя, доўгія і далёкія – дадому, да хаты. У цёплым краі на поўдні Заходняй Сібіры, у Шор-тайзе, палюючы за цар рыбай, шукаючы медзь і золата, я знайшоў і ўпаляваў найперш самога сябе, прыадчыніў дзверы, сам не ведаю куды. Адкрыў сябе, тайгу і ваду – пракаветныя, касмагонныя інь і янь чалавеку. Усё мінецца, усё пройдзе, як мне Сібір, а яны застануцца. Нават пад укрывам змроку і попелу, як гэта было, пэўна, не аднойчы на Зямлі. А вада цячэ, а лес расце, а тайга шуміць. А я да сённяшняга дня недзе сярод іх, хаця душа і просіцца, туды, дзе пачынаўся, моліць вяртання, да сваіх бароў, рэкаў і рыб. Толькі пакуль я бегаў і гойсаў па чужыне, праг злавіць чужую рыбіну, дома мяне аблавілі – свае, чужыя, такія ж прышлыя, як і я ў Сібіры. Хто ведае.

Ад чужых печкуроў я вярнуўся да печкуроў параднёных, заручаных са мной з маленства. Недамеркі, небаракі, яны чакалі мяне разам са смаркатымі ёршыкамі. Мо каб хаця палюбоўна плюнуць мне ў вочы, а потым і суцешыць.

*(Працяг будзе)*

---

“Дзеяслоўцы” сардэчна віншуюць шаноўнага
**Віктара Апанасавіча Казько** з юбілеем
і зычаць яму моцнага здароўя,
душэўнае трываласці, натхнення і – заўжды добрай рыбалкі!

Валянціна Аксак



...У прахалода...

# Сінайскі кветнік

## АДНОЙЧЫ

Аднойчы я такі прачнулася
ад скрыгату спружынаў
у бацькоўскім ложку.
Столькі вёснаў адсвяціла
з тое ночы,
адкрасавала столькі летаў,
восеняў адбагацела столькі,
а рып той здрадлівы
ніводзін грозны гром,
ніводная шалёная віхура,
ніводны роспачны
перадсмяротны крык
не заглушылі
ў помслівых вушах.

### *ВЯЛІКДЗЕНЬ*

Раніца.
Сонца ў вакне.
На небе
белая хмарка
з пакутным тварам
Ісуса Хрыста.

### *ДАЛЁКА Я*

У садзе чалавек
бліжэй за ўсё
да Бога, –
мяркуюць мудрыя.
Мой сад
усё ніжэе да зямлі –
ні праштурхнуцца
па зламаным вецці.
Мой Бог
усё вышэе да нябёсаў –
не ўгледзець
з-за згусцелых хмараў.

### *ДЗІКАЯ СЛІВА*

Калючкай з цярноўніка,
у які быў убраны
Цар Юдэйскі,
адарылі Карла IV,
кaрануючы на валадара
Вялікай Рымскай імперыі.
Пэўна, таму
так балюча джаляць мяне
смаліцкія спадкаемцы
палестынскае дзікае слівы,
якіх спаміж ружаў
выдзіраю няшчадна,
не прызнаючы
іхняе святасці.

### *ЗАХОПНІК*

Зарасце, –
казаў бацька, –
лопухам да ганку,
бур’ян пойдзе

цераз парог
і будзе гаспадарыць
на падлозе,
столках,
сталох
і нават на вокнах.
Я дзівілася
з ягоных прагнозаў
і злавалася,
што так дрэнна
думае пра нас,
руплівых дачок
і адданых унукаў,
якія вельмі любілі
гадавацца
ў дзедавым садзе.
Ды вось жа спраўдзілася
прароцтва ягонае
яшчэ і пры ім самім.
У адным толькі ён памыліўся –
не лопух свойскі бяскрыўдны
і не бур’ян абыякі тутэйшы,
а жорсткі чужынец з Каўказу,
баршчавік,
захапіў нашу хату
і няма ў нас ніякае рады
знішчыць яго.

### ***ЗНЯМЕННЕ***

Цяжка
стала гаварыць –
словы, як камяні,
ледзьве варочаюцца ў роце.
Балюча
стала гаварыць –
словы, як мёртвае немаўля,
з кроўю змушана выдзіраць
з вантробаў.
Страшна
стала гаварыць –
словы, як першыя хрысціяне,
хаваюцца ў катакомбах
здзічэлае душы.

### І ГЭТАГА ДАСТАТКОВА

Вавёрка гуляе
ў ранішняй
зольнай імжы
прыцьмелага парку
між рыжай лістоты,
сама ўся такая ж рудая.
І гэтага дастаткова
дзеля ўсмешкі
ўвесь сённяшні дзень
дваццаць чацвёртага
тут бясконцага
кастрычніка.

### ЛЯ МАМІНАЙ МАГІЛЫ

Мэта любога падарожжа –
прыпынак.
Вось ён –
мамін.
А побач –
вольнае месца.
Каго чакае яно
з працяглай вандроўкі?

### МАРНАСЦЬ

– Хачу клапаціцца пра мужа!
– Ды хто ж табе, жонка,
ахвяруе сябе?
– Хачу даглядаць дзяцей!
Ды хто ж з нас, маці,
застанецца з табой?
– Хачу гадаваць унука!
– Ды хто ж табе, бабуля,
даверыць яго?
– Хачу вырошчваць кветкі!
– Каму ж, кабета,
патрэбныя яны?

### НА КАЛЯДЫ

Доля мая
хлебавая,
салявая,
здаравейкая.

Пашлі мне,
добры Божа,
яшчэ і
словадзейную.

### *НОВЫ ГОД*

Усё скончылася.
І маё віно –
таксама.
Толькі бочка старая
патрэсканая
яшчэ спадзяецца
зноў напоўніцца
да краёў.

### *НЯЦЯМА*

Не ўбачыла,
як спыніўся ліцца
пругкі дожджык з крану,
не адчула,
як захінулася ў твой
скалянелы ручнік.
Несвядомыя рухі рук.
Выпадковая зблытанасць рэчаў.
Імгненне кунежнай няцямы
ў даўно спарадкаванай
і звыклай уцямнасці.

### *ПАРУШЭННЕ ПРАВІЛАЎ ДАРОЖНАГА РУХУ*

Дзень пачаўся
смугой заваконнай,
пасланай прыродай
ці боскаю карай
за ўсе мае вінныя
збродныя ночы,
ці проста праявай
схварэлых вачэй.
А тут шчэ паштарка
з казённай капэртай
ад дарожных мянтоў.
Разрываю ў трывозе –
няўжо мне расстанне
з Таётаю вернай?

Не тое – спакойна,
спадарыня драйвер,
ты шчэ – ого!
калі можаш так гойсаць,
як пішуць мянты,
на дваццаць км
перасцігнуць дазвол.
Сплаціўшы патрэбную
карную мзду,
праз пару гадзінаў
вяртаюся ў хату
і бачу раптоўна
ў люстэрку свой фэйс,
адсталы ад часу
на цэлых
дваццаць гадоў.

### *ПЕРАМЯНЕННЕ*

Скончыўся час
дэманстрацыі чарак.
Высяляю іх
з мамінага серванта
ў бацькаў буфет
і на вызваленую прастору
наладжваю ўлазіны
безыменным і знаным
казачнікам.
Брашуркі,
томікі,
фаліянты
распрамляюць
зляжалыя спіны
і ўсцешна выпростваюць
рукі насустрач
жвавым
Яськавым
пальчыкам.

### *ПОСТ*

Такое
задушнае
лета –
вячэраю
вадою.

### ПРЫЛЮДНЯЕМСЯ

Жыць –
гэта рабіць балюча іншым,
а праз іх
і самому сабе, –
выгукнуў калісьці сам-насам
Альбер Камю.
Толькі ўпотайкі напоўніцу
можна й пацешыць сябе
гэтым выкшталцоным
садамазахізмам.
Прылюдна мы не жывём.
Прылюдняемся.

### РЭЎНАСЦЬ РУЖАЎ

Зняверaная табой
дашчэнту,
не прывучаная да іх веры
дзецьмі,
маю тое,
што маю –
друідную веру ў расліны.
І яны ў мяне вераць,
чакаючы цярпліва
з розных вандровак.
Ведаюць,
што не забудуся на іх,
нават калі дзе й загуляю,
то ўсё роўна вярнуся
ў абдымкі
лагодных півоняў
і ў пасцелю
прымхлівых стакротак.
І толькі ружы
будуць раўнаваць
і джаліць адчайна
за любошчы
з чужынкай асцільбаю
і вокамгненны флірт
з фарсуняй старой
фізастэгіяй.

### СЁМЫ ГРЭХ

Келіх.
Яшчэ і яшчэ
тройчы па тры.

Безуважнасць да меры.
Бязважкасць да стану.
Мройнасць да непрытомнасці.
Часовы нябыт – да бясчасся быцця.

## *СМАЛІЧЫ*

Прастора – да лесу.
Ціш – да нябёсаў.
Маўклівасць – да ветру.
Свабода – да чалавека.

## *СОЛЬ У МЁДЗЕ*

Хачу пабыць з сынам, –
сказаў мне
мой малодшанькі.
І пайшоў.
Некалі ён сам
пасмакуе
гэтую соль у мёдзе
ад свайго меншанькага,
якога ўжо чакае.

## *СПОВЕДЗЬ*

Так.
Так.
Так.
Так.
Так.
Так.
Так.
Так.
Так.
Так.
Рахунак сумлення быў перапоўнены.
Я ледзьве падняла цяжар грахоўнае пакуты.
У дзвярах капліцы мільгануў жаночы цень.
Матушка.
А як жа яна
адказвае на споведзі
на ўсе пытанні
мужа-святара?

## *СНЯЦЦА МОГІЛКІ*

Сняцца могілкі –
між мамай,
якая паводле замуства
мусіла быць Аксак,
але не толькі засталася сама
па сваім бацьку Гуцьку,
а шчэ й майго будучага бацьку
на гэтае прозвішча запісала,
і цёткай,
якая як была Аксак,
так і памерла Аксак,
бо заўсёды была
толькі бацькавай сястрой
і дзедавай дачкой.
Між мамай і цёткай –
прастора,
толькі краты агароджы,
бо так трэба
аддзяляць усіх дарослых
і на могілках
паводле шлюбнага звычаю.
І шчэ там магілка бабы Надзі,
якую пярун забіў,
калі бацьку было толькі 10.
Мой бацька Аксак насамрэч
чакае на месца спачыну
побач з мамай маёю
спрадвечнаю Гуцька,
а я чакаю раю
між дзедам Аксак
і цёткай Аксак.

## *СЯБРОЎКІ*

Пазбягаю сустрэч
са старымі знаёмымі,
бо яны,
мяне не слухаючы,
безупынна апавядаюць
пра свае хваробы
і праблемы з дзецьмі,
пасля чаго нядужае
ўся мая радзіна.
Пазбаўляюся сябровак,
тых,
якія калісь слухалі

пра мае болькі
і радаваліся,
і тых,
якія не радаваліся,
але забіралі
маіх каханых.
Застаюся сама –
пры кветках,
якія слухаюць,
чуюць,
маўчаць,
і птушках,
якія ўсе мае беды
крыламі разводзяць.

### *У СІНАЙСКІМ КВЕТНІКУ*

Аднойчы
я да цябе
не прыеду.
Паўцвярозыя сваякі
цела майго не знойдуць.
Патэлефануюць табе
ў хмельнай шчырасці –
узнеслася.
Але ж ты ведаеш,
што згуба твая –
звычайная грэшніца,
якая проста заснула
ў гушчэчы
Сінайскага кветніка.

### *УСПЕННЕ*

Жыццё пайшло далей
за ўкveленыя ружы,
гартэнзіі згарэзіла,
клемацісы паблытала
і перасцігнула
асцільбы,
прытомлены лужок лілеяў,
чародку перасохлых флоксаў
і табунок здзічэлых анемонаў.
Адно яшчэ непераможна
вейкі мружыць,
халодным вокам гледзячы
на хрызантэмы,

што горда вытыркаюцца
квяцістай плямай
на красе мінулай.

### *ХТОСЬЦІ*

Калі ты прайшоў
паўз ружу,
не шукай яе болей.
Хтосьці ўжо
мілосціцца з ёю.

### *ЦЭНЗУРА "ПАНА ТАДЭВУША"*

– Тэлемена ўвесь час
з насалодаю
смаліць піпку,
і гэта цяпер,
калі мы прапагандуем
здаровы лад жыцця.
Як скажыце,
наглядзеўшыся на такую гераіню,
будуць верыць нам школьніцы?
А габрэй чаго варты?
Адпусціў такія даўгія пейсы,
што хоць косы заплятай.
Вы што,
намякаеце на яго
нетрадыцыйную арыентацыю?
Хіба забыліся,
што ў нас грамадства
са спрадвечнымі праваслаўнымі
каштоўнасцямі сям'і і шлюбу?
Пра расейскага маёра то ўвогуле
аж гаварыць няёмка.
Ён жа непрыглядны да агіднасці!
І чаму ён так шмат у вас п'е?
Гэта што,
карыкатура на братні народ?
Ну а сваім чырвоным святлом
у белых арках
з кім падражніцца вам хочацца?
З намі?
Давайце дамовімся так:
мы гэтага не бачылі,
вы – не паказвалі.
І не пакажаце!

– Міцкевіча я перапісваць не буду!
І не перапісаў.
Усё засталося –
і піпка,
і пейсы,
і п’янка.
Толькі з арачных вокнаў
кудысьці знікла
агністае святло.
Але гэта – нюансы,
пра якія ў Міцкевіча
нічога не напісана.

### *ЧАС ДЛЯ КАВЫ*

На досвітку
ўжо спыняецца
дзея закону
і яшчэ не ўступае
ў свае правы
мараль.
Бязлюддзе.

### *ЧЫЯ ЎСМЕШКА?*

Два гады
ўсё гадала й гадала,
чыя ж у яго
заварожна-жартоўная
ўсмешка.
Маміна?
Калі ветла страчае мяне
ці какетліва мружыць
свае зыркія вочкі
ў прадчуванні
сужэнцкай кунегі?
Татава?
Асіметрычнай гарэзай
пад правае вуха
ў гуморны настрой,
ці сонцам паўдзённым
у поўнай мілосці?
Сёння ўрэшце
адгадку дала
амальгама
прыцьмелага люстра.

Як даўно
я ў яго
не глядзелася!

## ЯК?

Усе жанчыны
рана ці позна
пачынаюць раўнаваць
сваіх дачок.
Усе мужчыны
рана ці позна
пачынаюць зайздросціць
сваім сынам.
Дачок Бог не даў.
У мужчыну не перавярнуся.
То як мне спраўдзіць
гэтую сентэнцыю
амерыканца Генры Менкена?
Захаваць у трымценні
душэўныя шалі да часу,
калі ўнучка
пацвельваць пачне
сваю маму?
Дажыць у цвярозасці розуму
да яснага дня,
калі ўбачу ўзмужнелага ўнука
пры сыне ягоным дарослым?
Нерэальна?
То як мне ўміраць без гэтае веды?

## ЯШЧЭ ЦІ ЎЖО?

Шчасце сталасці,
калі табе
нічога не трэба
ад дзяцей
і яны без цябе
цудоўна абыходзяцца, –
кажа празаік
Віктар Казько.
Ці я яшчэ не сталая?
Ці ўжо няшчасная?

### 60 – ЯК 16

60 –
гэта не тое,
што 50,
калі заўтра вітаць
шчэ крыху страшнавата,
і, канечне,
не тое,
што 40,
калі глянуць наперад упэўнена
моцна баішся.
Ну і 60 –
гэта зусім не тое,
што ў два разы меней,
калі вусціш пражытых гадоў
жахае да непрытомнасці.
60 – як 16.
Бяздумна.
Бязмэтна.
Шчасліва.

## Аксана Спрынчан



...У прахалода...

# Снежнае

* * *

адлюстроўваюся ў вадзе...

НАзаўжды застаюся
ў кругазвароце
вады
ў прыРОДЗЕ

* * *

камень –
ён трымае маё неба
яго трымае мая зямля
яму давяраю свой агмень
яго не трымаю за пазухаю
ім разбіваю люстэрка вады
на ім застаюцца святыя сляды

* * *

дрЭВА –
заўсёдна райскае –
лесу пачатак майго
і лёсу

* * *

дошка –
працяжнік
паміж
побытамбыццёмнябытам

* * *

габлюшка –
лёгкае імгненне,
створанае
падчас стварэння...

* * *

На маніторы печкі
ніякага спаму.
І толькі няма спакою
аднекуль збоку:
– Мама,
а дыназаўры вымерлі?
– Вымерлі.
– А можа,
яны яшчэ з’явяцца?
– Не з’явяцца.
– Мама,
а калі і беларусы
вымруць?
– Не, не вымруць.
– А калі раптам вымруць,
пра іх таксама
будзе цікава чытаць?
– Цікава.
На маніторы печкі
ніякага спаму.
Так цёпла,
аж вусцішна...

* * *

це ны
спле ма
шык, ім
ко дзе
У дам,
н а м а г а ю с я   с а б р а ц ь   п ы л   б а б і л о н с к і,
п р а з  в е р б а в ы я  п р у т к і  р а с ц я р у ш в а ю  с а м о т у.
Б а б у л я   збірае   я е   ў   с в о й   к у ф а р,
і   а д т у л ь   в ы б і р а ю ц ц а   к а з к і,
к а ж у ц ь,  ш т о  і м   т р э б а  д а   малых  д з я ц е й.
А тыя п е р а с ы п а ю ц ь  з далоні ў далонь пясок
і не ведаюць, што гэта пясочны гадзіннік лёсу
а д с ы п а е   ім   шчаслівага   маленства,
каб потым і яны збіралі пыл бабілонскі
ў   к о ш ы к і,  с п л е ц е н ы я
і х   д з я д а м і...

* * *

Суд Божы будзе пад белымі крыламі,
а не пад снегам белым.
Ды ці задзіночыць ён нас:
тых, хто верыў,
што Плошча – прошча,
і тых,
хто над Пляцам – паяц...
І ў райскім раі,
і ў пекле пякельным
Пагоня чакае нас
ці на кані,
ці пад...

* * *

Віно ўраджаю 1973-га года...
Які век у яго будзе
ў дзень маёй смерці?
Ужо не 25, як Максіму Багдановічу,
і не 32, як Уладзіміру Жылку.
Але яшчэ, імаверна,
53, як Уладзіміру Караткевічу,
75, як Уладзіміру Дубоўку...
А магчыма, яно яшчэ забярэ
вольны ад смерці адмежак.
Ды нават, калі яму пяройдзе за сотню,
не пашкадуйце ўзяць тры чаркі.

Толькі не забудзьцеся –
белае – чырвонае – белае.

* * *

Столькі лятае
вакол адміралаў,
што адмірае
горадытлум.

А сэрца (на) паўзе,
нібыта вусень,
што вось-вось узляціць
Ордэнскай стужкай малінавай.

* * *

пчоліцца дзень
словамі
лятуць да мяне па нектар
збіраюць на пачастунак
пачуццям і думкам
частуюць...
чмеліцца дзень словамі
лятуць да мяне
па нектар
збіраюць на пачастунак
пачуццям і думкам
прыхоўваюць...
пчоліцца...
чмеліцца...
ну і няхай
не бзумкаю...

* * *

на небе
гусінае У

аблачынка
зрабіла з яго
Ў
і паляцела далей
шукаць У
пасля галоснага
неба

* * *

выбух-аргазм
разлятаецца лісце
усё, што было да гэтага, –
дзевяць месяцаў прэлюдыі.
А зараз
найгеніяльны der Buch паэзіі
галоўбух залатых запасаў
міннае поле
на якім памірае ўсё
чым любуешся –
восень –
выбухі-вышукі-вы-
быццця
быццам я
зараз не галосны
нелабіялізаваны, сярэдняга шэрагу, ніжняга
пад'ёму **а**
і не санорны дрыжачы пярэднеязычны **р**
і не фрыкатыўны заднеязычны **г**
і зноўку не **а**
і не шчылінны свісцячы пярэднеязычны **з**
і не змычнапраходны насавы вуснава-вуснавы **м**
а проста ў цяпле
восені

* * *

лужынка ў выглядзе
крыжа
неба па кроплі
бярэ яго да сябе
пакуты
зямлі пакідае

* * *

Дзяцел выдзёўбвае
рэшткі лета
ў другім месяцы
да нашай
зімы.
Дзюбай не выйшла,
каб займацца лесам.
Але як нашчадак дзятлаўкі –
бабулю так клікалі,
бо нарадзілася ў Дзятлавічах, –

выдзёўбваю
літары лета
ў другім месяцы
да нашай
зімы.

* * *

ратуша
дождж
расцякаецца туш
робіць мяне
тваёй негрыцянкай
не з парасонам
цалуецца дождж
не афрыканскі
гэта не Конга
і гэта не кон
ды растае шакаладка
ў кішэні
горкая
водар салодкай пустэльні
чорныя змейкі
на ратушы белай
б’ецца ў іх час
і часовасць
а човен
белай рукі тваёй
цягне ў віры
мары – Марока
Ангола – аголенасць
будзе Судан нам
і будзе Габон
Кот-Дывуар пераходзіць дарогу
чорны
між мною і сном

* * *

Злёгку сняжком зацярушаная,
Моцна сняжком узрушаная,
Лячу да цябе я снежкаю,
Кінутаю з усмешкаю.
Ты ловіш мяне рукамі –
Старонкамі Муракамі.
Каханне наша не знішчыць –
Жыве, бы ў вершы Янішчыц.

* * *

снежнае  
снежная чыца  
і трохі лосці  
захопленай з нску  
і трошкі -ноты  
ад блізкага Гоме  
марозны кс  
і ветру цыя  
і ка цыя  
вуснаў і сноў  
ад нску  
да Гоме  
і чыца зноў

* * *

Яны сядзелі  
ў адным кабінеце.  
Яна піла “Тэрафлю”,  
а ён “Колдрэкс”.  
І ёй карцела сказаць  
“Ай лаў ю”,  
але жыццёвы колдрэкс-код  
дазваляў толькі  
“Люблю”.  
І сваімі асіплымі галасамі  
ў моўна-хворай краіне  
яны размаўлялі  
на мове  
прыгожай, як любоў,  
і пакутлівай, нібы каханне.

* * *

цішыня**п**ерацякае**ў**лямант**л**я
мант**п**ерацякае**ў**цішыню**ці**
шыня**і**лямант**п**ерацяка
юць**у**пясока**п**ясок
**п**ерацякае
**ў**час
**с**твараючы
**с**вой**г**адзіннік**с**тва
раючы**с**ваю**п**устэльню
**с**амоты**т**ымаўчыш**а**я**з**анатоў
ваю**в**ерш**р**ыпяць**н**азубах**с**ловы

* * *

Дачка чытае
“Нязнайку на Месяцы”,
я – “У Вільні і больш нідзе”.
Гаспадар дома
вывучае Горадню...
Загорнутыя ў кніг радно
мы ў працэсе
прадзіва-дзіва.
За вакном завіруха,
замест мухі
гудзе працэсар...
Толькі ўчора
нарадзіўся Хрыстос,
паглядзеў
на кніг і часопісаў стос
і заснуў...
І пакуль Немаўлятка
ладную
частку дня спіць,
самы час
на Чытанку
Калядную...

Мікола Захаранка



..яна...

# Такі вецер, такі вецер…

***Апавяданне***

*Вы – соль зямлі. Калі ж соль страціць сілу, то чым асоліш яе? Яна ўжо ні да чаго не прыдатная, хіба што выкінуць яе прэч на патаптанне людзям.*

Евангелле ад Мацея (гл. 5, арт. 13).

*Яко аще бы враг поносил ми, претерпел бых убо,*
*и аще бы ненавидяй мя на мя велеречевал, укрыл бых ся от него.*

Цар Давід, псалом 54.

Сёмага снежня яна памерла, а восьмага, у нядзелю, яе пахавалі. Перад тым, два месяцы ведаючы смяротны прысуд дактароў, Сымон з дзецьмі горача маліліся Богу, каб Ён зрабіў цуд. Што яны рабілі не так, якога духу ім не хапіла, каму і чым не дагадзілі – аднаму Яму вядома. Цуд не адбыўся. Адно што насуперак урачам, якія давалі Насці тыдзень, не болей, Ён адпусціў-такі Сымону гэтыя пакутна-шчаслівыя два з паловай месяцы.

О! Памірала Насця – прыгажэй не бывае! Пакуль мела сілу, рабіла выгляд, што разам з усімі спадзяецца на цудоўнае выратаванне. Пакорліва выконвала мітуслівы абрад лячэння, у перапынках баіла дзецям пра сваю маладосць, а прыехаўшым ажно з Рэчыцы развітацца брату з сёстрамі праспявала пад Сымонаву сяміструнку "Мілую маю" Візбара, ды яшчэ тое-сёе з няхітрага свайго "сямейнага" рэпертуару.

– Ты святая, святая, – цалаваў Сымон яе схуднелую ручку. – А яна й не пярэчыла, моўчкі глядзела кудысь далёка.

Шчэрбаўскі бацюшка, айцец Генадзій, любіў і паважаў Насцю, як нікога ў вёсцы. Увесь перадсмяротны яе час разы па тры-чатыры на тыдзень прыбягаў уранні яе прычашчаць і, як умеў, суцяшаў. Дачка і сын былі бясконца ўдзячныя, а зняверaны Сымон грэшным часам падумваў, які паратунак будзе мець ад бацюшкі, *калі аўдавее*.

Уся Шчэрбаўка затаілася ў чаканні. Жанчыны наперабой шчыміліся ў адведкі, адмовіць было сорамна, бо *не па-людску ж гэта*, але і прымаць *перадпахавальныя* дэлегацыі ні ў яго, ні ў Насці не было моцы. Тады яны папрасілі бацюшку, каб той узяў на сябе клопат, неяк тактоўна пазбавіў іх ад гэтага выпрабавання, прыдумаў штонебудзь... Бацюшка паабяцаў памагчы і прыдумаў. У нядзелю абвясціў з амбона, што Настасся Міхайлаўна *нікога не хоча бачыць*! Тая нібыта неспадзяваная няўклюднасць, з якой бацюшка выйшаў са становішча, нічога пры тым на сябе не ўзяўшы, павінна была насцярожыць, прымусіць задумацца. Але Сымон быў прывучаны да непаразуменняў, якімі бацюшка аздабляў сваю місіянерскую дзейнасць на шчэрбаўскім прыходзе ўсе апошнія шаснаццаць гадоў. Ён толькі прывычна пашукаў яму апраўдання і, нічога важкага не знайшоўшы, спыніўся на зноў жа прывычнай выснове: "Ат, малады яшчэ бацюшка, навучыцца".

## 2.

Насця пайшла з гэтага свету цалкам, да драбніц, дарэшты, не пакінула Сымону ад сябе жывой анічым нічога. Памяць? Вох, як злавала яго гэтая дэмагогія! Ад гэтай неадчэпнай памяці адно што болей задыхаешся. Памяць памяццю, а дзе Насця? У суседнім пакоі? Бразгае на кухні посудам? Зараз увойдзе, скажа, прыбяры з ганку дровы?

Дзеці... Хоць бы ў іх пасялілася жывая Насціна часцінка. Не, яны дарагія самі па сабе, дарагія, таму што Насціны, ды яны такія ж бездапаможныя, як і ён. Пазахіналіся болем, дый з'ехалі ў свой горад – сын праз тыдзень, дачка ўслед за ім назаўтра.

Заставаўся бацюшка. Ён бліжэй за ўсіх да той Краіны, дзе зараз Насця. Ён па адмысловай сваёй прафесіі – павадыр у Той свет з Гэтага.

Ён пастыр, з ім не заблукаеш...

І бацюшка часцяком заходзіў да Сымона. Як ён мог пакінуць свайго прыхаджаніна аднаго ў бядзе? Прамы пастырскі абавязак накіроўваў яго ў Сымонава жытло. Амаль праз дзень бываў бацюшка ў гэтым доме смутку.

Не, ну як бываў... Ён бы, можа, і не хадзіў, але яму патрэбен быў *інтэрнэт*.

Бацюшка заўзяты калекцыянер, збірае амуніцыю нямецка-фашысцкага воінства. Розныя там гузікі ад шынялёў, каскі, штыкі, тэрмасы, кацялкі, медалі, жэтоны, фотаздымкі вясёлых афіцэраў вермахта, гільзы, патроны, пілоткі, какарды – усё, што пашчасціць набыць у такіх як ён заўзятараў

ці адкапаць у парослых дзірваном акопах крывавай вайны. Бацюшка калекцыянер і апантаны гісторык-краязнаўца. Словам – чорны капацель. Інтэрнэт яму патрэбны, каб удзельнічаць у інтэрнэт-кірмашах па набыцці (а можа, і продажу) артэфактаў такога вось вузка-нямецкага паходжання. Сымон і не ведаў, колькі, аказваецца, у сеціве суайчыннікаў, цікаўных да германскай гісторыі.

Прыйдзе бацюшка да Сымона, пасядзіць ля кампутара гадзінку-другую і хутчэй развітваецца, каб не назаляць. Бацюшка сціплы, кожны раз адчувае няёмкасць перад Сымонам Сымонавічам за прычынены непакой. Бацюшка сыходзіў, а Сымон дзівіўся: "І ўсё? Пагуляўся ў свае гульні і годзе?"

Ён моцна спадзяваўся на бацюшкаў *святарскі* вопыт, на яго адмысловую духоўную кампетэнцыю. Карцела пагаварыць хоць бы пра псалмы цара Давіда, у чытанні каторых ён шукаў сабе хоць якой цвёрдасці, хацелася пачуць пра якісь святаайцоўскі праваслаўны шлях да мілых, мілых душ памёрлых – ёсць жа такі, не можа быць, каб не было! – дый проста пра Яе паўспамінаць хацелася з нечужым, здаецца, чалавекам.

Але, нічога, нуль!

Па праўдзе кажучы, Сымон Сымонавіч "валяў дурня". За ўсе шаснаццаць гадоў ён не пачуў ад айца Генадзя ніводнага новага для сябе слоўка, ніводнай банальнай заўвагі, якую іншыя бацюшкі, здараецца, прамаўляюць мімаходзь, але якая потым паўстае ў свядомасці ў патрэбны момант як найвышэйшая ісціна. А *ўласных*, нецытаваных думак пра "высокія матэрыі", накшталт тых жа псалмоў, і не спадзяваўся пачуць. Але Сымон упарціўся. Грэх свавольства і непакоры патрабаваў сабе ў ахвяру айца Генадзія.

"Хоць бы што-небудзь... жывое!!!"

Бацюшку пад сорак, постаццю статны, хадою пругкі, на нагах абутак модны, на плячах убор цывільны, сам стрыжаны коратка, як навабранец, з дзяўчатамі жартуе прыемна – юнак юнаком! Пры ім матушка-прыгажуня і чацвёра дзетак, адно пад адным – да яго з горада па выхадных прыязджаюць. Паміж святамі бацюшка час не марнуе, бавіць з прыемнасцю, але з карысцю: цэркаўка ў Шчэрбаўцы як лялечка. Відны ён чалавек у Шчэрбаўцы і акрузе. Што яшчэ трэба?

Але Сымон...

Добра ведаючы, на што здатны і не здатны ягоны бацюшка, ён, тым не менш, *гэтага ведаць не жадаў*! Ён настойліва чакаў, калі шчэрбаўскі святар пераўвасобіцца ў прапаведніка і суцяшальніка, багаслова і філосафа. Неўтаймаваны Сымонаў ідэалізм прагнуў мець кішэннага, спрытам падобнага да сябе суразмоўцу. Нават тое, што бацюшка па гадах равеснік ягонаму сыну, не спыняла Сымона ў яго дамаганнях.

Сымон Сымонавіч правакаваў госця *на размову.*

– Бацюшка, а вось якая звышзадача вашага калекцыянерства? Вам трэба сфармуляваць звышзадачу, – хітравата казаў ён, наперад ведаючы, што бацюшка ні-ч-чога не сфармулюе.

– Да-а!.. – шматзначна згаджаўся бацюшка, нібыта гаворка ідзе пра даўно яму вядомае. – Само сабой...

І ўсё, і маўчанне. І "клік-клік" па кампутарнай мышцы.

Сымон ведаў гэтую бацюшкаву манеру размаўляць, а правільней, *пазбягаць размовы* з ім, Сымонам. Але спадзяваўся разварушыць святара-калекцыянера, прымусіць выказацца, каб зразумець, *што ён мае на ўвазе*? Бо, акрамя шараговай свецкай спакусы, нічога болей значнага не

бачыў у сумніўным захапленні духоўнай асобы. І гэта яго ўжо даўно і непрыемна непакоіла.

Калекцыянеры бываюць розныя. Не, самыя прымітыўныя калекцыянерскія якасці бацюшка меў. Самыя нізкія калекцыянерскія рэфлексы былі наяве. Набываць, мець, мець, валодаць; любіць рэчы, прадметы, песціць і мацаць іх, мацаць! Але Сымон не ўяўляў, прынамсі, як бы той мог збіраць нешта больш адцягнена-абстрактнае, больш "узвышанае", чым салдацкія нажы з кацялкамі. Нават збіральнікам карцінаў не ўяўляў свайго бацюшку. О, калекцыянер жывапісу – птушка высокага палёту! Нельга *проста* збіраць пейзажы як рэчы, трэба мець узнёслы позірк мастака, каб разумець, што ты збіраеш ці, хаця б, чым хочаш *валодаць*.

Хаця, самі прадметы, можа, і ні пры чым...

"Разумны, уніклівы, добрасумленны калекцыянер можа прынесці людзям ды гісторыі шмат карысці, збіраючы нават гузікі ад салдацкіх кальсонаў", – думаў Сымон, гледзячы ў схіленую да камп'ютара бацюшкаву спіну.

"Наўрад ці ён такі, вось гэты захоплены інтэрнэт-паляўнічы," – панура назіраў Сымон за бацюшкам.

З іншага боку...

"Ва ўсім, што ні робіце, здабывайце Духа Святога!" – заклікаў вялікі святы Серафім Libraries Сароўскі, – інакш вашыя намаганні будуць марныя і нават шкодныя". Прыкладна так вучыў бацюшка Серафім. Не мог гэтага не ведаць шчэрбаўскі бацюшка. Сымону і ў галаву не прыходзіла, што айцец Генадзій можа не карыстацца гэтай праваслаўнай аксіёмай, калі спрабаваў навесці яго на *звышзадачу*. Ён уголас разважаў пра лёсы стваральнікаў артэфактаў – вайскоўцаў нямецка-фашысцкай арміі, пра нацыянальны дух народаў, пра няўлоўнасць і, адначасова, лёсавызначальнасць гэтага духу ў гісторыі чалавецтва; пра тое, як сёння, разглядаючы вясёлыя, зусім *чалавечыя* твары на нямецкіх франтавых фатаграфіях, можна пранікнуцца цвёрдым адчуваннем наканаванасці іх пагібелі. Ці няможна? Казаў Сымон пра чужароднасць нямецкай цывілізацыі ў *славянскай геаграфічнай прасторы*, пра...

– Ёсць такі калекцыянер, збіральнік старых паштовак – Ліхадзедаў. Дык гэта ж гісторык, асветнік! Ён, экстраверт па прыродзе, плён сваёй справы людзям нясе. А без гэтага які б ён быў калекцыянер? Без гэтага і гогалеўскі Плюшкін – калекцыянер, – разважаў Сымон уголас. А сам сабе думаў:

"Збіранць рэчы дзеля рэчаў, не знаходзячы ім асэнсаванага прымянення? Гэта ж банальнае *мшэлаімства* ў класічнай форме, няўжо не разумее?"

Сымону здаецца, што разумее.

"Не самы вялікі грэх. Дый не мне дакараць свайго спавядальніка за грахі. Але навошта прыдурвацца?"

Айцец Генадзій не ўмеў як роўны ўключыцца ў Сымонавы маналогі, а часам і сапраўды не разумеў іх. Ён нібыта згаджаўся, падтакваў, але было відно, што Сымонава "красамоўства" яму не да душы, кратае *за жывое*.

"Антымоніі... Розум паказвае", – відаць, нядобра думалася бацюшку.

А Сымона несла і несла. Сам пытаўся пра канцэпцыю калекцыі і, не чакаючы адказу, сам спрабаваў яе пабудаваць. Сымон – стары настаўнік і літаратар, скрупулёзны занудны педагог. Педагагічна-асветніцкі сверб асляпляў, прымушаў парушаць субардынацыю, бо сама тэма і змест гаворкі міжволі ставілі яго ў пазіцыю настаўніка, а бацюшку – самога бацюшку!

– у пазіцыю вучня. Сымон быццам забываўся, хто тут “бацюшка”, а хто “сынок”.

Бацюшка, між тым, ні на момант не забываўся, *хто ёсць хто*. Не маючы чаго сказаць, ён толькі пагардліва пакручваў тварам. Нарэшце і Сымон адчуў, што сваім разглагольствам выклікае непрыязнасць і перастаў чапаць бацюшкава *хобі*.

## 3.

“Чалавеку, які хавае ў зямлю тое, без чаго ніколі сябе не ўяўляў, трэба крышачку звар'яцець”, – упэўнены Сымон. Бо як звязаць прычыну з вынікам, сучаснае з мінулым, Той свет з Гэтым? Як звязаць канцы з канцамі, калі час – і той пачынае рухацца не туды? Ці можа маці, пахаваўшы дзіцятка, заставацца напоўніцу разумнай? Не-не, каб па-ранейшаму адпавядаць жыццю, ёй абавязкова трэба крышачку звар'яцець!

Халодным розумам назіраў Сымон такое вар'яцтва і ў сабе. То нахлыне жах перад нечым непапраўным, якое вось-вось немінуча павінна адбыцца: нібыта *хутка можа памерці Насця*. Нібыта ўжо не памёрла! То забудзецца, забавіцца і гуляе па лесе шчаслівы. А то ўгледзіцца ў зорнае неба і тужліва ўспамінае, хто ён такі, адкуль узяўся, куды ідзе. І здаецца яму, што жыве ўжо тысячу гадоў, а ніякай Насці ніколі не было і ў памоўцы. Сымон са здзіўленнем назіраў, як ператвараецца ў бессэнсоўную істоту, у загнанага звера, які нема скавыча ад болю.

Аднойчы, ужо аж пад весну, успомніў пра адзін са сваіх улюбёных заняткаў у *былым* жыцці, аб якім дарэшты забыўся ў *гэтым*. Успомніў пра *піццё*. Успомніў і так захапіўся, што амаль тыдзень піў без просыпу – прапіваў ганарар за артыкул, які паўгода таму, яшчэ пры жывой Насці, заказаў яму адзін тоўсты часопіс.

На шосты дзень аднойчы прачнуўся пад вечар і адчуў, што тупік, у які апошнім часам намёртва ўбілася яго душа, разамкнуўся, і прыйшло яснае ўсведамленне вялікай бяды і яе высокага сэнсу. Гэта была палёгка, але наперадзе чакала страшная пахмельная ноч у адзіноце, і, павагаўшыся, Сымон пазваніў бацюшку.

– Што, Сымон Сымонавіч, – спагадліва адгукнуўся айцец Генадзій. – Што вам трэба?

– Каньяк і гутарка! – злёгку саромеечыся, і таму наўмысна груба, нібыта жартам, заявіў у слухаўку Сымон.

Павісла няёмкая цішыня.

– Добра, – нарэшце выціснуў бацюшка. – Я пазваню.

Ён патэлефанаваў якраз праз столькі хвілін, колькі трэба патраціць, каб схадзіць да крамы і вярнуцца.

– Зачыненая крама, Сымон Сымонавіч, – са шкадаваннем паведаміў бацюшка.

“Хлусіць іерэй. Шкадуе горкага п'яніцу”, – усміхнуўся сабе Сымон. Але зрабілася прыкра праз тое, што *бацюшка, святар, настаяцель, іерэй айцец* Генадзій павёў сябе з ім, як хатняя гаспадыня паводзіць сябе з мужам-алкашом. Не такога ўзроўню адносінаў патрабавала яго душа.

– Не ўмееце хлусіць, бацюшка, – сказаў Сымон і выключыў мабільнік.

“Яно й лепш, – падумалася. – П'янка – не выйсце, перакантуюся”.

Бацюшка прыйшоў назаўтра ўвечары і адразу падсеў да кампутара, як

нічога і не было. Але на гэты раз Сымон меў канкрэтную да яго прэтэнзію. Няхай сабе гэты духоўны служка – абывацель. Дапусцім. Але стасавацца з ім па-абывацельску? Яму, Сымону Салавейку, пажыццёваму нонканфармісту, з усёй яго біяграфіяй, з “хаджэннем па пакутах” у абывацельскім свеце... З якой нагоды? Перад дзецьмі няёмка, перад Насцяй сорамна.

– Бацюшка, – пачаў Сымон, асцярожна падбіраючы словы (бацюшка крыўдлівы, ва ўсім чакае падвоху). – Учора вы дарэмна хітрылі. Нам з вамі не так бы трэба размаўляць...

Як заўсёды, айцец Генадзій зразумеў Сымона імгненна і, як заўсёды, – няправільна. Ён аж узвіўся ад абурэння.

– Вы б, Сымон Сымонавіч, дзякуй сказалі, што я... Вам бы сёння горш было!

– Дзякуй, вялікі дзякуй, што *пастараліся,* але я не пра тое. Я пра ўзровень нашых з вамі стасункаў. Вунь, айцец Аляксандр, і той...

– Што, айцец Аляксандр? – наструніўся Бацюшка.

– Я яго ўспрымаю як святара...

“А мяне, значыць, не!” – мабыць, торкнула ў насцярожанай свядомасці айца Генадзія.

– Які б ні быў, а ўсё ж ён адчувае ў сабе *бацюшку*. Ён бы ўчора на вашым месцы, ведаючы мяне... – Сымон ужо пашкадаваў, што ўзяў няўдалы прыклад.

Айцец Аляксандр – святар суседняга са Шчэрбаўкай прыхода. Некалі просты механізатар з калгаснага гаража, Саша Гарнец, на самым пачатку, яшчэ калі малады айцец Генадзій дарабляў царкву ў Шчэрбаўцы, прыкінуўся да прыходскіх клопатаў. Працаваў шчыра, беззапаветна, быў правай рукой айца Генадзія.

Назіраючы Сашава служэнне, айцец Генадзій рашыўся распачаць хадайніцтва перад царкоўным начальствам аб пасвячэнні сябра Сашы... у святары! Гэта, канечне, была авантура. Восем класаў школы і ПТВ – вось і ўся Сашава духоўная адукацыя. Аднак, – во дзіва! – Сашу паспяхова пасвяцілі і далі прыход.

І ўсё добра, усё дзякуй Богу. Але потым чамусьці айцец Генадзій айца Аляксандра незалюбіў. Колькі разоў непахвальна выказваўся пра “калегу” перад прыхаджанамі ажно з амбона. І ў прыватных размовах з Сымонам бацюшка адпускаў іранічна-здзеклівыя заўвагі наконт свайго пратэжэ.

Такое парушэнне “прафесійнай” этыкі абурала Сымона. Ён казаў Насці:

– Уяві сабе, каб настаўнікі абмяркоўвалі адзін аднаго перад дзецьмі!

– Ой, не кажы, – згаджалася Насця.

Перад Радаўніцай людзі абнаўляюць родныя магілкі, шмат металічных агароджаў выкідваюць наўзбоч могілак. Гэта рашылі скарыстаць маламаёмасныя вясковыя святары айцец Генадзій ды айцец Аляксандр. Ездзілі на дабітым аўтафургончыку па вёсках і наводзілі на мясцовых могілках парадак – звозілі з іх груваcткія непрыдатныя агароджы. Справа пачэсная і, адначасова, карысная – металічны лом цяпер у цане. Дабраліся аж да могілак у райцэнтры...

– Грузімся мы, – неяк распавядаў бацюшка Сымону з Насцяй, – і раптам міліцэйская машына едзе з уключанай сірэнай. Трэба было бачыць рэакцыю айца Аляксандра! – казаў ён з прывычным выразам сваёй перавагі над “калегам”. Маўляў, нікчэмны айцец Аляксандр перапужаўся, не тое што я! Такі падтэкст чытаўся ў пагардлівай усмешцы апавядальніка.

– Нармальная рэакцыя, – нявінным голасам сказаў тады Сымон, – адэкватная рэакцыя. І на дзіва тонкая. Айцец Аляксандр бачыў жа сябе збоку: духоўная асоба шурудзіць на могілках не ў сваёй парафіі, і знешне гэта вельмі выдае на марадзёрства. Дый юрыдычна ён мае рацыю – на тым жа пагосце гаспадаром, мабыць, які-небудзь райвыканкам, які-небудзь камунгас, сапраўды маглі ўзраўнаваць ды прад'явіць прэтэнзію. А яму, святару, перад прыхаджанамі няёмка...

У той раз бацюшка хмыкнуў, падцяўшы вусны, і змоўчаў. Але было відаць, што яму Сымонаў каментар яму ой як не даспадобы!

Вось і цяпер, калі Сымон пахваліў айца Аляксандра ды яшчэ і ў прыклад паставіў, ён зноў хмыкнуў, гэтак жа падцяўшы вусны, але ўжо не змоўчаў, сказаў абыякава:

– А мне ўжо ўсё роўна, што пра мяне падумаюць.

– Не паверу, – засмяяўся Сымон. – Тут жа ўсяго два варыянты: або вы дасягнулі духоўнай дасканаласці, або... страцілі сорам.

Бацюшка хмыкнуў, але ўжо нібыта паблажліва. Маўляў, жартуеце, Сымон Сымонавіч? Ну-ну. І зноў – "клік-клік" мышкай.

Неасцярожна ўспомніўшы пра айца Аляксандра, Сымон пад корань знішчыў свой намер "пагаварыць па душах".

Ды ці можна з ім увогуле пагаварыць па душах? Як роўнаму з роўным? Сымон разумеў, што многа сабе дазваляе. З *гэтым* бацюшкам так не размаўляў ніхто і ніколі! Але яму абрыдла гуляць са святаром у ягоныя гулі, апяхнула падтакваць ягонаму "ні пра што", ён змучыўся без сэнсу, які забрала з сабою Насця і які марна спадзяваўся знайсці ў бацюшкавай асобе. І ён адпусціў лейцы.

– Гэтае ваша калекцыянерства, бацюшка... Я дзесьці чытаў, што яно святарству наўпрост забаронена.

– Дзе вы чыталі? Я такога не чуў, – паціснуў плячамі бацюшка. Падумаў і дадаў сціпла, але з прыхаваным гонарам:

– Я, калі хочаце ведаць, – святар новай фармацыі.

"У тым твая і бяда", – падумаў Сымон. Ён даўно з трывогаю і шкадаваннем сочыць за "моднымі" павевамі ў сучаснай царкве. Што азначае гэтая яго навізна? Хіба што секулярызацыйную пашкоджанасць, праваслаўную непаўнацэннасць, падсвядомую цягу да заходняга пратэстантызму. Зараз бывае цяжка зразумець, *пастыр* перад табою ці *пастар*, падрэ ці бацюшка?

– Вось вы любіце апранацца ў камуфляж – дык на здароўе! Але такое ўражанне, што вы саромеецеся святарскай рызы – у ёй мы бачым вас толькі на літургіі ды на пахаванні. А ў астатні час вы ў "трэндзе". Новая фармацыя... А каталіцкія ксяндзы, нябось, дагэтуль танзуру выстрыгаюць. Ці ўжо не?

Абачлівы бацюшка не пярэчыць, не апраўдваецца, не адказвае на пытанні, нічога не перапытвае. Ён толькі злёгку паблажліва, злёгку пагардліва ўсміхаецца ў адказ.

"Гэта я кажу настаяцелю царквы, былому выпускніку Духоўнай акадэміі! Ды яшчэ й яхіднічаю", – з апаскай падумаў Сымон, але маналогу не спыніў. "А няхай настаўляе, калі я зарываюся!"

"Ды вы й стрыжэцеся як баптыст", – ледзь не вырвалася ў Сымона, але спахапіўся. Не-не, нічога асабістага, яму ўжо і таго, што сказаў, будзе зашмат.

– Згадзіцеся, бацюшка, нічога асаблівага я не кажу, усё ж на паверхні ляжыць, азбука, – загаварыў Сымон ужо прымірэнчым тонам, убачыўшы, як паглядае на яго суразмоўца – прама, здзіўлена, непрыязна! І гэтая паблажліва-пагардлівая ўсмешка звысоку, маўляў, “мне б вашы клопаты, Сымон Сымонавіч!”.

– Вы ж не супраць маіх слоў? – дамагаецца Сымон.

– Н-ну, у цэлым... – пасля паўзы нібы згаджаецца бацюшка.

Ну-то-ну, але відаць было, што яму не толькі згаджацца, – нават слухаць усю гэтую Сымонаву ахінею прыкра і ненавісна. Ажно чутна было, як варочаецца глыбока схаваная на самым дне хрысціянскай душы варожасць да “бліжняга”.

“Як з цемры паглядае на Божы свет, знізу ўверх. А пэўна, думае, што зверху ўніз”.

Сымону зрабілася смешна.

Нічога ж яшчэ супраць яго не сказаў! Ну пахваліў іншага святара, ну калекцыянера Ліхадзедава пахваліў, ну выказаў меркаванне наконт сучасных спрэчных тэндэнцый у праваслаўі, ну крыху паўшчуваў за камуфляж... Думаючы чалавек толькі б рады быў або спрачаўся аб сутнасці. А тут ні гутаркі, ні спрэчкі, а ў паветры ўжо чуваць патрэскванне атмасфернай электрычнасці. Чаму? Сымон усё ж лічыў яго чалавекам думаючым. Прынамсі, прызвычаіўся так лічыць.

“Комплекс непаўнавартасці!” – дайшло да Сымона. Вось адкуль гэтая “пацанская” ганарлівасць, вясковая фанабэрыстасць у абыходжанні,назіральная падазронасць, гэтае пільна-агрэсіўнае стаянне на варце ўласнай годнасці.

Сымон ужо зашкадаваў пра сваё шматслоўе, якое і самому пачало здавацца пустым рэзанёрствам, ён стаміўся, і ўжо надакучыў яму гэты зацягнуты бацюшкаў візіт.

Але не мог айцец Генадзій моўчкі пракаўтнуць вольнага, нечувана дзёрзкага Сымонава балабольства. Як сапраўды кемлівы чалавек, ён разумеў, што не адно толькі за камуфляж папікнуў яго гэты хітры гаварун. І айца Аляксандра ўзнёс да вышыняў, каб яго прынізіць, і на ягоную праваслаўную “пашкоджанасць” намякнуў, і над яго калекцыянерствам паздзекаваўся, схаваўшыся за хітрамудрыя разважанні.

“Ды што ён разумее, дылетант! – абураўся бацюшка ў думках. – Яму мая калекцыя – набор рэчаў, хлам. А для мяне гэта – музейныя экспанаты, артэфакты мінулага. Я ж не проста валодаю імі, каб валодаць. Я адчуваю... Я адчуваю такое... нешта такое, за што гатовы аддаць...”

Што ён адчувае і што гатовы аддаць, усхваляваны айцец Генадзій сфармуляваць не здолеў. Розныя там нюансы ды фармулёўкі не былі яго стыхіяй. Як чалавек прамы і рашучы – ён прама і рашуча пайшоў у контрнаступ.

– Што вы за чалавек, Сымон Сымонавіч? Усё стараецеся быць вышэй за ўсіх, разумней за ўсіх... – з кіслым асуджэннем спытаўся бацюшка, двума сказамі адпрэчыўшы ўсе Сымонавы прэтэнзіі.

Сымон ад такога павароту ажно ў захапленне прыйшоў. Дзікасць бацюшкавай высновы на момант пазбавіла яго мовы.

– Быць вышэй і разумней? Мне? У Шчэрбаўцы? Вы жартуеце, бацюшка.

У Сымона сама пастаноўка пытання, які чалавек разумнейшы – той ці гэты? – заўсёды выклікае вясёлую ўсмешку. “Розум – катэгорыя

маральная", – лічыць ён. Шчэрбаўскі вясковы дурань Іванка меў глыбокую павагу ў настаўніка Сымона Сымонавіча. Ён нават схіляўся перад своеасаблівасцю Іванкавага розуму і шчыра не разумеў, чаму гэта Шчэрбаўка прызначыла Іванку на ролю дурня? Дурань жа – гэта, найперш, зло, якое ад дурня сыходзіць. А якое зло ад Іванкі? Ну ды Сымон аддаваў належнае "абывацельскаму калектыўнаму" і не зважаў. І вось, калі ласка, сам святар, *індывідуум*, здаецца, не лічыць праблему "дурнейшы – разумнейшы" пустой. І, здаецца, усур'ёз!

І мабыць, усур'ёз для яго існуе пытанне аб вышыні – нізасці сваёй і астатніх. Такія, як ён, не ўяўляюць каардынат, у якіх бы *іх саміх* не было. Калі, напрыклад, у размове ўзгадаўшы Пушкіна, кіўнеш пальцам угару – аўтаматычны жэст пашаны, яны спалохана перапытаюць: чаму туды (угару)? Іхні спалох падсвядома выдае клопат аб сваім месцы: "А дзе ж я?" Яны адно пра Бога ўзгадваючы, дазваляюць паказваць увышыню – Бог ім не канкурэнт.

– Вышэйшы, ніжэйшы... Якая хлусня! – усклікнуў Сымон.

– Хлусня? – крыва і зноў здзіўлена ўсміхнуўся святар.

– Не ў тым сэнсе, што вы хлусіце, а ў тым, што памыляецеся, – хуценька паправіўся Сымон і ад разгубленасці нязграбна пажартаваў:

– Няўжо вы, бацюшка, не бачыце, што я на галаву разумнейшы за вашу міласць? (У глыбіні душы ён гэта мог бы заявіць не жартуючы.)

Айцец Генадзій гумару не пачуў. А на "хлусню" зрэагаваў і яшчэ болей зацяўся супраць Сымона.

– Жывеце адзін, ні з кім тут у вёсцы не сябруеце... Прасцей трэба быць, Сымон Сымонавіч. Вось я, напрыклад, просты чалавек.

– Вы просты чалавек?

– Просты.

– Вы не просты, вы... – далікатна падбіраў Сымон азначэнне бацюшкавай *прастасці*. – Вы...

– Прымітыўны? – падказаў разумны бацюшка, адчуўшы, у якім напрамку думае Сымон.

– Во-во! Ты сказаў! – чамусьці працытаваў Сымон адказ Госпада Пілату. І не стрымаўся, дадаў: "Як кавалак гаспадарчага мыла".

Клятае словаблудства! Зноў яго занесла! Але крыўднага сказанага не вернеш, і ён рашыў ісці да канца.

– Х-хэ! У нас пасталюдзіны захапілі права называць сябе простымі людзьмі. Ды толькі, як той казаў, іншая прастата горшая за крадзёж. Просты Чалавек – Ісус Хрыстос. У яго "так – так, не – не!" І ўсё ясна, чыста і проста. Хоць прамаўляе Ён і мудра, і складана. А пасталюдзіны... Пыкаюць-мыкаюць, але ўсё ў іх не так проста, усё блытана. Непаразуменні, інтрыгі, жарсці...

Бацюшка разумее, хто тут "пыкае-мыкае". А Сымон ужо завёўся, жэстыкулюе, фразы прамаўляе – як цвікі забівае. Бацюшка слухае, церпіць.

– Усе канфлікты ад гэтых "простых"... У нас на Палессі пра такіх кажуць: што ён разумее? З носу ды ў рот!

– Вы самаўпэўнены чалавек. Вам здаецца, што вы разумнейшы за ўсіх, – гнуў сваё айцец Генадзій.

– Усё ж нейкі вопыт маю, каб тое-сёе разумець.

– Вы-і? – прыжмурыў вока бацюшка. – У вас? Вопыт?

"Чаму ён усумніўся? Ды яшчэ так скептычна і з'едліва прыжмурвае

вока. Быццам не ён за мяне, а я за яго на дваццаць пяць гадоў маладзейшы. А-а, вось ён пра што!”

– Не-не, не пра той вопыт, што вы падумалі. Прыладжвацца да жыцця я сапраўды не мастак. Тут я – варона варонай, праўда ваша. Я ж кажу пра *свой* вопыт, не ваш. Я пра духоўны...

Айцец Генадзій тужліва ўспамінае падобныя прамовы гэтага дамарослага, сваёй гадоўлі філосафа, якія здаралася чуць і пяць і дзесяць гадоў таму. Тады не так напрасткі, не так “татальна”, як сёння, але і тады, і заўсёды ад гэтых яго прамоў быццам сыходзіла нейкая небяспека, быццам ён заманьвае на сваю тэрыторыю, на якой робішся абяззброеным. Кажа нібыта правільныя, нібыта разумныя рэчы – не паспрачаешся, але ўсё ў яго атрымліваецца “на мяжы”, з нейкім нібыта намёкам. На яго святарскую непрыдатнасць, ці што...

“Ды хто ён такі! – ускіпала ў сярэдзіне ў айца Генадзія. – Сядзіць у крэсле, нага за нагу, а што на сёння мае? Нікчэмную пенсію, нейкі ўбогі літаратурны занятак... ды п’янства. Ні дзецям сваім не памочнік, ні сабе самому, а ўсё туды... Трэба ж так нахабна: “Каньяк і размову!..” – ажно перасмыкнуў плячамі бацюшка, успомніўшы.

– Што вы за чалавек! – працягваў ён наступ. – Гляджу на вас і не разумею, чым вы ўсё жыццё займаліся. І фізічна, і так... Жывеце ў вёсцы, а... А ў двары нічога такога не пабудавалі!

– Фізічна? Фізічна я лычом не выйшаў, – прытворна ўздыхнуў Сымон. – Хацеў бы я лазеньку мець, як у вас, ды не з маім хібетам.

– І пісьменніцтва ваша нікчэмнае! – улавіў блюзнерства айцец Генадзій. – Гэта ж трэба, – нейкае эсэ пра самога сябе цэлы месяц правіць!

Якое эсэ? Тут Сымон успомніў, што з паўгода таму распачаў эсэ-ўспаміны пра школьных настаўнікаў свайго дзяцінства. А потым *пачала паміраць* Насця, і якое ўжо эсэ... Але, праўда, цэлы месяц вісеў на дысплеі амаль гатовы тэкст з загалоўкам буйнымі літарамі: “Эсэ”. Праца, якую Сымон, атупеўшы ад гора, ніяк не мог завяршыць. А як Насцю пахавалі, ён у роспачы спрэс выдаліў гэты тэкст разам з вершамі апошніх пяці гадоў. Але адкуль ён пра эсэ ведае?

“Ён жа штовечар прыходзіў і поркаўся ў інтэрнэце ўвесь той перадсмяротны месяц, можа, выпадкова натыкнуўся”.

Сымон хацеў патлумачыць пра эсэ, але пачуў надта ўжо шчырую варожасць у святарскім голасе і змоўчаў.

– Кніжачка гэтая вашая... – з агідай паказаў бацюшка пальцам на кніжную паліцу, на зборнік Сымонавых апавяданняў. Зараз ён бы мог з такой жа агідай паказаць на кожную рэч, прыналежную свайму непрыяцелю. Але якраз трапіла на вочы кніжка...

– Гэтыя вершыкі... Кніжачка гэтая нікчэмная... – распальваўся святар. – Што там чытаць? Хм, не разумею...

Сябар Саюза пісьменнікаў С. Салавейка ведаў пра вартасць сваіх “вершыкаў” і сваёй “кніжачкі” ад захопленых чытачоў, пісьменнікаў, літаратурных крытыкаў. Дый літпрэміі, за іх атрыманыя, нешта ж азначалі. Але паколькі “мастака можа пакрыўдзіць кожны”, ужо гатовы быў згадзіцца і прыняць знішчальны позірк свайго сельскага бацюшкі.

Ён бы і згадзіўся, і прыняў, калі б не адчуванне нейкага брыдкага здзеку. Не над ім, каб жа над ім – гэткай бяды! Але гэты раздражнёны іерэй паглуміўся *над ягоным*. Сябе Сымон ніколі не абараняў – не адчуваў неабходнасці. А вось *сваё* бэсціць нікому не дазваляў.

“Мая культура, мая радзіма, мая маці, маё дзяцінства, мая вера, мая творчасць, маё неба, мая песня... мая Насця. *Маё невыказнае*”.

А хто бэсціць? Семінарыст, бурсак Памялоўскага, пэтэвушнік, па сутнасці!

– Вам трэба вучыцца, бацюшка, – мякка пажадаў Сымон, хаваючы раптам узнікшае пачуццё пагарды і саромеючыся яго. – Яшчэ не позна.

Хваравітаму самалюбству айца Генадзія гэтак балюча ніхто ў Шчэрбаўцы яшчэ не рабіў. Ён утаропіўся на Сымона вачамі, поўнымі дзіцячай роспачы і сярдзітага абурэння. Ён павінен быў нешта адказваць на выпады дзёрзкага крыўдзіцеля, але гэта завяло б на тую самую каварную Сымонаву тэрыторыю.

– Што вы за чалавек! – паўтараў ён сваё, не паддаючыся на правакацыю. – Я вас не разумею.

– Мяне, – усміхнуўся Сымон, – колькі помню, спрабуюць зразумець сябры і знаёмыя. Цікавыя, скажу я вам, людзі, бацюшка, таленавітыя ды знакамітыя! Дык яны мяне спрабуюць зразумець, а я іх. Спрабуем-спрабуем, а ніч-чо-га ў нас не выходзіць!

– Ну, і ў мяне не выходзіць.

– Мы ж з імі цікавімся тым *невыказным*, што ў кожнага маецца. Мы спрабуем паразумецца з гумарам і любоўю. Мы, можна сказаць, дурэем, а вы... Вы, бацюшка, з вашай непрыязнасцю ды з вашай, як вы кажаце, “прастасцю” тут ні пры чым.

Сымона да нематы дзівіла бацюшкава самапавага. Гэта ж трэба так адчуваць сябе ў цэнтры сусвету, каб уласную кволую канстатацыю таго, што ён *нечага не разумее,* ператварыць у пазітыўнае сцвярджэнне нечага... нечага... Нечага чаго?! І як гэта суседнічае з ягонымі ж “комплексамі”?

“Ён мяне не разумее! Ён – мяне!”

– Хто вы такі, каб мяне разумець? – спытаўся Сымон з выклікам.

У хаце зрабілася ціха.

І раптам ён амаль наяве пачуў, як нешта пстрыкнула ў душы ў пакрыўджанага чалавека. З такім гукам лопаецца цярпенне ў цярплівых людзей.

А “цярплівы чалавек” спачатку нібы разважліва, нібыта шукаючы аргументаў, а потым усё болей і болей, губляючы логіку “дыспуту” ажно да страты прыстойнасці, уваходзіў у гнеў.

Святар пачаў... сварыцца.

– Разумней за вас і вашых сяброў нікога няма на свеце! – з’едліва казаў бацюшка. – Ну-ну, – казаў пасля слабой Сымонавай спробы апраўдання сябе і сваіх сяброў. – Ну-ну... Ды не смяшыце вы людзей, Сымон Сымонавіч!..

Пасля шэрагу абвінавачанняў (дурных і дзікіх, на Сымонаву думку) зрабіў выснову:

– Ад сціпласці вы не памрэце!

І яшчэ нешта казаў непахвальнае, і яшчэ, і яшчэ... І ўсё вакол хворай сваёй тэмы “вышэйшы – ніжэйшы”.

Узрушаны бацюшка павінен быў выказацца, прыніжаны – ён павінен быў узвысіцца. Сымон разумеў і не спрачаўся. Моцна балела галава, і ён ужо не надта ўслухоўваўся ў бацюшкавы словы. Праз стому і шум крыві ў скронях да яго данеслася:

– ...прапашчы вы чалавек!

– Зусім? – не зразумеў, не паверыў Сымон у сур'ёзнасць бацюшкавага пафасу. І жартам уздыхнуў:

– Прапашчы, што зробіш...

– Вы думаеце, вы вялікі пісьменнік, а на вас гледзячы дык... Гэта ж трэба – цэлы месяц нейкае няшчаснае эсэ правіць!

"Далося яму тое эсэ!"

– Ды я... – хацеў патлумачыць Сымон, але зноў перадумаў.

А бацюшка ўжо і сам не збіраўся яго слухаць.

– Я да вас даўно прыглядаюся... А цяпер бачу: прапашчы вы чалавек... – ён пашукаў мацнейшага слова. – Кончаны!

Прыхаджанін Шчэрбаўскай царквы Святой Тройцы Сымон Сымонавіч Салавейка не паверыў сваім вушам. Справа ў тым, што ён шчыра лічыў, нібыта ўся выратавальная сутнасць хрысціянства знаходзіцца ў надзеі, якую Гасподзь даў кожнаму, хто не прадаў душу д'яблу. Ды і то!

Што ён хоча сказаць, гэты праваслаўны пастыр, гэты задушэўны яго спавядальнік?

– Кончаны! – радаваўся пастыр знойдзенаму вызначэнню свайго ненавісніка.

"Чаму ён гэтак радуецца? Пастыр рады, што авечка прапала?"

А бацюшкаў голас мацнеў і мацнеў, і ўжо чуліся ў ім звонкія ноткі радаснага трыумфу.

– Кончаны!

– Што вы такое кажаце, бацюшка... – яшчэ спрабаваў перавесці на жарт Сымон, яшчэ спрабуючы даць святару шанс апамятацца, выйсці з ганебнага становішча.

– Кончаны! – прыгаворваў бацюшка ўжо як мантру, як заклінанне, ідучы па пакоі да дзвярэй. – Кончаны чалавек! Кончаны!

Аж Сымону зрабілася яго шкада.

"Не трэба было мне, старому дурню, яго чапаць. Ведаў жа гняўлівы нораў. Во як узбунтавалася пакрыўджанае самалюбства! Навошта мне было..."

– І за што вы мяне гэтак узнелюбілі? – быццам дражнячыся, спытаўся Сымон ў госця. – Вы ж проста ненавідзіце!

Ды ўжо бацюшка і сам пачаў прыходзіць у прытомнасць.

– Ну, не так ужо я вас і ненавіджу, – спыніўся ён ля дзвярэй.

Так ці не так, але ж – ненавіджу, з нечаканай зларадніасцю падумаў Сымон.

– "Кончаны чалавек" – гэта не знявага, як вам бы хацелася, гэта — *прысуд*. Вы самі разумееце, што сказалі? Вы. Бацюшка.

Сымон пастражэў, пасуровеў тварам, а ягоны раззлаваны госць паспакайнеў.

– А я не такі ўжо й харошы бацюшка, – вымавіў ён нечуванае для сябе прызнанне, пераступаючы з нагі на нагу.

"Бач, не губляе годнасці, гэтак нявінна, між іншым, заўважае пра якасць свайго святарства, як пра штось шарагова-пабытавае".

– Ды я й не бяруся, каб быць лепшым, чым нехта другі... Бацюшкі розныя бываюць, – сіліўся разумна скончыць думку бацюшка.

"Гуляе ў сваю гульню. Яшчэ не разумее, у што гуляе, дзе і з кім. А не буду я табе падыгрываць!" – зусім засердаваў Сымон. Да яго паступова прыходзіла ўсведамленне брыдкай нізасці святарскай знявагі.

– Харошымі ці не харошымі бываюць трактарысты ды сантэхнікі. Ну, настаўнікі з дактарамі, артысты... Іхнія жонкі бываюць харошымі ці не вельмі. А бацюшка? Як бы тут сказаць... Бацюшка можа быць *з Божай ласкі блаславёны*. Або – не. Яму трэцяга не дадзена. Вы ўжо самі сабе прызначце месца... бацюшка.

– З вамі цяжка размаўляць! – ці то абурыўся, ці то пажаліўся бацюшка, прыпёрты клятай Сымонавай «слушнасцю».

– *Вам* цяжка. Я ж і кажу: вучыцца трэба, – Сымон дэманстратыўна пачаў перабіраць паперы на стале.

Айцец Генадзій трохі яшчэ памаўчаў, патаптаўся ў нерашучасці і выйшаў.

## 4.

Мяркуюць, што ўсяго 10 адсоткаў людзей здольныя мысліць самастойна. Сымон Салавейка ўпэўнены, што такіх нашмат меней. Бо што значыць – мысліць? Калі падумаць, гэта азначае – шукаць месца чалавека, і найперш сваё асабістае, у Божым сусвеце. О, гэта вялікая праца, канца якой не будзе бачна да сканчэння вякоў. Але большасць з гэтых мыслячых дзесяці адсоткаў за самастойнае мысленне прымаюць, па сутнасці, здольнасць *самастойна* знайсці сабе сацыяльна-культурную нішу, *самастойна* прыстасавацца ў створанай не імі, карыстальнікамі, культурнай айкумене, *самастойна* ўладкавацца ў дарэшты забарыкадаванай цывілізацыі. Для такіх “самастойна мысліць” азначае самастойна выжыць, з годнасцю выкруціцца ў неймаверна блытаных улукатках жыцця. А гэта не так і цяжка, як мяркуюць яны самі. Сымон заўжды з зайздрасцю паглядаў у бок змораных самай чорнай працай людзей, калі сам у нямогласці заміраў над варожа скіраваным супраць яго месцам у тэксце, ці перад клятым, клятым, клятым, нязнойдзеным паваротам сюжэта. А ўжо ж пра пакуты чорнай фізічнай працы ведае не са слоў, у жыцці давялося таго-сяго паспытаць.

Большая частка тых, каго паспяховыя абывацелі ды, бадай, яшчэ жанчыны адносяць да “няўдачнікаў”, – мысляры. Мастакі, філосафы, вандроўныя прапаведнікі, прафесійныя разнамасныя дзівакі, фанатыкі ідэі, юродзівыя, сацыяльныя ізгоі, нават горкія п’яніцы (калі гэта не спітыя прыстасаванцы) – во дзе вялікія працаўнікі і мысляры ў самым высокім значэнні! Хто з іх не меў справу з космасам? Сымон гатовы руку даць адсекчы, сцвярджаючы, што сярод сотні мінскіх бамжоў знойдзецца ўтрая больш мысляроў, чым між сотні ўладкаваных “гаспадароў жыцця”.

“А й, праўда, як яму мяне разумець?” – успомніўся святар.

Стары пэцкаль паперы Сымон Салавейка, пажыццёва абцяжараны штодзённай працай душы і яе звыклым болем, не павінен быў рэагаваць на словы сацыяльна ўладкаванага *побытавага гультая*, але ж гэта – бацюшка! І Сымон зрэагаваў. Ён як зрэагаваў? Ён здзівіўся. Моцна, аж думкі спыніліся.

“Малады, здаровы, сыты... праваслаўны прыйшоў *у дом жалобы* да прыбітага, напаўзвар’яцелага *ўдаўца* (усё ж пасмакаваў гэтае слова Сымон), прыйшоў і “адвёў душу.”

О, калі б чула Насця! Яна б не змоўчала, яна ўсё жыццё каршуном кідалася на Сымонавых крыўдзіцеляў. Яна і любіла Сымона менавіта за ўсё тое, па чым вось *гэты* патаптаўся. Убачыў бы ён, якая яна рахманая! А цяпер ужо што ж... Толькі цяпер зразумеў Сымон, пад якой надзейнай абаронаю жыў, які імунітэт меў. Ды *гэты* й сам пры Насці б не насмеліўся.

Сымон палаў праведным гневам. І было невыносна сорамна за сваю чалавечую несамавітасць. Калі б уварваўся рабаўнік з вуліцы – нічога Сымонавага не змог бы адабраць, патрушчыць, апаганіць. Бо тое, на што паквапіўся б рабаўнік – не Сымонава. А *гэтага* ён сам дапусціў да *свайго патаемнага.*

“Які сорам, я ж яму свае вершы чытаў!”

Чаму Гасподзь у прытчы пра бісер і свіней для ілюстравання бяздушнай няўдзячнасці выбраў менавіта свінню? Гэта так нязручна! Няхай бы вярблюд, цялё ці авечка... Было б болей паліткарэктна. А то, сыпанеш, бывае, здуру якую жменю сваіх перлаў пад ногі чужынцу, а калі той возьме ды патопчацца, дык няма як яго папікнуць. Скажаш яму, са значэннем, маўляў, не сыпце бісер перад свіннямі... А ён, замест таго, каб засаромецца, цябе ж і абвінаваціць. Бо ў такога заўсёды на першым месцы не тое, што ён утаптаў твой “бісер”, а тое, што ты параўнаў яго са свіннёй. Наяве перанос семантычнага акцэнту! – як сказаў бы Сымонаў аспіранцкі настаўнік, прафесар Хадкоўскі.

“Дагуляўся, дажартаваўся, глыбінь захацеў, з-пад абывацельскай абалонкі *чалавечую* сутнасць выцягнуць захацеў. Вось і выцяг ваўка з авечай скуры”.

Успомнілася: у Гётэ ў “Фаўсце” нячысцік спакушае Маргарыту, у самы адчайны час шэпча ёй на вуха: “Няма ў цябе надзеі, не будзе табе даравання!”

“Кончаны! – перагуквалася з бацюшкавым. – Кончаны!”

Што гэта было? – недаўмяваў Сымон.

## 5.

Яму моцна пашанцавала гэтай зімой! Яна ўдалася бясснежная, цёплая – хадзі сабе да Насці хоць удзень, хоць уночы. Яму ўвогуле пашчасціла ў жыцці – ад ганка да магілкі ўсяго дзевяцьсот сорак метраў па прамой, правяраў на кампу тары. І вось яшчэ шчасце: калі правесці прамую лінію ад іхняга ганка цераз Насціну магілку і цягнуць яе аж да Палесся, то яна пройдзе там акурат па магілах Сымонавых і Насціных бацькоў! Гэта Сымон высветліў таксама праз інтэрнет. Проста сакральнае шанцаванне.

Чаму забараняецца ноччу хадзіць на могілкі? А як жа тамтэйшыя старажы, а юродзівыя? – нават жывуць тамака. Лухта, людскія забабоны. На могілках міла, лагодна. Асабіва, калі там ёсць свая *жывая душа.*

Пасля бацюшкавага сыходу Сымон не мог супакоіцца да раніцы. Падскочыў ціск, ён выпіў пляшачку карвалолу і праглынуў цэлую жменю таблетак, ды так і не заснуў. Не дачакаўшыся ўзыходу сонца, пабрыў у цемры да Насці – *жаліцца.* Ля магілкі пацішэў, сеў на нечыю суседнюю лавачку, прытуліўся шчакою да сасны і задрамаў.

Нават сон прымроіўся.

Быццам стаіць за кафедрай – чытае лекцыю маладым. Не чытае нават – разважае ўголас.

– Чаму на аслаблены арганізм нападаюць вошы, бацылы, вірусы ды іншая хваробатворная пошасць, а на здаровы не нападаюць? Бо – імунітэт! – падымае Сымон палец угару. (Ува сне рознае глупства падаецца сур’ёзнай, вартай увагі з’явай.)

– І справа тут не ў якойсьці адмысловай зламыснасці гэтых бацылаў,

– нешта прыблізна такое прамаўляе ён, – проста яны *так* умураваныя ў свет, *так* працуюць законы наканаванасці. Вось вам прыклад дзеля роздуму. У недагледжанай хворым гаспадаром хаце падлогу з'еў грыбок, а сцены стачыў шашаль. Пытанне: ці вінаватыя гаспадару шашаль ды грыбок у тым, што ягонай хаце капцы?

Ён змоўк, і чакае адказу.

– Туды ёй і дарога! – выкрыквае з задніх радоў руды студэнт у чырвоным берэце.

– А вось прыклад з побыту, – не звяртае ўвагі Сымон на грубіяна. – Жыў не тужыў адзін грамадзянін. Хата была, двор быў, склеп, лавачка пад яблыняй – усё ягонае. Раптам памірае жонка. І што ў выніку? Наехалі землямеры-каморнікі і кажуць:

– Трэба, таварыш, заплаціць энную суму, каб мы па кодэксу афармілі табе тваю маёмасць.

– Як, – кажа грамадзянін, – яна ж і так мая.

А каморнікі яму:

– Была ў цябе жонка – была й маёмасць. А цяпер да цябе на падворак прыйшла Смерць, і ты павінен заплаціць ёй энную суму золатам, каб тваё зноў стала тваім.

У аўдыторыі ўсе вокны расчынены насцеж, і сцюдзёна-сцюдзёна...

– Эрго? – пытаецца Сымон у студэнтаў. І сам адказвае. – Не прыйшла б смерць – не прыйшлі б каморнікі! Ні каморнікі, ні землямеры, ні бацюшка.

"Які бацюшка, чаму – бацюшка?" – дапытліва так пазіраюць маладыя вочы студэнтак з першага раду.

Сымон сумеўся, спалохаўся і... прачнуўся. Прачнуўся ад холаду і болю ў здранцвелай шыі.

І тут гульні розуму... Ды каб жа розуму, а то нейкі тлум.

"І чаму каморнікі энную суму золатам патрабавалі, навошта ім золатам?" – усміхнуўся Сымон. Чаму пра каморнікаў прымроіў, ён ведае, каморнікі наяве патрабавалі грошай за пераафармленне маёмасці – усё ж на Насці было.

Ён убачыў сонца паміж соснаў, агледзеў асветленыя яго ўрачыстым святлом могілкі і засаромеўся.

"Ці не бачыў хто?"

Даўжэйшым шляхам, не цераз поле ўжо, а праз лес пацягнуўся дадому. Як выйшаў з лесу ў вёску, пачалі сустракацца раннія людзі. Здзіўлена паглядалі: у такую пару – з лесу? Але хавалі здзіўленне, не давалі волі вясковай разняволенай цікаўнасці з яе панібрацкімі пытаннямі "куды, адкуль, чаму?". Пасля Насцінага сыходу сустрэчныя жанчыны стражэлі тварам, стрымана віталіся, а мужчыны – трактарысты-механізатары, Сымонавы знаёмцы-забулдыгі, – замест дзёрзка-вясёлага "здароў, сусед!", ці "здароў быў!", ці проста "прывет!", прамаўлялі неўласцівае ім "добры дзень!".

Такая далікатнасць грубаватых, па ўлюбёнай фальклорнай завядзёнцы, людзей бязмерна здзіўляла і захапляла Сымона. Што трэба зрабіць, як яго трэба раздражніць, вось гэтага нехлямяжнага трактарыста-п'янчугу, каб ён табе, *сённяшняму*, адказаў хамствам?

"А духоўная асоба з-паўабарота завялася!" – ажно засмяяўся Сымон, успомніўшы ўчарашняе. Цяпер шчэрбаўскія людзі і шчэрбаўскі бацюшка далёка не адно і тое ж, у дачыненні да Сымона.

А яно й раней было нешта падобнае.

...Матушка з дзецьмі з'ехала на месяц да бацькоў. Бацюшка гараваў адзін, ну і... Што было, чаго не было – Сымон і слухаць не хацеў, затыкаў вушы. Але па вёсцы пайшла пагалоска. Ведама, вёска: што было – не схаваеш, чаго не было – дадумаюць. Сымон забараніў Насці і заікацца на гэтую тэму. Але кабеты-пеўчыя ўсхадзіліся падаваць на свайго бацюшку скаргу "наверх" – гэтак прыраўнавалі. Так-сяк Сымон праз Насцю паўплываў на "грамадскую думку" і гамонка заціхла. Яна-то заціхла, але напружанасць паміж айцом Генадзіем і пеўчымі засталася, пільны да свайго іміджу бацюшка гэта адчуў...

А тут Сымонаў сябар, пісьменнік і царкоўны барытон Анатоль, бярэ і прыязджае на Тройцу ў Шчэрбаўку з хорам з самага Мінска, праспяваць Троіцкую літургію! Хор суладны, майстравіты, што казаць. Пасля службы айцец Генадзій з матушкай накрываюць сталы ў царкоўніку. Усе задаволеныя, расчуленыя, удзячныя. Тут і Сымон, таксама ўдзячны і расчулены. Ён, каб зрабіць гасцям прыемнае, падпісвае мінскай псаломшчыцы сваю кніжку, дорыць і кажа:

– Сёння, я маліўся дзякуючы хору!

Убачыўшы непаразуменне ў вачах мінчан, патлумачыў:

– А то ж, не сакрэт, у нас у вёсках нярэдка даводзіцца маліцца хору *насуперак*.

Бацюшка стаіць на траўцы збоку, слухае. Сымон бачыць і разумее, што ні ягоныя словы, ні ён сам бацюшку не падабаюцца. Але няхай, не ўсё ж яму дагаджаць, праўда даражэй.

А праз тыдзень напрыканцы нядзельнай пропаведзі айцец Генадзій (ён свае "разборкі" з прыхаджанамі прывык здзяйсняць з амбона) пачаў здалёк. Вось, маўляў, да нас прыязджаў хор з Мінскай царквы Пятра і Паўла, і нас усіх парадаваў, і мы ўдзячныя, і вельмі было нам усім прыемна... І яшчэ нешта харошае казаў бацюшка пра мінскіх харыстаў. Але Сымон пачуў у яго голасе нейкую хітрую падступнасць. І нездарма.

– А Сымон Сымонавіч ім сказаў, што наш хор дрэнны, – недарэчы, але выйшаў, нарэшце, на сваё бацюшка. – Ну, яму няхай дрэнны, а мне наш хор падабаецца!

Сымон ажно сцяўся ад няпраўды. Не казаў ён такога!

На клірасе за грубкай стаяць Сымонавы старыя "таваркі", аднавяскоўкі, звязаныя лёсамі з ім лёсамі з тых часоў, калі гэты бацюшка пад стол пёхам хадзіў, усе маці і нават бабулі Сымонавых вучняў, якіх Сымон ("Сымон Сымонавіч") вучыў спяваць. Нават адна былая Сымонава вучаніца слухае. Стаяць і саромеюцца настаўнікавай ацэнкі. І ці толькі саромеюцца?

– Ён заявіў, што моліцца насуперак *нашаму хору*, – працягваў прапаведнік з амбона. – Гэта як можна такое сказаць? Тады выходзіць, што можна маліцца насуперак іконам?? І насуперак бацюшку?!!

"Насуперак бацюшку ў першую чаргу", – падумаў Сымон. А ўголас прамовіў:

– Гэта не я сказаў, гэта іераманах Зянон сказаў.

– Хто ён такі, Зянон? – ужо амаль крычаў бацюшка, сыходзячы з амбона і ідучы да кліраса, да матушкі. – Зянон!.. Ён пад забаронай!

Можа, й пад забаронай, бацюшку відней...

Сымон перахрысціўся на алтар і выйшаў.

Адным стрэлам айцец Генадзій забіў трох зайцоў! І Сымону адпомсціў, і хор супраць яго наладзіў, і з хорам канфлікт вычарпаў – сваім хору

зрабіўся. Супраць Сымона Сымонавіча, бабанькі, сябраваць будзем!

– Ды ён жа!.. Гэта ж не сумленна! – гарачыўся Сымон дома перад Насцяй. – Людзі ж напраўду падумаюць...

– Не хвалюйся, – смяялася з Сымонавай гарачнасці спакойная Насця. – Людзі даўно разабраліся, што ёсць што і хто ёсць хто. Людзям вашыя разборкі – чарговы канцэрт.

Сымон успамінаў гэты выпадак, ідучы па лесе з могілак.

“Ну, няхай, тады яму трэба было выжываць, “ратаваць гонар”, а ўчора яму што пагражала?”

Хор... З яго й пачалося.

Шчэрбаўцы лёс наканаваў размясціцца сярод тых беларускіх абшараў, дзе спрадвеку і да сёння люд практыкуе так званы гетэрафонны спеў. Матушка напачатку прыйшла была ў адчай: ёй здалося, што ніколі не ўдасца *развесці па галасах* суладны і ўпарта-ўстойлівы аднагалосы спеў шчэрбаўскіх пеўчых. На яе ўкраінскія вушы, гэта было варварскае галашэнне, а не спевы. Сымон параіў запрасіць на спеўкі дзвюх маладзіц з клубнага самадзейнага гурта, які гадоў пяць таму сам стварыў, калі падрабляў у клубе “худруком”. “Артысткі” – хахлушка і паляшучка, аседлыя тут замужам, – згадзіліся, і справа пайшла на лад. Але матушка на месяц кудысь з’ехала, і спеўкі ўжо збіраў адзінокі бацюшка. Сымон, зразумела, не кінуў яго на волю лёсу і з неафіцкім энтузіязмам узяўся дапамагаць – “дырыжыраваў” спявачкамі, як тады, у клубе...

Гэта была яго першая памылка. Наваспечаны святар айцец Генадзій успрыняў Сымонава шчыраванне як... замах на аўтарытэт ягоны і ягонай матушкі. А Сымон жа ні сном ні духам... Адна рэпетыцыя, другая – Сымон і сам вучыцца – ды неяк адчуў, што бацюшку нешта карабаціць. Што? Тады ён зазірнуў у сярэдзіну святарскай душы і са здзіўленнем убачыў прычыну. Са здзіўленнем, але і са спагадай.

“Гэта табе, аматару, царква – прытулак духу і вароты ў Неба. А яму, “прафесіяналу”, найперш, месца працы і поле дзейнасці, а потым усё астатняе”.

То ж ба то!

Каб не трымаць у напрузе маладую святарскую душачку, Сымон далікатна перастаў хадзіць на спеўкі.

– А ці можна мне падпяваць на службах? – на ўсялякі выпадак і з дзяжурнай ветлівасці спытаўся ў бацюшкі.

– М-м... Лепш не трэба, Сымон Сымонавіч, – махнуў рукою той няпэўна. – А то яшчэ *саб’еце іх*.

Нечувана! Сымон аж замілаваўся юніёрскім нахабствам святара. Як было не расказаць Насці пра бацюшкавы страхі і хітрасці.

– Ён такі дробязны? – задумліва здзівілася Насця.

– Хіба можна так на бацюшку казаць! – жартам абурыўся Сымон.

– А! Можна, – легкадумна, як дзяўчынка, адмахнулася Насця.

І ёй было можна! У яе ні ў чым не было *падтэксту*, ні ў словах, ні ў справах. Нават датклівы бацюшка гэта адчуваў і даравáў ёй задужа, як на Сымонава вока, смелыя выхадкі і, часам, вольныя слоўцы ў свой бок.

Дараваў – не дараваў... Ён – Насці! Якая дзікасць. Але такі ўжо характар, людзі каля яго акуратна ходзяць – прывучыў строгі айцец Генадзій. Ды не такі строгі, як капрызны.

Неяк, напачатку яшчэ, маладыя бацюшка з матушкай вырашылі

адсвяткаваць бацюшкавы імяніны... Бацюшка запрасіў прыхаджанаў у госці. Ну, як запрасіў? Сказаў – прыходзьце тады і тады. Добра... А беларус без прынукі за стол не сядае! Дый кабеты, з сэрцам і мазалямі ўцягнутыя ў беднае існаванне святаровай сям'і, палічылі, што лішні рот за сталом – лішні матушцы клопат. Кожная з іх паасобку так палічыла. Ну і прыйшло ўсяго трое. А было нагатавана на дзесяцярых! У нядзелю бацюшка адслужыў службу, а напрыканцы паства замест пропаведзі атрымала... водпаведзь!

– Вы!.. – казаў пакрыўджаны імяніннік, – вы не палічылі за гонар прыйсці!.. Мы з матушкай рыхтаваліся... столькі ўсяго давялося выкідваць... А! Што вам казаць! Не хачу вам крыжа падаваць, – і амаль шпурнуў напрастольны крыж на аналой. – Прыкладайцеся!

І пацеглася "пакараная" чародка верніц да аналоя *прыкладацца*. Ну то, няхай, жанчыны. Але з імі і Сымон, і яшчэ нехта з пажылых мужчынаў, як сабакі пабітыя, папляліся.

– Маліліся, маліліся, а выходзім, як аплёваныя, – прагаварыла ўголас, нібы сабе самой баба Вара, бокам сыходзячы хворымі нагамі з царкоўнага ганка. – Дзе ён рос?

Баба Вара самая смелая з прыхаджанак. Можа, таму што самая старая. Аднойчы, пасля пропаведзі, на якой айцец Генадзій на чым свет стаіць кляў калегу айца Аляксандра, што той крадком адпявае памёрлых у яго парафіі, кляў і строга забараняў карыстацца паслугамі "гэтага выскачкі", нават тады, "калі мяне самога не будзе на месцы", баба Вара зноў казала (сабе!), злазячы з ганка:

– Трэба будзе – пазаву каго захачу. Айцец Аляксандр не горшы за цябе, разумніка. Яшчэ, можа й, лепшы!

Вясковыя жанчыны ўмеюць бачыць і адрозніваць дзве іпастасі: грэшную свецкую – *чалавечую,* і царкоўную пастырскую – *Божую*. Сымон не перастае здзіўляцца іх праваслаўнаму пачуццю. Трапятанне перад Божым прастолам, духоўны такт, цярплівая пакора і, разам з тым, – ваяўнічае адкіданне сектанцкага таталітарызму! Усёдаравальная любоў да чалавека і, адначасовае непрыманне ў чалавеку ганарліва-дробязнай істоты. Хто іх вучыў? Дзе, калі?

Хаця... На Русі просты люд здаўна ўмеў раздзяляць сакральнае і побытавае. Вядома, што і калісь блаславёнае святарства не заўсёды адпавядала свайму высокаму прызначэнню. Паміж іхняга, у асноўным малапісьменнага, кантынгенту сустракаліся і п'яніцы, і нахабнікі, і хціўцы, і распуснікі. Так што былі ад іх і пацярпелыя. Але бацюшка – асоба недатыкальная, як яго ўвесці ў берагі? На ім скуф'я, у ёй, як лічылася (можа, гэта так і ёсць), – канцэнтрацыя святарскай "благодати"! Тады рабілі як? Тады пацярпелы праваслаўны міранін акуратна здымаў з бацюшкавай галавы скуфеечку, затым "вучыў" яго, як умеў, зноў надзяваў скуфеечку на месца, а тады прасіў у свайго бацюшкі блаславення на добрыя справы.

І ўсё! І ніякай супярэчнасці не было ў ягоным учынку – усё ад гарачай веры і шчырага сэрца. Смешна, дзікавата, але дзейсна.

"Нашага б у камуфляжы гэтыя буйныя галовы мутузілі на кожным рагу", – смяяўся Сымон, чытаючы пра старажытнарускія норавы.

Шчэрбаўскім кабетам, маючы ў сваіх славянскіх генах такі вопыт, лёгка разбірацца, хто ёсць хто, праўду казала Насця. А беднаму бацюшку, "знутры працэсу", цяжка ў самім сабе штосьці адрозніваць. Вось ён і блытае іпастасі. Думае, што харошы хлапец Гена Сушко – тое, што й святар-настаяцель,

іерэй-спавядальнік айцец Генадзій.

У Сымона няма піітэту перад бацюшкам, хоць бацюшку гэта і насцярожвае, і напружвае.

“Калі б я займеў перад ім піітэт – космас бы зварухнуўся”.

Бо няправільна б гэта было, не па правілах. Бо Сымон нарадзіўся і жыў з натуральным, як дыханне, правілам, што не месца красіць чалавека. А *гэты*, здаецца, палічыў, што раз і назаўсёды ўпрыгожаны *месцам*... Не будзе ў Сымона піітэту перад ім. Цёплае стаўленне – калі ласка, не благі ж усёткі чалавечак, сын яму па гадах, харошы муж, бацька... Вунь, калекцыянуе, цацкам умее радавацца, як дзіця. А піітэту не, не будзе.

Перад святарствам хоча мець піітэт Сымон, перад апостальскім пасвячэннем. Перад *айцом Генадзіем* гатовы Сымон схіляць сваю сівую галаву.

“Ён выстаўляе сябе чалавекам справы... Якую такую справу ён зрабіў, займаючы *такое* месца? Пакуль што відавочны вынік у тым, што ён добра спраўляецца са сваімі службовымі абавязкамі ды корміць сваю сям’ю. Пачэсная, блаславёная справа, і дзякуй Богу! А ўсё астатняе харошае, што ён прыпісвае сабе, робіць не ён, а *месца*. Калі б не Насця, добры дзясятак шчэрбаўскіх дзетак, можа й, да сёння бегалі б нехрышчоныя. Яна гутарыла з бацькамі, угаворвала іх і чародкамі прыводзіла малых у царкву. І дзяўчатак-старшакласніц умела далучыць да царкоўных спраў. А бацюшка...

“Пры чым тут бацюшка!” – адмахваецца ад навязлівай тэмы Сымон. У яго свая *вялікая тэма*, здаўся яму гэты бацюшка!

Але другога ў Шчэрбаўцы няма.

На выхадныя прыехалі дзеці. Сымон расказаў ім усё ў падрабязнасцях, нічога не тоячы, – ані не пашкадаваў дзяціных душаў. Яны паслухалі і пазамаўкалі. Ім, запалоханым матчынай смерцю, падалося, што свет абрынуўся другі раз. Але выгляду не падалі, толькі Сымон пачуў выпадкова, як Сашка сказаў Ані з горыччу:

– Хто яму даў права майго бацьку дабіваць!

## 6.

Людзі ўвогуле індыкатары адзін аднаму. Калі табе нехта зрабіў пагана, дык прыглядзься да сябе, падумай – можа, гэта таму, што і ў табе ёсць нядобрае. У першую чаргу – у табе!

І Сымон Сымонавіч пачаў думаць.

Паміж горка-светлымі ўспамінамі пра Насцю, між хвалямі болю і ўрыўкамі нейкай сваёй тлумнай пісаніны хадзіў і ўспамінаў, дзе, калі, як ён вырасціў у святаровай душы нянавісць. Нянавісць – гэта так, метафара. Айцец Генадзій па дабрыні душэўнай усё ж не здольны насіць у сабе чорнае пачуцце. Проста схільны да лаканічнай вобразнасці Сымон так называе *раздражнёную нелюбоў*.

“А што доўга думаць? Стань на яго месца, паглядзі на сябе ягонымі вачамі, ты ж з самага пачатку назаляў, праходу яму не даваў!”

Цяпер, калі ўсе ілюзіі прапалі, лёгка зрабілася паглядаць на сябе *яго вачамі.*

– Гэта я сам справакаваў яго на нізасць! – дакараў сябе Сымон.

...Сонечная жнівеньская раніца. Нарэшце ў царкву праведзена электрычнасць. Да столі падвешаная прывезенае ажно з-пад Чарнігава, ад цесця, панікадзіла. Нядзеля, хутка служба. Бацюшка з матушкай радыя,

самі свецяцца, як тая люстра, асабліва матушка: як дзяўчынка раз-пораз падбягае да выключальніка, пстрыкае і любуецца бацькавым падарункам. Ім, маладзенькім, усё ўпершыню, усё, як у дарослых! Літургія пачынаецца. Свечкі гараць, сонца ў вокнах зіхаціць, панікадзіла ззяе! Вох... А тут яшчэ пеўчая, глухаватая Нікіфараўна, гучна, як сапраўдны вакальны дэміург, пяе на чвэрць тону вышэй. Усю службачку так праспявала, усю-ўсенькую! Сымону зрабілася моташна, і ён, каб прынародна не абрынуцца на царкоўную падлогу, левай рукою трымаўся за сценку, а правай хрысціўся і ў паніцы, паміж асноўных малітваў, шаптаў: "Госпадзі, памілуй, Госпадзі, памілуй, Госпадзі, памілуй!" Памагло. Дастаяў да канца, а тут, як падышоў бацюшка з двума царкоўнымі хлопцамі – зусім акрыяў. Акрыяў і кажа:

– Бацюшка, гэтыя тры светлавыя стыхіі мяне даканалі.

– Якія стыхіі? – не зразумеў (і напружыўся!) бацюшка.

– Начное святло ад свечак. Дзённае святло ад сонца. І гэтыя... лямпачкі Ільіча, – паказаў на панікадзіла Сымон. – У сонечны дзень іх бы лепш не ўключаць...

Бацюшка хмыкнуў і павярнуўся да хлапцоў.

– Ну... У нас Сымон Сымонавіч многа ведае, – выказаўся ён насмешліва, амаль пакруціўшы пальцам каля скроні.

"Гэта дрэнна?" – ледзь не з'яхіднічаў Сымон ды стрымаўся. Потым засаромеўся:

"Ён, малады, недасягальны, прагне пахвал, захапленняў, а я яго прынізіў да ўзроўню шараговага субяседніка, па гонару прайшоўся, ды ў *ягонай* царкве, ды пры сведках..."

То была адна з першых цаглінак у падмурак бацюшкавай нянавісці.

Яго ўяўленні аб навакольным свеце спрэс натыркаліся на Сымонава адмаўленне. Ягонае абывацельскі-прывычнае раз-пораз сутыкалася з Сымонавым дзёрзка-парадаксальным.

– Купіце сабе бензапілу "швэдку", выдатны інструмент, – раіць, напрыклад, бацюшка Сымону з нейкай нагоды.

– Няма грошай, – кажа Сымон.

– Што вы грошай шкадуеце, Сымон Сымонавіч, грошы былі й будуць, грошы – дым! Вы як тая Дар'я Сцяпанаўна да грошай ставіцеся.

Дар'я Сцяпанаўна – настаўніца хіміі, спраўная бацюшкава крэдыторка і ў цяжкую хвіліну памочніца – мела звычай запісваць у сшытак пазычаную суму, што бацюшку і прыніжала, і раздражняла. У адплату ён любіў зняважліва адазвацца пра настаўніцу ў гутарках з людзьмі. За вочы, вядома. У вочы бацюшка па мяккасці характару і душэўнай дабрыні нікому нічога непрыемнага не кажа. Толькі за вочы!

– Гэта вы, бацюшка, як Дар'я Сцяпанаўна, – адказвае Сымон. – Для мяне грошы – лічбы, арыфметыка. А ў вас з ёю – ого! – вакол грошай цэлая рэлігія. У вас грошы – "дым", "грошы былі й будуць...". У яе – "капейка рубель беражэ", "грошы падлік любяць..." Якая розніца? Галоўнае, што ў вас з Дар'яй Сцяпанаўнай вакол грошай мантры ды прычытанні.

На зары бацюшкавай кар'еры ў Шчэрбаўцы Сымон неяк параіў яму:

– Пахадзіце па музеях, пацікаўцеся жывапісам, літаратурай, у той жа гісторыі пашукайце асветніцкага сэнсу. Не чакайце прамой карысці, яе ў вас не будзе. Але вы крышачку *ўскладніцеся*. Бо, ведаеце, нехта сказаў:

калі ракеты робяць простыя людзі – ракеты падаюць.

Як у ваду глядзеў Сымон, нібы ведаў, што праз гады бацюшка абвесціць сябе “простым чалавекам”.

Дурны Сымонаў максімалізм, дурная шчырасць... За гэткія парады гатовы неўзлюбіць і не такі, як айцец Генадзій.

А той быў і не супраць “ускладніцца”. Пасля таго Сымонавага нахабнага пажадання, завочна скончыўшы Піцерскую духоўную акадэмію, пачаў ездзіць у Мінск і шукаць у архіве гістарычныя матэрыялы пра царкоўныя прыходы на Беларусі. Навышукваў процьму надзвычай цікавых дакументаў, датаваных і шаснаццатым, і сямнаццатым, і васямнаццатым, і дзевятнаццатым стагоддзямі. А што з імі рабіць? Набраўся бацюшка смеласці і звярнуўся да Сымона па дапамогу.

– Я вось падумаў... Ніхто мне не дапаможа, акрамя Сымона Сымонавіча.

Сымон зірнуў у ягоныя паперы і ахнуў: якую навуковую працу можна напісаць па гэтых матэрыялах! Ці... аповесць. Там жа адгалоскі Кіеўскай Русі, Унія і маскоўскае праваслаўе, занядбаная беларуская вёска і палітыка вялікіх дзяржаў, заняпад і адраджэнне, сённяшняе і мінулае, адлюстраванае ў сённяшнім... У яго засвярбелі рукі – эх, быў бы я маладзейшы!

– Напішыце аповесць, бацюшка.

– Не-е, гэта не маё, – з годнасцю адказаў бацюшка. (Такія, як айцец Генадзій, ніколі не скажуць: я не ўмею або я не здатны. Яны карыстаюцца пачэсным эўфемізмам: гэта не маё!)

– Тады давайце зробім нешта накшталт дысертацыі.

– Ну, паглядзіце самі, – няпэўна згадзіўся бацюшка.

Дома Сымон накідаў прыкладныя тэзісы “ў які бок трэба думаць” і назаўтра прапанаваў іх “дысертанту”. І тут жа зразумеў, што прапануе занадта яму складанае. Зразумеў гэта і бацюшка, але змоўчаў. Сымон рашыў узяць на сябе галоўнае і пяць вечароў рыхтаваў нататкі дзеля будучай працы. Праз два тыдні ён, смакуючы прыемны для бацюшкі сюрпрыз, прыйшоў да яго з нататкамі пад пахай і спытаўся, як ідуць справы, якія маюцца ідэі... Папрасіў:

– Хачу яшчэ паглядзець вашы архіўныя выпіскі...

– А я іх аддаў, – з незалежным выглядам заявіў “дысертант”. – Адзін знаёмы бацюшка папрасіў, ён вучыцца, яму трэба для дыпломнай працы.

– Назусім аддалі? – не зразумеў Сымон.

– Назусім, – абыякавым, нават вясёлым голасам адказаў бацюшка. І ў гэтай яго абыякавасці і весялосці чуліся ноткі трыўмфальнай злараднасці, маўляў, на табе, “прафесар”, павучы мяне! Не на таго напаў!

Тады Сымон з захапленнем падзівіўся на бацюшкаў спрыт, з якім ён сваю чалавечую нядольнасць павярнуў на падвышэнне свайго святарскага іміджу. Але застаўся непрыемны прысмак непаразумення. І нейкага прыніжэння. Сам жа папрасіў памагчы, і раптам гэты недарэчны “фінт”. Ды што я табе, хлопчык на паслугах?

Бацюшку відавочна не хапала тактоўнасці і з іншымі сваімі прыхаджанамі.

Не хапіла ж, калі аднойчы раптам радасна абвясціў усім:

– З сённяшняга дня ў нас будзе новая бібліятэкарка. Вось, Надзейка, прашу шанаваць! – і паказаў на сваю дачушку.

Немаладая ўжо настаўніца пачатковых класаў Пачэўская, якая давяла да ладу вялікую царкоўную бібліятэку, пазаводзіла і чатыры гады па ўсіх

правілах запаўняла фармуляры, стаяла нерухомая.

– Новая? – пажартавала баба Вара. – А старую куды, пад адхон?

– Ну... – памяўся бацюшка. І ўсё. Так і завісла чарговае непаразуменне недзе ўгары пад царкоўным дахам.

Бацюшка прыходзіў да Насці, прычашчаў, а потым затрымліваўся і жартаваў з дзецьмі. Сыпаў смелымі, як яму здавалася, слоўцамі, "лёгкімі", як яму здавалася, а насамрэч, плоскімі жарцікамі. Хацеў выглядаць гэткім дасціпным, *свецкім* маладым чалавекам.

Сымон і сам любіць падабацца. Ну, не тое, каб сам, а каб падабаліся яго вершы, яго песні, яго думкі... Бацюшка любіць падабацца *проста так*, сам па сабе: вось вам я, прыгожы, дасціпны, пры сане, пры гонары, усё маё пры мне – любіце мяне! І сын, тэатральны рэжысёр, і дачка, рэдактар літвыдання, з ветлівасці мусілі натужна ўсміхацца. Як жа – гэта ж бацюшка! Толькі ў Сымона на твары чытаўся непрыхаваны скепсіс. Сымон і сам камедыянт. Камедыянт і выпівоха, усё жыццё прафесійна "ламаў камедыю". Было, з яго жарцікаў заходзіліся поўныя залы на тэатральных спектаклях... І ўсё ж, навошта было так Сымону? Ведаў жа: бацюшка – не бацюшка, але як кожны жартаўнік, ён працуе "на гледача". І бачыў жа, бачыў Сымон, як яго няўдзел у бацюшкавым гумары лягае яшчэ адной цаглінай у падмурак непрыязнасці.

Была ў айца Генадзія яшчэ адна немалаважная прычына не любіць Сымона.

Сымон пакутаваў на інтэлігенцкую экзальтацыю. Правільная складана пабудаваная фраза, калі гэта не кніжная цытата ці канстатацыя агульнавядомай думкі (пошласць, кажа на такое Сымон), а нейкае *сваё* меркаванне – гэта, па сутнасці, і ёсць прыкмета гуманітарна-экзальтаванай натуры. Ён ведаў за сабой гэты грэх і, прынамсі, з суседзямі-вяскоўцамі (ды і ў настаўніцкай), старанна спрошчваў самае простае сваё выказванне, нават здаваўся крыху коснаязыкім. Гэта было неабходна. Сымон яшчэ ў маладосці ў асяродку грузчыкаў харчовых складаў, дэпоўскіх слесараў, ніжнявартаўскіх ды ўрангойскіх нафтавікоў з газавікамі, дзе давялося целяпацца, заўважыў: за яго вольны язык і недарэчную інтэлігенцкую шчырасць большая частка "працоўных" пачынала за вочы пасмейвацца, а іншыя асобныя – паціху ненавідзець.

Усё ж, нягледзячы на яго крыху бесцырымонны характар, людзі Сымона любілі. Праўда, з сотні "слухачоў" абавязкова знаходзіліся адзін-два зайздроснікі, якія слушна прыкмячалі Сымонавы заганы з недахопамі, якіх Сымон раздражняў.

Айцец Генадзій з такіх – ясна як белы дзень. А галоўнае, зайздроснікі ненавідзелі Сымона за тое, што ён адцягваў людскую ўвагу ад іх асобаў. Ненаўмысна, міжволі адцягваў. Тыя ненавідзелі, але Сымон не мог іх папракнуць, бо *яны мелі рацыю*. Як усе людзі без хваравітага "комплексу", ён не тое, што сабой любавацца – нават у свой бок рэдка паглядаў прыветліва.

Але, дзе б ні быў Сымон, куды б ні трапляў – заўсёды ў яго знаходзіліся *асаблівыя* прыхільнікі, якія з задавальненнем зазіралі яму ў рот. І кожны раз ён здзіўляўся: чаму, з якой нагоды? Неяк у Шчэрбаўскую школку завітаў журналіст са сталічнай газеты. Прачуў пра Сымонаў дзіцячы спеўны гурт і прыехаў. Зрабіў фотаздымкі, напісаў артыкул – звычайная

карэспандэнцкая руціна... А недзе праз тры гады Сымону выпадкова трапілася на вочы інтэрв'ю гэтага журналіста літаратурнаму часопісу, як аказалася, перадсмяротнае. І там, паміж цікавага іншага, былі такія словы: "Жыць трэба хаця б таму, што жыццё дорыць спатканні з такімі людзьмі, як настаўнік Сымон Салавейка з нашай беларускай глыбінкі..."

Сымон быў уражаны: тады з незнаёмым журналістам яны гутарылі роўна сорак пяць хвілінаў, паміж урокамі, у пустым класе.

Шчэрбаўскаму бацюшку цяжка вучыцца ў Сымона. Не, ён таксама бывае з цікаўнасцю да яго прыслухоўваецца. Але слухае, прымяраючыся, ці адпавядае *ён сам* Сымонавым "высокім матэрыям", ці не страціць аўтарытэт.

Бацюшка ў яго не вучыцца, ён *матае на вус*.

Сымон спрабуе ўспомніць, хто былі тыя рэдкія людзі, якія не любілі яго, ці хаця б, як айцец Генадзій, – *не разумелі, што ён за чалавек*.

Першымі прыходзяць на ўспамін "прафесійныя" камсамольцы ўсіх масцей з гадоў юнацтва.

Яшчэ ўспамінаецца ягоны школьны настаўнік гісторыі, яўрэй Белькін, стукач, зрабіўшы потым калянавуковую камуна-гістарычную кар'еру. Разам з кадэбістамі рэспубліканскага КДБ у 66-м Белькін моцна *не разумеў* дзесяцікласніка Сеню за антысавецкія паводзіны.

Два студэнты-аднагрупнікі ў Політэхнічным, якім Сымон перайшоў дарогу, закахаўшы ў сябе прыгажуню Валюшу з іхняй групы, доўга касавурыліся і не хацелі *разумець*.

Некаторыя, вельмі-вельмі рэдкія, жонкі сяброў-сабутэльнікаў, здаралася, таілі на яго злосць.

Памочнік майстра ўчастка на базе нафтавікоў пад Сургутам – Гусеў, удвух з парторгам базы люта ненавідзелі шабашніка Сымона за тое, што ён быў... шабашнік.

У старэйшых класах быў адзін "вораг".

– Канчай анцімоніі разводзіць, – казаў ён праз зубы, у той час як астатнія рагаталі ад Сымонавых імправізацый...

Ды можна ўспомніць, таго-сяго за жыццё назбіраецца. Яны, можа, і неблагія людзі, але ўсе, як на падбор, Сымонавы антаганісты па ўнутранай сваёй будове. Пазней, ужо пад старасць, Сымон зрабіў адкрыццё: усе ягоныя "ненавіснікі" былі надзеленыя агульнымі прыкметамі: усе з амбіцыямі, усе ганарыстыя, усе з хваравітым самалюбствам і ўсе – абавязкова! – з трывалай жыццёвай пазіцыяй.

Цяпер вось і ў бацюшкавай галаве не ўкладаецца Сымон.

Святар – не камсорг, больш тонкая матэрыя. Але і ён *не разумее*. Здзіўляецца, чаму ў Сымона так, а не гэтак, як ува ўсіх, як у яго! Чаму, напрыклад, ён, трыццаціпяцігадовы, ездзіць на легкавіку, а Сымон, у шэсцьдзясят – на веласіпедзе. Чаму яго ўласныя малыя дзеткі дабіраюцца з горада да Шчэрбаўкі за гадзіну і з камфортам, а Сымонавы дарослыя – за чатыры і з цяжкасцямі. Ён не спасцігае, чаму Сымонавы – яго равеснікі – і разумныя, і здольныя, і пры творчай справе, а не так уладкаваныя, як ягоныя. І, па ўсім відаць, так будзе заўсёды! Ён ніколі не зразумее – чаму. Нават калі б добрую волю меў да Сымона, нават калі б вялікую сімпатыю меў да яго, замест непрыязнасці.

Успомніўся адзін яскравы выпадак з дзяцінства.

Яны, хлопчыкі-пяцікласнікі, вярталіся з майстэрні, з урокаў працы ў

свой клас... А тым часам дзяўчынкі на сваіх “жаночых” уроках, разам з настаўніцай, падрыхтавалі сваім хлопчыкам сюрпрыз: прыгатавалі і расклалі па місачках *вінегрэт* – першую ў жыцці самастойна зробленую страву. Усё паставілі на настаўніцкі стол – колькі хлопчыкаў, столькі місачак.

Хлопцы ўваліліся ў клас і аслупянелі ад відовішча.

– Гэта вам. Ешце! – шчодрым жэстам паказала на стол з вінегрэтам даўгалыгая Рытка.

І ўтварыўся нечуваны гармідар. Мальцы сарваліся з месца, гуртам кінуліся да стала. Адпіхваючы адзін аднаго, хапалі вінегрэт рукамі, поўнымі жменямі запіхвалі ў раты, пэцкаючыся ў чырвоную бурачную фарбу. Шчокі, лабы, насы – усё ў бураках! Усё дзеялася моўчкі, весела і *дзелавіта*. Адзін Сымон не крануўся з месца, глядзеў староннe. Яму было і брыдка, і сорамна. Прычым двойчы сорамна – і за сяброў, і за сябе, за тое, што ён не разам з усімі. Гаспадынькі тым часам, пастаўшы ля дошкі, моўчкі любаваліся на піраванне хлапцоў. Цешыліся, радаваліся іх жаноцкія сэрцайкі.

– А ты чаму, Сенька... – дзівіліся дзяўчынкі.

– Ат, не хачу, – казаў Сымон, каб *апраўдацца*. – Не люблю вінегрэту.

А есці Сеньку вой як хацелася, тады не кармілі ў школах.

У жыцці яму потым шмат даводзілася апраўдвацца.

Сымон, калі б і захацеў, не здолеў бы растлумачыць бацюшку, *што ён за чалавек*. Але Сымон і не хоча. Ён бачыць айца Генадзія ў дружнай вясёлай дзіцячай зграі, з выпэцканымі ў буракі шчочкамі. Простыя людзі, яны такія. Стваральная барацьба за выжыванне, здаровая канкурэнцыя, праца, рух! — у гэтым іх жыццёвае крэда. Што яму, гэтаму калекцыянеру, тлумачыць пра *сузіранне*? Расказваць пра вялікую, няспынную, цяжкую працу сузіраць? Ён не паверыць. Вершыкі пісаць — гэта несур’ёзна, такое ж хобі, як у яго, — упэўнены ён, просты чалавек.

Насця з Сымонам мелі жыццёвы лад паміж сабой, ды асаблівай уладкаванасці ў жыцці ніколі не мелі. “Гэта дрэнна, мая віна”, — разумее сваю загану Сымон. “Калі ты такі разумны, дык чаму такі бедны?” — як не сказаў бы, але падумаў айцец Генадзій. Дык і яны б з Насцяй жадалі дзецям крыху іншай долі. Але яблычак ад яблыні...

“Хочаш жыць — умей вярцецца!” — сцвярджаюць вопытныя людзі. Сымон згодны з народнымі мудрацамі. Ды яму не хапае ні спрыту, ні часу. Галоўнае — часу. Як вярцецца, калі душа спрэс занятая *справай*. Вось і дзецям няма калі. Але яны ні за што не памяняюцца месцамі з *уладкаванымі*. “Ні-за-што!” Несамавітаму бацьку ў глыбіні душы цёпла ад гэтай дзяцінай вернасці.

Непадабенства, неідэнтычнасць, негрунтоўнасць, несамавітасць, авантурызм, безадказнасць... За ўсё гэта *сваё* цяпер вінаваціўся Сымон перад айцом Генадзіем. Амаль шчыра.

Можа, і яшчэ за нешта агіднае, чаго ён у сабе не заўважае. Хто яго ведае, мы сябе з боку не бачым...

Настаўніца літаратуры аднойчы паспачувала яму:

– У вас, Сымон Сымонавіч, столькі ўсяго ў галаве! У душы... Вам цяжка з намі жыць.

— Што вы, Соф’я Пятроўна, з мяне нябогу робіце, ані не паважаеце! — быццам бы абурыўся Сымон, смеючыся. А сам падзівіўся інтуіцыі і

пранікнёнасці вясковай настаўніцы.

Бацюшка таксама нешта такое падазрае ў Сымоне, але не можа змірыцца. Таму што не можа на ўсё гэта ягонае сесці. Але тут Сымон не знайшоў сваёй віны, як ні шукаў.

Успамінаючы паводзіны айца Генадзія, Сымон часам раздвойваецца.

Першы (яхідны) Сымон кажа:

– Ён чалавек непаразумення. Ён любіць непаразуменне стварыць, падвесіць яго ў паветры і на ім жа сцвярджацца! Як тады, калі шпурнуў крыж на аналой. Вось я, Сымон Салавейка, ад непаразумення ніякавею, пакутна шукаю яснасці. Хоць якой, хоць сабе на шкоду. Мне маленькае непаразуменне – вялікая костка ў горле, як смецце, замеценае ў кут. Бацюшка таксама не супраць яснасці. Але толькі калі яснасць высвятляе паспалітаму люду ягоную рацыю. А калі не? Тады ён лепей праявіць *сціпласць*. Сціпласць і яшчэ колькі хрысціянскіх цнотаў. Такіх, як нешматслоўе, цярпенне, стрыманасць, недапытлівасць... Гадамі бацюшка здольны *сціпла і стрымана* цярпець створанае ім непаразуменне. На тое і святар!

У абывацельскім космасе пануюць жорсткія правілы зносінаў. Этыкет у мяшчанскім свеце зрошчаны з мяшчанскай жа этыкай. Што там першаснае, што другаснае – не разбярэш. Сціпласць – краевугольны камень іхняга жытла. Ды яшчэ абачлівасць пры выбары слоў. Калі не трымацца гэтых асноў іхняй ветласці – абавязкова “нарвешся”.

– Дзеці, будзьце сціплымі, сціпласць *маскіруе* чалавека! – абвясціў аднойчы Сымон сваім, тады яшчэ малым, дзецям, пахадзіўшы каля бацюшкі.

Дзеці дружна засмяяліся. Гэта ж яго дзеці. Яны самі, яшчэ школьнікамі, адчулі, што значыць сціпласць у разуменні нецікавых людзей. Твае сціплыя магчымасці як асобы – гэта і ёсць сціпласць па-іхняму. Ёю яны маскіруюць сваё, на справе, нахабнае самасцвярджэнне на *пустым* месцы.

Другі Сымон (спагадлівы) пярэчыць:

– Ды ён начамі не спіць пасля непаразуменняў з людзьмі, асабліва, калі сам вінаваты. Хіба ён, бывае, не каецца прылюдна, шчыра не самапаніжаецца перад людзьмі ў царкве?

Тады першы Сымон адказвае:

– Каецца-то ён каецца, ды неяк прыгожа пры тым выглядае – залюбуешся. А пакаянне – заўсёды сорам.

І гэтак далей.

У адным абодва Сымоны пагаджаюцца: бацюшка з тых людзей, якія могуць ахвотна сказаць на сябе: “Я вялікі грэшнік”, а калі некаму ўздумаецца змякчыць яго велічна-паднябесную грэшнасць, намякнуць: ты, маўляў, усяго толькі вялікі гаўнюк – зараз жа яго і ўзненавідзяць. Гэтыя людзі здольныя самапаніжацца толькі з катурнаў, подыюму... *амбона*.

У першыя гады пасля прыезду бацюшкі людзі з энтузіязмам неафітаў кінуліся памагаць яму дабудоўваць царкву. Гэта была новая справа, яны будавалі *свой* храм, сабе будавалі! Ну і Богу, вядома. Цягалі дошкі, касілі траву, вывозілі будаўнічае смецце на звалку. Але з цягам часу неяк астылі. Прыгледзеліся і пачалі разумець, што не такі ўжо ён і свой, гэты храм іхны. Бацюшка індывідуаліст і ўласнік, акуратыст і дызайнер. Ні з кім не раіцца, самастойна вядзе *сваю* гаспадарку. Кудысь пачала прападаць цеплыня з каляцаркоўнай прасторы, паменшала саборнага духу. Бацюшка, працавіты

як мураш, пра царкву дбае, грошы на царкву пераводзіць, сямейку трымае ў чорным целе. Усё ў яго па лінеечцы, газон травяны па сем разоў за лета косіць, каб англійскі газон вывесці. Еўрастыль! Бацюшку ўладыка хваліць, благачынны адабрае, райвыканкам і той граматамі ўзнагароджвае за ўзорны парадак. Бацюшка запатольвае нявіннае сваё славалюбства і сваё творчае хобі. Цалкам бацюшкава царква зрабілася, вось людзі і ахалодалі.

Неяк пасля службы распачаў ён жаліцца прыхаджанам... на іх саміх.

– Ніхто ўжо не прыходзіць, адны мы з матушкай ды з мамаю бічкуемся... – дакараў.

Пакалечаныя калгасам і гад*а*мі кабеты прысаромлена стаялі і слухалі, якія бедныя яго мама, яго матушка і ён з імі разам.

– Калі мы ўжо ўзялі такую высокую планку, трэба ж падтрымліваць...

– Мы не бралі, – не стрымаўся, буркатнуў з-за сваёй грубкі Сымон сабе пад нос. Але пільны бацюшка пачуў. Пачуў, ды выгляду не паказаў, адклаў у скарбонку помсты

Калі б Сымон не ведаў іншых святароў, а толькі гэтага – ні ўся праўда хрысціянскага вучэння, ні жыційныя вобразы святых, ні гісторыя, ні роздум, ні памяць смертная не ўтрымалі б яго веры. Абрынулася б яна і рассыпалася па падлозе кроплямі ртуці – такая безнадзейная, бессэнсоўная спакуса сыходзіла ад шчэрбаўскага бацюшкі.

У настаўніцкай Шчэрбаўскай школкі можна гадамі кантактаваць з настаўнікамі-прадметнікамі і не ведаць, хто які прадмет выкладае. Бо яны, выкладчыкі фізікі, выкладчыкі біялогіі, выкладчыкі літаратуры, не з'яўляюцца ні фізікамі, ні біёлагамі, ні літаратарамі. Біёлаг жа – калі ён біёлаг, ці фізік – калі ён фізік, праявяцца нават у п'яным застоллі. Гэтак і шчэрбаўскі бацюшка: калі апынуцца з ім хоць на бязлюдным востраве і наўмысна не пацікавіцца – увек не здагадаешся, што перад табой праваслаўны святар. Нават, што ён хрысціянін, не надта здагадаешся. Гэта б Сымону папытацца, "хто ён такі?", а не яму ў Сымона.

Не крыўда, не абраза непакоілі Сымонаву душу, хаця было і гэта. Спрошчаная філасофія міліцэйскага сяржанта, неачэсанасць святарскай душы і розуму абуралі так, што не хапала ў грудзях паветра. У роспачы думалася: "Як можа існаваць такі чалавечак у самым цэнтры думкі і духу, якім ёсць царква? Больш таго: як можа *такі* весці па неспасціжна далікатнай сцяжынцы веры?"

Але стоп! Хто табе сказаў, што ён кагось павінен весці? Гэта ты, каляцаркоўная аблудная авечка ўсклаў на яго такі абавязак. Ты сам, легкадумна пазбягаючы адказнасці, хочаш аддаць яму частку права думаць і адказваць за сябе. "Уладай, дадзенай мне ад Бога, адпускаю твае грахі", – прамаўляе ён на споведзі. Уладай, "аўтаматычна" дараванай пры пасвячэнні – не сваёй! У астатнім, ён такі ж вядзёны, як і ты.

"Я, я вінаваты," – згаджаецца Сымон.

**7.**

Снежань спыніўся і стаіць, час нікуды не ідзе, не спяшае. Вечная зіма акружыла з таго дня, як Яе пахавалі. Утульна нават. Не, розум нібыта ясны, цвярозы, Сымон ведае, што па каляндары ўжо вясна. Сакавік. Вунь жа, у садку развучыў з дзеткамі тры песенькі "пра маму" і пайграў ім на

святочным ранішніку. Па радыё паведамілі, што настаў дзень вясенняга раўнадзенства. Спакойна згадзіўся з імі, нават адзначыў, што ў гэтым годзе раўнадзенства прыйшлося на 20-га, а не 21-га сакавіка, *як ён прывык*. Толькі ні вясна да яго, ні ён да вясны не маюць дачынення, – якая розніца?

Але ўчора ў тры гадзіны ночы ўсё ж усумніўся ў спраўнасці розуму. Выйшаў, па завядзёнцы, на ганак паглядзець на неба. Прывычныя зімовыя Арыён, Цялец, зімовы сёлетні Юпітэр... Толькі схамянуўся: Юпітэр блякне на самым захадзе. А галоўнае – вясновая Дзева ў легкадумнай хусцінцы з Марсам у абдымках крочыць па небе мікраскапічнымі штуршкамі, як мінутная стрэлка, ва ўжо аджытую паўднёва-заходнюю квадру неба. Дзева, якую ўслед за Ільвом, з нецярпеннем, як прадвесніцу вясны, усё жыццё чакаў з усходу, – ужо і яна пераступае паўднёвы мерыдыян! Толькі тады і адчуў, што вясна закранае яго таксама. А зірнуў на ўсход – месячык узышоў! Ён і забыўся, што месячык ёсць на свеце.

– Як бы Яе пабачыць? – прывычна спадзяецца Сымон, засынаючы. Хацеў паглядзець, колькі часу, можа, раніца ўжо, ды ўспомніў, што згубіў гадзіннік учора, усюды ў доме перакапаў – няма нідзе. Пашкадаваў падарунак брата Андрэя, вечная яму памяць.

...І яна прыйшла. Стала каля акна з двара і ўглядаецца, і не бачыць праз аконныя блікі. Сымон пастукаў па шыбе, выцер далонню вільгаць, гукае:

– Ну! Заходзь!

– Няма калі, – паківала галоўкай у белай з чырвоным гарошкам хусцінцы. – Трэба ж яшчэ...

– Мы тут усе вочы выплакалі, – радасна жаліцца Сымон праз шкло. Насціны твар і постаць такія, як былі гадоў дваццаць назад. – А ты там памаладзела! – пахваліў ён.

– Анягож! – скоса бліснула вачамі Насця. Зусім, як *тады*.

“Што рабіць!” – ліхаманкава думае ён. Выбег бы да яе праз дзверы. Але баіцца, адвядзеш вочы, яна і знікне, ад Насці якога хочаш выбрыку можна чакаць. Таму ён даланямі прыклаўся да шкла, прыціснуўся ілбом – ледзь шыбу не выцісне.

– Мы знудзіліся па табе.

– Анідзе я не дзенуся, – смяецца вачамі Насця.

– Ага, “не дзенуся”, – не верыць ён. – Ведаем мы...

– Во, сінічкі маю кудзелю выдзяўблі з падваконня, – заклапочана паказала яна некуды ўніз. – Узімку будзе дзьмуць.

“Як бы яе затрымаць, што прыдумаць, каб не ўцекла?”

– Дык я!.. – памкнуўся Сымон, не ведаючы, куды кінуцца.

– Не спяшы, паспееш, – міла, краёчкамі вуснаў, як Джаконда, усміхнулася Насця. – Гадзіннік шукаеш? – хітра спыталася. – Там ён, пад паветкай, паглядзі на дрывах...

Ён, як быў, у нейкай белай вопратцы, апынуўся на ганку і, не кранаючы нагамі долу, паляцеў, паляцеў па двары да паветкі. Насці як не было. На дрывяной сцірце, прыпарушаны сняжком, ляжаў гадзіннік.

А ўранні прачнуўся з адчуваннем перамогі. Якой перамогі, каго, над кім? А па інерцыі... Сонечны ранак за акном, нешта каляровае цёплае прыснілася, быццам Насця асцярожна, ціхенька бразгае талеркамі на кухні, каб яго не пабудзіць... Але нешта трывожнае ўкралася ў радасць. Крышачку, ледзь-ледзь. І раптам успомніў, – як штурханула, – Насця! Як аднекуль звонку прыйшла звестка: Насця памерла! Цяпер увесь дзень

прыдзецца ўсведамляць, што гэта значыць – Насця памерла.

Успомніў свой сон, апрануўся і асуджана пайшоў да паветкі. Гадзіннік ляжаў там, дзе і ў сне. Пазаўчора сек дровы, там і пакінуў. Сымон ані не здзівіўся, расшпіліў задубелы на марозе раменьчык, начапіў на руку.

Ад дрывяной сцірты запахла смалой і ладанам. І захацелася ў царкву. Ужо колькі тыдняў не быў – не злічыць. Ці месяцаў? З таго самага дня... Аня штотыдзень прыязджала і кожны раз ішла на ранішнюю службу. Сашка радзей, але і ён хадзіў. А Сымон ні ў якую! Дзеці даўно ўжо пачалі непакоіцца, ды як бацьку скажаш пра далікатнае. Бацьку павучаць сорамна, але хаця б ён не акунуўся ў сваю думу з галавой.

Мінулым тыднем Аня прыйшла з царквы і перадала Сымону, пра што баіў бацюшка на пропаведзі. Нешта пра пакаянне. Што трэба, маўляў, прыслухоўвацца да сумлення, маліцца і зважаць, на тое, што кажуць харошыя людзі. Ці не зважаць? Прыблізна нешта такое, Сымон асабліва не ўнікаў.

– А мой настаўнік, – пераказвала Аня бацюшкавы словы, – лічыць, што ўсе, хто яго любіць, – харошыя людзі, а ўсе, хто не любіць – так сабе. Можа, яго й праўда.

– Гэта ён пра мяне? – здзівіўся Сымон.

– А пра каго ж, – прастадушна радавалася Аня. Яна прагнула міру і хацела дабра.

– Хм, настаўнік! – крутнуў галавою Сымон. – Я ў яго не нанімаўся.

Аня разумее іранічнае бацькава “Хм!”.

– То, можа, праз бацюшку і ў царкву не будзеш хадзіць? – адважылася яна.

– Во, дажыўся! – нявесела засмяяўся Сымон. – Дачка баіцца, што бацюшка з бацькі бязбожніка зробіць. Не бойся, Анюта, у царкву мяне твая баба Каця прывяла ды твой дзед Сымон, як жа *ён* мяне не пусціць?

– Але ж ты не ходзіш!

– Тут такая справа, Анютка... Грэшным людзям цяжка хадзіць у царкву – грахі не пускаюць.

– Тата, я сур’ёзна, – засердзілася Аня.

– Дык вось... Каб памагчы такім калекам, як я, тысячагадовае хрысціянства сканструявала мыліцы. Каб мы так-сяк дакульгекалі да Царства Нябеснага.

– Якія мыліцы? – пытаецца Аня. Ёй трыццаць шэсць, і яна выдатна ведае, якія, аднак чакае бацькавай інтэрпрэтацыі – яна ў яго заўсёды нечаканая, а тое й смешная.

Але ў Сымона няма весялосці, ён панура цягне даўно ўсім вядомае.

– Ну, якія... Царкоўны жывапіс, духоўны спеў, дабрадатнае духавенства... Што яшчэ... Святочны каляндар... Ды многа чаго. Дзякуючы ім мы і клыпаем праз стагоддзі.

– Ну?

– А калі мыліцы ўпоперак ног становяцца? Я й з іхняй дапамогай не надта хадок, а насуперак і пагатоў.

– Хадзіў жа...

– Мама была.

Аня доўга маўчыць у задуменні.

– Хадзем да мамы.

Па дарозе на могілкі якраз і сустрэліся з бацюшкам. На гэтай дарозе ён

выгульвае двух з выгляду страшных агромністых, як падцёлкі, ды мілых і ласкавых сабак. Невядома, як бацюшка, а Сымонава зрокавае ўражанне ад сустрэчы заўсёды цёплае. Усё ж такі – *свае людзі.*

Аднак Сымон адчувае няёмкасць. За тое, што сваёй прысутнасцю на гэтым свеце зацяніў бацюшку бясхмарнае неба яго быцця. Сымону няёмка, таму што бацюшку няёмка. Хоць і не вінаваты Сымон, а... вінаваты! Не вінаватых не бывае. Нявінны толькі той, у каго няма сумлення.

Сымон думкамі ходзіць не каля бацюшкі, здаўся яму той бацюшка. Ён зводдаль думкамі каля храма пасецца. А паміж ім і храмам – бацюшка. Вось і турбуе гэтая неспадзяваная перашкода.

“Няўжо і я *такі дробязны*?” – падумалася Насцінымі словамі.

За даўнасцю часу чалавек забываецца на спатканае злое.

“А што, – з другога боку заходзіць Сымон. – Яму не лёгка. Хрышчэнні, пахаванні, вянчанні, адпяванні, споведзі, споведзі, споведзі. Па грабеньчыках гэтых хваляў і плыве жыццёвы човен айца Генадзія ў наканаваную будучыню. На вёслах матушка з дзецьмі ды прыхаджане-памагатыя: пеўчыя, спагадлівыя шчэрбаўскія гаспадыні з пасільнымі дарамі, знаёмыя “спонсары”, а ён – стырнавы. Але якая адказнасць! Якісь дырэктар музея ў Навагрудку мае не болей клопатаў і абавязкаў, чым настаяцель вясковай цэркаўкі. Прычым музейшчык той мае цвёрдую гарантаваную зарплату і не шукае па свеце грошы, каб накрыць дах ці адрамантаваць ганак. А святару, перманентна, як той казаў, даводзіцца стаяць з працягнутай рукой, часам і ў літаральным сэнсе. О, тут трэба мець практычны розум, гаспадарчую хватку ды меркантыльны разлік. Няхай сабе гэты бацюшка – птушка нізкага палёту, ён сам упарта гэта сцвярджае і на тым стаіць, у тым і ёсць яго ваяўнічая сціпласць. А калі б быў “узвышаны”, ці дасягнуў бы сваіх маленькіх вышыняў?

“Ці змог бы я справіцца з царкоўнай гаспадаркай?” – палохаецца Сымон ад аднае думкі апынуцца на бацюшкавым месцы.

Меркантыльны практык бліжэй да зямлі, чым да нябёс. Сініца ў бацюшкавых руках карыснейшая за жураўля ў яго, Сымонавым, небе. Але Сымону ад гэтай ісціны чамусь патыхае цынізмам і камунгасам.

“Цiварэцік! – некалі смяялася з малога Сымона маці, – ты практыку пакажы”.

...Яна смяялася з яго і ўпотай любавалася, бо “практыкаў” на сваім гаротным вяку, ох, нагледзелася.

Святара ўзвышае царква. Гэтая праўда Сымону бліжэй.

У вышняй вышыні бацюшка, калі ў алтары шчыра правіць літургію. Калі моцным сваім прыгожым тэнарам выводзіць з хорам “Іжэ херувімы”, калі стомлены службаю, клапатліва схіляецца з Прычасцем да капрызнага немаўляці, калі саборуе дванаццаць сваіх прыхаджанак на Вербным тыдні. Нават калі на яблычны Спас з жартоўнымі прымаўкамі шчодра палівае святой вадой шчэрбаўскую грамаду з прынесенымі яблыкамі, грушамі ды слівамі, а аблітыя з галавы да ног маладыя кабеты зіхаюць, задушана павіскваюць і, аднак, пры гэтым шчасліва ўсміхаюцца, – нават і тады ён *высокі.* Бо тады прымаўкі яго да месца і жарты яго дарэчы.

А сама вышыня Пасхі Хрыстовай хіба не ўзвышае яго да нябёсаў, калі з поўным законным правам Божага весніка тройчы абвяшчае з паперці хроснаму ходу: “Хрыстос васкрэс!”, і тройчы ляціць да зорнага неба адказ зачараванага натоўпу: “Ваісціну васкрэс!”. І свечак на начной палове зямлі запалена столькі, колькі ў небе нябесных свяцілаў.

– У нас бацюшка *сапраўдны*, – абсякаў Сымон Насцю, калі яна, жанчына, давала сабе волю паразважаць пра бацюшкавы чалавечыя адметнасці. – Ён верыць у Бога!

І бацюшка шчыры ў сваіх памкненнях, чаго б яны ні краналіся, нават у змане шчыры. Сымон заўжды суцяшаўся і мякчэў душою, калі бачыў, як скрозь знешнюю бацюшкаву браваду калі-нікалі выглядвае адвечны боль, уласцівы кожнаму жывому стварэнню.

Бацюшка мог быць на адной дошцы з Сымонам, быць цікавым яму, ён не абы-які замухрышны троечнік, ён здольны. Урэшце, скончыў жа духоўную акадэмію! Няўжо дысертацыю не напісаў бы? Калі б парупіўся – змог бы.

Змог бы... Ды хто ж яму дасць? Эх, калі б не гэты кляты комплекс правінцыяла, гэтая заўсёдная атрутная гарчынка незапатоленага гонару ў стасунках з людзьмі. Лёгкасць душы і таленавітасць, і нават сумленнасць не надта ўжываюцца пад адным дахам з хваравітым сябелюбствам. Людзі значныя – і тыя, здараецца, ніякавеюць перад дыктатам свайго *эга*.

Калі б айцец Генадзій у юнацтве патрапіў у акаленне *асветы* – хто ведае, можа б, і не выглядаў ён зараз у Сымонавых вачах духоўным самазванцам? Але паспрабуй ты! Лёс не перайначыш. Трапіць у *айцы* з верных сыноў абывацельскай Айкумены, ні агню, ні вады не прайшоўшы, трапіць адразу пад медныя трубы – выпрабаванне не для простых. Столькі гадоў чуць і бачыць вакол сябе абагаўленне – з яго спадчыннымі схільнасцямі, як было не паверыць?

Так што, на бацюшку як на асобу зараз лепш не зважаць. Бацюшку бацюшкава, а Сымону Сымонава. Колькі ўжо ён не прычашчаўся? Месяц, два, можа, з паўгода? Пара, пара. Нездарма ж Насця паслала да дрыўніка, каб ён з пахам сасновай смалы ўдыхнуў і пах ладану.

У суботу пачытаў неабходныя каноны, а ў нядзелю пайшоў спавядацца.

– Даруйце, людзі добрыя, – з паклонам папрасіў прыхаджанак перад споведдзю.

– Бог даруе! – адказалі тыя са спачувальнай гатоўнасцю, аж памкнуліся наперад.

Нырнуў пад епітрахіль і апынуўся ў сярэдзіне ўсяленскай сферы. Яна чорная, маўклівая, і толькі знічкі там-сям павольна ўспыхваюць і патухаюць, успыхваюць і патухаюць. Сымону здаецца – дакорліва. Смутна ўяўляецца, што гэта душы памёрлых даюць аб сабе знаць. Але ніхто з іх не праяўляецца асабіста, ні маці, ні бацька, ні браты, ні сябры... Нават Насця не падае ўмоўнага знаку.

Што казаць, каму казаць? Богу? Бацюшку? Бога не відно, адны агеньчыкі то там, то там, а бацюшку няма даверу. Тлумная споведзь. "Грэшнікі" ды "грэшніцы" ззаду ў параўнанні з ім здаваліся нявіннымі дзеткамі. Справа не ў асобных грахах, у яго цяперашнім становішчы многа не награшыш. Брыдкую прыроду сваю Сымон на дух не пераносіць. На яе фоне пералічваць грашкі свайго жыцця – усё роўна як хваліцца.

Тое-сёе прамямліў невыразна, але, прыклаўшыся да крыжа з Евангеллем, блаславіўшыся бацюшкавым блаславеннем, усё ж адышоў з палёгкай.

І ў наступную нядзелю Сымон быў на службе. Ён бачыў, што і з бацюшкі нібы груз зваліўся.

"Перажываў, відаць, каяўся. Хто б на яго месцы не каяўся".

Трэцяя служба з Сымонавай прысутнасцю прыйшлася на свята Пятра і Паўла.

Бацюшка казаў пропаведзь.

Як звычайна, блытана, няўцямна, з пакутнымі паўзамі падводзіў да маралі сваёй прамовы. Сымон прывычна дадумваў за бацюшку прапушчаныя звенні лагічнага ланцуга, цярпліва прадзіраўся да сэнсу.

А сэнс быў у тым, што, маўляў, усе людзі розныя: па здольнасцях, па схільнасцях, па... інтэлекце. І вось, апосталы Пётра і Павел – па ўсіх гэтых чынніках антыподы – былі, між тым, адзіныя ў галоўным – у веры Хрыстовай. Прыкладна так.

"Правільна, малайчына", – парадаваўся за бацюшку Сымон. Вось што значыць *сапраўдны* бацюшка. Адкінуў свецкую звягу і з амбона радуецца еднасці ў Хрысце з прыхаджанінам. І аналогію вартую прымяніў: Пётра і Павел. Расце прамоўца!

Зразумела, на каго скіраваны пафас прапаведніка – на Сымона, вядома. І бабе Вары зразумела, і цётцы Зоі, і цётцы Марусьцы, і старой Пётрысе зразумела – усім. Бо слоўка *інтэлект* не з іхняга лексікону. Ды і так, па розных ім вядомых прыкметах. Без іх ведама па вёсцы мышы не бегаюць. А Сымон з задавальненнем падбівае рахунак:

"Дайшло, зразумеў святар, што насіцца са сваёй асобаю – сябе прыніжаць. Вылячыўся, і дзякуй Богу".

Ды каб жа бацюшка на тым спыніўся! Але пасля невыносна доўгай паўзы ён працягваў, відаць, нешта яшчэ непакоіла.

– Усе мы людзі розныя. Кожны займаецца сваёй справай – хто на што здольны, хто да чаго прыстаўлены. Адзін працуе на зямлі, на сваёй гаспадарцы... Другі вучыць дзяцей, трэці на заводзе... Кожны займаецца тым, што яму па душы. Нехта збірае калекцыю, нехта *вытарэшчваецца* на камяні ў небе... – кожнаму сваё.

"Вытарэшчваецца! Дык ён пра сваё, балючае!.. – Сымон расчараваўся. – Вось як... Выходзіць, і не думаў саромецца! Сваю правіну хоча падзяліць напапалам, маўляў, ты сказаў, я сказаў – забудзем. Хоча сіметрыі. Ды ты нічога не зразумеў, хлопча! Якая сіметрыя? Я гатовы паўтарыць сваё хоць зараз, пры ўсіх, ні слоўка не забяру назад. А ты сваё пякельнае мефістофельскае "кончаны!", паўтарыць ці гатовы?"

– Для Бога не важна, чым чалавек займаецца, – працягваў бацюшка, – абы жыў з вераю ды не парушаў запаведзі. Святы апостал Пётр казаў, што не заўсёды разумее грамацея і кніжніка Паўла. Пётр быў просты чалавек, гаварыў, як умеў, а Павел, той, канечне, валодаў кніжнай гаворкай. Ну і што з таго? – узвысіў голас бацюшка, міжволі выдаючы, на чыім ён баку. – Абодва яны былі верныя апосталы Хрыстовы. Так і мы... – доўга шукаў працягу думкі бацюшка. – Хто ў полі, хто на заводзе, хто калекцыю сабірае... Хто вытарэшчваецца на камяні ў небе!

На слове "вытарэшчваецца" голас здрыгануўся, зрушыўся ў бок сварлівага фальцэту і выдаў прапаведніка з галавой.

"Ён яшчэ і рахункі зводзіць! З гэтага б і пачынаў. А то: на полі, на заводзе, апосталы..."

Камяні ў небе – гэта зневажальны намёк на ненавісную Сымонаву астраномію.

Сымон мусіў моўчкі назіраць, як намёкамі-агаворкамі, праз цьмянае і скажонае тлумачэнне бацюшка стварае з амбона сваю чарговую няпраўду непаразумення.

Амбон – гэта прыстасаванне, дзякуючы якому бацюшку гарантавана

апошняе слова, якую б лухту ён ні верз.

Краем вока Сымон бачыў скіраваныя на яго позіркі жанчын.

“Ведаюць, вакол каго гаворка віецца”.

І стала ясна, што не ўпершыню да яго асобы тут, у Божым храме, з амбона прыцягваецца ўвага.

“Як жа я забыўся? – здагадаўся ён. – Не мог бацюшка не выкласці прыходу тое, што яму смылела. Без аніякіх метафар і прытчаў перамываў мае костачкі, пакуль мяне не было. Ого, “за вочы” ён мастак!”

– Нехта з нас падобны характарам да апостала Пятра, нехта да апостала Паўла, а па сутнасці – мы роўныя, – закончыў прапаведнік. І ўпэўнены ў параможнасці сваёй “жалезнай” логікі, а яшчэ больш, у сваім святарскім аўтарытэце, ужо прама звярнуўся да Сымона:

– Правільна я кажу, Сымон Сымонавіч?

Прыцягненая ў царкве ўвага да яго асобы асабліва Сымону непрыемная.

“Ды ён не ведае берагоў! Прылюдна запрашае ў свой хаўрус, у склоку, ведаючы, што яму *на амбон* не запярэчу. Упэўнены, што і далей буду гуляць у *яго* царкве па *яг*о правілах, – у бяссільнай роспачы думае ён. – Чаго ты чапляешся да мяне, хлопча! Хоць і напраўду ў царкву не хадзі”.

Змоўчаць, не змоўчаць? Сымон вагаўся на крайку прорвы. Змоўчыш – ён прыме гэта як знак згоды. Зноў павісне пад царкоўнай столлю вялікае непаразуменне – яго стыхія. Не змоўчыш...

Стома і нейкая грэблівасць – не да бацюшкі, да сябе самога —агарнулі яго.

– Няправільна! – голасна, на ўсю царкву прамовіў Сымон.

– Што, няправільна? – разгубіўся ад нечаканасці бацюшка.

– Кашчунна параўноўваць сябе з апосталам Пятром, а мяне з Паўлам.

– А я не параўноўваю, я для аналогіі.

– Кульгавая аналогія, бацюшка, прабачце канешне... Мне вось за апостала Пятра крыўдна...

– І што вас пакрыўдзіла? – з усмешачкай спытаўся бацюшка, ужо ачуўшыся ад нечаканасці.

– Апостал Пётр не быў *нізкім* чалавекам.

– Я і не казаў, што ён...

– Ён не быў нізкім чалавекам, і неба не апускаў да свайго ўзроўню. Ён сам імкнуўся да неба.

– Ну так, ну вядома, – як з неразумным дзіцём, згаджаецца бацюшка з вышыні амбона.

– На камяні ў небе, як вы кажаце, Пётр не вытарэшчваўся, гэта праўда. І вам здаецца, што гэтым вы падобныя да яго. Але ж і Павел не вытарэшчваўся! Бо тое, што вам – камяні, ім – нябесныя свяцілы. І Пётр, і Павел з трапятаннем *сузіралі* ў небе пазнакі Божай велічы. Су-зі-ра-лі. Паверце, бацюшка, людзі ўмеюць не толькі вытарэшчвацца. Вас паслухаўшы, дык і валхвы вытарэшчваліся, угледзеўшы ў небе Віфлеемскую зорку. Ды не, бацюшка, і валхвы не вытарэшчваліся. А тыя, хто на яе *вытарэшчваўся*, – пераймаючы бацюшку, выдзяліў Сымон апошняе слова, – тыя потым крычалі ў Ерусаліме “распні, распні Яго!”.

Бацюшка маўчыць, чакае працягу. І прыхаджане замёрлі. Воляй-няволяй Сымон мусіць працягваць.

– А наконт калекцыянерства... Апостал Пётр кінуў усё і пайшоў за Госпадам, няўжо б такі чалавек меў прагу да прымітыўнага збіральніцтва

рэчаў...

Бацюшка зацята маўчыць.

“Ну, адказвай жа хоць што!” – Сымон не ведае, як выйсці з бяды, адчувае сябе бальшавіком-пагромшчыкам у храме. З нявыкруткі ён рашаецца на апошняе.

– Так, апостал Пётр быў, як і вы, не надта красамоўным чалавекам. Але яму *было што сказаць людзям*.

Мабыць, апошняе прамоўленае стала апошняй кропляй. У ранішнім хмарным небе ўтварылася малюсенькая дзірачка. Праз яе і паўднёвае акно алтара навылёт прайшоў сонечны прамень і коса ўваткнуўся ў алтарную падлогу. У алтары нешта тоненька і працягла дзінькнула.

Гэта быў міг праўтварэння.

Бацюшка стаіць у праёме Царскай брамы ва ўбранні, з крыжом у правай руцэ, высокі, велічны, з раптоўна паспакайнелым сур’ёзным *дарослым* тварам, а Сымон апынуўся перад ім ссутулены, шэры, здрабнелы... І некуды знікла ўся праўда яго слоў.

– Ну, калі вы так думаеце... – уздыхнуў бацюшка, з непадробным сумам пазглядаючы на Сымона. – Даруйце мне, калі не тое сказаў.

Абедзвюма рукамі прыціскаючы крыж да грудзей, бацюшка схіліў галаву ў паклоне. Сымон, пакрысе адступаючы, пачаў рухацца да выхаду. Жанчыны спалохана расступаліся перад ім.

– Прабачце, прабачце, даруйце, – мармытаў ён вінавата.

Ля дзвярэй крывенька і дробненька перахрысціўся і выйшаў.

“Ёлкі-палкі... – зусім “не па-пісьменніцку” гараваў Сымон па дарозе дамоў. – Нарабіў бяды!”

Што далей? Насця *Там*, самому ўжо ідуць адтуль званочкі. Як па-людску завяршыць гэтае жыццё? А хто адпяе? Сымон усміхнуўся. Ужо ж бацюшка не будзе з ім нянькацца, як з Насцяй.

Упершыню ён выйшаў з царквы, нібыта сам кагось апляваў. Баба Вара зноў скажа: маліліся, маліліся...

Абвінаваціў святара ў кашчунстве, а сам... Выступіў у Божым храме, як з трыбуны! Вось дзе кашчунства – хрэстаматыйнае, адпетае, грымотнае! На бацюшкаву наіўную дэмагогію адказаў сваёй – жорсткай, грубай, злой. Бандытызм! Бацюшка нёс непатэбнае *са свайго законнага месца*, а ён, як татарын, у царкву на кані ўехаўшы... Збэсціў бацюшку – ні сабе, ні людзям. У іх быў які-ніякі, але бацюшка, а цяпер...

“Хаця, – думае Сымон, – сэрцы ў прыхаджанак верныя, хутчэй яго, Сымона, склянуць, а свайго бацюшку не прададуць”.

Ад гэтай думкі пацяплела на душы. Не так ужо й нашкодзіў, калі паразважаць. Ён спытаўся – я адказаў, што тут такога? Дый хто там што разабраў?

“Ат, Бог не выдасць – свіння не з’есь”.

Нічога-нічога. Ён ужо прызвычаіўся да гора, да таго, што яно раз-пораз мяняе аблічча, заходзіць з розных бакоў.

Народ падумае, што Сымон Сымонавіч з бацюшкам “завёўшыся”. Ды й бацюшку задаволіць такая версія, усё ж такі атрымаецца, што *ў* звадцы вінаватыя *абодва*.

Бацюшка наіўны, пры ўсёй ганарыстасці, не ведае сваёй сапраўднай вагі – усе яны такія, з “новай фармацыі”. Якая звадка ў *законнага пасвечанага* праваслаўнага святара-настаяцеля – з ім, шараговым нікчэмным

прыхаджанінам? Смешна.

З другога боку – якая звадка ў аджытага мудрага “аксакала” з бадзёрым ружавашчокім равеснікам яго сына?

Раней Сымон з непрыемнасцю ўспамінаў бацюшкава злое. А цяпер, калі сам правініўся, з прыкрасцю ўспамінае сваё, а пра бацюшкава й забыўся – як не было. Але ў царкву не ходзіць – нечага чакае. А чаго – і сам не ведае.

“Бацюшка ўдумлівы, – спадзяецца Сымон. – Павінен уважыць. Чагочаго, а злой памяці за ім не назіралася, ён лёгкі на ўздым душы, як хадою лёгкі. А хоць і не ўважыць – сам перапрашуся!” – аднойчы на ганку зорнай ноччу нечакана для сябе вырашае ён і супакойваецца.

Ён не заўважыў, як прайшло лета, ужо і восень мінае. Кветкі каля Насці адцвілі, адбуялі, пасохлі. Сымон з часам ніяк не пагодзіцца, не дамовіцца, каб час той ішоў, як пры Насці раней – *пазнавальна*... Як увесну з вясной, так цяпер з восенню ніяк не сустрэнецца. Жоўтае лісце на клёнах пагарэла-папажарыла і абсунулася на сцежку, па якой ён вяртаецца з могілак. Туманы пазасцілі далягляды. Ну, значыць, восень. Яшчэ да сёмага снежня будзе рухацца кола гадавое. А потым?

Ён казаў дзецям:

– Мы з вамі жывем у эпоху, калі кожны дзень можам сказаць: летась у гэты дзень мама казала тое ды тое... А пасля сёмага снежня мы ўжо ніколі так не скажам.

Вечарамі Сымон падыходзіць да акна і доўга, пільна ўглядаецца ў асенняе поле, шукаючы на шэрым фоне сасонніку прывід высокай бярозы, пад якой іхняе з Насцяй *месца*, і далей углядаецца душою, па прамой, у бок радзімы. Па радыё сіноптыкі казалі, што будзе цёпла яшчэ адзін дзень, а ён ужо чуе грудзьмі сур’ёзны сівер.

– Такі вецер, такі вецер, – калісь убягала Насця знадворку, хапала сябе за плечы і смяялася. – Такі вецер!

Успомнілася, як некалі маці ў бедным яго дзяцінстве ў Васілевічах паглядала моўчкі ў вокны на вечаровы захад і чакала начнога сіверу – калі ён у коміне завые. Тады яшчэ нідзе на свеце ніякай Насці не было, а толькі барвовае неба над далёкім лесам і адны ваўкі ў лесе на Падрэчцы, у Старыне, на Паляшчыне, у Абланках, на Паповым поплаве...

*24 лістапада 2014 г.*

### ***ДЗЕЦІ***

Сонца свеціць на дарогу —
слава Богу! Слава Богу!
Жыта ля дарогі справа —
Богу слава! Богу слава!

Злева лес, уверсе неба.
Слава Богу, так і трэба!
А каб дожджык не паліўся,
кожны Богу памаліўся.

Бачым – пад бярозкай лава.
Леснiку i Богу слава!
Перасядзелi знямогу
i – наперад! Слава Богу!

Перайшлi густы асiннiк,
бачым – крыж у небе сiнiм,
а пад iм царква святая,
там нас бацюшка чакае.

Ах, якое гэта шчасце
з рук яго узяць Прычасце!
Прыкладземся да iконкi
i дамоў наперагонкi.

Вось мы й дома, слава Богу!
Дзякуй роднаму парогу,
дзякуй ладу ў роднай хаце,
слава, слава Божай Мацi!

Нам, пакуль, жыццё – забава.
Богу слава! Богу слава!
I ў канцы шляху зямнога
дай нам Бог уславiць Бога.

Алесь Аркуш



...неадм...

# Захоп марсіянамі Беларусі

***Урывак з рамана***

## Частка першая

Зіма не спяшалася прыходзіць. Стаяла цёплае восеньскае надвор'е. Увогуле нічога не папярэднічала гэтаму дзіўнаму сну. Мінуў звыклы дзень, са звыклымі жыццёвымі клопатамі. Надышоў вечар. Полацкі пісьменнік Васіль Кроква з паўгадзінкі пагартаў стужку сяброў у сваім Фэйсбуку, наведаў некалькі інфармацыйных сайтаў. Ніякіх адметных падзеяў за мінулы дзень не адбылося – ані ў Беларусі, ані ў свеце.

Кроква прысніў Власта, прычым той быў у нейкім напаўразбураным памяшканні. Будынак нагадваў корпус закінутага цэху. У сярэдзіне будынка ўся падлога была засыпаная друзам. Праз прабоіну ў сцяне Васіль убачыў абрысы полацкай каменнай пажарнай вежы – значыць, гэта недзе ў раёне помніка Сімяону Полацкаму, падумаў ён. Але там няма ніякіх прамысловых аб'ектаў. Хіба што толькі гаражы мясцовай пажарнай часткі.

Кроква адразу пазнаў Власта. Ластоўскі быў дакладна

такі, як на класічным фотаздымку – у сціплым шэрым гарнітуры, з вузкай стужачкай гальштука. Мужчыны павіталіся, але толькі на словах. Власт руку не падаў, а Кроква не насмеліўся гэта зрабіць. Пры гэтым абодва размаўлялі неяк тэлепатычна, іх вусны былі нерухомыя. Тады Крокву гэта не падалося незвычайным. Толькі нараніцу, калі ён пачаў асэнсоўваць сон, ён згадаў гэтую дзіўную акалічнасць.

Власт паклікаў Крокву ісці за ім. Яны мінулі цэнтар закінутага памяшкання. Роўна ў сярэдзіне будынка ў столі была дзірка, праз якую на падлогу падаў прамень. У зыркім святле віравалі клубы пылу, як мільярды планетаў у невядомай галактыцы. Кроква заўважыў, што побач з гэтым промнем абрысы постаці Власта захісталіся і згубілі выразнасць. Але калі Власт пайшоў далей, гэтыя зрокавыя хістанні зніклі. Насупраць чарговай прабоіны ў сцяне Ластоўскі спыніўся. У перспектыве праспекту Францыска Скарыны быў бачны буданак полацкай мэрыі. Усё яго левае крыло пужала чорным колерам, відавочна гэта сталася або ў выніку пажара, або нейкага моцнага задымлення. Над будынкам лунаў незразумелы сцяг з вертыкальнымі чорнымі палосамі.

– Полацак захапілі марсіяне, – сказаў Крокву Ластоўскі.

– Але ж я ўчора днём быў у гэтым будынку – ніякіх марсіянаў там не бачыў, – здзіўлена прамовіў Васіль, хутчэй для самога сябе, бо зараз абгарэлую мэрыю ён мог назіраць на ўласныя вочы.

– Больш таго, яны ўжо захапілі ўсю Беларусь, – дадаў Власт.

– І што цяпер рабіць? – разгублена спытаў Кроква.

– Трэба ратаваць Бацькаўшчыну. – Вусны Ластоўскага заставаліся нерухомымі, але Кроква выразна пачуў гэтыя словы.

– Як ратаваць?

– Напрыклад, напісаць кнігу з назвай “Захоп марсіянамі Беларусі”, – адказаў Ластоўскі.

– І гэта ўсё?! – Вочы полацкага пісьменніка акругліліся ў трывожным здзіўленні.

– Гэта толькі пачатак, але мусіш ужо заўтра пачаць працу. – Голас Ластоўскага гучаў без уплыву якіх-кольвечы пачуццяў, як у военачальніка, які павінен усім сваім выглядам паказваць, што ўсё пад кантролем, няма чаго хвалявацца, і калі не будзем губляць галавы, то пераможам.

Прачнуўшыся, Кроква сеў на ложак і хвілінаў дваццаць асэнсоўваў сон. У сне ён не паабяцаў Власту, што напіша раман “Захоп марсіянамі Беларусі”. Да таго ж назва гэтая яму абсалютна не падабалася. Якія яшчэ марсіяне?! Але нейкае трывожнае пачуццё вярэдзіла душу.

* * *

Дваццацігадовы Алесь Дудар прыехаў у Полацак цягніком з Віцебску. Лютаўскі дзень хіліўся на вечар. На вакзале ён пачаў распытваць, як яму прайсці да рэдакцыі газеты “Полоцкий пахарь”, але ягоную рафінаваную беларускую мову не кожны мог тут зразумець. Можа з трэцяга роспыту яму дапамагла чарнявая дзяўчына, якая патлумачыла паэту, як прайсці да будынка, у якім месцілася рэдакцыя. Дудар меў накіраванне на працу ў полацкую акруговую газету.

Лютаўскі мароз хутка пачаў даймаць паэта. Ён перыядычна хаваў твар у каўнер свайго кажушка, які шмат пабачыў на сваім вяку. Поўсць авечкі

захоўвала пахі роднага бацькоўскага дому і гэты ўспамін таксама саграваў хлопца. Дудар спяшаўся трапіць у рэдакцыю – часу яму бракавала. Паэт мог застацца проста пасярод вуліцы, калі нікога не заспее ў будынку.

Па дарозе Алесь думаў пра беларускі горад. У цягніку ён увесь час чуў беларускую мову, большасць людзей ў вагоне былі вяскоўцамі, або жыхарамі невялікіх мястэчак. Яны абмяркоўвалі віды на ўраджай, кошты на полацкім кірмашы, нейкія свае турботы і клопаты. Але як толькі ён ступіў на вакзальны перон у Полацку, мова нібыта адразу знікла. Горад сустрэў яго расейскай гаворкай. Так было і ў Віцебску, дзе ён месяц адпрацаваў у тамтэйшай газеце. Вось і ягоныя звароты да полацкіх чыгуначнікаў не былі зразуметыя. У такіх выпадках Дудар часам пераходзіў на расейскую мову, але гэтым разам заўпарціўся і пачаў шукаць іншага суразмоўцу. Заўжды яму рабілася прыкра і балюча. Чаму так? Гэтае пытанне ён задаваў сабе сотні разоў. Ён меў некалькі адказаў, але ўсе яны не задавальнялі. Ён зноў і зноў вярэдзіў сваю душу гэтым балючым пытаннем, спрабуючы знайсці не толькі адказ, але і спосаб, як гэтую праблему развязаць. Для Дудара не было ніякага іншага варыянту будучыні роднай Беларусі, як толькі ў развіцці і пашырэнні роднай мовы. «Беларусі перадусім не хапае нацыянальнай культуры», – казаў сабе Дудар. Таму, па вялікім рахунку, і была заснаваная Дударом і яго паплечнікамі літаратурная арганізацыя “Маладняк”. Каб несці культуру ў беларускія масы. А пад словам “культура” маладнякоўцы мелі на ўвазе і беларускую мову. Бацькі-заснавальнікі “Маладняка” марылі пра стварэнне філіяў літаратурнай арганізацыі ў кожным беларускім горадзе і нават у невялікіх мястэчках. Таму Дудар і прыбыў у Полацак як місіянер беларускай культуры, няхай сабе і пралетарскай, але перадусім беларускай.

Будынак, дзе месцілася рэдакцыя, Дудар знайшоў хутка, – ён знаходзіўся амаль на цэнтральным пляцы горада. На шчасце, паэт заспеў рэдактара газеты на працоўным месцы. Гэта быў мужчына сярэдняга веку, гадоў на дзесяць-пятнаццаць старэйшы за яго. На рэдактары быў пакамечаны гарнітур мышынага колеру. Стомленыя вочы чыталі нейкія паперы, якія бязладна грувасціліся на стале. Дзверы ў кабінет былі адчыненыя. Дудар лёгка грукнуў у іх і прывітаўся:

– Добры дзень!

– Здравствуйте, товарищ! Присаживайтесь. Через пять минут я освобожусь. Тут, знаете, срочно нужно вычитать материал – прислали из окружкома. И как всегда за несколько часов до сдачи номера.

Дудар сеў на адзін з венскіх крэслаў, якія стаялі ля сцяны насупраць стала. Нейкай іншай мэблі ў пакоі не было. Складалася ўражанне, што рэдактара сюды засялілі часова. Далі стол і крэсла. Працуй, таварыш. Прыйдзе час, гэтак сама хутка высялім, як і засялілі. Памятай пра гэта і не будуй далёкасяжных планаў.

«Я б цябе прыбраў ужо сёння ж, русацяп,» – незадаволена падумаў Дудар.

– Ну вот и всё, – выгукнуў рэдактар, распісаўся на паперах, якія чытаў, і некага гучна паклікаў: – Володя, зайди-ка быстренько.

У суседнім па калідоры пакоі адчыніліся дзверы і да рэдактара зайшоў хлопец прыкладна аднаго ўзросту з Дударом.

– Вот, готово, теперь можно нести в набор. Сгоняй, Володя, в типографию. Скажи, что я просил оперативно набрать, чтобы ещё сегодня вычитать набор.

Хлопец узяў паперы і выйшаў з рэдактарскага пакою.

– Слушаю вас, товарищ. Вы что-то написали для нашей газеты? – нарэшце рэдактар звярнуў увагу на незнаёмца.

– Я да вас прысланы на працу, – адказаў Дудар, устаў з крэсла і падаў складзеную у столку паперу, якую ўжо некалькі хвілінаў камечыў у руках.

Рэдактар узяў паперу, разгарнуў і пачаў чытаць. Ён прачытаў усё да канца і нават надпіс на пячатцы агітацыйна-прапагандысцкага аддзелу Віцебскага акружкаму.

– Вот и отлично, – сказаў рэдактар, – нам как раз нужна помощь. Мы ждали вас. Нам звонили из Витебска. Сейчас я вам напишу бумагу, что бы вас поселили в общежитие. Это тут рядом. Володя вас проведёт.

Рэдактар пачаў пісаць паперу з просьбай пасяліць новага працаўніка газеты.

Дудар устаў з крэсла і падышоў да вакна. На вуліцы ўжо шарэла. Сонца няспешна кацілася за званіцы вялікага сабору, які стаў на другім баку пляца.

* * *

Васіль Кроква быў фрылансэрам – пісаў для некалькіх газетаў. Гэта дапамагала яму ўтрымліваць сям'ю. Занятак літаратурай у Беларусі ў XXI стагоддзі амаль не прыносіў прыбытку. Гэта, хутчэй, было пакліканне. Беларусь заўсёды трымалася на літаратуры і паўстала з літаратуры. Прыкладна так лічыла большасць беларускіх пісьменнікаў. Васіль Кроква пісаў, бо не мог не пісаць. У літаратуру ён прыйшоў як паэт у далёкія студэнцкія гады. Але калі ён сур'ёзна пасталеў, адчуў, што мусіць ствараць вялікія празаічныя творы, каб было прасторна ягоным думкам, якія шчодра раіліся ў ягонай галаве. Кроква ніколі не арыентаваўся на нейкія моды, запатрабаванні выдаўцоў, або на патрэбу замежнага чытача. Ягоныя раманы былі герметычныя і скіраваныя выключна на беларускую аўдыторыю. Замежнікам яны былі б зусім не зразумелыя. Таму Кроква цураўся модных літаратурных тусовак і хаваўся ад усяго свету ў ціхамірнай правінцыі. Пасля сканчэння ўніверсітэту ён адмыслова ўзяў размеркаванне ў Полацак. Тут ён стварыў сям'ю, стаў журналістам і напісаў свае лепшыя літаратурныя творы.

Кроква верыў у свой лёс. Лёс трэба вычуваць і не імкнуцца рабіць тое, што табе не наканавана. Васілю здавалася, што калісьці, у іншым жыцці, ён ужо жыў у Полацку, і быў перакананы, што ў нейкіх таемных куточках яго мозгу захоўваюцца ўспаміны пра гэта. Часам яны фрагментарна адкрываліся ў начных відзежах. Таму ён вельмі сур'ёзна ставіўся да сноў. Толькі ў адрозненне ад традыцыйнага іх ўспрымання, як нейкага зашыфраванага прадказання будучыні, Кроква бачыў у снах напамін пра мінулыя падзеі, якія нікуды не знікаюць, а дзесьці існуюць у іншай рэальнасці.

Сон, у якім ён сустрэўся з Ластоўскім, выбіваўся са звыклага ўспрымання снення, да якога звыкся Васіль. Ластоўскі не быў з мінулага. Гэта было абсалютна дакладна зразумела Крокву. І пры чым тут марсіяне? Ніякіх больш-менш сэнсоўных тлумачэнняў сну Кроква не знаходзіў.

Васіль нават дзеля цікавасці схадзіў у мэрыю, наведаў аддзел капітальнага будаўніцтва, дзе ўзяў інфармацыю пра ўзвядзенне новага супермаркету ў мікрараёне Аэрадром, дзе ён жыў. Мэрыя была такая ж самая, як ўчора і пазаўчора. Ніякіх слядоў пажару на будынку не было. Кроква

нават пашукаў месца, адкуль ён з Ластоўскім аглядаў будынак мэрыі. Але такога месца не існавала ў прыродзе. Бо калі глядзець на будынак з боку праспекта Францыска Скарыны, то бачны толькі адзін бок мэрыі, а не ўвесь будынак.

* * *

Уладзік Скуратовіч аказаўся добрым хлопцам. І пакуль яны разам ішлі ў інтэрнат, Дадар амаль пасябраваў з ім.

– А ты всё время говоришь по-белорусски? – гэта было другое пытанне, якое задаў Дудару яго новы знаёмец.

– Ну, а як я павінен гаварыць, калі я беларус і жыву ў Беларусі. – Такія пытанні заўжды нэрвавалі юнака, але гэтым разам Алесь стрымаўся і не пачаў дыскутаваць.

– Так-то так. Только в белорусских горадах практически все говорят по-белорусски. Вот и наша газета выходит по-руски.

– Да пары да часу. Рэвалюцыя разняволіла народы і беларусы пачынаюць адраджаць сваю Бацькаўшчыну. А якая Бацькаўшчына без матчынай мовы, – скаламбурыў Дудар, засмяяўся і прадэкламаваў: – Паняслася песня волі між лясоў густых, балот...

– О, это строки Михася Чарота, он выступал в Полацке, читал свою поэму «Босыя на вогнішчы». А ты хоть видел живого Чарота?

– Не толькі бачыў, але разам з ім працаваў у газеце «Савецкая Беларусь». І разам ствараў «Маладняк». Можна сказаць, што гэта мой сябар.

– Да ну! – здзівіўся Уладзік. – Так и ты, наверное, поэт?

Уладзік спыніўся і пачаў пільна аглядаць Дудара. Даць веры таму, што гэты хлопец у пацёртым кажушку таксама паэт, было цяжка.

– Не “наверное”, а паэт Алесь Дудар, мае вершы ўжо друкаваліся ў “Савецкай Беларусі”. А хутка выйдзе мая першая кніга “Беларусь бунтарская”.

– Ух ты! – яшчэ больш здзівіўся Уладзік. – Почитаеш мне когда-нибудь? Признаюсь, я тоже пробовал писать стихи. И даже некоторые из них были напечаны в нашей газете. Но мне кажется, они не совсем удачные, чего-то в них не хватает.

– А гэта таму, што пішаш не на роднай мове. Ты думаеш па-беларуску, гэтак сама як твае бацькі і дзяды, а вершы пішаш па-расейску. Таму і не атрымліваецца. Вершы твае нараджаюцца калекамі, у іх няма моўнай мастацкай дакладнасці і прыгажосці. Разумееш?

– Возможно, оно и так, – пагадзіўся Уладзік.

– Вось створым у Полацку філію “Маладняка” і пачнем адпаведную працу. Прыедуць нашыя хлопцы, пачытаюць лекцыі. Пара Полацку ставаць на нацыянальныя культурніцкія рэйкі. – Дудар меў даручэнне ад Цэнтральнага Бюро “Маладняка” стварыць у Полацку філію, як гэта ён зрабіў ужо ў Віцебску.

Навокал ужо зусім стала цёмна. Бадзёра рыпеў снег пад нагамі. Уладзік прывёў свайго новага калегу ў адзін з будынкаў былога езуіцкага калегіюму, які быў пераабсталяваны пад інтэрнат. Тут жылі пераважна вайскоўцы і навучэнцы 43-х полацкіх камандных курсаў. Але спыняліся тут і розныя цывільныя камандзіраваныя. Пахадзіўшы па нейкіх закутках, Уладзік прывёў мажную кабету, якая загадвала гаспадарчай часткай. Дудар паказаў ёй паперу ад рэдактара, кабета прачытала і павяла паказваць Алесю ягоны ложак.

* * *

Кроква любіў Ластоўскага. А ягоную аповесць “Лабірынты” лічыў сваёй настольнай кнігай. Пры канцы 80-х, калі Власта і ягоную аповесць нарэшце рэабілітавалі і надрукавалі ў часопісе “Маладосць”, Кроква збрашураваў гэтыя часопісныя старонкі і зрабіў кнігу. Не ўсё ў гэтай аповесці было яму зразумела, але наяўнасць нейкай таямніцы, якую трэба разгадваць, прымушала глядзець на “Лабірынты” не толькі як на мастацкі твор. Гэта азначала, што да аповесці трэба было вяртацца зноў і зноў. Кроква быў упэўнены, што Ластоўскі нешта зашыфраваў у “Лабірынтах”. Нешта вельмі істотнае ды ізатэрычнае.

Тое, што ў Полацку былі, а можа і зараз ёсць, падземныя хады, не было адкрыццём. У любым старым беларускім горадзе былі свае ўласныя легенды пра сутарэнні і лёхі. Звычайна іх будавалі ў крэпасцях і кляштарах. Гэта дазваляла заможным асобам або мніхам пры небяспецы пакінуць сваё жытло незаўважна. У гэтых сутарэннях таксама хавалі ад хцівага воку скарбы і каштоўныя рэчы.

Полацак быў поўны легендаў пра падзямеллі. З краязнаўчых кніг нават былі вядомыя ўспаміны людзей, якія напачатку XX стагоддзя ў тых лёхах пабывалі.

Васіль верыў у гэтыя легенды. Больш таго, ён лічыў, што ў тых лёхах да сёння перахавана нешта вельмі істотнае для Полацка. Магчыма, нават Полацкі летапіс, пра які ўсе казалі, што ён страчаны назаўсёды. Але як тыя лёхі адшукаць? Васіль некалькі разоў старанна абследаваў усе закуткі Замкавай гары. Са сталёвым прэнтам ён аблазіў нават зарослыя быльнягом і кустамі стромкія схілы ракі. Нічога, аднак, падазронага не знайшоў. Калі нейкі ўваход або выхад з падзямелля тут і існаваў, то, відавочна, быў засыпаны пластом зямлі.

Кроква вылічыў і тое месца, з якога Ластоўскі з Падземным Чалавекам спускаўся ў полацкія лёхі. Недзе побач з тым лазам стаяў некалі будынак Базыльянскага кляштару. Цалкам магчыма, што Ластоўскі спускаўся ў падзямелле са склепу таго будынку. Бо ўсе манастырскія камяніцы ў Полацку мелі свае дрэнажныя лёхі для адтоку грунтовай вады. Некаторыя былі такой вышыні, што па іх можна было, сагнуўшыся, вольна хадзіць.

* * *

Стварыць філію “Маладняка” ў Полацку аказалася яшчэ больш складана, чым у Віцебску. Дудар абышоў усе ўстановы культуры і адукацыі ў горадзе ў пошуках патэнцыйных сяброў літаратурнай арганізацыі. Але знайсці творчых людзей у правінцыйным зрусіфікаваным Полацку было не так проста. Найбольшае расчараванне Дудара чакала ў мясцовым педтэхнікуме. Тут ён меў гутарку з выкладчыкам Аляксандрам Пшчолкам, які наўпрост сказаў юнаку, каб той не баламуціў навучэнцаў і ўвогуле палачанаў, бо “белорусы не принимают в обиход этот язык”.

З такім нахрапістым адмаўленнем Дудар сустрэўся ўпершыню.

– Ведаем, адкуль вы набраліся гэтых думак. Але ранейшыя часы не вернуцца, як бы вы не хацелі і не імкнуліся іх вярнуць, – са злосцю прамовіў Дудар.

Словы гэтыя яму даліся ў знакі, бо Пшчолка напісаў скаргу ў акружны камітэт. Маўляў, грамадзянін Дайлідовіч яго абражаў і абвінавачваў невядома ў чым, ледзь не ў контррэвалюцыі. Насамрэч пільны выкладчык толькі зрабіў вымову юнаку за тое, што той без даволу цягаўся па педтэхнікуму і бунтаваў навучэнцаў.

Дудара выклікалі ў агітацыйна-прапагандысцкі камітэт акружкама, дзе яму прыйшлося даваць тлумачэнні.

Па-іншаму сустрэлі Алеся ў Полацкім лясным тэхнікуме. Тут пераважна вучыліся вясковыя дзеці, таму скрозь гучала беларуская мова. У лястэхнікуме перыядычна адбываліся розныя імпрэзы, сустрэчы і вечарыны. Дудар з задавальненнем іх наведаў. Аднойчы ён і сам быў запрошаны выступіць перад навучэнцамі. Алесь расказаў пра "Маладняк", пра тое, што зараз працуе над стварэннем полацкай філіі літаратурнай арганізацыі, запрасіў тых, хто спрабуе свае сілы ў прыгожым пісьменстве, далучыцца да філіі. Пасля сустрэчы да яго падышлі два навучэнцы. Першы з іх, Уладзімір Паскробка, сказаў, што з'яўляецца карэспандэнтам некалькіх менскіх газетаў, і плануе заняцца літаратурай. Другі – Міхась Гулякевіч – быў проста аматарам беларускай літаратуры, які перачытаў ўсё, што здолеў адшукаць, і чакаў ад Дудара дапамогі ў набыцці кніг беларускіх аўтараў.

Дудар быў рады і гэтай "знаходцы".

* * *

Святло ліхтара ўпала на сцены сутарэння. Падземны ход быў выкладзены з цэглы, цяжка ўжо сказаць якога колеру, бо каменныя бакі лёхаў і столь былі пакрытыя слоем зялёнага налёту, нібыта былі з медзі і ад вільгаці акісліліся. Але зялёнымі сцены былі толькі на пачатку шляху: там, куды яшчэ час ад часу трапляла святло. Далей сцены былі ўжо чорнымі, як быццам бы ў фоташопе прыбралі колер. На столі можна было пабачыць і плямы ад сажы. Відаць, некалі тут хадзілі з паходнямі. У разрэзе падземны ход уяўляў сабой усечанае кола, бо падлога ўсё ж была роўнай, шырыня яе была не болей за метр.

Лёхі вялі ў бок Сафійскага сабору. Але ў падзямеллі ўжо цяжка было арыентавацца, лёхі маглі кудысьці адхінуцца, а заўважыць гэта было амаль немагчыма.

Пасля 40-50 метраў стала цяжка дыхаць. Ён не звярнуў на гэта ўвагу і рушыў далей. Праўда, гэты асцярожны рух наўрад ці можна было б назваць шпацырам. Ён сунуўся хутчэй як мінёр па замінаваным полі. Спачатку яму здавалася, што можа абрынуцца столь і яго засыпле. Ці яго самога, ці выхад з падзямелля. Затым яму пачало мроіцца, што нехта ў гэтых лёхах ужо ёсць і сочыць за ім. Ён нібыта чуў гукі таропкіх крокаў, нейкія ўсхліпы і шоргаты. Пасля таго спыняўся, прыслухоўваўся, і дзіўныя гукі адразу знікалі. Нібыта той, ці тыя, хто былі ў лёхах, умэнт заціхалі.

Ён ужо пачаў шкадаваць, што пацёгся ў гэтае падзямелле адзін. Навошта было так рызыкаваць? Але не хацелася ні з кім дзяліцца гэтым адкрыццём. Апошнім часам ён нікому не давяраў. Нехта зусім падсеў на грошы. Нехта проста стаў падазроным. Нехта спіўся і дэградаваў. Не, давяраць не было каму. Ён не мог так рызыкаваць: усё трэба рабіць самастойна. І не толькі таму, каб сабраць усе лаўры. Не было ўпэўненасці, што хтосьці не захоча пагрэць рукі на тым, што схаванае тут ад хцівых позіркаў.

Дыхаць стала зусім цяжка. Ён спыніўся і адчуў як гулка тахкае сэрца ў грудзях. Здаецца, яго стук разлятаўся па ўсім падзямеллі. Затым яго хіснула і падалося, што сэрца спынілася. Як быццам бы ў тэлевізары раптам на экране з'явіліся перашкоды ў суправаджэнні гучнага свісту. Гэты свіст імкліва нарастаў і ён адчуў, што губляе прытомнасць.

* * *

Праца ў газеце не была цяжкай. Дудар галоўным чынам займаўся разглядам рэдакцыйнай пошты. А таксама рыхтаваў да друку карэспандэнцыі актыву газеты, перадусім моладзі з навакольных мястэчак і вёсак. Гэта было зручным, "стратэгічным" месцам для стварэння філіі. Праўда, адна справа – напісаць нататачку ў газету, з тузінам памылак, да таго ж на трасянцы, і зусім іншая – мастацкі твор. Але Дудар, прынамсі, ужо ведаў некалькі чалавек, якія маглі больш-менш змястоўна і гладка выкладаць на паперы свае думкі. Больш за ўсё яго раздражняў іншы бок працы – газета была расейскамоўнай, і таму даводзілася з трасянкі перакладаць на расейскую мову. А гэта азначала, што ён як бы сам русіфікаваў маладых людзей, паказваючы, дзе яны памыляюцца, пішучы па-расейску. Разуменне гэтага свайго дэструктыўнага чыну бывала даводзіла яго да шалу. Ён некалькі разоў парываўся завесці гутарку з рэдактарам пра пераклад газеты на беларускую мову, але рэдактар і слухаць не хацеў, тлумачачы, што такое пытанне вырашаецца нават не ў Полацкім акругкаме.

Існавала, аднак, добрая магчымасць працаваць і ў іншым кірунку. Гэта адбывалася пры непасрэдным кантакце з аўтарамі газеты. Па-першае, Дудар усіх запрашаў у філію "Маладняка", якую яму даручана стварыць Цэнтральным Бюро літаратурнай арганізацыі. Па-другое, ён усіх намаўляў вучыць беларускую мову і спрабаваць пісаць на ёй, бо, як тлумачыў малады менскі паэт, усё адно з часам полацкая газета пяройдзе на беларускую мову, то варта ўжо зараз пачаць гэты працэс з нізоў – з селькараў і рабкараў.

Выдатным падарункам Дудару стаў выхад у Менску яго першага зборніка вершаў "Беларусь бунтарская". Гэта значна павысіла ягоны аўтарытэт у вачах полацкага кіраўніцтва і сярод полацкай моладзі. Цяпер Дудару даручалі і ўкладанне літаратурнай старонкі ў тутэйшай газеце, і, натуральна, у ёй стала з'яўляцца значна больш беларускамоўных твораў. Дудара таксама актыўна пачалі запрашаць на сустрэчы ў школкі, іншыя навучальныя ўстановы, у працоўныя калектывы. Ён паспеў выступіць не толькі ў самім Полацку, але і ў Ветрыне, і Дрысе. Паўсюль ён шукаў патэнцыйных сяброў ствараемай філіі «Маладняка». Праўда, вынікі гэтых пошукаў былі сціплымі. Як высветлілася, паэты і празаікі не нараджаюцца самі па сабе, іх ствараюць і вырошчваюць. І для гэтага патрэбны адпаведныя ўмовы.

* * *

Выраз "узняцца на гару" для Васіля Кроквы не з'яўляўся нейкім абстрактным і ўмоўным. А быў абсалютна канкрэтным і азначаў узняцца на полацкую Замкавую гару, на якой, дамінуючы над усім наваколлем, стаяў Сафійскі сабор. Найбольш пісьменніку падабалася ўздымацца на гару з боку Запалоцця. У гэтым пад'ёме быў нейкі рытуал – прайсці па мастку праз Палату, пабачыць, як меншая рака сустракаецца з большай, і неспешна, прыступка за прыступкай, узыйсці на гару. Пры гэтым добра ўсведамляць, што ўскрай гары некалі ішла драўляная абарончая сцяна. І каб патрапіць у Верхні замак, трэба было прайсці праз браму з вежай, якая, як казачны волат, ахоўвала ўваход у сэрца горада.

Гэтым разам Васіль не шукаў уваход у падзямелле. Ён прыйшоў сюды каб паразважаць і падсілкавацца ад гэтай тысячагадовай крыніцы энергіі. Кроква сеў ля камля бярозы, якая расла амаль ля самага краю гары над вусцем Палаты. Адсюль быў добра бачны новы мост праз Дзвіну. Пад час

яго будаўніцтва рабілі насыпную дарогу на мост, якая прайшла якраз па сярэдзіне былых Міхайлаўскіх могілак. Гэта было жахлівае відовішча – налева і направа ад дарогі ляжалі драўляныя рэшткі трунаў (а часам і цэлыя труны), чалавечыя косткі і старыя надмагільныя помнікі. Васіль некалькі разоў пісаў у газеты, у тым ліку і сталічныя, пра будаўнічае варварства, але дамогся толькі таго, што ўсе гэтыя «спадарожныя знаходкі» будаўнікі хуценька прыбралі. Пакінуўшы, незразумела чаму, толькі два надмагільныя помнікі – адзін нейкаму стацкаму саветніку Пагодзіну, другі – маладой палачанцы, якая пайшла з жыцця у 18-гадовым узросце. Гэтыя помнікі яшчэ некалькі гадоў ляжалі побач з новай дарогай. Затым і яны некуды зніклі.

Праваслаўныя Міхайлаўскія могілкі зруйнавалі саветы ў 30-х гадах, калі пашыралі полацкі аэрадром. Зраўнялі з зямлёй не толькі магілы, але і саму Міхайлаўскую царкву, якая месцілася пасярод старых кладоў. Самалёты з савецкімі зоркамі на крылах і фюзеляжах узляталі тут проста над трунамі, косткамі і надмагільнымі помнікамі.

Кроква паспрабаваў гэта ўявіць і па ўсім яго целе пабеглі нервовыя мурашы. Ад старых жыхароў Запалоцця ён неаднойчы чуў розныя страшныя гісторыі, звязаныя з гэтым трагічным месцам. Тут почасту адбываліся розныя жахлівыя здарэнні – забойствы і згвалтаванні, – і неаднойчы бачылі ўсялякія дзіўныя з'явы. Вось і цяпер найбольш дарожных аварыяў у Полацку здараецца менавіта на гэтым, здавалася б, абсалютна бяспечным, участку дарогі на новы мост.

«Нешта ёсць у гэтым свеце, што нараджаецца і дзейнічае тысячагоддзі, нягледзячы на ўсе грамадска-палітычныя змены і закалоты, – разважаў Кроква, прытуліўшыся спінай да камля бярозы. – І, відаць, гэта значна больш істотнае, чым розныя партыі, грамадскія рухі і аўтарытарныя рэжымы. Хаця, з іншага боку, менавіта аўтарытарныя рэжымы і пакідаюць пасля сябе такія жахлівыя анамальныя мясціны, учыніўшы гвалт і злачынства, парушыўшы святыя традыцыі і запаветы дзядоў».

Кроква не быў зацятым антыкамуністам. Ён, хутчэй, прытрымліваўся сваёй тэорыі дабра і зла, святла і цемры. Паводле яго, у кожным асяроддзі, сярод прыхільнікаў любых ідэяў і перакананняў ёсць светлыя і цёмныя людзі, калі не лічыць зусім ужо дэманічных і вар'яцкіх, а такіх людзей Кроква ўважаў проста за небяспечна хворых. Бо нават сярод нямецкіх акупантаў часоў Другой сусветнай вайны было шмат светлых людзей. Адзін з такіх немцаў папярэдзіў дзеда Крохвы, што яго на раніцу арыштуюць, і такім чынам уратаваў усю дзедаву сям'ю, якая ўночы выехала ў партызанскі лес. Уратаваў і яго бацьку, які быў тады малым хлопчыкам і, атрымліваецца, уратаваў і Крокву.

Аднак у сваёй тэорыі Васіль ніяк не мог знасці прычыну падзела людзей на светлых і цёмных. Калі казаць, што тут грае асноўную ролю выхаванне з маленства, то якім чынам здараецца, што браты-блізняты вырастаюць абсалютна рознымі людзьмі, часам – супрацьлеглымі? Як так атрымліваецца, што святыя айцы і мніхі, якія палову жыцця правялі ў сумоўі з Богам, раптам здзяйсняюць жудасныя злачынствы? Як патлумачыць дзеянні зацятых вернікаў, калі яны з ахвотай дапамагалі нямецкім карнікам знішчаць габрэяў? Падобна, што прычына падзелу на светлых і цёмных палягае значна глыбей, а прыкметы прыналежнасці захоўваюцца, магчыма, у генах. Або людзі не паміраюць, а толькі мяняюць цялесную

абалонку. І ўсе свае назапашаныя якасці штораз пераносяць з сабой у новую чалавечую істоту.

Крокве дастаў са сваёй невялікай сумкі, якую насіў на раменчыку праз плячо, нататнік і сваім мудрагелістым почыркам запісаў: «Людзі, магчыма, не паміраюць, а толькі мяняюць свае цялесныя абалонкі». Затым ён спусціўся з гары, з таго самага боку, з якога і падняўся, і пашыбаваў спешным крокам у бок свайго мікрараёна.

* * *

Чарговы выклік у Полацкі акруговы камітэт не абяцаў Дудару нічога добрага. Пачуццё трывогі нарастала з кожным няроўным крокам, якім ён набліжаўся да адпаведнага будынку. Мінулы раз ён меў сведкаў, студэнтаў педтэхнікума, якія яго вадзілі па навучальнаму корпусу. Таму данос Пшчолкі аказаўся марным. Студэнты пацвердзілі, што ніякім чынам Алесь яго не абражаў, толькі сказаў, што царскія часы ніколі ўжо не вернуцца, а Савецкая Беларусь будзе спрыяць нацыянальнай культуры, а значыць і мове. Пра гэта можна было прачытаць у любой сталічнай газеце на першай паласе. Гэта была, можна сказаць, генеральная лінія камуністычнай партыі ў нацыянальным пытанні. Таму ў акруговым камітэце ніякім чынам не маглі аспрэчыць словы Дудара, тым больш палічыць іх за абразу. Нават калі і не былі прыхільнікамі беларускага адраджэння.

Прадчуванне Алеся не падманула. Гэтым разам сітуацыя была больш складанай. Дудару паказалі ананімку, у якой невядомы «добразычлівец» паведамляў у акругкам, што Аляксандр Дайлідовіч, супрацоўнік газеты «Полоцкий пахарь», ён жа паэт Алесь Дудар, падчас наведвання Ветрына называў кіраўніцтва Полацкай акругі русацяпамі, якія сабатуюць палітыку беларусізацыі, не хочуць пераводзіць сваю газету на беларускую мову, нічога не робяць у сферы адукацыі. Казаў, што неўзабаве камсамол такіх савецкіх работнікаў пагоніць бруднай мятлой.

Гэта быў удар пад дых, бо цяпер абражанымі рабіліся работнікі Полацкага акругкаму. Не цяжка ўявіць, якая адбылася размова і чым пагражалі Дудару. Алесь усё аспрэчваў і казаў, што гэта хлусня і чыстай вады правакацыя, бо калі б чалавек меў сапраўдныя факты, то навошта яму пісаць ананімку. У камітэце паабяцалі сур'ёзна разабрацца і прыняць меры. Меры маглі быць надзвычай радыкальнымі.

Назаўтра ў Полацак прыехаў сам кіраўнік "Маладняка", да таго ж галоўны рэдактар газеты "Савецкая Беларусь" Міхась Чарот. Яго візіт абудзіў правінцыйны Полацак. Паэта сустрэлі як шаноўнага госця, нават наладзілі яму вечарыну ў Камсамольскім клубе. Чарот меў шчырую гутарку з кіраўніцтвам акруговага камітэту і паручыўся за свайго маладога калегу Алеся Дудара.

Калі Дудар на чыгуначным вакзале праводзіў Чарота на цягнік, той нахіліўся да ягонага вуха і ціха прамовіў: "Трымай свой язык за зубамі, бо з ГПУ я цябе ўжо не выцягну".

Увечары Дудар, застаўшыся сам-насам, напісаў верш.

Цені блудзяць па твары,
Сэрца точыць нуда.
Сёння лепшы таварыш
Можа цябе прадаць.

Сёння не верыць нікому,
Можа я сам шпіён.
Сціснуць рукамі скроні,
Няхай пагасне агонь.

Многія маюць сховы
У шкліцах чырвоных маніст.
Скажы па свойму слова,
Крыкнуць – ты шавініст.

Будзіць волатаў косці,
Будзіць сафійскі звон.
Прыйшлі вы да нас у госці
І нам надзелі ярмо.

* * *

З боку Запалоцця, непадалёку ад вусця Палаты, прычаленым да дзвінскага берагу, стаяў дракар. Тут досыць нізкі бераг, крыху топкі, бо шчодра б'юць крыніцы, таму дракар, які, відаць, на хуткасці ўехаў у бераг, ці не напалову корпуса аказаўся сярод берагавога аеру. Гэта дазваляла амаль па сухому трапіць на карабель. Затое каб адчаліць, спатрэбіліся б цяглікі ці не тузіна мужчынаў бо саштурхнуць дракар на ваду цяпер было не так проста.

Побач з дракарам нікога не было. У такую раніцу хіба што рыбака можна сустрэць у гэтай ціхамірнай мясціне. Ці быў хто на самім дракары Крокву не было відаць, бо, па-першае, ён бачыў дракар з боку, а чалавек мог проста сядзець на днішчы, або ляжаць, а па-другое, ветразь карабля быў спушчаны не да канца, таму за ветразем мог таксама нехта знаходзіцца.

Спачатку Васіль падумаў, што гэта чарговая вандроўка скандынаваў, якія любілі займацца рэканструкцыяй часоў вікінгаў. Пра адну з такіх вандровак ён неяк рабіў рэпартаж. Але чым бліжэй падыходзіў да карабля, тым мацней у яго ўзнікала пачуццё, што гэта сапраўдны дракар. Што значыць "сапраўдны", наўрад ці ён мог патлумачыць. Але што гэта не сучасная падробка, Кроква быў абсалютна ўпэўнены.

Драўляны Одзін на носе дракара быў такім архаічным і праўдзівым, што Кроква нават уляхнуўся. Хвілінаў пяць ён прастаў насупраць Одзіна, баючыся яго абмінуць і ступіць на карабель. І тут пачуў голас:

– Ну, смялей, чакаю цябе ўжо колькі гадзінаў.

За ветразем устаў чалавек. І Кроква імгненна яго пазнаў. Гэта быў Ластоўскі.

Кроква асцярожна ўскараскаўся на борт дракара. На днішчы ляжалі вёслы і скураныя торбы, наладаваныя нейкім майном. Асцярожна пераступаючы праз усё гэта, Кроква пасунуўся ў бок Ластоўскага. Той ужо сядзеў на лаве для весляра і глядзеў у бок Замкавай гары. Кроква наблізіўся да яго і сеў побач. Нейкі час яны маўчалі. Як доўга, Кроква пазней не мог згадаць. Але ён выдатна памятаў, што першым парушыў маўчанне Ластоўскі. І зноў, як і мінулым разам, ён не варушыў вуснамі.

– Як думаеш, ці наведваў гэты дракар Бізантыю?

Пытанне Крокву падалося ня тое што дзіўным, але бессэнсоўным. Якая розніца, наведваў ці не наведваў гэты дракар Бізантыю.

– Магчыма, і наведваў? Але якое гэта мае значэнне?

– Гэта можа быць доказам таго, што сапраўды існаваў шлях "з варагаў у грэкі".

Ага, падумаў Кроква, значыць Ластоўскі тут як гісторык і даследчык, як аўтар “Кароткай гісторыі Беларусі”. Гэтая думка неяк разняволіла Крокву, бо ён ужо пачаў гадаць, што за мэта гэтай чарговай сустрэчы.

Ластоўскі працягваў:

– Гэты дракар не паспеў на дапамогу Рагвалоду і цяпер ён непрытульны, як Лятучы Галандзец. Чуў легенду пра Лятучага Галандца?

– Канечне, кожнае дзіця ведае гэтую легенду, – адказаў Кроква Ластоўскаму, як вучань настаўніку.

– Усё было б інакш, калі б гэты дракар паспеў у час. Уся беларуская гісторыя пайшла б іншым шляхам. Вельмі небяспечна ў лёсаносны перыяд не паспець у час.

– А дзе каманда гэтага дракара? Бо, напэўна, не дракар вінаваты, а каманда, – нерашуча спытаў Кроква, бо, наколькі ён ведаў, у Лятучага Галандца былі і капітан, і каманда. Бо што такое карабель без каманды – проста чарупіна сярод хваляў.

– Каманда з’яўляецца адразу, як толькі ўздымаецца ветразь, – Ластоўскі павярнуў галаву ў бок мачты карабля і дакрануўся рукой да ветразя. – Маеш рацыю, вінавата каманда, а не дракар. Але людзі могуць памыляцца і рабіць кепскія ўчынкі, а дракар не мае права памыляцца. Дракар – гэта пасланнік лёсу. Ёсць у свеце больш сур’ёзныя і важныя рэчы, чым людзі і іх жаданні, планы і справы.

Кроква сіліўся зразумець, што гаворыць Ластоўскі, але ў яго гэта не атрымлівалася.

– Але людзі несмяротныя, яны толькі мяняюць абалонку, – нечакана для самога сябе сказаў Кроква.

Ластоўскі ўважліва паглядзеў на Крокву. Затым павярнуў свой твар у бок Сафійскага сабору і спытаў:

– Бачыш, на крыжы Сафіі сядзіць крумкач? Гэта птушка, або чалавек?

Кроква паглядзеў ў бок Сафіі і ўбачыў на крыжы званіцы чорную кропку.

– Канечне, птушка, – упэўнена сказаў Кроква.

– Але гэта таксама абалонка. Разумееш? Усё, што ты бачыш навокал – гэта абалонкі. Чалавек не можа сам абраць сабе тое, што заманіцца. Гэта вырашае дракар. Дакладней, той дракар, да каманды якога ён прыпісаны. Калі твой дракар спазняецца, ты апынешся на Лятучым Галандцы. І тады як бы ты не хацеў, твой лёс губляе мэту, тады дракар проста перасоўваецца ў прасторы – бязмэтна і без порта прыпіскі.

Кроква адчуў, як пад ім заварушыўся карабель, як нешта жывое.

– Нам пара пакінуць гэты дракар-прывід. – Ластоўскі ўстаў і пачаў прабірацца на запалоцкі бераг. Кроква пасунуўся следам.

Калі яны абодва сышлі на зямлю, на дракары рэзкім рухам узняўся ветразь і карабель рыўкамі пачаў ссоўвацца на ваду. На вадзе карабель ашчацініўся вёсламі і досыць імкліва пайшоў супраць плыні.

Крокву хацелася задаць Ластоўскаму апошняе пытанне, каб неяк праясніць для сябе пачутае. Ён не вытрымаў і запытаўся:

– А мэта якая? Якая мэта?

– Не даць марсіянам захапіць Беларусь. – Пачуў Кроква ў адказ, але самога Ластоўскага ўжо не ўбачыў.

Зміцер Захарэвіч



...луня...

# Мізерыкордыя

* * *

Занялася срэбрам
шчодрая ралля...
Частавала небам
стылым далягляд,
Паднялася Юр'ям
ад сыскоў-крыніцаў,
Ад люстэркаў-студняў
за капцы-званіцаў.
Вырывала груганамі
цемру з гушчароў,
Спавівала каранямі
дня і агнявой
Варажбою, пераняла ў зораў
пару таньчыцца,
Асляпіла места спорам
сваім РАНІЦА.

* * *

Бесстаронне па свеце дзень кожны
Восень пошту разносіць сваю.
І, як на апусцелую пожню,
Ліст, нібы развітальны – апошні,
Лёг знячэўку на даланю.

У лісце тым ні слёз, ні праклёнаў,
Толькі сум абляцелай вярбы.
Спраўджваннем развітання закону
Лістапад апускае заслону
Па завершанай кветнай пары.

Адпусціўшы на бестэрміновы
Адпачынак ва ўзгадках маіх,
І з разрэджанае прасторы
Пасміхаецца захад барвова,
Пакідаючы небасхіл.
Але ўсмешкай не цешыць знікомай –
Ранак іншага не прынясе.
Заўтра, каб не настала ніколі,
З кожнай кропляй атрутнай патолі
Перакрэсліваю пакрысе.

## З "ВОСЕНЬСКІХ ЗАМАЛЁВАК"

*

Лісцё роспачна за вокнамі галосіць:
"Восень, во-осень, во-о-осень!.."
Бо сарве яго ды панясе па свеце
Вецер.
І ляцець па-над зямлёй
Яшчэ нішто,
Але сцелецца да ног
Яно.
Толькі верасень,
саспелым сонцам-яблыкам,
Гукае весела:
"Дабрыдзень Вам!"

*

Марна жнівень
шчодра
неба трусіў,
Хоць сягаеш
позіркам глыбей,

Але
неадольная спакуса
Зорыцца –
не адвядзеш вачэй
У настоены
сталічны
змрочны
стронцый,
І адчужанасць
маю
перапрашай,
Калі
па-над галавой
іскрынак гронкі
У бязважкі
выспелі ўраджай.
Што не апячэ
і не аслепіць,
Толькі нема
дапаможа зразумець
Праз сакральнасць
крохкую
прыкметаў,
Як струменіцца
ў артэрыях
Сусвет.

## ПРАДВЕСНЕ

Прадвесне.
За месяцам месяцам
Струменяцца па праспекце –
Пара!
На срэбнай карэце
Праехаць
Па восеньскім смецці
Паспела
Нявестай
Зіма,
Аздобіўшы снегам
Паўсвета
Паўгода назад.

## ВЯСНОВЫЯ НАТАТКІ

А вясны зноў амаль не было –
Не пачуў капяжоў, як належыць,

Ледзьве ўгрэла – й кучомкі далоў
Ад Сафіі да Белай Вежы.

*

Прыбылі незаўважна здалёк
Птахі грамадой мітуслівай,
Прамяняўшы на сціплы раёк
Свой мітычны, загадкавы вырай.

*

Час падчысціў дні ў календарох
Ад слаты й нестрыманых паводкаў,
І вяскоўцы абапал дарог
Жамярою раяцца на сотках.

*

Мне не хочацца ехаць назад
У апрыкры да моташы стронцый
Стуль, дзе цнотаю квецені сад
Асляпляе паўдзённае сонца.

* * *

...І нарадзілася крыніца на зямлі,
З падвалін-нетраў выйшла да жыцця,
І малады гарэзлівы ручай
Паміж затканых сонцам гушчароў лясных
У свет пабег дарог сабе шукаць.

Пад пільным позіркам кашлатых аблачын
Скрозь летні сквар, растопіцаў слату
Штораз дужэючы ён напрасткі імкнуў
Куды паклікала гасцінна далячынь –
За небасхіл, дзе мора сінь і шум.

Вясёлак цеснымі рабіліся масты,
А ён братоў гуртамі далучаў –
Хопіць прастору ветлага, маўляў,
І вось, русалак зазвінелі галасы
Ды першы ветразь грудзі пругкія напяў.

Муры суворыя ўзраслі на берагах
І хвалі ройнымі стагоддзямі плылі,
Вакол змяняліся дзяржавы і багі,
Ды толькі жорны не спыняліся ў млынах,
Хоць жа вада было рудзела ад крыві.

Тае, што адспрадвек капежыла з крыжа
З безабароннае працятай далані,
Якая праўду несла даць усім,
Але ўзнікала за мяжой мяжа
І сваю праўду ведаў кожны новы Рым.

Судзіў караў, праклёнамі ўшчуваў,
Веліч святарную пільнуючы карон.
Начмі пад прэнгаў катавальных стогн
Сваё на срэбры здрадаў выбіваў
І бізунамі на спіне таўро.

Калі ж раз'юшаныя хвалі на зямлі
Усё зглынаючы ўзялі наноў разгон
З ахвяр замлелых не згадаў ніхто,
Як саланела мора з тых крыніц,
Як чырванела, студзячы заход.

### *НАВАЛЬНІЦА*

Усю ноч і ліло, і гуло
Неба, хворае на навальніцу,
Біла ў трасцы наводмах у шкло
Перунамі і граду драбніцай.

І абпальваў вантробы мароз
Ад пранізлівых ветру напеваў,
Калі перад уладнаю скрозь
Стан згіналі пакорліва дрэвы.

Пасмамі струмяні развінаў
Дождж у несвядомае злосці –
Не падацца ў засвет давідна
Па зіхоткім вясёлкавым мосце.

Пакідаючы шнары між хмар,
Далягляд асляплялі маланкі,
Кпліва выскаляліся ў твар
Да прышэсця збаўнага ранку.

І разгразлых абапал дарог,
Каб хвароба на час адступіла,
Закіпала вада ў ручаёх,
Нібы кроў ува ўзораных жылах...

* * *

Не адцнеш сябе ад стратаў адным махам,
Не знявечыўшы душы лязом,
Але нават на пабаявішчах з часам
Вырвы зарастаюць дзірваном.

Хай каму здаецца, што не ўскрэсне
І здранцвення не адолее палон
Зямля, напалмам прапітаная дарэшты,
Згвалтаваная наўсцяж заградвагнём.

Толькі прыйдуць зноў на папялішчы людзі
Ды, сякераў не кідаючы гастрыць,
Працай рупнаю найперш зямлю абудзяць –
Вернуць здольнасць адабраную радзіць.

Выпадзе не раз аб тым успомніць,
Калі скібы плугам кладучы
Вывернеш трухло былых набойніц,
Зерню вызваліўшы месца ад іржы.

Гэтаксама і з душою пацярпелай:
Адкрываваўшы, адмэнчыўшы, яна
Бы згубіла чуйнасць і цяперака –
Непатрэбны, нежывы цяжар.

Але скрухаю змарнеласць не зыначыць,
Немарасць не вытхнецца цішком –
Душу гояць апантаннай працай
На жніве,
На рыштаваннях,
Над радком!

* * *

Пахнуць промнямі пажоўклыя старонкі,
Між якімі кветкі і палын
Пальцамі танклявымі ў пярсцёнках
Прыхаваныя ад плётак на ўспамін.

Томік чый – Міцкевіч ці Петрарка?
Ды санетам не засцерагчы
Ад альтанкі, апусцелай на світанку
Па мінулае фіялкавай начы.

Котка ў крэсле позірк касавурыць.
Новы дзень без асаблівых змен.

П’е самотна засцянковая Лаура
На тэрасе па-над кнігаю абсент.

## *ШТОДЗЁННАЕ*

Паветра цяжкае і грузлае,
Што нават слова не чутно,
Дарма ў тэле пляскаюць вуснамі
Прамоўцы рыбамі за шклом.

Горад населены пачварамі:
Адзін – драпежнік, іншы – смоўж.
А па-над homo-бестыарыем
Мігцее сонцам медны грош.

І з мінаю манументальнаю
Зіркае моўчкі на зямлю,
Як тут сірэны камунальныя
Лямантам гвалцяць цішыню.

* * *

Завітала такая ж самотная,
Стрэсла непагадзь з крылаў плашча,
Разагнала нікчэмныя клопаты,
Дакрануўшыся да пляча.

Пакуль з ёй дапівалі “el clasico”
Бы шкаляр разумеў пакрысе:
Зоркі ў небе – адбіткі абцасікаў,
Што пакінула па сабе.

Паслаў хто на зямлю нашу грэшную
Гэты вабны, гарэзлівы цуд?
Дзе шукаеце шчасця, няўцешныя,
Як яно ўсміхаецца тут?

І ў зіхценне вачэй прываротнае
Немагчыма не зазірнуць,
Каб у пацалунках з пяшчотаю
Ды ў абдымках на час патануць.

А калі раніцой промні леныя
Навялі ў рэчаіснасць масты,
Вышыванка яе на фатэлі мне
Восені расквеціла стынь.

* * *

І плывеш,
і ні людзям,
ні чорту,
ні Богу не верыш,
На цябе што рыхтуюць
свайго супакою сіло,
Але вось човен твой
хваляй разбіты аб бераг,
А спакой разам з трэскамі
мора ў штармы забрало.

### *РАЗВІТАННЕ*

*Фрайкораўцам[1], што ваявалі ў Прыбалтыцы ў 1918-20 гг .*

Зоркі згаслі вуголлямі ў прыску.
Вільгаць соланая на шчацэ.
Гэта штормаў астзейскіх пырскі
Ці расстайныя слёзы твае?

Выпраўляеш на золку з маленнямі,
Уласкавіць спрабуючы лёс,
Толькі ў Фландрыі і пад Вердэнам мы
Ўсім літанням спазналі кошт.

Неба зноўку ў язвах падпалінаў –
Грог крывавы варыць Усход
І глядзіць на Еўропу пажадліва
Смерцю з руляў чырвоных орд.

Прыцемкі па-над Шпрэяй разгорыўшы,
Мы папоўнілі боезапас,
Бо склікае звон Домскі фрайкораўцаў
У край, дзе Дыны сярэбрыцца пас.

І нашчадкі лівонскае спадчыны
Пад раз’юшаны гнеў гармат
Ад драпежнае азіятчыны
Мусім абараніць Балтэнланд.

Што ж, пара. Камандзіры гукаюць
У вагоны сваіх ваяроў.
Блаславі на дарогу і славу –
Плакаць час яшчэ не надышоў!..

---

[1] Фрайкор (ад *ням.* “Freikorps” – “свабодны корпус”) – назва добраахвотніцкіх вайсковых фармаванняў, што дзейнічалі ў Нямеччыне й Прыбалтыцы ў 1918-1921 гг. У асноўным складаліся з ветэранаў Першай сусветнай вайны нацыяналістычных і, адпаведна, антыкамуністычных поглядаў. Вызначаліся высокай баяздольнасцю.

## *СЯСТРА МІЛАСЭРНАСЦІ*

Дзень, агнёваю віхураю асвенчаны,
Датрывалі,
 пражылі,
 перамаглі,
А пасля
Нашыя целы з жарсцю мэнчылі
Бы натхнёныя карцінамі Далі

На бясхітрых лазарэтных прэнгах
Франтавыя эскулапы-штукары.
Колькі сёння
Ты наслухалася, пэўна,
Маналогаў,
Непадобных на верлібр!..

І цяпер стаіш маркотная,
Прымружаным
Позіркам мкнучы за далягляд.
Можа той,
Хто ўночы мужам быў,
Не прыйшоў з перадавой назад?

Ці аб кімсьці –
Кожнаму тут верыцца –
З нас,
Свінец каго ўзараў,
Зажурылася
Не толькі з міласэрнасці,
А таму што болей, чым сястра?

Але покуль
Найвялікшай ласкаю
Вырачоным
Да адпраўкі ў тыл
Рупна свежую
Зрабіла перавязку
Пад бяздоннем вечарова-залатым.

Я ж твой стан
У захадзе канаючым
З крыжам, што гарыць на рукаве,
Не ўсхвалюю –
Хай да кроплі распускаецца
На маіх бінтах
Пунсовы квет.

* * *

Аскепкам-месяцам Сусвет расколаты,
Пад намі стогне матухна-зямля.
Вашае вечнае –
Ад пачуцця да гораду, –
Для нас не даражэй за жменю тла.

Апанавала мацярык стальная гвардыя,
І сёння рэй вядзе зухвалы штых,
Ад прымхаў вызваляючы,
З пагардаю
Наўкос падраўшы абразы святых.

Воі зацятыя патомнай далечы
Існаму ладу вынеслі вырок –
Хатаў паходнямі
Світанак набліжаючы
Наўпрочкі гонім немарасці змрок.

Сляпы шчанюк скуголячы заходзіцца –
На нашых тварах выбіты ашчэр.
Дзірван крывёю выбаўленай
Расіцца,
Што далавах з мізерыкордыі* цячэ.

Без жалю ў ямы выграбныя скінулі
Цяжар апрыклы з памяці арбы,
Было лацвей каб
Правіць карабінамі
Цярпліўцам спрацаваныя гарбы.

Іхнае сытае, бяспечнае мінулае,
Дзе яны стоена
Зменнага дня ждалн,
Роты штурмовыя свінцовымі віхурамі,
Пляжаць, дзяржаўныя скрышыўшы рубяжы.

З рамёнаў футры!
З крамаў золата!
З пляцаў пахілых помнікаў граніт! –
Усё,
Што вечным звалі задаволена, –
У пыл,
у попел,
у нябыт!!!

---

* Мізерыкордыя (ад фр. “misericorde” – “літасць”) – клінок, якім дабівалі параненых, празваны “штылетам літасці”.

### *NEMO (НІХТО)*

Клічуць мяне – “ніхто”,
Маюся я ніяк,
У кішэнях – зеро,
А на душы скразняк,

Які выдзьмувае ўсё,
Што некалі было мной.
Вершы мае – лісцё
Жохлае пад нагой.

Тое, што я спасціг,
У агні залатым
Тамамі ўлюбёных кніг
Ператварылася ў дым.

Часовая радасць – падман,
Бо ад сябе не ўцячы.
Мне “Nevermore!” груган
Панура хрыпіць уначы.

Месца на пустцы зямлі
Не маю надзеі знайсці.
Таму ў штармы караблі
З гаваняў адпусціў.

Ставіў умову адну,
Іх выпраўлячы ў шлях:
Лепш ужо патануць –
Толькі не белы сцяг!..

* * *

Колькі ўзвялі праз адметнасць
праўдзіўцы дарэмшчыны,
Столькі ж цвікоў мне пад кпіны
ўвагналі ў далоні –
Мы прыходзім у свет
насуперак міту бязгрэшнымі,
Але па скананні
і Збаўца не абароніць.

* * *

Прамень выпрастаўся ад падваконніка
Залацістым, бязважкім дымком

На старонкі вусцішнай хронікі,
Што была калісь чарнавіком.

### *ПЕРАДВЕЛІКОДНАЯ ЗАЦЕМКА*

Захад распасцерся па-над местам,
Заганяючы, бы ў лузу, зыркі шар,
Але той ізноў світанкам уваскрэсне,
Даўшы прыклад знятаму з крыжа.

* * *

ТумаНоў прасціраДлы запавесілі вокны,
За якімі гудліва віруе праспект.
Мой нягеглы сусвет – выспачка адзіноты
Між стажараў стракатых планет.

Да сябе спакушаюць
хлуснёй пра закон прыцягнення,
І зрываюцца ў цемру мірыяды слабых.
Толькі мне застаецца звыклая доля гарэння –
Сугравацць абітальнікаў
дзёрзкіх галактык маіх.

Андрэй Паўлухін



...неадм...

# Высылка

***Апавяданне***

Нікас Пятроў быў незадаволены жыццём.

Ён прачнуўся, укараніўся ў сонечную раніцу кастрычніка і зразумеў гэта з пранізлівай дакладнасцю. На працоўным стале, пад звялым кактусам, які служыў гаспадару ў якасці прэс-пап'е, назапасілася мноства паперак. Неаплачаныя рахункі, позвы.

У вакне гасцёўні мільганулі чыесьці ногі.

Пятроў рушыў у ванны пакой, спехам прывёў сябе ў парадак. Вылаяўся, парэзаўшыся брытвай. Як звычайна. З радыёпрымача даносіліся гукі народных песняў, спробааднавіць цішыню не мела поспеху – апарат кантраляваўся дзяржаўным медыяцэнтрам.

Пятроў разагрэў учорашнія макароны. Паставіў на агонь кафейнік.

– Вы праслухалі канцэрт заслужанага фальклорнага калектыва "Ясны голас". А мы працягваем нашую праграму, і пасля кароткай рэкламнай паўзы вы пачуеце інтэрв'ю з намеснікам міністра сельскай гаспадаркі Алёнай Сямёнаўнай Чумаковай...

Пятроў узлез на падваконне, адчыніў фортку і дастаў з паштовай скрыні газету “Воля думкі”, на якую ён падпісаўся ў добраахвотна-прымусовым парадку. У вочы кінулася вылучанае тлустым шрыфтам віншаванне:

**Таварыства інвалідаў па зроку віншуе ўсіх інвалідаў па зроку з Днём інвалідаў. Жадае моцнага здароўя і ўсяго самага найлепшага.**

Наліўшы сабе кавы, Пятроў сеў.

– ...назіраецца ўстойлівая тэндэнцыя да павелічэння збору зерневых, што абумоўлена...

Нікас склаў брудны посуд у мыйку.

– ...надояў, такім чынам можна гаварыць аб насычэнні ўнутранага рынку і, верагодна, у будучай дэкадзе мы адмовімся ад такой змушанай меры, як картачная сістэма...

Пятроў усміхнуўся. Ён быў народжаны ў картачную эпоху і не ведаў іншага парадку рэчаў. Літаральна ўсё – прадукты, вада, газ, электрычнасць, інтэрнэт-гадзіны – адпускалася па картках. Праўда, сёе-тое набывалася за грошы – *бясплатныя* медыцынскія паслугі, квіткі на афіцыйна ўхваленыя ўладамі мерапрыемствы, бібліятэчныя абанементы. Ну і, вядома, газеты.

Электронны таймер выдаў жудасны піск.

Час ісці на працу.

Пятроў апрануўся і выйшаў на балкон. Дбайна замкнуў за сабою металічныя дзверы. Афіцыйна (улюбёнае слова ідэолагаў) злачыннасці не існавала, але рызыкаваць не варта.

На яго абрынуліся шумы і пахі горада, вецер прынёс здалёк жоўклы кляновы ліст.

Пятроў узляцеў.

Па звычцы завіс над утульным панадворкам з напаўразваленай альтанкай і старым услонам, рэліктамі-гаражамі, якія дажываюць свой век, і смеццевымі бакамі – атрымліваючы асалоду ад моманту. Горад распасцёрся ад гарызонту да гарызонту: шырокія праспекты з мітуслівымі грузавымі аўтамабілямі (прыватны пасажырскі транспарт даўно сканаў), пляцы, полкі рэкламных плакатаў, лабірынты старажытных кварталаў, крамы і кінатэатры, лозунгі на паветраных шарах, мармуровыя маналіты адміністрацыйнага сектара, якія растуць, нібы грыбы, мікраараёны, маўзалей Першага Паветраплавальніка – уступістая піраміда з велічным абліччам, што выпінаецца, дамінуючы над мясцовасцю...

Вышэй.

Да незлічоных чародаў лунаючых у паветры людзей, да плыняў, што спяшаюцца на працу і стомленых, але адухоўленых працаўнікоў начных зменаў. Да атмасфернага акіяну шчаслівае сучаснасці і светлае будучыні.

Нікас Пятроў быў нашчадкавым левітантам. Ён не ведаў іншай рэальнасці.

Вышэй.

Уліўшыся ў чалавечую быстрыню, ён паляцеў на поўдзень – да радыёэлектроннага завода, на якім працаваў. Пад і над ім мільгацелі постаці ў плашчах і куртках.

– Прывітанне, Нікас!

Пятроў махнуў рукой суседу, дарожніку Зацэпіну. Заклаўшы віраж, сусед нырнуў да галоўнага офіса Кіраўніцтва Шляхоў.

Усе спяшаліся.

Усе былі задаволеныя.

Усе, акрамя яго.

Нікас Пятроў не жадаў жыць у гэтым грамадстве. Ён выдатна разумеў, чым гэта пагражае. У гэтую раніцу яго горшая боязь спраўдзілася.

На прахадной Пятрова чакалі. Адмысловыя агенты, якія адмовіліся назваць сябе. Ледзь ягоныя ногі крануліся дарогі, адзін з іх вымавіў:

– Мы бярэм вас пад варту, грамадзянін Пятроў. Да судовага разгляду і вынясення прысуду ваш розум будзе ізаляваны.

Пятроў знепрытомнеў.

...Ён ачуўся ў прасторнай, ярка асветленай зале. На лаве падсудных. Адваката не было – іх адмянілі яшчэ ў мінулым стагоддзі. Пятроў агледзеўся. Аўдыторыя, бітма набітая гледачамі. Некаторыя застылі пад столлю, іншыя ўладкаваліся на карнізе, што цягнуўся па перыметры залы на пяціметровай вышыні. Змрочныя твары прысяжных, суддзя ў белым парыку і чорнай мантыі, хударлявы пракурор, які пільна ўглядаўся ў твар Пятрова.

Пракурор завяршаў прамову.

– Стагоддзямі нашыя продкі гібелі, скаваныя сувяззю гравітацыі, цэлая эпоха невуцтва і прыземленага быцця. Парадак рэчаў, як вы ведаеце, быў парушаны са з’яўленнем Першага Паветраплавальніка, легендарнага героя, што расчыніў перад намі дзверы ў неба. Адвечная мара набыла фізічнае ўвасабленне. Ён сказаў нам: жывіце і будзьце шчаслівыя. Радуйцеся кожнаму імгненню. І тады вашы магчымасці набяруць небывалую сілу. Нікас Пятроў парушыў запавет вялікага продка, выявіў незадаволенасць наваколлем, і тым самым паставіў пад пагрозу далікатную раўнавагу ментальнага асяродка, што ахоплівае нашу планету. Я скончыў.

Пракурор адным зграбным скачком дасягнуў сваёй кафедры.

Падняўся суддзя.

– Падсудны, вам ёсць што сказаць?

Пятроў пахітаў галавой.

– Суд выдаляецца на нараду.

Погляды прысяжных засціліся – усе яны былі тэлепатамі, і “нарада” праходзіла на разумовым узроўні.

Праз некалькі секунд суддзя адкрыў вочы.

– Рашэнне прынята. Паводле Закона аб балансе ад шаснаццатага жніўня трыццаць першага года абсалютнай эры, артыкул другі, пункт першы, падсудны Нікас Пятроў прызнаецца вінаватым. І асуджаецца да крайняе меры – высылкі ў паралельную рэчаіснасць, дзе ментальная абалонка яшчэ не створаная. Прысуд прывесці ў выкананне неадкладна.

У сцяне за спінай суддзі прарэзаўся партал. За ім – горад, як дзве кроплі падобны да таго, дзе Нікас нарадзіўся і вырас. За маленькім выключэннем – па і вуліцах і праспектах хадзіла незлічоная колькасць машынаў. А ў небе крэсліў інверсійны след самы сапраўдны самалёт.

– У вас ёсць апошняе жаданне?

Пятроў не хаваў слёз. Роспачы і ўрачыстасці.

– Так. Я жадаю праляцець над пляцам і... развітацца.

Суддзя сумна ўсміхнуўся.

– Разумею.

Шкло найбліжкага вакна заехала ва ўтоены паз. Па зале загуляў скразняк. Пятроў адчуў, што вольны. Ва ўсіх сэнсах. На кароткае імгненне...

І ён выпырхнуў у вакно.

– Толькі не забывайце, – данеслася ўслед, – нашыя піракінетыкі сочаць за вамі.

*2005*

Алесь Емяльянаў



...сыходзіць
мая...

# Шчаслівы тралейбус

## *ВАКНО*

глядзець у вакно
калі запытаюць
чым хачу займацца
глядзець у вакно
назіраць як неба
па-рэнуараўску
спалучае фарбы
пераходзячы са спектру ў спектр
невядомыя Photoshop'у
мне нават пашанцавала
у нашым паснулым мікрараёне можна глядзець у вакно
бачыць неба і сонца ў 3D фармаце
але
у нас нават ёсць зялёная зона
шкада з вакна яе не відно
ды толькі я ўсё адно
люблю
глядзець у вакно

## КРАКЕН[1]

сталіца быццам пачвара-кракен
разявае смярдзючую зяпу
хапае вулкамі-шчупальцамі
хоча мяне праглынуць

сталіца быццам пачвара-кракен
сашчапляе смярдзючую зяпу
патыхае тхлінай і перагарам
кнураю бруднай бялізнай
прыбіральняю смеццеправодам
густая атрутная жоўтая сліна
абвалоквае накрывае
глытае мяне

кгх-кгх-кгх
падавіўся!

## СТАМАТАЛАГІЧНАЕ КРЭСЛА

калі стаматалагічнае крэсла стане пустым
можна будзе дакладна сказаць
што мы знаходзімся
з іншага канца
жкт
жалудачна-кішэчнай трубы

калі стаматалагічнае крэсла стане пустым
зразумееш што зубы табе й
не патрэбны

калі стаматалагічнае крэсла стане пустым
адчуеш як добра быць
прыбіральшчыкам

калі стаматалагічнае крэсла стане пустым
калі

ці ведаеш ты

ці ведаеш ты
што мы толькі займеннікі ў сказах тлустаскурых буржуяў
землятрусы й цунамі
вулканы й патопы
нішто ў параўнанні з іхнімі дыктоўкамі

---

[1] Легендарная міфічная марская пачвара гіганцкіх памераў, галаваногі малюск, вядомы з апісанняў ісландскіх маракоў, з мовы якіх і паходзіць ягоная назва.

ці ведаеш ты
вычварэнцы з’яўляюцца з кокану
звітага дэмакратычнымі дабротамі і талерантнасцю
ці ведаеш ты
што людзі часцей і часцей забываюцца на імёны адно
аднаго
а вайна — гэта выключна натуральны адбор
і яна ні на хвілю не перапыняецца
ці ведаеш ты
незалежнасць — просты і брыдкі назоўнік
прыдуманы з адзінаю мэтаю — забіць свабоду
ці ведаеш ты
што зомбі не кампутарная гульня і не вусцішны фільм
а рэальнасць
ці ведаеш ты

### *ЯМА*

снег напрадвесні
не маннай нябеснай
калючым саванам
апошняю вопраткай
расстраляных
без знаку без ліку
у змрочную яму
ні енку ні крыку
адно недалёка
рык кулямётны
ды смутная песня
абрамавай скрыпкі

гадзіннік спыніўся
у 19:42
снег ідзе
знікаючы ў чэраве чорнае ямы

### *СТАЯЦЬ*

— абрус стаіць на стале
на ім кубкі з гарбатаю
гарбата таксама стаіць —
упэўнены пяцігадовы Васіль
ён бярэ свой кубак
і падстаўляе да майго
— кубкі пасябравалі —
кажа ён з усмешкаю

людзі па розныя бакі акіяну
мяжы
барыкад
таксама стаяць
на сваім
як абрус на стале
але
іх не ссунеш як кубкі
гарбата мусіць пераліваццa праз край
калі яе надта многа

капялюш Уолта Ўітмана

сівабароды мужчына з моцным чэрапам
у шырокаполым капелюшы з фотапартрэта
больш падобны да айчыннага святара
роўныя і гладкія валасы нібы карані
з якіх вырастае лес найдакладнейшых
амерыканскіх метафар
а ілюзіяністы слова штоpазу вымаюць з капелюша
плюшавага труса ці горад ці штат
якога ніколі не існавала
ці неразменная доларавая банкнота
якая вяртаецца бумерангам
акіяны свабоды і дэмакратыі
выплёхваюцца за берагі
пяскі юру і жарсці высыпаюцца з яго
безліч спадарожнікаў дагэтуль
блукаюць на калякапялюшнай арбіце
вулканічнаю лавай капялюш адрыгвае імёны
каханкаў
і іх пікантныя споведзі-мемуары
хто хоць аднойчы зазіраў у гэтую Марыянскую
ўпадзіну
знік назаўсёды
а на купіне капелюша і дасюль зелянее
лісце травы

## ЛІСТ ДА СП. CH. BUKOWSKI

сёння 15 жніўня,
г. зн. заўтра —
твой дзень народзінаў.
не ведаю, ці чуеш мяне,
спадзяюся, што так.

пісаць жалобныя прысвячэнні —

няўдзячны занятак,
бо гэтыя підсы
ізноў стануць варушыць
брыдка-вострымі
філалагічнымі вуснамі,
плявузгаючы пра тое,
што жадаю прымазацца да
тваёй славы.

з гэтай прычыны
задрочваю аловак
і пішу ліст,
які табе перадасць
пазаштатны паштар.

калі захочаш — можаш пасланць
гэтага ягамосця
яшчэ далей,
чым тое месца,
дзе ты цяпер.

разумею —
табе не ўср...ся мая пісаніна,
але ведай, што заўтра
я выжлукчу паўтузіна піва за
тваё здароўе, канечне ж;
звольнюся з гэтай ё...ай працы,
пачну рабіць усё,
каб стаць сапраўдным —
стаць паэтам.

да сувязі, Бук.
чакаю ліста.

## *ДАЖЫНКІ*

спёка каталізуе закіпанне крыві
выходзіш з вады і яна з цябе
дачка засвойвае новыя гукі
кугукае і перакульваецца на бок
выплёўвае сусолку і не хоча нічога слухаць
задуха даймае ўсіх
нават сонца не ведае што рабіць і куды падацца
і час ад часу хаваецца ў аблоках
ці то ад спёкі
ці то ад сораму
нашчадак будаўнікоў вялікай кітайскай сцяны

што гандлюе ў Жданах вентылятарамі
уздае пахвалу нябёсам
бо штодня прадае больш за пяцьсот штук
а ў астатнім
збіты ўжо неістотна кім “Boeing”
перастрэлкі ў Сектары Газа
вірус эболы ў Афрыцы
дэманстрацыі сэксуальных меншасцяў
арышты карупцыянераў на Далёкім Усходзе
барацьба за ўраджай і фальсіфікацыя лічбаў аб умалоце
між іншым не першая і не апошняя
дарэчы не толькі ў галіне сельскае гаспадаркі
злосны крадзеж паўлітра піва ў сельмагу
вёскі Вялікія Пукі Запедравыдрышчанскага раёну
і яшчэ шмат падзей адыходзяць на апошні план
а на гэтым шаноўныя гледачы
мы развітваемся з вамі
прагноз надвор’я ўжо неістотны
бо спраўдзіць яго верагоднасць аніхто не зможа
бывайце
але не здаровыя
проста бывайце
і светлая нам усім памяць

### *ТРАЛЕЙБУС*

пацыент з дражненскага інтэрната
едучы ў тралейбусе прамовіў наступнае:
— я вельмі да яго падобны —
мае рукі худыя й даўгія нібы драты
і таксама растуць са спіны
я хаджу па адным маршруце
і напітваюся электрычнасцю
якую праз мяне прапускаюць
я тралейбус
і ты тралейбус
ён наставіў на мяне палец
але я шчаслівы тралейбус
а ты не
бо не ведаеш што шчаслівы
а калі й так дык не ведаеш
што тралейбус
а я ведаю
я шчаслівы тралейбус

Надзея Тачыцкая



...ты...

# Заслона неўміручасці

***Аповед***

Па-над белым пухам вішняў,
Быццам сіні аганёк
Б'ецца, уецца шпаркі, лёгкі
Сінякрылы матылёк.

...Над гэтым лесам лятаюць асаблівыя матылькі, спяваюць казачныя птушкі, жывуць незвычайныя звяры. Гэты лес не такі, як усе. Кожнае дрэва яго мае душу. Калісьці тут расло толькі некалькі кволых дрэўцаў. Яны выраслі, набраліся сіл і далі жыццё новым. Праз некалькі сотняў гадоў тут з'явіўся магутны лес.

Ён крыху пужае сваім выглядам. Цёмны, змрочны, здаецца, што сонечныя промні туды не трапляюць. Але ён мае нейкую сілу, якая вабіць, прымушае зайсці, разгадаць таямніцы чароўнага лесу.

Уваходзіш – і трапляеш у цемру. Скрозь туман прарываецца сумная мелодыя, поўная болю і смутку. Мелодыя ўразаецца ў сэрца, прымушае ўспомніць усё самае благое. Чародка птушак нясе музыку далей, у сэрца леса.

Крочыш скрозь туман, слухаеш сумную мелодыю, і налятаюць песімістычныя думкі: няма перспектыў. Падыходзіш да дрэўца, каб

прытуліцца, і адчуваеш холад. Гэта быў кволенькі клёнік. Стаяў ён апусціўшы тонкія галінкі, па кары цяклі дарожкі слёз, ападалі жоўтыя лісточкі. Гэта былі незвычайныя лісточкі. Замест жылак на іх былі словы.

А хто там ідзе, а хто там ідзе
У агромністай такой грамадзе?

Лісты падалі. Падалі вершы, апавяданні, аповесці, раманы, драмы... Залатым дыванам засцялілі яны зямлю. Дрэўца не забірала боль, яно дзялілася сваім. Клёнік канаў, плакаў, апошнія лісты падалі на зямлю. Сохлі галінкі, высыхалі слязінкі. Боль разрываў яго, смуга раз'ядала знутры, сум дабраўся да самага сэрца. Дрэўца прасіла дапамогі, вымальвала хоць некалькі хвілін, але лёс быў бязлітасны. Клёнік зрабіў апошні ўдых і сканаў. І без таго сумная мелодыя напоўнілася новымі тужлівымі нотамі, паплыла далей, да сэрца леса. Туман стаў густым і паплыў далей, таксама да сэрца, але панёс цяжкі стан – дэкаданс.

Сонечныя промні стараліся прабіцца скрозь цемру, але толькі траплялі на зямлю – губляліся ў густым тумане. Быццам коўдрай, ён абдымаў дрэвы. А яны стаялі – кволыя і бездапаможныя, апусціўшы лісточкі, галінкі. І градам каціліся слёзы, ападалі лісты. Хтосьці змагаўся, а хтосьці здаваўся і высыхаў.

Балела душа, блыталіся думкі. Боль, які патрэбна пакінуць тут, заставаўся. Наадварот дрэўцы перадавалі свой, наганялі сум. Ад мелодыі здавалася, што зараз паедзе дах, скрозь туман нельга было ўбачыць дарогі. Ідзеш, а куды ідзеш – невядома. Блукаеш па невядомасці, а ўяўленне малюе страшныя малюнкі. Як бы гэта не было балюча, гэта было рэалістычна. Боль адкрываў праўду, якуя старанна хавалася.

Страх быў правадніком. Ён прывёў да вады, дзе стаялі яшчэ жывыя дрэўцы. Яны апусцілі галінкі ў ваду, быццам гэта было адзінае выратаванне ад смерці. Туман павольна абдымаў іх. Падалі лісточкі.

І душа дваіцца. Дзве душы. Тая, што плакала і жалілася на другую, нашто яна мучыць яе падманкамі, цяпер цвярдзее, але робіцца нядобраю, набірае ўсё болей нейкай калянасці і нават жорсткасці.

Хачу — і саромлюся, і баюся.
І не магу паставіць Ваша імя.
А мне была б радасна да болі
Бачыць яго поруч са сваім.

Вада не дала паратунку. З'ела страшная хвароба два дрэўцы, і высахлі яны, згарэлі. Да аднаго падыйшоў страшны звер, і вялікімі лапамі пачаў драць кару, ламаць галінкі. Плакала дрэва, супраціўлялася, ападалі апошнія лісты з самымі горкімі словамі. Апошнія слёзы ўпалі на зямлю. Сканала. Да другога падыйшоў цёмны цень і пачаў бязлітасна пілаваць, абрываць лісты, паліць. Замест празрыстых слёз на зямлю пралілася кроў. Патанула ўсё ў чырвонай крыві. Апошняй сканала іва, чые галінкі плавалі ў люстры вады. "Лішняя, лішняя", – шаптала яна. Пачалі сохнуць лісты і падаць у ваду, схуднела і зморшчылася дрэўца. Так і загінула яно над вадой, прытуліўшыся, быццам жывое і хоча напіцца.

Дрэўцы паміралі. Яны высыхалі, іх пілавалі, палілі, з'ядалі. Лес паміраў, ператвараўся ў магільнік. Плылі туман і мелодыя. Часам скрозь іх старалася прабіцца музыка – вясёлая, светлая, шчырая. Ішла яна ад маладых

дрэўцаў. Абрывалася. Часам прарываліся сонечныя промні, асвятлялі цёмны лес, неслі словы кахання.

Пад казачным дубам
над Нёманам сінім
хлапец прызнаваўся ў каханні
дзяўчыне.

І рэхам той шэпт
адгукаўся між гаю:
...Кахаю, кахаю...

Абрываліся і словы кахання, знікалі ў тумане промні. "Якое каханне? Няма кахання! Ёсць толькі цемра, толькі сум. Каханне ваша нішто і вы нішто. Свабода і незалежнасць – вось, што на першым месцы". І плылі гэтыя словы па лесе, душылі каханне. Дрэўцы былі пазбаўлены гэтага пачуцця, таму і зрываліся з галінак пажоўклыя, сухія лісты.

Паміраў лес пад стрэламі войн, гарэў у полымі рэпрэсій. Панавала цемра, плыла сумная мелодыя. Туман дэкадансу абдымаў зямлю. Ад цяжару кружылася галава, не трымалі ногі. Боль лесу быў уласным болем. Ён давіў, раз'ядаў, вынішчаў усё самае светлае ў душы. Цяжар быў вельмі моцным...

Дрэвы паміраюць,
Калі перастаюць пазнаваць
Змены года
І не адгукаюцца рэхам;
Вада – калі забывае,
Куды ёй плыць,
І нікому не спатольвае смагі;

Зямля – калі перастае
Радзіць хлеб
І быць калыскай песняў;

Чалавек – калі страчвае здольнасць
Здзіўляцца і захапляцца
Жыццём.

Дзіўная мелодыя. Яна плыла, трапляла ў кожную клетку, у кожны куток душы і напаўняла іх цяплом. Боль адыходзіў, вярталася прытомнасць. Блакітнае неба. Чыстае, без аблачынкі. Сонца сляпіла вочы, а промні шчодра падалі на зямлю.

Не было сумнай мелодыі і густога туману. Знікла цемра. Не было цёмнага лесу. Усё засталося ў мінулым. Ахвяра дрэў дала маленькаму воставу надзею на новае жыццё, падаравала насенне, з якога павінны вырасці новыя дрэўцы. І на іх лісточках не будзе сумных слоў. Клёны і бярозы не будуць аддаваць свой боль, блытаць думкі, абцяжарваць сэрца. Яны будуць забіраць твой боль, але не засохнуць ад яго.

Скрозь зямлю прабіваліся парасткі. Маленькія і кволыя. Яны цягнулі галоўкі да сонца, распускалі маленькія лісточкі. На іх прабіваліся першыя словы. Пройдзе час, і дрэўцы вырастуць у новы вялікі лес. А з глыбіні стагоддзяў будзе пазіраць самотны стары з сухімі і мёртвымі дрэвамі, якія прынеслі сябе ў ахвяру ў імя новага, маладога, моцнага літаратурнага лесу.

пераклады

Чарльз Букоўскі



...будзь...

# Святло, і паветра, і месца, і час

*Пераклад з ангельскай Ганны КОМАР.*

## *БУДЗЬ ДОБРЫМ*

нас заўжды заклікаюць
прыняць чужую
пазіцыю
нават калі яна
састарэлая
бязглуздая ці
непрымальная.

заклікаюць
разглядаць
суму іх памылак
іх змарнаванае
жыццё
са спачуваннем,
асабліва ўлічваючы
іхні узрост.

але ўзрост – гэта сума
нашых справаў.
у іх непрыгожая
старасць
бо яны
жылі
не навёўшы рэзкасць,
не пажадаўшы
бачыць.

не іх віна?

тады чыя?
мая?

заклікаюць хаваць
ад іх
маю пазіцыю,
страхавацца ад іх
страху.

узрост – не злачынства

а вось
свядома
пахерыць
жыццё

між вялізнага мноства
свядома
пахераных
жыццяў –

злачынства.

## *СВЯТЛО, І ПАВЕТРА, І МЕСЦА, І ЧАС*

" – ведаеш, сям'я, праца, справы, мне
заўсёды штосьці
перашкаджала
а цяпер
я дом прадала, знайшла гэтую
студыю, дзе так прасторна і
светла.
упершыню маю месца
і час каб
тварыць".

не, дзетка, калі ты хочаш
ты будзеш тварыць, працуючы
па 16 гадзін кожны дзень
у шахце
ты будзеш тварыць у каморцы з трыма дзецьмі
нават
у дэкрэце,
ты будзеш тварыць, калі табе сарве дах,
адарве
частку цела,
ты будзеш тварыць сляпая
кульгавая
і звар'яцелая,
ты будзеш тварыць калі жах кіпцюрамі будзе
шкрэбсці па спіне
тварыць, пакуль землятрус, бамбёжка, пажар і патоп
паглынаюць твой горад.
дзетка, святло, і паветра, і месца, і час
не змяняюць нічога
і не ствараюць нічога
магчыма проста даюць табе шанец
для новых
адмазак.

## *ЗАТОР. ЧАРЛЬЗ БУКОЎСКІ*

тая Харбар Фрыуэй што ідзе на поўдзень праз цэнтральны
раён – безумоўна – можа проста дастаць.

у тую пятніцу ўвечар я стаяў на ёй
нерухомы ў хвасце чырвоных габарытаў,
ані руху – нават на першай перадачы
пакуль клубы выхлапаў
рабілі шэрым вечаровае паветра, рухавікі пера-
грэліся
і пах перапаленага
счаплення
вісеў
дзесьці наперадзе
на тым марудным пад'ёме шашы дзе
машыны пераключаліся з
першай на нейтралку
зноў і зноў
і з нейтралкі назад
на першую.

па радыё я чуў навіны
дня

прынамсі шэсць разоў я быў
пасведчаны ў сусветных
справах.
рэшта станцый круціла
нейкую лажовую песню.
станцыі з класікай упарта не хацелі
лавіцца
а калі атрымлівалася
гэта было паўтарэнне банальных
зацяганых мелодый.

я выключыў радыё.
дзіўнае кружэнне пачалося ў маёй
галаве – круцілася пад лобам, злева
направа, пераходзячы за вушы
да патыліцы зноў да лоба
і далей
па коле.
я падумаў, ці не тое адбываецца
калі
едзеш зглузду?

я падумваў выйсці з машыны.
яна стаяла на так званай хуткай
паласе.
я ўбачыў сябе звонку
па-за машынай
як я абапіраюся аб раздзяляльнік шашы,
са складзенымі рукамі.
тады споўз і сеў
ля яго, паклаўшы галаву між
каленяў.

я застаўся ў машыне, сцяў зубы, зноў
уключыў радыё,  адно каб спыніць
кружэнне
і падумаў ці хто яшчэ тут мусіць
змагацца з гэтым сваім
насланнём
як я?

і тады машына наперадзе
КРАНУЛАСЯ
паўметра, яшчэ, метр!

я ўключыў першую перадачу...
мы РУХАЛІСЯ!
потым на нейтральную

АЛЕ
мы прасунуліся на два ці нават
на тры метры.

я слухаў навіны свету
сёмы раз,
яны заставаліся дрэннымі
але мы ўсе слухалі,
мы маглі вытрымаць і гэта
бо ведалі
што няма нічога горшага чым
глядзець на
адзін і той жа нумар на бамперы
на адную і тую ж дурную башку што
тырчала над сядзеннем
ў машыне наперадзе
пакуль час раставаў
пакуль слупок тэрмометра нахіляўся
направа
а стрэлкі лічыльніка паліва –
налева
пакуль мы разважалі
чыё счапленне
гарыць.

мы былі нібы апошні ў свеце,
даўжэзны дыназаўр
што павольна поўз дахаты, куды
навошта, магчыма
каб
памерці.



Станіслаў Пшыбышэўскі



...ява...

# Снег

***Драма на чатыры дзеі***

А с о б ы :

Т а д э в у ш
Б р о н к а, яго жонка
Е в а, яе сяброўка
К а з і м і р, брат Тадэвуша
М а к р ы н а
Л ё к а й

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

*Пераклад з польскай мовы Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.*

*Пасляслоўе Пятра ВАСЮЧЭНКІ.*

### СЦЭНА I

К а з і м і р, Б р о н к а

Глядач бачыць зграбны сталовы пакой, з якога праз вялікія, высокія вокны і праз зашклёную зімовую аранжарэю відаць голыя, у шэрані дрэвы саду і шчыльныя палосы снегу. У куце – вялікі старасвецкі агмень, побач ляжаць палены сасновых

droў, якія К а з і м і р нервовымі рухамі раз-пораз укідае ў агонь. Б р о н к а стаіць каля вакна, устрывожана ўглядаючыся ў завею.

К а з і м і р. Чаму ж ты гэткая неспакойная? Не будзь як тое дзіця. Чаго ты баішся?

Б р о н к а. Ах, Казік, далібог, хіба ж ты не бачыш, якая завея? Мала што не цэлы дзень снег ды снег. Сумётаў нарабілася. Там за горадам дарога – аніводнага дрэва на які кіламетр! От жа вазак заблукае. Санкі ў канаву патрапяць...

К а з і м і р (*перапыняе яе*). Ну дык і што з таго? Тадэвуш зваліцца ў канаву. Там яму мякка будзе.

Б р о н к а. Які ж ты агідны!

К а з і м і р. Ну, то не злуйся. Але ж я напраўду гляджу на вас як на двое дзіцятак. Вашы стасункі – рэдкая ненармальнасць. Вы ўжо год як пабраліся шлюбам, а бавіцеся ў такія чуллівыя рэчы, нібы толькі ўчора пазнаёміліся.

Б р о н к а. Але ж праз гэта, якраз праз гэта нашае жыццё робіцца такім цудоўным.

К а з і м і р. Ну, вядома, вядома. Але скажы мне, даражэнькая Бронка, колькі ты атрымала мілосных лістоў ад твайго Тадака за гэты тыдзень, як яго няма дома?

Б р о н к а. Ах, каб ты ведаў, які ён мне цудоўны ліст напісаў! Каб ты ведаў, якія дарагія мне тыя лісты! Гэткія прыгожыя словы ніхто не ўмее так прамовіць.

К а з і м і р. Ну, словы казаць яно няцяжка. Але Тадэвуш цябе напраўду кахае. (*Задуменна.*) Кахае цябе моцна. Я зайздрошчу вам за вашую любасць і вашае шчасце. (*Праз паўзу.*) А я, гледзячы на вас, ледзьве не разрумзаўся. Часцей і часцей сню сентыментальныя ідыліі пра нейкі закуточак, дзе б я мог свабодна працаваць побач з пяшчотнай і пеставанай жанчынаю. Знудзіўся, стаміўся я ад гэтага вечнага бадзяння па свеце. Зрэшты, усё гэта падман: мастацкія ўражанні, музеі, тэатр, цырк, Італія, Парыж... усё падман, падман, падман... Адно што нуды ўсё болей і болей. Усюды тое самае, і гэтак вось чалавек цягаецца з кута ў кут са сваёй неадольнай нудою.

Б р о н к а. Казік, Казік, нейкі ты надта маркотны. Я такой бяздоннай маркоты яшчэ ніколі не бачыла.

К а з і м і р. Ага...

Б р о н к а. А калі б ты, Казік, закахаўся, а?

К а з і м і р. Хіба што ў цябе. Мне да гэтага як бы й недалёка.

Б р о н к а (*жартаўліва*). Ай, дурнавацэнькі, і што б ты рабіў з гэткім простым дзяўчом, як я? Такая простая дзяўчына-шляхцянка – гэта не для цябе.

К а з і м і р (*з іроніяй у голасе*). От жа акурат для мяне. Мне ўжо ўстылі гэтыя пустыя павападобныя самачкі, што ўдаюць з сябе дэманаў, прыпраўляючы гэтую сваю ролю нахрапістымі і брыдкаватымі маніпуляцыямі тэмпераментам ды жарсцямі; я сыты па горла гэтымі маслянаватымі ды саладжавымі анёлкамі натхнення. Досыць ужо тых згорбленых ведзьмаў, што рачкуюць на Лысай гары навукі і грамадскай чыннасці! Ох, павер мне, я страшэнна змучаны тымі рапсодамі-эпіпсіхідыёнамі*, паловамі і меншымі паловамі мужчынскіх душ... (*Цярэ свой лоб і нервова ўкідае некалькі паленаў у полымя агменю, потым*

*расхаджвае сюды-туды ў пакоі.*) А чаго мне напраўду трэба, дык вось гэткай простай дзяўчыны... ну, каб усе вечары праводзіць побач з ёю пры каміне, з гэткай беззаганнай, якая нічога не ведае ані пра грэх, ані пра цноту. Адчуваць, што побач жанчына, у якой наўме няма ані правілаў, ані тэорый, ані напрамкаў, аніякіх *ізмаў*, але ўся з сябе – толькі сэрца, чысцюткае сэрца! О, тады я забыў бы пра нуду і ўвесь падман!

Б р о н к а. О, як ты маніш сам сабе! Два дні пацешылася б такая простая шляхцяначка, а потым... Ну, а што потым, ты сам сабе ў душы дапяяй.

К а з і м і р. Ты гэтак думаеш?.. Але ж дзіўна, што я з такою простаю дзяўчынаю, як ты сябе называеш, цэлы дзень размаўляю, ва ўсім ёй спавядаюся, дзялюся з ёй усім-усім – і не толькі ні на хвілю не адчуў нуды, а наадварот, у мяне ніколі не было такіх добрых, мілых дзён, як тут у брата і разам з табою... (*З лёгкасцю.*) Ведаеш, Бронка, я па-сур'ёзнаму закахаюся ў цябе.

Б р о н к а (*імітуючы ягоны тон*). Ну, калі б ты не прамаўляў гэта ў такім стане, стамлёным, крыху замаркочаным, а перш за ўсё не быў бы думкамі ў зусім іншых рэчах – то я была б гатовая паверыць, што ты хочаш трошкі пазаляцацца да мяне.

К а з і м і р (*смяецца*). А чаму ж бы й не, мая прыгажуня братавая? Умельства гэткага цнатлівага ўзбуджэння сябе і іншых можа быць вельмі прыгожым і вытанчаным... то як бы чалавек выпіў кілішак вогненнага амантыльяда**.

Б р о н к а. Няма ў мяне ніякае ахвоты каштаваць тое вогненнае амантыльяда. (*Рассеяна.*) Але ж чаму, чаму Тадэвуш ніяк не даедзе? Кажу табе, Казік, што вазак, пэўна ж, перакуліўся з санкамі ў канаву.

К а з і м і р. Набярыся цярпення: санкам цяжка праехаць, снег глыбокі, ну й коней жа няможна ўсмерць заездзіць.

Б р о н к а. Твая праўда, але ж ты, Казік, сваім стомленым выглядам і сваёй меланхалічнасцю так чалавека цвеліш. Так прыгнятаеш, што... (*Перапыняецца на паўслове.*)

К а з і м і р. Што... ну, кажы!

Б р о н к а. ...што я гатовая пабегчы і пабудзіць Еву... Не разумею, чаму яна ўвесь час спіць.

К а з і м і р. А можа й не спіць.

Б р о н к а. Пазбягае нас?

К а з і м і р. Не, але ёй здаецца, што нам лепей без яе.

Б р о н к а. Агідны ты. Яна заўсёды была маёй самай блізкай і самай шчыраю сяброўкаю. Ты сабе не ўяўляеш, якая я шчаслівая, што яна прыехала: я два гады яе не бачыла. Толькі ведаеш, Казік, яна дарэшты змянілася. Мне ў галаву не магло прыйсці, што за такі кароткі час чалавечая натура можа ператварыцца ў сваю супрацьлегласць.

К а з і м і р. Як жа яна змянілася?

Б р о н к а (*з заклапочанасцю ў голасе*). Бачыш... у мяне ёсць пэўны сорам вучаніцы пансёна... гаварыць пра такое. Ну, але табе можна расказаць усё, бо ты як бы і не зусім мужчына.

К а з і м і р. Вельмі слушнае назіранне. Але раскажы мне што-небудзь пра панну Еву, мне гэта надта цікава.

Б р о н к а. Разумееш, яна сірата і вельмі багатая. І ўсё яе няшчасце палягае ў тым, што яна магла задавальняць кожны свой капрыз... Ды я

не пра тое хацела сказаць. Мы вучыліся разам у пансіянаце і нас лучыла нейкая дзіўная любоў. Яна любіла мяне проста шалёна, так што яе любоў часам была для мяне цяжарам і пакутаю. Яна часам была неверагодна добраю, ягняткам, з якім я магла гуляцца, рабыняю, што чытала ўсе думкі на маім ілбе, а іншым разам яна зноўку паводзіла сябе, як тыран, капрызная, непрыязная да кожнай маёй думкі, да любога майго сардэчнага памкнення.

К а з і м і р. Але што ж было далей?

Б р о н к а. Апякун пасля смерці сваёй жонкі забраў яе з пансіяната, і яна цалкам зрабілася гаспадыняю сваёй маёмасці, сваёй меланхоліі, а можа, і свайго суму... Вось жа, Казік, яна магла б табе падысці як жонка.

К а з і м і р. Гм-гм. Але ж ты яшчэ нічога не сказала пра перамену, што гэтак раптоўна з ёю адбылася.

Б р о н к а. Ну вось бачыш, якая я разбэрсаная. Не магу сказ давесці да канца. (*Задумваецца.*) Вось жа, нягледзячы на ўсе яе капрызы і выбухі эмоцый, яна была надзвычай вясёлаю, напраўду вяла ў нас рэй. Усіх і ўсё ўмела высмеяць, вывесці на чыстую ваду. А цяпер... я сама не да канца разумею, адно адчуваю, што... ведаеш, Казік, мне сорамна прызнацца, яна мне нейкая чужая. Побач з ёю я не адчуваю той ранейшай свабоды, і нейкае няўцямнае пачуццё страху сядзіць ува мне і... Ах, яна ж такая прыгожая, ці ты бачыў, якая яна прыгожая?!

К а з і м і р. Я дагэтуль на яе не глядзеў.

Б р о н к а. Чалавеча, ну хіба ж ты сляпы? Не, ты напраўду перастаў быць мужчынам.

К а з і м і р. Дапускаю, што ты кажаш праўду, але твая госця пачынае мяне цікавіць... А як ты тлумачыш гэтую перамену ў ёй? Разбітым сэрцам? Здраджаным каханнем?

Б р о н к а. Ты пра яе?.. Не, не, мой Казік.

К а з і м і р. Як ты можаш гэтак упэўнена казаць?

Б р о н к а. Бо я ведаю ўсіх маладых людзей з яе атачэння; ведаю, што яна з імі проста гулялася, а адзіным чалавекам, які яе цікавіў, быў Тадэвуш; ды нешта іх адно ад аднаго адштурхоўвала.

К а з і м і р. Што, Тадэвуш ведаў яе?

Б р о н к а. Ну так, ведаў яе, перш чым пазнаёміўся са мною.

К а з і м і р (*лёгка*). І яны не закахаліся?

Б р о н к а (*адступаецца ад яго, як бы нечым непрыемна даткнёная*). Ты мяркуеш, што я гэтак шчыра і горача запрашала б яе да сябе ў госці, калі б не была абсалютна ўпэўненая, што яны адно аднаму чужыя?

К а з і м і р. То праўда, а дакладней, можа быць, і праўда, бо жаночага сэрца аж так глыбака я не ведаю.

Б р о н к а. Мне толькі боязна, ці я не ўчыніла якой прыкрасці Тадэвушу, бо я так раптоўна, знянацку запрасіла яе да сябе, нічога яму не сказаўшы? Можа, Тадэвуш, прынамсі, дзень-два пасля свайго вяртання хацеў бы пабыць толькі разам з намі... Мне яна бліжэйшая за сястру, я яе люблю як наймацней, але ж Тадэвушу яна чужая.

Чуваць званочкі ад санак, што заехалі на падворак.

Б р о н к а (*радасна ўскрыкваючы*). Тадак едзе! Тадак едзе! О, нарэшце! (*Выбягае праз левыя дзверы.*)

## СЦЭНА II

К а з і м і р (*сядзіць і глядзіць на яе з невымоўным смуткам, неспакойна падкручвае вусы, падкідвае галінкі ў агонь, потым ходзіць сюды-туды ў пакоі, спыняецца, хапаецца за галаву і прамаўляе паўшэптам.*) Так, так, запозна, запозна... (*Сядае, прыпальвае цыгарэту, апатычны, задуменны.*)

У пярэдні пакоі чуваць голас Б р о н к і: “Мой Тадак, самы дарагі, мой Тадак!” К а з і м і р раптам здрыгануўся. Голас Т а д э в у ш а: “Ах, як я засумаваў па табе!” Казіміраў твар перасмыкнула балеснай, прыкрай усмешкай.

## СЦЭНА III

Б р о н к а. Хадзі, хадзі, каханне маё; як ты намерзся... хадзі, сагрэешся каля каміна.

Т а д э в у ш. Але, дзіцятка мілае, мне зусім не холадна. (*Вітаецца з Казімірам.*) Ну, даражэнькі Казік, ці добра ты пільнаваў наш дом? Не дурыў галаву Бронцы рознай метафізікай ды мастацтвам?

К а з і м і р. Ды дзе там? Я перш за ўсё спрабаваў падрыхтаваць Бронку да таго, што я ад вас ужо нікуды не рушу з месца.

Т а д э в у ш. А што, добра табе тут?

Б р о н к а. Ах, Тадак, хадзі, хадзі ўжо да агню; ты ж так замерз...

Т а д э в у ш. Вялікі табе дзякуй за гэты агмень, але я пасля такога марозу з радасцю з’еў бы што-небудзь, бо зусім згаладаўся.

Б р о н к а. Добра, добра, я хутка. (*Выбягае з пакоя.*)

## СЦЭНА IV

Т а д э в у ш (*вясёлы і шчаслівы*). Вось жа, Казік, я знайшоў шчасце і спакой. Ніколі нават не мог прымроіць такі рай. А перад тым, як я пазнаёміўся з Бронкаю, мне здавалася, што ўва мне ўжо не засталося аніякіх сіл да жыцця. Сэрца было як сухая трэска, душа збалелая, і гэтая наша страшэнная, пякельная родавая хандра павольна насоўвалася на мяне, быццам цяжкі сон.

К а з і м і р. Ведаю, ведаю, у якім жахлівым, безнадзейным стане ты быў тады. Кожны твой ліст я чытаў з трывогаю, бо рабілася вусцішна ад слоў кшталту: “...бывай здаровы, дарагі брат, я знудзіўся да смерці, таму сыходжу на ўлонне вечнасці...”. Уласна кажучы, то не вусціш была, бо гэта адзіны сродак супраць нуды. Але ж заўсёды непрыемна атрымліваць падобныя лісты ад свайго роднага брата... (*Раптоўна.*) А ўсё-ткі скажы мне, чаму ты, каго я ведаў такім зухаватым мілым хлопцам, такім поўным жыцця і сілы, чаму ты апынуўся ў гэткім пякельным разладзе з самім сабою? Дзівіцца з мяне б не выпадала, бо я змалку быў гэткім недарэкам і рэўзам, але ты, ты?..

Т а д э в у ш. Мне б давялося доўга табе тлумачыць; ты занудзіўся б, слухаючы пра страшэнныя пакуты, якія я перажыў. Я зусім бы змарнеў, калі б не пазнаёміўся з Бронкаю.

К а з і м і р (*абыякава*). А можа, прычына была ў жанчыне?

Т а д э в у ш. Яно і так, і не... Не ведаю... Нейкая незразумелая туга: па чым, па кім, не ведаю.

К а з і м і р. А што, тая жанчына была нядобрая, падступная?

Т а д э в у ш. Не, якраз наадварот. Яна проста страціла здольнасць да

жыцця. Прымушае пакутаваць сябе і іншых. Яе ахапіла нейкае аблуднае жаданне вынішчэння. Ах, як я напакутаваўся!

К а з і м і р. Ну, а што было потым?

Т а д э в у ш. Потым?.. Г-м. Яна хацела быць нявольніцай, а павінна была паводзіць сябе, як пані. А я занадта моцна баяўся страціць яе, а ўтаймаваць не ведаў як. Я пагарджаў самім сабою, ненавідзеў яе і сябе. І ўсё пайшло прахам.

К а з і м і р. Ну і?..

Т а д э в у ш. Скончылася балада адчаю.

К а з і м і р. І пасля таго ты больш яе не бачыў?

Т а д э в у ш. Апошні раз яна нагадала пра сябе ў дзень майго вяселля. Я атрымаў ад яе гэтакі мілы, цёплы, шчыры ліст, што ўсе крыўды неяк забыліся.

К а з і м і р. А ці не было тое адно злой і падступнай помстаю жанчыны?

Т а д э в у ш. Не, што ты! Яна была Брончынай сяброўкай, вельмі моцна яе любіла і была напраўду шчаслівая, што Бронка выходзіць за чалавека, якога яна – так было ў лісце – магла б у найлепшым выпадку зрабіць няшчасным.

К а з і м і р (*дапытліва*). І пасля таго ты з ёй не бачыўся?

Т а д э в у ш. Не.

К а з і м і р. І ніколі пра яе не думаў?

Т а д э в у ш. Не. У маім сэрцы і ў душы толькі для Бронкі месца.

К а з і м і р. А калі б ты раптоўна яе ўбачыў?

Т а д э в у ш (*у задуменні*). Калі б я яе ўбачыў? Не... гэта ўжо ніякага ўражання на мяне не зрабіла б. Каханне да яе даўно ўжо адгарэла. А зрэшты, ці было тое каханнем... не ведаю. Можа, адно юнацкай амбіцыяй чалавека, які ніколі не чуў адмоваў і які быў шалёна раздражнёны тым, што не мог здабыць жанчыну, якой ён прагнуў завалодаць. Дадай да гэтага той сорам, які я адчуваў перад самім сабою, няўпэўненасць і незадаволеныя жаданні – і, можа, будзеш дакладна ўяўляць сабе тагачасны стан маёй душы. (*Падымаецца з месца і пачынае расхаджваць у пакоі.*) Калі б я яе ўбачыў... раптоўна... г-м-м... Можа, штосьці б і ўскалыхнулася ўва мне, на самым дне душы...

К а з і м і р. Здаецца, ты не надта ўпэўнены ў сабе.

Т а д э в у ш. Калі б пры мне не было Бронкі... Але, разумееш, я з маёй энергічнай і моцнай натураю няважна сябе пачуваў у тых сярэднявечных, халодных і змрочных мурах, у якіх тая жанчына толькі й магла існаваць. Начамі там было вусцішна. Там пасяліліся здані й прывіды. Энергія расплаўлялася, як той воск у агні. А гэтая ашалелая меланхолія высмоктвала ўвесь мозаг з касцей. А ты паглядзі: мой лоб створаны, каб грэцца на сонцы, а мае кулакі – каб з яшчэ большай рашучасцю, чым ёсць, ісці ў бойку, калі б гэта спатрэбілася. (*Выпростваецца, дужы і моцны, і раптоўна з вясёлым смехам і радасцю пляскае ў далоні.*) А... бывай жа, Бронка, бывай!

Б р о н к а (*з-за сцэны*). Зараз, зараз!

К а з і м і р. А дзе ж ты з Бронкаю пазнаёміўся?

Т а д э в у ш. А ў дзядзькі майго. Тое адбылося ў лесе: яна ехала вярхом, а яе конь панёс, нечага перапудзіўшыся. А я гляджу, дзіўлюся, чаму так ляціць конь. Ды тут уцяміў, што ляцець аж так наўзгалоп амазонка зусім не жадала, хоць і трымалася вельмі спраўна. І якім чынам я асадзіў каня,

не ведаю. Пасля той авантуры адляжаў пару тыдняў у ложку, але здабыў Бронку, спакой і шчасце.

К а з і м і р (*іранічна ўсміхаючыся*). Цікавая прыгода.

Т а д э в у ш. І праўда, цікавая. Гэткая цікавая, што – пакуль я чытаў пра гэтыя прыгоды ў раманах, бо з роспачы і нудоты не раз пачытваў раманы, – я нават не думаў, што такія гісторыі могуць надарыцца ў жыцці.

**СЦЭНА V**

Уваходзіць Б р о н к а, а за ёю Л ё к а й з падносам, застаўленым закускамі і наліўкамі.

Б р о н к а (*з пяшчотай прытуліўшыся да Тадэвуша, гладзіць ягоны твар рукою*). Які ж ты нецярплівы. Я ж хацела сама ўсё сабраць на стол.

Т а д э в у ш. Але навошта гэтулькі многа?

Б р о н к а. Да вячэры яшчэ доўга чакаць – еш, еш!

Т а д э в у ш (*налівае сабе гарэлкі і, кіўнуўшы ў бок Казіміра, п'е, пачынае есці закускі*). Ну завея дык завея, свету не відаць. Засыпала па пояс.

Б р о н к а. Ах, як так за цябе баялася!

К а з і м і р (*жартаўліва*). А-а, уяўляю: самыя страшныя відзежы тваіх болю і пакут пад перакуленымі санкамі стаялі ў яе ўваччу.

Т а д э в у ш (*абдымае яе, абхапіўшы за галаву*). О, ты непапраўнае дзіця: я ані кроку ад цябе адступіць не магу.

Б р о н к а. Бо я ведаю: каля мяне з табою нічога кепскага не станецца.

Т а д э в у ш (*раптоўна зрываецца з месца*). Але ж дзіўна! Памяць мая горшая, як у курыцы. Зараз, зараз прыйду. (*Ідзе да дзвярэй.*)

Б р о н к а. Куды ты?

Т а д э в у ш. Зараз, зараз, любая, будзе неспадзяванка. (*Знікае ў пярэднім пакоі.*)

За сцэнай чуваць моцны вокліч Т а д э в у ш а: "Павел! Павел!"

**СЦЭНА VI**

Б р о н к а (*вясёлая, нібы дзіця*). Напэўна, ён мне зноўку зрыхтаваў нейкую нятанную неспадзяванку. Я напраўду павінна яго паўшчуваць, бо ў мяне безліч тых аксамітаў, шаўкоў, тых дарагіх тканін, якімі ён мяне завальвае.

К а з і м і р. Ён кахае цябе, а закаханаму мужчыну вялікая радасць учыняць гэткія неспадзяванкі. Але паслухай, Бронка: ты ж яму таксама неспадзяванку падрыхтавала. Я якраз думаў над тым, ці будзе яна яму прыемная. Тадэвуш цяпер гэткі шчаслівы, а шчасце на дваіх – зайздрослівае ды эгаістычнае. Часам мне боязна, што *я* вам замінаю. А што казаць пра жанчыну, якая, як ты казала, Тадэвушу чужая...

Б р о н к а (*ажыўлена*). Не... не... зусім не. У гэтым уся наша жаночая хітрасць. Калі хочаш зберагчы каханне мужчыны, дык трэба яго раз-пораз ад сябе адстаўляць, раз-пораз адпускаць яго, каб хадзіў самапасам. Я ўсё добра, я ўсё добра зрабіла. Буду з Еваю займацца, гуляць, бавіцца, а ён няхай цягаецца па паляваннях, наведвае суседзяў, выtargгоўвае ў габрэяў зніжкі на збожжа і штодня вяртаецца дадому, прасякнуты ўсё большай і большай тугою.

К а з і м і р (*з сумнай іроніяй*). Ніколі не думаў, што ты здольная выкарыстоўваць гэткую вытанчаную тактыку.

Б р о н к а (*смеючыся*). Ды не, не вытанчаную, а толькі дасканала апрабаваную нашымі матулямі й бабулямі.

К а з і м і р. Добра, добра, але я непакоюся, каб сёння штосьці не сапсавала Тадэвушу гумору. Люблю яго, бо заўважаю ў ім тую сілу і той жыццёвы імпэт, і тую спакойную ўраўнаважанасць упэўненага ў сабе чалавека, якую дало яму знаходжанне побач з табою.

Б р о н к а. За Тадэвуша не бойся. Каб жа ты толькі не хадзіў цэлы вечар сюды-туды, як паўтара няшчасці, і каб жа мне самой гумору не папсаваў. Папрасі прабачэння, пацалуй у ручку.

К а з і м і р бярэ яе руку, але не цалуе, а глядзіць ёй у вочы.

Б р о н к а. Ну і што гэта значыць?

К а з і м і р. Нічога. Я толькі дазваляю сабе мець такую раскошу – патрымацца за тваю лагодную, мілую, цёплую дзіцячую ручку. Адчуванне такое, быццам вакол майго сэрца нешта растай. (*Цалуе яе ў ручку. Бронка ўважліва глядзіць на яго.*)

Б р о н к а. Ты, Казік, напраўду выглядаеш вельмі маркотным і знуджаным.

К а з і м і р. Яно так здараецца, калі чалавек не нарадзіўся ў той шчаслівай кашулі, у якой нарадзіўся Тадэвуш.

**СЦЭНА VII**

Уваходзіць Т а д э в у ш і расцілае ў нагах у Б р о н к і дарагі ядвабны шаль.

Т а д э в у ш. Я павінен быў гэтым шалем заслаць усю дарогу ад санак аж да парога нашага дома, калі ты выбегла сустракаць мяне. А я, апошні чалавек на свеце, засунуў гэтую цудоўную рэч пад сядзенне і зусім на яе забыўся.

Б р о н к а (*кідаючыся яму на шыю*). Маё золатка, мая радасць, мой непапраўны марнатраўца!

К а з і м і р (*глядзіць на яе ўважліва, потым падымаецца з месца*). Ну, пакідаю вас сам-насам з вашым шчасцем, а тым часам пайду напішу пару лістоў. (*Да Бронкі.*) А на вячэру, на такую вялікую ўрачыстасць мне, відаць, трэба будзе апрануць фрак.

Б р о н к а. А як бы ты інакш наважыўся паказацца мне на вочы?

К а з і м і р. Ну, то да пабачэння! (*Выходзіць, па дарозе на хвілю прыпыняецца каля вакна, мармычучы сабе пад нос.*) І калі ж гэты снег спыніцца?! (*Паварочваецца да Тадэвуша.*) Эх, Тадэвуш, які ж ты шчаслівы, што снег не можа замаркоціць тваю душу. (*Выходзіць.*)

**СЦЭНА VIII**

Б р о н к а (*гледзячы ўслед Казіміру*). Чаго Казіку бракуе? Ён гэткі надзіва сумны, задуменны.

Т а д э в у ш. Табе з ім нядобра? Ты да яго яшчэ не прызвычаілася?

Б р о н к а. Ах, ты ж ведаеш, як мне добра! Ён такі... як лагоднае, неспякотнае восеньскае сонца. З ім трошкі сумнавата, але добра і спакойна.

Т а д э в у ш. Ну так, так. Род наш гіне. Ён і я, мы абодва – апошнія, слабыя, восеньскія парасткі на старым, некалі магутным ствале нашага роду.

Б р о н к а. У Казіміру ваш род гіне, але ж не ў табе. Ах, ты ж такі дужы, крамяны, твой твар праменіцца шчасцем і моцай.

Т а д э в у ш (*абдымае яе, вядзе да каміна і садзіць побач з сабою*). Гэта тваё каханне, тваё каханне дало гэтую дужасць і моц.

Б р о н к а. А вочы ў цябе гараць, як вуголле, нібы ты хочаш захапіць цэлы свет, а потым зноўку робяцца такімі лагоднымі і пяшчотнымі, (*абхоплівае яго за галаву, туліць да грудзей і цалуе ягоныя вочы*) ...што я магла б іх цалаваць, цалаваць... без канца, без памяці...

Т а д э в у ш (*кладзе галаву ёй на грудзі*). Ты маё адзінае на свеце шчасце, як я захапляюся тваім пекным каханнем!

Б р о н к а (*перабірае ягоныя валасы*). Ах, якія ў цябе дзіўныя мяккія валасы! Разумееш, у мяне такое ўражанне, быццам я кранаюся не іх, а нейкіх мяккіх і пушыстых парасткаў... Вось жа, перад бацькавым домам была клумба вось гэткай далікатнай, пушыстай травы; ты не паверыш, з якою радасцю я, малая, качалася ў ёй! Так бы й хацела качацца ў капе тваіх валасоў. (*Цалуе яго валасы.*)

Т а д э в у ш. А памятаеш, як пад табою панёс конь?

Б р о н к а. Я да смерці спалохалася, ледзьве не страціла прытомнасць, а адначасна мела нечуваную раскошу, калі мяне несла гэтая дужая, незакілзаная, суровая, прыгожая жывёліна!

Т а д э в у ш. А памятаеш, як я цябе ўхапіў вось гэтак, падняў высака і пранёс уздоўжкі сцен усяго пакоя? (*Садзіць яе да сябе на калені, яна абвівае рукамі яго за шыю.*)

Б р о н к а. Ты мой, ты мой адзіны... Здаецца, існуе нейкі такі звычай, што маладая дзяўчына каля алтара павінна роспачна плакаць. Але ж я не плакала – мне хацелася крычаць, крычаць ад шчасця і захаплення, крычаць ад радасці, што неўзабаве мы паімчымся на санках, гнаных тваімі двума дзікімі жарабцамі, да цябе, да твайго жытла...

Т а д э в у ш. А памятаеш тую студзеньскую ноч? Неба сыпала знічкамі, іскрыўся змерзлы снег, а коні ляцелі так, што былі запененыя з ног да галавы. (*Абдымае яе яшчэ мацней.*)

Б р о н к а. Ах, прытулі мяне, прытулі да сябе так, як тады, калі ты захінуў мяне ўсю тваімі воўчымі шкурамі! (*Раптоўна адсоўваецца ад яго.*) Але скажы мне, чаму, калі мы ўжо даехалі дадому, твае вочы раптам засвяціліся гэткім халодным сталёвым бляскам?

Т а д э в у ш. Гэта я ставіў крыж на сваім мінулым.

Б р о н к а. І што ж у цябе было за мінулае?

Т а д э в у ш. Што за мінулае... Го-о, то было багатае і страшэнна скрушнае мінулае... Поўная мера Галгофы пакут і болю, поўная мера геенны ўнутранага разладу, вайны з самім сабою, катастроф, роспачы, пагарды да сябе і да ўсяго свету...

Б р о н к а. Ты калі-небудзь кахаў?

Т а д э в у ш. Ці ж я ведаю, было тое каханнем або не? Мажліва, мне проста здавалася, што я кахаю. Не хачу тут выдумляць тэорый, што ёсць каханнем, а што не ёсць, ды мне здаецца, што ў кожным каханні павінна прысутнічаць гордасць, царская ўпэўненасць у сабе і ў тым чалавеку, якога ты кахаеш; я ж такую ўпэўненасць адчуў адно з табою.

Б р о н к а (*гладзячы яго*). Тадак, будзь шчырым. Я сёння шмат размаўляла з Казімірам пра Еву.

Т а д э в у ш (*здзіўлёны і крыху змрочны*). Пра Еву?

Б р о н к а. Ага, пра Еву. Што ж ты, мой гаспадару, так пазмрачнеў?

Т а д э в у ш. Не, мне толькі прыгадалася, як яшчэ ў першыя тыдні па нашым шлюбе ты хацела пахваліцца перад ёю нашым шчасцем, а ў мяне няма аніякіх жаданняў, акрамя як жыць з табою, толькі з табою, бо шчасце ў каханні – надта далікатная рэч і можа быць парушанае нават нейкай драбніцаю...

Б р о н к а (*пудліва*). Якою?

Т а д э в у ш. Найчасцей уздзеяннем чужога чалавека. А ты ведаеш, Ева моцна змянілася... Казімір – ціхі і сумны, ты слушна сказала; ён паводзіць сябе спакойна і лагодна, нібы восеньскае сонца; але ж яна – што той кратар, які быццам бы згас, але агонь з якога можа шугануць у кожную хвілю.

Б р о н к а. Адкуль жа ты яе так добра ведаеш?

Т а д э в у ш. Адкуль? Ну табе ж вядома, што я раз-пораз з ёю бачыўся. Яна была зацікавіла мяне – гэтак, як да нядаўняга часу Казіміра магла зацікавіць нейкая незнаёмая карціна або нейкая экзатычная асобіна, кветка ці жывёліна.

Б р о н к а (*нясмела і пудліва*). Тадак! Тадак!

Т а д э в у ш (*здзіўлена*). Ну што, маё дзіця? Што?

Б р о н к а. Вось жа, я чула, што каханне слабне, калі людзі ўвесь час разам, адно каля аднаго, што ім патрэбныя кароткія разлукі, што ім неабходна сяды-тады пабавіцца самапасам, каб каханне захоўвала першасную свежасць і каб яны вярталіся адно да аднаго з яшчэ большай тугою. Не ведаю, скуль у мяне ўзнікла гэткая думка, але мне б хацелася, каб ты цяпер ездзіў на паляванні, наведваў суседзяў... а я ж не магла б цэлымі днямі сядзець дома, чакаць цябе...

**СЦЭНА IX**

Расхінаюцца цяжкія парцьеры, за якімі бакавы пакой, і ў дзвярах з'яўляецца Е в а. Бледная, як мярцвяк, з выразам невынішчальнага смутку на твары яна глядзіць на Тадэвуша і Бронку, якія, гледзячы ў бок каміна, не бачаць яе.

Б р о н к а. Ці слушна я кажу, Тадак, а? Скажы, так ці не?

Т а д э в у ш. Але ж, мілае дзіця, скуль у цябе гэткія думкі? Хіба ж можа чалавек, пражыўшы ў шлюбе год, мацней кахаць жанчыну, чым кахаю я, і больш па ёй сумаваць, чым я сумую?

Б р о н к а. Тадак, твае лісты, твае самыя каханыя, дарагія лісты... А гэты апошні – такі цудоўны, я дагэтуль нашу яго ў сябе на грудзях. (*Выцягвае ліст з-за станіка і жарсна цалуе яго.*)

Е в а (*на хвілю выйшаўшы за парцьеру ў бакавое памяшканне, зімовую аранжарэю, ходзіць па ім сюды-туды ў нервовым неспакоі. Раптоўна.*) Чую галасы ў пакоі. Вашы дываны занадта мяккія, каб вы маглі ўчуць мае крокі.

Т а д э в у ш (*ускоквае з месца*). Што гэта? Хто гэта?

Е в а. Ці можна ўвайсці?

Б р о н к а. Тадак, што з табою? (*Пільна глядзіць на яго, потым ідзе да дзвярэй.*) То заходзь, Ева, заходзь! Ох, як жа ўсцешыцца Тадэвуш! (*Рэзкім рухам рассоўвае парцьеры. Тадэвуш глядзіць перад сабою, нібы ў сне. Ева заходзіць, і адначасова падае заслона.*)

КАНЕЦ ПЕРШАЙ ДЗЕІ

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### СЦЭНА I

Той самы пакой. Змрок зімовага папоўдня. За акном іскрыцца белае покрыва снегу, у каміне гарыць агонь. Сцэна напачатку пустая. Праз хвілю ўваходзяць Т а д э в у ш і Е в а.

Е в а (*хуценька падыходзіць да агменю і пачынае грэць сабе рукі*). Ох, як мне холадна, як холадна! А здавалася, што я пры вас тут сагрэюся...

Т а д э в у ш. Ты нідзе не сагрэешся.

Е в а. Праўда? Я ж сюды прыехала дзеля таго, каб, гледзячы на ваша шчасце, маё сэрца разагрэць.

Т а д э в у ш (*іранічна*). Каб магчы яго разагрэць, трэба найперш яго мець.

Е в а (*расцягваючы слова.*) Та-а-к?

Т а д э в у ш. Ну так. Але я не пра тое. Увесь час, колькі мы разам шпацыравалі (*глядзіць на гадзіннік*), а гэта доўжылася больш за тры гадзіны, мы нагаварылі адно аднаму безліч кампліментаў; можа, пачнем размаўляць пра штосьці іншае?

Е в а. Пачынай ты... але напачатку папрасі запаліць святло... тут змрок, меланхалічны агонь у каміне, снег іскрыцца за вокнамі, гэтыя мяккія дываны, парцьеры... ах, гэта небяспечна, гэта ўзбуджае трывогу... наганяе сум... (*Задуменна азіраецца.*) Гэта ты сам абстаўляў дом ці як?

Т а д э в у ш. Сам.

Е в а. І рабіў усё цалкам свядома?

Т а д э в у ш. Цалкам.

Е в а. А ведаеш, што тваё жытло – копія майго?

Т а д э в у ш. Ведаю.

Е в а. А чаму ж ты так зрабіў?

Т а д э в у ш. Каб выпрабаваць свае сілы, пераканацца, што я ўжо звыкся, забыўся, здушыў у сабе той прывід.

Е в а (*усміхаючыся*). І дзеля гэтага ты павесіў у сваёй майстэрні карціну, якую я намалявала, якую я падаравала табе?

Т а д э в у ш. Ты была ў маёй майстэрні?

Е в а. Цэлую ноч, напярэдадні твайго прыезду.

Т а д э в у ш. А што ты там рабіла?

Е в а. Што я рабіла? Я была шчаслівая ад таго, што ты мяне кахаеш і сумуеш па мне.

Т а д э в у ш. Гэтым разам ты моцна памылілася.

Е в а. Не-не, я не памылілася. Твая майстэрня выглядае хутчэй як тая святыня, у якой ты цэлымі гадзінамі можаш быць адарваным ад свайго шчасця, ад свайго цёплага кутка, ад каралавых Брончыных вуснаў, каб там кроіць сабе сэрца і тужыць па тым, што дае табе дзіўную насалоду, з усяе сілы прагнуць таго, што прымушае тваю кроў шалець... Ох! Прагнуць, тужыць, тужыць...

Т а д э в у ш. Па чым?

Е в а. Па тым, што прычыняе табе боль і непакоіць цябе. Ты ж створаны дзеля змагання, ты ж некалі хацеў быць правадыром, ствараць новыя абсягі свету. Спыніцца адно на тым, каб сярод трупаў і руін зняць з галавы шалом з шышаком, каб толькі выцерці пот з разгарачанага твару... Не для

цябе ўсе тыя зацішныя куткі, мяккія дываны, вясёлыя агеньчыкі. Гэта добра для твайго брата, у якога спапялілася душа.

Т а д э в у ш (*сур'ёзна глядзіць на яе*). Ты перш за ўсё скажы мне, навошта ты прыехала. Бо, відаць жа, у цябе няма такіх злачынных інстынктаў, каб праз гвалт разбураць шчасце двух чалавек, а прытым чалавека, у якога ты ледзьве не забрала жыццё.

Е в а (*з пуставатым смехам*). Ледзьве... Як шкада, што я так хутка выпусціла са сваіх рук.

Т а д э в у ш. Ты мяне не выпускала, я сам вырваўся.

Е в а (*задуменная, нерухомым позіркам глядзіць на агонь у каміне*). Што ж, гэта праўда. Я была ў захапленні ад тваёй моцы і толькі тады цябе папраўдзе пакахала.

Т а д э в у ш (*здзекліва смяецца*). Ну ведаю, ведаю ўжо... Але дазволь, бо ты мяне ўвесь час перабіваеш... Адкажы ўрэшце на маё пытанне: навошта ты прыехала?

Е в а. Хіба ты не ведаеш? Гэта Бронка мяне настойліва прасіла. Можа нават гэтак нявінна схлусіла: пісала мне, што захварэла.

Т а д э в у ш. Ты не павінна была прыязджаць.

Е в а (*здзіўленая*). Чаму? Ты ж мяне ўвесь час клікаў, увесь час тужыў па мне!

Т а д э в у ш. Я – тужыў па табе, я – цябе клікаў?! Але ж я зусім быў на цябе забыўся...

Е в а (*сумна*). Не, ты на мяне не забываўся. Увесь твой дом прасякнуты мною. Як я толькі пераступіла парог твайго дому, я адчула, што гэта мой дом, што я тут непадзельна паную, што я адна запаўняю ўсю навакольную прастору.

Т а д э в у ш. Ха-ха... ты думаеш пра абстаноўку. Ну, то я табе скажу, што я наўмысна імкнуўся браць за ўзор твае пакоі, паколькі, разумееш, калі, прыкладам, ты хочаш адвучыць сябе ад гарэлкі і хочаш пераканацца, ці ты напраўду сябе ўжо адвучыў, дык ты, нягледзячы на тое, што гідзішся, выпіваеш адзін за адным два кілішкі. Калі табе не захочацца потым выпіць цэлую пляшку, значыць, ты вызваліўся з путаў залежнасці. Разумееш? Я наўмысна ўсё так абставіў, каб яно ўсё нагадвала пра цябе...

Е в а (*зласліва*). А ўсе-ткі...

Т а д э в у ш. Ды я ніколі пра цябе не думаў, нават у сне мне не прымроілася.

Е в а (*укідае галінкі ў агонь, як бы не чуючы, што кажа Тадэвуш*). Нацярпеўся ты, небарака. У тваёй душы павінны былі панаваць страшэнная дысгармонія, вэрхал, разлад. Мець усе магчымасці для шчасця і быць багатым, мець усё на лівок галавы, прытым жонку, якая кахае і якую кахаеш ты... А ты напраўду яе кахаеш? Можа ты адно перасыціўся змаганнем, болем і пакутамі, а цяпер, якую хвілю таму, сярод трупаў і руін зняў баявы шалом з шышаком ды выціраеш пот з разгарачанага твару?

Т а д э в у ш (*здзекліва*). Некалі твае метафары былі мне цікавыя, а сёння яны ўжо ніяк не кранаюць.

Е в а (*не зважаючы на ягоныя словы*). Ты толькі таму шчаслівы, каб магчы спачыць у найзелянейшай з далін, каб штурмаваць горы... (*Зноў адварочваецца ў задуменні да каміна.*) Ах, як бы я цябе тады кахала!

Т а д э в у ш. Слухай, Ева, табе трэба пакінуць мой дом. Досыць бавіцца ў дадуманае і ў недагаворанае. Ты ведаеш, як я цябе кахаў. Белы

і мяккі снег зацерушыў усе ўспаміны і боль, і змаганні, і пакуты; а калі снег растане...

Е в а. Ну і што будзе?

Т а д э в у ш. Было б кепска.

Е в а. Для каго?

Т а д э в у ш. Для цябе, для мяне, а перадусім для Бронкі.

Е в а (*выцірае пот з ілба*). Для Бронкі, для Бронкі... Ах, я вельмі яе люблю... (*Праз хвілю.*) Бронка будзе вельмі няшчаснаю...

Т а д э в у ш (*падыходзіць да яе і сядае побач з ёю.*) Слухай, але слухай добра і пастарайся зразумець тое, пра што я табе скажу. Ты маеш звычку ўдаваць, нібыта не чуеш, але зараз будзь ласкавай і адмоўся ад гэтай звычкі, бо гэтыя гулі тут недарэчы.

Е в а (*абыякава*). Слухаю і паспрабую зразумець.

Т а д э в у ш. Шчыра прызнаюся, што я напраўду адчуваю сябе раздражнёным і занепакоеным; я табе нават болей скажу: я часта нават думаў пра цябе, сумаваў па тых засмучэннях, што ты мне прыносіла; быць можа, тужыў па тых пакутах, што ты мне прычыняла; але ж цяпер, прашу, пакінь мяне ў спакоі. Я кахаю Бронку і з ёю застануся.

Е в а. Застанешся – дык яе замучаеш. Раны ў тваім сэрцы аднавіліся; ты ляціш у агонь, як матылёк; з тае самае хвілі, як ты пачуў мой голас за гэтай заслонаю, адразу абрынуўся гэты картачны палац, які ты гэткай мазольнай працай і з такімі цяжкасцямі збудаваў, назваўшы яго сваім шчасцем. (*Іранічна.*) Ха-ха, мяне ты не падманеш! Табе ж цесна ў гэтым зацішным і цёплым кутку. У табе ж усё пнецца – ламаць загароды, здабываць новыя абсягі свету! Ты апошні з таго вялікага і цудоўнага роду канкістадораў, якім заўжды не хапала ідыёцкага закутка, што завецца Еўропаю...

Т а д э в у ш (*з'едліва*). Ну, вялікі дзякуй табе за тыя новыя абсягі свету, якія я магу здабыць праз тое, што пазабіваю нейкі бязвінных і дурных бараноў, цэлую атару...

Е в а. Гэта не тое. Трэба перадусім зацугляць мора, раскапаць горы, трэба прайсці праз усялякія катоўні і ўсялякія асалоды, каб той новы свет адкрыўся тваім вачам; а тое, што такі вось канкістадор выпадкова жалезнай нагою наступіць на нейкую кветку – што гэта можа значыць? (*Расцягваючы словы, як бы ў паўсне.*) Што з таго, што будзе высечаны хай сабе найпрыгажэйшы лес, абы вочы твае ўпіваліся новым і нязнаным цудам!

Т а д э в у ш. А што ж далей, далей...

Е в а. Памалу... памалу... (*Раптоўна смяецца.*) Ха-ха, вось гэтак у табе ўвесь час узбуджаецца жарсная, жарлівая кроў канкістадора. (*Глядзіць на яго і зноў як бы дранцвее.*) Трэба перадусім зацугляць мора, раскапаць горы, жалезным ступаком растаптаць нейкую кветку.

Т а д э в у ш (*пагрозліва.*) Ты думаеш пра Бронку?

Ева маўчыць, разграбаючы лапаткаю агонь і падкідаючы свежых галінак.

Т а д э в у ш (*таямніча*). Пра Бронку?

Е в а (*абыякава*). Адгадаў.

Пануе маўчанне; у гэты час Тадэвуш, узбуджаны, прахаджваецца па пакоі.

Т а д э в у ш (*падышоўшы да Евы*). Ева, малю цябе, пакінь нас у спакоі...

Е в а. Але ж спакою ў цябе больш не будзе.

Т а д э в у ш. Ведаю, ведаю, але, прынамсі, ён будзе ў Бронкі.

Е в а. Разумееш, Тадэвуш, ты ўжо зусім зрабіўся сляпы: не бачыш анічога навокал сябе. Хіба ж ты не бачыў, як яна неспакойнымі вачыма сачыла за табою, як спуджана яе вочы, нібы перапалоханыя птушаняткі, пазіралі то на мяне, то на цябе?.. Ох, як жа я яе моцна люблю!.. Хіба ж ты не бачыў, як яна была ўзбуджаная, ненатуральная, раздражнёная, як увесь час звярталася да Казіміра, быццам у яго дапамогі шукала?..

Ізноў пануе маўчанне. Тадэвуш увесь час ходзіць сюды-туды ў пакоі.

Т а д э в у ш. Г-м, значыцца, ты мяркуеш, што я народжаны дзеля таго, каб новыя абсягі свету здабываць? Навошта?

Е в а. Каб жыць прыгожа і быць прыгожым.

Т а д э в у ш. А калі не ўдасца здабыць?

Е в а. То загінеш у змаганні, і гэта будзе прыгожа.

Т а д э в у ш. А калі ўсё гэта – толькі марнае тузанне, бяздумнае знішчэнне самаго сябе і ўсяго, што наўкола?

Е в а. Гэта ж таксама прыгожа. Чалавек, які тузаецца, б'ецца, пакутуе і прагне чагосьці, хоць бы ён аніколі не дасягнуў сваё мэты... такі чалавек прыгожы.

Т а д э в у ш. А калі ён прагне толькі цішыні, спакою, ціхага куточка, цёплага агменьчыка?

Е в а. Гэта ўсё падыходзіць Казіміру.

Т а д э в у ш. А мне?

Е в а (*працягла глядзіць на яго і ўсімхаецца*). Табе? Толькі я, адна я.

Т а д э в у ш (*спыніўшыся каля яе, прыглушана*). Чаму ж, чаму ж тады, калі я ўсё на свеце кідаў да тваіх ног, калі я з табою і з тваёю дапамогай мог бы здабыць тыя новыя абсягі свету, пра якія ты цяпер кажаш, чаму ж тады ты мяне адпіхвала і не прымала?

Е в а. Бо ты не ўмеў быць маім уладаром.

Т а д э в у ш. А цяпер што?

Е в а. А цяпер я цябе кахаю; кахаю за тое, што ты збіраўся забыць пра мяне, што хацеў пераламаць у сабе тое, да чаго звыкся; бо толькі моцныя могуць пераламаць у сабе гэта. Я кахаю цябе з усім смуткам і страхам, што ты не схочаш быць маім.

Т а д э в у ш (*нервова смяецца*). Трэба запаліць лямпу. Бронка кожнае хвілі можа ўвайсці. Яна гатовая апусціць цябе на зямлю з тваімі літаратурнымі мроямі. А яшчэ пачаць падазраваць мяне, што мы тут з табою праводзім салодкія "*хвілі сам-насам*"*. (*Запальвае лямпу. Абое маўчаць.*)

Е в а (*абыякава*). І ты гэтак доўга цягаўся па свеце?

Т а д э в у ш (*са здзіўленнем глядзіць на яе, але працягвае ў той самай танальнасці.*) Доўга, мала што не два гады.

Е в а. Ты, відаць, пабываў у Афрыцы?

Т а д э в у ш (*са здзекам у голасе*). Пабываў, але там усё, што можна было адкрыць, ужо адкрыў Стэнлі**; я ж заняўся паляваннем на тыграў... Твая праўда... ха-ха-ха... я створаны быць канкістадорам. Калі на маіх вачах тыгр разарваў двух тубыльцаў, то ўва мне напраўду не ўзнікла пачуцця трыумфу.

Е в а (*са здзекам у голасе*). І ўсё?

Т а д э в у ш. ...І ў галаве ў мяне прамільгнула самая простая думка – што цяпер прыйдзе чарга на мяне.

Е в а (*кпліва*). І што, у цябе з сабою не было зброі?

Т а д э в у ш (*такім самым тонам*). Порах намок.

Е в а. І ты не баяўся смерці?

Т а д э в у ш. Я прагнуў яе. Гэта ж так прыгожа – быць разарваным якім-небудзь каралеўскім зверам.

Е в а. Ага, прыгожа... Але ж чуваць, што Бронка вяртаецца.

Чутно, як адчыняюцца дзверы пярэдняга пакоя і як гучна размаўляюць паміж сабою Б р о н к а з К а з і м і р а м.

## СЦЭНА II

Б р о н к а і К а з і м і р уваходзяць.

Б р о н к а (*ненатуральна ўзбуджаная*). Ах, каб вы ведалі, што было за дзівоснае катанне! А тыя бліскучыя іскрынкі замерзлага снегу на лёдзе, месяц, месяц... ах, як жа гэта было цудоўна! (*Павярнуўшыся да Евы.*) Заўтра ты мусова пойдзеш з намі: гэта ўсё як бы для цябе створанае: снег, месяц і Казік. Ха-ха-ха... глядзі: Казік такі змораны, а я ў жыцці не бачыла чалавека, які б так спраўна коўзаўся!

К а з і м і р. Бронка, як звычайна, перабольшвае: аж так цудоўна не было. Сажалка не была расчышчаная, а мая мілая братавая бавілася тым, што соўгалася па калена ў снезе.

Б р о н к а (*рассеяна*). Ах, як ён маніць, як ён маніць... О, ты нядобры... (*Раптоўна да Тадэвуша:*) Тадак, можа ты не задаволены, што я табе дала пацешыцца свабодаю на такі працяглы час? Але ж, каханы, я ведала, што ты застаешся з маёй дарагою Евай; я так і хацела, каб вы пабылі разам, каб ты нарэшце, пражыўшы год, скінуў з сябе гэты ўбор правінцыяла-грэчкасея, і змог бы з Еваю палунаць у тых сферах, якія для мяне, беднай, завысокія. (*Тулячыся да Евы.*) Ох, якая ж ты, Ева, шчаслівая! Ты зусім іншая, чым усе мы тут. Ах, як я добра памятаю цябе тады, калі я пасля маіх заручын наведвала цябе! Чуеш, Тадак? Пакой быў якраз такі самы, такі самесенькі, як гэты, у якім мы цяпер сядзім... (*Як бы абудзіўшыся ад сну.*) Ева, гэта проста дзіва: абстаноўка ў пакоі абсалютна такая самая, як у нашым...

Е в а. Нічога дзіўнага тут, Бронечка, няма: відаць, гэта зусім выпадкова.

Т а д э в у ш (*халодна*). Відавочна, што ў пакоях панны Евы і маім працаваў адзін і той жа шпалернік.

Б р о н к а. Г-м-м, напэўна. Ці памятаеш ты, Евачка, як мы тады сядзелі каля каміна? Ты глядзела на агонь, а расказвала без супыну, без супыну... я ўжо і не ведаю, пра што я там балбатала, а ты была такой добраю, цярпліваю... (*Раптоўна гучна смяецца. Тадэвуш падыходзіць да яе, расчулены.*)

Т а д э в у ш. Што з табой, каханае дзіцятка, чаму ты сёння гэткая знерваваная?

Б р о н к а. Разумееш, я б хацела лятаць, лятаць высока, як птах; а атрымліваецца, што я толькі б'юся крыламі аб зямлю і так нуджуся. І так мне хочацца ўзляцець, а крылы – як тое волава... (*Да Евы.*) Ах, Ева, якая ж ты шчаслівая!

К а з і м і р. Вось бачыш, хіба я табе не казаў, што гэткія заняткі спортам пад прымусам нездаровыя? Колькі я цябе прасіў-маліў, а ты не хацела мяне слухаць; а цяпер ты будзеш вымушаная адпакутаваць усё гэтае рамантычнае коўзанне.

Б р о н к а (*з упартасцю ў голасе*). Не-не, мне ўжо досыць гэтых рамантычных слабасцяў; я проста дурнаватае раскапрызненае дзіця. (*Раптоўна зрываецца ў плач і выбягае ў суседні пакой. Ева ўскоквае з месца, хоча ісці за ёю.*)

Т а д э в у ш. Заставайцеся тут: я сам пайду і хуценька яе супакою. (*Выходзіць услед за Бронкай.*)

**СЦЭНА III**

К а з і м і р (*занепакоена*). Бронка, відаць што, захварэла: цэлы дзень была неспакойная, неяк ненатуральна ўзбуджаная...

Е в а. Я сама дзіўлюся, бо яшчэ ніколі яе такою не бачыла.

К а з і м і р (*раптоўна*). Але ж вы заўважылі, што Бронка з учарашняга дня змянілася?

Е в а. Хвіліну таму я пра тое самае казала вашаму брату.

К а з і м і р. Учора ад самай вячэры і цэлы дзень сёння вы бачыце гэты яе неспакой?

Е в а. Менавіта, і мяне гэта дзівіць.

К а з і м і р. І ў вас няма някіх здагадак, што магло б стацца прычынаю гэткай раптоўнай перамены?

Е в а. Няма.

К а з і м і р. Г-м-м, але ж вы, відаць, заўважылі, што і Тадэвуш як сам не свой – задуменны, рассеяны...

Е в а. А яго іншым і не ведала.

К а з і м і р. Затое я ведаў: ён прыехаў вясёлы, шчаслівы, прытым моцна засумаваўшы па Бронцы. Я ўжо даўно не бачыў яго такім поўным сілы й веры ў сябе і ў сваё шчасце.

Е в а. І што з таго?

К а з і м і р (*таропка зірнуўшы на яе*). Ну, я не разумею, чаму адбыўся такі раптоўны паварот.

Е в а. Нешта мне здаецца, што вы спрабуеце вінаваціць мяне ў гэтай раптоўнай змене ейнага настрою?

К а з і м і р. Ці не заўважылі вы, што сёння Бронка выйшла на сняданак з чырвонымі вачыма? Магу хоць чым прысягнуць, што яна ўсю ноч праплакала.

Е в а. І вы мяркуеце, што ў тым мая віна?

К а з і м і р. Ды не, мне б і ў галаву не прыйшло вас за нешта асуджаць... Гаворка тут пра іншае... Я не хацеў бы, каб вы хоць на хвіліну пачалі сабе ўяўляць, што я збіраюся ў вас нечага дазнацца, але ж ад учарашняга дня сітуацыя так дзіўна і так відавочна змянілася... У паветры лунае нейкая загадка, якую я з вялікай ахвотаю прагнуў бы разгадаць... Вы разумееце, я чалавек нервовы, а такія цяжка пераносяць парнасць паветра перад навальніцай.

Е в а. Парнасць паветра перад навальніцай?

К а з і м і р. Менавіта, менавіта... няважна, як мы будзем гэта называць: у кожным разе, у паветры лунае нешта такое, што гэткая ўразлівая душа, якую мае Бронка, павінна інстынктыўна адчуваць... О, вы чуеце, як яна плача?

Відаць, як у суседнім пакоі Тадэвуш прытульвае Бронку да сябе і намагаецца супакоіць яе. Казімір прыслухоўваецца з усё большай трывогаю. Ева зрываецца з месца і, таксама ўстрывожаная, ходзіць сюды-туды ў пакоі.

К а з і м і р (*ідзе за ёю*). Ці чуеце вы?

Е в а. Ціха... ціха...

К а з і м і р (*бярэ яе за руку і вядзе да акна*). Па шчырасці, я вас не ведаю, але таго, што я чуў ад Бронкі і Тадэвуша, будзе досыць, каб займець выразнае ўяўленне пра вашую душу.

Е в а (*абыякава*). Прашу вас, не цвяліце мяне цяпер. Я ж ведаю ўсё, пра што вы хочаце мне сказаць.

К а з і м і р. Не-не, вам гэта невядома... Я ніколі не ўмешваўся ў нічые справы, нават у гэткія, што датычаць маіх самых блізкіх, самых улюбёных людзей, Бронкі і Тадэвуша...

Е в а. Ну, то давайце гаварыць адкрыта: вы ведаеце ад Тадэвуша, што ў нас з ім былі блізкія стасункі; мне вядома, што ён вам часта пісаў лісты, у якіх, напэўна, раскрываў перад вамі сваю душу, свой унутраны стан; тое было тры ці чатыры гады таму. Вы ведаеце, што ён мяне кахаў. Ведаеце таксама, што гэткую мілосць можна прыцерусіць сняжком, але толькі дзеля таго, каб яе разагрэць і зрабіць яшчэ мацнейшаю ды яшчэ больш жарснаю.

К а з і м і р. Якраз пра гэта я і хацеў сказаць.

Е в а. Бронка казала вам, што я яе шалёна люблю, што ў пансіянаце мы былі неразлучныя... Казала вам пра ўсё гэта?

К а з і м і р. Казала. Учора мы з ёй доўга пра гэта гаварылі.

Е в а. Вы – шчыры чалавек, і я таксама буду з вамі шчырая. Праз пару гадоў яна прыехала да мяне, ужо як Тадэвушава нарачоная – прыгожая, шчаслівая... ох... такая шчаслівая, што, хоць маё сэрца разрывалася на кавалкі, я пагадзілася з тым, што яна зробіцца жонкай чалавека, якога я гэтак жарсна кахала.

К а з і м і р. Вы яго кахалі?

Е в а. Кахала... акурат тады, калі яго страціла. (*Яны нейкую хвілю глядзяць адно на аднаго.*) А зараз вы спытаеце, чаму гэта я прыехала разбураць шчасце сваёй сяброўкі, праўда?

К а з і м і р. Мажліва, нейкае такое пытанне ў мяне ў галаве і прамільгнула, але ж гэта зусім недарэчна... Кажу шчыра, што аж занадта вялікай сімпатыі я да вас не адчуваю. Не-не... я не тое хацеў сказаць. Я толькі пра тое, што ў нас з вамі мала агульнага, але гэта не замінае мне быць справядлівым... (*Раптоўна.*) Вы ўвесь гэты час сумавалі па ім?

Ева, уткнуўшыся галавой у шыбу, маўчыць.

К а з і м і р. Вас заўсёды неадольна цягнула да чагосьці такога, пра што вы ведалі: яно для вас недасяжнае?

Ева паварочваецца да яго і маўчыць.

К а з і м і р. Вашае самае моцнае жаданне ў жыцці – аблытаць і пацягнуць за сабою чалавека, які пойдзе за вамі наўслеп, з ніколі не пераадоленай у сабе тугою.

Е в а. Ёсць такое.

К а з і м і р (*ажыўлена*). І гэты чалавек – Тадэвуш?

Е в а (*з моцай у голасе*). Ён.

К а з і м і р (*ажыўлена)*. А Бронка?

Е в а. Вы чуеце, як яна цяпер шчасліва смяецца... А ведаеце, што будзе зараз?

К а з і м і р. Ну?

Е в а. Увойдзе Бронка, кінецца мне на шыю і будзе так горача, так хораша прасіць прабачэння за тое, што ўчыніла тут сцэну... Шаноўны... поўня свеціць – падай мне маё футра... давай крыху пройдземся... можа, знойдзем яшчэ больш шчырыя ноткі ў нашых прызнаннях-разважаннях. (*Доўга глядзіць на Казіміра.*) Вы ж не будзеце мне пярэчыць?

К а з і м і р. У чым?

Е в а. Вы кахаеце Бронку!

К а з і м і р (*доўга глядзіць на яе*). Кахаю.

Е в а. Ці чуеце вы ейны смех? Ах, гэткі цудоўны, залівісты, дзявочы смех.

К а з і м і р. Хадзем ужо, хадзем.

**СЦЭНА IV**

Б р о н к а і Т а д э в у ш уваходзяць, трымаючыся пад ручкі, вясёлыя і шчаслівыя – так яно выглядае.

Б р о н к а (*да Евы*). Дарагая, любая мая Евачка! Ты ж так даўно ведаеш мяне. Вы ўсе былі да мяне аж занадта добрыя. Ты сваёй дабрынёю псавала мяне, а Тадэвуш сапсаваў мяне дашчэнту. Евухна, ты ведаеш: я ж – вар'ятка. У мяне бываюць такія хвілі, калі я непрадказальная.

Е в а. Чаму ты так зажурылася і за што ў мяне прабачэння просіш? (*Гладзіць яе твар.*) Ах ты, мімозачка мая, якая ж ты неспакойная і расчуленая...

Б р о н к а. Можна прабачыць дзіцяці за тое, што не можа ўстрымацца ад капрызаў, але мне – нельга. (*Нервова, хутка і бязладна.*) Разумееш, часам мяне цяжкія думкі адольваюць. Не, не тое, не тое! Гэта так, як было тады... Не, гэта папраўдзе не прадчуванне няшчасця... гэта адно далёкі, далёкі ўспамін пра тыя жахлівыя гадзіны, якія я перажыла ў дзяцінстве – калі я марна бегала па ўсім фальварку, шукаючы сваю сястру. Я ведала, што здарылася штосьці кепскае, я адчувала гэта, адчувала... Я абшукала ўвесь лес, аблётала ўвесь бераг ракі, аж пакуль, узрушаная і задыханая, не вярнулася дадому. (*Ва ўсё большым узрушэнні мацней і мацней туліцца да Евы.*) Евачка! Евачка! ...мне здавалася, што мяне нешта наганяе, што нешта тузае мяне за валасы... я ўпала на мурог перад верандаю. Я затуліла ўвесь твар даланямі, каб не глядзець назад, а яны йшлі, йшлі...

Е в а. Хто?

Б р о н к а. Мужыкі, а з імі мая нянька-мамка; і яны неслі на дра́гах маю дарагую сястрычку... яна ўтапілася ў стаўкэ...

Е в а (*выгукае міжвольна*). У стаўку?

Б р о н к а. У стаўку, ага, у стаўку. (*Да Тадэвуша.*) Накажы засыпаць гэтую сажалку: яна ўвесь час нагадвае мне тое глыбокае, чорнае вока нашага стаўка...

Т а д э в у ш. Супакойся, Бронка, супакойся: я зраблю ўсё, што ты толькі пажадаеш. Калі хочаш, я тут навокал усё з зямлёю зраўнаю. (*Нечакана збянтэжаны, кідаючы хуткі позірк на Еву, чаго Бронка, якая ўсё туліцца да Евы, бачыць не можа.*) Вядома, я гэта зраблю. Сажалкі пазасыпаю зямлёю, дрэвы павысякаю...

Е в а. А можа, вы й снег з зямлі пазмятаць накажаце? Ах, дзеці, дзеці... Цяпер прыйшла чарга пану Тадэвушу раздражняцца.

Б р о н к а. Тадак, чым я цябе сёння раздражніла?

Т а д э в у ш. Ды не, Бронечка каханая, ты мяне нічым і не раздражняла; проста ты ж ведаеш, што мне заўсёды маркотна, калі ты побач са мною ніяк на тыя балючыя ўражанні свайго дзяцінства забыцца не можаш.

Е в а (*гладзіць Брончын твар*). Забудзь, забудзь. Мужчыны, пакіньце мяне на хвіліну з Бронкай адну. Каля мяне яна супакоіцца.

К а з і м і р. Яна слушна кажа – хадзем, Тадэвуш.

Т а д э в у ш. Супакойся, Бронечка, супакойся...

Б р о н к а. Глядзі: я ўжо зусім спакойная, але вы ідзіце ўжо: мне тут з Еваю будзе добра, яна адна заўсёды ўмела мяне супакойваць.

К а з і м і р і Т а д э в у ш выходзяць.

К а з і м і р (*азіраецца, стоячы ў дзвярах*). Панна Ева, вы нібыта мелі ахвоту прагуляцца ў парку?

Е в а. О, пазней, крыху пазней – калі Бронка дарэшты супакоіцца.

Б р о н к а. То давайце пойдзем усе разам.

Е в а. Не, не, даражэнькая! Я хачу быць табе мілай госцяю; любы госць можа моцна перашкаджаць маладой шлюбнай пары, калі змушаць яе надаваць яму шмат увагі. (*Працягваючы гладзіць Бронку.*) Цябе палохае чорнае вока стаўка́, а тут, у гэтым утульным кутку, так міленька з мужам разам.

К а з і м і р выходзіць, пачуўшы яе самыя першыя словы.

**СЦЭНА V**

Б р о н к а. Евачка, ці я ўжо зусім нязносная?

Е в а (*задуменна*). Не, што ты! Мяне толькі дзівіць гэта твой выбух эмоцый.

Б р о н к а. Не злуй на мяне, Евачка.

Е в а. Не, нават тады...

Б р о н к а (*як бы адгадаўшы, пра што Ева думае.*) Калі?

Е в а. ...нават тады, калі б тая перамена, што адбылася ў табе... (*Перапыняецца.*) Скажы шчыра: у цябе нейкі няпэўны страх?.. можа, нават гэта не страх, але я не бачу таго даверу, які ў цябе заўсёды быў да мяне.

Б р о н к а (*праз хвілю*). Я абсалютная шчырая, я ўсё табе шчыра скажу... Разумееш, ты так змянілася...

Е в а (*усміхаючыся*). Змянілася?

Б р о н к а. Менавіта! Мне цяжка ўгледзець у табе маю дарагую Еву, якой ты была два гады таму. У нейкія хвілі мне здаецца, што сплыла цэлая вечнасць ад таго часу, калі ты мяне гэтак душэўна прытульвала да грудзей і адчувала маю радасць, што мы маем пабрацца шлюбам з Тадэвушам.

Е в а (*міжволі*). Ну так, прайшла ўжо цэлая вечнасць.

Б р о н к а. Вось бачыш, а я гэтак бездапаможна і з гэткім страхам гляджу на дно тае вечнасці. Цяпер табе зразумела, зразумела, чаму мне ўзгадаўся той ставок, ягонае чорнае вока. (*Ева гладзіць яе валасы.*) Мажліва, я крыху прастудзілася. Мажліва, я трохі не ў сабе, але я адчуваю дотык тваіх рук неяк інакш, чым гэта было даўней. Даўней было так, быццам ты хацела сваёй любоўю выпаліць таўро на маім целе; бо ведаеш: бываюць дотыкі, якія пякуць не раўнуючы як распаленае жалеза, а цяпер яны

гэткія чужыя і далёкія... Ты разумееш, разумееш... О, пачакай: гэта як бы восеньская туга пачала вымятаць жаўталісце з каштанавых прысадаў...

Е в а. Туга?

Б р о н к а. Менавіта туга! Ах, як мяне бянтэжыць твая туга! Памятаеш, калі мы былі разам у пансіянаце, мне было страшнавата ад тваёй выбуховай і раўнівай любові, а цяпер мне боязна ад тваёй тугі. Скажы мне толькі Ева, чаму я павінна была ўвесь час баяцца цябе?

Е в а. Паслухай мяне: ты цяпер раздражнёная, але я ўсё ў табе разумею. Я не адчуваю ўцямна аніякай перамены ў стаўленні да цябе, але, мажліва, я напраўду змянілася... Ты цяпер непадзельна не належыш мне, як яно было калісьці... ты кахаеш свайго мужа і, можа, падсвядома баішся чагосьці няўлоўнага... А я ведаю. (*Раптоўна пачынае смяяцца.*) А можа, міленькая, ты раўнуеш? А? Скажы мне шчыра.

Б р о н к а. Не, не, я не раўную, але сапраўды нечага баюся...

Е в а. Чаго ж?

Б р о н к а. Тваёй прыгажосці...

Е в а. Што гэта значыць?

Б р о н к а. Што гэта значыць? Разумееш, ты магла б быць прыгожай жанчынай, о, найпрыгажэйшай з усіх жанчын на свеце, а я ніколі б таго не пужалася, ведаючы, што Тадэвуш на гэткую прыгажосць ніякай увагі не зверне. А ты прыгожая іншым чынам. У тваёй прысутнасці абуджаюцца туга і тыя жаданні, якіх раней ніколі не было. Ты можаш прыкуць да сябе і пацягнуць за сабою чалавека, хоць і не будзеш ведаць, што нехта ідзе след у след за табою, а ён зноў-такі не будзе ведаць, куды яго завядуць твае чары... але ж будзе ісці наўслеп... наперад... далей... далей...

Е в а. І куды ж?

Б р о н к а. Я не ведаю, не ведаю. Разумееш, я не ўмею спасцігнуць гэтага, я ўмею адно адчуваць. Штосьці рве маю душу, нішчыць розум, а я не ведаю, што гэта... (*Задуменна.*) Казік мне сёння казаў, што існуе нейкі пункт, у якім збягаюцца ўсе супярэчнасці... я добра не памятаю, як ён гэта сказаў, але штосьці ў тым сэнсе, што бясконца вялікая сфера робіцца плоскасцю; а я думала пра тое, што гэтае чорнае вока стаўка́ можа гэтак вось паглыбіцца да бясконцасці, і тое, што было долам, сальецца з небам... (*Задумаўшыся.*) Куды? Або ў ставок, у чорную бездань, або ўверх, угару, у велічнае неба...

Е в а. І адкуль жа ў цябе такія думкі?

Б р о н к а (*раптоўна кідае на яе таропкі позірк, а потым усміхаецца*). Вядома, вядома, Евачка, мы не можам знайсці сябе. (*Раптам з болем у голасе.*) Ну вось, глядзі: цяпер, калі штосьці больш зразумелае сфармавалася з маіх прадчуванняў і страхаў, калі я пачынаю адгадваць, што ж унутры ў мяне віравала, а выйсці на паверхню не магло – цяпер я так удзячная табе... ты зноў здаешся мне бліжэйшаю... Але дзіўна тое, што... і ўва мне пачынае абуджацца нейкая туга... А можа я занадта слабая на гэткую тугу, на гэткае катаванне тугою?

Е в а. Па чым табе тужыць? Хіба ж усе твае памкненні, выкліканыя тугою, ужо не здзейсніліся?

Б р о н к а. Адна яшчэ не.

Е в а. А ты ведаеш, якая? Табе гэта вядома?

Б р о н к а. Яшчэ не, яшчэ не!

Маўчанне.

### СЦЭНА VI

К а з і м і р (*уваходзіць занепакоены, звяртаецца да Бронкі*). Ну што, мілая мая братавая ўжо супакоілася?

Б р о н к а (*раптам удаючы з сябе весялосць*). Ідзі ўжо сабе: зноў хочаш пацвельваць мяне. Мне ўжо досыць твайго філасофствавання пра тыя супярэчнасці, якія павінны злучыцца ў нейкім пункце.

К а з і м і р (*жартам*). Ну, ты не надта дакладна ўсё сфармулявала, але сваім парадкам ты можаш на сабе заўважыць гэты факт. Хвілю таму сумная, раздражнёная, цяпер ты зрабілася вясёлаю...

Б р о н к а. Мне папраўдзе няма за што дзякаваць табе, бо ты сваёй кіслаю мінай можаш чалавека да роспачы давесці.

К а з і м і р. Пачакай, убачыш: заўтра яна ў мяне будзе яшчэ больш кіслая.

Б р о н к а. Дужа табе дзякую.

К а з і м і р (*да Евы*). Ну, то можа вы б цяпер са мной выйшлі прагуляцца? Я на нейкі час запрог Тадэвуша, каб ён заняўся адной маёмаснай справаю, у якой я анічога не цямлю.

Е в а. А ты, Бронка, забудзься на свае відзежы, спакойна, спакойна... (*Абдымае Бронку, укладвае яе на шэзлонгу і захінае шалем.*)

Б р о н к а. Ах, як мне добра, як мне добра.

Ева і Казімір выходзяць.

### СЦЭНА VII

Б р о н к а *(хвіліну ляжыць ціха, потым памалу ўстае з шэзлонга, трывожна прыслухоўваецца, потым выцягвае з-за станіка ліст, цалуе яго, закрывае лістом твар і ціхенька плача)*. Тадак, Тадак, мой адзіны на свеце!

КАНЕЦ ДРУГОЙ ДЗЕІ

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

### СЦЭНА I

Б р о н к а, Т а д э в у ш

Праз ярка асветленыя вокны відаць, як яны павольна ідуць праз зашклёную аранжарэю да гасцёўні. Ранні золак. Сонца ружова адбіваецца на снезе за вокнамі. Бронка ўваходзіць першая, падыходзіць да шэзлонга і абапіраецца на яго.

Б р о н к а. Нідзе спакою, нідзе спакою знайсці не магу. Нідзе, нідзе... А мне так хацелася прытуліцца да цябе і знайсці каля цябе суцяшэнне. Тадак, Тадак... Што з намі сталася?

Т а д э в у ш. Ах, мілае маё, каханае дзіця!.. Хіба ты не разумееш, што ты ўзбуджаная? Хіба ты ўжо забылася, як ты плакала, калі я на адзін тыдзень з’язджаў з дому?

Б р о н к а. О не! Гэта было зусім не тое... Тады гэта быў адно толькі жаль распешчанай жанчыны і боязь гэтай страшэннай тугі – што я цябе цэлы тыдзень... падумай толькі, цэлы тыдзень тут не ўбачу.

Т а д э в у ш. А цяпер, ну а цяпер? Я ж тут, з табою, я днём і ноччу з табою.

Б р о н к а. А душа твая... дзе блукае?

Т а д э в у ш. Мая душа? (*Сур’ёзна.*) Заўсёды толькі й толькі з табою.

Б р о н к а (*рэзка*). Са мной? Скажы мне яшчэ раз, што душа твая заўсёды толькі й толькі са мною.

Т а д э в у ш (*голасна*). Заўсёды! (*Ходзіць сюды-туды ў пакоі ў глыбокім задуменні, а Бронка сочыць за яго рухамі.*)

Б р о н к а. Заўсёды са мною?

Т а д э в у ш. Кажу табе шчыра, што я даўней раз-пораз ужо адчуваў такую вялікую тугу, што кроіла мне сэрца і розум.

Б р о н к а (*рэзка перапыняючы яго*). Тугу? І ты адчуваў тугу? Па чым, па чым у цябе была туга?

Т а д э в у ш. Супакойся, Бранюся, ты ж надта добра ведаеш, як я цябе кахаю. Тугі я не адчуваў ні па кім, апроч...

Б р о н к а (*выгукае*). Апроч... ну, кажы!.

Т а д э в у ш (*гладзіць яе*). Апроч як па тузе...

Б р о н к а (*падымаецца з месца*). Што? Туга па тузе?! І што гэта павінна значыць?

Т а д э в у ш. Не будзь толькі гэткай збянтэжанай. Сядзь, Броня, мая мілая, сядзь: я табе ўсё раскажу... туга па тузе... г-м... г-м... Вось, разумееш, калі я быў малады, я зямлю грыз ад тугі, не ведаў, за што ўзяцца, бо тужыў... мне хацелася здзейсніць нешта такое вялікае, магутнае і цудоўнае, чаго да тае пары не здзейсніў ніводзін чалавек...

Б р о н к а. А можа, гэта я табе перашкодзіла?

Т а д э в у ш. Не-не, Бронка, не! Гэта было ўжо даўным-даўно... Я адчуваў тады ў сабе сілы па-над усялякай меры: мне здавалася, што я ўвесь свет нашу ў сваіх грудзях... ха-ха... Я прагна ўбіраў у сябе навуку, капаўся ў сметніку чалавечых ведаў, аб’ехаў увесь свет, каб выканаць наказ, дадзены маёй душы – здзейсніць нейкі вялікі чын...

Б р о н к а. А я, нікчэмная жанчына, табе ў гэтым перашкодзіла?

Т а д э в у ш. Ды не, сто разоў кажу табе: не! Гэта зусім не тое. Казімір і я – мы апошнія з нашага роду... Казіміра туга не брала, а можа, і брала... Я нічога не ведаю пра Казіміра... (*На нейкую хвілю замаўкае.*)

Б р о н к а. Ну, гавары, гавары далей!

Т а д э в у ш. Больш не маю чаго і сказаць.

Б р о н к а. Тадак! Ці не са мною ты страціў тую сваю тугу?

Т а д э в у ш. Вось жа, як мне адказаць на тваё пытанне? Я... (*заікаецца*) раптам адчуў у сабе гэткую нямогласць, быў змучаны, бязвольны – і адчуваў такое бясконца вялікае жаданне супакаення і суцяшэння...

Б р о н к а. То значыць, я была адно бязмоўнай падушкай пад тваёй ускудлачанай галавою?

Т а д э в у ш (*сумна*). Чаму ты, Бронка, гэтак нападаеш на мяне?

Б р о н к а. Я на цябе не нападаю, але ўва мне ўсё пачынае бунтаваць ад думкі пра тое, што я была гэткім пястунчыкам, тваёй сяброўвачкай, з якой было так міла балбатаць у гэтым пякельным, праклятым кутку пры каміне...

Т а д э в у ш. Супакойся, Бронка, супакойся. Чаму ты не можаш спакойна выслухаць мяне? Я ж і не хацеў сказаць анічога, апроч таго, што каля цябе я знайшоў спакой і шчасце, што каля цябе я забыўся на тугу, бо ты здолела прагнаць тую маю тугу.

Б р о н к а (*доўга глядзіць на яго, потым хапаецца за яго рукі*). А навошта ж ты пачаў тужыць па сваёй тузе?

Т а д э в у ш (*з ціхай усмешкай*). Чаму ж ты цяпер тужыш па тым, па чым раней ніколі не тужыла? (*Маўчанне.*)

Б р о н к а (*задуменна*). А і праўда. (*Праз хвілю.*) Ты толькі што пытаўся ў мяне, чаму я гэткая сумная і раздражнёная... цяпер, калі ты ўжо вярнуўся такі моцны, такі шчаслівы, у такой пякельнай тузе... па тваёй Еве!

Т а д э в у ш. Па Еве?

Б р о н к а (*ужо не стрымліваючы сябе*). Па Еве, па Еве, менавіта! Ты думаеш, я не заўважыла, як ты здрыгануўся, як ты збянтэжыўся, калі яна з'явілася там, на парозе нашага дома? Ты думаеш, я толькі й прыдатная на тое, каб быць тваёй пястункаю, падушкаю пад тваёй спакутаванай галавою – і не адчуваць, не адчуваць той страшэннай тугі, якая гэтак адрывае цябе ад мяне?! (*Хапае яго, але раптоўна адхінаецца ў бяссіллі і глядзіць на яго, агаломшаная і амаль непрытомная.*) Тадак, прабач, мне здаецца, што я цябе дакарала за тваю тугу, а ведаеш... я несправядліва дакарала, бо і мая туга ахоплівае не аднаго цябе.

Т а д э в у ш (*паўшэптам*). Бронка, туга... па чым, па кім?

Б р о н к а (*з выбуховай сілай*). Па Еве, па Еве, па Еве!

Т а д э в у ш (*паўшэптам*). То што, яна і цябе заразіла?

Б р о н к а (*слабнучым голасам*). Вось жа, і мяне таксама...

**СЦЭНА II**

Уваходзіць К а з і м і р, здзіўлена азіраючыся.

К а з і м і р. Што, вы ўжо на нагах? Нешта рана!

Т а д э в у ш (*імкнучыся на волю*). Я вось і хацеў спытацца ў цябе; ты ўжо на нагах? Нешта рана!

К а з і м і р. Г-м-м, я ўсю ноч чытаў, потым захацеў асвяжыцца, выйшаў прайсціся. Вяртаюся з парку і са здзіўленнем бачу ў гасцёўні святло ў вокнах; вось я і зайшоў, каб паглядзець, што тут такое за дзіва; а зараз пайду спаць.

Б р о н к а. Нічога, нічога не здарылася. А што павінна было здарыцца? Адно толькі тыя вашыя разважанні пра мэты жыцця, пра выхад за межы самога сябе; шуканне чагосьці такога няўлоўнага, што можа ў сапраўднасці і не існуе – усё гэта выбіла мяне са сну і так раздражніла, што я не дала заснуць Тадэвушу.

Т а д э в у ш (*клапатліва*). А можа, Бранюся, цяпер пойдзеш ляжаш? (*Цалуе яе ў руку.*) Ідзі, ідзі, Бранюся, ляж паспаць; ну і я таксама адпачну.

Б р о н к а (*жвава*). Не, не... і ты, Казік, таксама, таксама заставайся. Нам так добра з табою...

К а з і м і р (*змушана смяецца*). Ці чуеш, Тадэвуш? Цяпер, як ты тут, дык Бронцы добра са мною; я цяпер тут – гэткая шырмачка... ці зручная мэбелька, якую можна сюды-туды пасунуць... заўсёды ведаю, калі можна ўвайсці, калі выйсці...

Б р о н к а. Бессаромны...

К а з і м і р (*да Тадэвуша*). А калі цябе тут не было, яна казала, што я нязносны, што я напоўніў атмасферу твайго дома нудою і стамлёнасцю – і ўвесь час мерылася бегчы будзіць панну Еву...

Б р о н к а (*раптоўна, з удаванай збянтэжанасцю*). Ведаеш, Тадэвуш, тут цяжка ўсё зразумець. Увесь час, пакуль цябе тут не было, Еву даймала пастаянная санлівасць; яна цэлы дзень спала.

Т а д э в у ш (*раздражнёны*). Спала? Цэлы дзень спала? Г-м-м... (*Падымаецца з месца і ходзіць уздоўжкі і ўпоперак пакоя.*) Паслухай, Казік, твая тая маёмасная справа напраўду моцна заблытаная. Я вось думаю і думаю себе ўвесь час: ці то не хапае нейкіх папераў, ці то рахункі не ў парадку. (*Весела.*) Слухай, Бронка, апраніся, накажы прыгатаваць сняданак, загадай запрэгчы санкі – а потым кожны конь паімчыць цераз поле, праз лясы...

Б р о н к а. Ага, ага, цераз поле, праз лясы... ах, як гэта цудоўна (*рэзкім рухам распускае валасы*), а на тым вятры, падчас гэтай гонкі мае валасы, глядзі: вось так, вось так... (*Трасе галавою, валасы развяваюцца*; *пасля хуценька збірае іх у вузел, раптоўна перастаючы кантраляваць сябе.*) І так на ўсе грудзі ўдыхаць, убіраць у сябе тое нябеснае бяздонне, што перад намі. (*Робіць глыбокі ўдых і распраўляе плечы, а потым з хітраватай усмешкай звяртаецца да Тадэвуша.*) Ты толькі паглядзі, як здзівіўся Казімір; ён думаў, што я зусім не ўмею тужыць па няўрымсным вятры, па нябесным бяздонні...

К а з і м і р. Ды не, наадварот, я зусім не быў збянтэжаны, я адно зайздрошчу людзям, што яшчэ ўмеюць па нечым тужыць.

Б р о н к а. Чуеш, Тадак, ах, які ён наіўны: зайздросціць людзям, якія па нечым тужаць. Але ж, Тадак, ідзі, ідзі, зрабі тую справу; гэта ж, напэўна, не задоўжыцца.

Т а д э в у ш. Сама болей паўгадзіны.

Б р о н к а (*з удаванай сур'ёзнасцю*). А я тым часам буду вучыць Казіка тужыць.

Т а д э в у ш. Добрая ідэя, добрая ідэя. (*Выходзіць.*)

**СЦЭНА III**

Б р о н к а, К а з і м і р

Б р о н к а *(падыходзіць да фіранак, праз якія выйшаў Тадэвуш, азіраецца, а потым падыходзіць да Казіміра і хапаецца за яго руку)*. Ці ведаеш, куды ён цяпер пайшоў?

К а з і м і р. Ведаю.

Б р о н к а. Ты ведаеш? Ты гэтага не можаш ведаць. Думаеш, ён пайшоў займацца тваімі справамі?

К а з і м і р. Ведаю, што не.

Б р о н к а (*голасна.*) Да Евы ён пайшоў, да Евы, да Евы!

Маўчанне.

Б р о н к а. І яно так мусіць быць?

К а з і м і р. Вось жа, такі лёс чалавечы: як чалавека забярэ гэткая страшэнная туга, каб выйсці па-за межы самога сябе, то ўсё, калі ніякае шчасце, ніякая раскоша не запоўніць душы, не здолее ўтаймаваць той ўнутраны неспакой, закілзаць той шалёны разгон, які штурхае, штурхае і штурхае чалавека наўслеп, па трупах, па ахвярах свайго злачынства, наперад, увесь час наперад...

Б р о н к а (*перапалохана*). І яно мацнейшае за ўраган, што вырывае з коранем адвечныя дубы?

К а з і м і р. Мацнейшае.

Б р о н к а. Неадольнае?

К а з і м і р. Не.

Б р о н к а (*таямніча*). Але ж мацнейшае за Еву, праўда?

К а з і м і р. На жаль, не.

Б р о н к а (*нервуючыся*). Ты кажаш, не. (*Роспачна.*) Скажы мне, чаму не, чаму не?!

К а з і м і р. Бо Ева і ёсць тая туга. Ён па ёй не тужыць, ён, мажліва, яе зусім не бачыць, нічога пра яе не ведае, але, разумееш, яна быццам бы ў ім, быццам бы яго тузае, быццам бы яго хвошча, каб ён кінуўся ў шалёную пагоню.

Б р о н к а. За чым, за чым, скажы мне?

К а з і м і р. Гэтага ніхто не ведае, не ведаў, не разумеў і не зразумее.

Маўчанне.

Б р о н к а. Што ж мне, няшчаснай, рабіць? Ох, і я тужу, тужу, але па ягонай душы. Мілы Божа, якая ж я была сляпая, як жа мая душа аслепла ад гэтага шаленства і толькі цяпер уцяміла, што ён так ніколі мне і не належаў!

К а з і м і р (*сумна*). Слухай, Бронка, я не хацеў рабіць гэтай аперацыі на вачах тваёй душы. Я ведаў добра і бачыў, што ён ніколі тваім не быў – таму я і выглядаў гэтак сумна. Сваё глыбокае засмучэнне я хаваў пад маскаю нуды і абыякавасці, што ў мяне, зрэшты, не заўсёды атрымлівалася; але ж я думаў, што тыя хмары разыйдуцца.

Б р о н к а. Чаму ж ты мне гэтага не казаў, чаму ж ты мне адразу пра гэта не распавёў? У мяне быў бы час крыху астыць, а так яно ўдарыла раптоўна, як гром з яснага неба. Душа мая, нібы тая верба, расшчэпленая перуном: тысячы трэсак вакол карнявішча, якое ўжо таксама выпінаецца з зямлі. Чаму ж ты мне не сказаў, чаму ж ты мне не расплюшчыў вочы?

К а з і м і р. Слухай мяне, Бронка, спакойна – зараз зразумееш, чаму.

Б р о н к а. Казік, ты нейкі дзіўны... што з табою?

К а з і м і р. Што са мною? Дык хіба ж гэта не ты толькі цяпер зрабілася відушчай на тое, што ты яшчэ тыдзень таму мусіла ведаць?

Бронка нясмела, перапалоханымі вачыма глядзіць на яго.

К а з і м і р. Не бойся, Бронка, нічога жахлівага тут няма... скажу табе шчыра і наўпрост. Цягам гэтым доўгіх тыдняў паціху-памалу я пакахаў цябе сваім першым каханнем, бо раней, Бронка, я ніколі нікога не кахаў. А душа мая была халоднай, белай і чыстай, як той снег, што ляжыць у полі. Чаму я цябе пакахаў, чаму з кожнай гадзінай мілосць мая мацнела і цяпер усё больш разрастаецца ўва мне, ты, можа, зразумела з усяго таго, што я табе пра сябе распавядаў. Зрэшты, гэта зусім не важна... (*глядзіць на яе з ціхай усмешкай*) толькі не будзь гэткай збянтэжанай. Ты ў такім стане магла б зараз адхіснуцца і нават уцячы з пакоя, калі б я разлічваў на тваю ўзаемнасць, але я на яе не разлічваю, дый яе і не хачу. А калі б я нават ведаў, што ты гатовая адказаць узаемнасцю, я ні на хвілю б не вагаўся гідліва адкінуць тваю ўзаемнасць. Не таму, што ты мая братавая, але таму, што душа твая судакранулася з іншай душою, можа, мацнейшай ад маёй.

Б р о н к а. Ціха, Казік, я цябе не разумею...

К а з і м і р (*стомленым голасам*). Мне гэта не замінае: я магу дзень і ноч думаць пра цябе, у думках кахаць і песціць цябе – і магу не думаць пра тое, што ты жонка майго брата; і я здольны на тое, каб ані на хвілю, хоць бы ў самых патаемных думках, не запэцкаць тваёй годнасці гаспадыні ў доме маіх прашчураў і жонкі майго брата, якога я люблю гэтаксама, як і ты.

Б р о н к а (*падыходзіць да яго і пачынае ціха гладзіць па валасах*). Не трэба казаць пра гэта, не трэба...

К а з і м і р. Вядома ж, я болей не буду казаць табе пра сваё каханне. Толькі ты зразумей гэтую тугу чалавека, які збольшага жыў у каламуці, у брудзе жыцця, ва ўсёй той багне, што называецца святлом ды жыццём.

Маўчанне; яны абое, седзячы поруч, трымаюцца за рукі. Пасля доўгай паўзы.

К а з і м і р. Я шчаслівы, што вось так цудоўна парахаваўся з усім сваім жыццём... Адзіны мой клопат, адзіны страшэнны боль: як гэта стрываеш ты?

Б р о н к а (*збянтэжана*). Што стрываю, што?

К а з і м і р. Слухай, Бронка, я з асалодаю глядзеў, як цягам апошніх дзён у табе рос і дужэў чалавек, як ты змагалася з сабою, праз якія намганні ты пачынала сабе ўсведамляць усё тое, што драмала ў глыбіні тваёй душы. Я ўжо цешыўся – не як чалавек, які кахае, а як мастак; бо ты стварыла новыя словы для ўсяго таго, што твая душа нарадзіла ў гэтых пакутах... Бронка, будзь моцнай і гожай, ухапі ў патрэбнай хвілі на ляту той абух, што павінен размажджэрыць табе галаву.

Б р о н к а (*раздражнёна*). Што павінна мяне размажджэрыць?

К а з і м і р (*цвёрда*). Тадэвуш тваім не быў і не будзе. Яго душа паляціць, а калі ты хочаш мець побач з сабою труп, то калі ласка!

Б р о н к а. Ты маніш.

К а з і м і р (*сумна*). Калі б я не цураўся тваёй узаемнасці, дык можа б я і хапаўся за гэткія вартыя жалю сродкі; калі б ува мне не было тае крыві, што цячэ ў маіх жылах, можа б я і цешыўся, што магу табе кроіць сэрца. Я не казаў табе таго, хоць пра ўсё ведаў, а цяпер, калі ўжо нічога нельга памяняць, я моцна хацеў бы надаць гарту тваёй душы...

Б р о н к а (*паўшалёнымі вачыма гледзячы на Казіміра*). Ну добра! Я цяпер буду моцнай, буду гожай. А ты, ты мне дапаможаш?

К а з і м і р. А ў чым я магу табе дапамагчы?

Б р о н к а (*ледзьве не пераходзячы на крык*). Я заб'ю, заб'ю, заб'ю яе! І ты мне дапаможаш!

К а з і м і р. Я – не.

Б р о н к а (*смяецца з пагардаю*). І ты, ты казаў, што мяне кахаеш?! І ты, у чыіх словах я чула, што ты здольны ўсё для мяне зрабіць і ахвяравацца ўсім, што маеш, дзеля мяне... ты даеш ходу назад?

К а з і м і р. Я абсалютна не даю ходу назад – адно не разумею, дзеля чаго я мусіў бы прыкладаць руку да гэткага бессэнсоўнага і бяздумнага злачынства, якое можа быць вынікам, самае большае, шаленства самкі, а зусім не моцы і гожасці сапраўднае жанчыны.

Б р о н к а (*усё з большым запалам*). Чалавеча, што ты кажаш? няўжо ў табе няма крыві ды сэрца? Скажы мне, як ты кахаеш, чым ты кахаеш? Гэтае тваё каханне – нішто іншае, як асалода ад гучання прыгожых слоў, і нішто іншае, як уцеха, спароджаная с444 соннымі летуценнямі ды мроямі.

К а з і м і р (*доўга глядзіць на яе*). Аблудны боль прамаўляе тваімі вуснамі, а зрэшты, твая праўда: я няздольны, а можа, занадта моцны як на вашую крыважэрную мілосць, ейную крыважэрную дабрадзейнасць і ейную крыважэрную зламыснасць... (*Падымаецца з месца і павольна ідзе да выхаду. Бронка назірае за Казімірам, потым падбягае да яго, хапае за руку і цягне назад у пакой.*)

Б р о н к а. Не сыходзь, не сыходзь, мой браток адзіны! Бачыш, я ўжо апрытомнела, а ты, ты адзін звярнуўся да маёй душы... Бачыш, у мяне таксама ёсць душа, Казік, ...гэткая ўскудлачаная, але досыць моцная на тое, каб спасцігнуць усю прыгажосць і дабрыню тваіх слоў, каб змясціць у сабе хоць бы частачку твайго смутку і тваёй тугі. Бо, скажа мне шчыра. Казік, ты ж таксама тужыш?

К а з і м і р. Цяпер дык не, цяпер не... Праз цябе ўва мне здзейснілася мая туга.

Б р о н к а (*бяздумна паўтараючы*). Праз мяне... праз мяне... праз мяне... (*Раптоўна робіцца вясёлаю.*) Казік, ці ты мне напраўду казаў, што ты мяне кахаеш?

К а з і м і р (*задуменна*). Казаў...

Б р о н к а. І казаў таксама, што ты пагарджаў бы мною, калі б я адказала табе ўзаемнасцю?

К а з і м і р. Казаў.

Б р о н к а. І яшчэ ты казаў, што ты занадта горды, занадта чысты, каб нават злёгку, у думках зняславіць гаспадыню дома тваіх прашчураў і жонку брата твайго?

К а з і м і р. Казаў – і гэта тое, што хоча прамовіць уся мая душа.

Б р о н к а (*раптоўна хапаючыся за яго рукі*). Ох, ты, браточак мой... (*Нечакана абдымае яго, туліць яго галаву да сваіх грудзей, пасля замроена схіляецца да Казіміравага пляча.*) Мая душа такая вычарпаная, я такая сонная – так бы хацела, каб ты мяне калыхаў, калыхаў бясконца, аж надыдзе такі ціхі, вечны сон, бо ты гэткі бясконца, бязмежна добры... (*Раптоўна ўспыхвае.*) Казік, ці ты ведаеш, што я такое?

К а з і м і р. Ведаю.

Б р о н к а. Ну, то скажы, скажы мне, што я такое?

К а з і м і р. Ты – чысты белы снег, які ўпадзе на замерзлы грудок зямлі, сагрэе, ахіне цяплом гэтую мярцвячыну – пакуль яна не ажыве, не пачне абуджацца і з ужо цёплага ўлоння, з зярнятак, здаецца, што ўшчэнт замерзлых, не стане выпускаць новыя, свежыя парасткі...

Б р о н к а (*задумаўшыся*). А здавалася, што тое зерне, пасеянае ў зямлі, ужо даўно павымерзла.

К а з і м і р. Павымерзла на марозе, пагніло ў твані балотнай.

Б р о н к а. Зерне пускае парасткі, а снег растае... Твая праўда: я – гэта снег. (*Раптоўна ўспыхвае.*) А чаму Ева не спіць? Ты чуеш?

Казімір пачынае прыслухоўвацца.

Б р о н к а. Ты чуеш? Цяпер яна ідзе сходамі долу... Праз якую хвілю будзе тут. (*Раптам пачынае штучна ўдаваць весялосць.*) Ах, Казік, якая я надзіва вясёлая і шчаслівая! (*Бярэ яго ў абдымкі, імкнецца разгойдваць яго то ў адзін, то ў другі бок.*) Люлі, люлі, мой маленькі, люлі... Ну, засынай ужо нарэшце, неслух малы! (*У дзвярах з'яўляецца Ева і, з выгляду цешачыся забавай, глядзіць на сцэну.*)

**СЦЭНА IV**

Б р о н к а (*глядзіць на Еву*). Люлі, люлі, мой маленькі. Ну, як не хочаш спаць, то хоць бы скажы панне Еве “добры дзень”!

К а з і м і р (*з удаванай весялосцю*). Дзень добры пані!

Б р о н к а (*прывітаючы Еву*). Падумай толькі, Евачка, як сёння ўсе рана паўсхапіліся! Здаецца, быццам тут Каляды... У нас была такая завядзёнка, што пра гэты дзень дзецям напаміналі розгамі, таму мы хуценька ўскоквалі з ложкаў.

Е в а. Але ж, пабойся Бога! Гэтак рабілі ў Вялікую Пятніцу ці ў Красную Суботу.

Б р о н к а. А-а-а, то ўсё адно... Паглядзі толькі на гэтага майго вялікага, лагоднага, добрага мядзведзя. Ах, гэты слаўны Казімірышча...

К а з і м і р. Бронка сёння прачнулася ў цудоўным гуморы.

Б р о н к а. Твая праўда... мне здаецца, што я зусім яшчэ дзіця – тое, што караскалася на самую верхавіну таполі над тым праклятым чорным стаўком.

Е в а. Ізноў пра гэты чорны ставок?

Б р о н к а. А-а-а, то ўсё адно... Ставок, не ставок, брытва ці шыбеніца, пад коламі цягніка ці, можа, самым прыкладным на свеце чынам – у сваім ложку... Смерць – гэта смерць; усё адно, як і калі... (*Раптам перапыняецца.*) Паглядзі толькі, Евачка: гэты слаўны Казімірышча выглядае, як таполя разгатая... ах, не... як гэты велізарны дзядзька, на спіну якога я часта выварочвала сваю душу.

Е в а. І чаго ж ты раптам гэткая вясёлая?

Б р о н к а (*хапаецца за яе рукі, з пяшчотаю*). Разумееш, Евачка, у мяне часта бываюць нейкія дурнаватыя засмучэнні, дурнаватыя адчуванні тугі, якімі я атручваю жыццё сабе і іншым; але ўсё гэта праходзіць, і я раблюся ўдвая весялейшай... (*Крыху стомлена.*) Але паглядзі: гэты Казімір ні на што не здатны. Ах, які ты, Казік, занудлівы, які занудлівы... Ева, ведаеш што? Ці не выбегчы нам у сад, снег глыбокі, па пояс... Ах, што за раскоша – брысці па тым снезе, прабівацца праз яго, ракопваючы грудзмі й нагамі, каб толькі як найхутчэй аджыла і зазелянелася гэтая мёртвая, а цяпер ужо дыханнем адагрэтая рунь!..

Е в а (*удае, што слухала няўважліва, з паблажлівасцю ў голасе*). Бронка зноў вар’яцее. Зараз, у снег, у ранішняй сукеначцы ды ў пантофліках?!

Б р о н к а. Ну і што з таго: я загартаваная! А ты ж апранутая ўжо... Хадзем, мілая Евачка, ты такая халодная, гэтак замерзла; а я цябе ў снезе так разагрэю. Прыгаршчамі снегу я буду расціраць твой твар, буду расталым снегам мыць твае валасы... ах, каб ты ведала, як можна снегам атуліць, адхукаць, разагрэць азяблыя рукі і прамерзлае сэрца...

Е в а. Не, Бронка (*усё з той жа самай таямнічай усмешкай*) мне не трэба снегу, мне добра і з маімі азяблымі рукамі і з маім прамерзлым сэрцам. Ніякі снег не мусіў яшчэ прыпарошваць маю душу, каб яе адагрэць.

Б р о н к а (*доўга глядзіць на яе*). Не? Напраўду не?.. Ну, то хадзем, Казік, давай разам паляцім у снег; а ты ж наважышся куляцца ў снезе? Я зраблю з цябе такога цудоўнага снегавіка. (*Ілюструе гэта жэстамі.*) Сюды ўстаўлю табе два вугольчыкі – будуць у цябе вочы; а тут гразёю пэцну – будзеш мець нос, а тут я зраблю так, і ў цябе будзе рот, і я гэткую люльку ўкладу табе ў рот... Ах, Евачка, Евачка, шкада, што ты з намі ісці

не хочаш. Ну, хадзем, Казік, хадзем жа! (*Цягне Казіміра з сабою.*) Евачка, сюды зараз Тадэвуш прыйдзе. (*Выбягае ў сенцы разам з Казімірам.*)

### СЦЭНА V

Е в а адна. Яна падыходзіць да акна, нейкую хвілю глядзіць у яго, пастукваючы пальцамі па шыбе; халодная і сур'ёзная, яна падыходзіць да каміна, разграбае качаргою вуголле, потым сядае і, нерухомая, углядаецца ў агонь.

### СЦЭНА VI

Т а д э в у ш (*уваходзіць, аглядаецца ў пакоі, падыходзіць да Евы, бярэ фатэль і сядае побач з ёю*). Сказаць табе "дабрыдзень"?

Ева маўчыць.

Т а д э в у ш. Спытацца ў цябе, хто мяне клікаў?

Е в а (*з сонным выглядам падымае галаў*). Бронка цябе клікала. Пабегла ў ранішняй сукенцы і ў пантофліках забаўляцца ў снезе, разам з Казімірам... Казала, як цудоўна прабірацца па пояс у снезе, грудзьмі рассоўваць снежныя гурбы... Ты не баішся, што яна можа прастудзіцца?

Т а д э в у ш (*нібы ў сне*). То ўсё адно...

Е в а. Не раўнуеш да Казіміра?

Тадэвуш глядзіць на яе, але нічога не кажа.

Е в а. А дзе ты быў цяпер?

Т а д э в у ш. Адзін, сам з сабою.

Е в а. Каля мяне? Са мною?

Т а д э в у ш (*раззлавана*). Не, я ж сказаў табе: быў адзін, сам з сабою!

Е в а (*гладзячы яго рукі*). Чаму цябе гэтак злуе, што з гэтага часу ты ўжо раз і назаўсёды мусіш застацца са мною і вечна быць каля мяне?

Т а д э в у ш. Быць з табою? Каля цябе? Мне б мілей было сто разоў памерці.

Е в а (*задуменна*). Калі я прыйшла ў твой дом... ах, не, не! я не тое хацела сказаць. Ага, гэтая хвіля... Гэта была толькі адна хвіля... Тады, калі ты вярнуўся, а я стаяла вось у гэтым пакоі, я не чула, пра што вы там размаўлялі міжсобку, але я адчувала, што вы – шчаслівыя; і я хвілю вагалася, перш чым прайсці праз Ромуву* вашага шчасця і спакою.

Т а д э в у ш (*як бы абуджаючыся ад сну*). Дзе Бронка?

Е в а. Бронка пайшла абсалютна самахоць разграбаць снег, каб насенне, што было пасеянае ў грудку тваёй замерзлай душы, хутчэй зарунець магло.

Т а д э в у ш (*знаходзіцца ў нерашучасці, глядзіць то на яе, то на агонь, а потым раптоўна*). Дык чаго ты хочаш?

Е в а (*цвёрдым голасам*). Чаго? Ты ўсё яшчэ не ведаеш, чаго?

Хвіля маўчання.

Т а д э в у ш. Гэтага ніколі не будзе! (*Раз'юшана.*) Хутчэй я праламлю табе галаву, хутчэй растапчу цябе, як чарвяка, ад тугі па табе, шалёная ведзьма, сам сабе лоб разаб'ю, ды не дазволю, каб тое сталася!

Е в а (*з захапленнем глядзіць на яго*). Які ж ты ладны, што мяне гэтак моцна кахаеш...

Т а д э в у ш (*хапае яе за рукі*). Я цябе ненавіджу!

Е в а. Я ведаю пра тое, і тым мацней люблю тваё каханне.

Т а д э в у ш. Я не выракаюся сваёй мілосці, не адмаўляюся, што страшэнна, страшэнна тужу па табе, але той ахвяры дзеля цябе я не зраблю; і прысягаю табе, гэта ніколі, ніколі не станецца!

Е в а. Мусіць стацца.

Т а д э в у ш (*агаломшаны, імкнучыся не перайсці на крык*). Я яшчэ раз табе кажу: ніколі! ніколі!

Е в а (*нерухомая, з шырока расплюшчанымі вачыма*). Гэта станецца ўжо сёння.

У калідоры чутна гамана, колькі галасоў людзей, што спрачаюцца паміж сабою.

Т а д э в у ш (*прыслухоўваючыся*). Што б гэта значыла? (*Звоніць.*)

Праз хвілю ўваходзіць Л ё к а й.

## СЦЭНА VII

Т а д э в у ш. Што за гармідар і што за сваркі?

Л ё к а й. Вяльможны пане, гэта прыйшла нейкая кабета і хоча абавязкова ўбачыцца з вяльможнай паняй.

Т а д э в у ш. Чаму ты не наказаў пусціць яе ў кухню і пачакаць?

Л ё к а й. Я ёй тое сказаў, але яна не хоча ісці на кухню. Кажа, што ў яе гэткае самае права ўвайсці да вяльможнай пані, як і ў яе роднай маці.

Т а д э в у ш (*цярэ сабе лоб*). Скажы ёй, хай зойдзе.

## СЦЭНА VIII

Уваходзіць чужая кабета, з панурым выглядам; разглядаецца, а потым пачынае гаварыць спакойна, без ценю прыніжэння.

М а к р ы н а. Мяне не хацелі сюды пускаць, загадвалі ісці на кухню і чакаць, але я маю права ўваходзіць гэтымі дзвярыма, праз якія да вас уваходзяць спадары і спадарыні, а хоць бы й вялікія гэтага свету.

Т а д э в у ш (*збянтэжаны, падыходзіць да яе*). Што гэта павінна значыць?

Е в а, седзячы спінаю да Т а д э в у ш а і да М а к р ы н ы, раптам пачынае гучна смяяцца.

Т а д э в у ш (*не чуючы Евінага смеху, з усё больш спалоханым выглядам хапаецца за руку Макрыны*). Ну, кажыце, што гэта павінна значыць?!

М а к р ы н а (*паказвае пальцам на Еву і пачынае спакойна і паважна гаварыць*). Дазвольце мне сесці тут у куце і дачакацца, аж пакуль прыйдзе мая пані, вашая жонка – найдаражэйшае маё дзіця, якое я выпеставала і выхавала. (*Сядае ў куце, каля самых дзвярэй.*)

Т а д э в у ш адступаецца да Е в ы, але Ева, якая між тым зноўку павярнулася да каміна, не бачыць яго. Раптоўна прыбягае Б р о н к а, уся ў снезе, кідаецца на Тадэвуша і моцна-моцна абдымае яго.

## СЦЭНА IX

Б р о н к а. Адагрэй мяне, Тадак! Запхні мяне ў агонь: я ўсім целам дрыжу! Тадак, адагрэй мяне!

Т а д э в у ш (*вызваляецца з яе абдымкаў*). Мамка твая прыйшла.

Б р о н к а (*моцна ўражаная, адскоквае ўбок ад Тадэвуша, разглядаецца наўкола, раптоўна заўважае кабету, што ўстала з месца; Бронка кідаецца да яе*). Ты, ты, мая адзіная, ты, любая мая матуля! Ах, як жа добра, што ты прыйшла! Як жа добра, што ты тут!

КАНЕЦ ТРЭЦЯЙ ДЗЕІ

## ДЗЕЯ ЧАЦВЁРТАЯ

### СЦЭНА I

За вокнамі бялее снег у папаўднёвым змроку позняй зімы; на сцэну павольна ўваходзіць Б р о н к а, змучаная і як бы агаломшаная сваімі пакутамі; яна, трымаючы ў руцэ пакамечаны ліст, падыходзіць да акна, доўга глядзіць на парк, а потым разгортвае ліст, разгладжвае яго рукамі і чытае, павярнуўшыся спінаю да гледачоў.

Б р о н к а (*чытае сцішаным шэптам*). “Мая ты адзіная на свеце, найкаханейшая Бронка...” (*Адкладае ліст і жаласна плача.*) А, вось жа, адзіная, адзіная на ўсім свеце. (*Абарочваецца.*) Гэта напраўду так і ёсць. Я цяпер і ёсць адна-адзіная на цалюткім свеце... А! Макрына, Макрына! (*Звоніць у званочак, няўцямна глядзіць перад сабою.*) Макрына-пеставальніца... сястру таксама выпеставала, потым у дамавіначку яе паклала... ах, той ставок, той чорны ставок...

### СЦЭНА II

Л ё к а й (*увайшоўшы*). Вяльможная пані званіла?

Б р о н к а. Званіла. Загадай, няхай людзі пазмятаюць снег з сажалкі...

Л ё к а й (стаіць і маўчыць).

Б р о н к а (*з нецярплівасцю*). Ну, чаго ты чакаеш?

Л ё к а й. Вяльможная пані, пару гадзін таму была такая страшная замець, што снегу на метр вышынёй; работы будзе на некалькі гадзін.

Б р о н к а (*з нецярплівасцю*). Ну і што з таго? Склікай усю вёску: сажалка павінна быць чыстаю, як шкло; і загадай парабіць палонкі, рыбакоў пакліч, накажы падрыхтаваць паходні. Сёння будзем вудзіць рыбу.

Л ё к а й. Будзе зроблена, як вяльможная пані скажа.

Б р о н к а (*з вялікім раздражненнем*). Але гэта трэба рабіць зараз, зараз, зараз!

Лёкай кланяецца і збіраецца выходзіць.

Б р о н к а. Дзе спадар Казімір?

Л ё к а й. Ён зачыніўся ў сваім пакоі і прасіў перадаць...

Б р о н к а. Што прасіў перадаць?

Л ё к а й. ...што сёння ўжо не сыдзе сюды, бо павінен працаваць.

Б р о н к а (*з націскам*). Та-ак? То папросіш яго, каб на хвілю ўсё-ткі сюды сышоў.

Лёкай кланяецца і зноў збіраецца выходзіць.

Б р о н к а (*раптоўна збянтэжыўшыся*). А пана ці бачыў?

Л ё к а й. Вяльможны пан колькі хвілін як пайшоў у лес.

Б р о н к а (*неспакойна*). Адзін?

Л ё к а й. Не, з той паннай, што тут у нас гасцюе.

Б р о н к а (*пільна глядзіць на яго*). Ага, ну то добра... (*Задуменна.*) Папрасі Макрыну, каб зайшла да мяне. І памятай, трэба як найхутчэй пазмятаць снег з сажалкі, папрабіваць палонкі і падрыхтаваць паходні... а Макрыну папрасі: няхай зараз прыйдзе.

Л ё к а й выходзіць.

## СЦЭНА III

Б р о н к а (*раз-пораз хапаючыся за галаў, ходзіць у пакоі*). Адна, адна, адна... Ён пайшоў з Еваю... Казік зачыніўся... Ва ўсім доме Макрына і я... ха... ха... ха... (*Ходзіць сюды-туды ў пакоі.*) І два дні таму я была яго адной-адзінаю, а сёння, а сёння... (*Зноў разгортвае ліст і ціха чытае.*) “Прайшоў нейкі тыдзень, а я так страшэнна сумую па табе, так прагну ўбачыць цябе...” (*Шпурляе ліст на зямлю.*) Падман! Падман! (*Пасля паўхвіліннага роздуму нахіляецца, падымае ліст і цалуе яго.*) Не, не, гэта не падман... (*Пагладжвае ліст, сядае на тапчан-атаманку.*) Так Бог захацеў, так Бог захацеў.

## СЦЭНА IV

Уваходзіць М а к р ы н а і стаіць ціха каля дзвярэй.

Б р о н к а (*не бачачы Макрыны*). ...Так Бог захацеў.

Маўчанне.

Б р о н к а (*збянтэжаная, раптоўна ўскоквае з месца*). Хто тут? (*Раптам угледзеўшы Макрыну.*) Ах, гэта ты, Макрына, добра, добра, што ты тут. (*Падыходзіць да яе, бярэ за руку і садзіць каля сябе.*) Вельмі добра, што ты прыйшла, Макрына, вельмі добра... (*Раптоўна кідае на Макрыну порсткі позірк.*) Толькі скажы мне, з чаго табе раптам думка ў голаў прыйшла столькі дзён брысці ў гэткую завею, у гэткі мароз, каб адно мяне наведаць? Гэтулькі гадоў ты й не думала пра тое, каб убачыць гэтае дзіця, для якога ты, як толькі яно асірацела, была найлепшаю маці, з чаго гэта раптам?..

М а к р ы н а (*задуменна*). О, гэта не было раптам. Я выпеставала цябе, пільнавала, як зрэнку вока, была табе тым, чым і родная матка не бывае для дзіцяці.

Б р о н к а. Ты ад самай калыскі гадавала мяне... І калі я была такой зусім малою, маленькаю – ты карміла мяне сваім малаком... ведаеш, Макрына, а ты нізвання не пастарэла і ўсё такая ж спакойная, добрая і ціхая.

М а к р ы н а (*ківае*). Спакойная, добрая і ціхая.

Б р о н к а. Макрына, ці ты памятаеш, як ты асцярожненька вымала мяне з калыскі, калі я капрызіла; як ты ночы навылёт хадзіла са мною ў пакоі й пеставала мяне, і туліла да сябе?..

М а к р ы н а. Памятаю цябе і перад тым, як я пачала класці цябе ў калыску.

Б р о н к а (*раптоўна*). Што ты кажаш?

М а к р ы н а (*спакойна*). Я цябе ведаю, перш чым ты на свет прыйшла. Я туліла цябе, песціла, цалавала – каб ты ачуняла і вярнулася да жыцця. (*У

*задуменні.*) А цяпер вось прыходжу, каб тыя самыя павекі, якія я абуджала сваімі пацалункамі да жыцця, стуліць, стуліць... але ўжо не пацалункамі, а вось гэтымі, гэтымі пальцамі...

Б р о н к а (*ачомаўшыся*). Ці я гэта сню?

М а к р ы н а. Ці ты гэта сніш? А што яно, жыццё? ...Сон у сне... Тое самае святло нейкай зоркі, што абуджае цябе да жыцця, блукае, блукае, не разумеючы ў аблуднасці ані свайго кону, ані конаў людзей, якіх яно адорвала сваёй ласкаю, калі яны прыходзілі на свет божы, а потым, праз доўгія-доўгія гады, вяртаецца. Каб знішчыць жыццё, якому яно ўваскрэснуць давала.

Бронка павольна ідзе да званочка.

М а к р ы н а (*з усмешкаю*). Чаму ты мяне палохаешся? Хочаш клікаць сваіх лёкаяў? Ці, можа, ты б хацела мяне адсюль прагнаць?.. (*Хапае Бронку за руку.*)

Б р о н к а (*агаломшана*). Якая ў цябе халодная рука, якая халодная...

М а к р ы н а (*глядзіць на яе прачула*). Бронка, як жа ты мне цяпер нагадваеш твайго бацьку... Ён сядзеў тады ў сваім кабінеце, сядзеў, а раптам нібы нейкі пярун па ім ударыў, і ён сарваўся з месца...

Б р о н к а. Чаму ён сарваўся?

М а к р ы н а. Сястра твая ўтапілася...

Б р о н к а. Што? Што? Што?

М а к р ы н а. Твая сястра ўтапілася. Я сама яе са стаўка выцягнула – з такога вось самотнага стаўка, як гэты ваш пад акном. Я падхапіла на рукі няшчаснае цельца: хукала, адагравала, туліла да сябе, цалавала яго – нічога не дапамагло... Да жыцця абудзіла яго пацалункам, а павекі пальцамі стуліла... Твой тата стаяў у дзвярах веранды, як каменны слуп, а ты ляжала занурыўшыся тварам у траву, калі я са сваім каштоўным грузам прайшла паўз цябе.

Б р о н к а (*глядзіць, палатнеючы, на Макрыну*). Макрына, мне здаецца, што я хворая, што я не разумею таго, што ты кажаш. Ты дзеля таго сваім пацалункам абудзіла маю сястру і мяне да жыцця, каб потым нам халоднымі пальцамі стуліць павекі? Ты ж гэтак мовіла? Хіба ж не? А потым ты сказала, што ёсць такія зоркі, што абуджаюць людзей да жыцця, ідуць далей аблудным шляхам цьмяных конаў і вяртаюцца зноў, каб знішчыць жыццё, уваскрошанае сваім уласным святлом? Ты так казала? Ах, якія ж гожыя гісторыі ты апавядаеш! О, раскажы мне тую адну... чакай, чакай: дзіўна, як мяне сон забірае... Гэта праўда! ёсць такія зоркі, якія рвуць, цягнуць, тузаюць чалавека – трэба ісці за імі ўвысь да неба, долу, да прорвы, ушыркі, па ўсіх мара́х-акіянах, але трэба за імі ісці, трэба... (*Туліцца да Макрыны.*) Ён пайшоў услед за сваёю зоркай, а я, Макрына, я... адна самотная; але ж ты возьмеш мяне на рукі і панясеш мяне ў сваіх абдоймах, каб пакласці мяне да ног майго таты. Сястру ўбачу... матулю ўбачу... Макрына, ты такая спакойная, добрая, ціхая... Ох, як мяне сон забірае... Сядзь каля мяне, Макрына... (*Хістаецца, потым выцягваецца на атаманцы. Заплюшчвае вочы.*)

Макрына ціха ўстае, глядзіць на яе, а потым, засяроджаная, выходзіць з пакоя. Хваля глыбокага маўчання. Бронка як бы спіць; тут уваходзіць К а з і м і р, падыходзіць да Бронкі.

**СЦЭНА V**

К а з і м і р. Бронка, што з табою?

Б р о н к а (*нібы абудзіўшыся ад сну*). Ах, Казік, Казік, як жа добра, што ты прыйшоў...

К а з і м і р. Броня, ці ты спала?

Б р о н к а. Не ведаю, не ведаю, не ведаю. Галава такая цяжкая, а я гэткая адна-самотная. Тадэвуш пайшоў з Еваю ў лес, а я зусім адна. Казік, чаму я зусім адна?

К а з і м і р (*спалохана*). Дык жа Макрына была тут, з табою?

Б р о н к а (*праціраючы вочы і тручы сабе скроні*). Макрына? Што ты кажаш? Макрына? Снілася мне Макрына, сніўся мне мой тата, снілася мне мая матуля... Казік, Казік, мая матуля мне снілася! Ведаеш, як яно было: я ішла, ішла, ішла нейкім пустым і стромым папарам. Наўкола ў шэрым змроку толькі крыжы мільгацяць, а раптам на дарозе сядзіць нейкая кабета; я нічога не бачыла, нічога не адчувала – уцяміла адно, што там мая матуля сядзіць і туліць да ўлоння свайго дзіцятка памерлае. Ха-ха-ха... Казік, чаму ты гэткі збянтэжаны? Вось жа, слухай і глядзі: як другое дзіцятка басанож блукае па цярністых сцежках і сцяжынах... цяжка-цяжка пхнецца ўгору. І я гэтак іду, іду, быццам мяне нехта цягне да сябе. А потым матуля пакідае дзіцятка, якое да сябе туліла, і раскрывае мне абдоймы, а я, ужо дарэшты зняможаная, кідаюся матулі на грудзі... тут жа, тут жа, як бы вецер здзьмухнуў з яе покрыва імглы – і я раптам ляжу ў жалезных, моцных абдоймах шкілетаў і касцей... Ох!

К а з і м і р. Броня, Броня, ты захварэла!

Б р о н к а. Ха-ха-ха, захварэла... Што значыць, захварэла?! (*Глядзіць на Казіміра доўга, а потым таямніча кажа.*) Казік, Казік, ты сёння ўранні казаў мне, што кахаеш мяне. Ці гэта я прысніла, ці гэта напраўду так, што ты казаў, нібыта кахаеш мяне?

К а з і м і р. Ну вядома, я казаў табе і яшчэ раз магу паўтарыць, што кахаю цябе.

Б р о н к а. Ах, як добра, што ты мяне кахаеш. Ты ж мяне не кінеш, Казік? Праўда, не кінеш?

К а з і м і р. Не.

Б р о н к а. А ці ведаеш ты, чаму мяне кінуў Тадэвуш?

К а з і м і р. Ведаю.

Б р о н к а. І я таксама ведаю. Так яно было, Казік, праўда?

К а з і м і р. Як?

Б р о н к а. Я была снегам, гэткім добрым белым снегам, што ахінае няшчасную зямлю: разаграе яе, праўда, Казік?

К а з і м і р (*задумаўшыся*). Праўда... А можа, ты была той рукою, што супакойвае, што прытуліла нейкага параненага птаха... яму так добра было каля цябе, пакуль ён быў хворы; а цяпер у яго на крылах новае пер'е павырастала, цягліцы дужэйшымі зрабіліся, і ён рыхтуецца да палёту... а рыхтавацца яму не трэба, бо ён ужо страсянуў сваімі крыламі...

Б р о н к а (*збянтэжана*). Не кажы, не кажы гэтак!

К а з і м і р (*раздражнёна*). Акурат пра гэта я і буду казаць. Тадэвуш адляціць ад цябе з Евай.

Б р о н к а. З Евай? З Евай? Хто гэтая Ева? Што яна такое?

К а з і м і р. Хто гэта, што гэта такое? Гэта мой сон, твой балючы

кашмар і пякельнае Тадэвушава прагненне. Вось, вось што такое Ева. (*Усімхаецца.*) Ты яшчэ не разумееш? То паслухай: Ева – гэта мой сон, бо яна была патрэбная мне, каб убачыць цябе ва ўсёй тваёй моцы і пекнаце. Для цябе Ева – страх і жуда, бо ты адчуваеш, што яна штурхае цябе ў чорную бездань роспачы, ты адчуваеш, што яна выкрадае ў цябе Тадэвуша, для якога яна – пякельнае прагненне нейкай велізарнай сілы і магутнасці, клопатная туга, якая яго заўсёды штурхала ўвысь, увысь да неба.

Б р о н к а (*зрываецца з месца, выпростваецца*). Зірні: я дужая і халодная; мне хопіць сілы яго знішчыць, здратаваць! Я мацнейшая за іх усіх. Я ўчаплюся ў яе, я яе заб'ю, бо я – адзіная, адзіная яго туга!

К а з і м і р. Дзіда ягонай тугі абмінула цябе.

Б р о н к а (*ашалела*). Але ж, Казік, паглядзі на мяне, паглядзі! Я ж таксама маладая, прыгожая... ён жа цэлую вечнасць паўтараў гэтыя словы: *якая ты прыгожая*. Чаму ягоная туга павінна абмінаць мяне?

К а з і м і р (*бярэ яе за рукі і гаворыць ціха і лагодна*). Ты для мяне прыгожая, і ты даеш мне святы і вялікі супакой...

Б р о н к а (*глядзіць на яго, а потым раптоўна*). Ты спакушаеш мяне?

К а з і м і р. Не, Бронка, не; я табе сёння раніцай ужо казаў, што я пагарджаў бы табою, калі б ты адказала мне ўзаемнасцю. Але я люблю цябе такою гожаю, якая ты ёсць ва ўсёй тваёй немачы і роспачы... Штосьці кепскае робіцца ў тваім доме, а я хачу быць табе братам, сябрам... тым, кім ты захочаш...

Б р о н к а. Казік, ці ты напраўду кажаш мне гэта?

К а з і м і р. А ты мяне нагэтулькі не ведаеш?

Б р о н к а (*гладзіць яго*). Ведаю, Казік, цябе, ведаю. Я адна-адзіная на свеце, і ты адзін-адзіны... я цябе не кахаю, але я люблю тваю добрую, прыгожую мілосць. Скажы мне, Казік, што гэта значыць, калі я такая сонная, такая змучаная.

К а з і м і р (*клапатліва*). Ты ж усю ноч не спала.

Б р о н к а. Ах, як я яго мучыла і як ён мучыў мяне...

К а з і м і р. Што ён табе казаў?

Б р о н к а. Нічога, не, не. Ён быў добры, быў жаданы. Быў каханы; я адно зразумела, што дзіда яго тугі ўпала далёка, далёка перада мною. (*Раптоўна, пераходзячы на крык.*) Казік, дзе Тадэвуш?!

К а з і м і р. Пайшоў з Евай у лес.

Б р о н к а (*раптам зноў задумаўшыся*). Цераз лес, цераз горы, цераз мора... Ах, і цераз Бронку, цераз тую адзіную, каханую Бронку, а цяпер такую самотную Бронку... куды?! куды?!

К а з і м і р (*гладзіць яе рукі*). Не ведаю.

Б р о н к а. Казік, Казік, ці тое было ў сне, але мне здаецца, што тут была Макрына?

К а з і м і р. Я сутыкнуўся з ёю ў калідоры.

Б р о н к а. Я-а-к? Ты сутыкнуўся з ёю? Скажы, а хто ты?

К а з і м і р (*таямніча ўсміхаецца*). Ха... можа, Макрынін брат, бо цябе больш ніхто гэтак не любіць, як Макрына і я.

Б р о н к а. То праўда, то праўда.

К а з і м і р. Праўда, што Макрына прыйшла да цябе здалёк, здалёк і я прыйшоў да цябе, каб сказаць табе, што я цябе кахаю...

Маўчанне.

Б р о н к а. Так, так, ты і Макрына...

## СЦЭНА VI

Уваходзіць Л ё к а й.

Л ё к а й. Вяльможная пані, снег змецены.
Б р о н к а. Ах, як я табе ўдзячная за гэта!.. Палонкі папрабіваныя?
Л ё к а й. Усё зроблена.
Б р о н к а. Рыбакоў загадаў паклікаць?
Л ё к а й. Усё зроблена.
Б р о н к а. Паходні падрыхтаваныя?
Л ё к а й. Усё, вяльможная пані, выканана.
Б р о н к а. Дзякуй, можаш ісці.

Лёкай выходзіць.

## СЦЭНА VII

К а з і м і р. Што гэта павінна значыць?
Б р о н к а. Нічога такога: я іду вудзіць рыбу. (*Дапытліва.*) Казік, ты пойдзеш са мною?
К а з і м і р. Пайду, куды ты адно захочаш.

Маўчанне.

Б р о н к а (*раптам павесялеўшы*). Ці ты памятаеш наша цудоўнае коўзанне на сажалцы ўчора і пазаўчора?
К а з і м і р (*задуменна і ўзіраючыся ў далеч*). Памятаю.
Б р о н к а (*хуценька, а потым усё больш павольна*). Што ж ты так раптам задумаўся і гэтак узіраешся ў блакітную, блакітную снежную далеч і ў той чорны папар, на якім зазелянее рунь, калі растане снег...
К а з і м і р (*нібы рэха*). ...калі растане снег...
Б р о н к а. Казік, ты сапраўды кахаеш мяне?
К а з і м і р. Кахаю.
Б р о н к а. Але ж ты ведаеш, што я кахаю толькі Тадэвуша?
К а з і м і р. Ведаю.
Б р о н к а. І ты такі слаўны, што мог бы пагарджаць мною, калі б я адказала табе ўзаемнасцю?
К а з і м і р. Вядома ж, я пагарджаў бы табою, калі б ты хоць адным памкненнем, хоць адным рухам адказала мне ўзаемнасцю.
Б р о н к а. Але калі б я цябе пра нешта моцна, вельмі моцна папрасіла, ці ты здолееў бы выканаць гэта?
К а з і м і р. Што?
Б р о н к а (*дапытліва*). Нават *гэта*?

Нейкую хвілю доўжыцца маўчанне, яны глядзяць адно на аднаго.

К а з і м і р (*задуменна*). Усё, усё, што ты захочаш.
Б р о н к а (*раптоўна*). А дзе канькі?
К а з і м і р. Навошта канькі?
Б р о н к а. Дзеля выгляду, дзеля выгляду...
К а з і м і р. Добра. Як хочаш.
Б р о н к а. Няхай яно станецца.
К а з і м і р. Г-м-м... няхай станецца.

Б р о н к а (*ахопленая жахам*). Павінна стацца?

К а з і м і р. Павінна! (*Усміхаецца.*) Але навошта ты загадала склікаць рыбакоў? Навошта людзі? Паходні?

Б р о н к а (*глядзіць на Казіміра*). Праўда, праўда! Усё ж можна зрабіць так, што ніхто і ведаць не будзе. Ха-ха-ха, што за ідыёцкая задума? Каб яны былі гатовыя яшчэ ў апошняй хвілі ўратаваць чалавека... ха-ха-ха... які ж дурны фарс надыктавала мне маё змучанае сэрца... (*Звоніць.*)

## СЦЭНА VIII

Л ё к а й уваходзіць.

Л ё к а й. Што вяльможная пані загадае?

Б р о н к а. Скажы, што сёння рыбалоўства не будзе. Заўтра раніцай... заўтра раніцай... разумееш?

Л ё к а й (*здзіўлены*). А ўжо ж усё падрыхтавана.

Б р о н к а. То вельмі добра. Але лавіць рыбу трэба заўтра ўранні... ха-ха... рыбу незвычайную...

Л ё к а й. То значыць, паходні не будуць патрэбныя?

Б р о н к а. Хіба ты мяне яшчэ не зразумеў?

Л ё к а й. Разумею, вяльможная пані, але ж снег з сажалкі ўжо змецены.

Б р о н к а. Вельмі добра.

Л ё к а й. Палонкі папрабіваныя.

Б р о н к а. Яшчэ лепш.

Л ё к а й. Значыць, даць адбой?

Б р о н к а. Ну, то я ж табе ўжо тысячу разоў пра гэта казала.

Л ё к а й кланяецца і выходзіць.

## СЦЭНА IX

К а з і м і р. Хадзем?!

Б р о н к а. Хадзем! Табе ж усё адно: ці там, ці тут будзеш нудзіцца? (*Пачынае істэрычна смяяцца.*)

К а з і м і р. Ага, безумоўна... ну, а зрэшты, мая асоба сведчыць, што адбываецца дзіўны, а хутчэй, вельмі звычайны выпадак, калі двое правальваюцца ў палонку, пад лёд.

Абое смяюцца.

К а з і м і р. Нам нават тастаманту пісаць не трэба...

Б р о н к а. Ха-ха-ха... без тастаманту, без тастаманту... Ты гатовы?

К а з і м і р. Даўно ўжо.

Б р о н к а. Хадзем, хадзем... (*Азіраецца, кідае развітальны позірк на пакой; потым абое выходзяць.*)

## СЦЭНА X

Нейкі час сцэна пустая. Потым уваходзіць М а к р ы н а, азіраючыся па ўсіх кутах.

М а к р ы н а. Пайшлі, пайшлі ўжо... Маё жніво... маё жніво... адну я несла на сваіх руках... а цяпер другую... другую... (*Падыходзіць да тапчана, потым павольна абыходзіць вакол усяго пакоя.*) Тут во сядзеў гэты ўлюбёны

белы галубок... тут... А яе я любіла сама болей... (*Абыходзіць увесь пакой, дакранаецца да мэблі.*) Тут... тут мая галубка хавала свае слёзы. (*Падыходзіць да фатэля.*) Тут яшчэ сёння раніцай сядзела Бронка... Бронка... Бронка... І ўжо не вернецца, не вернецца... І той гожы саколік не вернецца. Так яно мусіла стацца... Белая здань яе маткі ходзіць туды-сюды ў палацы і гукае, гукае... Яны ўжо не вернуцца, не вернуцца ніколі... А цяпер я застануся тут... (*Сядае, нерухомая, і застаецца.*)

КАНЕЦ ДРАМЫ

Заўвагі:

Пераклад п'есы зроблены паводле выдання:
*Przybyszewski, St. Śnieg. Warszawa: Czytelnik 1987.*

**Да Дзеі Першай**

* *Эпіпсіхідыён* – такі тытул меў першы рапсод у паэме прозай Станіслава Пшыбышэўскага "Каля мора" (1899).
** *Амантыльяда* – гатунак салодкага херэсу з арэхавым водарам.

**Да Дзеі Другой**

* У арыгінале – па-французску: *heures de confidence.*
** Генры Мортан Стэнлі (1841—1904) – брытанскі падарожнік, вядомы сваімі адкрыццямі ў Афрыцы.

**Да Дзеі Трэцяй**

* Ро́мува – назва мясціны (тэрыторыя сённяшняй Калінінградскай вобласці Расіі), дзе, паводле легенды, жыў вярхоўны жрэц прусаў Крыве-Крывейта, галоўным абавязкам якога было падтрыманне гарэння вечнага агню.

## «Гэта снег, толькі снег...»: Пшыбышэўскі і Купала

*Замест пасляслоўя*

Беларусы прыязджалі ў Кракаў з розных нагодаў. Ягайла – каб кіраваць Польшчай, Алесь Гарун – каб памерці і быць пахаваным тут. Але найчасцей, ад часоў Францішка Скарыны і Сымона Буднага, беларусы прыязджалі ў Кракаў, каб тут вучыцца.

Новым універсітэтам для беларусаў стала знакамітая кракаўская школа драматургіі, заснаваная двума Станіславамі – Выспяньскім і Пшыбышэўскім.

Менавіта сюды ў 1910 годзе прыехаў вучыцца тэатральнаму і драматургічнаму майстэрству малады Францішак Аляхновіч, які пад псеўданімам Монвід выступаў у польскіх тэатральных трупах. Пад уплывам новай драмы былі напісаныя яго п'есы "Цені" і "Страхі жыцця".

Завочна засвойваў урокі Пшыбышэўскага і Выспяньскага Янка Купала.

Купалаўская цікавасць да польскай літаратуры – больш, чым сантымент. Яе не вытлумачыш адной толькі «заходніцкай» арыентацыяй песняра. Купала, як вышэй адзначалася, тлумачыў прыхільнасць да польскай літаратуры прысутнасцю ў ёй вызваленчага, змагарскага пафасу. Гэты пафас асабліва адчувальны ў творах рамантыкаў – Міцкевіча, Славацкага, чыю літаратурную спадчыну Купала называе ў ліку сваіх творчых прыярытэтаў.

Больш складанай выглядае сістэма ўзаемадачыненняў Купалы з творчасцю ягоных сучаснікаў – польскіх сімвалістаў, у прыватнасці, удзельнікаў новага літаратурнага руху «Маладая Польшча».

Прадстаўнікі новага польскага пісьменства не былі такімі паслядоўнымі

пасіянарыямі-змагарамі, як іх папярэднікі, «старыя» або рамантыкі. Шэраг польскіх літаратараў (у іх ліку – Эліза Ажэшка, Генрык Сянкевіч) далучыўся да плыні пазітывістаў, прыхільнікаў памяркоўнага, разлічанага на дзесяцігоддзі, мірнага вяртання страчанай Польшчай дзяржаўнасці. Іншыя прадстаўлялі г. зв. польскі месіянізм – кірунак, звязаны з аскетычна-пакутніцкімі ідэалагемамі (найбольш яркі прадстаўнік – Станіслаў Выспяньскі). Нарэшце, у літаратуры актыўна працавалі майстры суб'ектыўна-дэкадэнцкай плыні, палітычна мала заангажаваныя, сярод іх і Станіслаў Пшыбышэўскі.

Уплыў апошняга, нароўні з уздзеяннем паэта-сімваліста Леапольда Стафа, футурыста Ежы Янкоўскага, на творчасць Купалы ў перыяд ягонага захаплення найноўшымі літаратурнымі напрамкамі, – факт, вядомы купалазнаўству; пра яго пісалі Валянціна Гапава, Міхась Лазарук, Галіна Тычка. Але ён варты дадатковай дэталізацыі.

Характэрнай у гэтым сэнсе падаецца гісторыя напісання Купалам славутага верша «Снег» (1909), да тэксту якога рукой аўтара была зроблена прыпіска: «паводле Пржыбышэўскага». У гэтай гісторыі мелася некалькі сведкаў, адным з якіх стаўся Вацлаў Ластоўскі. Ва «Успамінах пра Янку Купалу» ён характарызуе атмасферу творчых сустрэч «нашаніўцаў» як запоўненую спрэчкамі пра найноўшыя літаратурныя з'явы, асабліва – пра творчасць польскіх і рускіх сімвалістаў (дэкадэнтаў, «модэрністаў»).

«Янка Купала хваліў Блока. Асаблівай паклоньніцай Славацкага была мая жонка, хоць, у істоце, яе ў тыя часы далёка больш захватываў Мэтэрлінк з яго немаль надпрыроднай чоўнасьцю і пераносьнямі. З гэтай прычыны значную часьць вечара заняло зраўніваньне творчасьці Мэтэрлінка з творчасьцю Славацкага, выражанай асабліва ў паэме «Kryl Duch». Левіцкі быў супроць усякіх «модэрністаў», і з ім салідарызавалася Пэледа. Купала меў з сабой нейкі зборнік расійскіх паэтаў і прачытаў з іх пару вершаў. Тады я дастаў польскага паэта Стаффа «Mister Twardowski» і вершы Аляксея Талстога і заняў гасьцей чытаньнем адрыўкаў з названых паэтаў».

Ластоўскі лічыць, што вынікам літаратурных спрэчак, уздзеяння новага еўрапейскага пісьменства, творчы досвед якога Купала прагна, нібы губка, убіраў, стаўся пераломам у творчасці паэта. Гэтую змену Вацлаў Ластоўскі вызначае як «паварот»: «У творчасьці Янкі Купалы пачаў намячацца паварот. Верш «Забытая скрыпка» быў беспасярэдным выразам гэтага павароту, усьлед за якім зьявіўся другі, такога ж характару, верш «На высокай гарэ».

Ані слова крытык не кажа пра эстэтычныя акалічнасці, плён або выдаткі гэтага «павароту». Але, калі прааналізаваць абодва названыя вершы, выявяцца матывы тупіковасці, скрухі, парушанай гармоніі, характэрныя для літаратурнага дэкадансу. Сама магчымасць творчасці шчыльна звязаная са смерцю, забыццём. Асабліва беспрасветны фінал верша «Песня званара» (Ластоўскі называе яго «На высокай гарэ»), які завяршаецца смерцю музыкі. Што праўда, заключны катрэн прымушае згадаць уваскрэсенне з мёртвых Ценю Мужыка ў паэме «Адвечная песня»:

Буду ўсё званаром, хоць даўно пад дзярном
Спіць мая галава маладая.
Эх, бо ведае свет, што вялікіх дум цвет
Адно толькі на зломе ўзрастае!

Верш «Снег» Ластоўскі разглядае як заключны этап «пералому», магутны апафеоз новага «цыклю» ў творчасці песняра. Ён лічыць патрэбным скрупулёзна аднавіць акалічнасці напісання твора:

«Я добра памятую той вечар, калі быў напісаны гэты верш. Было гэта познай восеньню. Выпаў першы глыбокі белы сьнег, мяккі, пушысты і цёплы. Мы, як і Палуян, сядзелі ў мяне дома. Было ўжо па 12-й гадзіне вечара. С. Палуян і Я. Купала, як мы тады казалі, «выбіраліся ўжо ў вырай» – меліся выязджаць

з Вільні. Выязджаць, шукаючы залатога руна асьветы, каб вярнуцца з часам волатамі ў дзедзіне творчасьці. С. Палуян і я непакоіліся, што Я. Купала меў некаторую склоннасць да «шклянога бога». У гэты момант увашоў Я. Купала, румяны, паводле ўсіх азнак, пад знакам Вакха. Пачалося таварыскае казаньне. Я. Купала сеў у куце за сталом і маўчаў. На ніякія нашы закіды не адказваў, толькі нешта крэмзаў на пакомканай паперцы алуўкам. Калі мы вычарпалі ўсе свае аргуманты і прымоўклі, Я.Купала сказаў: «А цяпер паслухайце, хлопцы». І прачытаў свой верш «Сьнег». Цяпер, паражаныя хараством верша, мы змоўклі, – усе нашы аргумэнты былі разьбіты. Аказалася, што Я. Купала быў таго вечара ў тэатры, у якім ігралі Пржыбышэўскага «Сьнег». Мастацтва і прырода ўтварылі настрой, рэшта дапоўніў творчы геній аўтара».

Надпіс на рукапісе гэтага твора «паводле Пшыбышэўскага», як лічыць В.Ластоўскі, Купала зрабіў «саўсім беспадстаўна». Крытык, пэўна, меў на ўвазе, што твор не з'яўляўся простай ілюстрацыяй, імпрэсіяй або паэтычным водгукам на прагледжаны спектакль. Ён не быў ні стылізацыяй, ні наследаваннем. Але прагляд п'есы даў Купалу магутны стваральны імпульс, спарадзіў у мастакоўскай душы выбух думак і пачуццяў.

Крытык адзначыў супадзенне прыроднай з'явы (першы пухнаты снег у Вільні) і мастацтва (незвычайнага тэатральнага відовішча – спектакля з недамоўленасцю, «другім планам», настраёвымі нюансамі, містыкай). Дапаўняе комплекс супадзенняў і тая акалічнасць, што Купала наведаў спектакль не адзін – у віленскі польскі тэатр ён прыйшоў разам з Уладкай Станкевічанкай, тады яшчэ не ягонай жонкай, не нявестай, а прыяцелькай. Уладзіслава Францаўна, другая сведка стварэння верша, успамінае: «П'еса гэта захапіла Купалу да глыбіні душы. Калі мы выйшлі з тэатра, на вуліцы падаў снег. Была дзіўная цішыня. Я. Купала, як заўсёды, праводзіў мяне дадому... Назаўтра я атрымала ад яго ліст з нарачным. У лісце быў укладзены новы верш «Снег».

Спакусліва расчытаць у купалаўскім «Снезе» след патаемных, інтымных перажыванняў паэта, заблытанасць ягоных «справаў сардэчных». Бо «Снег» Пшыбышэўскага выснаваны на складаных, ірацыянальных, нават містычных адносінах чатырох персанажаў: Тадэвуша, Бронкі, Казіміра і Евы.

Бронка – пяшчотная і ціхманая жонка Тадэвуша, яна і з'яўляецца для яго тым «снегам», што лагодна прысыпае, халадзіць пякельны душэўны боль, фатальную жарсць, перажытыя героем калісьці. Але надыходзіць часіна, калі новая жарсць апаноўвае дэманічную натуру Тадэвуша, і ніякі «снег» не можа процістаяць пякучай, бы лава, разбуральнай энергіі. Бронка, пяшчотная і кволая, саступае перад гэтай сілай, каб прыняць супакаенне і смерць.

У вершы, адрасаваным Уладцы Станкевічанцы, якая ў свой час стане паэту адданай жонкай, дапаможа загаіць душэўныя раны, знаходзім такія рысы шматзначнага вобразу *снегу*, як – абязбольванне, душэўная анестэзія, пазбаўленне памяці, утаймаванне жарсці:

Думкі, сэрца, паглёд
Абліў лёд, скаваў лёд,
Так спавіў, спавіў сам,
Каб лягчэй было там,
Дзе жыццё не на смех:
Гэта снег, толькі снег...

Ты і жыў, і любіў,
Ты не ўмёр – і забыў,
Каб нічога не дбаць,
Смела ўдаль паглядаць,
Быць самым не на смех...
Гэта снег, толькі снег...

Асабістае, інтымнае – тое, што прамільгнула ў сярэдзіне верша, – без следу

зацягваецца смугой абсалютнага, усеабдымнага смутку, забыцця. Паглынанне зямной рэчаіснасці, людскіх пачуццяў і парыванняў нейкай абсалютна халоднай, чыстай і белай у сваёй абыякавасці субстанцыяй відавочнае, калі параўнаць пачатак і фінал верша. Яны складаюць своеасаблівае сэнсава-кампазіцыйнае колца, лейтматыў якога – скутасць, заміранне Сусвету, пранікненне ў яго іншародны, ірацыянальны і варожы да чалавека пачатак:

Залягла, як пасцель,
Лебядзіная бель
На загон, на курган.
І кажан, і груган
Занямеў не на смех:
Гэта снег, толькі снег...
(...)
Мо і лёгкія дні...
Не зачэпяць ані
Ні бяда, ні нуда,
Ні агонь, ні вада...
Само шчасце, сам смех!
Гэта снег, толькі снег...

Вацлаў Ластоўскі, як мне падаецца, недалічыў першаэлементы, пры дапамозе якіх тварыўся верш Купалы «Снег». Іх прынамсі пяць. Гэта, вядома, і тэатральнае відовішча, сведкам якому быў Купала, з яго сімвалізмам і сугестыяй, якія перадаліся вершу. Гэта і прыродная з’ява – першы, пухнаты і бялюткі, снег у Вільні. Гэта, вядома, купалаўскі геній, з уласцівай яму крэатыўнасцю і прыродным тэмпераментам. Гэта і складаная любоўная інтрыга Купалы, ягоныя адносіны з жанчынамі, драма яго кахання. Гэта і «шкляны бог», да якога Купала меў схільнасць, пра што трывожыліся ягоныя сябры, стымулятар, які часам дапамагае талентам, а часам і нявечыць іхнія лёсы. Відавочна, што спрэчка вакол Купалы, якая адбывалася пры ўдзеле Ластоўскага, мела сваім аб’ектам новы паварот у творчасці Купалы, звязаны з працягам творчай вучобы, засваеннем досведу майстроў новай генерацыі, у тым ліку і сімвалістаў. Зразумелы непакой сяброў, але відавочная і тая перамога, якую атрымаў Купала, прачытаўшы верш «Снег».

Песімістычны тон верша не з’яўляўся вынікам часовай дэпрэсіі паэта або імгненным імпульсам – адказам на новае, незвычайнае ўражанне. Трагічнае светаадчуванне, адлюстраванне энтрапіі, разладу быцця – устойлівая рыса мастацкага свету Купалы. Эстэтыка сімвалізму шэрагам сваіх істотных элементаў пасавала такому светаўспрыманню. Паэт апынуўся ў сферы новага мастацтва не дзеля асабістага капрызу або выпадковага збегу акалічнасцяў – ён аб’ектыўна мусіў самарэалізоўвацца ў новаствораным кантэксце. Пэўныя элементы гэтага кантэксту актыўна засвойваліся творцам, а іншыя актыўна адштурхоўваліся. Гэта назіралася і ў працэсе засваення паэтам творчага досведу Пшыбышэўскага.

У далейшым сімвалісцкія артэфакты, звязаныя са «снегам» сінанімічнай і асацыятыўнай сувяззю, утвораць уласна купалаўскую вобразную сістэму, дзе на першы план вылучацца матывы гіпербалізаванай, касмічнай сцюжы («Сон на кургане») і завірухі, атаясамленай з нацыянальнай безвыходнасцю (верш «Паязджане»).

Як вядома, творчасць польскага майстра надзвычай моцна паўплывала на развіццё рускага сімвалізму. Уплыў гэты выглядаў сапраўдным культурным феноменам. Папулярнасць Пшыбышэўскага па-за межамі Польшчы, у чытацкіх колах Расіі, была надзвычайнай. У пэўнай ступені творчасць Пшыбышэўскага сталася адлюстраваннем засвоенага досведу першапраходцаў сімвалізму і пашырала яго ўздзеянне на літаратуры Усходняй Еўропы. Нягледзячы на некаторую другаснасць і нават штучнасць, якія можна заўважыць у манеры пісьменніка, яго творчасць адыгрывала функцыю адбітага святла, а сам ён выступаў у ролі чарговага культуртрэгера на памежжы Захаду і Усходу.

Пра гэта сведчыць колькасць перакладаў пісьменніка на рускую мову. Раман Пшыбышэўскага «Homo sapiens», упершыню выдадзены ў рускім перакладзе ў 1901 г., вытрымаў пасля таго дзесяць (!) выданняў і стаўся самай папулярнай кнігай польскіх аўтараў у Расіі. З 1905 па 1911 гг. выдаваўся «Поўны збор твораў» Пшыбышэўскага на рускай мове ў 10-ці тамах, у 1905—06 гг. выйшаў яшчэ чатырохтомнік. Усяго ў Расіі было выдадзена 150 назваў перакладаў Пшыбышэўскага. Кожны з расійскіх дэкадэнтаў адчуў на сабе ягоны ўплыў, але асабліва – Валерый Брусаў і Міхаіл Арцыбашаў. Раман апошняга «Санін» (1907) працягвае тэму скрайняга індывідуалізму, неабмежаванай волі моцнай асобы, апанаванай жарсцю.

Матывы адзіноты, маўклівага супраціву абставінам, праціпастаўлення моцнай, валявой асобы безаблічнаму натоўпу, абывательскаму асяроддзю – усё, што характарызавала мастацкі свет Пшыбышэўскага, не магло пакінуць абыякавым Купалу, ягонага шчырага прыхільніка. Трансцэндэнтальны пошук Сама, героя паэмы «Сон на кургане», які ў сне, насланым русалкамі, мроіць свой магчымы лёс, парыванні персанажаў драмы «Раскіданае гняздо», асабліва Зоські і Сымона, у нечым сугучныя душэўным рухам персанажаў Пшыбышэўскага.

Купала творча засвоіў саму магчымасць выводзіць на сцэну персанажы-сімвалы, персаніфікаваць не проста чалавечыя якасці, а комплексы адносінаў, ідэалагем, настрояў. Ён выпрабоўвае творчыя рэсурсы такога прыёму, як сімвалісцкая персаніфікацыя, гіпербалізуе і ўскладняе такія душэўныя імпульсы, як, прыкладам, прага сусветнай помсты. З'яўляецца Машэка з паэмы «Магіла льва», герой, у асобе якога развенчваецца арэол рамантычнага змагара за справядлівасць, высакароднага разбойніка. Аналагічную метамарфозу перажывае і герой п'есы «Залатое руно» Пшыбышэўскага. І разам з тым сімвалісцкія персанажы Пшыбышэўскага і Купалы жывуць кожны сваім жыццём.

Шляхціцы Пшыбышэўскага, уведзеныя аўтарам у пабытавыя, зямныя абставіны, не губляюць свае трансцэндэнтнае прыроды. Яны і ў празаічных варунках прамаўляюць цьмяныя шматзначныя маналогі, прымаюць артыстычныя позы, публічна страляюцца, труцяцца, топяцца або губяць іншых, што часамі надае ім крыху недарэчнае аблічча. Ды аўтар мала клапаціўся пра тое, маючы бачную яму аднаму звышзадачу.

Купала ж больш дбаў пра жыццёвасць і жыццепадабенства, таму пакінуў свайго Якіма Сароку вясковым настаўнікам, Мікіту Зноска – няўдалым калежскім рэгістратарам, Заходняга вучонага – сынам арганістага, Усходняга вучонага – сынам дзяка, адсунуўшы паўмістычную прыроду сваіх вобразаў на другі план.

Як мастак ён клапаціўся не столькі пра адэкватнасць адлюстравання, колькі пра жыццёвасць (вітальнасць) вобразаў, нават кранутых, як гэта ні парадаксальна, подыхам згібення або смерці.

З усяго даволі разматага набору сімвалічных артэфактаў Пшыбышэўскага Купала найбольш высока ацаніў «снег», вобраз рухомы, «прыродны», зменлівы. Яго не натхнілі вобразы штучныя, пазбаўленыя жыццёвай сілы, прыкладам, архетып залатога руна з аднайменнай п'есы, што трактаваўся аўтарам як «вяроўка, за якую д'ябал цягне душу ў пекла».

У мастацкім свеце Купалы не прыжыліся, не далі водгуку і некаторыя іншыя кніжныя вобразы-сімвалы, характэрныя для метамовы прадстаўнікоў «Маладой Польшчы»: *цень, адлюстраванне ў вадзе, люстра, «душы залатая брама», «кветкі мары», «белыя кветкі тугі», «блакітных слоў глыбіня»*.

Збліжэнне Купалы з творчай пазіцыяй прадстаўнікоў «Маладой Польшчы» адбываецца ў іншай плоскасці. Там, дзе польскія літаратары імкнуліся паяднаць сімвалісцкі пошук з нацыянальнай і сацыяльнай завостранасцю. Станіслаў Пшыбышэўскі, пры ўсёй сваёй рэпутацыі касмапаліта, мадэрніста і багемшчыка, па-свойму шукаў новую Польшчу, і гэты пошук імпанаваў беларускаму песняру.

**Пятро Васючэнка**

Сяргей Шапран



...Нама...

# Уладзімір Някляеў. Незавершаная аўтабіяграфія

***Старонкі новай кнігі***

*Працяг. Пачатак у №№6 (73), 1 (74).*

## ДАРОГА ДАРОГ

Пачынаючы з 1975 г., Някляеў чатыры разы ездзіў на БАМ. «Бачыў будоўлю, людзей. Работа ў экстрэмальных умовах правярае чалавека на годнасць. Гэта як рэнтген»[1].

«...Калі я, скажам, ехаў на Байкала-Амурскую магістраль пісаць паэму пра БАМ, – казаў ён пазней, – дык рабіў так з-за ўнутранай патрэбы. Мне хацелася ўсё бачыць і ва ўсім удзельнічаць! А сядзець убаку ніяк не выпадала. І ніхто нікому не забараняў ездзіць па сібірах і далёкіх усходах... Я быў на БАМе тры месяцы. Люты мароз – менш, чым сорак, не было, настылыя, у сінім шэрані рэйкі, начоўкі дзе папала. Калі прабівалі тунэль, я папёрся туды!.. Як на БАМ, у свой час я паехаў у Чарнобыль, хоць меў поўнае ўяўленне, што там адбываецца, бо ў мяне не толькі філалагічная, але і тэхнічная адукацыя. І я дакладна ведаў, што такое радыяцыя і што са мной у выніку

можа здарыцца. Аднак не паехаць і не ўбачыць усё на ўласныя вочы было для мяне па нейкай прычыне таксама немагчыма»[2].

Вынікам бамаўскіх паездак стала паэма «Дарога дарог»[3].

Быкоў ратуюць рогі,
А коней – капыты...
Ракадныя дарогі.
Бясконцыя франты.
Агонь настыглай рэйкі
Не па руках рукам.
Закуты лёдам рэкі
На трасе Тында – БАМ.
Жагнае ў маць і ў бога,
Збівае вея з ног...
Ракадная дарога –
Глухі праклён дарог.

«Поэма написана интересно, образно, гражданственно. Творчество В. Некляева свидетельствует о том, что мы встретились с талантливым поэтом, который, основываясь на классических традициях, ищет новые формы и методы творческого выражения»[4], – пісаў сакратар праўлення СП БССР Іван Чыгрынаў у творчай характарыстыцы на Някляева пры вылучэнні яго на прэмію Ленінскага камсамола ў галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і архітэктуры. І ўвосень 1979 г. Някляеў атрымаў першую ў сваім жыцці вельмі высокую ў СССР (трэцюю па значнасці пасля Ленінскай і Дзяржаўнай) прэмію – за паэму «Дарога дарог» і кнігу «Вынаходцы вятроў»[5].

Праз дзесяцігоддзе Любоў Гарэлік напіша, што паэма «ўспрымаецца толькі як факт гісторыі літаратуры. Самыя каштоўныя ў ёй – старонкі, дзе ўваскрашаецца трагічная памяць спаленай беларускай вёскі Красніца»[6]. А пазней увогуле будзе сцвярджаць: «Відавочна, што сёння паэма, прысвечаная будаўнікам Байкала-Амурскай магістралі, не мае вялікай эстэтычнай каштоўнасці, бо ў ёй многа эпізадычных сустрэч і працоўнага энтузіязму, але мала жывых, сапраўдных характараў»[7].

Сам жа Някляеў, азіраючыся на той час, скажа: «БАМ. Падабалася, таму пісаў пра гэта. У нас адзін аднаго амаль не чытаюць, ацэньваюць са словаў іншых. Нехта адзін нешта сказаў – і пайшло-паехала. Крытыкавалі мяне за апяваньне БАМу, а я не надта й апяваў. Упэўнены, што паэму пра БАМ прачытаў адзін са ста крытыкаў. БАМ быў пляцоўкай для энтузіязму герояў, пакуль ня стаў пляцоўкай для махінацыяў – сталі красьці...»[8]

І, бясспрэчна, мела рацыю Людміла Рублеўская, калі пісала: «Вы спытаеце, а як жа паэма Уладзіміра Някляева пра Байкала-Амурскую магістраль, якой (паэмай, а не магістральлю) паэта так доўга папікалі "бескампрамісныя" калегі? Ня станем сыходзіць да млявага апраўданьня "даніна часу" [...]. Думаю, з цягам часу ў "бамаўскай" паэме ўбачаць і сьцёб ("бамачка, што шкляначка з этыкеткай імпартнай"), і сапраўдную паэзію (якая там ёсьць), і фантасмагорыю сацарту... І... хто без граху? Памятаю, як дакаралі Яўгена Еўтушэнку, які пасьля "Бабьего Яра" напісаў пра "чалдоначку", якая лёгка ўскідвае на плячо мех з цэментам, каб будаваць сьветлую будучыню...

...Не, нічога з таго, што напісаў Уладзімір Някляеў, не адмяняе і не зьніжае ўсяго астатняга»[9].

Пазней, напрыканцы 1970-х і ў 1980-я г.г., «Дарога дарог» цалкам ці фрагментарна неаднойчы перадрукоўвалася ў калектыўных зборніках[10], аднак у свае асабістыя кнігі – у тыя ж выніковыя «Выбраныя творы» – Някляеў яе ўжо не ўключаў[11]. «Дарога дарог» увайшла толькі ў яго кнігу паэм[12], праўда, зноў жа не цалкам.

### *ЗГАДКА ПРА БАМ*

Ува мне, нібыта ў снах фанатыка,
Будучыні велічнай каркасы...
Сацыяльна значная тэматыка —
Міма касы.

Што ж, бывай, былое. Так здараецца.
Змена вех. Па сем разоў на тыдні.

А душа ніяк не развітаецца
З рэйкамі з'інелымі нараніцы,
Са світальнай хустачкаю Тынды.

*2004*[13]

## КДБ. СУСТРЭЧА ДРУГАЯ

Зрэшты, прэміі магло не быць – праз данос, які быў напісаны на будучага лаўрэата. Някляеў прыгадваў:

«Заходжу неяк у рэдакцыю аднаго з нашых часопісаў, там сядзіць у адзіноце панылы супрацоўнік і вітаецца са мной скрозь зубы.

– Ты чаго панылы? – пытаюся.

– Не пішацца нічога.

– А што ў такой самоце можа напісацца? Ты давай весялей!

– Я па БАМах не катаюся, мне няма з чаго весялець.

– Дык па бабах катані. Яно нават лепш, чым па БАМах. Ведаеш, як Дзюмабацька пісаў? Адну голую бабу на адно калена, другую – на другое ды скрыню шампанскага пад стол... І калі ласка – "Тры мушкецёры".

З той парадай я і пайшоў, а ён застаўся. І, як я хутка зразумеў, не адкладваючы, пачаў пісаць. Павесялеў чалавек. Апісаў усё, як было, замяніўшы толькі імя французскага раманіста на маё імя. Творча перапрацаваў сюжэт. І выйшла, што паэму пра БАМ, ударную камсамольскую будоўлю, ды і ўсю кнігу, вылучаную на прэмію, напісаў я ў беспрабудным п'янстве з групавым сэксам.

У сваім часопісе ён гэты даволі цікавы твор чамусьці не захацеў надрукаваць...

Са "стук-аддзела" Камітэта дзяржбяспекі інфармацыя, як яно і належала, пайшла ў ідэалагічны аддзел ЦК КПБ. Туды мяне і паклікалі разбірацца, там узгадняліся для Масквы ўсялякія характарыстыкі ды рэкамендацыі. Без іх ты хоць сто кніг напішы – ніякіх прэмій.

"А, развратник!" – прывітаў мяне выпадкова спатканы пры ўваходзе ў ЦК тагачасны сакратар па ідэалогіі Аляксандр Трыфанавіч Кузьмін. Давялося і яму коратка, на хаду расказаць пра тое, як пісаў Дзюма. Манера пісьма вялікага і вясёлага француза, паколькі ён не быў членам Саюза пісьменнікаў, Кузьміну спадабалася, – і на тым справа скончылася»[14].

Праўда, пасля атрымання саюзнай прэміі Някляевым зноў зацікавіўся беларускі КДБ: яго паспрабавалі завербаваць.

«– Ты патрыёт?

– Патрыёт.

– Тады ў чым загвоздка, падпісвай!

– А нельга быць патрыётам без гэтага?.. [...]

– Ладна, давай так: ты нам – мы табе. Кар'ера, замежныя камандзіроўкі, з кватэрай дапаможам... І ніхто пра тое ведаць не будзе.

– А што за ўсё гэта я – вам?

– Напішаш што-небудзь... Час ад часу, раз у месяц.

– Дык я і так пішу. І ўявіце сабе: вечарам сядаю за пісьмовы стол, уклю-

чаю зялёную лямпу, бяру вечнае пяро і на белым, чыстым аркушы паперы пішу зверху не раман, не паэма, а данос.

– Ды які данос! Аналітычная запіска. Настроі выкладзеш, тэндэнцыі – канцэптуальна. Мы ж цябе не ў дробныя нейкія стукачы вярбуем.

– А падпісвацца мне ўсё ж стукачом.

– У цябе іншае імя будзе! Можаш сам выбраць.

– У мяне адно імя, мне яго ўжо выбралі.



*Беларуская дзяржаўная філармонія. Вечар паэзіі з Нілам Гілевічам, Раісай Баравіковай, Максімам Танкам. 1979 год.*

Пачаўшыся ў адным з нумароў гасцініцы "Мінск", цягнулася ўсё гэта ў розных месцах месяцы два. Спачатку з каньяком, пазней з гарэлкай, а пасля ўжо без нічога, на ўсім сваім. І ўсюды, і ўсім распавядаў я пра зялёную лямпу, бо яна нейкім дзіўным чынам ставалася з майго боку даволі істотным аргументам. Хоць з іх боку былі аргументы больш важкія. І прабягаў ад іх мароз па спіне, і было страшнавата, але не так, каб забыцца, да чаго цябе змушаюць.

Пікантнасць заключалася ў тым, што дваіх з маіх "распрацоўшчыкаў" я больш-менш ведаў асабіста па іх ранейшай, цывільнай службе. З аднаго боку, было гэта для мяне палёгкай, а з другога – небяспекай, бо яны нібыта гарантавалі начальству поспех. Таму ціснулі так, што мала не здавалася. А я ўсё пра зялёную лямпу...»[15]

Іншым разам, кранаючы гэтую тэму, Някляеў дадаваў: «Разработка, как я тогда догадывался, а потом и узнал это, курировалась, что называется, на самом верху, поэтому им отступать было невозможно, а мне – некуда. Есть непреступимая грань, пограничная межа, перед которой все компромиссы у меня кончаются»[16].

Пазней, у сярэдзіне 1990-х, адзін з тых, хто спрабаваў вербаваць Някляева, прызнаўся яму, што з-за няўдачы з яго вярбоўкай меў сур'ёзныя непрыемнасці на працы...

Калі ў 1994 г. старшынёй беларускага КДБ на нядоўгі тэрмін, усяго на год, стаў Уладзімір Ягораў, Някляеў прапанаваў калі не рассакрэціць спісы агентуры, дык хоць даць «уцечку» інфармацыі пра самых «закаранелых» стукачоў з творчага асяроддзя – каб ведалі, што напісанае сапраўды застаецца. «Неяк жа трэба ад гэтага ачышчацца, неяк пачынаць», – пераконваў паэт старшыню КДБ. Але – безвынікова, «фірма венікаў не вяжа: не выдае стукачоў ні жывых, ні мёртвых»[17].

Праўда, копіі некаторых даносаў Някляеў усё-ткі ўбачыў. «Например, писали: сидели в гостях у Евгении Янищиц, и Некляев, произнося тост, сказал то-то и то-то про такого-то и такого-то члена ЦК КПБ, – прыгадваў пасля Някляеў. – Или, скажем, поехали в Польшу, где Некляев с двумя паненками ходил в гости к польскому пану, не совсем дружелюбно настроенному по отношению к СССР. Однако в этих доносах было много лжи. Например, указывали, что я –

русский. Я действительно русский по отцу, но в паспорте у меня записано, что белорус. Уже не говорю о том, что доносили, будто я – еврей! На эту тему было сто-о-олько доносов! Причем ссылались на то, что фамилия у моих предков по материнский линии была Магер. Так я же сам написал в поэме: “Стасі Магер роднае дзіцё...”!» Самі ж даносы былі падпісаныя «кличками, причём глупыми: начиная от Щедриных и заканчивая Борисовыми, Николаевыми и Семёновыми. Был ещё Одуванчик»[18].

## НЕСПРАВЯДЛІВАЯ ПАРТЫЯ

Калі ў Мінску (яшчэ ў савецкі час) праходзіла рэканструкцыя плошчы Перамогі, было вырашана напісаць у мемарыяльнай зале пад Вечным агнём вершаваны рэквіем. Адпаведнае даручэнне было дадзена сакратарыяту СП, які ў сваю чаргу (бо даручэнне было ганаровае, вершы адліваліся ў бронзе) звярнуўся да патрыярхаў беларускай паэзіі. Някляеў на той час патрыярхам, вядома, не быў, але ў спаборніцтва з патрыярхамі ўступіў, вершы напісаў. І яны былі прызнаныя найлепшымі. Іх зацвердзілі на сумесным паседжанні кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў і Мінскага гаркама партыі, а калі адаслалі для канчатковага рашэння ў ЦК КПБ, дык пад някляеўскімі радкамі былі пазначаныя імёны ўсіх жывых на той час народных паэтаў – і адсутнічала імя аўтара. «Ранг не тот! Не по рангу!» – як напісаў зусім пра іншае Някляеў у маленькай паэме «Грузавік»[19].

Праз гады пра гэтую гісторыю даведаўся Васіль Быкаў. Праходзячы аднойчы праз мемарыяльную залу пад Вечным агнём на плошчы Перамогі і спыніўшыся каля ўвекавечаных у бронзе вершаў Някляева, ён заўважыў: «Не, партыя ўсё ж несправядлівая», – а пасля дастаў асадку і, хоць тая слядоў на мармуровай сцяне амаль не пакідала, падпісаў пад апошнім радком: «У. Някляеў». Схаваўшы асадку, Быкаў задаволена рэзюмаваў: «Гістарычная праўда адноўлена»[20].

Сёння ад таго быкаўскага надпісу не засталося следу. Але па-ранейшаму адліваюць бронзай на мармуры «народна»-някляеўскія радкі:

Тут схіляем галовы мы нізка перад мужнасцю вашай,
героі,
перад славаю вашай, што ўстала нязгаснай зарою
на зямлі,
за якую жыццё аддалі
вы, сыны неабсяжнай Радзімы,
Беларусі сыны...
Пабрацімы,
Векапомны ваш подзвіг!
Незабыўныя вашы імёны на гэтай зямлі!

## ТРАЕКТОРЫЯ ПОСПЕХУ

У 1978-1980 гг. Някляеў – старшы рэдактар галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграмаў Беларускага тэлебачання, да таго ж – вядучы тэлечасопіса «Літаратурная Беларусь», у выпусках якога бралі ўдзел Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч, Іван Мележ, Янка Брыль...

«Уладзімір Някляеў – адначасова напорысты, імклівы і стрымана-эмацыянальны, з усім арсеналам рамантыкі далёкага і блізкага – а рамантыка яшчэ мела сваіх адэптаў – з раздумліва-майстравітым скепсісам, у якім ужо адчуваўся надыходзячы час амбівалентных герояў 80-х – прыйшоў у пару. Яго заўважылі чытачы, калегі-паэты, крытыкі. Шырокая аўдыторыя. Гэтаму спрыяла і тая абставіна, што ён вылучаўся яркім артыстызмам у спалучэнні з добрым густам, адчуваннем мастацкай меры. [...] Уладзімір Някляеў быў ці не самым галоўным

героем тэлеэкрана Беларусі, калі весці гаворку пра літаратараў. Ён чытаў вершы, даваў інтэрв'ю, удзельнічаў у імпрэзах [...].

Траекторыя поспеху паэта Уладзіміра Някляева была амаль вертыкальнай, яго нібыта запусцілі на арбіту славы і вядомасці»[21]. Так пісала пра гэты час у жыцці паэта Ала Сямёнава, якая дзесяцігоддзем раней прысвяціла Някляеву раздзел у кнізе літаратурных эсэ, што пачынаўся наступным чынам: «"Самая трывалая аснова, над якой працуе мастак, – гэта ўспамін пра ўсё, што ён бачыў і адчуў як чалавек..." – адзначаў некалі Гюйё. Мабыць, у гэтым моц экспрэсіўнага, грамадзянска-асабістага пісьма Уладзіміра Някляева. Ёсць у беларускага паэта вось гэтая важная выснова для таго, каб пульс часу адчуваўся ў яго вершах, не аслаблены вобразна-паняційнай анеміяй, але напоўнены паўнакроўнай эмоцыяй, жывым уражаннем. І гэта не мітуслівая тахікардыя охаў і ахаў, усплёскаў настрояў, не рэгламентаваных і не кантралюемых дысцыплінай думкі. Уладзімір Някляеў заўсёды імкнецца да грамадзянскага гучання паэзіі, выходзіць да філасофскіх абагульненняў, не губляючы адкрытай энергіі пачуцця. Адкрыта абвяшчаючы:

А вершы пішуць – як жывуць.
Як дыхаюць. Як паміраюць.
*("Мне трыццаць...")*»[22].

Таксама і Таіса Бондар, прысвяціўшы паэзіі Някляева вялікую рэцэнзію, пісала ў той час: «Стала звыклым, што ў гаворцы пра паэта згадваюцца імёны тых, чыйму слову абавязаны ён сваім ростам, сваім рухам. Я не буду рабіць гэтага. І не таму, што ў Някляева не было, ці было мала, настаўнікаў. Былі. І нямала. Уся беларуская літаратура, уся паэзія была і ёсць зарукай з'яўлення паэта. Яго. І іншага. І новага – заўтра і ў будучым. Паэзія, пры ўсёй яе сацыяльнай сутнасці, адрасуецца да вечнай ісціны, прыцягваючы асацыятыўныя рады, назапашаныя ёю за доўгія стагоддзі свайго існавання. Жыццяздольнае ў ёй найперш тое, карані чаго – у здаровай глебе традыцыі. А слова... Паэты – усе! – абавязаны сваім ростам, сваім рухам слову народнаму, песеннаму слову народа.

Велічыня, значэнне паэта, пісьменніка вызначаецца якраз тым, колькі зачэрпнуў, колькі змог зачэрпнуць ён з гэтай крыніцы. Узяць жа можна столькі, колькі адпушчана таленту. Адсюль і цяжкасць...

Уладзіміру Някляеву адпушчана таленту багата. І – што, мажліва, яшчэ больш важна! – талент яго надзейна ўмацаваны верай. Верай паэта ў сябе. У сваё прызванне. У свой талент. [...]

Маюць рацыю тыя, хто лічыць, што сёння, як і заўсёды, "вялікая місія пісьменніка – быць не столькі выразнікам грамадскай думкі, колькі яе арганізатарам". Не тым арганізатарам, што мітусіцца, кідаецца ад аднаго да другога, рух і шум вакол сябе ствараючы, а тым, хто імкнецца зрушыць, рассунуць рубяжы духоўнага зроку, свайго і сваіх сучаснікаў.

Уладзімір Някляеў належыць да апошніх. Усім, што зрабіў і робіць у паэзіі. Сваімі радкамі, якія сведчаць пра няспыннае жыццё душы. Жаданнем наблізіцца да ісціны. Высілкам, бо кожны раз трэба пераадольваць у сабе – найперш у сабе! – інерцыю звыклага (сёй-той зацята думае: традыцыйнага):

Прызнаць віну, якой не варты ты, —
Адчэпка толькі для суда людскога...
Калі душа, як за сцяной астрога,
І сочыш ты за ёй, як вартавы, —
Не абвяшчай: я вінаваты ў тым,
Што ёсць мана, што пыл яе і дым
Твар праўды захінае, як аблога.
Не словамі, а справай пачынай:

Астрог паруш – і ў сэрцы паламай
Нож асцярогі, зброю вартавога.

“Калі душа, як за сцяной астрога...” – вось найвялікшая трывога паэта. І найвялікшы яго клопат. Кожны стварае сябе сам. Кожны. І ён, паэт. Уладзімір Някляеў. Але ён – і ў жыцці, і ў слове – змагаецца не адно за сябе. Ён змагаецца за чалавека. За Чалавека ў чалавеку. Тым паэт і значны»[23].

Вось і Алесь Бадак прыкмячаў пазней ужо не ў паэзіі Някляева – у яго асобе, мабыць, найістотную рысу: «Знаходзячыся навідавоку, ён у той жа час трымаецца наводдаль ад усіх і ўсяго. Ці – над усім. [...]

Яго іранічная ўсмешка – гэта ўсмешка чалавека, які няхай сабе далёка не першы – даўно прыйшоў да высновы, што жыццё, з усёй мітуснёй, усімі праблемамі, драмамі і трагедыямі, – гэта гульня, і таму ставіцца да яго трэба адпаведна.

Часам здаецца, што і свае вершы Уладзімір Някляеў піша як бы гуляючы, пакручваючы калейдаскоп з рознакаляровымі шкельцамі-словамі [...].

Яшчэ на пачатку сваёй творчасці, спасцігнуўшы адну з самых важных таямніц паэзіі – як знайсці шлях да папулярнасці, – Ул. Някляеў не згубіў гэты шлях і сёння. Ён ніколі не прыкідваўся, што піша для сябе, што ён абыякавы да таго, які рэзананс выкліча ў шырокага чытача яго кожная новая кніга, і нават у нашых сённяшніх умовах дамагаецца, здавалася б, немагчымага – чытацкага “голаду на Някляева”»[24].

Трэба дадаць, што прыкладна ў гэты ж самы час Някляеў актыўна працуе ў песенным жанры – музыку на яго вершы пішуць вядучыя беларускія кампазітары: Уладзімір Буднік, Яўген Глебаў, Эдуард Зарыцкі, Леанід Захлеўны, Валерый Іваноў, Ігар Лучанок, Васіль Раінчык. Някляеў супрацоўнічае таксама з найвядомейшымі беларускімі ансамблямі: з «Песнярамі» (разам з калектывам Уладзіміра Мулявіна ён стварыў праграму «Вольніца»), «Сябрамі», «Чараўніцамі»; ансамбль «Верасы» дык наогул запісаў некалькі альбомаў на някляеўскія вершы[25]. Колькі ж было напісана тых песень, Някляеў ніколі не лічыў – можа, паўтысячы, а можа, болей. «Не скажу, што ўсе яны – шэдэўры, – прызнаецца ён шчыра. – Далёка не ўсе. Здаралася, я падхалтурваў, папросту зарабляў грошы. Пісаў на замову... Для паэта гэта быў адзін са спосабаў заробку. Як, скажам, для мастака – намаляваць ці выляпіць Леніна. На выставе ў Менску той мастак – авангардыст, а недзе ў Доме культуры калгаса “Шлях да камунізму” вісіць намаляваны ім партрэт нейкага правадыра. Бо авангардызмам сям'ю не пракорміш.

У гэтым накірунку асабліва ўдарнымі тэмпамі працавалі мы з Ігарам Міхайлавічам Лучанком. І пра медыкаў пісалі, і пра міліцыянтаў, і пра пажарнікаў – пра ўсіх. Ну, каб ніхто не крыўдаваў...»[26]

Дарэчы, сам Ігар Лучанок скажа пра Някляева дый пра напісаную разам з ім песню «Світанак»: «Ніколі б не праспявалася, не прагучала пад нябёсамі ні гэтая песня, ні многія-многія іншыя, што ўвайшлі ў народ, сталі часцінай яго жыцця, калі б не было ў нашай сённяшняй культуры бліскучага паэта Уладзіміра Някляева. Неяк ён сказаў быў, што працуе ў жанры песні выпадкова, ды наўрад ці гэта так. Ім напісаныя выдатныя вершы і паэмы, але ў кожнай хаце спяваюць на свяце “Гуляць дык гуляць!” і выпадкова такое не здараецца. Людзей можна падмануць чым заўгодна: законамі, газетнымі артыкуламі, тэлевізійнымі праграмамі, толькі нікога не падманеш песняю. Песню або спяваюць, або не, і для таго, каб яна заспявалася, ой колькі душы і сэрца, колькі таленту трэба ўкласці ў кожны гук, у кожнае слова...

Уладзіміру Някляеву ўдавалася і ўдаецца здзяйсняць гэты цуд, талент у яго ад Бога, душа і сэрца – ад бацькоў, ад роднай зямлі [...]»[27].

Таксама і Генадзь Бураўкін гаварыў: «Някляеў – паэт вельмі яркі і арыгінальны.

Гэта відно ў тым ліку ў ягоных песнях. Я даўно лічу, што сярод паэтаў, якія пішуць вершы для песень, нумар адзін – Уладзімір Някляеў. Я перакананы ў гэтым яшчэ з тых часоў, калі музыку на яго вершы толькі пачыналі пісаць Ігар Лучанок, Васіль Раінчык, Валерый Іваноў... На жаль, цяпер стала звычайнаю справа, калі не аб'яўляюць, хто аўтар, дый і сам часам не цікавішся гэтым – проста слухаеш песню. Дык вось многія песні, якія мяне закранялі, якія заставаліся ў маёй душы, былі напісаны якраз на вершы Уладзіміра Някляева. Той жа "Світанак" на музыку Ігара Лучанка – у ім не толькі добрая мелодыя, а і вельмі душэўны, паэтычны настрой, які быў закладзены ў вершы Някляева. І тое, што ён рабіў пасля, таксама было выдатна, з абсалютна дакладным адчуваннем патрабаванняў песеннай творчасці. Гэта было не толькі паэтычна – гэта яшчэ і гучала. І цяпер мне не абавязкова чуць у эфіры ці са сцэны, што Някляеў – аўтар той ці іншай песні, – яго вершы я ўгадваю адразу, бо ведаю яго інтанацыі. Някляеў – паэт вельмі самабытны»[28].

«Світанак», «Гуляць дык гуляць», «Янка Купала», «На мяжы расстанняў і сустрэч», «Белае віно і чырвонае», «Лодка белая», «Раз ды разок», «Гора за гарой», «Віншавальная», «Зямля мая белакрылая», «Родны мой горад», «Вянок», «Колокола», «Музыка для всех», «Карнавал», «Любви прощальный бал» – гэта толькі некаторыя песні Някляева. А між тым асобныя яго «калегі», відаць, жадаючы зняважыць, называлі Някляева не інакш, як толькі «паэт-песеннік». Не здолеўшыя стварыць у паэзіі хоць бы нешта блізкае да някляеўскіх радкоў, яны ці ніколі ўсур'ёз не чыталі Някляева, ці трывіяльна зайздросцілі яму. Хоць «паэт-песеннік» Някляеў – ва ўнісон з Ігарам Лучанком і Генадзем Бураўкіным – перакананы, што для таго, каб напісаць добрую песню, таксама патрэбны талент, дый не абы які: «Заўважу, што пісаў я заўсёды на так званую "рыбу", – распавядаў ён аднойчы, прыадчыняючы дзверы ў сваю «творчую кухню». – А што такое пісаць на "рыбу"? Гэта значыць, падбіраць словы на ўжо гатовую мелодыю, што зусім няпроста. Памятаю, як для першай сваёй песні (на музыку Эдуарда Зарыцкага) я падбіраў словы больш за тыдзень. Удзень і ўночы. Каб кожная лексічная фанема адпавядала кожнай музычнай долі, слабой ці моцнай. Усё ж павінна гучаць выразна – і зручна для выканаўцы. Голас павінен ляцець. Ніводная фанема не павінна прападаць, з'ядацца. Асабліва небяспечныя ў гэтым сэнсе глухія зычныя, якім проста не месца напрыканцы фразы – асабліва пры хуткім рытме. Карацей, гэта прафесія, якой не авалодаеш без таленту. Але хто сёння на тое звяртае ўвагу?.. [...]

Паўтараю: гэта вельмі складаная і сур'ёзная прафесія, якой немагчыма авалодаць пры адсутнасці здольнасці да яе. Таленту. Нездарма аўтары большасці найвядомых песень – таленавітыя паэты. І песенны дар – вызначальны ў іх таленце. Менавіта ён зрабіў іх знакамітымі.

У Літаратурным інстытуце я вучыўся ў семінары Льва Ашаніна. Хто чытаў ягоныя кнігі, памятае ягоныя вершы? Я памятаю, нехта яшчэ. А заспявайце: "Эх, дороги, пыль да туман..." – і падхопяць тысячы.

Ці шмат людзей чыталі вершы Адама Русака? А ягоную песню "Бывайце здаровы, жывіце багата..." спявае народ. Ды яна і лічыцца народнай.

Некаторыя мае песні (да прыкладу, "Гуляць дык гуляць") таксама ўжо як народныя. А гэта, скажу табе, нешта ды значыць. Не толькі дурню радасць»[29].

Да таго ж ёсць яшчэ адзін істотны момант, які Някляеў адзначыў у эсэ пра паэта і сябра Генадзя Бураўкіна: маўляў, пра песні «кажуць як пра нейкі дадатак да творчасці – ледзьве не хобі». Але, на думку Някляева, песня дадае не толькі папулярнасці і пазнавальнасці – сам аўтар разумее: «хіба толькі беларуская песня яшчэ здольная пранікнуць туды, куды не пранікае ўжо амаль нічога беларускага»[30].

Праўда, на памежжы XX-XXI стагоддзяў перад Някляевым паўстала даволі сур'ёзная праблема: пачынаючы з 1999 г., яго імя знікае з афіцыйнага друку, а па радыё і тэлебачанні яго перастаюць называць нават як аўтара песень. Сам ён

хоць стрымана, але скажа пра гэта: «В Древнем Риме, кроме остракизма, было наказание неупоминанием. Вроде, человек жил, но его никто не упоминал. Патриции собирались, он, может, и был среди них, но о нём не вспоминали. Так и я попал в это число патрициев без имени. Петь поют, но не упоминают»[31].



*З дачкой Евай. 1981 год.*

## ЕВА

У 1980 г. у сям'і Людмілы і Уладзіміра Някляевых нарадзілася дачка Ева. Хоць чакаўся сын. Ілля.

Някляеў прыгадваў: «... Пройдуць гады – і буду чакаць сына. Перакананы буду, што народзіцца сын. Я ўяўляў сабе нашу з ім мужчынскую кампанію, нашы з ім мужчынскія размовы...

Нарадзілася дачка.

Доктар рагатаў: "Тут вам не стол заказаў". І ва ўсім я вінаваціў дактароў з іх недарэчнымі жартамі.

Якія былі жарсці!

Сёння не ведаю, чым за дачку аддзячыць лёсу. Мы далі ёй імя Ева, што значыць жыццё. Шчабеча рук яе радасць ластаўчыная: "Татка мой..."»[32]

Пакуль жонка знаходзілася ў радзільні, Някляеў штодзённа перадаваў у 22-ю палату лісты.

«Маленькая моя!

Я сам, должно быть, не знаю, как я тебя люблю, единственную мою, родную, самую славную, самую красивую, самую добрую и верную, не знаю как – только вот комок в горле, не проглотить, ни говорить не могу, ни понимать, что мне говорят, одна ты – во всём: во мне и вне меня, и ничего без тебя нет. Я буду любить тебя каждый день и всегда, сколько останется нам на этом свете, и на том, и везде, где только что-нибудь есть или будет – я буду тебя любить. Потому что ты не только любовь моя, ты вера в то, что всё это есть, всё, что называется я сам и что называется жизнью, – и светлячок, искринка этой жизни, вспыхнувшая от нас двоих – как клятва на крови... Принять на себя и перенести муки твои – ничего больше сейчас не хочу...

Боже, помоги ей, помоги моей любимой!.. Господи, не оставь...»[33] [...]

* * *

«Подменили!!!

Вот, а ты говорила: не подменяют... Ой, бяда... Ну что ж теперь делать-то будем? Какой из бабы революционер? Вера Фигнер и то фигня, а не революционер... А толкалась-то как! Руками, ногами, – господи! А врачиха твоя ещё: будет мальчик. Илюха, Илюха – вот тебе и здрасте...

Зато СЮРПРИЗ какой! Я аж головой крутнул, не поверил: Ух! Деваха!

Люблю сюрпризы! Люблю тебя! Ты молодчина! Будем теперь богатырей рожать!

Да здравствует деваха Стася! Или не Стася – свистит уж больно?.. Ну, подумай, у меня в башке полный кавардак...»[34]

* * *

«Солнышко моё,

я совсем привык, что у нас дочка, даже кажется странным, как мы этого раньше не думали... Конечно, дочка бедовая и озорная, потому и толкалась так, а такой сын был бы попросту хулиган, ну их, с хулиганами...

Только вот как назвать – всё равно не ведаю... А?.. Может, потерпит без имени, пока из Москвы вернусь... Приду за ней в костюме, при туфлях и при медали. Не пьяный папаша, а манекен прообраза человека будущего. Пусть знает наших.

Дома мы, вроде, всё подготовили, подчистить да подстирать лишь кое-что осталось, за эти два дня Илона сделает. Если не загуляет. Она такая тюкнутая ходит, будто ты от неё родила... Хорошая девка, девки вообще хорошо, новая ещё лучше будет!

Целую тебя – и до встречи...»[35]

«Нарэшце, падараваўшы жыццё і каханне, жанчыны дораць нам дзяцей. І мы становімся несмяротнымі, да нас прыходзіць пачуццё бясконцасці лёсу, векавечнасці ягонага кругазвароту.

Такія падарункі могуць рабіць хіба што багіні...»[36]

«...Направа ўзлятаюць —
Ілона і Ева —
Дзве птушкі
з галін радаслоўнага дрэва,
Направа – сілкамі пакоры і гневу —
Усё, што я ўспомніў, зірнуўшы налева
У зорную прорву,
дзе вечнасць клубіцца,
Дзе некалі сон гэты будзе мне сніцца...»[37] [...]

Зайка моя родная, Лапонька золотая,

Золушка моя ненаглядная, здравствуй!

Лечу сейчас из Ташкента в Москву (на Минск билетов не оказалось) и думаю, думаю, думаю о тебе и о наших девочках...

Вспомни, как всё начиналось, господи, как поехало всё на одиннадцатом автобусе!.. Автобус маршрутный, в него заходят и выходят из него люди, набиваются случайные попутчики, толкаются, ругаются, шумят, их жизнь перемешивается на время с нашей жизнью, но мы с тобою-то вдвоем, отдельные, мы вместе вошли и вместе выйдем на нашей остановке – по-другому я не понимаю и не хочу понимать, потому что ты для меня – судьба, половина моей жизни, ты самое прекрасное, что в этой жизни у меня было, есть и может быть.

Я люблю тебя, я никого больше не любил и не люблю, не умел и не умею. И не хочу учиться. Ты ведь знаешь, какой я ленивый.

Так хочется поцеловать тебя и девочек – боже ты мой, даже губы сохнут!..

Я целую тебя, я осыпаю тебя поцелуями, всю, как небо звёздами, – пусть будет так красиво, раз уж я побывал на Востоке. То, что я давно не говорил с тобой красиво, – неправильно, скверно, но это, поверь, не значит, что я не молился всей душой моей – на тебя и за тебя. И сейчас молюсь...

Вон ревёт самолёт, прёт 350 жизней, которые вполне могут перестать быть, – и почему-то каждому именно из-за этого страшно, а не из-за того, что любая их этих жизней может быть долгой-долгой и бессмысленной, как дымный след за самолётом... Я не знаю, что у каждого из них есть, ради чего они вцепились в

подлокотники кресел с номерами на спинках, пристегнулись привязными ремнями. Наверное, что-то есть... У меня есть ты.

В суете желаешь суетного, так уж человек устроен – во всяком случае слабый человек, – но от этого освобождаешься, когда думаешь о единственном, что в мире дороже всего, стоит над всем, когда тебе повезло это единственное, самое дорогое иметь и чувствовать. Так я о тебе сейчас думаю, так я тебя чувствую сейчас, – да и всегда, я знаю, что всегда.

Прости меня, что я редко тебе об этом говорю, прости меня, что ты права, когда восклицаешь: “Мало ли что ты там сам себе думаешь и чувствуешь!..”

Прости меня, любимая.

Я здесь много чего насмотрел, да и надумал много чего, но всё вертелось и вертится вокруг нас, будто какой-то рубеж нам предстоит перешагнуть, – и нет иного выхода, кроме как взяться за руки: я чуть впереди, а ты рядышком.

Ничего, мы с тобой всё сможем. Да и не столь уж многое нужно смочь: просто помнить, кто мы и что мы друг для друга. Даже тогда, когда на разум находит затмение.

Мне теперь светло: я слышу тебя, вижу тебя – и улыбаюсь, честное слово.

И ты улыбайся, пожалуйста. Ничего не бойся и не трусь: всё будет хорошо, потому что иначе быть не может.

До встречи»[38].

...Ці адбыўся б паэт Уладзімір Някляеў, калі б не ягоная жонка Людміла, якая яшчэ падчас першай сустрэчы ў жніўні 1965-га ўбачыла ў 19-гадовым юнаку «нябеснага і светлага чалавека»?[39] Той паэт Някляеў, якога мы цяпер ведаем. Сам ён нідзе і ніколі пра тое публічна не казаў і не пісаў, але мы перакананыя, што калі б не было ў ягоным жыцці жонкі Людмілы, прыгожай жанчыны з імклівай усмешкай і глыбокім голасам, пад абаяльнасць якой немагчыма не падпасці, дык лёс ягоны, як чалавечы, гэтак і творчы, быў бы іншым.

### *КОШКА*

*Людміле*

Не пачую водгуку ў мальбе,
Пракрычу ў прасцяг глухі: «Ісусе!..»

Божа мой, я плачу без цябе,
Божа мой, я без цябе смяюся.

З чым я рушыў з лёсу ў лёс наўпрост?
Для чаго? Каб у чужым заглушку
Скруха кошкай выгінала хвост,
Кіпцюрамі драпала падушку?

Каб у бок, дзе ты, напружваць зрок
Так, што ў вокнах выгінае шыбы?..

Вораг не прыдумаў бы знарок
Кары той, што сам сабе я выбраў.

Любая!..
Але паклаўся шлях
Незваротны прад любой мальбою...

Кошка ліжа кроў на кіпцюрах.
Шчэрыць іклы. Дыбіць хвост трубою.

*2003*[40]

## ПАЦАЛУНАК БРЭЖНЕВА

У лютым 1981 г. з Някляевым адбылася гісторыя, якая, як ён сам у той час прызнаваўся, шмат на што ў яго жыцці паўплывала[41] і праз якую, як ён пазней казаў, «не шмат знойдзецца паэтаў, якія выпіць са мной захочуць»[42].

«Набліжаўся чарговы з'езд КПСС. Мяне выклікалі ў Маскву ў ЦК камсамола. "Ты выбраны з усіх паэтаў Савецкага Саюза, каб напісаць прывітанне з'езду ад савецкай моладзі".

Пытацца: "Чаму – я?" – не выпадала. "Дзякуй за гонар". Сапраўды ж: адзін з усіх.

Напісаў і паехаў у Менск. Праз месяц зноў выклікаюць. "Твае вершы зацверджаны ў ЦК КПСС. Ты выбраны з усіх, каб прачытаць з трыбуны з'езда..."

Да канца эпохі Брэжнева і яго паслядоўнікаў, абвешаных зоркамі і анекдотамі, заставалася чатыры гады. Гарбачоў ужо быў сакратаром ЦК. У грамадстве, не для ўсіх заўважны, блукаў прывід таго, што пасля назвалася перабудовай. І ў гэткі час мне чытаць на ўсю краіну: "Плыви, страна, эпохи ледокол!.." [...]

Пайшлі бясконцыя рэпетыцыі... На радыё, тэлебачанні, у Крамлёўскім Палацы з'ездаў... З усіх бакоў гэбісты, загадчыкі цэкоўскіх аддзелаў і сектараў – чалавек сто за гэта адказвала. Я ў соты раз чытаў пра ледакол эпохі – і ў соты раз думаў...

Кожнаму чалавеку дае жыццё шанец на выйгрыш. Некаму – выйграць грошы, некаму – лёс. Калі шанец такі вялікі, дык ён, звычайна, адзін. Але большасць людзей, мяркуючы, што ён не апошні, яго прапускаюць.

Мой шанец выглядаў, як лёс. І ў соты раз падумаўшы, я вырашыў яго не прапусціць: сказаць не пра тую краіну, якая плыве, а пра тую, якая патанае... Расстраляць мяне, прыкінуў, наўрад ці расстраляюць, часы ўсё ж не сталінскія. Канешне, пасадзяць, але шанец таго варты...

Ды адно – падумаць, іншае – зрабіць.

Не змог. Не здолеў.

Не знайшлося ў апошні момант сілы, мужнасці. І не толькі таму, што на крамлёўскую сцэну, якую ў тры шэрагі аточвала ахова, выпусцілі не ў прызначаны час, а гадзіны паўтары пазней, нібы нешта западозрылі. І не таму, што папярэдзілі, каб не надта хваляваўся, чытаючы: усё адно пойдзе фанаграма, запісаная ў студыі на Шабалаўцы. Якая розніца: пачулі б мяне ці не?.. Проста не здолеў, не змог. Не хапіла мяне на гэта. Выйшаў: "Плыви, страна, эпохи ледокол!.." І вяла запляскалі ў далоні Брэжнеў, Суслаў, Гарбачоў...

Я не быў тады (і нават не мысліў, што буду) дысідэнтам, не збіраўся выступаць (беларускі савецкі паэт) супраць савецкай улады. Мяне не задавальнялі ў ёй канкрэтныя асобы і – адпаведна – іх канкрэтныя дзеянні. Гэткай матывацыі аказалася недастаткова, каб з разлікам, запланавана здзейсніць тое, на што здольныя толькі людзі апантаныя. Якія ні на што не разлічваюць.

Шкадаваць пра гэта позна, а прызнацца ў гэтым – не. Хай яно і без патрэбы. Хіба толькі дзеля таго, каб праясніць адну з прычын, па якіх не склаліся ў мяне адносіны з новай беларускай уладай, з Лукашэнкам. Я не мог дапусціць, каб тое, што адбывалася са мной некалі на імперскай сцэне Савецкага Саюза, праз паўжыцця паўтарылася на местачковай сцэне. На ўзроўні фарса. Хоць і на крамлёўскай сцэне была не такая ўжо высокая трагедыя, але ўсё ж...»[43]

В. Дзяменцьеў пісаў не без пафасу: «В Кремлёвском Дворце съездов продолжает работу XXVI съезд партии. [...] Во время одного из заседаний к трибуне выходит худощавый, невысокого роста молодой человек с волевым, открытым лицом. Он читает свои стихи, и в убеждённости его голоса слышится твёрдая вера в единство поколений, в наследие всего самого лучшего, героического и правдивого, что завещано нам отцами. Его имя – Владимир Некляев, белорус, лауреат премии Ленинского комсомола»[44].

Таксама і Я. Юферава, прадстаўляючы Някляева на старонках «Комсомольской правды» ўсесаюзнаму чытачу, падавала гэты факт як найгалоўнейшы ў яго біяграфіі: «Трибуна – рабочее место поэта. Один раз в жизни она стала пьедесталом, на котором от имени советской молодёжи он прочитал 8 звонких, как сталь, строчек делегатам XXVI съезда партии»[45].

Гэтыя «8 звонких, как сталь, строчек» Някляеву ўспаміналі болей, чым паэму пра БАМ. Але асабліва папікалі тым, што цалаваўся з Брэжневым. «Усе графаманы паўскоквалі: "А мы малайцы! Мы з Брэжневым не цалаваліся!" – успамінаў Някляеў. – Невядома было, што яшчэ ім удалося ў жыцці, але вось гэта, не выступіць на з'ездзе і не пацалавацца з Брэжневым – удалося!»[46] І дадаваў: «Это одна из... не знаю, как сформулировать... Ну, я много в чём виноват. В том числе виноват и в том, что целовался с Брежневым»[47].

У гутарцы з філосафам Валянцінам Акудовічам Някляеў казаў: «О том, что принимал участие в создании антуража съезда, я не сожалел и не сожалею. Хотя бы потому, что там на самом малом расстоянии я увидел и почувствовал реальную силу власти, действительно огромной, пугающе беспредельной, сталистоознобной, как североморский ракетный крейсер. Увидел, почувствовал – и ужаснулся её. За тот месяц я прожил столько, сколько иной за жизнь не проживёт»[48].

У іншым інтэрв'ю Някляеў прызнаваў: «Наше поколение интеллигентов нельзя рассматривать без ссылки на советское прошлое. [...] В ту пору творческая интеллигенция играла очень значимую общественную роль – поэты выступали на стадионах, печатались миллионными тиражами, нам всякий раз указывали на нашу значимость...»[49]

І яшчэ на гэтую тэму: «Усё рабілася даволі спрытна – камсамол закідваў сеткі, яны былі вельмі густыя, і калі туды трапляў чалавек з талентам, яго вылаўлівалі і пачыналі падымаць, падымаць...»[50]

Рысу пад гісторыяй пацалунка Някляева з Брэжневым можна, бадай, падвесці словамі вядомага пісьменніка Віктара Казько: «Някляева ўзвялі ў ранг амаль афіцыйнага паэта. Ад імя маладых літаратараў ён агучваў вітанне партыйнаму з'езду, яму пляскалі ў далоні сакратары ЦК КПСС Брэжнеў і Гарбачоў. Што гэта было? Гэта было прызнанне. І як бы мы не адносіліся да савецкага мінулага, – не беспадстаўнае. Тая ўлада ўмела распазнаваць сапраўдны талент і пустое, хаця і звонкае, мілае яе сэрцу графаманства. Умела расстаўляць фігуры па шахматнай дошцы сваёй прасторы. Але Някляеў і ў той час не быў паслухмянай фігурай, якой можна гуляцца. «Як толькі пацягне раскрыцца, расхрыстацца, так згадваецца запавет Канфуцыя: "Ніколі не распавядай пра сябе ні добрага, ні кепскага. У першым выпадку вам не паверáць, у другім – прыўкрасяць"»[51].

## «...ТАМУ І ЦІСНУЦЬ»

У 1985-м у выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла паэтычная кніга Някляева «Наскрозь». Леанід Дранько-Майсюк сведчыў: «Я быў рэдактарам і добра памятаю складаны шлях згаданай кнігі да чытача – былі заўвагі і ад Дзяржаўнага камітэта па друку, і, вядома, ад цэнзурнага камітэта.

Унутрывыдавецкую рэцэнзію напісаў Міхась Стральцоў.

Пасля яму давялося напісаць яшчэ і дадатак да сваёй рэцэнзіі – гэта, каб адбіцца ад новых прыдзірак да някляеўскіх твораў.

З пункту гледжання тагачаснай ідэалогіі кніга "парушала" прызначаныя правілы, таму службоўцаў можна было зразумець.

Міхась Стральцоў іранічна пасміхаўся: "Адчулі, таму і ціснуць..."

Кнігай "Наскрозь" Уладзімір Някляеў развітваўся, сам таго не разумеючы, з

Савецкім Саюзам, з уласнай савецкасцю і пасля такога неспадзяванага развітання надоўга (на адзінаццаць год!) замоўк»[52].

Сапраўды, паўза маўчання была аж занадта вялікай – наступная кніга Някляева выйшла толькі ў 1996-м. Што ж тычыцца ўнутрывыдавецкай рэцэнзіі, дык адзін з найталенавіцейшых беларускіх паэтаў – Міхась Стральцоў – пісаў:

«РЭЦЭНЗІЯ
на рукапіс зборніка вершаў Ул. Някляева “НАСКРОЗЬ”

Здаецца, перасталі гаварыць пра падзел паэтаў на “ціхіх” лірыкаў і адпаведна... на каго? Публіцыстаў у вершах, рацыяналістаў у падыходзе да жыццёвага матэрыялу, халодных эксперыментатараў у слове? І праўда – ці не здымаецца такое супрацьстаўленне самім часам, самім развіццём і паглыбленнем рознанакіраваных паэтычных тэндэнцый, тэмпераментаў – узаемапранікненнем іх?

Ул. Някляеў сярод паэтаў свайго пакалення заўсёды вызначаўся выразнай актыўнасцю грамадзянскай пазіцыі, чуйнасцю да ўсяго новага ў жыцці і самой паэзіі – гэта тычылася і формы, і “тэхналогіі” верша. Часам гэта рабілася з выклікам, часам знарок (ці заўсёды знарок?) спрашчаліся жыццёвыя сувязі, часам выснова была для аўтара значней за сам “доказ” – паэтычны, вядома.

Але пачала заяўляць свае правы і сталасць. Ураўнаважанасць (не за кошт тэмпераменту), цяга да сінтэзу (узбагачэнне сродкаў), да жанравай шматмернасці (пры захаванні стылёвага адзінства).

Такі, дарэчы, Ул. Някляеў у новым зборніку “Наскрозь”.

Наскрозь – дабро і зло,
Цвікамі скрозь далонь.
Хто пойдзе на святло,
Той выйдзе
        на агонь.
Хто пойдзе на імглу –
На попел прыйдзе той.
Наскрозь – дабру і злу –
Адкрыты шлях...
Не стой!

*(“Наскрозь”)*

Дабро і зло – у жыцці, у душах людскіх, выявы дабра і зла супярэчлівыя, як само жыццё, і мера іх – у падключанасці чалавека да гістарычнага і грамадскага вопыту народа, да лёсу чалавецтва наогул.

Мне здаюцца праграмнымі для Някляева такія вершы, як “Рэйсавы аўтобус” і “Варшава, верасень-82”. Сталыя вершы. Прынцыпова значныя не для аднаго Някляева. Вывераныя мерай асабістай адказнасці за ўсё, што дзеецца на свеце, і за ўсё, што для паэта сталася ўжо словам, ягонай справай прафесійнай. У “Варшаве”, напрыклад, знойдзена па-грамадзянску і па-чалавечы дакладная (“далікатная” пры тым) інтанацыя ў гаворцы пра рэчы балючыя і трагічныя – сведчанне паэтычнай і грамадзянскай зноў жа сталасці аўтара. Мне, літаратару, хочацца шчыра павіншаваць калегу з гэтай удачай, важнай не толькі для яго. Для паэзіі наогул.

Сярод вершаў прынцыпова ўдалых назаву яшчэ “На памяць”, “Воблака над школай”, “Роднае”, “Жаўна”, “Пытанне”, “Адказ”.

Цікавым здаецца мне раздзел “балад”, а ў ім – “Кажух” і “ЕС 987 654 320+1 (стэнаграма аднаго эксперымента)”. Пра “Варшаву” я ўжо гаварыў.

Паэма “Гарбун” сведчыць пра здольнасць Ул. Някляева да паэтычнага дзярзання – тэма яе, няпростая сама па сабе, небяспечная магчымасцю зрываў у меладраматызм, чуллівасць, сентыментальную пафаснасць, вырашана аўтарам па-мастацку

строга, пераканаўча. Праўда, першая палова паэмы выглядае трохі расцягнутай, што тым больш адчуваецца пры яе ўнутраным лаканізме. Але, паўтаруся, сама дзерзкасць чаго значыць!

Што можа не задавальняць у зборніку?

Вершы "Волатава гара", "Камень-жальнік", "Браня", паводле жанру баладныя, хоць і не аднесеныя самім аўтарам да балад, трохі нагадваюць манеру рускага паэта Ю. Кузняцова з яго фантастычна-ірацыянальным элементам у той жа баладнай практыцы. Гэта, вядома, не азначае, што гэтыя вершы-балады Ул. Някляева пазбаўлены арыгінальнай вартасці. Проста аўтару пра гэтую пераклічку, магчыма, для яго самога і нечаканую, варта ведаць.

Не пашкодзілі б пэўныя стылістычна-сэнсавыя ўдакладненні вершам "Лістоўка" (занадта "залагарыфмавана"), "Вясна" (сама па сабе кароткая, яна магла б, здаецца, існаваць без першых двух радкоў), "Рыбалка", "На памінках"[53] (мера рызыкоўнасці, пра якую гаварылася ў дачыненні да "Гарбуна", тут не зусім вытрымана, здаецца). Без верша "Гульба"[54] пэўна можна было б і абысціся, бо ён не падтрыманы належным чынам у зборніку – ні тэматычна, ні стылістычна, у сугалоссі.

Вось, бадай, і ўсе "але". Падаю іх не катэгарычна, а як "матэрыял" для аўтарскіх заўваг.

Ул. Някляеў у вершы "Імя"[55] піша:

> Паэт – гэта кожны, хто ўрэшце
> Дакажа: народ – гэта я.

Інакш, мы маем справу са славутай формулай залежнасці грамадзянскага пафасу ад асабістай пераконанасці і ад асабістага душэўнага вопыту, якія дэкляраваў яшчэ Маякоўскі, калі пісаў: "Это было с бойцами или страной, или в сердце было в моём". У нашага аўтара гэта сказана па-свойму, бо спасціжэнне гэтай найгалоўнейшай ісціны, як непазбежнае, так і непаўторна-асабістае.

Міхась Стральцоў»[56].

«Пра "Канцэрт для паэта с аркестрам"
("Наскрозь") Ул. Някляева

Гэта, безумоўна, паэма. Публіцыстычная, страсная, па-грамадзянску пэўная ў сваім сцвярджэнні і адмаўленні. Добра, што паэт пры гэтым вядзе гаворку і пра самое аблічча творцы, прад'яўляючы яму самому найперш высокія патрабаванні сацыяльнай этыкі. Зразумела, што аўтар спрачаецца і з мяшчанскім разуменнем місіі паэта. Зроблена гэта ў яго пераканаўча.

Вядома, асобныя мясціны патрабуюць удакладнення – сэнсавага і стылёвага.

Залішне расцягнутым, трохі нават нейкім надрыўным па інтанацыі здаўся мне "Уступ". Яго, па-мойму, трэба скараціць. Ён неяк не надта пасуе да тону наступных раздзелаў, вытрыманых у зграбна-іранічнай, і, аднак жа, публіцыстычнай манеры.

Ёсць мясціны, якія варта апусціць ці выправіць і ў некаторых іншых раздзелах. Ёсць іншыя заўвагі – стылістычныя, сэнсавыя, а таксама тыя, што тычаць проста літаратурнага густу – дзе-нідзе ён здраджвае патрабавальнаму аўтару.

А наогул – паэма ўдалася, яе варта ўключыць у кнігу.

М. Стральцоў

11.02.85»[57].

Да таго ж вядома яшчэ адна рэцэнзія Стральцова, ужо выключна літаратуразнаўчая, – «Вузельчыкі на памяць», – гаворка ў якой ішла ў тым ліку і пра аўтара кнігі «Наскрозь»: «Уладзіміра Някляева сярод паэтаў ягонага пакалення

заўжды вылучала пэўна заяўленая актыўнасць грамадзянскай пазіцыі, арыентацыя на тыя жыццёвыя і паэтычныя з'явы, якія так ці інакш мелі адзнаку навізны і надзённай цікавасці. Яму не чужая была і "гучнасць" самога вобраза пры пэўнай яго рытмічнай узбуранасці і жорсткасці (акрамя рускага А. Вазнясенскага, ён меў прад сабой прыклад нашага Р. Барадуліна), і разам з тым яго прываблівае прыклад Купалавай высокай прастаты, першаснай нейкай эмацыянальнасці, што, здавалася, прыродна ўласціва і самому беларускаму слову.

Ёсць у Някляева ў кнізе "Знак аховы" і яшчэ сёе-тое. Варта працытаваць:

Наскрозь – дабро і зло,
Цвікамі скрозь далонь.
Хто пойдзе на святло,
Той выйдзе на агонь і г.д.

Бадай, не памылюся, калі пакажу тут на інтанацыю і вобразны ход думкі ў Ю. Кузняцова.

Наогул, сучасны паэт (нават і не пачатковец) менш за ўсё застрахаваны ад скразнякоў чужых уплываў. І часцей за ўсё ён не баіцца, нават з выклікам не баіцца падхапіць на іх "прастуду" – шчыра спадзяецца на сілу свайго паэтычнага "імунітэту". Так і я не баюся прыцішыць творчую арыгінальнасць У. Някляева спасылкай на нечыя імёны, тым больш, што спасылка гэтая на паэтаў "няпростых" паводле фармальных і светапоглядных адзнак па-свойму павінна рабіць нават гонар нашаму паэту.

Але больш істотны для аўтара, вядома, Купала. Гэта наогул тыпова для сучаснай маладой беларускай паэзіі: самы вынаходлівы фармальны пошук і – Купала з ягонымі сакрэтамі першаснай, неадменнай, як агонь і вада, паэзіі. Тут зноў жа прысутнічае думка пра сінтэз – думка не аднаго Някляева.

Дарогу ўздымала гара,
І там, дзе дарога знікала,
Над вечнай вадою Дняпра
Стаяў нерухома Купала.
("Ляўкі")

У іншым месцы ("Словы замовы") ён выкажа гэта яшчэ больш пэўна:

Колас,
Купала...
У гуках імён іх люлянку я чую,
Якую матуля калісь
    над калыскай маёю спявала...

Але ўсё гэта не замінае У. Някляеву, а, наадварот, можа, намагае быць самім сабой, упарта весці ў лепшых сваіх вершах уласную тэму і інтанацыю».

Разам з тым Міхась Стральцоў адзначаў, што яму «ніякім чынам не абмінуць Някляева, умоўна кажучы, публіцыста». На яго думку, «паэтычнае заўтра» Някляева залежыць ад таго, каб ён «зрабіў яшчэ нейкі высілак» і дапусціў «у сам верш, паэмны ці яшчэ які, у самую ягоную інтанацыю і фактуру ўсё той жа "глебы"» – «"ціхмянасць" і "гучнасць" павінны прыйсці да згоды». «Магчыма, я памыляюся, – заключаў М. Стральцоў. – Але не сказаць пра гэта не магу аўтару, якога паважаю і ў шчырасць пошуку якога веру»[58].

Праз кароткі час лёс зноў звёў два гэтыя імя – Стральцова і Някляева: праз тры гады за кнігу «Наскрозь» аўтар быў вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР, яго кандыдатура трапіла ў спіс для тайнага галасавання падчас пасяджэння прэзідыума СП БССР 14 студзеня 1988 г.[59] і ў выніку была падтрымана

разам з іншымі літаратарамі – Вячаславам Адамчыкам, Анатолем Вярцінскім, Мікалаем Матукоўскім і – Міхасём Стральцовым[60]. Аднак не лёс – «адметныя сцяжыны», як пісала Л. Гарэлік у рэцэнзіі на кнігу «Наскрозь»[61], не прывялі паэта да яшчэ адной прэміі. Але рызыкнём выказаць меркаванне, што Някляеву не было крыўдна, бо Дзяржаўную прэмію БССР імя Я. Купалы аддалі тады Міхасю Стральцову. Аддалі пасмяротна.

...Пройдзе два дзесяцігоддзі, і Някляеў сам заснуе літаратурную прэмію – для студэнтаў Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта. Прэмію імя Міхася Стральцова.

## СТРАЛЬЦОЎ

«– З Міхасём Стральцовым, як і з многімі іншымі славутымі ў той час паэтамі, я пазнаёміўся ў доме творчасці “Каралішчавічы”, дзе ўсе рабілі выгляд, быццам нешта пісалі, хоць пісалі там зусім нямногія – большасць прыязджала выпіць і адпачыць. Прыехаў і Стральцоў, яго пасялілі ў адным з двух самых вялікіх пакояў, што былі на першым паверсе, – якраз у адным з тых, дзе звычайна жыў Якуб Колас. Так мы апынуліся з ім разам у тым Доме творчасці. І ў той час, як большасць, выпіваючы, плявузгала абы што, мы сядалі з ім наверсе – пад карцінай, на якой было намалявана дзесяць ці дванаццаць савецкіх пісьменнікаў (Гарэцкі, Чорны, Бядуля...), і ладзілі спаборніцтва: хто напамяць дачытае верш, які прапануе яму суразмоўнік – верш ці то Купалы, ці то Багдановіча... Шчыра кажучы, я кожнага разу думаў, што, паколькі Міхась Лявонавіч быў нападпітку, дык я лёгка яго перамагу. Але ніводнага разу мне гэта не ўдалося, таму што ў Стральцова былі ўнікальныя эрудыцыя і памяць. І да таго ж – розум, на які алкаголь ніякага ўздзеяння яшчэ не зрабіў...

Так прамінуў амаль месяц. Ужо не помню, хто з маіх сяброў прыехаў, каб забраць мяне з Каралішчавічаў, на машыне. І якраз ідзе па сцяжыне Стральцоў. Кажу яму, што еду ў Мінск, і прапаную падвезці, бо ён таксама збіраўся дахаты. “Добра, – ківае ён. – Падвязі”. “Тады, – кажу, – збірайцеся...” – і падымаюся ў свой пакой на другі паверх, каб забраць рэчы. Спускаюся ўніз – Стральцоў ужо ў машыне. Пакуль я падымаўся-спускаўся, прайшло хвіліны паўтары – ён не мог так хутка сабрацца. Сядзіць. Маўчыць. У лес глядзіць. “Задумаўся пра нешта чалавек?” – вырашыў я і, сеўшы ў машыну, стаў чакаць, пакуль ён выйдзе з задумення. Чакаю пяць, дзесяць хвілін... пятнаццаць... Нарэшце ён пытае:

– А чаго стаім?

– Вас, Міхась Лявонавіч, чакаем.

– Дык я тут.

– Але ж не сабраліся...

– Я сабраўся, – кажа Стральцоў і дастае зубную шчотку і расчоску – усё сваё, што ён насіў з сабой.

– Чакайце... – разгубіўся я. – Ну, добра, няма ў Вас адзежы, абутку, але тое, што Вы тут напісалі, дзе яно?

– А чаму ты вырашыў, што я тут нешта напісаў?

– Усе сюды прыязджаюць, каб нешта напісаць...

– Тады, – кажа, – ты не зусім зразумеў, што ў нас тут адбывалася.

– А што, – пытаю, – адбывалася?

– А тое... Я для чаго з табой начамі не спаў, вершы геніяльных паэтаў чытаў – беларускіх, рускіх, французскіх? Каб паказаць табе, што ўсё ўжо напісана – не намагайся. Вазьмі з сабой зубную шчотку, расчоску, хадзі, дыхай свежым паветрам і чытай вершы, лепшыя за якія мы з табой наўрад ці напішам.

– Калі так, – кажу, – тады паехалі...

Калі мы сустрэліся са Стральцовым у Каралішчавічах наступным разам, ён

ужо моцна выпіваў, што мяне дужа непакоіла. Калі б графаман які, дык няхай бы, але графаманы звычайна не п'юць. Ім няма калі, яны нішуць, пішуць, пішуць... А тут Стральцоў... Са Сцяпанам Гаўрусёвым на пару яны адзначалі святы жыцця. Кожны дзень – свята. Абодва ж таленавітыя, чэрці... Шкада. Дык я што прыдумаў? Аднойчы зачыніў Стральцова ў пакоі на ключ, каб не "святкаваў", а пісаў. Са сталовай прынёс паесці, а ён у фортку насустрач мне прагаўкаў. Адзін толькі раз: "Гаў!.." І тым самым усё мне пра мяне сказаў. Мяне на плямы пабіла – гэтак сорамна стала. Адамкнуў пакой і ключ на цвічок павесіў...

Пазней ён у так званы ЛТП патрапіў. Гэта была, па сутнасці, драма... Я помніў пра ягонае "гаў!" і пастанавіў у лёс ягоны болей не лезці. Дасюль сябе за гэта дакараю. Ён быў старэйшы за мяне, я не быў ягоным сябрам, думаў: буду замінаць яму, ці некаму там замінаць... Пасля аказалася, што ездзіў да яго ў той ЛТП, вазіў яму нешта, найперш тытунь, бо Стральцоў зацята смаліў, адзін Леанід Дранько-Майсюк. Яшчэ Ала Сямёнава... І болей ніхто. Ніводны з тых, хто пры жыцці і па смерці называў сябе ягоным сябрам, у той найсмутны для Стральцова час да яго не зазірнуў... Кнігі пісалі – не было калі.

Між іншым, у яго была шыкоўная бібліятэка – у ёй не было нічога выпадковага, ніякага "смецця". З гэтай бібліятэкі Стральцоў падараваў мне "Толковый словарь живаго великорусского языка" Даля. Увесь расцярэблены, ён і цяпер у мяне ёсць – чатыры тамы. Мы доўга сядзелі з Міхасём Лявонавічам, гартаючы гэты слоўнік, і ён паказаў мне процьму слоў, якія захаваліся на сённяшні дзень толькі ў беларускай мове, у рускай іх нямашака. Ці ёсць, але не ўжываюцца. Значыць, ці сам Даль, ці карэспандэнты ягоныя збіралі гэтыя словы на нашай, беларускай зямлі. І Стральцоў, кажучы пра гэта, дужа засмучаўся, што ў дужках не пазначана ў слоўніку: "беларускае". І прапаноўваў слоўнік перавыдаць у адпаведнасці, як ён казаў, са статусам акадэмічнага выдання. «Павінна, – казаў ён, – павінна быць у дужках: "беларускае", "беларускае"...» Але з беларускім – у дужках і без дужак – і сёння кепскавата. Нават у Беларусі няма ў беларускага адпаведнага статусу...

Але ў Міхася Стральцова статус ёсць. І аўтарытэт. Не толькі літаратурны, але і маральны. Ён адзін з нямногіх – гэтаксама, як Караткевіч, – каго няма ў чым папракнуць. Не ў побыце, не ў тым, што выпівалі, а ў творча-чалавечым, калі можна гэтак сказаць, жыцці, якое яны пражылі бездакорна. Гэта вызначальныя постаці ў нашай літаратуры. Знакавыя»[62].

* * *

*Міхасю Стральцову*

Восень. Сівізна ды пазалота.
Веерам раскінецца лістота.
Змеценая ветрам да акна.
Адзінота, друг мой, адзінота.
Налівай віна.

Сядзем. Памаўчым ды пагаворым.
Дзякуй Богу, тут ніхто не хворы
І няма пытання: піць ці не?
Апрыёры, друг мой, апрыёры:
Ісціна ў віне.

Хараша сядзім. І п'ём са смакам.
За сцяной сусветнага барака
Вые недарэзаны сабака
У глухія, шэрыя палі.

А на шклянках – знакі задыяка,
Вершы па кутах – хоць печ палі.

Будзь.
Як той казаў:
Хай скажуць дзякуй
нам, што мы пілі.

*1986*[63]

І зноў з Някляева: «– У нечым знакавым сталася для мяне і пахаванне Міхася Стральцова. Менавіта ў дзень развітання з ім Генадзь Бураўкін і Рыгор Барадулін узялі з мяне слова, што я ўсё зраблю, каб часопіс "Крыніца", пра стварэнне якога ўжо ўсе ведалі, не патрапіў, як яны казалі, "у чужыя рукі". Тады даволі багата было ахвочых узначаліць новае выданне – і мне не надта хацелася лезці ў кагал... Барадулін сказаў: "Лічы, што з намі Міхась, і мы ўтрох пастанавілі: трэба!" Супраць трох не папрэш... Мы яшчэ пагаварылі, што ды як, і я згадзіўся. "Клясціся, – сказаў, – не буду, але паспрабую зрабіць так, як мы тут, над гэтай магілай, дамовіліся". Не ўсё, канечне, удалося, але спадзяюся, што за "Крыніцу" Стральцоў на мяне не наракае. Зрэшты, спаткаемся – скажа»[64].

## РЭДАКТАР

«Новы час, новыя павевы паэт Уладзімір Някляеў адчуў і чыста эмпірычна, і, так бы мовіць, арганізацыйна. Ён у 1987 годзе становіцца ініцыятарам стварэння маладзёжнага часопіса "Крыніца" і яго галоўным рэдактарам»[65]. Але часопісы ствараюцца не за адзін дзень: восенню 1986-га Някляева выклікалі ў Маскву ў ЦК камсамола, вясной 1987-га – у ЦК КПБ да тагачаснага першага сакратара Яфрэма Сакалова[66], урэшце новаму часопісу далі зялёнае святло. Някляеў тлумачыў на старонках першага нумара «Крыніцы», чаму ён узяўся за стварэнне новага часопіса. «Калі я пытаюся ў сваёй дачкі: "Што ты любіш больш за ўсё ў свеце?" – яна адказвае: "Усё, што ў свеце ёсць". Шчаслівая, яна пакуль не ведае, што можна ў гэтым свеце надта моцна нешта не любіць.

Вызнаючы любоў, я не баюся нянавісці: гэта жывыя рухі душы. Раўнадушша – мёртвае. Менавіта яно ператварае пачуцці ў звычкі, а ідэі – у догмы.

Я вельмі моцна не люблю звычкі і догмы, а таксама іх носьбітаў – людзей з адубелай душой і закасцянелымі мазгамі. Таму я з моладдзю і за моладзь. Як за надзею руху.

Таму, узважыўшы ўсе "за" і "супраць", я і прыйшоў працаваць у маладзёжны часопіс»[67].

У архівах Саюза пісьменнікаў захавалася стэнаграма абмеркавання першых нумароў «Крыніцы»[68]. Адкрываючы 22 лістапада 1988 г. тое пашыранае паседжанне праўлення СП, першы сакратар Ніл Гілевіч казаў: «Справа ў тым, што пачаў выходзіць новы часопіс, які, як той асілак, расце не па днях, а па гадзінах у сэнсе тыражу, вядомасці. Наш агульны клопат, каб гэты часопіс паставіць

*Галоўны рэдактар часопіса «Крыніца», 1988.*

на службу нашай літаратуры, культуры, выхаванню моладзі. Часопіс “Крыніца” пачаў жыць. І гэтую сваю місію выконвае. І нам трэба паспрыяць, каб гэтую місію выконваў ён яшчэ лепш». З уступным словам выступіў тады галоўны рэдактар «Крыніцы»: «Задача наша простая – быць часопісам моладзі і для моладзі. Як паказала практыка, у рэспубліцы не хапае перыядычных выданняў для моладзі і спецыяльных выданняў па музыцы і спорту. Вось і даводзіцца нам, як кажуць, і скакаць, і на дудзе граць. У нас справы не такія ўжо і дрэнныя. Мы атрымалі вынікі падпіскі на наступны год. Абодва наклады павялічыліся ў тры разы. Беларускамоўнага выдання было 3 тысячы, а зараз 9 тысяч[69], рускамоўнага – са 100 тысяч павялічылася да 300. І гэта адлюстроўвае рэальнае становішча, якое існуе. Падпісаліся людзі, якія будуць і хочуць чытаць па-беларуску, падпісаліся без прынукі».

Вось гэтае пытанне – двухмоўя «Крыніцы» – і стала падчас абмеркавання найбольш істотным. Так, Яўген Лецка казаў: «Людзі выказваюцца за тое, каб Беларусь была беларускай, а мова атрымала дзяржаўныя правы. Вось памятаю адзін ліст, дзе малады чалавек піша: “Ці ж я вінаваты, што нават ліст у рэдакцыю не магу напісаць па-беларуску?” І тут, лічу, часопіс можа аказаць дапамогу. Але ці на поўную моц ён робіць гэта? Мне здаецца, што не. Часам часопіс стварае “трасянку”. Думаю, арыентавацца патрэбна не толькі на павелічэнне тыражу, а на павелічэнне сур’ёзных падпісчыкаў, якія складаюць актыў часопіса і нашай моладзі». «...Я думаў, што знайду пацверджанне сваім спадзяванням, якія ў мяне ўзніклі, як толькі пачаў выходзіць часопіс. І што ж? – працягваў тэму Уладзімір Калеснік. – Аказваецца, на беларускай мове большасць не выпісваюць часопіс. Я думаў, што беларускамоўная падпіска будзе тысяч 30. Але калі застаецца толькі 9 тысяч, то гэта ж катастрофа. Гэта бяда. А мы задаволены. Рэдакцыі патрэбна думаць, больш арыентавацца на нацыянальнае і патрыятычнае выхаванне моладзі. Трэба даваць такія матэрыялы, якія развівалі б пачуццё нацыянальнай годнасці чалавека, развівалі б культуру, этыку». Той жа думкі быў і Барыс Сачанка: «Мне здаецца, што мы вельмі многа праігрываем, калі тая ж газета “Советская Белоруссия” зусім нічога не друкуе па-беларуску. Патрэбна шукаць, у тым ліку і “Роднику” даваць матэрыялы некаторыя па-беларуску». («Да вайны нават “Правда” друкавала вершы на беларускай мове», – заўважаў Максім Танк.) Аднак Анатоль Сідарэвіч парыраваў: «Падпіска на часопіс паказвае аб’ектыўную карціну, якая існуе ў нашым жыцці, і нікуды ад гэтага не дзенешся». Між тым Карлас Шэрман, адзначаючы, што «дзевяць тысяч экзэмпляраў на беларускай мове – гэта балюча», выказаў меркаванне, што ў наступным годзе частка чытачоў рускамоўнай «Крыніцы» будзе «выпісваць ужо беларускамоўны часопіс». Але Янка Брыль палічыў яго аптымізм беспадстаўным: «Мне гэта ўся гісторыя з рускамоўным і беларускамоўным варыянтам нагадвае тое ж самае, што са школай: спачатку трэба было закрыць школы, а потым адкрыць класы. Я ўспамінаю, як было з часопісам “Маладосць”. Спачатку нам дазволілі тыраж 20 тысяч, а падпіска была 24 тысячы, і потым давялося дадрукоўваць. Тое ж самае было б, калі б часопіс “Крыніца” выходзіў толькі на беларускай мове. [...] Вельмі цяжка зрабіць справу паўмерамі. Рэдакцыя пастаўлена ў вельмі складаныя ўмовы. Перакладаць на беларускую мову рускі матэрыял ці наадварот – вельмі складана. І трэба яшчэ дзівіцца, як у іх яшчэ хапае пораху працаваць. І я не падзяляю аптымізму К. Шэрмана, што на наступны год карціна зменіцца. Такога не будзе».

Што тычыцца далейшай гісторыі «Крыніцы», дык крытык Ала Сямёнава пісала: «Уладзімір Някляеў выкарыстоўвае магчымасці наноў адкрытага выдання, магчымасці часоў перабудовы, абвешчанай галоснасці. Набірае штат, на які мала хто рызыкнуў бы на тую пару, запрашае аўтараў, якіх не ўсе кідаліся друкаваць.

Сярод супрацоўнікаў часопіса – Анатоль Сідарэвіч, з яго энцыклапедычнымі

ведамі і літаратурным талентам, Леанід Екель і Міхась Кацюшэнка – з іх трывалай адміністрацыйна-наменклатурнай загартоўкай, і – “тутэйшыя” і “нетутэйшыя” літаратары “новай хвалі”: Алесь Асташонак, Адам Глобус... Сярод аўтараў – больш прадстаўнікі прыгожага пісьменства той самай “новай хвалі”: Уладзімір Арлоў, Сяргей Дубавец, Пятро Васючэнка, Анатоль Сыс, Уладзімір Сцяпан... У кожнага – свой характар, свой гонар – зайздросная самапавага. Не Ноеў каўчэг, але, скажу вам, э-кі-паж...

На старонках часопіса з’яўляюцца і сур’ёзныя, а часам эпатуючыя артыкулы, і гарэзлівая інфармацыя, проза і паэзія, што сведчылі адначасова аб замаху і на геральдычную адзнаку “духоўнага пралетарыяту” (Б. Пастарнак), і на ролю выбраннікаў рамяства. Эгацэнтрысты і прэтэндэнты на духоўнае ратаванне нацыі, эксцэнтрыкі думкі і акрабаты формы – аўтары “Крыніцы” зрабілі яго стракатым, пазнавальным, будзіруючым, папулярным сярод пэўных колаў. Але ўсё гэта трэба было сабраць, узяць на сябе рызыку, дабіцца на ўсё дазволу, адстаяць – яшчэ была цэнзура[70], былі шматлікія кіруючыя і назіраючыя арганізацыі, дзе галоўнаму рэдактару Уладзіміру Някляеву даводзілася аспрэчваць, адстойваць, пераконваць. Роля для яго была новай, але ён бліскуча яе выконваў. Часопіс – той – застаўся ў летапісе беларускага друку. І – па сутнасці страціў свой першапачатковы кірунак праз некалькі год. Можа, не вытрымаўшы цяжару самапавагі супрацоўнікаў і аўтараў, можа, таму, што час даў шырокія творчыя, арганізцыйныя і камерцыйныя магчымасці, і многія вырашылі выкарыстаць іх незалежна ад часопіса “Крыніца”. Кожны развітваўся з той мерай разумення літаратурнага этыкету, якая была яму ўласцівая. [...]

І вось недзе на пачатку 94-га года пачалі хадзіць чуткі – “Крыніца” ўзнаўляецца ў новым выглядзе[71]. Часопіс не пераставаў выходзіць, і перафармаваць яго, як кажуць, “на хаду”, было, мабыць, нялёгка. Але зноў – набраць штат – гэтым разам з высокім, сталым літаратурным рэнамэ, аднак з не меншай самапавагай да сябе ў кожнага, узяць столькі літаратурных сапернікаў: на гэта мала хто рызыкнуў бы. Асабліва калі згадаць кепікі-жарцікі далёка не бяскрыўднага кшталту некаторых з яго нядаўніх калег. Аднак Уладзімір Някляеў – рызыкнуў! І даў ім магчымасць ажыццяўляць свае ідэі, друкавацца, выяўляць сваю творчую асобу. Беларуская перыёдыка ведала бліскучы склад рэдакцый, новая “Крыніца” – безумоўна, явіла сабою сузор’е імёнаў: сам Уладзімір Някляеў, Алесь Разанаў, Валянцін Акудовіч, Уладзімір Арлоў, Алесь Асташонак, Леанід Дранько-Майсюк, Юрась Залоска. Пайшлі з рэдакцыі Алесь Асташонак і Юрась Залоска – з’явіўся Леанід Галубовіч.

Новая “Крыніца” іншага кірунку, але з захаваннем – больш літаратурна і эстэтычна забяспечаным – арыентацыі на новыя павевы ў беларускай літаратуры, на тыя творчыя эксперыменты ў прозе і паэзіі, калі сыходзяцца філасофскі розум і пісьменніцкая фантазія, а часовае ўсяляк імкнецца перастварыцца ў вечнае»[72].

Някляеў пісаў у першым нумары новай «Крыніцы»:

«Адчуванне, што літаратура сталася марнай, непатрэбнай нават самой сабе, – наўрад ці ў мяне аднаго.

Не ў аднаго мяне асцярога, што ўжо зараз літаратурныя выданні ахопліваюць спусцелую прастору. А тут яшчэ адзін часопіс, фактычна новы, бо “Крыніца” – толькі знаёмая назва, намінальны знак, які, Бог дасць, зменіцца на сутнасны.

Дзеля чаго?

Асабіста – дзеля таго, каб тое, чым жывеш, хоць вектарна супадала з тым, што робіш; каб займелася воля адольваць марнасць і пустату. Жыць, звыкаючыся з імі, немагчыма, калі літаратура – спосаб існавання.

Ён аказаўся не з найлепшых – у цьмяным часе на скамечанай прасторы. У папярэднікаў прастора існавання звузілася да страты, у наступнікаў – да безвыходнасці. Зноўку, як фантом, як міраж у пустэчы, паўстаюць гістарычныя мэты

і задачы, але ўжо ведаеш, што гісторыя не мае мэты. Ёсць толькі гістарычны кантэкст, цьмянасці, шыфры і згадкі якога ўдакладняюцца найперш літаратурай. Так наканавана, гэткае ў нас светапачуванне, стан. Можна вагацца, добра яно ці не, але мы – вярбальная нацыя, нацыя Слова.

Не названых нас няма. Цяпер, як раней у летапісах, пазней у "Нашай Ніве" і "Узвышшы", мусім назваць і назвацца.

Менавіта ў відавочнай незапоўненасці нішы "ўзвышэнства" – задума ўзнаўлення часопіса. [...]

У падмурку задумы новай "Крыніцы" – актуалізацыя спадчыны ў повязі з сённяшнім літаратурным жыццём, без чаго тэксты беларускай літаратуры ёсць і застануцца глуханямымі, неасэнсаванымі і незасвоенымі. Раскіданае павінна сабрацца, разрозненае – прыйсці ў сістэму. Тады і ўваскрэснуць постаці. [...]

Праз тэкст і постаць – шлях у кантэкст еўрапейскай літаратуры, адначасовы з увядзеннем яе здабыткаў у свой, нацыянальны кантэкст. Гэта двуадзіны шлях, аднародны працэс, ён адбываецца як арганічная жыццядзейнасць літаратуры. Сваю частку шляху мы і паспрабуем прайсці. З тымі, каму па дарозе»[73].

Пазней Някляеў распавядаў, навошта яму была патрэбна тая новая-старая «Крыніца»: «...Рускамоўны "Родник" мы давялі да неверагоднага накладу – паўмільёна асобнікаў! У нас былі камерцыйныя прадпрыемствы, мы зараблялі грошы. Пасля тыя людзі, з якімі мы пачыналі выдаваць часопіс, пайшлі на павышэнне. "Родник" быў раскручаны, і на яго інерцыі, як на добрай машыне, можна было б каціцца далей практычна без праблем. І ніхто, дарэчы, не ткнуў бы ў мяне пальцам: маўляў, а чаму ты гэта робіш?! Я мог бы прывесці жалезны аргумент: я – рускі (паколькі ў мяне бацька рускі). Але гэта быў бы "сучизм", бо ўсё ж я – беларус. Таму й пачаў збіраць новую рэдакцыю – тую, якую ўрэшце сабраў. І сёння пра тое не шкадую. Лічу, што ў патрэбны час і ў патрэбным месцы было сабрана ўсё найлепшае, што на той момант, па маім меркаванні, мелася ў нашай літаратуры. Хоць мяне папярэджвалі: "Не цягні ў рэдакцыю тых, хто заўсёды будзе лічыць, што ў іх большы талент, чым у цябе! Ты – кіраўнік. І для працы набірай тых, хто будзе не шапкамі з табой мерацца, а падначальвацца!" Канечне, можна было б каціцца і ў адным толькі "рускім вагоне", але... мне гэта было ўжо нецікава»[74].

Пачынаючы з 1996 г., Някляеў быў галоўным рэдактарам не толькі «Крыніцы», але і штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва»[75]. Да таго ж была прапанова, якая сыходзіла ад старшыні Дзяржкамдруку Уладзіміра Бельскага, узначаліць яшчэ і выдавецтва «Мастацкая літаратура». Але на гэта Някляеў ужо не згадзіўся: паводле ягоных словаў, яму і два рэдактарскія крэслы ў чатыры разы ўскладнілі жыццё – найперш праз адносіны з літаратарамі, бо шмат хто з іх палічыў, што Някляеў есць чужы хлеб, а калі дакладней, дык – іхні хлеб[76].

*(Працяг будзе)*

---

[1] Уладзімір Някляеў: Для мяне галоўнае – чалавек... / інт. А. Аўруціна // Служба быту Беларусі. 1982. № 3. С. 21.

[2] З гутаркі аўтара кнігі з У. Някляевым. Кастрычнік 2000 г.

[3] Някляеў распавядаў пра гісторыю з'яўлення твора: «Поэма о БАМе претерпела большую трансформацию. Не надо думать, что она родилась на одном дыхании и так далее. Впервые я её начал писать много лет назад в Благовещенске. Напротив за рекой лежала чужая земля. Мне пришлось бывать на пограничных заставах, видеть различный кино- и фотоматериал. Лицом к лицу столкнулся с поколением, воспитанным "культурной революцией", поколением одураченным, жестоким, циничным. Поэма моя так и начиналась с этих благовещенских впечатлений. Но потом я от всего этого отказался, ибо у меня к тому времени скопились бамовские наблюдения, я не раз побывал на стройке» (Дементьев В. Пламя поэзии: советская литература 70-х годов: новые имена. М.: Молодая гвардия, 1982. С. 49; упершыню: Дементьев В. «Положись, Отчизна, на нас...»: о творчестве молодого белорусского поэта Владимира Некляева // Молодая гвардия. 1981. № 10).

Аднак жа і сястры – не лягчэй. Пасля няўдалай спробы паступіць на філфак БДУ апынулася яна на Мінскім заводзе медпрэпаратаў, тры дзясяткі з гакам гадоў глытала там пеніцылінавы пыл, каб у рэшце рэшт пайсці адтуль на славуты савецкі “заслужаны адпачынак”. Лёс быў да яе не спагадны. Доўгі час не надаралася выпадку выйсці замуж. У выніку атрымала ад завода, калі ўжо было пад сорак, не кватэру, а пакой на агульнай кухні. Урэшце знайшоўся і чалавек. Сышліся. Шляхам абменаў займелі паблізу старога аэрапорта малюпасенькую трохпакаёвую кватэрку-распашонку – на траіх: забралі да сябе ягоную маці, а сестрыну свякруху. Жылі, працавалі: яна – на тэтрацыклінавым канвееры, ён – электрыкам-ліфцёрам. І гэтак – да пенсій. Пахавалі маці. Пенсіі – мізэрныя, ледзь зводзілі канцы з канцамі. Сястра налаўчылася эканоміць на ўсім, толькі не на дабрыні. Памятала (і сёння памятае) пра ўсіх: братоў, сясцёр, пляменнікаў, унукаў і праўнукаў – не сваіх, вядома. Кожнага не забудзе павіншаваць з днём нараджэння, да кожнага ў патрэбную хвіліну прыбяжыць на падмогу, бы тая курачка з вядром. Братавая, ужо нябожчыца, Ніна Іванаўна гэтак яе і звала: “Наша курачка з вядром”.

Каб мець на старасць хоць якую капейчыну, рашыліся сваю распашонку прадаць-абмяняць на аднапакаёўку. Пашчасціла: варыянт надарыўся досыць выйгрышны, можна было б трошкі і акрыяць. Ды Лявон яе новую хату не паспеў як след і абжыць – памёр ад цырозу печані. Той доларавы выйгрыш ад абмену пайшоў на пахаванне ды на помнік. Толькі пасля гэтага і дайшлі ў сястры рукі да таго, каб хоць збольшага давесці да ладу сваё апошняе (на гэтым свеце, канечне) і зноў “халасцяцкае”, а папраўдзе ўдовінае жытло. Вось я і зазірнуў паглядзець, што паспела зрабіць там сястра – саматугам і з падмогай нашага наймалодшага брата Алеся і пляменнікаў.

І от жа дзіўнае адчуванне! Час ляціць імкліва, за годам год, не паспяваеш азірнуцца, як спяваў Высоцкі, нічога, бадай, сапраўды няма з таго, што раньш было, тых самых мінскіх вуліц проста не пазнаць – такія велізарныя змены адбыліся. А ў сестрынай кватэры ці не ўсё сведчыла пра нязменнасць часу: ён тут быццам запыніўся і застаўся такім, якім быў і трыццаць гадоў назад. Не, не, сястра пастаралася, як магла, і навяла добры-такі марафет у сваёй аднапакаёўцы: паклеіла светлымі, амаль белымі шпалерамі сцены, у тым ліку і ў маленечкім вузенькім калідорчыку, паднавіла столь, пафарбавала дзверы, вокны і падлогу. Стаялі ў пакоі новая канапа, купленая ў складчыну пляменнікамі, і новы аднаспальны ложак, накрыты пушыстым мяккім пледам-пакрывалам. Гожа дапаўнялі “мэбліроўку” дзве высокія шафкі-камоды з антрэсолямі, пакрытыя гіпсавай (а мо драўлянай?) разьбою, пакінутыя сястры ў спадчыну (прададзеныя за сімвалічныя грошы) былым гаспадаром кватэркі. Пад столлю вісела крышталёвая, па ўсім, люстра. Было ў хаце чысценька і святочна, як зазвычай бывае ў жытле адзінокай жанчыны.

Сярод розных карцінак, вышываных ці набіваных сястрою ўласнаручна, угледзеў і падораную мною калісьці, да нейкага ейнага дня нараджэння, кітайскую маляванку на шоўку ў металёвым абкладзе, і сястра Святлана Сымонаўна не прамінула пракаментаваць:

– Трошкі паблякла, але ўсё роўна прыгожая. Я ўжо ў трэцюю кватэру яе перавожу. Мае ўсе дзеўкі заўсёды пыталіся: хто гэта табе падарыў...

І нечакана нагадала-успомніла:

– А тваю канапу сюды за сабой не пацягнула ўжо, дайшла, лепш новую купіць, чым рамантаваць: даражэй будзе. А крэслы прывезла. Вунь, бачыш, адно, а другое на балконе. Алесь іх трошкі абнавіў...

Але, але, перабіраючыся калісьці з жонкаю і нашым першынцам у большую, двухпакаёвую кватэрку, я “сплавіў” сястры свой стары “мяккі куток”, кухонны буфецік ды саратаўскі малюпасенькі халадзільнік першага ці другога выпуску.

Гэтая згадка нечакана спарадзіла ў душы тугу – найперш настальгічную, па старым "добрым" часе, калі ўсе мы, у тым ліку і я з сястрой, былі маладыя і "замахваліся" жыць доўга і шчасліва. Але падкочвалася пад грудзі і туга іншая – няўцешная, роспачлівая. Бедненька ўсё ж выглядае сестрыно жытло. Не тое што аніякае золата ніадкуль не блішчыць – літаральна ўсё, ад падлогі да столі, у пакоі, на куханьцы, у месцы сумешчаных выгод сведчыла акурат аб гэтай самай беднасці. Не нажыла сястра за сваё ўжо немалое жыццё аніякіх скарбаў, як бальшыня з нас, колішніх простых і сумленных савецкіх людзей, прывучаных думаць і дбаць найперш аб радзіме, а не аб сабе. Хто з нас думаў, што пад старасць, у старасці апынемся ў становішчы дажывалак? Варухнулася ў душы пачуццё шкадобы да сястры і да самога сябе таксама.

Прагнаў я прэч гэтае пачуццё шкадобы, нават нейкае нечаканае прыгнечанасці. Прыйшоў жа я сюды парадавацца за сястру, паглядзець, як яна ўрэшце ўладкавалася тут цяпер, калі не стала яе Лявона. А падставы акурат парадавацца былі на відавоку. Сама па сабе кватэрка досыць утульная, зручная, з балконам-лоджыяй, і, як на адну душу, дык і прасторная, у дадатак да гэтага – побач з аўтобусным прыпынкам і ўсяго за нейкіх метраў трыста ад метро. Тым не менш сястра, паказваючы мне – з непрыхаванай радасцю – свае абноўленыя "апартаменты", гаварыла пра тое ж, пра што думаў і я:

– Ой, Колечка, дай Бог, як кажуць, пажыць мне тут! Але як падумаю... Напаткала была адну нашу бабу, рабіла са мной некалі на заводзе, праўда, не на канвееры, але мы дружылі. Абрадавалася, аж ледзь не расплакалася, расказвала, як жыве, не адпусціла, пакуль мяне да сябе дадому не зацягнула. Колечка, каб ты бачыў, якая ў яе хата! Таксама аднапакаёвая, але – зіхаціць уся. Еўрарамонт зрабіла, мэбля – я такой і не бачыла ніколі, кухня імпартная... А якія халадзільнік, маразільнік, сціралка, кухонны камбайн... Браток, а чаму мы такія бедныя? Баба ж гэтая ўсяго нейкі тэхнікум скончыла, не надта й граматная. А казала – свой магазін мае, дачка з зяцем у Бельгіі ці Галандыі, там і ўнучка вучыцца... А я рабіла ўсё жыццё, столькі гадоў жоўтым пеніцылінам душылася-смаркалася, а што маю?

Маўчаў я, слухаючы сястру. Бо – што я мог сказаць? Ад ейных слоў мне зноў стала непамысна. Я, дайце веры, яшчэ набіраўся нахабства папракаць, няхай сабе адно ў думках, амаль папікаць сястру ейнаю беднасцю. А сам? Што маю сам? Нягледзячы на тое, што за савецкім часам няблага й зарабляў, ды гэтак жа, як і мая найкрэўная сястрыца, аказаўся ў старасці жабраком. Быў я дзіцем свайго часу, а час быў савецкі, ідэалагізаваны, скнарніцтва, назапашванне багацця, скапідомства, а тым больш замах на раскошу было большым грэхам, чым крадзеж. Сёй-той, найперш партыйна-савецкія бонзы, вядома, не зважалі на гэта, цішком грэблі пад сябе ўсё, што маглі, а мы, верныя прывадныя пасы партыі, заставаліся шчырымі пралетарыямі. "Бабыль гол, як сакол, ідзе весяліцца..." Мы таксама весяліліся, тым больш, што былі і прыадзетыя, і досыць сытна накормленыя, мелі нават кватэры з выгодамі, ажно з вяршыняй цывілізацыі – тэлефонам. Чаго яшчэ было хацець? Мы ж не буржуі, золата ды крышталь, мяккая мэбля ды бронзавыя гадзіннікі-статуэткі нам не да твару, уся нашая натура паўставала супраць іх. Ёсць на чым сядзець і на чым спаць – вось і добра. А ўсё астатняе – непатрэбная і ганебная годнасці савецкага чалавека мішура.

Вось і маем сёння тое, што маем: трыццацігадовай даўнасці абшарпаныя і дабітыя ложкі, канапы, кніжныя паліцы і шмат разоў рамантаваныя халадзільнікі, пыласосы, тэлевізары. І "дачы" – пахіленыя да зямлі бацькоўскія хаціны ў вёсках, пастаўленыя ці яшчэ да вайны, ці адразу – спехам, абы з якога дрэва – па вайне. З дзецьмі і ўнукамі дзелім цесныя катухі калісьці атрыманых (задарма – удаўблівалі ў галовы!) хрушчовак ды брэжневак, не маючы магчымасці і перспектывы (якая перспектыва, Божа літасцівы!) раз'ехацца. Адно выйсце, яно

ж і паратунак, каб пазбыцца штодзённых незадаволенасці і сварак – вярнуцца дажываць веку ў тыя бацькоўскія хаціны. Ды вярнуцца зусім няпроста. Вярнуцца можна, ахвяраваўшы набытымі гарадскімі звычкамі мець цёплы туалет і гарачую ваду, больш-менш здароваму чалавеку. Але хто з нас здаровы пасля шасцідзесяці, а тым больш – сямідзесяці гадоў?!

І от жа дзіва, як хутка многія звыкліся з новымі праявамі жыцця. Узяць хоць бы сотні і тысячы катэджаў вакол Мінска і літаральна вакол кожнага вялікага і самага малога нашага горада. Ужо многія лічаць, што так і трэба, што ўсё – нармальна. Рынак, маўляў. Запрацаваў колішні няўхвальны, нават вельмі асуджальны з гледзішча савецкай маралі прынцып: хочаш жыць – умей круціцца! А што значыць круціцца? Адназначна: займацца круцельствам. Жыць не па сумленні, а – хапаць, рваць, грэбці, колькі можна і дзе можна, нават і там, дзе няможна, але – удаецца, надараецца магчымасць урваць.

Размаўляю з каляжанкай – сумленнай, прыстойнай ва ўсіх адносінах жанчынай. Жыве беднавата – толькі на зарплату. Кажа, што хапае, бо патрэбнасці ейныя ва ўсім мінімальныя, у тым ліку і ў харчаванні – яна вегетарыянка. Зайшла гаворка пра шыкаванне сённяшніх грашавітых людзей. Каляжанка спакойна зазначае: “Зарабляюць – і шыкуюць”. Перапытваю: “Зарабляюць?” Пацепвае плячыма: “Не крадуць жа...” Кажу рэзкавата: “Памыляецеся, даражэнькая: акурат крадуць! Час так званага першапачатковага назапашвання капіталу – акурат час бессаромнага, цынічнага, бязмежнага крадзяжу, рабавання іншых”. Каляжанка не паддаецца: “Інакш, мусіць, і нельга. Але ж пагадзіцеся: усе гэтыя людзі – не дурні. Розум у іх таксама не спіць, як і самі яны не спяць у шапку”. Я горка ківаю галавой: “Не спіць, вядома, розум, не спіць, хоць – вельмі сумнеўны ён, іхні розум, як у вялікага інтэлектуала Абрамовіча. Не розумам яны зарабляюць, а – нахабствам, нахрапістасцю, падманствам, нечуваным круцельствам і цынізмам. Бо каб розум іхні не спаў, дык падказаў бы, што шыкаваць гэтак на вачах імі ж абрабаваных людзей – непрыгожа, сорамна, брыдка. Каляжанка ўздыхае: ”Мо і ваша праўда. Але ж калісь убівалі ў галовы адно, цяпер – іншае. Грошы лічыць у чужой кішэні сорамна. І зайздросціць – таксама. Кожнаму – сваё”. Я адно пасміхнуўся: “Ага, каму – пекла, каму – рай, ці, як казалі раней, каму – татары, а каму – лятары...”

Не захацелася мне чамусьці, калі выйшаў ад сястры, чакаць на аўтобусным прыпынку яе славутай і хвалёнай “соткі” – пайшоў пешкі. Мільганула і не згасла думка акурат прайсціся, а не праехацца сцежкамі, як кажуць, юнацтва, студэнцкай маладосці і першых гадоў працы, калі зусім паблізу ад цяперашняга сестрынога жытла здымаў пакойчык у адной бабулі на Грушаўцы.

Так і зрабіў. Дадыбаў да Маскоўскай. Прыгадалася, што ў Куляшова ёсць верш “Вуліца Маскоўская”, і падумалася, што, пэўна, жыў ён у тым доме, дзе некалі быў вучэбны корпус БДУ, пасля студэнцкі інтэрнат і пакоі для выкладчыкаў і аспірантаў; ці ў доўгім доме насупраць, па другі бок вуліцы, які, здаецца, таксама ацалеў у вайну. Мемарыяльнай дошкі ці нейкага іншага памятнага знака няма ні на першым, ні на другім. І ўжо наўрад ці будзе калі. Не павесілі за савецкім часам, дык цяпер нават не да спадзеву. А, між тым, пэўна, акурат Маскоўская і дом на ёй былі ўваччу ў паэта, калі з ягонага пяра сплывалі балючыя словы аб тым, як пакідаў ён (ці хай сабе лірычны герой паэмы “Сцяг брыгады” Алесь Рыбка) у чэрвені сорак першага родны Мінск, “пажарам і бомбамі гнаны”.

Па мосце-віадуку цераз чыгунку спусціўся на плошчу Незалежнасці. Незалежнасці ці Леніна? Станцыя метро пад ёй – “Плошча Леніна”: вярнулі ёй імя Ільіча насуперак элементарнай логіцы, а тут, наверсе, так і ёсць – плошча Незалежнасці, якая перацякае ля паштамта і гатэля “Мінск” у аднайменны праспект.

Плошчы я не пазнаў. Не надаралася нагоды быць на ёй гады са два, хоць

і праязджаў яе неаднойчы – пад зямлёю. Прыгадаліся пасляваенныя дамы і звычайныя драўляныя хаціны на ёй, гастраном акурат насупраць правага крыла Дома ўрада, у які мы студэнтамі зрэдку – у дзень атрымання стыпендыі – бегалі з роднай сваёй Бабруйскай. Прыгадаўся і тымчасовы сквер з радамі-шпалерамі акуратна падстрыжаных кустоў і кветнікамі. Цяпер жа яе галоўнай аздобай сталіся шкляныя круглыя купалы падземнага горада, у якім я ні разу не быў і наўрад ці буду. Што я там не бачыў? Бясконцых шэрагаў гандлёвых клетак і харчэўняў-забягалавак? Дык іх паблізу маёй Цнянскай процьма. Здаецца, куды ўжо больш?! Ды, аказваецца, можна: будуюцца ўсё новыя і новыя. Міжволі думаеш: няўжо мала тых, што ўжо ёсць? І яны ж пустуюць, прадаўцоў больш, чым пакупнікоў. Нават сумненне бярэ: ці зарабляюць гэтыя дзяўчаткі, дарэчы, амаль усе з вышэйшай адукацыяй, сабе на зарплату? Наіўны я, пэўна, чалавек, хоць і стары. Бо калі б сапраўды гэтак было, наўрад ці будаваліся б новыя гандлёва-выставачныя і проста гандлёвыя цэнтры.

Сённяшняя плошча нібы нейк змізарнела, бы зморшчылася, зшчыгрынілася, а яшчэ – страціла свой колішні ўрачысты выгляд галоўнай афіцыйнай плошчы сталіцы. А постаць бронзавага Ільіча і бээсэсэраўскія герб і сцяг над Домам урада неадменна надаюць ёй статус плошчы музейнай. Сузіранне на фоне блакіту неба "самого красивого флага из всех союзных республик" (нібы гэтак ацаніў ягоныя вартасці вусаты крамлёўскі галавасек) настырна паклікае з памяці красамоўнае пытанне з расійскае класікі: "Какое ныне у нас столетье на дворе?"

Праспект, які на нядоўгі час займеў сапраўды годнае імя Францішка Скарыны, адпачатку не набыў нацыянальнага аблічча. Мы й не засмучаліся з гэтае прычыны. Наадварот, ганарыліся: нагадвае славуты Неўскі ў горадзе Пятра і Леніна. Нібы й па праву: галоўная вуліца сталіцы БССР уражвала. Мы, студэнты другой паловы 50-х, любілі яе. Асабліва ейны адрэзак ад паштамта да Круглай плошчы, якая стала пасля плошчай Перамогі. Не, нават не да Круглай, а – да Цэнтральнай (цяпер – Кастрычніцкая) плошчы. Тут вечарамі тратуары ажно кішэлі моладдзю. Тут быў наш улюбёны кінатэатр "Першы" – драўляны, пабудаваны нібыта адразу па вайне палоннымі немцамі, куды мы бегалі ці не на кожны новы фільм; тут быў ужо згаданы паштамт, дзе ў наш час было модна прызначаць спатканні дзяўчатам; кнігарні падпісных выданняў і "Цэнтральная", кавярня "Вясна", гастраном і хлебная крама, дзе зімою ледзь не паратункам для нас, вечна галодных і акалелых студэнтаў, была шклянка гарачай кавы з малаком пад пульхную, бо свежую, часам нават яшчэ цёплую булачку ці абаранак. Тут былі ўтульныя бульвары на Камсамольскай вуліцы і вуліцы Леніна, а таксама сквер ля Купалаўскага тэатра з невялікім бюстам Песняра і адметным фантанам 1874 года з хлопчыкам і лебедзем ды сімпатычнымі жабкамі, якія таксама, як і лебедзь з дзюбы, выпускалі са сваіх жабіных ратоў срабрыстыя струменьчыкі. Сквер быў не такі вылізаны і дагледжаны, як зараз, калі ўжо і дрэвы ў ім як ненатуральныя, штучныя: тады ў ім было прахалодна не толькі ад засені дрэў, але і ад жывое, дыхаючае зямлі.

Божа мой, колькі разоў бачыў нас гэты сквер, праводзячы ў "Ленінку" (гэтак, услед за Масквою, звалася нашая галоўная бібліятэка на рагу Чырвонаармейскай і Кірава) і сустракаючы, калі мы ў ліку апошніх заўзятараў пакідалі познім вечарам, пасля адзінаццаці гадзін, па-сутнасці ноччу гэты храм кнігі!

На гэтым адрэзку праспекта былі і магазіны "Мужчынскае адзенне", абутковая крама "Чаравічкі", і "салодкая" крама "Ласунак", і крама мастацкіх вырабаў "Паўлінка", і самы галоўны магазін не толькі сталіцы, але і ўсяе Беларусі ГУМ. Трэба было ці не, але амаль ува ўсе з іх мы зазіралі досыць часта. І ўсе яны засталіся ў памяці. Смешна казаць, але і сёння, праз дзясяткі гадоў, я памятаю, як купляў у "Мужчынскім адзенні" свой першы сапраўдны, чыста шарсцяны касцюм работы пражскіх краўцоў, ці наручны гадзіннік у ГУМе, таксама першы ў

жыцці, вытворчасці славутага маскоўскага ЗІМа з назовам “Победа”, які служыў мне “верай і праўдай” добрую чвэрць веку і які я амаль урачыста, з хваляваннем перадаў сыну-сямікласніку.

Памятаю адно і другое не проста як факт. Помніцца, да прыкладу, прадаўшчыца – паўнаватая пажылая жанчына з добрымі мяккімі рукамі, якая прымервала на мяне той касцюм: абцягвала рукавы, распрамляла пінжак на маіх плячах, зашпільвала гузікі і раўняла крыссе, каб урэшце блаславіць: “Бяры, хлапец! Сядзіць, як уліты! Не толькі на спатканне будзе йсці не сорам, але й да шлюбу”.

Так, цэнтральны мінскі праспект не меў і не мог мець нацыянальнага аблічча. І таму, што не спрыяў гэтаму час яго нараджэння, ягоная здэнацыялізаваная атмасфера. І таму, што ствараўся не толькі беларускімі розумам і рукамі. І таму, мо найперш, што самі мы, беларусы, і тады былі гэткімі ж, мякка кажучы, чэхаўскімі размазнямі, як і сёння. Мы ніколі, бадай, нават кулаком па стале як след не груknулі, не тое каб даць каму-небудзь па мордзе за зневажанне ва ўласнай хаце ці выкінуць няпрошанага госця за парог. Адно, на што нас ставала, гэта прасіць, дый то калі ўжо далей трываць было нельга. Толькі пра нашага брата-беларуса мог узнікнуць класічны анекдот пра цярпенне. Памятаеце? Нават павешаны, беларус не памёр: “Спачатку, братачка, мулка было, а пасля прыцярпеўся...”

Ды ўсё ж тады, у пару маёй маладосці, Ленінскі праспект (меў тымчасовае такое ганаровае імя!) быў куды больш беларускі, чым цяпер. Быў на ім хоць нейкі мінімум нацыянальных пазнак – у назвах тых згаданых крамаў, харчэўняў, устаноў, у нешматлікай і някідкай, зусім неназойлівай тады рэкламе. Зрэшты, пазнака беларускасці была і ў ягонай звыклай для нашага вока недагледжанасці, аб чым сведчылі шчарбатасць тратуараў-ходнікаў, абшарпанасць сценаў і расхлябанасць дзвярэй у дамах паабапал яго, нярэдкія папяросныя “бычкі” ды іншае смецце пад нагамі. Усё гэта, паўтару, было звыклаю яваю і не надта кідалася ў вочы: маўляў, так і трэба. І мы сапраўды не зважалі на гэта, і шчыра любілі наш Ленінскі праспект, і ці не штовечар, пры любым надвор’і з ахвотаю ўліваліся ў гаманкую вірлівую плынь на ягоных шырокіх ходніках.

Цяпер жа перада мною быў амаль чужы, незнаёмы прасцяг. Ішоў я, узіраўся і азіраўся, і вока толькі зрэдку падказвала памяці тую ці іншую згадку. Усё было і тое, і не тое. Ходнікі – люба глянуць. Не банальны шэры, у тысячах трэшчын і выбоін асфальт, а – бы пасланы пад ногі адмысловы дыван, сатканы са шматколерных брускоў-нітак. Дамы – быццам бравыя салдаты-малойцы ў парадных мундзірах, выстраеныя для начальніцкіх агледзінаў. Вокны, дзверы, прыступкі ганачкаў, поручні, маладая траўка між прысадамі, кветкі – усё было не проста дагледжаным, а дзіўна, неверагодна новым, быццам толькі што зробленым і старанна вымытым-вычышчаным пасля будаўнікоў.

Сюды, на ходнікі праспекта, мяне паклікала памяць. І, пэўна, акурат гэтая самая памяць учыніла ўва мне такую вось метамарфозу: замест таго, каб усцешыцца і парадавацца ўбачанаму, я засмуціўся. Навакольная паўсюдная чысціня і нейкая стандартная вылізанасць... адштурхоўвалі, бянтэжылі, спараджалі непамыснасць. Міжволі прыбягала думка аб тым, што вакол – не жывы, дзейны горад, а нешта паказное, цацачна-аграмаднае, створанае адмыслова для паказу, дэманстрацыі турыстам і іншым часовым наведвальнікам.

Дадавала вастрыні гэтаму адчуванню і адсутнасць дзяцей. Не было іх ні з мамамі, ні без мам. І гэта таксама здзіўляла і засмучала. Як жа так? Дзеці, прытым мноства дзяцей, заўсёды былі найпершай пазнакай любога горада. Што ж здарылася? Адказ, як кажуць, не прымусіў сябе чакаць. Наш вясёлы і людна-галасісты калісь праспект, нягледзячы на гэтую сваю абноўленасць і глянцаватасць, – проста састарэў. Моладзь пакінула яго, каб нараджаць і гадаваць дзяцей ва Уруччы, Сухараве, Кунцаўшчыне ды Паўднёвым Захадзе разам са старымі

Чыжоўкай і Серабранкай. Старыя іх бацькі і дзяды, матулі і бабулі засталіся тут таксама на нейкі час – пакуль Бог не забярэ іх у лепшы свет. Зрэшты, бацькоўскія кватэры тут ужо не заўсёды перадаюцца дзецям і ўнукам – у іх асядаюць розныя так званыя офісы.

А найбольш і найперш адчужала моўная расейшчына гэтак дбайна дагледжанага, фактычна новага праспекта. Засталіся на ім літаральна лічаныя шыльды на нашай мове. Ды і тыя – з колішніх, даўнейшых. Новыя – усе чыста на рускай мове. А яшчэ – на ангельскай. Апошніх таксама ўжо ці не болей, чым беларускіх. Роднае наша слова стала на цэнтральнай вуліцы беларускай сталіцы усяго толькі своеасаблівым экзотам. Прыезджы чалавек, калі б не ведаў, дзе ён, нізавошта не здагадаўся б, не даўмеўся б, што перад ім – сталіца незалежнай, суверэннай Беларусі, галоўны горад народа, які мае сваю ўласную мову, сваю тысячагадовую гісторыю, сваю адметную культуру, свае звычаі і склад душы...

У такім невясёлым одуме дабрыў я да цырка. Тут, у спадзеве трошкі пад'ехаць, а не плесціся пешкі да самай хаты, цалкам забыўшыся, што ўжо даўно зменены маршрут 40-га тралейбуса, перайшоў на другі бок праспекта, дзе Купалаўскі парк. Само сабою, быццам учуўшы маю ўнутраную патрэбу, ногі павялі туды, да помніка Паэту. Пастаяў там, поблізу, задзёршы галаву, узіраючыся знізу ў рысы адсюль зусім не гіганцкага бронзавага твару. Аб чым ён думае? – пеканула думка. Аб чым думае Іван Дамінікавіч, дзядзька Янка, гледзячы са свайго валуновага ўзвышша на недалёкі шумлівы праспект, на горад, з якім звязваў калісьці свае самыя запаветныя спадзяванні? Думка не выходзіла з галавы, змушала затрымацца.

Я абышоў вакол помніка, сеў на бліжэйшую лаўку. Адсюль, ужо трошкі здаля і збоку, глядзеў на Паэта. Выраз твару – спакойны, задуменны, без аніякіх адзнак радасці, суцехі, а тым больш – шчасця. Хутчэй наадварот: твар выдаваў, бадай, засмучаным, мо нават спакутаваным, трагічна-роспачлівым. Іншым і не мог яго вылепіць Анатоль Анікейчык. Талент Скульптара зразумеў Талент Паэта, яго глыбокі трагізм. Такім і вылепіў: годна йдзе са сваёй сукаватай кавенькай, з паднятай галавою і з глыбокім, трагічна-нязбытным сумам у вачах. І ў дол сышоў, не пазбыўшыся яго. Сышоў, каб і там сніць сны аб роднай Беларусі.

Магутнае слова, ты, роднае слова!
Са мной ты на яве і ў сне;
Душу мне затрэсла пагудкаю новай,
Ты песень наўчыла мяне...

Скуль усплылі, якім чынам прагучалі ўва мне гэтыя купалаўскія радкі? Я іх прыгадаў-успомніў на хвалі невясёлага свайго одуму, калі памалу дыбаў па праспекце? Ці іх прашапталі лісты ў кроне дрэва нада мною? А мо іх прамовіў сам Паэт? Мо яны зляцелі да мяне з ягоных бронзавых вуснаў?

Зусім хутка будзе роўна 100 гадоў, як напісаў Янка Купала верш "Роднае слова". Верш пра магутнае, бессмяротнае, свабоднае і... загнанае роднае слова, пра родную, званую беднай і мужычай, мову, што "мілей найбагатшай чужой". А я вось і сёння згадваю ягоныя радкі ўсё з тымі ж паэтавымі скрухай і болем. Бо – анічога не змянілася за прамінулыя сто гадоў у ейным лёсе. Роднае наша слова па-ранейшаму загнанае, па-ранейшаму адусюль на яго "гадзіны сыкаюць, кружацца совы". А калі папраўдзе, дык лёс нашага роднага слова за гэтыя гады, асабліва ж апошнім часам, стаў яшчэ больш трагічны: народ наш, носьбіт, стваральнік і зберагальнік яго, на мяжы анямення, якое мае назоў "русіфікацыя". Наша роднае слова залунала-загучала ў магутнай Купалавай Песні гэтак, што сілу ейную адразу ж адчулі ворагі беларушчыны, і забаяліся яе, і абрынуліся на яе, а найперш – на набыўшае магутныя крылы беларускае слова...

Я ад вас далёка... Божа ты мой мілы!
Неразлучны з вамі да самай магілы, –
Не пакіну думаць світам і ўпацёмку:
Як там жывіцё вы, як жыве старонка?
А хоць дасць мне доля ў дамавіне месца, –
Устане цень з зямлі мой, на крыж абапрэцца.
І ў той бок глядзеці будзе век нязводна,
Дзе ляжаць загоны Беларусі роднай.

Я зноў не знаходзіў сабе адказу, як і чаму раптам прагучалі гэтыя радкі, ад якіх ажно скаланула мяне ўсяго, бы ад сіверу-халадэчы. Вялікай, папраўдзе бязмежнай любоўю да Бацькаўшчыны маглі яны быць народжаны. Так, я памятаў і гэты Купалаў верш 1910 года, напісаны ў Пецярбурзе, але ж напамяць яго не ведаў. А тут нечакана пачуў гэтыя ўражальныя па сіле пачуцця дзве страфы. Мо і праўда сам бронзавы Паэт прычынаю?

Я міжволі ўглядзеўся ў яго. Твар быў той жа – засяроджаны і з пазнакаю пакуты. І пагляд вачэй скіраваны туды ж, у бязмежную і вечную далеч. Вусны сцятыя. Але ж... я выразна чуў страфы верша – радок за радком. Значыць... Божа мой, Божа, чаму ж мы не адораны, не надзелены такою любоўю да краю роднага? Мо тады паводзілі б сябе іначай, мо тады маглі б па-сапраўднаму, як іншыя людзі і народы ўмеюць гэта рабіць, пастаяць за сваю свабоду?!

Дык жа – не!

А люд?.. Ён сагнуўшыся ходзе
Пад ношкай знямогі-пакуты
І, роячы сны аб свабодзе,
З дня ў дзень сам сабе куе путы.

Так спіш, так жывеш мімаходам,
Мой край, як сцяпная магіла,
З сваім незавідным народам,
З патухшай і славай, і сілай.

Ці памятаем мы – усе, ці хоць бы так званыя інтэлігенты – гэтыя радкі Паэта, напісаныя ў тым жа 1910 годзе? А калі памятаем, дык чаму ж і сёння яны гучаць ці не больш надзённа і трагічна, чым тады? Чаму ж нам даспадобы “жыць мімаходам”, быць “незавідным народам, з патухшай і славай, і сілай”?

А ў разварушанай, развярэджанай памяці (ці душы, настроенай на хвалю вечна жывой Паэтавай душы) усплывалі ўсё новыя балючыя і роспачлівыя радкі:

Куды ідзём?.. куды пракляцце нас вядзе?
    Якія далі здабываем?
Дзе гарт, надзея, вера ў будучыну – дзе?
    Чым сэрцы, думы акрыляем?

Няшчасны край! Чым быў, чым стаў, чым будзеш ты
    З сваім век стогнучым народам?
Як нёс – нясеш ярмо упадку, слепаты
    І змен чакаеш год за годам.

Сцяжыны замкнуты туды, дзе ясны быт
    Душы не кідае ў бадылі,
Шырок гасцінец вечна толькі чыст, адкрыт
    К шынку, астрогу і магіле.

Чаму ж мы не чытаем Купалу? Чаму не чуем таго, аб чым ён крычма крычаў цягам многіх гадоў, клічучы нас “з путаў на свабоду”, “з цемры да святла”? Сёння

пазбаўляюць магчымасці, забараняюць слухаць і чытаць ягоных паслядоўнікаў і прадаўжальнікаў – паэтаў-сучаснікаў. Дык чаму ж мы не чытаем самога Купалу?

Прыйдуць людзі з Усходу,
Прыйдуць з Захаду людзі
І спытаюцца нас:

"Скуль, якога вы роду?
Дзе зямля ваша будзе,
Дзе айчызна у вас?"

Мы ля плоту, пад плотам
Паглядзім, пашукаем,
Які даць ім адказ,

І адкажам: "Э, што там...
Мусіць, бабскім звычаем
Збегла ў прочкі на час".

На жаль, мы і сёння адказваем амаль гэтак жа. Значыць, Айчына збегла ў прочкі не на час, а назаўжды? Дык – ці народ мы? Мо ўсяго толькі паязджане? З азначэннем "тутэйшыя"? Хто тады нас разбудзіць, дагукаецца да нашых сэрцаў і душ, калі яны не пачулі, не чуюць набатнага голасу Прарока? Няўжо сапраўды павісла над намі, здранцвіла нас вечнае пракляцце?

Скрогат нясецца з асін...
Рабству паклоны біў дзед,
Гнуўся пад палкамі ў крук;
Бацька – за дзедам; услед
З бацькам пляцецца і сын;
Ты ж кудой пойдзеш, унук?..

Не шкадаваў мяне Паэт, сыпаў соль на рану маю незагойную. Крывавіць яна ўжо даўно. З тае пары, як зразумеў, што не таму Богу маліўся, не тым абразам біў паклоны. Бацька, паміраючы, плакаў, што не на той алтар паклаў жыццё сваё, і выказваў спрадвечную бацькоўскую надзею на тое, што мо дзеці зведаюць шчаслівейшую долю. Я пераժыў ужо бацьку і на парозе блізкага нябыту кажу тое самае. Мне, бадай, яшчэ цяжэй, бо дзеці, мае два сыны-пестуны, а цяпер ужо й самі бацькі, наўрад ці зведаюць шчасце жыць у сваёй Айчыне не як на чужыне. Хіба толькі ўнук ды ўнучка-ненаглядка? Дай Божа!

Хрыстос васкрос!.. К табе, о Божа,
І я ў дзень гэты просьбу шлю:
Хай Беларусь, мая старонка,
Ўваскрэсне к вольнаму жыццю.

І яшчэ пачуў:

Малюся я небу, зямлі і прастору,
Магутнаму Богу – ўсясвету малюся,
Ва ўсякай прыгодзе, ва ўсякую пору
За родны загон Беларусі.

Маліўся Паэт і верыў, спадзяваўся:

Не загаснуць зоркі ў небе
Покі неба будзе, –
Не загіне край забраны,
Покі будуць людзі.

Толькі ж – дзе яны, людзі? Не рабы бяспраўныя, лёкаі паніклыя, не падбрэхічы мураўёўскія, а менавіта людзі – вольныя, поўныя годнасці, самавітыя, верныя памяці і запаветам дзядоў і прадзедаў? Мала, вельмі мала было іх і ў часы Купалы, а яшчэ ці не меней – сёння. Усё больш калі і не рабы-лёкаі, дык спаконвечныя скраюхатаўцы, згодлівыя абыціхаўцы, бязвольныя папіхайлы, даверлівыя і пакорлівыя волікі, што валакуць ярэмца даастатку, пакуль і ног не адкінуць. А што да краю, дык ён за Купалам быў забраны і дэ-юрэ, і дэ-факта, а цяпер – толькі дэ-факта, бо дэ-юрэ нібыта мае статус незалежнай дзяржавы. Ды карысці з таго "юрэ" – як з казла малака.

На вялікім свеце б'юць званы на славу,
Людзі з плеч скідаюць ланцуговы скруты,
К сонцу йдуць браточна з рабскае пакуты.

На вялікім свеце ўсё ідзе па праву,
Па законе Божым, з яснатой яскравай...
А у нас, у нас што?.. Толькі звоняць путы...

Самы ж жахлівы, ажно пахавальны звон путаў духоўных. Тых, якімі скутаспавіта не цела, а душа. Не з пянькі яны звіты-скручаны, не з жалеза адлітывыкаваны, а – не разарваць, не скінуць, не выбавіцца. І трапечацца ў бяссіллі душа, нэндзіцца, смягне, чэзне, каб у рэшце рэшт знямецъ-зайсціся ад непрадыху.

З дня на дзень, з году ў год, як пакутнікі,
Б'ёмся, гінем і шчасця не бачым;
Працай жывяцца нашай прыблуднікі,
А мы толькі ўздыхаем і плачам...

Колькі ж мы будзем уздыхаць ды плакаць? Чаму ж не слухаем, не чуем Купалы? Зусім жа не плач і не скаргі гучаць у ягоным голасе. У ім – гарэсны дакор, балесны папрок, пякельны сорам, грымлівы покліч да ўсіх нас "выйсці спаткаці Вясну". І, не ўлоўліваючы водгулля сваіх крывёю напісаных радкоў у людскіх сэрцах, усклікаў ужо без аніякае паэтычнае метафарычнасці, кідаў пранізлівыя, набатныя, рэзкія, бы SOS, словы:

За свабоду сваю
Ўсёй душой пастаю;
    У агонь і ваду
    Я за ёю пайду.
Лепей сам сябе дам
Пахаваці людзям,
    Як свабоду хаваць
    Злыбядзе аддаваць!

І дадаваў, як на духу:

Што не загубяць крыўды жывую
Душу народа, што ўстане са сну, –
Гэткай надзеяй толькі жыву я,
Гэткую толькі чакаю вясну.

К яснаму сонцу з цьмы, з беспрасвецця,
К славе з бясслаўя ўсім нашым людзям –
Гэткай шукаю сцежкі на свеце,
Гэткаму Богу і душу аддам.

А ці ж збудзіла і гэта нашых людзей, ці ж узгрэла-ўзбурліла кроў у іх здранцвелых сэрцах?

Чым даўжэй сядзеў я, тым больш вяртала памяць калісь чытаныя, але прызабытыя вершы Паэта. Зрэшты, ці памяць усё ж? Мо некалі і была яна моцнай і ўчэпістай, ды прытамілася, прытупілася з гадамі. Цяпер, бывае, не магу ўспомніць сёе-тое нават цалкам абыходкавае, як ні намагаюся. Усё-такі, напэўна, сапраўды здарыўся цуд, падобны на цуд казачнай купальскай начы, калі таму, каму пашчасціць адшукаць Папараць-кветку, раскрываліся таямніцы зачараваных скарбаў, мова звяроў і птушак. Пэўна ж, вельмі моцна прагнуў я пачуць бронзавага Паэта, і ён, які з дня ў дзень і з ночы ў ноч вядзе нячутную нікому размову з Небам і Зямлёю, Сонцам і Месяцам, дазволіў і мне пачуць яе. А якую ж іншую размову можа весці Паэт, як не размову вершамі?! Вось я і ўчуў іх. Учуў ягоную песню "ясну, як неба", з якой ён жадаў быць у кожнай беларускай хаце "жаданым гасцём".

І чым больш слухаў я Паэта, тым большы сум і горыч агортвалі мяне. На жаль, не наканавана, пэўна, яму сысці з гэтага каменнага пагорка ды пабрысці ад места да места, ад вёскі да вёскі, ад хаты да хаты, каб "з цэлым народам гутарку весці". Аглух ягоны народ, анямеў у родным слове. Не сам, вядома, не па ўласнай волі. Стагоддзямі змушалі прыблуды-каланізатары з захаду і ўсходу. Ведаў, бачыў зласесны плён іх бесперапынных высілкаў Паэт, дакараў, абураўся, гнеўна пытаўся: "Чаго вам хочацца, панове, які вас вымусіў прымус забіць трывогу аб той мове, якой азваўся беларус?" Панове ведалі, чаго хацелі. Досыць адабраць, пазбавіць народ роднай мовы – і тады можна рабіць з ім усё што заўгодна. Бо ўжо народа не будзе. А будзе проста няпэўны тутэйшы люд, які лёгка прымусіць слугаваць прыблудам, забяспечваць ім магчымасць смачна есці і піць. Вось і слугуем. Дзвесце гадоў панам-дабрадзеям з захаду і столькі ж, мо ўжо і болей, дабрадзеям з усходу. І як стагоддзі назад бацькі, выпраўляючы дзяцей у свет, спадзяваліся, што тыя выйдуць у людзі, – гэтаксама і сёння. А выйсці ў людзі па-ранейшаму азначае пераняць мову і культуру каланізатараў. А тыя за стагоддзі сілай зброі, школы і царквы знявечылі душу беларуса, убілі яму ў галаву, што няма ў яго ні ўласнае мовы, ні ўласнай песні, ні ўласнай гісторыі, няма і ніколі не было. А сённяшнія акупанты разам з тутэйшымі манкуртамі-перараджэнцамі ўвогуле дагнюсіліся да таго, што абаронцаў мовы, гісторыі і культуры нашага народа, ягонага права на сваю ўласную незалежную нацыянальную дзяржаву называюць адмарозкамі і нават фашыстамі.

Пэўна, і сапраўды няма прарока ў сваёй айчыне!

Не пачуты наш Прарок і Апостал у сваім народзе. Нават і многія асвечаныя, адукаваныя сыны і дочкі яго глухія да поклічных слоў Купалы. Вушы і душы іх настроены на іншае – усяго толькі на зусім не міфічныя "скварку і чарку". А чыноўнікі-начальнікі нашы розных рангаў заганы сваёй не надта высокай адукацыі кампенсуюць адмысловым плябейскім нюхам на запатрабаванні такога ж плябейскага электарацкага натоўпу: "Хлеба і відовішч!" Хлеба – так сабе, пакрысе, збольшага, трошачкі нават надгаладзь, а відовішч – ад пуза, з ранку да вечара, суткі навылёт. Скачуць штодня на экранах, без выхадных і адпачынкаў, безгалосыя, затое галаногія і галапузыя дзеўкі і нямытыя, няголеныя хлопцы, бясконца гарлапаніць, прыдурняецца і курчыцца ў грымасах пад рэха загадзя запісаных воплескаў і рогату адна і тая ж хеўра пошлых "рускіх бабак" ды вовачак-лёвачак. А тэлевізар даўно падмяніў мільёнам людзей у местах і весях і бібліятэку, і клуб, і філармонію, і тэатр, і нават царкву. Дык хіба ж праб'ецца праз гэтую нязгасную і грымлівую блакітную заслону голас Паэта? Ды і непатрэбны ён у сённяшнім суцэльным прытоне шаманскага забаўляльніцтва і пацяшальніцтва. У Паэта – не пасмешкі-тралялёначкі, не пошла-непрыстойныя анекдоцікі-баечкі. У яго – голас сэрца, плач і крык збалелай за "старонку родную" і родны народ душы, несупынны непакой за ягоны лёс і прышласць.

Гэты сардэчны боль і спарадзіў Ягоную песню. І спяваў яе Паэт без фальшу і хістанняў ад пачатку да скону. Але, але – да свайго заўчаснага і трагічнага скону

ў 1930-м. У 1942-м, таксама трагічна, абарвалася жыццё Івана Дамінікавіча Луцэвіча. А Паэт, Прарок і Апостал Беларусі быў загублены акурат у 1930-м . Бо, па-сутнасці, усё тое нямногае, што ён напісаў цягам апошніх 12-ці гадоў, нявартае ягонага магутнага таленту. Усё, што здабыло яму ранг народнага Песняра, напісана, створана ім да так званай рэвалюцыі ў кастрычніку 1917-га і за нейкі дзясятак гадоў пасля яе. Кожны яго радок вершаў, паэм, п’ес, публіцыстычных артыкулаў яму падказвала, дыктавала вялікая, нязгасная Любоў да Бацькаўшчыны, Надзея і Вера ў яе лепшую, шчаслівую будучыню. Ён быў не проста Вялікім Паэтам. Ён быў Будзіцелем і Прарокам. Ён будзіў родны люд ад занадта задоўжанага сну душы і розуму, верачы, што ён урэшце апрытомнее, што ў яго знойдуцца магутныя, нечуваныя сілы, каб агараць шматсотгадовы прыгнёт, страшэнны цяжар прыніжэнняў і пакут, выпрастацца, устаць з каленяў, усячутна заявіць аб сабе і хораша сцвердзіць сябе ў сям’і славян, годна заняць *“свой пачэсны пасад між народамі”*. Сваю місію і сваё ўласнае – паэтава і чалавечае – шчасце Ён бачыў у тым, каб *“з цэлым народам гутарку весці, сэрца мільёнаў падслухаць біцця”*. Толькі і акурат у гэтым! Ды Паэта пазбавілі гэткага гонару, выбілі з-пад ног яго гэтую апору ў жыцці – тады яшчэ, на схіле савецкіх 20-х. А калі б нейкім цудадзейным чынам змог апынуцца Паэт у сённяшнім часе? Зноў бы папрасіў магілу раскрыцца нанова. Бо сёння сітуацыя ці не больш трагічная. Тады горла Паэтавай песні перацялі “ворагі беларушчыны”, а сёння хто не дае ёй ходу? Таксама ворагі беларушчыны, толькі, бадай, яшчэ страшнейшыя, яшчэ больш зацятыя і бязлітасныя, бо – сваёй гадоўлі, манкурты-янычары. Вось стаіць Паэту помнік, за ім – гжэчны двухпавярховы дамок ягонага музея, ёсць філіялы ў Вязынцы, Акопах і Ляўках, сям-там пракідваюцца напаміны пра яго 125-я ўгодкі, але што з усяго гэтага, калі адкрыта і паўсюдна, з нязнаным ніколі раней цынізмам нішчыцца слова, якім ён сто гадоў назад гэтак адмыслова і магутна азваўся?! Ён мо як ніхто іншы разумеў сілу Роднага слова ў лёсе народа. Але гэта разумелі і разумеюць і нашы ворагі, рознага кшталту незычліўцы. І не адно стагоддзе вялі і вядуць з ім лютае змаганне. І, па ўсім, адолелі, даканалі яго ўрэшце. Прынамсі, ніколі, мусіць, слова наша не было гэтак блізка да нябыту, як сёння. Вось і бессмяротны Вялікі Пясняр ужо як безгалосы – не чуе яго тутэйшы люд...

Падняўся я і атупела-роспачліва павалокся дадому. З паэтавай вуліцы звярнуў у сквер, прайшоў паўз помнік Марату Казею. Штораз ісці каля яго вусцішна: пятнаццацігадовае бронзавае хлапчанё з аўтаматам у адной руцэ і з гранатай у другой, узнятай угору. Няшчасны падлетак, які загінуў сапраўды гераічна, варты добрай і доўгай памяці, мо і помніка, але ж – не такога, напрамілы Бог!

Пакрысе – пад гару – узбрыў на вуліцу Куйбышава. Ужо, лічы, трыццаць гадоў не толькі хаджу па ёй, а бадай і жыву, бо ад колішняй Цнянскай, якая пазначана ў пашпартнай прапісцы, амаль нічога не засталося, – і ці не штораз свіргоча ў галаве думка: чаму – Куйбышава? Якое дачыненне меў гэты сталінскі чыноўнік да Мінска, якія яго такія вялізныя заслугі перад Беларуссю і нашым народам, каб мець “сваю” вуліцу ў цэнтры беларускай сталіцы, побач з вуліцай найслыннага і найслаўнага сына Бацькаўшчыны Максіма Багдановіча? Колькі мы будзем трываць гэтакі абсурд? А пасля спахопішся і горка пасміхнешся: столькі ж, як і ўсе іншыя абсурды нашай сённяшняй рэальнасці.

Ды найдзікі, найтрагічны – абсурд з беларускай мовай у нібыта – па назве – беларускай дзяржаве, здзек з роднага беларускага слова. Яно сёння на дзяржаўным узроўні фактычна забаронена. Ніводзін дэпутат-палатнік і ніводзін так званы сенатар, ніводзін міністр, губернатар і маршалак раёна не гавораць з родным народам на ягонай мове. Прыклад бяруць з самога начальніка дзяржавы: з ягоных вуснаў беларускае слова злятае толькі тады, калі трэба паздзекавацца з якога-небудзь “адмарозка-нацыяналіста”.

Вось і гэтым разам – ледзь толькі вока згледзела на рагу дома шыльду “вул. Куйбышава”, адразу ж свіргатнула тая ж думка: чаму, за якія заслугі і колькі можна трываць такі абсурд, – каб урэшце вярнуцца да абсурду з мовай. А думка аб мове штораз прыводзіць да Купалы. Да валадара роднага слова, як ён з годнасцю і па праву называў сябе сам.

Якой волатаўскай сілай уздзеяння надзяляў ён роднае слова! З якім умельствам абрабляў яго, каб выказвала ўсе магчымыя адценні думкі і пачуцця! І якую высокую красу ствараў з яго выбітных узораў-дыяментаў, што яна неадменна і паўнаўладна зачароўвала, узвышала, натхняла, пераўтварала, залучала ў свае велічныя залатыя цянёты кожную незагубленую дарэшты душу!

Песня яго будзіла, клікала, змагалася – працавала. Плён гэтае працы быў проста дзівосны. У канцы 1905 года была знята забарона з друкаванага беларускага слова, а ўжо ў сакавіку 1918-га паўстала Беларуская Народная Рэспубліка. Сувязь між гэтымі падзеямі і датамі – самая шчыльная, самая непасрэдная. Акурат роднае слова, як ні падасца гэта каму-небудзь дзіўным, і падрыхтавала глебу для здзяйснення гістарычнага акту – абвяшчэння БНР. Але, але – у гэтым заслуга роднага слова. І найперш – мастацкага роднага слова, здабытага з невычэрпных народных нетраў і агранёнага талентам Янкі Купалы і ягоных паплечнікаў.

А цяпер вось людзі не чуюць Ягонага слова. Не чуюць і не хочуць чуць. Зноў прыспана душа беларуса. Зноў яго вучаць жыць “вучоныя” – праўда, пераважна ўсходнія. Розныя бабурыны, затуліны, селязнёвы, мітрафанавы ды жырыноўскія. І вучоба іхняя, на жаль, не ў пясок, і ўжо слова Купалы многім нашым людзям непрыемна рэжа слых. З аднаго боку, быццам яшчэ і сорамна за такое адчуванне, бо не забыліся дарэшты на тое, што беларусы, ды часцей сорам гэты гоняць прэч. Маўляў, спазніўся ты, паэт, са сваімі заклікамі і дакорамі, беларусы ў свой вагон агульначалавечага цягніка не паспелі ўскочыць, той пайшоў без іх, а мы, нашчадкі, бадай ужо й не беларусы, гэтак называем сябе хіба што па звычцы.

Пасля гэтага не будзе, вядома, пачуты не толькі Купала “дакастрычніцкі”, але і першага “паслякастрычніцкага” дзесяцігоддзя, калі голас яго набыў асабліва трагічнае гучанне. Як вытрывала тую паняверку Паэтава сэрца?! У снежні 17-га сабраўся Вялікі Ўсебеларускі Сход, на які нястомна ўсёй сваёй творчасцю, кожным сваім радком клікаў Купала свой народ. І што? Сход разагналі бальшавікі. Неймавернымі высілкамі абвешчана БНР. І што? Задушана, зліквідавана бальшавікамі. Вымушана, са скрыпам абвешчана БССР – як на здзек, у межах шасці паветаў Мінскай губерні. Дык і з той гульня: то ёсць яна, то няма, то аб’ядноўваецца з такой жа эфемернай савецкай Жамойціяй, то аддаецца на гвалтаванне акрыялай Польшчы. Апошнюю спробу выстаяць, сцвердзіцца – дарэчы, спробу збройную – чарговы раз задушылі на Случчыне ўсё тыя ж бальшавікі.

Усё гэта чынілася на вачах Паэта, усё гэта прайшло праз ягоную датклівую душу і аголенае, адкрытае, безабароннае сэрца. Бачыў, разумеў: будуецца Камуна, а не Беларусь. Кругом пануюць фальш і падман. Народ зноў трымаюць у паняверцы і страху. Змушаюць людзей быць усяго тутэйшымі, а не гаспадарамі сваёй зямлі і лёсу. І самае прыкрае, горкае, балючае – народ зноў згінаецца ў пакоры. Незабытае рабства вяртаецца ва ўсіх, мо нават яшчэ больш жахлівых праявах.

Душа Паэта не можа змірыцца з гэтым. Дух яго не зломлены. Вера ў родны народ не пахіснута. І Паэт зноў будзіць, кліча, асвятляе паходняй шлях. П’еса “Тутэйшыя”, вершы “Для бацькаўшчыны”, “Свайму народу”, “На сход”, “Спадчына”, “Час”, “Наша гаспадарка”, “У вырай”, ”На нашым...”, “З павяўшай славай”, “Беларускія сыны”, “Жыды”, “Паўстань”, “Над калыскай”, “Мая навука”, “Новы год”, “Гэй, паехаў сын Даніла...”, “На біблейскія матывы”, “У вырай”, “25.III.1918 – 25.III.1920 (Гадаўшчына-памінкі)”, “Сын і маці”, “Перад будучыняй”, “Пазвалі вас”, “...О так, я пралетар!..”, “Ёсць жа яшчэ ...”, “Царскія дары”, “Каб...”, “Акоў

Дзеяслоў 248

паломаных жандар...", "І прыйдзе..."...Ці ўздымалася калі-небудзь раней да такога балеснага, ажно роспачлівага, набатна-грымотнага голасу ліра Паэта? І, бачачы бяссілле паэтычнага слова знайсці водгук у людскіх пакорлівых душах (*"Галовы людзі нахіліўшы, / Зямлю капалі, як краты, / Ўтапіўшы ў мёртвай ночнай цішы / Усе жаданні яснаты"*), Паэт звяртаўся да зямнога публіцыстычнага слова, паўставаў сапраўдным ваяром з паднятым забралам. Досыць прыгадаць ягоныя артыкулы 1918-1920 гадоў "Больш самачыннасці", "Як у казцы", "Адбудова Беларусі", "Незалежнасць", "Незалежная дзяржава і яе народы", "Моладзь ідзе ў Беларускае войска", "Торжышча", "Зямельная спекуляцыя", "Справа незалежнасці Беларусі за мінулы год", "Думка за думкай", "Справа беларускага нацыянальнага гімна", – каб начыста адкінуць хлуслівы, ганебны, проста гнюсны міф пра Купалу як ціхмянага, зусім не баявітага, амаль слухмяна-пакорлівага браточка-беларуса.

"Для адбудавання вялікай Польшчы "ад мора да мора" трэба пераступіць Беларусь; для адбудавання вялікай Расіі ад Белага да Чорнага мора таксама трэба растаптаць Беларусь. Вось і выходзе, што трэба Беларусь выкінуць з гісторыі, з геаграфіі, і наогул калі не цалкам прылучыць яе к адной з суседскіх дзяржаваў, то разрэзаць напалавіну, але так трэба зрабіць, каб яе не было і звання". Хто гэта і калі напісаў? Купала! У 1919 годзе!..

Ішоў, клыпаў я дадому вуліцаю вялікага "змагара" за Беларусь і па-ранейшаму слухаў Купалу – гэтым разам ужо нібыта "савецкага" (паводле дат пад вершамі), але якога не было ў кніжках савецкага часу і якога, натуральна, не ведалі школьнікі і студэнты многіх пакаленняў.

Паўстань, народ! Для будучыны шчасце
Ты строй, каб пут не строіў больш сусед;
Не дайся ў гэты грозны час прапасці, –
Прапашчых не пацешыць шчасцем свет.

Сваю магутнасць пакажы ты свету, –
Свой край, сябе ў пашане мець прымусь.
Паўстань, народ!.. З крыві і слёз кліч гэты...
Цябе чакае Маці-Беларусь!

Гэта з верша "Свайму народу" 1918 года. А перад гэтымі заключнымі страфамі было, да прыкладу, такое:

Упаў народ. Змарнеў народ, забыўся,
Як Бацькаўшчыну, як яго завуць;
Як падарожны без пуцця, знябыўся,
Як сірата, якой нідзе заснуць...

Міжволі слупянееш ад жаху і роспачы: мінула, лічы, стагоддзе, а нічагуткі не змянілася. Сапраўды, упаў народ. Глыбока ўпаў. Гэтак глыбока, што з таго чорнага бяздоння так і не чуе цягам гэтага самага стагоддзя напаміну, што яго – "чакае Маці-Беларусь".

Ад прадзедаў спакон вякоў
Мне засталася спадчына;
Паміж сваіх і чужакоў
Яна мне ласкай матчынай...

Агучаныя ў свой час Мулявіным, словы гэтыя сталі быццам агульнавядомымі. Агульнавядома і тое, што завецца гэтая спадчына ўсяго-наўсяго Старонкай Роднаю. Нібыта памятаюць многія пра гэта – песня штораз нагадвае. Але ж – ці будзе Старонка Родная без Роднай Мовы? Выбачайце, шаноўныя: адназначна не будзе!

У нашай хаце
Тчэ кросны павук,
А вонкі пагнаці
Не знойдзецца рук.

У нашым краі
Пануе чужак,
Ніхто не парае,
Пазбыціся як.

Просценькія, шчырыя, ажно да наіву, радкі, а прыгадаліся вось – і сэрца зноў крывёю абліваецца. Дзяды не ведалі, як пазбыціся, – не ведаем і мы, унукі ды праўнукі. А калі й ведаем, дык рабіць нешта не знаходзіцца рук – як і тады. Ды жахлівей іншае: мала хто й задумваецца над тым, што "ў нашым краі пануе чужак". Маўляў: такой бяды, неяк будзе, абы ціха...

Над беларускай беднай хатай,
Як полка вырвана з труны,
Вісіць чужы сцяг, а трымае
Хто?
– Беларускія сыны!

У Беларусі спеў чужацкі,
Як над касцямі груганы,
Крумцяць чужынцы, а іх складам
Хто?
– Беларускія сыны!

Амаль дзевяноста гадоў таму вось гэтак гнеўна абураўся і дакараў Паэт. І што? Сёння пад чужым сцягам яшчэ больш беларускіх сыноў, гэтак як і спеў чужацкі падхопліваюць складам таксама нашмат больш, чым у далёкім 1919-м. Даўно вядома, хто і чаму ўчыніў такое з намі, сынамі і дочкамі Беларусі. Чаму ж мы мірымся з гэтым, чаму ж такія ганебна-паслухмяныя і пакорлівыя? Нібы ўсяго сорак гадоў патрэбна для таго, каб у народзе памёр апошні раб. Чаму ж нам не хапае і стагоддзя? Ды што там! Калі папраўдзе, дык – ці не болей тут стала рабоў?!

Што ж гэта робіцца з намі, беларусамі? Такое ўражанне, што быццам сапраўды нейкае пракляцце вісіць над нашым краем і над намі. Усё на нешта ці на некага спадзяёмся, усё нечага ці некага чакаем. Жывём гэтак, як той селянін-гаспадар з казкі, што прывязваў жэрдкі да калкоў саломай, кажучы на недаўменныя дакоры ці пасмешкі прахожых: "Ат, усё адно не сёння-заўтра паміраць..." Гэтак акурат і мы. Што будзе заўтра – не ведаем і ведаць не жадаем. Пэўна ж, нічога добрага не будзе. Каб хоць горш не было. І гэтак – з году ў год, ужо нямала дзесяцігоддзяў, урэшце – не адно стагоддзе. Усё стаім перад будучыняй нашай.

Стаім мы перад будучыняй нашай
І ўсё варожым, сочым ейны ход...
Ці ўскрэснем мы, душою ўпаўшы, звяўшы,
Каб выйсці ў свет, як нейкі здольны род...

Сягоння мы жывём і ўдзень мы блудзім
Пад ласкай, асляпляючаю нас,
І што сказаць самім сабе і людзям,
Не ведаем, не можам, хоць і час.

Заціснуты, задушаны, як мышы
Пад жорсткім венікам з усіх бакоў,
Шукаем, як сляпыя, не згубіўшы
Таго свайго, што наша ад вякоў.

Пакрыўленыя колісь нашы душы
Дагэтуль выпрастаць не ў моцы йшчэ;
Снуёмся, ў думках зводных затануўшы,
А хтось, а штось і мучыць і пячэ.

Цябе чакаем, будучыні нейкай,
Што прыдзеш, недзе ўсіх нас павядзеш,
І гінем марна пад чужой апекай,
Адбіўшыся ад родных вехаў, меж.

А хто далёкі ці хто, можа, блізкі
Засеў за наш бяседны, сытны стол
І кідае, як з ласкі, нам агрызкі,
А мы к зямлі з падзякай гнёмся ўпол.

Нявольніцтва й жабрацтва так нас з’ела
І так нам высмактала з сэрца сок,
Што нат у вочы глянуць, плюнуць смела
Не смеем, стоптаныя на пясок.

Там чутна: Беларусь! Там – Незалежнасць!
А там – “Паўстань пракляццем..” Ну, а мы?
Мы ў страху... дум крутня... разбежнасць...
Без толку крыллем лопаем, як цьмы.

О, так, як цьмы, як спуджаны вароны!..
І слухаем, і нюхаем тут, там:
Які павеяў вецер на загоны, –
Заходні, ўсходні, й ці ад нас, ці к нам?

Аграбленыя з гонару й кашулі,
З свайго прыпынку выгнаныя вон,
Мы дзякуем, што торбы апранулі
На нас ды з нашых нітак-валакон.

З кійком жабрачым так, мы, паўналеткі,
Брыдзём, паўзём у свет – скрозь неўпапад.
І прысягаем, клічам Бога ў сведкі,
Што мы – не мы, што нехта вінават...

І так жывём, сябе саміх не знаўшы,
Учора, сёння лазім між канаў...
Няўжо ж бы хто й над будучыняй нашай
Навек залом праклятый заламаў?

Няўжо нас не аб’ясніць розум ясны,
І не пакінем біцца з кута ў кут?
Няўжо кліч вечны будзе ў нас напрасны –
Кліч бураломны: вызваленне з пут?!

Калі б не знаццё, што гэта напісаў Купала ў 1922 годзе, я асабіста прыналежыў бы гэтыя горкія, проста роспачлівыя радкі паэту-сучасніку, а менавіта – земляку і вернаму паслядоўніку Песняра Нілу Гілевічу. Але, але, майму старэйшаму брату: тыя ж матывы, вобразы, інтанацыі, той жа народны, празрыста-класічны склад верша. Ён, як і Купала ў першыя дзесяцігоддзі XX стагоддзя, кідае сваё сэрца на шындзёлы ў пачатку веку XXI – і ўсё за тыя ж самыя ідэалы, і ўсё дзеля аднаго і таго ж – каб Старонка Родная “ўваскрэсла к новаму жыццю”. І ніякае нацяжкі, ніякага перабольшвання ў гэтым параўнанні няма. За гэта сведчыць наша праклятая, спрэс абсурдная і да жахлівасці трагічная рэальнасць. Што ні страфа, што ні радок верша – гэта нашы сённяшнія сітуацыі, варункі, паводзіны, учынкі, думкі,

помыслы, жаданні, спадзяванні. Сучасныя, учарашнія і сённяшнія, і па ўсім – заўтрашнія. Быццам і не міналі дзесяцігоддзі, не адыходзілі пакаленні. Будучыня так і не расчыніла перад намі сваёй запаветнай брамы. Паэт гэтак і назваў свой верш – “Перад будучыняй”. Балючы, гарэсны верш. Не запабягае Купала перад сваім народам, не паддобрываецца пад яго – кажа яму горкую, да крыўды, да сціскання сэрца балючую праўду. Але кажа не дзеля таго, каб канчаткова дабіць, спляжыць яго, а дзеля таго, каб той схамянуўся ўрэшце, успомніў пра свой гонар і годнасць, выпрастаўся, развінуў плечы, падняў галаў, зірнуў удалеч і ўбачыў там сваю будучыню і сябе ў ёй – вольнага ад пут, поўнага веры ў сябе і свае сілы, роўнага ўсім іншым у вялікай сям'і вольных народаў. Пытальныя інтанацыі ў вершы набываюць рытарычны, сцвярджальны сэнс: Паэт верыць, што ў рэшце рэшт “розум ясны аб'ясніць” наш народ, пачуе ён “кліч бурапенны” і здабудзе Богам дадзенае права “людзьмі звацца”.

Народ – творца гісторыі. Колькі дзясяткаў гадоў мы бяздумна паўтаралі гэтыя словы, баючыся нават самім сабе сказаць праўду і пра гэты самы народ, і пра сапраўдных “творцаў” – пажыццёва незаменных крамлёўскіх старажылаў: крывапіўцаў, валюнтарыстаў, застойшчыкаў ды маразматыкаў. Яны ўяўлялі сябе не проста бажкамі – самымі што ні ёсць багамі, падсуднымі толькі небу. Папраўдзе – увогуле непадсуднымі. А самі чынілі суд – скоры, бязлітасны, нечалавечы – над усімі і над усім. Не адны, вядома, – разам з памагатымі, якія таксама корчылі з сябе калі не бажкоў, дык божых угоднікаў. Мо часам і прыслухоўваўся крамлёўскі бог да таго, што дакладвалі яму ягоныя ўгоднікі, але ўвогуле, вядома ж, самачыннічаў, да таго ж з усведамленнем, што чалавек – кузурка, не больш, яго можна зняважыць, абрабаваць, сагнаць з зямлі, з пасады, вытурыць з кватэры, з краіны, пасадзіць, урэшце забіць, вынішчыць пад корань, разам з продкамі і нашчадкамі. І дзеелася гэта не год і не два, а – дзесяцігоддзямі, і асеў у сэрцы, у галаве страх, перадаваўся ад бацькі сыну, ад сына – унуку, ад унука – праўнуку. Страх рабіўся не проста спадчынным – генным.

У Беларусі страх гэты найперш быў звязаны са шматразовым і шматгадовым бязлітасным вынішчэннем “бебурнацаў” і рознага кшталту іншых “нацдэмаў”. А яны былі галоўным чынам у асяроддзі інтэлігенцыі. Вось і зразалі, бы сцяблiны жыта сярпом, галовы беларускіх пісьменнікаў, настаўнікаў, навукоўцаў, інжынераў, дактароў, якія вытыркаліся, прыўздымаліся над звыклай аднастайнай людской масай. Зразалі ў 20-х, 30-х, 40-х (з дапамогаю нямецкіх фашыстаў-акупантаў, польскіх, жамойцкіх ды латышскіх нацыяналістаў). У 50 – 80-х калі і не зразалі, дык – не пускалі, крычалі “Асадзі назад!” У такіх варунках ды яшчэ з непазбытым, заўсёдным страхам нараджаліся і прыходзілі ў жыццё кволыя “беларускія сыны” – з палахлівым сэрцам і ўпалай душою, з начыста адсутным адчуваннем, усведамленнем сваёй нацыянальнай адметнасці, нават прыналежнасці. Такія ў нашым народзе сталі пераважаць. Праслойка “сведамых беларусаў” была надта ж танюсенькая. Вось яна і не змагла стрымаць напору антынацыянальных сіл, балазе яны дзейнічалі, як заўсёды, вераломна, нахабна, цынічна. Падмяніўшы Вялікую Праўду велізарнай хлуснёй. Паабяцаўшы згаладнеламу люду манну нябесную. Запалохаўшы запалоханых вяртаннем ледзь ці не фашысцкіх парадкаў. Пакінуўшы амаль непарушным савецкі парадак, давёўшы яго, у дадатак, да закончанай абсурдысцкай кандыцыі. Апярэдзіўшы, абышоўшы ў вынішчэнні ўсяго беларускага і беларушчыны, найперш – мовы, самых заўзятых савецкіх камуністаў-інтэрнацыяналістаў.

Зрэшты, вонкава нібыта ўсё іначай. Зніклі ЦК, абкамы і райкамы. Невядома, ці ёсць сельсаветы, рай- і аблсаветы – пра іх практычна ні гу-гу ні па радыё, ні па тэлебачанні, ні ў друку. Няма нібыта аніякае цэнзуры і пільных колішніх цэнзараў – кніжнае мора заліло ўсе кнігарні і шапікі, пераходы ў метро, само

сабою – спрэс рускамоўнае, у пераважнай бальшыні – пошлае, пустое, а то і паскуднае чытво. І куды ні кінь вокам – паўсюль гандаль. Сотні і тысячы крам і крамак, дзясяткі і сотні вялізных і супервялізных маркетаў. Ды ўсё гэта – толькі фон, своеасаблівыя дэкарацыі, у якіх чыніцца ранейшае савецка-камуністычнае дзейства. Зрэшты, не зусім ранейшае – у горшым варыянце. Аздобленае нечуванай нават для колішняга непраўдзівага часу хлуснёю, суцэльным фальшам і непрыхаваным нераўзыйдзеным цынізмам.

Рыба гніе з галавы. Наша сённяшняя рэчаіснасць пацвярджае гэтую аксіёму найярчэй, штодня і стакроць. Усе беды – зверху. З вяршыні адмыслова выбудаванай вертыкалі. Знізу, як і за саветамі, на ўладную вертыкаль аніякага ўплыву, тым больш – кантролю. Але калі савецкая партыйна-дзяржаўная вертыкаль утваралася ўсё ж з найбольш падрыхтаваных, адукаваных і дасведчаных, часта і досыць інтэлігентных функцыянераў, дык сённяшняя складзена пераважна з людзей пасрэдных, колішніх троечнікаў, далёкіх ад паняццяў духоўнасці, інтэлігентнасці, шляхетнасці, наогул культуры, урэшце. Стаўленне іх, услед за вярхоўным начальнікам, да роднай мовы пацвярджае гэта неабвержна.

У дачыненні да роднай мовы яны (паводле Паўстоўскага) самыя што ні ёсць дзікуны. Без мовы – няма народа. Але ж гэтаксама без роднай мовы няма і чалавека як прадстаўніка таго ці іншага народа. І патрыёт, гаспадар, працаўнік, бацька, выхавацель-сем'янін з такога чалавека – ніякі. Бо ён пазбаўлены душы. Бо душа народа (і чалавека таксама!) – мова! Усё – у родным слове роднай мовы чалавека.

Не нацяжка, не выдумка: самы вышэйшы дабрабыт маюць тыя народы, якія найбольш цесна з'яднаны, знітаваны любоўю і пашанай да роднай мовы!

Калі дойдуць – і ці дойдуць наогул? – да разумення гэтага нашы сённяшнія начальнікі? Няма надзеі!

Адзіная надзея – на народ. Марудна, памалу спеюць у ім разумныя і здаровыя сілы, аднак жа – спеюць! То там, то тут родзяцца і падрастаюць сапраўдныя, волялюбныя беларускія сыны. І з кожным годам іх усё большае. І яны чуюць Паэта. Адгукаюцца на ягоны "кліч буралomны".

І прыйдзе, абавязкова прыйдзе час, калі ён будзе пачуты пад кожным дахам беларускай хаты, кожным беларускім сэрцам!

*Верасень-кастрычнік 2006 года*

запісы

Сяржук Сыс



..яна...

# Падпрастора

*Яе Вялікасць Археалогія! Разумею фанатаў, што кожную вольную часінку аддаюць азартнай гульні з колішнімі цывілізацыямі. Гадаючы па знойдзеных парэштках пра іхняе жыццё й занапад.*

*Мяне заўсёды гэта вабіла. Мальцом выкопваў старыя манеты на схілах вясковага раўчука.*

*Але зававіла, урэшце, іншае. Ды якраз не пра іншае гаворка.*

*А пра тое, што з Яе Вялікасцю трымаю пачцівую сувязь: праз ейную ўнучку, думаю, добра вядомую і вам, тую, якая падчас векапомных сваіх візітаў падбухторвае заняцца і кіруе хатнімі раскопкамі. Спадарыня Хатняя Археалогія, – мая пашана! О, як Вы дарэчы! Як?..*

*Яна акідвае позіркам бясформенны кубаметр усялякіх скарбаў, збольшага папераў, усярэдзіне якога ўгадваецца наяўнасць пісьмовага стала. Вымушаны пагадзіцца, што час прыспеў. Пакорліва ківаю і здаюся ва ўладу гэтай рашучай дамы, што праўда, не пазбаўленай радавое рамантыкі.*

*...І вось мы сядзім на падлозе (дзе ні пачынай, усё адно раней-пазней апынешся на падлозе), распрацоўваем "культурны слой", напластаваны за апошнія N тыдняў... месяцаў... гадоў... Самы*

*час для гэтага: пасля пяцідзесяці пачынаецца сыход з вялікае жыццёвае гары і, пакуль ён яшчэ не ператварыўся ў бязладны шалёны бег уніз, сартую матэрыялы: у сметню, у архіў. У вытворчасць.*

*У пакой не ўбіцца: гармідар, як казаў Кот у ботах, зняважальны. Праз гадзіну-другую стрэлка імпэту слаба ўздрыгвае вакол нуля. Знямоглай рукой падымаю да святла фрагмент шкілета, што праступае на немаведама якой даўніны рэнтгенаўскім здымку. Пагляд болей не фіксуецца, сыходзіць блукаць унутры галавы. Стоп! На вочы трапляе ражок чагосьці, як быццам цьмяна знаёмага... ды не! – нават вельмі добра знаёмага, роднага, доўга і бясплённа шуканага. Так! Гэта яна, старадаўная парэпаная тэчка, з пажоўклымі ўрыўкамі... маіх нататак мінулага стагоддзя, пачынаючы ад часоў службы ў войску.*

*Пракаветная друкарка... а сям-там і ад рукі накрэмзана. Перш чым унурыцца ў чытанне, паспяваеш падумаць: каб хаця не забыліся да вячэры паклікаць. Даеш адчайнага нырца ў падпрастору. Апынаешся ў далёкім 1983-м, якім пазначаны першы аповед...*

Учора запазніўся на вячэру, бо дрэнна адчуваў сябе пасля суткавай варты. Ламіла паясніцу і моцна балела галава – ізноў вецер з Фінскага заліву прарваўся праз балоты Матаксы і прынёс з сабой невыносную салёную вільгаць, якую мой арганізм не трывае нават на дух. У палкавую сталоўку пайшоў без строю; сытыя шарэнгі ракетных дывізіёнаў, шумна скаціўшыся па лесвіцы з вялікай сопкі, знікалі ў расхрыстанай зеўры казармы.У агромністай, на тысячу байцоў, сталоўцы – пуста, толькі ўдалечыні за апошнім сталом сядзела пяцёра кухараў, ды зямляк-“хлебарэз” з-пад Чачэрску.

Зняможаны, падыходжу да земляка:

– Хадорчык, мо знойдзецца што пад’есці?

– Бяры вось, што ёсць, – ківае на хлеб, гарбатнік і цукар.

– Дык каб яшчэ і масла кавалачак?

– Смяешся? Адкуль? Хаця б на заўтра хапіла палку на сняданак, – хітраваў землячок.

Бліскучыя, нібыта росныя кавуны на бахчы, твары кухараў моўчкі павярнуліся ў мой бок і, выказаўшы грэблівасць, ізноў пачалі марудна варушыць сківіцамі.

“Эх, Хадорчык, – стрымліваючы крыўду, прамаўчаў я. – Сам жа падпілаваў рашпулям форму для нарэзкі сметанковага масла, ды на сваіх жа хлопцах эканоміш грамы, з якіх праз час “вырастаюць” цэлыя пуды. Ад таго і чэрава расце, і трэцяе падбароддзе паклалася на каўнер гімнасцёркі”.

Моўчкі дапіў халодную вадкасць, якую па недарэчнасці назвалі чаем... Чэрствую і крохкую лусту белага хлеба пакінуў на стале.

Выходзячы са сталоўкі, адчуў, што пагоршала яшчэ болей. Пакратаў лоб – гарачы. “Ну, вось і тэмпература з’явілася! Раніцай, відаць, у санчастку трэба”.

Палярнае ззянне расквечвала дзівоснымі фіранкамі неба над ваенным гарадком, але нават гэты паўночны цуд не цешыў вока. Мацней захутваючыся ў шынэль, паціху даклыпаў да казармы. Параўняўшыся з ложкам “хлебарэза”, спыніўся і з усяе моцы пнуў яго кірзавым ботам.

*1983*

## Узлёт і падзенне яфрэйтара Валаўня

Доўгім зімовым вечарам у вялізнай, на 100 чалавек, казарме цікава і весела: некалькі байцоў выхваляюцца сваім умельствам вырабляць розныя піруэты на турніку, нехта слухае савецкую эстраду па тэлеку, час ад часу грымяць аб падлогу

бытоўкі вялізныя гіры, перабіваючы бязладныя гітарныя акорды. Янук Новік піша ліст на радзіму; здагадваюся, што дзяўчыне, бо вочы ягоныя гараць надта мутным полымем. Вунь яфрэйтар Валавень унурыўся на сваім ложку – нешта майструе... Ён можа, бо мастак.

Я ж спрабую расшыфраваць нечытэльнае – напісаны драбнюсенькай лацінкаю ліст ад сябрука Алеся Бяляцкага...

– Гэй, байцы, зірніце сюды! – чуецца вокліч Валаўня.

Азіраюся. Па казарме важным паўлінам у белых сподніках дэфілюе мастак. Не, споднікі на ім не зусім белыя. Падбягаем глянуць: кальсоны на яфрэйтары падобныя да джынсаў – кішэнькі, двайное шво па баках, кідкія надпісы і лэйблы “Wrangler”. Нават заклёпачкі праглядаюцца, быццам сапраўдныя.

Ну, Валавень, ну штукар! Сяржант Куцень тут жа, за пачак цыгарэт з фільтрам “Космас”, замовіў сабе на майку дзяўчыну ў купальніку, яшчэ некаму закарцела мець падобныя “джынсы”...

Праз колькі дзён перад адбоем можна было назіраць, як дзясятак моднікаў фарсілі па казарме свамі размаляванымі споднікамі.

Паказ сучаснае моды доўжыўся мо з тыдзень. У суботу, пасля лазні, мы атрымалі чыстую бялізну, а ўсе “фірмовыя” кальсоны былі здадзеныя ў пральню.

Прайшоў час і пасля чарговае памыўкі ля капцёркі ўсчаўся сапраўдны вэрхал. “Валаўня на мыла!” – раўлі байцы, бо ніхто не хацеў браць бялізну ў фантастычных фіялетавых разводах.

Яшчэ доўга пасля таго “тыдня высокай моды” афіцэры-гаспадарнікі кпілі, убачыўшы каго-небудзь з нашага ўзводу:

“Ну што, “версачы”, больш не малюем?”

*1983*

### Люцыпары

Недзе паміж Фінскім залівам і Ладагай. Суворая зіма 1982 года. Савецкае войска.

Мароз 34 ніжэй за нуль. Я, малады і прыгожы, як вецер, – начальнік начной змены качагараў. Галоўны, так бы мовіць, Люцыпар у гэтай гнілой балоцістай мясцовасці. На двары кацельнай – агромністыя горы вугалю, які прамерз так, што і дынамітам яго не раструшчыць. Але ж мы, салдаты, ломікамі яго крышым, па камячку, па жменьцы. Каб накарміць 5-6 ненажэрных катлоў, на змену патрэбна было тоны дзве-тры вугалю. Распараныя, у драным замурзаным сподніх, перыядычна выскокваем па чарзе на мароз і дзяўбем, не адчуваючы сырой карэльскай халадэчы.

Праз пару гадзінаў запас на змену падрыхтаваны. Топкі загружаныя, сквірчыць у іх пякельная магма, ціск пары ў катлах прыстойны. Можна крыху і расслабіцца, заваліцца, напрыклад, у брудным куце і падрамаць, альбо весці небяспечную гаворку пра “Саветы” з дзяжурным электрыкам, фінам-інкеры Эйнам. Аператар кацельных установак радавы Янусь, адключыўшы “электрафарсаж”, ставіць у топку чайнік. Будзем піць гарбату.

На стале з’яўляюцца металічныя кубкі, пачак азербайджанскага чаю, на паперцы – начная пайка качагараў: драбкі цукру, белы хлеб, цыліндрыкі сметанковага масла. Час даставаць і кіпень. Ды дзе там, празявалі: у катле – пуста, толькі лужына расплаўленага металу. Што ж, не ўпершыню такое. Янусь дастае з хованкі кавалак крэйды і на абкуранай сцяне кацельнай малюе сёмую зорку. А мы цягнем запалкі, каб вызначыць, каму з нас шыбаваць у сталоўку па новы чайнік.

Напрыканцы змены пачынаецца галоўная фантастычная дзея – Шабаш. Люцыпары, узброіўшыся трохметровымі “алоўкамі” (цяжкімі металічнымі прутамі), пачынаюць крышыць на дробныя кавалкі расплаўлены шлак, такімі ж гулівераўскімі

качэргамі выграбаць яго з топак і грузіць невыносна спякотнае месіва ў аднаколыя вазкі. Цяжка пачынаецца разгон; і вось вазок, апякаючы твар зыркімі вуглямі, імкліва грукоча па вузенькіх драўляных кладачках у катлаван: дым, вуглі, пырскі агню. Няможна на гэтым шляху прыпыніцца ні на секунду, абавязкова заваліўся з аднаколавай тачкай набок, і калі не згарыш дарэшты, дык дакладна атрымаеш апёкі.

Падраздзяленне ракетнага палка стратэгічнага прызначэння годна выканала пастаўленую задачу: ДОСаўскі гарадок (дамы афіцэрскага складу) атрымаў цяпло.

Было...

*1985*

## Як я стаў “чарпаком”

Аднойчы, калі ўжо тэрмін вайсковай службы падбіраўся да паўгода, мяне выклікаў намеснік дзяжурнага па палку: “Гэй, салдат! Прозвішча тваё якое?”

– Малодшы сяржант Сыс! – гучна адрапартаваў я, прыцiскаючы рукі да хэбэ.

– Зайдзі ў дзяжурку. Вось пасылка табе з радзімы прыйшла, забірай!

Усхваляваны нечаканай удачай, бягу з фанернай скрынкай па прыступках на другі паверх казармы: “Хлопцы, пасылка!”

Паводле негалоснага рытуалу, падышлі “свае”: землякі з майго аддзялення, ды яшчэ двое, з якімі за паўгода службы добра пасябравалі.

З дапамогаю штык-нажа адціснулі цвічкі, скінулі фанерчыну. У пасылцы – небагаты “савецкі” набор: 10 пачак цыгарэт “Астра”, дзве бляшанкі згушчанага малака, кавалак салёнага сала, цукеркі, ну і яшчэ асабіста ад маці мяшэчак гарбузовых семак ды прыгожыя ваўняныя шкарпэткі “на зіму” з пуху хатняй казы Машы.

“Харчы” звычайна размяркоўваліся паміж сваіх, пакольки пры такой логіцы існавала верагоднасць атрымаць нешта і з пасылак сяброў. Таму праз пяць хвілінаў, акрамя двух пачакаў “Астры”, бляшанкі згушчонкі ды шкарпэтак, нічога не засталося.

Быў час заступаць у нарад, на далёкі лясны пост. Цыгарэты паклаў у кішэні гімнасцёркі, шкарпэткі ў тумбачку, а сам пабег атрымліваць “калаша” і боекамплект.

Праз суткі, вярнуўшыся ў казарму адсыпацца, не мог сабе адмовіць у асалодзе прымераць ваўняную цеплыню роднае хаты – матуліны шкарпэткі. Але ў тумбачцы было пуста.

“Днявальны, – крыкнуў я, – хто тут па маёй тумбачцы шнырыў?”

– “Кусок” твае шкарпэткі парэзаў штык-нажом і ў сметніцу выкінуў. Сказаў, што трэба было здаць у капцёрку.

Кроў ударыла мне ў галаву, я ірвануў да капцёркі, схапіў прапара загрудкі і з усяе моцы трэснуў яго аб сцяну. Супакоіўшыся і моцна злякаўшыся, пайшоў і заваліўся ў ложак.

Потым – тэрміновы выклік да камандзіра дывізіёна і загад: трое сутак гаўптвахты.

Бразнулі жалезныя дзверы, сціхлі крокі старэйшага каравульнага. З цікаўнасцю агледзеў пустую халодную камеру: яно і зразумела – упершыню на “губе”.

Неўзабаве ў дзверы ціха пастукаў вартавы, салдат старэйшага прызыву. Праз невялікае шкляное вакенца паказаў пальцам некуды ўверх камеры. Я агледзеўся і заўважыў маленькія вентыляцыйныя краткі. Расклаў драўляныя нары, скочыў на іх і дацягнуўся да кратак: пальцы намацалі цыгарэту і дзве запалкі...

У глыбокім одуме вяртаючыся з “губы” ў свой дывізіён, я нават не адразу пачуў вокліч: “Эй, “шнурок”, зайдзі ў казарму!”

“Ну ўсё, зараз яшчэ і ад дзядоў адграбу”, – падумаў я.

У казарме мяне абкружылі некалькі “аўтарытэтаў”.

“Ты не бойся, салдат, ты болей не “шнурок”, мы цябе павысілі. Частуйся цыгарэтай!”

Так я атрымаў сваё пазачарговае званне – “чарпак”. А вось з лычкамі сяржанта давялося развітацца, спецыяльным загадам мяне “павысілі” да яфрэйтара.

*1985*

## У кіпцюрах “асабіста”

Здарылася так, што ў войску я ўдарыў прапаршчыка: не стрываў крыўды, калі той парэзаў новыя ваўняныя шкарпэткі, дасланыя мне маці. Пакаранне ў такім выпадку магло быць надзвычай суровым, аднак усё скончылася гаўптвахтай. Хаця лепей сказаць – не скончылася, а толькі пачалося.

Перад тым, як адправіцца на “губу”, арыштант мусіць здаць усе кішэнныя рэчы. Здаў і я. Разам з нататнікам кішэннага памеру, у якім часам рабіў усялякія прыватныя запісы.

Праз трое сутак, пры вызваленні, я атрымаў усё, акрамя нататніка. На маё маўклівае запытанне, начальнік гаўптвахты неяк загадкава адказаў:

– А ваш блакноцік перададзены ў асабовы аддзел, вось так!

Я напружваў памяць, прыгадваючы ўсе словы, якія неабачліва даверыў паперы, аднак, здаецца, ніякай антысавеччыны там не мусіла быць.

Праз некалькі дзён мяне выклікалі да таямнічага маёра, якога рэдка хто з салдат бачыў, але завочна многія пабойваліся.

На стале ў “ленінскім” пакоі, дзе адбылася першая сустрэча, ляжаў нататнік, разгорнуты якраз там, дзе былі намаляваныя нейкія схемы. І тут я, пахаладзеўшы, прыгадаў усё...

Меў я здольнасць пісаць прыгожымі шрыфтамі плакаты, і на службе гэта прыдалося. Аднойчы мне загадалі вырабіць для вучэбнага цэнтру нейкую сакрэтную схему памерам прыкладна два на пяць метраў. Карацей, справа не аднаго дня. Матэрыялы для працы даводзілася браць у сакрэтнай часці, выпісваючы пры гэтым два пропускі, ды яшчэ і адзначацца ў некалькіх кнігах уліку. Такое марнаванне часу мне надакучыла, і я перамаляваў у нататнік некалькі частак той вялікай сакрэтнай схемы пад назвай “кіраванне касмічнымі апаратамі з дапамогай тармазных рухальных установак”, каб болей не хадзіць у “сакрэтку” па дакументы.

Зразумела, што з’яўленне такіх малюнкаў у салдацкім нататніку – здарэнне надзвычайнае. Я ўзмакрэў, яшчэ нават не прысеўшы насупраць маёра: “Гэта не “губой” пахне, гэта шпіянаж і дысцыплінарны батальён. Хана, карацей”.

Размова цягнулася гадзіны дзве. Яшчэ некалькі тыдняў “асабіст” апытваў маіх сяброў і афіцэраў дывізіёна, чакалі таксама адказу на запыт у Гомель, адкуль мяне прызвалі ў войска.

Нарэшце, новая сустрэча з маёрам. І здарыўся цуд – шпіянаж быў цалкам адпрэчаны, але пры гэтым паміж намі было заключана шляхетнае пагадненне: маё “плакатнае” ўмельства адгэтуль выкарыстоўвалася напоўніцу. Рэшту службы ў вольны час я правёў у атачэнні слоікаў тушы, гуашы, фарбаў, фанеры і рулонаў тканіны: трапіў такім чынам у прыгон.

Зараз прыгадваецца толькі адзіная ўцямная праца: вялізны трафарэт тытульнай славянскай вяззю з назваю для генеральскай яхты – “Палада”.

*1985*

## Снайпер

Разам з маладой жонкай Валяй мы чакалі майго сябрука, радавога Алеся Бяляцкага, які атрымаў кароткачасовы адпачынак ды кіраваўся з далёкага Уралу ў Гомель. Рыхтавалася да сустрэчы і ягоная сяброўка, студэнтка гістфака Наталля.

Тады, у 1985 годзе, скончылася нашае сямейнае бадзянне па кватэрах: прафкам Гомельскага ўніверсітэта выдзеліў нам з жонкай пакойчык у інтэрнаце кватэрнага тыпу, паколькі Валя давучвалася на стацыянары філалагічнага факультэту.

Жылі не надта багата, таму і разлічвалі старанна, што прыгатаваць ды падаць на стол, каб доўгачаканая сустрэча выглядала на свята. Валя паўдня мітусілася на кухні: нешта шаткавала, смажыла, варыла, я бегаў па бедных савецкіх крамах. Карацей, стол пад вечар выглядаў даволі прывабна.

Урэшце, пасля шумнай сустрэчы, абдымкаў і воклічаў, надыйшоў урачысты момант: учатырох мы расселіся за кухонным сталом. Па-гаспадарску я пацягнуўся па бутэльку шампанскага і, адчуваючы важнасць моманту, нетаропка садраў фольгу і раскруціў засцерагальны драток вакол корка.

Ва ўрачыстай цішыні моцна грымнула, і нас агарнула цемра. У пакойчыку знікла святло. Яшчэ не разумеючы, што ж такое здарылася, я прыцягнуў на кухню настольную лямпу і, прыладзіўшы яе на падваконні, асвятліў застолле.

Але што гэта? Усе святочныя стравы былі шчодна прыпраўленыя драбнюткімі кавалачкамі матавага шкла. Пераглянуўшыся, дружна зірнулі на столь ды адразу ўцямілі: корак ад шампанскага акурат пацэліў у доўгую шкляную трубку лямпы дзённага асвятлення, якая ад трапнага стрэлу выбухнула і дробным снегам асыпалася на стол.

– Ну, што, снайпер, пацэліў? – саркастычна здзекаваўся з мяне Алесь.

Але што рабіць далей? Голад жа не цётка, а іншага наедку знайсці ў хаце было цяжка!

Вохкаючы, мы дружна вышуквалі шкельцы ў талерках з салатамі ды мясам, складалі іх у невялічкія купкі.

Сапраўды гэта была відовішчная вячэра – вельмі асцярожна, нібыта касцістую рыбу, мы з Алесем пад'ядалі закускі, раз-пораз сплёўваючы кавалачкі шкла. Дзяўчаты так і не набраліся смеласці вячэраць разам з намі, знайшлі-такі сабе ў лядоўні нешта пад'есці, хаця і не святочнае, але дакладна бяспечнае.

*1987*

### Уваскрашэнне хамяка

Пасля працоўнага дня ў абласной газеце часта пачынаўся самы непрадказальны жыццёвы працэс пад умоўнаю назвай (няхай даруе Васіль Быкаў за плагіят!) "доўгая дарога дадому". Шлях гэты, вядома, вымагаў шмат часу ды іншых, зразумелых пітушчаму чалавеку, высілкаў. Вяртанне да "родных пенатаў" нярэдка зацягвалася і, калі ўрэшце рэшт трапляў дадому – вячэраць даводзілася на самоце. Ведама, аднаму сумна, асабліва калі нападпітку, патрэбная аўдыторыя. Жонка ж з дзіцём спяць. Таму, прычыніўшы дзверы на кухню і ўсунуўшы галаў глыбока ў лядоўню, шукаў нейкай ежы, падаграваў плоў ці катлеты, ставіў бліжэй да сябе транзістарны прыймач і даставаў са скрынкі на стол хатняга хамяка. Вось з якой кампаніяй я вячэраў.

Аднойчы, такім чынам пад'ядаючы пакінутыя на патэльні жонкай катлеты, слухаў па транзістары далёкія "Галасы". Побач – весела хамяк снoўдае: ад хлебніцы, паміж талерак да патэльні і назад. Ідылія. Распавядаю ціха Хомку, як пасварыўся днём з сябрам; не сыйшліся, маўляў, на творчай глебе – я атрымаў больш ганарару за мінулы месяц. Скарджуся на шалёныя і непрадказальныя кошты, якія штодня растуць і растуць, і няведама калі спыняцца. Ну вось, такім чынам і сумовіліся. Раптам – трэск, полымя, дым. Сяджу з разяўленым ротам, не разумеючы анічога. Механічна адчуваю, што транзістар замоўк. Хаця і п'яны, але даўмеўся – нешта перамкнула, прапала электрычнасць. Хуценька вырваў з разеткі штэпсель прыймача, агледзеўся. Шнур перагарэў. І толькі калі заўважыў,

што самы ўдзячны мой субяседнік нерухома ляжыць сярод відэльцаў і талерак, зразумеў: хамяк перакусіў электрычны дрот і загінуў. Не вытрымаў дробны грызун майго маналогу, пайшоў з жыцця.

Дрыготкай рукой я паклаў нерухомае цельца Хомкі ў вядро для смецця, дзюбнуў яшчэ 100 грамаў "за супакой душы" ды паклаўся спаць.

Сярод ночы прачнуўся ад голасу жонкі:

– Чуеш, нехта ходзіць па кухні, схадзі глянь!

Прыслухаўся, сапраўды нешта шуміць. Пайшоў на кухню, прыхапіўшы на ўсялякі выпадак у вітальні чаранок ад рыдлёўкі. Там – анікога, ды раптам ізноў раздаецца шамаценне, якраз пад мыйняй, там, дзе стаіць сметня.

Гляджу – высока падскоквае ў вядры Хомка, спрабуючы вызваліцца з нечаканай вязніцы. Ажыў-такі, аглушаны электрычным токам, вярнуўся да жыцця.

– Ну, за тваё здароўе, хамяк! – узнімаючы келіх гарэлкі, вымавіў я, ды шчасліва пайшоў даглядаць свае чуйныя сны.

*1999*

## Забойства парсюка

Гэтую простую жыццёвіну распавёў мне нядаўна сусед па лесвічнай пляцоўцы, які штотыдня выязджае на "Масквічы" ў вёску да сваякоў. Я ж толькі запісаў на паперы ягоны аповед.

Сцяпан Халява амаль усё жыццё адтаптаў у лесніках. Але ўрэшце надакучыла яму штодзённая адзінота і таму гадоў колькі назад Сцяпан, пакінуўшы занядбаны лясны хутар, перабраўся ў вёску, бліжэй да знаёмых па ранейшай працы лесакрадаў. Пасяліўся наводшыбе, каля маладога сасонніку, у старой Макаравай хаце.

Звычак сваіх амаль не змяніў, на людзі асабліва не вытыркаўся. Калі-нікалі выберацца ў сяльпоўскую краму па хлеб-соль ды алей і адразу ж на свой рог. А ў лесе па-ранейшаму бавіўся днямі, ведаў яго ці не так, як свае парэпаныя мазалістыя далоні; дзе грыбы якія прадзіраюцца, дзе якая ягада пайшла, а там і венікі бярозавыя час назапашваць, – ён паўсюль першы.

Жыццё сваё Сцяпан адгараваў (а, можа, і не гараваў) бабылём. Калі з мужыкоў хто кепікі кідае – адказ заўсёды адзін: "У мяне і так жонак повен лес, елкі ды бярозы. Кожная прывеціць ды пашкадуе. І не сварацца, не раўнуюць – любата!"

Летась, па восені, Сцяпан Халява набыў парсючка, неяк падгадаваў, а да Вялікадня вырашыў забіць. Дастаў з-пад ложка беспрацоўную "тулку", здзьмуў з яе пыл і, выбраўшы са скрыні некалькі мацнейшых зарадаў, выйшаў "на паляванне". Выпусціў падсвінка з хляўчука, пацэліў: "Трэсь!" Проста ў пятак. Парсюк заенчыў, заверашчаў і кінуўся скакаць па двары. Няйнакш порах адсырэў. Расхваляваўся Сцяпан, ды яшчэ тры зарады ўсадзіў. То ў сцягно лясне, то палову вуха адарве. Зусім разгубіўся, задрыжэлі ў дзядка рукі – не патрапіць. Сеў роспачна на калоды, заплакаў. А парсюк гойсае шалёна па двары, верашчыць, крывянкі пырскаюць з яго. Кінуў Халява ружжо ў сенцы, пайшоў да суседа-трактарыста:

– Васіль, братка, граху нарабіў, дапамажы кабанчыка дабіць, гаруе там на двары, не ўцэліў я!

– Эх, дзед, а чаму ж адразу не паклікаў? Усё думаеш, што малады ды дужы? Сусед выцягнуў з падпаветкі стары, але дагледжаны штык, правёў заскарузлым пальцам па лязе і, угледзеўшы на дзедавай шчацэ слязіну, здзіўлена прыпыніўся:

– Ты што гэта, Сцяпан, плачаш, ці што?

– Шкада ж недабітка, Васілёк! – адказаў той, спяшаючыся на край вёскі, адкуль даносіўся пранізлівы віскат недабітага парсюка.

Болей Сцяпан Халява свіней не гадаваў.

*1999*

## Не чапайце соннай савы

У 1986 годзе я скончыў завочна Гомельскі кааператыўны тэхнікум, атрымаўшы, невядома з якіх памкненняў, дыплом таваразнаўцы. Уладкаваўся ў ціхім старадаўнім Чачэрску на працу ў райспажыўтаварыства. Некаторы час мне собіла жыць у цешчы, у вёсцы над Сожам, за колькі кіламетраў ад райцэнтра. Зразумела, што на звыклы лад жыцця накладвалі свой адбітак і вясковыя клопаты.

Аднойчы чэрвеньскім золкам цешча папрасіла адвесці карову на выган да пастуха, дзе збіраўся штораніцы вясковы статак. Ужо вяртаючыся дахаты, краем вока заўважыў, што на пахілым прыдарожным слупе сядзіць-хістаецца нейкая незвычайная кура. Падыйшоў – людцы мае, гэта ж сава, сонная і незадаволеная. Па-зладзейску азірнуўшыя па баках, схапіў няўклюдную птаху пад паху і подбежкі дадому.

“Вось дык удача! Цяпер у мяне будзе ўласная жывая сава. Ну і знаходка!” – радаваўся я.

Саву пасадзіў на шафу ў сваім пакойчыку: “Абжывайся тут пакуль, а я на працу”.

Прайшло некалькі няпростых дзён “пад савой”: цешча падазрона паглядвала на мяне, моўчкі прыбіраючы сведчанні жыццядзейнасці савінага арганізму, у хату прыйшло бессонне – спаць заміналі шоргат і начныя вохканні вялікай рабой птушкі. А чым карміць? Мышэй жа ёй не злаўлю. Даводзілася эксперыментаваць, наразаць кавалкамі сала, крышыць вараную бульбу, накладаць у місу кавалкі таннай кілбасы.

“Трэба пацярпець, – суцяшаў я сваякоў і сябе, – урэшце рэшт вушастая павінна адаптавацца да хатніх умоваў”.

Якраз тады чакалася камандзіроўка на рэспубліканскі аптовы кірмаш тавараў у сталіцы. Звечара быў падрыхтаваны дзелавы касцюм, які я старанна пачысціў ад рознага пуху ды пер’я вільготнай шчоткай. Касцюм павесіў на плечыках у пакоі падсыхаць.

А шостай раніцы я ўчыніў вэрхал: спіну і плечы майго чорнага кліфта упрыгожвалі свежыя пацёкі птушынага лайна.

Разам з цешчай спехам замылі плямы, і ў макраватай вопратцы я рушыў на аўтобусны вакзал. Дарога чакалася доўгая, заплюшчыўшы вочы ў аўтобусе, мне добра марылася пра сустрэчу з вялікім горадам.

Ужо каля Пухавічаў схамянуўся, агледзеўшы сябе: “Што гэта?” Чорны касцюм спаласаваны шэрымі разводамі, якія я дарэмна спрабаваў адцерці насліненай насоўкай. Відаць, падзейнічала багатае на азот савінае лайно, і фарба на пінжаку месцамі паспела выцвісці.

Так і прахадзіў я па сталіцы той дзень са кручаным у пакеце пінжаком, прыдатным цяпер толькі хіба што каб пасвіць статак у вёсцы.

Наступны дзень стаўся днём расплаты: пасля працяглага змагання абадранымі рукамі я выцягнуў саву з-пад ложка, вынес яе за хату на агарод і, лоўка падцэліўшы, даў ёй шчырага выспятка. Спалохана вохкаючы і губляючы пер’е, птушка хутка знікла ў густым бульбоўніку, а я роспачна прызнаўся сабе, што красці чужых соваў нельга.

*1987*

## Правакацыя

Нeяк крамянай раніцай, калі зіма даволі ўчэпіста трымала ў зубах зямельку, я порстка крочыў сабе па Гомелі на нараду ў няважна якую, але важную, дзяржаўную ўстанову. Збірацца на нарады начальнікі любяць з раніцы, ведама ж – адраіўся з раніцы і ўвесь дзень вольны. Спяшаюся, напрасткі праз Піянерскі сквер шыбую, да-

ходжу да праспекта. Спыняюся ля пешаходнага пераходу, а тут замінка – бясконцай стужкай імчаць аўтамабілі, а светлафор ці ўжо, ці яшчэ не працуе. Чакаю, пакуль стае цярпення. Патроху назбіралася і мінакоў. От жа нахабства, – думаю сабе. Сам жа, калі за руль сядаю, дык кожнага пешага прапускаю, а тут – аніякай да цябе ўвагі. Нервуюся і пачынаю разважаць услых: "Дык што ж гэта робіцца? Ну, падумаеш, не працуе светлафор. Але ж тут "зебра" намаляваная і можна вуліцу пераходзіць". Заўважыўшы побач з сабою зняможанага чаканнем пенсіянера, падбадзёрваю яго ды і сябе заадно: "Гэта, – кажу яму, – не для аўтамабіляў, гэта для нас вуліцы. І пераход для нас, пешаходаў. Трэба проста наважыцца і пераходзіць, нідзе машыны не падзенуцца, павінны спыніцца. Праўда ж наша!" Відаць, я ўрэшце рэшт пераканаў пажылога чалавека, бо ледзь толькі сам падняў нагу, каб зрабіць першы крок, дзядок рашуча рушыў на праезную частку, проста ў імклівую плынь легкавікоў. Дзіка завішчэлі тармазы, удар, крыкі. Высокае цела пажылога чалавека, нязграбна зрабіўшы ў паветры сальта, адляцела на некалькі метраў наперад. Аўтамабільны рух спыніўся, усчаўся вэрхал, мітусня і гвалт. З чырвонай іншамаркі выпаўз збялелы ўшчэнт дзяцюк. Пенсіянер не варушыўся. "Капцы", – падумаў я, і ціхенька выграбся з натоўпу цікаўных гараджанаў. Адчуваючы, як пад чорным палітонам да спіны мокрай анучай ліпне свежая з раніцы кашуля, пакрочыў на нявартую цяпер ужо нічога, нараду. Ззаду, прыспешваючы маю хаду, падвывала сірэна "хуткай дапамогі".

Дзядок той неяк выжыў, я спецыяльна высвятляў праз свае журналісцкія каналы, але моцна пацярпеў.

Ад таго часу лічу сябе правакатарам, можа, нават горшым за таго гістарычнага таварыша Азефа, які сваім прыкладам падбухторваў сяброў-рэвалюцыянераў да дзейнасці супраць цара. А яшчэ ніколі не пераходжу ў тым гіблым месцы вуліцу. Вось з гэтым і жыву.

*2005*

## Левая рука

Я шаную сваю левую руку, бо ёсць за што. Не, я зусім не ляўшун, тут справа больш сур'ёзная, лёсавырашальная. Сваёй левай я абавязаны жыццём, і нават двойчы.

Падлеткам, гарачым і бескампрамісным, я неабачліва адстойваў тое, што падавалася мне справядлівасцю, не выбіраючы, часам, сродкаў. Неяк чэрвеньскім надвячоркам у прыдняпроўскай вёсцы набрыняла, быццам летняя хмарка хуткім дажджом, вялікая бойка. Нас – толькі двое, яны – утрох. Мой сябра і цёзка, на жаль, не зможа ні пацвердзіць, ні абвергнуць гэтых слоў, паколькі праз дзясятак гадоў пасля таго чорнага дня "скочыў" (альбо яго "скочылі") з шостага паверху, ды больш не падняўся. А тады... Тады мы адчувалі, што вось-вось будзе кепска. Успацелая правая рука балюча сціскала кавалак арматуры, адрэналін разрываў грудзі. Раптам пачалося... віхура ўдараў, кругаверць раз'ятраных целаў, яшчэ ўдары... і дзіва! – яны са...цалі і з шумным сапеннем адыйшліся. І тут позірк мой на нейкі мікрон імгнення зафіксаваў штосці нестандартнае. Спрацаваў інстынкт самазахавання: левая рука аўтаматычна прыкрыла твар. Прагучаў стрэл з абрэзу паляўнічай стрэльбы, шрот суха ляснуў па сцяне пахілай драўлянай пабудовы, прайшоў вышэй галавы. А мы пабеглі – праз раўчук у бліжэйшы хмызняк.

Ужо добра адбегшыся ды перавёўшы дых, я заўважыў кроў на вялікім пальцы левай рукі. Прайшоў час... Рана загаілася, і на пальцы стаў добра бачны шэры шнарык. Я часта яго абмацваю, адчуваючы, як пад скурай перакотваецца драбінка свінцу.

Другі раз левая рука распарадзілася маім жыццём гадоў праз дваццаць пасля першага здарэння...

Аднойчы ўзімку, падчас багатага сумоўя ў цёплай кампаніі, шчодра абстаўле-

нага litрознакаліберным бутэлькамі з алкаголем, мне закарцела большага. Гомельскі цынік-паэт Класік, у ягога я гасцяваў, літасціва дазволіў прыхапіць з-за стала нейкую дзяўчыну. Горад ахінала марозная ноч, не пакідаючы выбару: мы пакрочылі ў адзінае “прыстойнае” ў гэты час месца – у арандаваны мною ў прыватным сектары гараж, ва ўлонне аўтамабіля. Рыпелі амартызатары і спружыны, жарсна стагнала начная спадарожніца. Урэшце, спехам апрануўшыся, адчынілі дзверы гаража, каб праз гаспадарскі падворак выбрацца на вуліцу. У месяцовым халодным ззянні перада мною бліснула маланка і левая рука імгненна ўскінулася ўверх. Удар сякеры. Крык. Не адчуваючы болю, я здзіўлена глядзеў на руку, якая дзіўным чынам стала карацейшай: мае пальцы віселі на недасечаных жылах і кавалках скуры... Аднак галава, якой магло б быць безумоўна кепска, засталася цэлай.

Пасля трохгадзіннай нейрахірургічнай аперацыі быў час падумаць. Наступныя паўгоду прайшлі ў гіпсе, балючых працэдурах з падключэннем да рукі электрычнага току, доўгіх трэніроўках пальцаў... Нарэшце мая левая ажыла і па-ранейшаму магла вольна круціць дулі.

Я не “здаў” органам таго чалавека з вуліцы Галавацкага, які намагаўся пазбавіць мяне галавы, я дараваў яму толькі з аднае прычыны: ён, пачуўшы шум у гаражы, выбег з сякерай бараніць чужое майно, мой аўтамабіль.

Так, сапраўды, я моцна шаную сваю левую руку, бо ёсць за што. Я нават прадставіў яе да ўзнагароды – запясце левай зараз упрыгожвае гадзіннік “Rolex”, праўда, высветлілася нядаўна, што гэта ўсяго толькі кітайская падробка.

*2003*

## Сіртакі на славянскіх тэрыторыях

Мы заліваліся абсэнтам у брусельскай кавярні “Кветка з пазалочанай паперы”. Чыталі вершы. Арцюр Рэмбо шалёна дэкламаваў “Парыжскую оргію”:

...Пі – да бяспамяцтва! Калі ж узыйдзе палкі
світанак, каб тут па-вар’яцку днець,
Вы будзеце сядзець, ванітныя над чаркай,
Бяздумна ў бель сляпучую глядзець?..

Затым была чарга знерванаванага Поля Верлена:

...Совы, разняўшы цяжэзныя крылы,
З прыцемкаў мякка вяслуюць і шэра,
Млечны Шлях пенячы, ціха Венера
Долу сыходзіць... Ноч наступіла...[1]

Я, у сваю чаргу, не паспеў завяршыць гэты паэтычны марафон: французікі гучна пачалі лаяцца і, ледзьве не перакуліўшы зграбны столік, выскачылі на бульвар. Пачуўся стрэл...

Нечакана падняў мяне на ногі тупат і крык: недзе на першым паверсе летняга дамка грукацела, чулася бязладная лаянка. Прачынаючыся канчаткова, адчуў моцны галаўны боль, – відаць, учора добра перабралі і зусім не з Рэмбо і Верленам, – затым спусціўся па хісткай лесвічцы ўніз.

Мой шэф Барбарос і бізнесовец Валер хаатычна і ліхаманкава збіралі рэчы.

“Што ты дрыхнеш? Праспалі! Збірайся хутчэй, праз гадзіну на працы трэба быць, эфір жа, б...”

---

[1] З верша “Шарая гадзіна”. Пераклад Алега Лойкі.

Сапраўды трэба. У 9-00 у шэфа пачынаўся прамы эфір на радыё, мяне таксама чакаў ранішні рэпартаж, а да горада паўсотні кіламетраў.

Я моўчкі пацягнуўся да бутэлек – пуста. Што ж, цяпер дакладна трэба збірацца.

Пад домам соп, намагаючыся завесціся, раздзяўбаны "Пассат".

– Ну што, аролікі, удаўся уік-энд? – саркастычна прыгаворваў кіроўца Валер. – Папярэджваў жа, нанач не бухаць.

"Пассат", злосна гыркаючы, ляніва поўз лабірынтамі вузкіх вулачак дачнага кааператыву, размешчанага каля самай украінскай мяжы. Сляпіла сонца, але ўваччу ўсё адно было чорна.

Лясная дарога прывяла да шашы каля памежнага пераходу "Новая Гута".

– Слухай, Барбарос, там жа крама ёсць, можа, хоць піва якога ўзяць, галава трашчыць, – я кіўнуў галавой у бок мяжы. Прапанова была прынятая моўчкі.

Спыніліся. Шэф, намацаўшы ў кішэні пашпарт, пашыбаваў да памежнікаў.

Мозг адлічваў хвіліну за хвілінай, а Барбароса ўсё не было. З'явіўся амаль праз гадзіну, злосны, з трыма пляшкамі чарнігаўскага піва:

– Казлы! Куды вы мяне накіравалі? Гэта ж падстава! Мяне з пропускам адправілі да ўкраінскіх памежнікаў, каб тыя паставілі сваю пячатку, інакш назад у Беларусь не прапусцяць. А гэта кіламетры два хады.

– А хіба мы ведалі пра тое, – суцяшаў я сябра. Аднак было не да спачуванняў. Імгненна адляцелі коркі, піва з булькатам улілося ў глыбіні нашых зняможаных целаў.

Было зразумела, што на працу мы спознімся. Барбарос нервова некаму названьваў, кагосьці ўгаворваў, відаць, шукаў, хто заменіць яго ў эфіры. Нарэшце, супакоіўся.

Аднак абудзіўся я:

"Ну, дык куды цяпер спяшацца? Усё разрулілася, дык, можа, галовы палечым, бо піва без гарэлкі – як аазіс без пальмы. Валер, тармазні, вунь крама".

Спыніліся ў прыдарожнай вёсцы, каля аднавокага будынку з аблезлым надпісам "Магазин".

Нас непрыемна ўразіла нахабная абвестка: "Переучет". Аднак адступаць не было куды. На роспачны грукат у металёвыя дзверы азвалася маладая сонная прадавачка: "Вар'яты, паслеплі ці што, пераўчот у нас".

У ход пайшла дыпламатыя, скаргі на слабое здароўе, якое тэрмінова патрэбна паправіць, і абяцанні не застацца ў даўгу.

– Давайце, заходзьце хутчэй, – буркнула маладзіца, зачыняючы ўваходныя дзверы на ключ.

У гандлёвай залі пералічвалі розныя слоікі і бляшанкі яшчэ дзве служкі Меркурыя.

Спехам набылі пляшку гарэлкі, тры шакаладныя "Алёнкі" ў падзяку.

З дазволу гаспадынь "дзюбнулі" проста на прылаўку. Валер самотна жлукціў мінералку з пластыкоўкі.

– Маглі б і нас пачаставаць, – азвалася загадчыца крамы.

Мы адрэагавалі імгненна і адкруцілі галаву яшчэ адной пляшцы "Верасовай".

Весела ўлюлюкаў транзістарны прыёмнік, вялася жвавая і бязладная гамонка.

"Слухайце! – раптам гучна скамандаваў нардычны бландын Барбарос. – Слухайце, што гучыць па радыё, гэта ж сіртакі, сіртакі на славянскіх тэрыторыях. Усе ў кола, танчыць!"

Не, няможна забыцца на тую чароўную засяроджаную імправізацыю пасярод вясковай крамы, усяго ў некалькіх кроках ад ненькі Украіны і за тысячу кіламетраў ад Грэцыі. Нашыя павольныя рухі ўсё паскараліся і паскараліся, ператвараючыся ў імклівае кола жыццяў, лёсаў, спадзяванняў. А потым... потым будзе заўтра.

*2003*

## Нож і крыж

Яшчэ задоўга да шостай раніцы я ціха выйшаў з кватэры і рушыў на прыпынак: карцела хутчэй пакінуць гэты гнюсны мянтоўскі горад.

Крыху адыйшоўшыся ад шматпавярховіка, угледзеў на клумбе нож – вялікі нож з чорным дзяржалам і доўгім бліскучым лязом.

"Ну вось, ізноў нож". Нешта занадта часта ў апошнія гады натрапляю на нажы, знаходкі гэтыя – як нейкае насланнё. Вось жа залетась у лесе пад Заслаўем знайшоў самаробную "фінку". Збаяўшыся трымаць яе пры сабе, аддаў пісьменніку Верацілу. А крыху раней, у Гомельскіх парках натрапляў на нажы – з інтэрвалам у месяц – разы тры; нават жонку гэтым заразіў: знайшла была аздоблены ножык у скверыку насупраць паліклінікі.

Па вушы мы ўжо сытыя такімі знаходкамі.

Прыпыніўся, узяў нож у рукі, агледзеў. Прыгожая рэч. Але... адкуль ён тут, на праспекце? Нехта згубіў? Дык з такімі нажамі не прагульваюцца проста так па горадзе. Нешта тут не тое. А раптам гэтым нажом пырнулі кагосьці, а потым выкінулі дасканалую прыладу забойства? Тады гэта і не нож зараз, а рэчавы доказ.

"Цалкам таксама верагодна, што яго падкінулі следчыя, каб лох, кшталту мяне, пакінуў на нажы свае адбіткі, а самі чакаюць моманту ў адным з прыпаркаваных побач аўтамабілях?" – ліхаманкава разважаў я. Нават агледзеўся, ці не сочаць за мной.

Затым асцярожна паклаў нож на месца і намерыўся ісці далей. "Стоп! Там жа засталіся адбіткі маіх пальцаў!" Ізноў падняў нож з зямлі і, заціснуўшы крысом курткі, старанна выцер дзяржала і лязо насоўкай. Цяпер можна спакойна рушыць далей.

"Відаць, гэта было нейкае выпрабаванне, і ў гэтай сітуацыі я зрабіў так, як зрабіў".

На гэтым мае ранішнія прыгоды не скончыліся. Літаральна праз сотню крокаў пад нагамі нешта зыркнула. Прыгледзеўся – срэбны, расчытаў: 925 пробы, крыжык з выяваю распятага Хрыста.

"Крыжыкі мне дагэтуль не патрапляліся. Што гэта, новы знак лёсу? Як патлумачыць такую знаходку? Крыж, як і нож, – разважаў я, – мае асацыяцыі са смерцю, альбо віной. Ну, і з вечным жыццём пасля смерці. Нездарма ж многія малююць выяву крыжыка пасля жалобнае даты".

Я губляўся ў здагадках, а потым нахіліўся і падняў каталіцкі крыжык з ходніку: нядобра, калі ляжыць на зямлі сакральны знак.

Правільна гэта альбо не, але я зрабіў свой выбар.

*2009*

### Як паміраюць буслы

Наглядзеўся я на гэтае гора, болей не хачу. Лепей ніколі не ведаць і, крый Божа, не бачыць, як паміраюць прыгожыя, як людзі, птушкі.

Даўнавата гэта было. На выходныя быў выбраўся неяк на радзіму, да маці ў вёску Заспа. Малодшая сястрычка выбегла з хаты і, не хаваючы радаснага хвалявання, павяла мяне на гаспадарчы двор, дзяліцца загадкавай навіной. Я і праўда быў моцна здзіўлены: па двары, у атачэнні курэй, ганарліва дэфіляваў бусел, а з-за кастра роўна складзеных дроваў незадаволена выглядваў ускудлачаны і ашалелы ад з'яўлення нахабнага канкурэнта певень. Малады бусел невядома з якой прычыны не змог адляцець ў вырай; ці то крыло падвяло, ці то старэйшыя буслы не дапусцілі яго да кліну, і тады маці, пашкадаваўшы гаротніка, прынесла птаха дахаты. Так і прыжыўся ён на гаспадарчым двары, прызвычаіўся да няхітрай ежы, якая перападала ад маці, а неўзабаве цыбатая птушка зрабілася зусім ручной. Кожны раз, прыязджаючы ў вёску на выходныя, я любаваўся гэтым дзівосным відовішчам, мацаў бусліную чырвоную дзюбу і спачуваў абражанаму да смерці пеўню. А яшчэ любіў размаўляць з ім. Вось жа мяркуюць, што ў бацяноў ёсць душа і яны разумеюць людскую гаворку.

Узімку бусел збольшага сядзеў у хлеве разам з курамі і толькі ненадоўга выходзіў, нязграбна перастаўляючы худыя пруты ног, падзівіцца на снег.

А потым, як і мае быць зімою на вёсцы, маці забіла кабанчыка. Свяжынка сталася святам не толькі для людзей, але і для схуднелага ад вымушанага вегетарыянства бусла, якога сваякі стараліся шчодра пачаставаць і свежымі вантробкамі, і мяскам з сальцам. Раніцай наступнага дня мёртвага бусла аднеслі да ірвішча і прысыпалі снегам. Нецяжка было здагадацца, што цыбаты курыны ахоўнік не змог пераварыць столькі тлустай ежы і памёр, – пра бусла ніколі не скажуць “здох”, бусел памірае, -– ад нястраўнасці.

Праз некалькі год смерць напаткала яшчэ аднаго знаёмага бацяна. Гэта здарылася ў прыгожай вёсцы Отар, на Чачэршчыне, дзе ўлетку я любіў бавіць вольныя часіны ў цешчы. Аднаго ліпеньскага дня з-за недалёкага Сожа раптоўна насунуліся чорныя хмары, загрукацела і заблiскала так, як ніколі яшчэ ў гэтых мясцінах на памяці вяскоўцаў не здаралася. Маланкі перылі штохвілінна адна за другой, ад перуновых стрэлаў дрыжэлі шыбіны ў вокнах. Калі хуткая навала прайшла, з пашы прыбег задыханы пастух і ўсхвалявана паведаміў пра няшчасце: пярун забіў карову. Пакуль усе разам збегалі на луг, пакуль у трывозе чакалі ветэрынара, а затым трактар, каб тушу каровы адвезці да скуралупаў, прайшло нямала часу. Толькі надвячоркам я выйшаў у сад сабраць у кошык пазбіваныя навальніцаю паданкі белага наліву. І адразу ж, пад электраслупом, накрытым шырокім капелюхом буслінага гнязда, заўважыў нерухомае цела вялікай птушкі: маланка патрапіла якраз у слуп. Мне падаецца, гэтая нечаканая страта ўразіла і прыгняла яшчэ болей, чым гібель каровы-карміцелькі. Як жа так! Чытаў жа неаднойчы пра тое, што “дзе бусел гняздуецца, дык там перуны не б’юць і град не падае”. І вось, насуперак усялякай міфалогіі і векавым народным прыкметам, – бязлітасны пярун забівае бусла.

Узгадваю і такое. Неяк паспытаўшы нядоўгага рыбацкага шчасця на Дняпры каля вёскі Красны Мост, вырашыў наведаць і мясцовыя могілкі. Тут, на стромкім беразе роднай ракі, пахаваныя мае дзядуля з бабуляй, тут жа магіла заўзятага рыбака бацькі, а далей, у гушчыні пахаванняў – блакітны металёвы крыж на магіле паэта Віктара Стрыжака.

Задуменны і ўнураны ў сябе пасля спаткання з памерлымі, я пакрочыў прырэчнай вулкай у бок Заспы. Праз дзясятак крокаў маю ўвагу прыцягнула бусляня, якое бездапаможна ляжала ў траве ўзбоч дарогі. Відаць, выпала з гнязда і знясілела. Што рабіць? Ізноў забіраць дадому, памятаючы сумны досвед ягонага папярэдніка? Не. Адшукаў у вёсцы нейкую бляшанку, нацадзіў з калонкі вады, паставіў каля самотнай птушкі. З торбы дастаў некалькі спруцянелых ужо акунькоў. Паклаў побач. Бусел не палохаўся мяне і даверліва глядзеў чорнымі гарошынамі вачэй, нібыта прасіў дапамогі. Я сыйшоў з прыкрым пачуццём уласнай подласці. Наступнай раніцай, кіруючыся ізноў на рыбалку, спрабаваў адшукаць тое буслянятка і, урэшце, знайшоў... праз дзясятак метраў пад плотам свежыя косткі і разадраныя сабачымі ікламі птушыныя крылы.

*2009*

* * *

*А гэта што за пачак выцвілых капэртаў, перацiснутых гумкаю? Праз хвіліну перабіраю стосы лістоў, напісаныя амаль нечытэльнай лацінкаю, якія дасылаў мне ў войска сябра Алесь Бяляцкі, а потым, калі яго таксама абулі ў кірзачы, пісаў у сваю чаргу мне з далёкай Свярдлоўскай вобласці, дзе давялося яму стаць механікам-кіроўцам браніраванага цягача. Колькі тут усяго маладога, пякучага! Але, гэта ўжо зусім іншая гісторыя...*

Уладзімір Дрындрожык



...Беларусь –

краіна пакрыўджаных музыкаў...

# Гісторыя беларускае музыкі – суцэльная белая пляміна

***Гутарка Уладзіміра Дрындрожыка з Віктарам Сямашкам***

***...Колькі год таму. Невялічкае памяшканне аднаго з клубаў Мінска. Непрадказальныя, смелыя, авангардовыя найгрышы на духавых, знітаваныя пасродкам дыялогу з гукамі электрагітары ды перкусіяў... Флейтыст з запамінальнай знешнасцю ў складзе імправізацыйнага гурта «Князь Мышкін»...***

***Пазней... Гармідар ля сцэны... Песні аднаго акустычнага гурта на вершы Караткевіча. Палётная, гарманічная імправізацыя на класічнай флейце.***

***Менавіта гэтыя два кантрастныя ўспаміны пра незвычайнага чалавека й цікавага мінскага музыку – Віктара Сямашку – зафіксаваліся ў маёй памяці.***

***І вось, нарэшце, мне надарылася магчымасць задаць некалькі пытанняў Віктару Сямашку.***

***– Віктар, раскажы крыху пра сябе.***

– Я – гэта мае продкі шмат у чым. Пэўна, варта пачаць з іх. Па бацькоўскай лініі паходжу са старога беларуска-польскага роду Сямашак. Прозвішча утварылася ад імя Сямён, якое азначае “пачуты Богам”. Мацярынскі род Беляковых паходзіў з віцебскіх старавераў. Бацька таксама з малога ўзросту жыў у Віцебску. Пасля заканчэння інстытута бацькам прапанавалі застацца ў Менску. Маці выкладала сцэнрух у цяперашняй Акадэміі мастацтваў, многія зараз вядомыя акторы – ейныя студэнты. Бацька быў мастаком-манументалістам, ягоныя працы аздабляюць будынкі ў самых розных кутках Беларусі. Зараз хачу іх усе наведаць. Менавіта дзякуючы бацькам я – той, хто я ёсць: беларус, каталік, музыка, журналіст...



*Віктар СЯМАШКА*

***– Ці даўно пішаш вершы ды граеш? У колькіх гуртох граў, граеш? І якія з іх для цябе самыя дарагія і чаму? Якому накірунку аддаеш перавагу ў сваёй творчасці?***

– Пішу й граю колькі сябе памятаю. Колькасць гуртоў не падлічваў. Звычайна я трапляў у гурты, якія мне моцна падабаліся, трапляў па запрашэнні. Усе яны давалі дадатковы досвед, развівалі нейк мае здольнасці – “Князь Мышкін”, “Нагуаль”, MouchesAL’Orange... Паралельна я заўсёды займаўся ўласнай, але не публічнай творчасцю – хатнім гуказапісам. Захавалася мноства запісаў, зробленых яшчэ на пачатку 1990-х. З 2011 года ў мяне з’явілася нахабства выступаць сольна й распаўсюджваць свае гукавыя напрацоўкі праз Сеціва. Цяпер час ад часу граю з “ПаЦі”, “Балцкім Субстратам” і “ТонкіХодам”. Вельмі карысным было гранне народных танцаў з капэляй Аляксея Крукоўскага “На Таку”. Але магістральным кірункам для мяне застаецца, як і раней, спантанная імправізацыя. Гэты падыход я практыкую ў сваіх аднаасобных хатніх праектах, з ансамблем “Фантастычныя плыўцы” альбо ў фармаце “Сямашка й Кумпанія”.

***– Як я заўважыў, ты аддаеш перавагу духавым інструментамю. А на чым яшчэ граеш?***

– З акадэмічнага пункту гледжання граць я не ўмею ні на чым. Усе інструменты асвойваў самастойна. Ад музычнае школы, якую я кінуў з-за моцнага псіхалагічнага дыскамфорту, магчыма, засталася толькі пастаноўка пальцаў. Нотнай граматай не валодаю й не збіраюся. Больш-менш добра атрымоўваецца граць на кларнэце й флейце, часам ужываю фартэпіяна... У прынцыпе, гук магу здабыць амаль з любога інструманта, бо я іх усе вельмі люблю. Праўда, нейкія акорды магу браць толькі на гітары з перавернутымі струнамі, каб самая тоўстая была знізу. А кларнэт мне патрэбны толькі з нямецкай аплікатурай, такія ўжо рэдка прадаюцца. Увогуле, натуральнае гуказдабыванне для мяне ёсць вялікім цудам.

***– Калі ласка, распавядзі пра свой аўтарскі праект радыё-праграму «Кракатук». Што азначае назва? Якія мэты перад сабой ставіш? Якую місію выконваеш?***

– Імя “Кракатук” прыйшло з дзіцячых успамінаў. Я нават забыўся, што яно

з казкі Гофмана. У маіх асацыяцыях гарэх-кракатук сімвалізуе нешта моцнае, непераможнае, таемнае, мужчынскае й аднначасова вельмі музычнае. Назве адпавядае й гукавое аздабленне праграмы – бубнова-перкусійнае. “Кракатук” працягвае ідэю маёй першай аўтарскай перадачы “Новая зямля”, што пачала выходзіць 10 год таму. Асноўны прыярытэт – выключна беларуская музыка ўсіх часоў і стыляў, і каб амаль кожны выпуск быў з некаторай прэтэнзіяй на даследаванне. Мэта простая: інфармаваць людзей пра тое, наколькі цікавае і разнастайнае нашае музычнае мастацтва. Бо яно як Сусвет – бесконцае й увесь час пашыраецца. Таксама даследуючы старое, растаўляючы прыярытэты ўва ўмоўнай цяперашчыне, можна праграмаваць будучыню. А музыка – яна, як малітва, здольная змяняць рэчаіснасць тонкім і не адразу заўважным чынам.

***– Дзе можна праслухаць выданні перадачы? Як паслухаць анлайн?***

– Усе выпускі я змяшчаю на старонцы http://vvsiamashka.podfm.ru/krakatuk/, там можна й падпісацца, націснуўшы на памаранчавы квадрацік ля надпісу “Krakatuk (RadyjoRacyja)”. Анлайн можна паслухаць у эфіры “Радыё Рацыя” штосераду а 20:05 і ўноч з пятніцы на суботу а 01:05.



*Фэст Пэрпетум Мобіле на малой сцэне Купалаўскага тэатру, 2014. Фота Інгі Таркачовай.*

***– Чуў пра тое, Віктар, што маеш вялікі архіў дыктафонных запісаў. З якога года і чаму пачаў запісваць? Што запісваў напачатку? Якую ролю адыгрывае гэты “скарб” цяпер?***

– Запісваць розныя канцэрты на дыктафон я пачаў недзе з пачатку “нулявых” гадоў. І такім чынам стварыў нешта накшталт “Анталогіі сучаснае беларускае музыкі” першага дзесяцігоддзя трэцяга тысячагоддзя. У гэтай анталогіі каля сотні тамоў, а ў кожным томе па 2, а то й па 3 дыскі. Зараз мне гэта падаецца вар’яцтвам і нейкай празмернай сублімацыяй. Але ў дадзеным зборы шмат унікальных рэчаў, які я часам стаўлю ў сваіх перадачах. Тады было жаданне зафіксаваць і сістэматызаваць усё, што адбываецца, каб яно не адышло ў нябыт. Тым больш, што яшчэ не былі так развітыя сацсеткі ды розныя гаджэты.

***– Ці цяжка распавядаць пра музыкаў, ацэньваць іх творчасць, пры гэтым самому з‘яўляючыся музыкам?***

– Крытыкам я сябе не лічу. Але ўласнае меркаванне часам маю й таму часам яго выказваю, калі лічу патрэбным ці калі мяне просяць. Мяркую, што крытыку пажадана хоць трошкі займацца калі не музыкай, тое яе вывучэннем. Гісторыя беларускае музыкі – адна суцэльная белая пляміна. Сучаснасць трэба бачыць у кантэксце, ува ўзаемасувязі эпохаў. Мне асабіста цяжка не распавядаць ці ацэньваць, а прагназаваць рэакцыю музыкаў на мае словы. Бо якія б я нават абгрунтаваныя кампліменты ні казаў, аўтар можа моцна пакрыўдзіцца на нейкую дробязь. У нейкім сэнсе Беларусь – краіна пакрыўджаных музыкаў. Сёння з табой вітаюцца, заўтра – не, паслязаўтра кідаюцца ў абдоймы...

***– У чым складаюцца несумнеўныя выбітнасці беларускае, музычнае культуры? Што маюць беларусы такога, чаго няма больш ні ў кога?***

– Па-першае, канешне, фальклор. Гэта самая беларуская музыка, якой ніхто, акром нас, не мае. Фальклор – гэта сэрца, цэнтар, вакол якога віруюць усе астатнія кірункі й жанры. Любая музыка, створаная тут, будзе несці сакральны код гэтае зямлі. Нават калі ўзяць наш джаз, то ягоная тутэйшая гісторыя неадрыўна звязаная з народнай музыкай ад самага пачатку. Маю на ўвазе роднасныя джазу танцы, што прыйшлі на Беларусь пасля Першае сусветнае вайны. Адметнасць беларускае музыкі ў яе архаічнасці – тэксты абрадавых спеваў маглі змяняцца, але мелодыям можа быць некалькі тысячагоддзяў. Варта дадаць і вялікі арсенал беларускіх народных інструментаў. Па-другое, чамусьці менавіта ўраджэнцы Беларусі моцна паўплывалі на музычную культуру Расеі, Польшчы, Амерыкі – прыкладаў таму маса. Менавіта з нашай тэрыторыі паходзіць незлічонае мноства сусветна вядомых талентаў – Агінскі, Манюшка, Глінка, Шастаковіч, Стравінскі, Бэрлін, Глебаў, Немэн... Па-трэцяе, на асаблівасць айчыннае музыкі паўплывалі ўнутраныя міжканфесійныя і міжэтнічныя працэсы, калі культура славянаў судакраналася з балцкай, беларуская культура з габрэйскай ці польскай і г.д. То бок, нашая музыка наколькі аднародная, настолькі й пярэстая, і таму вельмі каштоўная сама па сабе. Па-чацвертае, толькі цягам XX ст. нашая культура, у тым ліку музыка, перажыла тры наймацнейшыя выбухі, якія яшчэ не да канца ўсвядомленыя. А зараз беларусы граюць ва ўсіх мажлівых жанрах і паджанрах. Па-пятае, нашая музыка мае свой смак, але лепей за нас яго адчуе дасведчаны замежнік. Напэўна, гэта смак туманоў, балотаў, азёр, рэк, соснаў, імху, шыпшыны, грыбоў, квасу, спелае пшаніцы, хлебу з кменам, балтыйскага ветру...

***– Чаго, на твой погляд, бракуе беларускім музыкам-творцам, сучаснаму тутэйшаму “андэрграўнду”?***

– Не хапае самааналізу, цвярозых ацэнак, незалежнасці ад рэакцыі публікі, веры...у шырокім сэнсе слова. Гэта ўнутраны аспект. А што звонку? Дзяржава па-ранейшаму ўсяляк перашкаджае сапраўдным творцам сваімі дэкрэтамі, пастановамі, “гастролькамі”, “чорнымі спісамі” ды іншай лухтой. То бок, не стае вольнае прасторы.

***– Што свежага было запісана з тваім удзелам за апошні час?***

– Першым рэлізам гэтага года стала “Калядзея”. Разам са мной у гэтым праекце паўдзельнічаў дзясятак музыкаў. Мы чытаем вершы, імправізуем... Я лічу, што атрымаўся адзін з найбольш удалых рэлізаў у рэчышчы калектыўнае непадрыхтаванае імправізацыі. Хутка мусяць выйсці іншыя мае запісы на чэшскім і балгарскім лэйблах.

***– Дзе наогул гастраляваў? Якія канцэрты запомніліся больш за ўсё? Дзе яны былі?***

– Выступаць з імправізацыйнай музыкай я пачаў з 1998 года. Таму за гэты час канцэртаў і ўсялякіх паездак здарылася мноства. Сольна альбо ў складзе розных гуртоў, зборных брыгадаў я аб’ездзіў усе абласныя цэнтры Беларусі, многія мястэчкі ды вёскі. Неаднаразова былі выступы ва Украіне, Расеі, Летуве, Польшчы... Запомнілася, як мы з Лявонам Паўлёнкам з гурту “Нагуаль” ездзілі ў Парыж у 2006 годзе ды амаль уся праграма будавалася на нашым дуэце. Запомніўся выступ у Магілеве з “Князем Мышкіным”, пасля якога мясцовыя браткі пагражалі мне забойствам (пэўна, гэта быў такі жарт). Запомнілася й цэлая серыя выступаў на ганку арт-буфету “Ньютон” у Менску. Вельмі прыемная гастроль была летась па Летуве: чатыры дні, чатыры канцэрты, чатыры гарады. Там у асноўным я граў адзін з лёгкай дапамогай Рамана Яраша. Вельмі хвалюючыя выступы былі ў музэі Азгура ў межах праекту “Кінемо”, калі давялося агучваць нямыя фільмы... Спадзяюся, шмат чаго цікавага яшчэ наперадзе.

***– Хто твой любімы замежны й беларускі пісьменнік, паэт?***

– Мастацкае літаратуры я амаль не чытаю яшчэ з дзяцінства. Ні бацькі, ні


Выступ у музеі Азгура, 2012. фота Аляксандра Канончанкі

школа аніяк не маглі мяне прымусіць. Я разумею, што вымалёўваецца партрэт гэткага прынцыпова невука й дылетанта. Так яно, мажліва, і ёсць. Я дакладна – не прыклад для пераймання. Летась мне прачыталі нешта з Разанава – я адчуў, што гэта геніяльна. Вельмі люблю вершы Уладзя Лянкевіча, якія цяпер гучаць у песнях “ТонкіХода”. Шмат чаго добрага чуў у аўтарскім чытанні Міхала Бараноўскага, Васіля Панкратава. Трохі раней мяне ўразіла паэзія Вальжыны Морт, Віялеты Пачкоўскай, Вольгі Чайкоўскай. Быў агаломшаны паліндрамічнымі паэмамі Віктара Жыбуля. А з класікаў мне, пэўна, найбліжэй Багдановіч і Міцкевіч.

***– Якія беларускія перыядычныя выданні цябе цікавяць?***

– На жаль, з папяровае прэсы не чытаю нічога. Амаль заўсёды ў мяне адкрытыя тры сайты, што пішуць пра беларускую музыку – Tuzin.fm, Ultra-music.com, Experty.by.

***– Што натхняе больш за ўсё?***

– Толькі вера ў Бога.

***– Вядома, што ты беларускамоўны. Калі прыняў для сябе рашэнне аддаць перавагу тутэйшай мове і наколькі плаўным альбо рэзкім быў пераход? Ці прыходзіцца табе зараз, часам, размаўляць па-руску?***

– З 2004 года я пачаў пісаць вершы выключна па-беларуску. Менавіта так і вырашыў тады: з Новага года больш ні радка па-расейску. Перад тым у мяне пэўны час ішлі гібрыдныя дзвюхмоўныя вершы. Але ў жыцці зараз я карыстаюся абедзвюма мовамі + размоўнай ангельскай. У сям'і мы гаворым выключна па-беларуску, таму для двух маіх сыноў беларуская мова – родная без усялякіх абмовак.

***– Якія маеш думкі наконт становішча з роднай мовай у нашай краіне? Якія прагнозы даш?***

– Паколькі абставіны нагадваюць пачатак новага культурніцкага выбуху, то па аналогіі з ранейшымі ўжыванне беларускае мовы мусіць толькі пашырацца. У прынцыпе, мы і назіраем гэты працэс. Скажам, падобныя моўныя курсы, кшталту “Мова Нанова”, ладзіліся і падчас беларусізацыі 1920-х гадоў, і падчас Адраджэння напрыканцы 1980-х. Толькі зноў жа дзяржаве лепей у гэты працэс не лезці. Мне падаецца, што рэжым, які мы трываем ужо болей за 20 год, хутка будзе змушаны альбо сысці й прызнаць сябе банкрутам, альбо, прынамсі, неяк радыкальна перафарматавацца.

***– Як любіш бавіць вольную часіну?***

– Сплю. Альбо едзем з сям'ёй на лецішча, ці ў Наваградак, ці яшчэ куды. Улетку збіраемся ў Вэнтспілс.

***– Што б пажадаў жанчынам і дзяўчынам напярэдадні вясновага свята? Што параіў бы паслухаць?***

– Пажадаў бы не баяцца рабіць першы крок у стасунках. А слухаць у гэты час

можна традыцыйныя веснавыя спевы – вяснянкі, валачобныя, юраўскія спевы... А лепей самім вясну гукаць. Жанчына – носьбіт гэтае рэчаіснасці, гэтае прасторы, яна павінна адчуваць непарыўную сувязь з зямлёй.

***– Як ты ставішся да праграмы «Аэростат» Барыса Грэбеньшчыкова, якая па фармаце ў чымсьці нагадвае «Кракатук»?***

– У нейкім сэнсе ўсе аўтарскія музычныя радыёперадачы ствараюцца па адной схеме: словы аўтара, што перамяжоўваюцца музыкай. Я яшчэ часта дадаю інтэрв’ю, каментары, гутаркі... Між іншым, мая першая передача “Новая зямля” пачала выходзіць раней за “Аэрастат”, які я вельмі шаную. Таксама слухаю перадачы Андрэя Гарохава, Пятра Мамонава. Файная перадача была ў Сяргея Пуксты на “Радыё Культура”. Там увогуле шмат цікавых праграмаў.

***– Якія твае творчыя планы на будучыню. Чаго чакаць у бліжэйшы час ад сольнае ды супольнае творчасці, ад «Кракатуку»?***

– Я жыву сённяшнім днём і асаблівых планаў не будую. Што тычыцца творчасці, то безумоўна будуць новыя рэлізы й новыя кнігі вершаў. Што тычыцца радыёпраграмы, то зараз збіраю матэрыял на дзве глабальныя тэмы: “Гісторыя беларускага джазу” і “Авангард 1980–1990-х гг”. Па гэтых тэмах трэба запісаць вялікую колькасць інтэрв’ю, адшукаць аўдыёзапісы ў фондах і прыватных архівах, прачытаць некалькі кнігаў. То бок, бачу перад сабой неўзаранае пагорыстае поле, мяжа якога губляецца за небакраем. Усведамляючы такі маштаб, з’яўляюцца кантрастныя пачуцці: рукі апускаюцца з-за таго, што столькі ўсяго трэба зрабіць, але разгараецца радасць, бо рабіць ёсць што, і гэта прынясе плён усёй Беларусі.

***– На адным з тваіх канцэртаў мяне ўразіў мультыінструменталізм, наяўнасць вялікага арсеналу выразных сродкаў, прымочак, уменне ствараць “атмасферу” гукавых эфектаў. Пры гэтым слухаецца ўсё натуральна. Як ты прыйшоў да гэтага незалежнага фармату сваёй творчасці? Што ў большай ступені ўплывае на тваю імправізацыю “тут-і-цяпер”? Настрой слухачоў ці асабісты настрой? Альбо гэта непадзельныя рэчы?***

– Настрой слухачоў мала ўплывае. Агульная атмасфера – так. А ў рэжыме “тут і цяпер” я бачу прамую сувязь са словамі Хрыста. Самае важнае адбываецца з табой цяпер, самы лепшы, самы галоўны час – цяпер. Я фізічна не магу граць адное й тое ж у розныя дні, у розных сітуацыях. Спантаннае музыкаванне – яно, як духоўная практыка. Справа вельмі рызыкоўная, але па-свойму ўдзячная.

***– Вядома, што падчас сваёй журналісцкай дзейнасці, табе давялося кантактаваць з музыкамі, уплыў якіх на беларускі й не толькі музычны свет цяжка пераацаніць. Напрыклад, гэта былі музыкі “залатога” складу «Песняроў», “нявыдадзенай” творчасці якіх ты прысвяціў цэлых чатыры перадачы (за што вялікі дзякуй асабіста ад мяне). І ці можаш прыгадаць яшчэ кагось з выбітных беларусаў, з кім надарылася магчымасць сустрэцца?***

– Адным з першых быў Данчык, “беларускі салавей Амерыкі”. Так атрымалася, што як толькі я задумаў запісаць з ім інтэрв’ю, ён інкогніта наведаў Менск, і мы сустрэліся ў Траецкім прадмесці. Час ад часу перапісваюся з Бэртанам Грынам, ён сам амерыканец, яшчэ ў 60-я граў радыкалны фры-джаз, а ягоныя бабуля з дзядулем з Менску родам.

Я шчыльна камунікаваў з Яўгенам Канавалавым – адным з піянераў белроку. Не аднойчы браў інтэрв’ю ў Лявона Вольскага, Алеся Камоцкага, Змітра Вайцюшкевіча... Усіх не пералічыць. Збіраючы матэрыял пра джаз 1950–1960-х, я кантактаваў з дачкой Бяльзацкага, з дачкой Райскага, з удавой Глебава... Часта бачымся з рэжысёрам Уладзімерам Арловым, які мне нагадвае гэткага добрага чараўніка. Хацеў бы я ў такім узросце мець настолькі ясны розум.

***– Ці можаш распавесці пацешную гісторыю са свайго музычна-гастрольнага жыцця?***

– Аднойчы мяне запрасілі пайграць у Нацыянальным мастацкім музэі, там ёсць такое Сяродкрыжжа. Дык вось, перад самым пачаткам выступу падышоў нехта з адміністрацыі й спытаўся: “Вы ў гэтым будзеце выступаць?! Дрэнна”. На мне была звычайная вопратка – джынсы, швэдар. Я адказаў, што мяне ніхто не папярэджваў наконт дрэс-коду, што магу ў такім выпадку й не граць, што ўвогуле гэта ўсё неяк нетактоўна... Высветлілася, што дырэктар музэю прымушае ўсіх апранаць дзелавыя строі й ужо шмат хто ад гэтага пацярпеў, нават нехта быў выстаўлены вонкі. Тым не менш, мой выступ адбыўся. А адразу пасля мяне па тым самым Сяродкрыжжы хадзілі шыхтом мадэлі ў майтках.

***– Ці не замінае сям’я ў творчасці?***

– Сказаць, што замінае, было б блюзнерствам. Хутчэй прымушае неяк пераладзіцца... Скажам, той жа “Кракатук” я запісваю глыбокай ноччу, калі ўсе спяць. Разам з тым, шлюб дадаў мне зграданага вышэй нахабства ў прасоўванні сваёй творчасці. Жонка дапамагае мне ва ўсім і падзяляе ўсе мае перакананні. А дзеці – гэта не меншы цуд, чым здабыванне гуку.

***– Памятаеш, мы сустрэліся летась на адным канцэрце? Ты тады таксама прымаў удзел у прэзентацыі «Анталогія перакладу рускай рок-паэзіі». Якія засталіся ўражанні ад імпрэзы, ад перакладаў? Што думаеш пра традыцыю стварэння беларускамоўных версій вядомых хітоў?***

– Пераклады, кавэры – гэта добра і пацешна, але толькі як аднаразовая акцыя ці сеціўны рэліз. Паглыбляцца ў гэта не варта. Лепей самім складаць творы як мінімум не горшага ўзроўню, каб іх захацелі перакласці замежнікі.

***– І на развітанне, Віктар… Чаго пажадаеш часопісу “Дзеяслоў” і яго чытачам?***

– Дзякую, што вы ёсць! Жадаю пільна сачыць за літаратурным працэсам. Бліжэйшыя 10 год, я думаю, нас чакаюць неверагодныя рэчы, перад чарговым застоем.

Уладзімір Содаль



...Затрык...

# Дудка грае – ён жывы

***Да гісторыі напісання “Дудкі Беларускай” Багушэвіча***

***Кожная літаратура, кожны народ мае кнігі, паасобныя творы, якія складаюць яго гонар і славу. Нямала такіх кніг і ў нашага народа. Згадаем толькі некаторыя, што пабачылі свет на пачатку ХХ-га стагоддзя. Гэта і “Вязанка” Янкі Лучыны, “Жалейка” Янкі Купалы, “Вянок” Максіма Багдановіча, “Матчын дар” Алеся Гаруна… Літаратуразнаўцы свету такім кнігам прысвячаюць цэлыя даследаванні, прасочваюць іх гістарычны лёс ад часу выхаду да сённяшняга дня. Здаецца, такіх даследаванняў мы маем надзвычай мала, хоць нашая літаратура ці не адна з самых багатых на кнігі, незвычайнага, часам, драматычнага, лёсу. Адна з такіх кніг, вядома ж, славутая “Dudka Białaruskaja” Францішка Багушэвіча. Яе эпахальнасць адным з першых вызначыў яшчэ Яфім Карскі. У трэцім томе “Беларусаў” (Петраград, 1922, с. 153-154) ён пісаў: “… штуршком беларускаму руху стала выдадзеная ў Кракаве ў 1891 годзе на беларускай***

***мове кніжка Мацея Бурачка (псеўданім Францішка Багушэвіча) “Дудка Беларуская”... Кніжка Бурачка к пачатку нашага стагоддзя стала вядомая ўсім, хто цікавіўся развіццём беларускай самасвядомасці”. Вельмі трапнае азначэнне “Дудцы Беларускай” даў і італьянскі даследчык беларускай літаратуры Дж. Месіна: “Калі ў новай беларускай літаратуры і можа быць метрычны выпіс яе нараджэння – дык гэта час апублікавання ў Кракаве твораў Мацея Бурачка...”.***

***Паколькі “Дудка Беларуская” – метрыка новай беларускай літаратуры, то прасочым яе шлях ад нараджэння да нашых дзён, тым больш, што яна ўжо адлічыла першую з часу выхаду сваю сотню гадоў.***

## ЗАЧАЦЦЕ

Калі ж зачалася “Dudka”? Можна сказаць – тады, як Францішак пачуў спеў пастуховай дудкі, і гэта будзе праўдай. Адтуль яе выток. Мусіць, яна выспявала пад акорды “Mużyckaj Praŭdy” і ў паўстанцкім змаганні. Мабыць, з думкай пра “Dudku” Францішак хадзіў па Украіне. Там ён слухаў украінскую кобзу, а чуўся яму напеў беларускай жалейкі, і ён усё прыкідваў, як бы гэтак зрабіць, каб гэтак файна і гучна заспявала на ўвесь свет і беларуская дудка. Адным словам, “Dudka” выношвалася доўга. Пра гэта Францішак і сам прызнаваўся ў сваім праграмным вершы “Мая дудка”:

Сорак гадоў б’юся,
Ніяк не звярнуся,
Ніяк не патраплю,
Вадзіцы хоць каплю,
Ды такой вадзіцы,
Ды з такой крыніцы,
Што, як хто нап’ецца,
Дык вольным стаецца.

Сорак гадоў Францішку было ў 1880 годзе. Значыцца, ужо тады ў Францішка прабіваўся голас “Dudki”. Між іншым, Францішкавы біёграфы зазначаюць, што Багушэвіч ў канцы сямідзясятых гадоў пісаў ўжо шмат. Вось, прыкладам, якое паведамленне з гэтай нагоды мы маем ад прыяцеля паэта Напалеона Роўбы: “У гады бадзяння на чужыне Францішак Багушэвіч у вольныя ад працы хвіліны пісаў па-беларуску лірычныя вершы...” Мабыць, ужо тады Багушэвічам усё было абдумана: і якой графікай будзе карыстацца, і якіх граматычных нормаў будзе трымацца. Маючы неблагую філалагічную падрыхтоўку – Францішак Багушэвіч, апрача польскай, расійскай, украінскай моваў, ведаў яшчэ нямецкую, французскую, чэшскую, славацкую – убачыў самабытнасць беларускай мовы, яе панскасць і “зацяжарыў” на роднае слова. І ўжо нішто не магло яго збіць з панталыку. Праклятае піліканне дудкі, паводле словаў самога песняра, не давала яму пакою ні ўдзень, ні ўначы. З-за яе ён нічога не мог рабіць. Спакваля збіраўся твор да твора. Нарэшце вырвалася і самае запаветнае:

Эх, скручу я дудку!
І такое зайграю,
Што ўсім будзе чутка
Ад краю да краю!

## НАРАДЖЭННЕ

Як нараджалася “Dudka Białaruskaja”, даюць нам пэўнае ўяўленне некаторыя

лісты самога Францішка Багушэвіча да Яна Карловіча, а таксама пісьмы Элаізы Ажэшкі да таго ж самага Карловіча. Гэтымі крыніцамі найперш і будзем карыстацца.

З Багушэвічавага ліставання відаць, што Ян Карловіч яшчэ да вяртання Францішка з Украіны ў Вільню ведаў пра Францішкавы літаратурныя здольнасці, і ён неўзабаве пасля яго звароту на Беларусь прапануе яму супрацоўніцтва з часопісамі "Kraj" ці "Prawda". Гэтую прапанову Багушэвіч прымае як і належыць чалавеку, які ведае цану свае годнасці, дваіста: можна было б і паспрабаваць, але будзе вялікім расчараваннем, калі ён раптам атрымае з рэдакцыі і зараз усім вядомы адказ: "Вашыя нататкі не падыходзяць нашаму выданню". Вось як гэтая думка гучыць у самога Багушэвіча: "Што да ласкавай, а вельмі прыхільнай і прывабнай згадкі пра тое, што я мог бы быць карэспандэнтам "Kraju" або "Prawdy", ды неяк, пане, не давяраю сабе і ня раз рабіў спробы ды рваў іх, бо маю хваробу або неадчэпную думку: пачну "птушкамі", а скончваю "мядзведзямі". Прыкра было б мне прачытаць у адказах: "Ні змест, ні стыль не прыдатныя", ці нешта падобнае". Відаць, Багушэвіч ужо меў такія адказы, і яны моцна ранілі яго аўтарскае самалюбства. Ва ўсякім разе, літаратурнае кухарства ён ведаў няблага. І ўсё ж цікавіцца літаратурай не пераставаў: зрэдку пісаў па-польску, перакладаў з чэшскай мовы, не пакідае пісання і па-беларуску, хоць яшчэ не зусім выразна разумеў, куды ён падасца са сваімі беларускімі творамі, дзе ён іх надрукуе, хто іх будзе чытаць. Але стыхія творчасці была мацнейшая за рэчаіснасць, і ён пісаў не зважаючы ні на што. Да ліста да Яна Карловіча за 10 (22) чэрвеня 1886 года ён прыклаў аўтограф байкі з назвай "Воўк, ягня і авечка". У "Dudcy Białaruskaj" гэтая байка атрымала назву "Воўк і авечка". Згаданы твор пакуль што самы першы, зусім канкрэтны званочак для нас пра беларускамоўную творчасць Францішка Багушэвіча. Затым у Ажэшчыным лісце за 2. II. 1887 года да Яна Карловіча згадваецца, што Багушэвіч быў у Гародні і чытаў Ажэшцы беларускія вершы. Сярод іх адзін прысвечаны пісьменніцы. З Багушэвічавага ліст за 22 мая 1887 года даведваемся, што прыкладна ў гэтую пару Францішак накрэмзаў , як ён сам піша, яшчэ адзін верш па-беларуску "Надто мне маркотна..." Самога верша Францішак у гэтым лісце не падаў, але толькі пераказваў яго змест. Гэта таксама яшчэ адзін званочак з "Dudki Białaruskaj". Аўтограф згаданага верша Багушэвіч дашле Карловічу літаральна праз дзень, але ўжо зусім з іншай назвай – "Якось яно будзе!" (у "Dudcy" змешчаны з назвай "Думка").

У лісце да Карловіча ад 16 (28) лістапада 1887 года Францішак паведамляў, што з "Bajarża" А. Глінскага апрацаваў казку пра папараць-кветку. У "Dudcy Białaruskaj" гэтая казка атрымала назву "Хцівец і скарб на святога Яна". У лютым 1888 года гэтую байку, доўгую, поўную фантазіі, Багушэвіч чытаў Ажэшцы на яе гарадзенскай кватэры. Пісьменніца вельмі прыхільна сустрэла Францішкавы беларускамоўныя творы, назвала іх выдатнымі. Падахвочаны Ажэшкай і Карловічам, Багушэвіч працягваў настойліва працаваць. Пра гэта даведваемся і з яго ліста ад 15 (27) лістапада 1888 года да Яна Карловіча. Да ліста ад 30 снежня 1889 года Багушэвіч прыклаў аўтограф верша "У судзе" – апавяданне селяніна. І нарэшце, чацвёртага лютага 1890 года Францішак паслаў Яну Карловічу аўтограф свайго праграмнага верша "Мая дудка" з крыптонімам A. D. і прыпіскай: "З прычыны пілікання гэтай праклятай дудкі больш пісаць не магу". Пасля гэтай даты ў ацалелых Багушэвічавых лістах згадак пра творы, што ўвойдуць у "Dudku Białaruskuju", не сустракаецца. Такім парадкам мы атрымалі ўяўленне калі, у якую прыкладна пару былі напісаныя некаторыя Багушэвічавы вершы, якія складуць "Dudku Białaruskuju". Гэта дае нам мажлівасць разважыць, як укладаўся зборнік, зразумець, чаму той ці іншы твор заняў тое ці іншае месца ў кніжцы.

## УКЛАДАННЕ

У “Dudcy Białaruskaj” разам з прадмовай дваццаць твораў. Але дакладны час напісання пераважнай большасці іх нам невядомы. Датаваны, і то прыблізна, толькі чатыры творы: “Воўк і авечка” (1886), “Думка” (1887), “У судзе” (1889), і “Мая Дудка” (1890). І ўсё ж паспрабуем прасачыць, разважыць, як кампанаваў свой першы зборнік Францішак Багушэвіч, якога прынцыпу ён трымаўся – тэматычнага, жанравага ці размясціў творы па часе напісання.

Пачынаецца “Dudka Białaruskaja” з палымянай, маніфестычна ўзнёслай Прадмовы, у якой з публіцыстычнай эмацыянальнасцю гранічна сцісла выкладзена гісторыя Беларусі, яе слаўнае мінулае ад часоў Полацка ды Вітэнэса, калі нашая Беларусь была ў Вялікім княстве Літоўскім, як тое зярно ў гарэху, калі нашай мовай карысталіся ўсе паны вялікія ды пісалі законы важныя ды ўсё па-нашаму, па-беларуску, а мовай чысцюсенькай, як бы вот цяпер пісалася. Кінуў пагляд на нашу будучыню, вызначыў межы Беларусі – “ад Вільні да Мазыра, ад Вітэбска за малым не да Чарнігава, гдзе Гродна, Міньск, Магілёў, Вільня і шмат мястэчак і вёсак...” Абвясціў, што мова наша такая ж людская і панская, як французская або нямецкая, яна для нас святая, Богам нам дадзена, каб мы яе шанавалі, іначай, без мовы, мы – нямыя калекі...

Пасля такой эмацыйнай Прадмовы ідзе не менш эмацыйны, напісаны на адным дыханні, праграмны верш “Мая дудка” – гэты паэтаў нерв. Уражанне такое, што гэты верш выгукнуўся з паэтавай душы, што ў ім пачуцці, адчуванні паўвекавых турбот, разваг, назіранняў. Дата яго напісання, першая згадка пра яго, якая дайшла да нас, люты 1890 года. За вершам “Мая Дудка” Францішак Багушэвіч паставіў яшчэ адзін свой, можна сказаць, праграмны твор – “Дурны мужык, як варона”, абвясціўшы ім суб’ект яго творчасці: не лірычныя для многіх песняроў зоры, жытнёвыя васількі, а найперш чалавек працы, яго слёзы і пот, ашуканы, прыніжаны дый яшчэ і абсмяяны маёмаснікамі.

Дык крычыце, біце ў звона:
Дурны мужык, як варона!

І гэта здарылася, на песнярову думку, таму, што знікла з свету Праўда. Зусім натуральна, наступны твор мусіў быць такі, які б расказаў таму селяніну, дзе ж гэта праўда дзелася, куды яна знікла. Якраз такі твор мы і маем у “Dudcy”. Ён у зборніку трэці і называецца адпаведна “Як праўды шукаюць”. Дата яго напісання, як і папярэдняга твору, невядомая. Гэта эпічны твор. Следам за ім ідзе апавяданне вершам “У судзе”. Аўтограф яго прыкладзены да Багушэвічавага пісьма за 1889 год. Эпічнае апавяданне змяняе байка “Воўк і авечка”. Копія гэтага твора таксама ацалела пры Багушэвічавым лісце да Яна Карловіча за 1886 год. Ужо дастаткова гэтых назіранняў, каб сказаць, што Францішак Багушэвіч не трымаўся пры складанні зборніка ні тэматычнага, ні часавага, ні жанравага прынцыпу. Але ж, зразумела, і так сабе, па волі лёсу, не накідаў ён у зборнік творы. Было ж у яго якоесьці меркаванне, была якась логіка, калі ён пасля высокапаэтычным твораў “Мая хата”, “Праўда” паставіў верш з эпізадычным зместам, пра што кажа і яго назва – “Здарэнне”. Яму б лепей, на нашую думку, стаць побач з фальклорным матывамі, такімі, як “Хцівец і скарб на святога Яна”. Але не! Багушэвіч ставіць гэты твор між такімі, як “Праўда”, “Немец”, “Думка”. А Багушэвічаваму вершу “Бог не роўна дзеле” самае месца, здавалася б, з вершам “Дурны мужык, як варона” – яны б узмацнілі б адзін аднаго, дапоўнілі. Між іншым, у нашых школьных хрэстаматыях іх гэтак і размяшчаюць, іх так і разумеюць. Але не, Багушэвіч – яго ставіць услед за “Хрэсьбінамі Мацюка”. І ў гэтым, пэўна ж, ёсць таксама свой сэнс. Не зусім зразумела таксама, чаму Францішак Багушэвіч пасля такога глыбокага

верша, як “Думка”, паставіў, хоць і прыгожы, але не вельмі характэрны для ўсяго зборніка, для паэтавай музы верш “З кірмашу” – настраёвы абразок з прыватнага жыцця. І гэтакіх пытанняў шмат! Ці яшчэ: лепш, мабыць, было паставіць побач вершы “У судзе” і “У астрозе”. Але Багушэвіч ставіць іх у розных месцах...

...4 лютага 1890 года Францішак Багушэвіч, як вядома, паслаў Яну Карловічу аўтограф свайго праграмнага верша “Мая дудка”. Пасля гэтай даты ніякіх іншых аўтографаў твораў, якія ўвойдуць у “Dudku Białaruskuju”, Францішак Карловічу не пасылаў. Усё гэта дае падставу выказаць меркаванне, што ўжо ў канцы 1889 года асноўныя творы, якія складуць “Dudku Białaruskuju”, былі напісаныя, і Багушэвіч тады быў гатовы выдаць задуманую кнігу. Ёсць пра гэта і ўскоснае сведчанне, водгулле. Жадаючы Яну Карловічу ў 1890 годзе закончыць слоўнік слоў іншамоўнага паходжання, якія ўжываюцца ў польскай мове, Францішак Багушэвіч 30 снежня 1889 года (11 студзеня 1890) пісаў: “Увогуле, няхай і ў мяне ў новым годзе споўніцца тое, чаго панству зычу!” Значыць, “Dudka” магла выйсці і раней. І ў гэтым была логіка. У 1890 годзе Францішку спаўнялася пяцьдзесят. І ўсім яго прыхільнікам вельмі хацелася да гэтай даты зрабіць песняру такі падарунак. Але чамусь з гэтага нічога не выйшла. Мабыць, невыпадковая згадка Люцыяна Узэмблы і некаторых іншых мемуарыстаў пра ідэю надрукавання “Dudki Białaruskaj” у тым годзе. Толькі так можна гэты факт трактаваць.

## НАЗВА. ПРАДМОВА. ПСЕЎДАНІМ

У творчым працэсе ўсё важна і нішто не даецца проста. Усё мусіць быць вынашана, выпакутавана, перажыта, асэнсавана. Кожны, каму даводзілася рыхтаваць кнігу, ведае, як няпроста часам акрэсліць, вызначыць назву кнізе, каб назва гэтая была простая і ёмістая, каб адным-двума словамі перадаць усю сутнасць кніжкі, ахапіць яе змест. Назва – гэта нібыта вянок. Колькі часам перабіраецца варыянтаў! Колькі згарае душэўнага агню! Францішак такога вялікага клопату не меў. Назву зборніка яму падказаў яго праграмны верш “Мая дудка”. Дый задума зборніка была акрэслена. Дудка! Толькі дудка! Пад дудку кожнае раніцы абуджаецца ўся вясковая Беларусь. Яе журботна аднастайныя, як сялятская доля, гукі гучалі ў яго душы з малых гадоў і штодня. То хай жа грае дудка! Была яму вядома і сусветная практыка. Шмат з тых песняроў, хто пачынаў у літаратуры, хто ішоў у літаратуру, у назву кніг найчасцей ставілі слоўка з музычнага лексісу. Назвы беларускіх інструментаў на тую пару былі яшчэ неразабраныя. Адзін хіба толькі Вінцук Дунін-Марцінкевіч сваю кніжку ахрысціў слоўкам з музычнага лексісу “Дудар беларускі” – (дудар ад слова “дуда”). Перад Багушэвічам быў вялікі выбар, але ён спыняецца на самым просценькім, затое ўсім даступным інструменце – дудцы. З першай часткай назвы было ўсё зразумела. А вось з азначэннем для яе рэч была больш складаная. Тут давялося трохі і падумаць, і разважыць, з тым-сім параіцца, пaглядзець, што зрабілі яго папярэднікі. Хоць Францішак, як і многія яго сучаснікі, часта яшчэ па старой традыцыі называў Беларусь Літвой, а ўсё ж разумеў, што назоў Літва больш вузкі, чым Беларусь, Белая Русь, лепш зразумелы. Дый многія яго папярэднікі ўжо шырока карысталіся гэтым тэрмінам. Быў ужо “Kalendarz Białoruski na rok przestępny, 1792”. Словы Беларусь, беларускі стаялі трывала на вокладках такіх кніг, як “Гісторыя біблейная для дзяцей” (Вільня, 1838), “Шляхціц Завальня” Яна Баршчэўскага (Пецярбург, 1844-1846). Шырока карыстаўся паняццямі “Беларусь”, “беларускі” і Дунін-Марцінкевіч. То быў сэнс падтрымаць гэтую традыцыю, замацаваць яе. І ён называе сваю кніжку асэнсавана падкрэслена “Dudka Białaruskaja”. Затым ў прадмове абгрунтуе і саму назву Беларусь: белая – чыстая, і яе сэнс – нікога не біла, не падбівала, толькі баранілася. Што да самой прадмовы, то нельга не падзівіцца, колькі ў ёй, адносна

невялікай, усяго сказана. Пісалася яна на адным дыханні, даверліва, з годнасцю да Беларусі, яе гісторыі, мовы.

Ну, але вось і Прадмова ёсць, застаецца толькі паставіць пад ёй імя, хто яе напісаў. Прозвішча Багушэвіч паводле задумы кніжкі і яе зместу аніяк не пасавала, і ён мусіў паставіць простае, як сялянскае жыццё, – Мацей Бурачок. Мацеяў у Кушлянах дый у суседніх Жупранах у паэтаву пару было шмат. Былі сярод іх з прыроды вельмі дасціпныя, мудрыя, назіральныя людзі, цягавітыя. Вось ад імя гэтых Мацеяў і загаварыў Багушэвіч.

## ДРУКАВАННЕ

Нарэшце рукапіс падрыхтаваны, абдуманы, укладзены, назва акрэслена, псеўданім ёсць. Прадмова гатова. Паўстаў клопат: “Дзе надрукаваць?” Доўга радзіліся і сышліся на адным – толькі ў Кракаве. Хоць ён быў і за мяжою, у той час належаў Аўстра-Венгрыі, але гэта па-ранейшаму быў асяродак славянскай культуры. Там жылі даўнія добрыя асветныя і навуковыя традыцыі. Аднаго чаго толькі вартыя старыя Ягелонскі універсітэт ды кракаўскія бібліятэкі! То дзе яшчэ было знайсці прытулак беларускай кніжцы?! Адам Міцкевіч называў Кракаў польскім Рымам, сталіцай нацыянальнай культуры. А сапраўдныя культурныя цэнтры заўсёды мусілі падтрымаць намаганні іншых народаў, тым больш сваіх суседзяў-славянаў.

Увесь клопат друкавання ўзяў на сябе Ян Карловіч. Ён быў добра знаёмы з маладым, дваццаціпяцігадовым выдаўцом Вацлавам Анчыцам (1866-1938), чалавекам еўрапейскай культуры і адукацыі, які друкарству вучыўся не толькі ў бацькоўскай фірме, але і два гады ў Нямеччыне. Карловіч растлумачыў яму важнасць заказу: “Друкуем не проста якусь чарговую кнігу, а робім крок у гісторыю, у яе будучыню”, і той згадзіўся, пусціў пад страху свае друкарні рукапіс беларускага аўтара, хоць і ведаў, што клопату з гэтай кніжкай у яго будзе нямала. Найперш яго турбавала, ці справяцца наборшчыкі. Многія з іх не тое што ніколі не набіралі беларускіх кніжак, а нават не чулі пра беларускую мову. Трошкі думалася і пра тое, што кніжка бесцэнзурная. Але заўсёды спаважны Карловіч суцешыў, супакоіў: “Нічога, неяк пацїху, памалу набяруць. Балазе, рукапіс акуратны, чытэльны, кожная літарка выпісана, выведзена”. І неўзабаве спакваля ў анчыцавай друкарні – мураваным прысадзістым аднапавярховым будынку пад чырвонай чарапіцай з вялікімі вокнамі, які мясціўся амаль у самым цэнтры старога Кракава – пачалося чарадзейства: наборшчыкі літару да літары, слова да слова набіралі “Dudku Białaruskuju”. Францішак увесь час не спускаў вока з кніжкі. 1 (13) мая 1891 года ён пісаў Карловічу: “Я еду ў Кракаў...” Думаецца, гэтая яго паездка звязаная з друкаваннем “Dudki Białaruskaj”. Дзесьці ў канцы ліпеня “Dudka” была набраная. Францішак Багушэвіч якраз у гэтую пару быў у Кракаве, прыязджаў на з’езд прыродазнаўцаў. Заадно вычытаў і карэктуру. Набрана яна, як трэба было чакаць, няважна. Гэта моцна засмуціла Францішка, і ён мусіў нават паскардзіцца Карловічу. 23 жніўня (4 верасня) 1891 года ён пісаў: “Карэктура “Жалейкі” вельмі няўдалая, процьма памылак”. Яшчэ адзін дукумент, ліст кракаўскага вучонага Ісідара Капярніцкага да Яна Карловіча ад 3 жніўня, стасуюць з выданнем “Dudki Białaruskaj”. У ім, прынамсі, гаворыцца: “У дадатак маю да Шаноўнага пана настойлівую просьбу: ці не мае пан з сабой і ці не мог бы мне як найхутчэй паведаміць адрас п. Mecenasa Багушэвіча (ці Багусевіча), а прынамсі імя яго. Мне трэба тэрмінова адпісаць яму па яго справе на ліст, які я нядаўна атрымаў тут з псеўданімным подпісам, без пададзенага адрасу”.

Багушэвічу ішоў шосты дзесятак, калі яго рукапіс першай кніжкі патрапіў у друкарню да наборшчыкаў. Дзесьці ў верасні “Dudka” была надрукавана. Яна была зарэгістравана ў дзявятым нумары бібліяграфічнага даведніка “Przewodnik

bibliograficzny” за 1891 год. Праўда, як польская кніжка. Ну, але хай сабе! Як даўней казалі: называй хоць гаршчком, толькі ў печ не стаў. Свет хутка разабраўся, што гэта за кніжка і пра што яна.

“Dudka Białaruskaja” выйшланакладам тры тысячы асобнікаў. Вызначаны быў і яе кошт – пяцьдзясят цэнтаў.

## ЗМЕСТ

Што ж такое “Dudka”? Пра што ў ёй? Чаму яна гэтак глыбока запала ў душы беларусаў?

Адказ на гэтае пытанне адзін. У невялікай, на семдзесят две старонкі, гранічна сціслай кніжачцы ў паэтычнай форме было сказана пра ўсё, што хвалявала беларуса, трывожыла – пра зямлю і волю, адданасць краю, рэлігію, долю селяніна, яго нацыянальную свядомасць і нашую беларускую паняверку.

Сваё безвыходнае становішча, вядома ж, беларусы адчувалі і да выхаду “Dudki Białaruskaj”. Але адчуванні гэтыя, мабыць, былі яшчэ не зусім выразныя, усвядомленыя. Кожны думаў пра сваё гора, пра сваю нястачу паасобку, у сваёй хаце. Звykліся з безвыходнасцю. Думалі, так мусіць і быць, кожны мусіць сваё цягнуць: пану панава, мужыку мужыкова. А тут раптам такая кніжка! У ёй нехта гэтак смела заступаецца за мужыка, падказвае яму, хто яго абірае, аб’ядае, трымае ў невуцтве і цемры. Такой кніжкі Беларусь сялянская яшчэ не мела. Стрэйшыя, праўда, згадвалі, што гадоў з трыццаць мільганула, як маланка, агністае слова “Mużyckaj praŭdy”. Але тады гэта былі толькі ўлёткі на адным аркушы. А тут цэлая разважлівая кніжка пра долю тутэйшага люду. І беларус пацягнуўся да гэтай вонкава просценькай шэрай кніжачкі з такім багатым зместам. Ён знайшоў у ёй сугучча сваёй душы, а таксама разуменне прычыны свайго такога безвыходнага становішча. А гэта было не так ужо і мала. Кніжка была на яго роднай мове ды яшчэ вершам. І гэта таксама быў цуд! Нехта прызнаваў і права беларуса на лепшую долю, гукаў да гэтай долі. І мову лічыў такой жа панскай, такой жа людскай, як іншыя. То як было абысці такую кніжку! Як было не пацягнуць руку да яе! Не прытуліць яе да набалелых грудзёй! Да ўсяго ж для ўсіх даўнейшых людзей друкаванае слова заўсёды мела дух магіі. Друкаванаму, напісанаму людзі верылі. Напісанае іх моцна ўражвала. Нездарма ж, калі селяніну ўдавалася набыць якую-небудзь кніжачку – ён трымаў яе за абразамі. “Dudka Białaruskaja”, згадваюць, таксама звычайна знаходзіла сабе там прытулак у сялянскай хаце.

## АЗДОБА

Мастацкае афармленне “Dudki Białaruskaj” сціплае. Можа нават і занадта сціплае. І ўсё ж яно вартае ўвагі, нашага вока, нашага прачытання. На вокладцы і тытульным лісце скарыстаны прыгожы арнаментальны малюнак, які нагадвае вазу мудрасці. Ён надае вокладцы стройную кампазіцыю. Прываблівае чытацкае вока і першая літара Прадмовы, арнаментальны ініцыял – В. Яна, натуральна, і памерам большая і, адчуваецца, спецыяльна падрыхтаваная, і таксама аздоблена геаметрычнымі завіткамі якойсь кветкі-паўзунка з грамафончыкамі. Літара В – літара-вобраз, літара-малюнак. З яе ж пачынаецца і паэтава прозвішча: Bahuszevicz”. Літара В, з якой пачынаецца Прадмова, безумоўна, літара-акцэнт. З іншых аздобаў згадаем і лінейкі-адбіўкі. Іх у зборніку няшмат. Адна ў канцы кніжкі і дзве з іх аздобілі змест – у арыгінале Спіс. Чацвёртая лінейка-адбіўка ў сярэдзіне кнігі, на дваццаць шостай старонцы. Між вершамі “Здарэнне” і “Немец”. Прызначэнне яе сэнсавае. Усе вершы ў “Dudcy Biełaruskaj” размешчаны ў падборы, гэта значыць

– адзін за адным. А вось верш “Немец” пачаўся з новай старонкі. У яго новая тэма і наборшчык ці вярстальшчык адбіў гэтыя вершы лінейкай.

Цікавыя з гэтай нагоды назіранні дасведчанага мастацкага рэдактара Лявона Прагіна: “Аздабленне “Dudki Białaruskaj” першага выдання, вядома ж, не шэдэўр. Але калі ўлічыць тагачасныя паліграфічныя магчымасці, то яно не такое ўжо і благое. Якраз яно сведчыць пра павагу выдаўцоў да аўтара, да яго кнігі, да чытачоў, пра любасць да іх, сімпатыю. Пры сваіх сціплых магчымасцях яны зрабілі ўсё, каб кніжка мела сваё аблічча, свой вобраз. І яны гэтага дасягнулі. Уражанне такое, што разумелі, якую кніжку яны выдаюць.”

## КІРЫЛІЦАЙ – НЕ ЛАЦІНКАЮ

Францішак Багушэвіч, як вядома, пісаў свае творы па-беларуску, але лацінкаю. І свае беларускамоўныя кнігі таксама выдаваў лацінкаю. Прынамсі, лацінкаю была выдадзена і “Dudka Białaruskaja” і “Smyk Białaruski”. Ці задумваўся хто хоць калі, чаму Францішак Багушэвіч трымаўся менавіта лацінкі, а не кірыліцы? Хібы кірыліца ім зусім не была спазнана? Ой, не! Яшчэ як была спазнана! Праз вандроўнага настаўніка Клімашэўскага ў Кушлянах. І юрыдычную адукацыю ён атрымаў праз кірылічнае пісьмо. Але ж калі ўзнікла патрэба выдаваць кніжку, выказаць беларускія думкі, ён без аглядкі і канчаткова спыніўся на лацінцы. Чаму? У беларусаў ужо была практыка лацінскага кнігадрукавання, практыка пісьма лацінкаю. Калі была, то на чым яна грунтавалася? Лацінка больш дакладна, чым кірыліца, перадавала фанетыку беларускай мовы, была бліжэй да фанетыкі польскай мовы і самой польскай мовы, да фанетыкі жывых беларускіх гаворак.

Усё гэта так. Да ўсяго ўвесь Багушэвічаў род быў з каталікоў. А ў каталікоў была большая цяга да лацінкі. Дый не так было проста перадаваць беларускую мову кірыліцай. Не была распрацавана сістэма перадачы нашай мовы кірыліцай. Я ў сваёй практыцы, каб нагадаць сённяшнім чытачам, што наш асветнік у сваёй моўнай практыцы карыстаўся адно лацінкаю, у свае беларускамоўныя даследніцкія тэксты з нейкага часу пастаянна ўводжу Багушэвічаў лацінскі крантонім F. B. і гэтым нагадваю сённяшнім чытачам, што наш Празорца ў сваёй беларускамоўнай творчай практыцы карыстаўся менавіта гэтым алфавітам. Менавіта ім былі надрукаваныя ўсё яго прыжыццёвыя выданні. Сярод іх і “Dudka Białaruskaja”.

Ала Сямёнава



...мары...

# “І выпіта святло да дна...”

***Эцюд***

“Лёс зямны адбіты ў зорным небе...”

Мысліў паэт. Не першы і не апошні... Адчуваючы сувязь наканаванасцяў і выпадковасцяў Быцця... Разумеючы, што такія празарэнні – крайняя мяжа... Калі аб’екты і суб’екты размываюцца ў існасці сваёй... Калі слова з’яўляецца – як цуд... Як таямніца... Як вызначанае Звыш... Прыродныя каардынаты залежаць і ад той, зорнай арбіты... Лінія жыцця... Зямны шлях. Што пачынаецца з дзяцінства, з радаводных каранёў. З генаў продкаў. З мелодыі Прыроды. Натуры. З адзінства і тоеснасці Натуры і Фантазіі.

У ім заўсёды адчувалася гэтая тоеснасць Натуры і Фантазіі. Натуральнасці, прастасці вясковай – і гульні, тэатра. Відачынства, умоўнасці.

У Анатоля Сыса. Пра яго размова.

Анатоль Сыс. Адначасова просты і складаны, наіўны і прытчава мудры, ціхамірны і эпатажны... З тых, каго адны ледзь не абагаўлялі, другія – творча разумелі і любілі,трэція – грэбліва

адмаўлялі, нават і не чытаючы...Таксама – ён не першы і не апошні... Згадаем хаця б такія агульнапрызнаныя літаратурныя аўтарытэты. Да ўзору, лорда Байрана, у якім некаторыя сучаснікі бачылі не вялікага паэта, а толькі інфантэрыбля, прыхільніка Бахуса і Вакха. Або Эдгара По... Яго называлі першаадкрывальнікам, тэарэтыкам, вялікім – не хто-небудзь, а Бадлер і Валеры... Высокай думкі пра яго былі Тэнісан і Йетс...Затое Эмерсан і Генры Джэймс лічылі яго за нішто...

...Ну, а наш беларус з’явіўся ў літаратуры ярка, свежа, узлётна... Сам па сабе і як сябра суполкі “Тутэйшыя”. Памятаю іх у тую пару – у сярэдзіне – напрыканцы 80-х, ужо мінулага стагоддзя... Маладыя, прыгожыя, натхнёна-дзёрзкія, смелыя... З тым неаспрэчна-пераможным творчым штандарам – усё наперадзе. На ўздымнай хвалі перабудовы. З галоўнымі, вызначальнымі праблемамі. Залежнымі ад часу. І незалежнамі ад яго.

З чаго пачаць? Пачну з Радзімы.
Так абавязаны пачаць.

І адразу жорстка-іранічна перапыніць сябе:

Але ў яе ты не адзіны,
навошта пра любоў крычаць?

Крычаць ён не будзе, агульнаслоўем не зганьбіць высокую, сакральную тэму.

Дзве маці ў аднаго сына,
і былі яны родныя –
мая маці Марыя і маці Радзіма.

Анатоль Сыс быў адным з тых, для каго паэзія – “спосаб існавання”. Яго ўласныя словы. А спосаб існавання ў яго быў і анкетна-просты, і свядомаснаскладаны. Школа, універсітэт, армія, праца... І той “бальшак да ісцінаў зямных”, дзе “кожны дзень пачынаецца з сонца”, дзе “пад вакном журба збірае мяту”, дзе “песні пахнуць белымі туманамі”... Дзе зборнікі паэзіі... Там трывожна-асабістае і самотнае існаванне, там няма разліку і карыслівасці. А назвы яго зборнікаў – вызначальныя. І тыя, што выйшлі пры яго жыцці, і што з’явілася пазней... “Агмень”... “Лес”... “Сыс”... “Лён”... Агонь... Ачышчальны, не той, што ўсё і назаўсёды знішчае:

...узнімуцца з попелу вёскі,
узнімуцца з попелу людзі,
уваскрэсне з попелу паэзія Максіма.

Агонь – той, што святлом сваім асвятляе шляхі:

Дарога полем – да маці,
дарога лугам – да бацькі...

А ўсе шляхі вядуць да Айчыны і далей – у прасторы сусвету, і ў прасторы сусвету паэтычнага, космасу паэтычнага. Яго інтраспекцыя, яго “свежы трансцэндэнталізм” сведчаць не толькі пра заглыбленасць унутраную, адбітак пачуццяў уласных, але і аб збіранні сілаў душы, калі духоўны вопыт мацуецца не толькі на розумаспасцігальным сонцы ісціны, але і на вечных сэнсах і неадменных быційных з’явах.

Чалавек, які падтрымлівае агонь,
чалавек, які беражэ каханне,
чалавек, які моліцца хлебу,
прыйдзі да мяне.

Анатоль Сыс шукаў стрыжань, аснову існавання. А і вольнае паветра духу, у звычайным, родным.

Лес – гэта храм...
Лес – гэта святарнае месца.
Што перад лесам усе скарбы Крэза –
золата і срэбра – танныя рэчывы...

Паэту падабалася то паяднаць, то сутыкнуць базісную каштоўнасць і якую-небудзь зусім не светаканцэптуальную існасць, дадзенасць.

Вечнасць зрывае пялёсткі з ружы...

Паэт Анатоль Сыс – натуральны, але і з тым неад'емна-тэатральным выклікам, які і ад прыроды, і ад няспраўджанага (шкада!) імкнення паступіць у тэатральны інстытут.

Быць паэтам – і фарс, і драма. Анатоль Сыс зазнаў і тое, і другое.

А мне не трэба шлях, дзе скрозь падковы, –

з выклікам напіша ён.

З выклікам, з відавочным разлікам на эпатаж пісаў.

І чытаў. А чытаць ён умеў. Згадаем хаця б вечарыну ў гонар яго 30-годдзя ў Доме літаратара, які яшчэ (здавалася – трывала!) належаў нам. Паўнюткая зала, шалёны поспех...

...А ён, Анатоль Сыс, мысліў пра такую планіду паэта... Каб былі “на ім біблейскія пясчынкі” пад “евангельскім небам Радзімы”.

Анатоля Сыса папракалі ў нарцысізме.

Паэт—Боская птушка...

Пра сябе – сын Янкі Купалы і брат Максіма Багдановіча. Напаўжартам? Ці напаўсур'ёзна? А яшчэ і рэплікі – на ўвесь Дом літаратара: яго было чуваць і без мікрафонаў. Ну, а беспрэцэдэнтны выпадак – боршч, прынесены ў прэзідыум, да Максіма Танка... Дзе тут натуральнае – праз край – жыццялюбства, а дзе гульня?.. Ці не з агнём? “Талент – гэта горы і бездані. Інакш – роўнядзь”, – пазначаў некалі Гюго.

...бо засталося дзевяць вершаў мне пражыць...

Пражыць... Не проста словамі пазначыць...

...Гляджу на здымкі ў кнігах Анатоля Сыса... Светлы, ясны юнак. І такі ж светлы, ясны позірк. А пазней – тужлівы, трагічны пагляд: на выяве выдатнага фотамастака Анатоля Клешчука.

Гэта лёс. Вы не верце, што гэта стыхія...

...Прадчуванні... Празарэнні...

Пайду туды, адкуль прыйшоў,
па-за зямлёю, па-за часам...

І вось гэтае:

Без мяне будуць жаць,
і губляць з пераспелых калоссяў
залатыя зярняты на Белую нашу зямлю...

Няўжо ж усё марна? Яго мажная, прыкметная постаць, яго шырокая натура, яго пошукі... Яго “перпендыкулярны” нораў? Яго простая, як хлеб, і светлая, як матчына сляза, светаканцэпцыя? Яго экспрэсія? Усёчасны нервны імпульс?

Мо – не дажыў да ісціны?

А дзе і якая – ісціна? Якога яна быційнага колеру? Калі нават з такім пытаннем, дзе, здаецца, – само жыццё, ён звяртаецца да нябожчыцы Жэні Янішчыц:

Напішыце верш мне пра каханне
з таго свету, бо душа мая,
быццам ружа на магіле, вяне –
хоць дажджынку, толькі пра каханне
перадайце ў крылах жураўля.

Якія тут ужо дыскурсы і экскурсы...

Увогуле ж паэзія Анатоля Сыса поўная зваротаў, прысвячэнняў, згадак-маналогаў. Поўная імёнаў... Паэзія – спосаб жыцця... Спосаб варункаў з людзьмі. Важнымі і цікавымі для яго асобамі. Ён і ў армію браў з сабой кнігі Алеся Разанава... І такое разуменне сутнаснага, адначасова нерозумаспасцігальнага і нібыта відавочнага – "у евангельскім небе Радзімы": гэта з твора, прысвечанага Уладзіміру Някляеву, "маёй першай і апошняй любові", як пазначыць Анатоль Сыс.

Ну, а якой сённяшняй перасцярогай выдаюць радкі верша, прысвечанага Галіне Булыка і Паўлу Гірныку... Уласцівае Анатолю Сысу – яснае і простае, нават просценькае, і заглыблена мудрае:

Мы не будзем дзяліць межы...
......................................
Мы не будзем дажджы дзяліць...
.........................................
Мы не будзем дзяліць туман...
.......................................
Мы не будзем дзяліць палын...

Ён прысвячаў, асвячаў пачуццём і думкай словы, звернутыя да людзей. І яму прысвячалі і прысвячаюць свае выслоўленыя думкі і пачуцці... Сваё важкае слова і верш – Рыгор Барадулін: надрукаванае пасмяротна ў "Літаратурнай Беларусі". Неацэнныя ўспаміны і даследчыцкія высновы –Алесь Бяляцкі. Па-мастацку ўзважанае слова – прадмова да выдадзенай пасмяротна кнігі "Лён" – Міхася Скоблы... Etc. Дарэчы, пра гэтую кнігу ў праграме "Дом літаратара" на радыёстанцыі "Свабода" выпаў гонар і мне слова мовіць. У 2007-м годзе, з творча-арганізацыйнай ініцыятывы Валянціны Аксак і Міхася Скоблы.

Як ужо заўважалася тут, кнігі яго маюць сімвалічныя назвы. Вось і гэтая – "Лён"... Лён – адвечны, старадаўні, спадарожнік жыцця беларуса: пры нараджэнні, на вяселлі, на пахаванні... На свята. І будзённым днём...

Будзённым днём, самотным, а неяк і на свята давялося і мне сустракацца з Анатолем Сысам. Досыць часта ён забягаў у "Нёман", "тутэйшы" да "тутэйшага", да Сяргея Дубаўца: мы працавалі ў адным аддзеле. Калі з'явіўся ў друку "Бэзавы попел" (эсэ паводле ліставання з Міхасём Стральцовым), на нейкай імпрэзе ў Доме літаратара, Анатоль Сыс падышоў, схіліў калена: "Ноч не спаў, чытаў". Было – выпадкам абмяняліся віншаваннямі на каталіцкі Вялікдзень каля Чырвонага касцёла. І – пра гэта я ўжо згадвала – ніколі не забуду выразу твару Анатоля Сыса на пахаванні Жэні Янішчыц...

Помніцца. Чытаецца...

Перад табою поле бою –
тут не адзін паэт сканаў...

...Пачатак і канец... І выпіта святло да дна... Але ёсць нешта – не мае ні пачатку, ні канца...

Так я кану ў сівай Леце,
а сканаю – паэт прыйдзе...

І зазначыць новыя загадкі...

І вып'е святло да дна...

Людміла Рублеўская



...мастак мае права маляваць так, як ён хоча – бо толькі так атрымліваюцца шэдэўры...

# Аліг’еры ў лужыне

***Адно пафаснае падарожжа***

Пабачыць Венецыю і памерці...

Не тое, каб я была настроеная настолькі радыкальна.

Хаця адна мая сяброўка і сцвярджае мройна – ах, якая была б рамантычная смерць! – але смерць прыгожай не бывае. Дый Іван Бунін, чый аповед нарадзіў рамантычны вобраз “смерці ў Венецыі”, апісаў даволі прыкрае здарэнне і даволі гідкага героя...

У нас, кніжных, свая пыха – мы, маўляў, і так усё ўявім. Вунь адлюстроўваў Пушкін італійскія ды гішпанскія ночы, хаця вальнадумны мулат быў невыязным з імперыі, і нам даволі ўяўнага. Але...

Забыць Венецыю, а заадно і Рым,  
І Дрэздэн, і Верону, і Варшаву.  
Ёсць толькі неба, шэрае, як дым,  
Над горадам, з якога не з’язджаюць...

– пісала я калісьці ў тузе па няздзейсненым, не бачыўшы ніводны згаданы горад.

Ці варта здзяйсняць? Ці варта правяраць, наколькі адпавядае фантазія сапраўднаму? Ці не расчараваўся б нашчадак беларускіх інсургентаў Аляксандр Грын, калі б патрапіў у Зурбаган, ці пазнаў бы Маркес сваё Маконда, а іспанскі канкістадор – Эльдарада?

Але мы наважыліся на вандроўку.

І вось вам – Польша і Чэхія транзітам... Мільгаюць вострыя шпілі храмаў і двухпавярховыя акуратныя дамкі, кукурузныя і сланечнікавыя палі па-вангогаўску пераліваюцца зялёна-жоўтым, скураныя пантофлі, купленыя за злотыя на памежным рынку, дазваляюць адпачыць ад туфляў, чэшскія ёгурты замяняюць абед на колах... Варшава, Брно... Бокам, спехам, маргіналіямі... Ускраіны гарадоў паўсюль падобныя: распісаныя графіці шэрыя бетонныя паверхні, маленькія крамкі з цыгарэтамі і сланечнікавым алеем...

Ад Чэхіі Беларусь атрымала нават пачатак уласнага кнігадрукавання. А яшчэ шмат, шмат чаго. І гусітаў-прапаведнікаў, якія круціліся пры вялікім князі Вітаўце, і суполку беларускіх студэнтаў 1920-х, якія, як прынята ў беларусаў, разбіліся на групоўкі і пачалі між сабой грызціся. Раман аднаго з іх, з нетутэйшым прозвішчам Вальтар, называецца “Роджаныя пад Сатурнам”. Віктар Вальтар памёр ад сухотаў, не заспеўшы Другую сусветную і сталінскія рэпрэсіі, якія дашугавалі да Чэхіі. Тады ў Празе паэтку Ларысу Геніюш, якой дастаўся архіў БНР, і яе мужа-доктара не змаглі абараніць суседзі ад “арганістаў”, і беларусы атрымалі “Споведзь”, напісаную ў сталінскіх лагерах.

Мы ж атрымалі ў чэшскім гатэлі наранак сасіску і булку з джэмам.

А першы прыпынак наш быў у Бадэне. Вядома, многія турысты пачалі шчабятаць падвойнае “Бадэн-Бадэн”. Аказалася, той, падвойны, у Германіі, гэты – “сольны”, у Аўстрыі, пад Венай. Знакамітыя тэрмальныя воды смярдзяць на ўвесь гарадок серавадародам. Калісьці ў іх папраўлялі здароўе рымскія легіянеры, плёхаліся Моцарт і Бетховен. Вундэркінд Амадэй напісаў тут кантату «Аве Верум Корпус», якую выканаў у мясцовым саборы, і месцічы ад тае пары лічаць, што твор належыць ім. Глухаваты Бетховен сачыніў на другім паверсе сціплага жоўтага дамка Дзявятую сімфонію, выклікаючы абурэнне суседзяў гучнай ігрой. Геній запісваў народжаныя натхненнем радкі проста на аканіцах, і гаспадар ягонай кватэры, каб адпомсціць неспакойнаму кватаранту, аднойчы зняў гэтыя шыбы і прадаў разам з нотамі.

Цяпер на доме шыльдачка... Турысты задзіраюць галовы да вакна і прыслухоўваюцца. Ціха гудзе кандыцыянер.

З прысвечанага 9-й сімфоніі фільма “Лекцыя нумар 21” італьянскага пісьменніка Бенаквіста, які падаўся ў рэжысёры, я даведалася, чым жа Бетховен гэтак насаліў гаспадару і іншым кватарантам. Калі Людвіг аглух, то падчас працэсу сачынення адной рукой граў мелодыю, а другой з усяе моцы малаціў па піяніна – каб ніхто не мог разабраць, што ён сачыняе, і не скраў музыку.

Доказ – “Ода радасці”, асноўную тэму якой можна сапраўды лёгка сыграць пальцамі адной рукі.

Хваравіты Бетховен дакладна прымаў ванны ў бадэнаўскіх тэрмальных водах. Там жа лекаваліся і дамы – толькі абавязаныя былі апранущца ад горла да пятак. Моцарт, напрыклад, прывозіў сюды лячыцца сваю жонку Канстанцыю.

З дамскім адзеннем звязаная і мясцовая легенда пра князя, у якога разбойнікі, два браты, захапілі жонку, а заадно яе тры спадніцы. Жонку вярнулі, спадніцы таксама, праз дзевяць месяцаў княгіня, якая доўга лячылася ад няплоднасці, нарадзіла спадчынніка – вядома, усё спісалі на лекавыя вартасці мясцовай вады.

Ха-ха... Браты-разбойнічкі, падобна, палепшылі княскую пароду. Але на гербе Бадэна даволі фрывольная выява – пара сужонцаў сядзіць у балеі. Плоднасць аднаўляюць, трэба думаць.

Смярдзючую цуд-ваду з фантанчыкаў лепш не піць. Не тое, што казляняцем станеш, але ж гэта лекі, рэкамендацыі доктара трэба...

Прыбіральня ля плошчы з аўтастаянкай бясплатная, але ля ўваходу, на століку, талерка: хто колькі адшкадуе. "Руса турыста" ў асноўным не адшкадоўваюць. Малады акуратны хлопец, што працуе ў прыбіральні, пабачыўшы, што кладу ў талерку еўра, здалёк крычыць сваё "данке шон!"

У краме Бадэна набылі некалькі круглых мініяцюрных бутэлечак з лікёрам "Моцарт". Моцарт на цукерках, Моцарт на кубках... Бетховена чамусьці амаль няма, і нават Ёгана Штрауса – а гэта ж і ягоная "рэкламная вотчына"! Менавіта тут ён пачаў сачыняць, сварыўся з бацькам, які страшэнна не хацеў, каб сын рабіўся музыкам, і складаў яму канкурэнцыю, нават разбіў аб сцяну купленую сынам скрыпку... Дарэчы, месца дзеяння аперэты "Лятучая мыш" – Бадэн, і вобраз п'янага начальніка мясцовай турмы, які скардзіўся, што зняволеныя разгойдваюць казематы, спісаны кампазітарам са свайго сябрука, які сапраўды загадваў турмой.

А вось і крама з нацыянальным адзеннем. Яно вельмі дарагое – натуральна ж, хэнд-мэйд. Але гэтыя сукенкі-спаднічкі-картовыя пінжакі мусяць мець усе праўдзівыя аўстрыйцы, і носяць іх з гонарам, і не толькі на святы. З немаўлячага ўзросту апранаюць у свойскае – гэта да спрэчкі пра беларускія вышыванкі.

Турыстаў абавязкова вядуць да фантану ў стылі арт-нуво: над марскімі пачварамі ўзвышаецца грацыёзная фігура Ундзіны... Гэта выява дачкі ўладальніка аўтазаводу. Дзяўчыну звалі Мерседэс, і ясна, чаму аўто, якія рабіў ейны татулька, пачалі называцца адпаведна. Фабрыкантава дачка песціць мармуровае цела пад аўстрыйскім сонцам і яшчэ раз сведчыць, што "як маеш грошы – дык і сам харошы"...

Аўтобус наш польскі, кіроўцы – два палякі: мажны ўпарты Станіслаў і меланхалічны вусаты Лешак. Абодва робяць выгляд, што не разумеюць расейскай мовы (асабліва калі ў іх просяць, напрыклад, кіпню). Круцяць польскія пёсэнькі і час ад часу ўключаюць фільм пра хрысціянскую каталіцкую місію. У групе некалькі расіянаў. А мы з сябрамі размаўляем на беларускай мове. І хутка ў аўтобусе яна пачынае гучаць усё часцей – людзі пачынаюць да нас звяртацца па-беларуску, падчас экскурсій падыходзяць, ціхенька прызнаюцца, як ім прыемна чуць родную гаворку, што яны і самі б рады, толькі развучыліся... Расіяне маўчаць, трымаюцца разам.

Аўстрыя падобная да дзіцячага канструктара – шчаслівае вялізнае дзіцё гуляецца з рознакаляровымі дамкамі, перастаўляе белых пухнатых авечачак па ярка-зялёных лугах, грувасціць горы на горы, пускае па іх вадаспадзікі і аблокі... Здаецца, у аўстрыйскім лесе кожны камень час ад часу праціраюць ад пылу. А ў кожным гарадку – храм, побач – якісь замак ці кляштар, і цалкам магчыма, што ў тым замку на скале сядзіць барон у -наццатым пакаленні.

Дарэчы, прачытала, што сюды, у Альпы, цяпер цугам едуць тыя, хто хоча памерці. У Швейцарыі, здаецца, узаконілі эўтаназію, ну і... А што? Дэкарацыі спрыяюць. Успомніць "Чароўную гару" Томаса Мана, "Жыццё у пазыку" Рэмарка... Тут самае месца для запаволенага, адсланёнага згасання смяротна хворых – сярод застылай, эльфійскай прыгажосці над аблокамі...

У гатэлі над аблокамі, дзе мы начуем, ціха-ціха... Раніцай выйдзеш на тэрасу – я ў паштоўцы? Горы, зялёныя, нібы пафарбаваныя, лугі, авечачкі, пара цацачных домікаў...

Італія адразу змяняе карцінку... Як быццам гралі на флейце, а цяпер – на трубе, замест гуашы – алей. Жоўтыя дамы з чарапічнымі дахамі, платаны, якія ўтвараюць навес над дарогай – я напачатку была ўпэўненая, што ўсе гэтыя ўрачыстыя цёмна-зялёныя прысады вядуць да могілак, руінаў крэпасцяў... Нездарма лічыцца, што малады мастак абавязкова павінен памаляваць тут – каб адчуць "адкрытыя фарбы".

Польскія кіроўцы прывезлі нас не на той прычал, з якога мы павінны былі адпраўляцца ў Венецыю, давялося тэрмінова шукаць іншы човен.

Корпус нашага катэра з драўніны, пляскаты – адразу згадаліся галеры. Што ж, не ўсе прыплывалі ў горад святога Марка як жаданыя госці, некаторыя – як рабы. На Корфу, дзе мы з сынам былі, венецыянцаў памятаюць як імперскіх захопнікаў, хоць і набудавалі яны там і крэпасцяў, і дамоў з калонамі.

Венецыя з усіх сілаў намагаецца прыпадобніцца да стэрэатыпаў пра яе. Гарбатыя мосцікі над цёмнай вадой каналаў? Калі ласка. Гандолы, сапраўды падобныя да чорных лакавых трунаў – параўнанне страшэнна абурае венецыянцаў – калі ласка. Карнавальныя маскі з пап'е-машэ і парцаляны, сцены, што нагадваюць пазелянелы, пацямнелы панцыр пракаветнай чарапахі, узорыстыя вакенцы з калонамі, быццам карункі старажытнага каўнера – калі ласка... Тое, што большасць масак зроблена ў Кітаі – справа іншая... Сапраўдную маску, зробленую майстрамі тут, на тваіх вачах, купіць дорага.

Венецыянак называлі залатавалосымі, меднавалосымі... Змрочны германец Дзюрэр, выхаваны ў строгім бюргерстве, быў пасланы ў абавязковае навучанне ў Венецыю... У яго ёсць партрэт венецыянкі – менавіта такой залатавалосай, пышнацелай, дзёрзкай... Гісторыкі любяць параўноўваць яго з партрэтам жонкі Дзюрэра – добрапрыстойнай фрау з пасагам, належнай пары для сумленнага рамесніка. Чорна-белая графіка скупа, з нядобрай прыдзірлівасцю выяўляе падслепаватую, хваравітую нямецкую кабету ў каптуры, побач з якой можна толькі з тугой успамінаць залатыя валасы дзёрзкай венецыянкі.

Дарэчы, той колер валасоў дасягаўся даволі непрыемным рэцэптам, са складнікамі кшталту аслінай мачы...

Міф пра тое, што Венецыя патроху сыходзіць у ваду, месцічы абурана абвяргаюць. Нікуды горад ільвоў, з прыпынкамі грамадскага транспарту на ўскрайку вады, не падзенецца!

Казанова, непрыгожы, але харызматычны і дужы авантурыст, напісаў цэлую кнігу пра тое, як збег адсюль, з венецыянскай турмы ў палацы Дожаў. Самазакаханы да хваравітасці скаральнік дамскіх сэрцаў, калі яго прасілі распавесці пра ўцёкі, патрабаваў для расповеду некалькі гадзінаў. А папросяць укласціся ў больш кароткі час – ганарліва адмаўляўся гаварыць увогуле нават дзеля каранаваных асобаў. У Венецыі лічаць, што ўцёкі былі інсцэніроўкай – насамрэч Казанову, груба кажучы, завербавала інквізіцыя, таму што да канца жыцця ён быў яе шпіёнам.

Зняць гандолу каштуе каля ста еўра... Затое гандальеры, як і належыць, у паласатых строях і капелюшах, і калі не напяваюць, дык хаця б насвістваюць традыцыйныя песенькі... Стаць гандальерам можна толькі тады, калі хтось з іх памрэ і вызваліць месца ў цэху. Як у юрыстаў – кажа гід.

У знойдзеным гісторыкам Віталём Скалабанам страчаным рукапісе Максіма Танка – сцэнарыі фільма "Над Нараччу" – нарачанскія рыбакі плаваюць на чоўнах, як праўдзівыя гандальеры, спяваюць для беларускіх светлакосых прыгажунь... Ну і вядуць класавую барацьбу. Палескія "гандальеры", вымушаныя карыстацца чоўнамі падчас паводкі, таксама спявалі... Ды нават наш Менск ператвараўся часам у сапраўдную Венецыю – калі разліваліся Свіслач і Няміга.

Эх, каб толькі гэта былі не балаты і не застойная вада Плябанскіх млыноў, а мора! Можна колькі заўгодна, як Радзівілы ў Нясвіжы, загадваць пракопваць "венецыянскія каналы", але калі іх не запоўніць мора – гэта будуць проста канавы.

Бронзавы кандацьер Калеонэ працы настаўніка Леанарда да Вінчы і Батычэлі, вялікага Верокіа (скульптар быў маленькім прыгорбленым таўстунчыкам), пагардліва паглядае на нас: а няма чаго вышукваць асацыяцыі там, дзе іх быць не можа! "Беларускі Бальзак", "беларуская Венецыя", "беларускі віскі"... Цьху!

Кандацьер ці не адзіны помнік урадаўцу, які ёсць у Венецыі – там “культ асобы” лічыўся непрыстойным, дожа абіралі большасцю галасоў, ён заручаўся з морам (кідаў у яго пярсцёнак) і з дапамогай святога Марка кіраваў горадам як роўны сярод роўных (ліберум вета і шляхецкая вольніца Вялікага Княства!).

Дарэчы, гандальерамі часта былі жанчыны!

У маладосці я страшэнна марыла пра падарожжы... Намалявала свой аўтапартрэт “На фоне Еўропы”, выкарыстаўшы для гэтага малюнак з каробкі ад абутку беларускай фірмы “Марка” (дзеля справядлівасці, успомню, што пачынала перамалёўваць дачка). Прыгожанькі такі гарадскі пейзаж з брукаваным пляцам, дамкамі з чарапічнымі дахамі і вежай... Для мяне гэта была такая “Еўропа ўвогуле”. На пляцы святога Марка ў Венецыі я нарэшце спалучылася з тым старым малюнкам на абломку тоўстай дошкі, да якой я так-сяк прыбіла падабенства рамкі...

І галубы тут, на пляцы Сан Марка, ёсць. Тлустыя, нахабныя. Абсядаюць каваныя ліхтары, быццам упэўненыя, што таксама могуць свяціцца.

Не памятаю, якую манетку я кінула з узбярэжнай – цэнты, злотыя ці ўкраінскія капейкі – беларускіх металёвых грошай жа не чаканяць – але вярнуцца хочацца, бы ў дом, які толькі на хвілю прыадчыніў для цябе дзверы, каб падражніць таямніцай і залатым святлом гісторыі...

Праблемы з каналізацыяй у горадзе святога Марка маюцца – не зліваць жа ўсё ў мора! Пахне там-сям адпаведна...

Тут пахаваны Іосіф Бродскі і Стравінскі... Бродскі, які абяцаў у вершы, што “на Васільеўскі востраў прыйдзе ён паміраць”, спачыў тут. Вакол запаветаў і апошніх слоў вядомых людзей зашмат накручана... Смерці ўсё роўна, каму належаў сатлелы плоцевы мех, усе роўныя перад збуцвеннем і болем. Ну, сказаў адзін чувак у агоніі “Святла паболей!”, дык угледзяць у тым ці не заклік да асветы ўсяго чалавецтва... А ён проста паміраў, і ў вачах цямнела...

У венецыянскай вільготнай зямлі ляжыць стваральнік “Рускага балету” Сяргей Дзягілеў... Паміраў цяжка, ад фурункулаў – наступства дыябету. Запомніўся страшны эпізод з успамінаў Сяргея Ліфара, маладога танцоўшчыка і палюбоўніка Дзягілева. Ліфар даглядаў апекуна ў апошнія дні, Дзягілеў памёр у яго на руках... Калі труну паставілі для развітання ў праваслаўнай царкве Венецыі, Ліфар хацеў туды зайсці – але нешта не пускала. Нібыта нейкая сцяна... Раз за разам прыгажун спрабаваў апынуцца ў храме – і кожны раз яго нешта спыняла. Тады яго гэтак апанавалі жах і адчай, што хлопец закрычаў і бегма ірвануўся ў вароты, і прарваўся, і спыніўся ажно ля алтара...

На магіле Дзягілева на востраве Сан-Мікеле заўсёды ляжаць балетныя туфлі, напханыя пяском, каб не знёс вецер...

У Венецыі памерці прыкольна. Але не хочацца. Усё роўна не пахаваюць жа побач з Бродскім, а складуць тваё парэшткі ў труну і адправяць на далёкую балоцістую радзіму, стварыўшы прыкрыя клопаты процьме народу, як было, калі геніяльнага мастака Селешчука захліснула хваляй на пляжы Тырэнскага мора.

У часы дожаў выгнанне з гораду прыпадабнялася выгнанню з радзімы. Былі не італьянцы і не беларусы – а венецыянцы і палачане, міланцы і гарадзенцы... З маленькіх годнасцяў, з лакальных адданасцяў толькі і магла вырасці вялікая годнасць вялікай радзімы. Любоў да чагосьці агульнага, глабальнага ўвогуле нетрывалая, быццам нехта спрабуе нацягнуць плёнку на занадта вялікі шар, яна лопаецца, рвецца, і праз дзіркі вылазіць наша традыцыйнае беспамяцтва, манкурцтва, мара “зваліць”... “Радзімалюбоў” мусіць трымацца за нешта вельмі канкрэтнае: хату з надрапанымі на дзвярах рысачкамі, якімі бацькі адзначалі твой рост, закінуты вадзяны млын, на якім у маленстве гуляў у хованкі, фотаздымак прадзеда ў канфедэратцы, могілкі, на якіх ты расчысціў надмагілле пазамінулага стагоддзя і назаўсёды запомніў выбітае на ім чужое імя, якое больш не памятае ніхто ў свеце.

Венецыя, вольны горад, дзе больш не фарбуюць валасы ў мядзяны колер аслінай мачой, заваяваны турыстамі... Але леў святога Марка паглядае з калонаў і фасадаў, гатовы скочыць... Не патоне яна, Венецыя... І турысты не затопчуць. Для іх тут кітайскія маскі і габеленавыя торбачкі з выявай каналаў і палацца. А сэрца горада – там, пад брукаванкай, і мы не чуем ягонага размеранага, пагардлівага стукату. Камедыя дэль артэ працягваецца, і ніхто не ведае, што хаваюць маскі і касцюмы.

Прататып венецыянскай маскі, дарэчы – касцюм чумнога доктара. Жудасная скураная маска, падобная да пачварнага птаха: "дзюбу" набівалі вохкімі травамі, якія нібыта забівалі заразу.

У кавярні каля Сан-Марка замовілі спагеці... І нават не пацягнуліся да прынесенага афіцыянтам-азіятам слоіка з чымсьці белым і сыпкім, нібыта буйная соль... Калі спагеці з'елі, аказалася, у слоіку быў сыр, настругані так дробна, як мы не звыклі, і ім належала страву пасыпаць.

А хутка спазналі на сабе, што такое італьянскі сняданак: булка з джэмам. Гаспадар маленькага прыдарожнага гатэльчыка, аплеценага вінаградам, нібы выйшаў з камедый Гоцца і Гальдоне. Сквапны карчмар... І каты ў яго худыя, як селядцы.

Вось толькі пра Венецыю... Пра сон,
Пра мора, смерць ад пацалунку мора,
Пра вітражы гатычныя вакон,
Каменных львоў і друкаваны дворык
Забыць, забыцца... Што Гекуба нам,
Што мы Гекубе? Гамлеты без трона...

А нас чакаў Вечны горад. Можна сказаць, прарадзіма. Беларускія шляхціцы ж верылі, што паходзяць ад рымскага арыстакрата Палямона, які ўцёк з радзімы і пасяліўся ў нашых балатах і пушчах, заснаваўшы племя сарматаў.

Пра "залаты яблык" на купале рымскага храма святога Пятра складзена шмат легенд і напісана нямала мастацкіх твораў. У адным аповедзе маленькі хлопчык быў апантаны марай ухапіць той залаты яблык, так што, нібы лунатык, залез на купал храма і загінуў. Гэтак японскі паэт Басё марыў прайсці на месяцовай дарожцы на вадзе... Пайшоў, патануў...

Вядома, папсаваў усім ураженне ад Рыма Дэн Браўн сваімі псеўдагістарычна-містычнымі канструкцыямі... З аднаго боку, як бы папулярызацыя вядомых артэфактаў – Ватыкан, "Боская камедыя", "Тайная вячэра" Леанарда... З другога боку – лухта запамінаецца мацней... Таемныя змовы, фанатыкі-забойцы, пасланні з мінулага... Таму ў мазгах нашых сучаснікаў утвараецца часам эзатэрычная каша. Нічога, Рым не такое перацярпеў ад пісьменнікаў і мастакоў!

Чаго я чакала ад Рыма? Наўрад таго, што ён пачнецца з паездкі ў метро, падчас якой мы маглі пераканацца ў тым, што італьянцы любяць адкрыта выказваць свае эмоцыі (то цалуюцца, то лаюцца). Яшчэ – з мурынаў, якія бегаюць па вуліцах, прапаноўваючы хусткі з надпісамі "Рома" і пластыкавыя Калізеі... З чаргі ў Ватыкан, у якой можна прастаяць дзень... Што патрапіў у іншую дзяржаву, разумееш, калі праходзіш памежны кантроль – гэта падобна да аэрапорту. Пра тое, што дзесьці побач Папа, неяк не задумваешся – толькі паказваюць: вось там іх, пап, выбіраюць, вось на гэты балкон выводзяць... А гэтыя вароты замураваныя, адчыняюцца раз у дваццаць пяць гадоў, хто паспее праз іх прайсці – таму адпусцяцца ўсе грахі.

Пры нас вароты былі замураваныя. Не лёс.

У Ватыкане ўвесь час трэба нагадваць сабе: "Гэта не копіі. Гэта арыгіналы". І Апалон Бельведэрскі, і Лаакаон, і Торс... Цікавы персанаж, дарэчы, згаданы Торс, "настаўнік" Мікеланджэла. Ганарысты Буанароці называў настаўнікам скалечаную антычную статую – ні рук, ні ног, такіх інвалідаў пасля вайны называлі "самава-

рамі”. Затое ў гэтым абрубку адчуваецца моц, рух, прыгажосць... Як сцвярджаў расейскі пісьменнік Міхаіл Анчараў, твор мастацтва адрозніваецца ад вырабу рамесніка тым, што кожная ягоная частка з’яўляецца асобным творам мастацтва – і каб знайшлі толькі рукі Венеры Мілоскай, быў бы твор “рукі багіні”. Так і Торс... Каго ён выяўляў, хто яго стварыў? Мы не даведаемся ніколі. Можа, пры жыцці ягоны скульптар быў не самым паважаным і знакамітым, можа, сам Торс быў дэталлю якой-небудзь груваесткай, пампезнай кампазіцыі, якая праслаўляла зямных уладароў ці багоў і не выклікала асаблівага эстэтычнага трымцення? Можа, пакуль яго вянчала галава, у яе твар многія хацелі плюнуць?

Дарэчы, яшчэ адзін дзіўны экспанат – вялізная бронзавая шышка пініі ў двары. Можна прыняць за твор сучаснага мастацтва – але гэта выраб антычнасці... Яе знялі ў свой час з маўзалея Адрыяна. Дантэ згадаў тую шышку ў “Боскай камедыі”. Твар аднаго з гігантаў, убачаных у пекле, шырокі і доўгі, як “шышка ў Рыме ля Пятрова храма”.

Мікеланджэла, дарэчы, зусім не збіраўся распісваць Сіксцінскую капэлу. Бо не лічыў сябе мастаком. Але Папа сказаў – “Малюй. Мы вырашылі, што ты мастак”. І маляваў. Доўгія гады распісваў купал, на вышыні, на будаўнічых лясах, задраўшы галаў, так, што скрывіў пазваночнік і сапсаваў зрок – вочы сталі расфакусаванымя, каб разгледзець, мусіў падымаць прадмет над сабой. Сябе вялікі фларэнтыец выявіў на фрэсцы ў выглядзе насельніка чыстца з садранай скурай, а свайго галоўнага ворага – кардынала-крытыкана – у самым нізе пекла, ды яшчэ абвітым змяёй. Прычым змяя кусае кардынала за самае дарагое для мужчыны месца. Калі фрэска была скончана, “герой” сцэны раз’юшыўся... І нічога. Папа толькі пасмяяўся, маўляў, каб Буанароці цябе ў раі намаляваў, дык я мог бы паўплываць, а ў пекле сувязяў не маю... Разумеў, што мастак мае права маляваць так, як ён хоча – бо толькі так атрымліваюцца шэдэўры.

Сіксцінская капэла – галоўная прынада турыстаў. Там нельга размаўляць (але размаўляюць). Нельга фатаграфаваць (але крадма фатаграфуюць). Нельга надоўга затрымлівацца (але мяне ледзь скранулі з месца). Калі стаіш пад “Стварэннем свету”, чамусьці жыццё замаруджвае крок. Часу проста няма.

А яшчэ ўразілі сцены капэлы – адразу ідзе распісаны Мікеланджэлам купал, потым – карціны Рафаэля, Бацічэлі ды іншых, а потым – імітацыя занавесаў. Здаецца, сапраўды вісіць цяжкая ўзорыстая тканіна. Хоць носам ткніся ў роспіс – не расчаруешся.

Млявая фігура Адама – гэта яшчэ матэрыял, пазбаўлены току механізм, моцная рука Стваральніка вось-вось “падключыць” стварэнне да сусветнай энергіі... І гэтая мізэрная і непераадольная адлегласць паміж іх пальцамі – як узмах ляза смерці, бо калі гэтая адлегласць ёсць, хоць на таўсціню воласа – жыцця яшчэ няма. Сэнс фрэскі, сэнс усяе Сіксцінскае капэлы – менавіта ў гэтай адлегласці, недавершанасці, у гэтым “вось-вось” – і дакрануцца, спалучацца дух і плоць, творца і стварэнне... Але – пакуль не... Ёсць толькі намер, толькі рух насустрач... І ў гэтым вялікая трагедыя мастакоў усіх часоў – немагчымасць абсалютнага авалодвання матэрыяй, ажыўлення яе.

П’ету працы Мікеланджэла ў храме Святога Пятра адгарадзілі куленепрабівальным шклом: адзін маньяк кінуўся быў скульптуру разбіваць з крыкамі, што занадта праўдападобна. Глядзець невыносна. Шкло як бы і празрыстае, але штосьці важнае адбірае.

А вось да правай ступні бронзавага Святога Пятра дакрануцца можна: вядома, загадаўшы жаданне. Ступню стачылі далоні вернікаў так, што праз пару стагоддзяў яна, відаць, сатрэцца дарэшты. Надмагілля апостала няма – вядома толькі, што храм пабудаваны над яго пахаваннем. А вось магіла Рафаэля ёсць: над ягонай плітой, у нішы, цалуюцца два залатыя галубы. Што ж, каханак бу-

лачніцы Фарнарыны для ўсіх увасабляе каханне і мілату. Хаця, як і ўсе мастакі эпохі Адраджэння, быў яшчэ тым прайдзісветам. Жывапісцы, скульптары, музыкі, філосафы, паэты біліся на кулаках, пілі і спакушалі жанчын, атручвалі ворагаў, інтрыгавалі... Беларускі шляхціц Міхайла Глінскі ў гэты час таксама спрабаваў сябе ў Італіі як мастак, маляваў рымскіх натуршчыц, потым спакусіў герцагіню, пляменніцу Папы, потым у карчме даў па галаве куфлем нейкаму задзіраку, а той выявіўся сваяком дэкана ўніверсітэта, дзе Глінскі вучыўся... Давялося ўцякаць, уладкаваўшыся матросам на карабель. Каб пасля разбіць татараў пад Клецкам, перабегчы да маскоўскага цара і быць аслепленым у сутарэнні па загадзе роднай пляменніцы – расейскай царыцы...

Італія Адраджэння – гэта эпоха мецэнатаў, яна вымагала змагацца за цёплыя месцы. Леанарда да Вінчы, быў, дарэчы, не вельмі ўдалым кар'ерыстам. Плацілі яму менш, чым іншым знакамітым калегам, працаваў недаравальна марудна, дый з-за ягоных вечных эксперыментаў з фарбамі фрэскі асыпаліся.

Так, шаснаццатае стагоддзе для рымлян – не даўніна. Петрарка і Дантэ, блукаючы па гэтых вулках, бачылі тыя самыя дамы і той самы Калізей, што і мы. *"Сенатары то спяць, то зноў равуць, і топяць аднаго адзін прыгожа. А што паэты тут? Паэты – п'юць, ці паміраюць – той, хто піць не можа"*. Калісьці я, начытаўшыся хронік Святонія, напісала драматычную паэму "Пасля Цэзара", часы якой адбываюцца ў эпоху Актавіяна Аўгуста.

Мяне цікавіла, чаму ўсе кандыдаты на трон такія добрыя-душэўныя, а варта ім атрымаць уладу – ператвараюцца ў тыранаў? Я пісала пра Тыберыя, таленавітага смелага юнака, якому маці, уладная прыгажуня Лівія, здабыла інтрыгамі трон, пры гэтым забіўшы ў сыне веру і чалавечнасць. З паэмы пры публікацыі "вынялі" тост старажытнарымскага паэта *"Што тут паэт? У гэтым сквапным свеце за тое плоцяць, што нясуць у дом. А вершы – гэта зоры, гэта вецер, імгненне, што застыла пад сцілом... Што можам паказаць мы багацеям? На твар багіні – толькі лёгкі след. Не напалохаюць герояў цені, якія ажыўляе кіфарэд..."*

Немагчыма ў творчасці зусім пазбегнуць антычных матываў... Але гісторыя чалавецтва пабудаваная на тым, што час ад часу нейкае пакаленне пачынае апантана абвяргаць і знішчаць тое, што створана папярэднікамі, абвяшчаючы гэта блюзнерствам ці баластам на "караблі сучаснасці"... Рым – выдатны прыклад таму. Рымляне паразітавалі на грэках, пераняўшы ў зваяваных іхнюю культуру, навуку і нават пантэон багоў – толькі памяняўшы Зеўсаў на Юпітэраў... Ну, гэта калі яшчэ не згадваць этрускаў, чые землі яны занялі. Калі запанавала хрысціянства – пачалі нішчыць статуі багоў і паганскія храмы... Нават сярод хрысціянаў былі прыхільнікі таго, што нельга рабіць выявы Бога... Мастацтва абвяшчалася грахоўнай раскошай, Папы замаўлялі цудоўныя карціны, Саванарола іх паліў... Уся гісторыя – гэта вялікая сметніца, на якой мы знаходзім парэшткі, аскалёпкі, ашмёткі і па іх рэканструюем мінулае – на свой густ. Вось як тут – зазірнуў за рог, на вузкую вулічку – а гэта вуліца Нагі. Дакладней, Ступака. Стаіць такі мармуровы, велічынёй з аўтамабіль... Кажуць, ад статуі Артэміды. Вуліца Коткі – і сапраўды, вось яна, маленькая, але егіпецкая, котка, якой некалькі тысяч гадоў, сядзіць на карнізе і глядзіць белымі невідушчымі вачыма...

"Юпітэр, перад мармурам тваім віна адлію: Апалон – бяссілы... У вершах цэзар праслаўляе Рым узнёсла, аж да вогненнай магілы..."

Напэўна, каб прачуць – вось Калізей, Капітолій, Палацін, трэба было больш часу і моцы... Але пад вечар мы маглі толькі ўлегчыся на каменныя пліты пад сценамі амфітэатра, які памятаў Цэзара, Нерона і Спартака, і лена адбівацца ад нападаў азіятаў, якія настойліва прапаноўвалі пластыкавыя кубікі з выявамі рымскіх помнікаў па адным еўра...

Рома, ах, Рома... Радзівілы сталі князямі Рымскай імперыі – трэба ж было

каралеўскім фаварытам здабыць прэстыжны тытул, каб падцерці нос магнатам, што лічылі сябе больш радавітымі. Пане Каханку жыў тут у выгнанні пасля паразы пад Слонімам у бойцы з войскамі Панятоўскага і расейцаў. Дзівіў італійцаў надзвычай тлустай ежай і пахвалёнамі, што мае “неразменны склют” – залатую манету, прычым велічынёй з жорнаў. У Рым у пятнаццатым стагоддзі ездзіў беларускі шляхціц Аляксандр Солтан, каб здабыць грамату ад папы, што ў Вялікім Княстве Літоўскім дазваляецца служыць па праваслаўным абрадзе – палякі-каталікі якраз пачалі “наязджаць”... Грамату здабыў, нават з’ездзіў у Ерусалім і стаў рыцарам Труны Гасподняе, але грамата не падзейнічала. У Вільні ў касцёлах Солтана абазвалі сабакам і не паверылі ягоным расповедам.

А вось падземны, катакомбны Рым мы не паглядзелі... Куды там... У Конан Дойла ёсць апавяданне пра помсту археолага. Ён завабіў суперніка, які загубіў ягоную нявесту, у сутарэнні, расказаўшы, што знайшоў месца служэння першых хрысціянаў... Сапраўды, знайшоў. І пахаванні, і падземны храм... Вось толькі пакінутая пад зямлёй ахвяра так і не выбралася наверх з лабірынтаў. Гэтак жа, як няшчасны Фартуната, замураваны ў італьянскіх катакомбах помслівым Мантрэзорам, героем аповеду Эдгара По “Бочачка амантыльяда”.

Каменьчык ад Калізея адправіўся ў маю мінскую калекцыю камянёў.

Бывай, горад прыёмных сыноў ваўчыцы, Ромула і Рэма... Трошачкі ад цябе заўсёды будзе ў любым творы да сканчэння чалавечае цывілізацыі, а мы, народ неўраў-ваўкалакаў і нашчадкі Палямона, гэта зразумеем лепей за іншых.

Па дарозе да наступнага гатэльчыка аказалася, што паны-кіроўцы няправільна занеслі ў навігатар назву мястэчка, у якім мы павінны начаваць. Ноч, італьянскія Альпы, вузенькія вясковыя дарогі, лес, мільгаюць разваліны крапасных сценаў і замкі... Сорак тры беларускія турысты згубіліся паміж расселінаў, скалаў і піній. Як у эпізодзе з аповесці Джэрома К. Джэрома пра ангельскі лабірынт, калі турысты блукалі па коле, праходзячы ля аднаго і таго ж кавалка кінутай булкі, мы ездзілі па коле, пазнаючы адзін і той жа замак... Вось да Рыма трыццаць тры кіламетры... Праз гадзіну шыльда сведчыць, што да яго – трыцаць сем кіламетраў. Яшчэ праз гадзіну – трыцаць два. Як быццам Рома водзіць нас вакол сябе, навязаўшы на нябачную нітку. Дабраліся да начлегу толькі а палове на першую ночы...

Калі рымскія цэзары хварэлі, да іх паслугаў былі тэрмальныя воды. Паводле легенды, тэрмы Сатурнія ўзніклі, калі Юпітэр шпурнуў дзіду ў змрочнага Сатурна ды не пацэліў, і з таго месца, куды зброя ўваткнулася, палілася гарачая вада. Ёсць тут, ніжэй, і спа-курорт, басейн якога запаўняе вада з чароўнай крыніцы. Але што тычыцца галоўнага вадаспаду Муліна ля старога млына, куды прывезлі нас – дык калі яго хацелі неяк асучасніць, пабудаваць памяшканні для наведнікаў, ну і, вядома, браць за купанне плату – месцічы зладзілі маніфестацыю пратэсту. І мы пабачылі тэрмы ў такім самым выглядзе, як калі ў іх плёхаліся этрускі ці лячыў скураную хваробу тыран Сула. Вадаспад гарачай вады, ад якой за вярсту пахне серавадародам, струменіць уніз з узгорка. З мінералаў утварыліся гэткія чашы, у якіх з задавальненнем сядзяць людзі... Мы прасядзелі дзве гадзіны. Літаральна не хочацца вылазіць. На дне – дзіўныя круглыя каменьчыкі, якія відавочна ўтварыліся з мінералаў і соляў, як утвараюцца ў арганізме чалавека. Здымкі з відамі тэрмаў Сатурнія дзіўным чынам нагадваюць карціну расейскага мастака Іванова “З’яўленне Хрыста народу”. Празрыстая вада, стракаты натоўп, хтосьці распранаецца, хтосьці хутаецца ў ручнік, адзежа раскідная па кустах і скалах... Іваноў большую частку жыцця правёў у Італіі, 20 гадоў маляваў эскізы да сваёй галоўнай карціны. Ці не можа быць, што прататыпам Іардану паслужылі тэрмы Сатурнія?

Праз партовы горад Чывітавек’ю проста праехалі – толькі прыхапілі экскурсавода. Хаця чакалася экскурсія. Аднак самае цікавае ў гэтым горадзе, падобна,

ягоная назва нібыта на птушынай мове. Падчас апошняй вайны ўсё разбамбілі. А вось па Грасэце мы прайшліся. Сярэднявечны гарадок, вакол якога захавалася высозная шырокая абарончая сцяна, якая ў плане ўтварае шасцікутнік. Па ёй можна гуляць, як па прысадах. Між дрэваў выставілі старажытнарымскія ванны. Турысты зараз жа паспрабавалі сфоткацца, залезшы ў іх. Быў у горадзе інстытут, які рыхтаваў рэстаўратараў – ды зачыніўся... Не грашовая спецыяльнасць. І экспанатаў археолагі навыкопвалі процьму – ляжаць у запасніках.

Наведвалі мы мястэчка ў час сіесты, а значыць, усё было, як вымершы. Нават гаварыць гучна было няёмка – нібы каго пабудзіш. У саборы трынаццатага стагоддзя – алтар Антонія Гіні і “Успенне” Матэа дзі Джавані... Увогуле, ад усведамлення мясцовага багацця проста дыханне перахоплівае – у любым, самым маленькім, мястэчку маецца шэдэўр, за які наш нацыянальны музей душу заклаў бы, калі яна ў яго, вядома, ёсць... Джота, Батычэлі, Рафаэль, Фра Філіпа Ліпі, ці проста антычная скульптура, развалiны храма якойсьці Мінервы...

У Грасэта ёсць турма і старажытны шпіталь Мізэрыкордыя, у якім цяпер банк. Маюцца кляштары францысканцаў і кларысак... А як іначай – Святы Францыск Асізскі і ягоная сяброўка святая Кларыса – асобы ў гісторыі неаддзельныя. У маленькім храме францысканцаў вянчаўся артыст і спявак Адрыяна Чэлентана. Ён сябруе з мясцовым пробачшам, вось і прыехаў... Каб ціха, без папарацы, ноччу ўзяць шлюб.

Там-сям у Італіі можна бачыць рэшткі памяці пра Мусаліні і фашыстаў. Рэшткі – бо ўсё фашыстоўскае знішчаецца. Тут людзі таксама нацярпеліся... Помнік ля крапасной сцяны Грасэта, малацікавы шэры абеліск з пафаснымі арламі, відавочна ўзведзены ў часы Мусаліні, але ўвенчаны зоркай: пасля вайны, збіўшы ганебныя элементы, яго “рэабілітавалі”. Але ў адным месцы на сцяне мы ўсё-ткі пабачылі накрэсленую кімсьці свастыку: зараза гэтая час ад часу па ўсім свеце дае рэцэдывы.

Грасэта – гэта ўжо правінцыя Таскана... Калісьці тут было процьма малярыйных балатоў. Асушылі... Мясцовыя “людзі на балоце” забыліся, што такое твань і дрыгва. Аднаму з Габсбургаў, што асушыў тыя балаты, нават стаіць конны помнік на пляцы. Хоць дзесьці меліярацыя пайшла на карысць... Цікава, беларусы паставяць калі-небудзь помнік тым, хто асушыў іх балаты?

А раней тут знаходзілася пасяленне этрускаў, якое называлася, між іншым, Руселы. Амаль па-славянску... На гербе горада – грыфон, які сведчыць, што гараджане паходзяць ад этрускаў. Калі беларуская шляхта лічыла, што паходзіць ад выгнанага рымскага князя Палямона, чаму яна не можа мець роднасныя сувязі з этрускамі?

Горад, дзе мы павінны былі спыніцца на пяць дзён, называецца Ліда дзі Камаёрэ. Насамрэч пасёлак Камаёрэ – вышэй, у гарах. А тут – пляжная зона. Мора ад нашага гатэля “Перла дзі марэ” – зусім блізка. Пару хвіль... Але не ўсё так проста ў капіталістычным свеце: паколькі свайго ўчастку берага ў нашага гатэля няма, нам трэба паўгадзіны ісці да муніцыпальнага пляжа. Бясплатнага, а таму вузенькага, заціснутага між двума прыватнымі, зазвычай пустэльнымі, затое застаўленымі акуратнымі шэзлонгамі.

На вузенькай бясплатнай палосцы людзей, як камароў над дрыгвой. Адразу набягаюць мурыны, якія прадаюць посцілкі, сумкі і сонечныя акуляры. Маладая тайка ходзіць і прапаноўвае кропкавы масаж. А мы, белыя, паўночныя дзікуны, лезем у мора. На моры – хвалі. Вісяць сцяжкі – чырвоны і жоўты. Ніхто не купаецца. Але ў нас мала дзён у запасе і шмат стомы ад аўтобуса... Выратавальнікі, у асноўным чорнаскурыя, адразу проста свісцяць крэйзі турысто, што скачуць у крутых хвалях Лігурыйскага мора, потым ажно спускаюцца са сваіх вышак, стаяць на беразе, зусім па-італьянску жэстыкулююць, хапаюцца за галовы, зноў свішчуць... Але нашая турыстычная група – у моры! Мы шчаслівыя!

Урэшце мы з мужам купляем у аднаго з настойлівых пляжных гандляроў ажно дзве вялікія посцілкі – чырвоную з чорнымі чарапахамі і белую, з выявай сонца месяцовага: надта нагадала сімвалы Францыска Скарыны. Так што цяпер у нас на канапе – посцілка, купленая на Лігурыйскім моры, у Тасканскай Рыўеры, у сенегальца-нелегала, зробленая, як засведчыў цэтлік, у Індыі, і выявіўшая скарынінскія знакі.

Дарэчы, нас адразу папярэдзілі, што калі прыйсці на пляж ноччу – штраф тысяча еўра.

Зразумела: ноччу выцягваць з хваляў ніхто не будзе... А твой труп – не самая лепшая рэклама курорту. Зноў успомніўся бедны Мікола Селяшчук...

Акрамя знаёмства з сіестай – дзесьці з гадзіны да чатырох горад вымірае, удасканалілі ўяўленне пра італьянскае меню. Сняданкі сапраўды сціплыя. Але далей... У “Перлу” нашу мы засяліліся ўвечары і пайшлі на першую італьянскую вячэру адразу з аўтобуса, стамлёныя, галодныя. Вячэра расчаравала: рэстаран прыгожы, сталовых прыбораў перад кожнай талеркай шмат, а на стале толькі вялікія місы з салатай з памідораў і агуркоў, сала, нарэзанае так, што праз лусты можна чытаць, сыр, масла, хлеб... Ну, што ёсць, тым і паспрабуем наесціся. Пад дзікаватыя позіркі італьянскіх афіцыянтак усе наклалі сабе на талеркі па дзесяць лустаў сала ды горы памідораў... Пад’елі. Той-сёй сабраўся ўжо ў нумары... І тут афіцыянткі перад кожным ставяць па цэлай місе макарон з мясам і падлівай. Людцы павесялелі, з’елі макароны... Афіцыянткі прыбралі пустыя місы. І раптам – прэга, сіньёры – кожнаму нясуць па талерцы з двума кавалкамі мяса ды бульбай. Як у народнай казцы пра мужыка, якога пан узяўся пачаставаць да адвалу, а той толькі скажа –“усё, наеўся”, але наступнае блюда зноў падчышчае. А потым у сваё апраўданне паказаў эксперымент са збанам, поўным каменьчыкаў, у які, аднак, змясціўся яшчэ збан пяску, а потым і збан вады.

З’елі і гэтую страву. А італьянкі нясуць па піроўным...

І так кожны вечар. Асабліва ўсіх напружылі макароны – абавязкова цэлая міса, ці з мясам, ці з крэветкамі – паміж салатамі і асноўнай стравай... Так мы зразумелі эмпірычным спосабам, что вячэра італьянцаў – гэта сінтэз абеду і вячэры. Да таго пачыналася яна позна, а восьмай. Была і яшчэ фішка: карміць – кормяць, а піць не даюць. Раніцай, за сняданкам, пі, што хочаш: сок, гарбату, каву... А за вячэрай – хочаш не на сухую жаваць макароны, купляй ваду ці віно за еўра... Паколькі рэстаранныя цэны нават на мінералку паўсюль даражэй за крамныя, нашы людзі ў большасці давіліся ежай, але пітво не замаўлялі. Цярпелі, каб у нумары выпіць свайго. А што ж, мы з постсавецкай прасторы, мы эканомныя!

Італьянка Бона Сфорца прывезла ў Польскую карону і Вялікае Княства Літоўскае шмат новага – у прыватнасці, прывучыла месцічаў есці гародніну (дагэтуль, напэўна, лічылася, што расліны ядуць тыя, каму не хапае грошай на мяса). Паказала, як есці відэльцам (яны напачатку былі двузубымі). Прывезла новыя ўборы – сукенкі з дэкальтэ, напрыклад. Ну і разнастайныя атруты. А, з’язджаючы, прыхапіла з сабою вялікі кавалак дзяржаўнай казны (Боначка, што звезла золата бочачку).

Гародніны італьянцы ядуць шмат і цяпер. Асабліва ўразіў камбайн, які збіраў на полі памідоры. І смецяць італьянцы больш, чым немцы і аўстрыякі... Пластыкавыя бутэлькі і пустыя абгорткі на ўзбочынах дарог – не навіна... І пра тое, што ітльянцы – шумная нацыя, праўда. У доме насупраць нашага гатэля немаладая кабета выходзіць на балкон і ўзахліп плача – у яе захварэла ўнучка. “Мама мія!” Суседзі таксама павыходзілі на балконы і абмяркоўваюць, спачуваюць. “Мама мія!” І нібыта і не працуюць нідзе, адна сіеста. Але хтосьці стварыў жа гэтыя акуратныя жоўтыя дамкі з чарапічнымі дахамі паміж вінаграднікаў, нехта зрабіў цёмна-чырвонае і густое, як кроў, к’янці, і ўсе гэтыя дызайнерскія

штучкі, якімі так прыемна прыўкрашаць жыццё і якія спакушаюць у вітрынах крамак і крамаў...

“Мама мія!”

У нас жа як: калі хто крычыць на ўвесь двор – дык крымінальнік ці п’яніца. Вы заўважылі, што зніклі нават рытуальныя крыкі маці “Вася, ідзі дадому!”, “Ганна, абедаць!”? Дзеці гуляюць не ў двары, а ў суседнім пакоі за кампутарам.

Вось у час сіесты – цішыня...

З нашага гатэля чуваць, як б’юць званы на невялікай званіцы традыцыйнага светла-жоўтага колеру... Калі дабраліся да яе, пабачылі і храм, але ён быў часткай комплексу. Вялікі прыгожы дом, сад з масточкамі, ручаінкамі, альтанкамі паміж дрэваў... Вось святар з акуратным белым каўнерыкам размаўляе са старэчамі, якія сядзяць у альтанцы за столікам і папіваюць гарбату. Усе бабулькі з перманентнымі завіўкамі, кудзеркі падфарбаваныя ў прыемны сіняваты колер, у стыльнай адзежы... Перад намі быў дом састарэлых камуны Камаёры пры нейкай хрысціянскай місіі.

І, дарэчы, разваліўся яшчэ міф пра Еўропу, якая не чытае.

Яшчэ як чытае. На кожным кроку кніжныя крамы, у якіх ёсць пакупнікі. На стэндзе бліжэйшай ад нас, выстаўленым на вуліцу – “Майстар і Маргарыта”, “Злачынства і пакаранне”, Рэмарк, Бальзак, і, зразумела, Дантэ... Ёсць букіністычныя крамы. Ёсць кніжныя развалы. Чытаюць на пляжах, чытаюць у рымскім метро... Прычым папяровыя кнігі.

Я выкупіла альбомы пра Таскану і пра аднаго з самых загадкавых мастакоў свету – Эшэра, майстра аптычных ілюзій. Кніга даследуе, адкуль Эшэр браў матывы сваіх карцін. Аказваецца, у сярэднявечных малюнках дастаткова падобных ілюзій, дый у самой прыродзе – варта ўгледзецца ў ліст манжэткі, усыпаны кроплямі расы. Ну і італьянскія мястэчкі ў малюнках Эшэра пазнаюцца.

А потым са мной здарылася Фларэнцыя.

У маім рамане “Скокі смерці” дзейнічае таямніча-злавесны сярэднявечны лекар Гервасі Бернацоні, які стварае гадзіннікі, здольныя выклікаць масавы псіхоз – скокі смерці. Лекар, якога паклікалі на службу ў Вялікае Княства Літоўскае, родам з Фларэнцыі, і ўвесь час па ёй сумуе. Напрыклад, сваёй палонніцы, беларускай дзяўчыне Анэце гаворыць: “Ты ведаеш, што такое лімон, сіньярыта? Адкуль... У яго смак няспелага агрэсту. А колерам ён нагадвае сонца Фларэнцыі... Мія кара Фларэнца...

Бернацоні тужліва зірнуў у вакно, за якім згушчалася вечаровая цемра”.

Сонца Фларэнцыі сапраўды сляпучае... І сама Фларэнцыя асляпляе.

Менавіта тут, у царкве Санта Крочэ, што азначае Храм Святога Крыжа, нарадзілася такая з’ява, як сіндром Стэндаля. Аўтар “Чырвонага і чорнага” выйшаў на ганак гэтага храма і страціў прытомнасць ад перанасычанасці прыгажосцю.

І я яго разумею. І сёння ля асноўных артэфактаў Фларэнцыі, асабліва на пляцы ля храма Санта Марыя дэль Ф’ёр, дзяжураць хуткія дапамогі. Людзі млеюць ад захаплення!

Калі ў Сіксцінскай капэле перахоплівала горла ад неверагоднай прыгажосці – а галоўнае, ад таго, што ведаеш столькі з гэтай прыгажосцю звязанага, і не верыцца, што сам гэта бачыш, то Фларэнцыя – уся як Сіксцінская капэла. Уся – музей...

Вось – змрочны дом, аблямаваны рабрыстымі ахрыстымі пліткамі, і табе гавораць, што ў ім, ву-унь за тым вакном, Леанарда да Вінчы маляваў Джаконду... А ў гэтай непрыкметнай цэрквачцы, сярэднявечнай, з нізкай скляпеністай столлю – трохі нагадвае полацкую Свята-Еўфрасіньеўскую царкву – пахаваная Беатрычэ. Тая самая, якой Дантэ прысвяціў “Боскую камедыю”. Вось і надмагілле, у нішы над падлогай. Беатрычэ, замужняя шматдзетная кабета, і не падазравала пра палкія жарсці аднаго дзюбаносага паэта... Але каля ейнага надмагілля – вялікі кошык, увесь напоўнены цыдулкамі ад закаханых. Просяць Беатрычэ, каб

дапамагла ў сардэчных стравах. Вось вам яшчэ адзін прыклад, як мастацтва перамагае рэальнасць, а міф важней за факт. Да таго ж непадалёк, у дворыку, на брукаванцы паказваюць профіль Дантэ, утвораны расколінамі ў камні. Каб ён быў бачны – паліваюць вадой. Там увесь час стаіць лужынка. Сапраўды, калі прыгледзецца, можна ўбачыць на мокрым камні карыкатурныя абрысы: доўгі загнуты нос, запалы рот... Прыводзіць на памяць выяву беларускага мысляра-ерэтыка Сымона Буднага. Графічная, здзеклівая выява... Насамрэч гэта і была карыкатура – Буднага апаненты намалявалі ў пекле, пагружанага па горла ў пякельную лаву. Але гэта адзінае вядомае нам прыжыццёвае адлюстраванне мысляра. Цікава, каб не было ў Італіі вальнадумства побач з цемрашальствам, магчыма, што і ад Дантэ застаўся б толькі гэты профіль на брукаванцы – баяліся б ляпіць ды маляваць блюзнера-паэта.

Магілы Дантэ ў яго любай Фларэнцыі, якая асудзіла яго на выгнанне, няма. Ён пахаваны ў Равене. Але ў саборы-пантэоне Санта Крочэ сімвалічнае надмагілле Дантэ маецца, і помнік тут жа на пляцы стаіць. А вось Мікелянджэла тут пахаваны сапраўды. Сумныя скульптуры аўтарства Вазары, якія ўвасабляюць навукі і мастацтвы, схіліліся над апошнім прытулкам генія. Тадышні ўладальнік Фларэнцыі Казіма Медзічы літаральна выкраў цела вялікага суграмадзяніна з Рыма, вывез кантрабандай. Пры жыцці ўпарты Буанароці адмаўляўся вярнуцца ў родны горад, пакуль там не будзе адноўленая рэспубліка. Думаю, другі вялікі фларэнтыец, Леанарда да Вінчы, таксама хацеў бы тут ляжаць, але лёс занес яго, састарэлага, згалелага, з партрэтам Моны Лізы пад пахай, у Францыю... Ляжыць тут, у Санта Крочэ, Галілеа Галілей, народжаны ў Пізе, які таксама пражыў большую частку жыцця ў Фларэнцыі. А вось і надмагілле Макіявелі... Які вынайшаў нялюдскія прыёмы існавання ўлады – і сам ад іх загінуў. Ці шавец без ботаў, ці ўсё-ткі не быў ён настолькі пачварай, як гэта ў нас замацавалася? Нездарма ж з Макіявелі сябраваў вялікі Леанарда...

Але самая важная магіла ў Санта Крочэ для нас – Міхала Клеафаса Агінскага. Таго самага, што напісаў паланэз “Развітанне з радзімай”. Цёмная каменная “рама”, бюст, светлая смуткуючая фігура прыгажуні... Ліцвінскага магната павінны былі тут паважаць – калі пахавалі ў Санта Крочэ... Магіла на тым баку храма, што й Галілеа Галілея. Адзін давёў, што зямля круціцца, другі – што жыць без роднай зямлі немагчыма.

Чаму творчасць мастакоў менавіта тае эпохі нас так вабіць, уражвае, здаецца таямнічай і неспасцігнутай? Так, яны змянілі тэацэнтрычную сістэму на антрапацэнтрычную, і чалавек, яго цела, ягоныя эмоцыі сталі галоўнымі для мастацтва. Але ж яны засталіся людзьмі жорсткага часу, калі жыццё каштуе менш, чым прыгожая карціна... Калі загінуў хлопчык, якога Леанарда пафарбаваў у залаты колер дзеля свята, для вялікага мастака гэта была найперш навуковая загадка. У прынцыпе, усё чалавецтва можна ўявіць такім пафарбаваным у золата хлопчыкам – ён бегае, радуецца, што такі прыгожы, што ўвасабляе бога, і не здагадваецца, што бліскучая фарба стане прычынай ягонай пакутлівай смерці, доўгай агоніі, калі ніхто не паруліцца сцерці хоць частку пазалоты.

Пераход ад Сярэднявечча да Адраджэння: фрэскі ў Санта Крочэ вялікага Джота. Жыццё святога Францыска распавядае не толькі пра падзеі, але і пра эмоцыі герояў. Дагэтуль мастакі і не высільваліся, каб перадаць пачуцці. А мне цікава: няўжо, чым бязлітасней час, тым прыгажэй атрымліваюцца карціны ў мастакоў? Вось цудоўная капліца, спраектаваная геніем-архітэктарам Брунэлескі. Але пахаванняў няма: род, які мусіў мець тут свае ўрачыстыя надмагіллі, быў да апошняга немаўляці выразаны за ўдзел у закалоце супраць усемагутных Медзічы. Герб апошніх можна сустрэць у Таскане паўсюль: сем (радзей – пяць) шароў на шчыце. Кажуць, шары мусяць увасабляць пчолаў.

Фларэнцыя моцна пацярпела ад паводкі 1966 года. Залатыя вароты баптыстэрыя з рэльефамі з жыцця Яна Хрысціцеля 14 стагоддзя, якія Мікеляндджэла называў "Брамай у рай", зараз схаваныя, на іх месцы – лазерная копія. Яшчэ адна копія гэтых дзвярэй – у Казанскім саборы ў Санкт-Пецярбурзе (расейцы, калі ўзводзілі сваю "паўночную Венецыю", пераймалі ўсё самае лепшае). "Укрыжаванне" Чымабуэ трынаццатага стагоддзя з капэлы Паццы падчас паводкі цэлы дзень праляжала ў гразі, думалі, не адновяць...

Дарэчы, рэстаўрацыя тут не прадугледжвае "вылізванне": адноўленыя дамы, напрыклад, не ззяюць навюткай цэглай, як у нас. Успомніць ганебны выгляд Лідскага замка, дзе нават не спрабавалі падабраць цагліны, падобныя да аўтэнтычных, і "latкі" відаць за вярсту...

Канчаткова сіндром Стэндаля дагнаў мяне на пляцы перад Санта-Марыя дэль Ф'ёр, храма ў гонар Мадонны з Кветкай, і званіцы Джота. Не той, што страціла прытомнасць перад карункавым фасадам з пяшчотнымі ружова-белымі мармуровымі пералівамі – але горла зноў перахоплівала, і ўсхліпваць пачала. А паколькі муж прызнаваў толькі фота па тыпу "Тут быў Вася", давялося цяжка – патрабаванні стаць у кадр былі недарэчы... Навошта ўзрушанай, заплаканай фізіяноміі псаваць нетутэйшую прыгажосць?

Тут, на пляцы, спалілі энтузіяста-мніха Саванаролу... Гэтак жа, як ён паліў кнігі і карціны, бо быў перакананы, што створаная рукамі чалавека прыгажосць ёсць грэхам, і раскоша ўвогуле – грэх... Больш за тое, палымянымі прамовамі з кафедры той самай дэль Ф'ёр ён змог пераканаць у гэтым саміх мастакоў – і тыя пакорліва прыносілі свае карціны для вогнішча...

Джыралама Саванарола, арыстакрат, які чатыры гады быў дыктатарам Фларэнцыі, рэспубліканец, што абвесціў каралём Фларэнцыі Ісуса Хрыста і напісаў кнігу "Аб пагардзе да свету", быў арыштаваны, катаваны, павешаны і затым спалены... Чаму? А хто пацерпіць, калі да яго штодзень урываюцца ў дом увішныя хлопчыкі са спецыяльнага атраду тамтэйшых хунвэйбінаў, каб прасачыць, ці не носяць гаспадары каштоўных упрыгожванняў і ўбораў, ці не гуляюць у карты ці на музычных інструментах... Крамольныя прадметы канфіскоўваліся і спальваліся на "вогнішчы фанабэрыі", вось тут, на гэтым пляцы...

Памятаю, з якім пякучым пачуццём чытала даклады спецыяльных камісій пачатку 1930-х пра вываз мастацкіх каштоўнасцяў з Гомельскага, Віцебскага, Магілёўскага і Мінскага музеяў у Ленінград, у распараджэнне таварыства "Антыкварыят". Габелены фламандскай працы, гравюры Дзюрэра, персідскія гравюры... Колькі павывозілі з Беларусі тагачасныя Саванаролы! Колькі паскрадалі цягам стагоддзяў разнастайныя акупанты! І ў нас жа меліся палацы і замкі, магнаты і мецэнаты, з калекцыямі, якія славіліся на ўвесь свет... А цяпер мы ўздыхаем і зайздросцім, не падазраючы, што былі не менш багатымі... Нават працы ўласных мастакоў не змаглі захаваць, і нам цяпер прывозяць іх палюбавацца...

А на пляцы Сіньярыі зноў можна было страціць прытомнасць. Ну добра, Давід Мікеляндджэла, што там стаіць – копія, гэта вядома... Арыгінал тут жа, побач, у музеі, і рэгулярна абрушвае людзей у стан несвядомасці, ніхто не ведае, чаму. Але іншыя скульптуры на пляцы – арыгіналы! І Персей Бенвенута Чэліні, і Геркулес Бандынэлі, і шмат чаго іншага...

Вядома, дужа хацелася паглядзець у галерэі Уфіцы "Звеставанне" да Вінчы і "Нараджэнне Венеры" Батычэлі – карціны, цытаты з якіх рассыпаныя па ўсёй Таскане... Але пайсці групай не атрымалася – не набралася жадаючых, бо чароўнае слова "шопінг", вядома, больш прывабнае, чым слова "музей"... А пайсці самім? Вольны час, які нам далі, быў абмежаваны, а ў чарзе мы маглі страціць тры, чатыры гадзіны і так і не дастаяцца... І нам параілі пайсці ў палацца Піцці, дзе ў галерэі Палаціна таксама някепскі збор карцін. Шлях пралягаў праз мост Понтэ

Век'ё. Гэта адзіны старажытны мост, які не быў падарваны падчас апошняй вайны – Супраціўленне выратавала. Калісьці мост пабудавалі Медзічы, каб пераходзіць з аднаго свайго палацу ў другі па сцецыяльнай галерэі, увешанай карцінамі. На першым паверсе мосту, як і колісь, ювелірныя майстэрні.

Адразу ўспомнілася, што бард Зміцер Сідаровіч, які памёр незадоўга да нашай паездкі, у "цывільным" жыцці працаваў галоўным інжынерам – праектаваў масты. І, напэўна, не аднойчы мы па іх праходзілі, не здагадваючыся, што ў іх канструкцыях гучыць музыка барда, дудара, паэта.

У палацца Піцці таксама доўгая чарга, але сюды асноўная плынь турыстаў не даходзіць – усе ломяцца ў галерэю Уфіцы, як у Луўры – да Джаконды. Так бы мовіць, адзначыцца. За дзесяць хвілінаў дастаяліся, узялі білет на маршрут нумар два – галерэя Палаціна, музей срэбра, музей касцюмаў і штосьці яшчэ... А што вы хочаце – багаты купец Піцці замаўляў Брунэлескі такі палац, каб вокны ў ім былі, як дзверы ў Медзічаў, а двор – як увесь Медзічаў палац. А пасля тут была каралеўская рэзідэнцыя, і каралі дадалі раскошы і прыбудоў...

Дарэчы, карціны тут і вісяць не па нейкім музейным прынцыпе, а так, як гаспадары вешалі.

Больш за дваццаць залаў, ад падлогі да столі ў некалькі шэрагаў завешаныя шэдэўрамі... У асноўным эпохі Адраджэння.

Вось тут ліцвінскую пані зноў пацягнула на істэрычныя рыданні.

Я не ведаю, у чым сакрэт карцін менавіта гэтага перыяду, мастакоў менавіта гэтых школаў... Зноў паўтару – яны ў большасці не былі святымі, нейкімі асабліва чыстымі, узвышанымі... Распуснікі, грэшнікі, сквапнікі, уладалюбцы... Я памятаю, як абуралася працамі мастацтвазнаўцы Лосева, які пісаў, што гераіні Батычэлі – рахітычныя гараджанкі са скажонымі прапорцыямі, і расказваў, як вялікі Бенвенута Чэліні паламаў у чарговай бойцы нос вялікаму Мікеланджэла... Чаму менавіта праз гэтыя нявартыя інструменты выяўляецца тая дасканалая прыгажосць, пераўзысці якую немагчыма? Проста немагчыма! Цытаваць, інтэрпрэтаваць – так... Але не пераўзысці. А чаму асобныя абліччы з карцін скрозь некалькі стагоддзяў ГЛЯДЗЯЦЬ на цябе? Нават на адной, шматфігурнай, карціне можа адзін толькі персанаж на цябе сапраўды ГЛЯНУЦЬ...

Так, у аснове такой прыгажосці – рамяство. Напрацаванае цяжкой, настойлівай працай.

Але – і блюзнерства, адчайная смеласць. За любую такую карціну маглі спаліць. Выяўляць чалавека прыгожым, як Бог? Грэх! А яны, пабожныя і не самыя смелыя, выяўлялі – нібыта імі штось кіравала.

Там, у залах, сярод палотнаў Батычэлі, Рафаэля, Фра Філіпа Ліпі, Тыцыяна і Караваджа, Рубэнса і Ван Дэйка, Веласкеса і Рыбейра я атрымала тое, за чым ехала ў Фларэнцыю – эстэтычнае перанасычэнне. Пасля якога пачынаеш неяк па-іншаму глядзець на ўсё.

Як?

Вось мы слухаем розныя асобныя музычныя інструменты. Мы іх нібыта ведаем, пазнаем... І раптам давялося пачуць аркестр, хаця пра сімфанічнае выкананне нават не падазравалі. Так і тут... Карціны раптам пачынаюць гучаць у магутнай сімфоніі... Узмацняючы адно аднаго, адцяняючы гучанне адно аднаго, зліваючыся ў нешта новае... Такое магчыма толькі тут, дзе ўсё ёсць інструментамі – столь, распісаная фрэскамі і ўпрыгожаная ляпнінай, падлога, выкладзеная мазаікай, інтэр'еры каралеўскіх пакояў, нават пейзажы за вокнамі...

І яшчэ адно: мы ведаем з тае эпохі некалькі імёнаў, якія на слыху, якія зрабіліся моднымі... А ты стаіш у залах, дзе сотні, тысячы карцін не менш вартых, але імёны мастакоў табе нічога не гавораць. І разумееш па-іншаму гісторыю мастацтва ва ўсёй яе несправядлівасці. Напрыклад, мы якраз патрапілі на выставу Джакопа

Лігоцы. Яго называюць “самым універсальным мастаком Сярэднявечча” – хаця ён жыў у адзін час з Вазары і Леанарда, якія ўвасабляюць Адраджэнне. Праўда, у ягоных карцінах сапраўды водгулле “цёмных стагоддзяў”. Гульня са смерцю. Шкілеты, данс макабрэ... А яшчэ замалёўкі раслінаў і жывёлаў для атласаў і энцыклапедый (трэнд сезону – чароўны вялікавокі тушканчык). Эскізы княскіх убораў і шпалераў, келіхаў і графінаў у выглядзе дзівосных стварэнняў, кніжная графіка і абразы... Джакопа Лігоцы змяніў Вазары на чале Фларэнтыйскай Акадэміі мастацтва і дызайна... Ці многія ведаюць пра яго?

Калі мы дайшлі да залаў з сучасным італьянскім мастацтвам (гэта па тамтэйшых мерках дзевятнаццатае стагоддзе), было ўсё роўна што выйсці з прыветных марскіх хваляў на пляж. Цела вярнулася ў звыклы асяродак... Налілося цяжкасцю, адчула спёку...

Праз гэтыя залы мы проста прабеглі з адчуваннем падману.

У калідоры перад прыбіральнямі палацца Піцці вісяць карціны сучасных італьянскіх мастакоў-авангардыстаў.

Перад палацца, на адхоне, адпачываюць турысты. Адхон – з асаблівым пакрыццём, толькі знешне нагадвае асфальт: ён цёмны і не такі цвёрды. Паляжалі, зняможаныя, падумалі пра жыццё.

Фларэнцыя, мія кара Фларэнцыя...

Мне заўсёды было цікава, як жыць у такіх месцах, калі – і гэта непазбежна – шэдэўры робяцца звыклай і нават абрыдлай рэальнасцю? Не думаю, што фларэнтыйцы ўвесь час перажываюць “сіндром Стэндаля” і плачуць ад узрушэння на сваіх пляцах... А ўвесь свет гэтым горадам скароны. Фларэнцыя стала месцам дзеяння папулярнай кампутарнай гульні “Асасін Крыд-2”, герой там нават забівае Саванаролу... У рамане Дэна Браўна “Інферна” сюжэт у асноўным таксама разгортваецца ў Фларэнцыі – тут шукаюцца разгадкі “Боскай камедыі” Дантэ, і злачынца труціць падземныя рэзервуары вады вірусам няплоднасці дзеля таго, каб чалавецтва не перавысіла межы сваёй папуляцыі... У Фларэнцыю вазіў свайго юнага пратэжэ Сержа Ліфара Сяргей Дзягілеў, каб навучыць разумець мастацтва.

Думаю, і героі маіх твораў сюды вернуцца.

А наступная нашая вандроўка была ў Пізу.

Вежа, якая падае... Адно з цудаў свету... Нават аматары шопінгу ацэняць. Экскурсія называлася “Вячэрняя Піза”. Паехалі ж удзень, гадзіны ў тры. Чаму меркаваўся вечар – зразумела: калі сонца заходзіць, мармур храмаў набывае пяшчотнае ружовае адценне, а ўночы вежу падсвечваюць... Мы гэтага не пабачылі.

Але і на дзённым сонцы Пізанская вежа выглядае файна. Не заўважыць яе цяжка: яна сапраўды высокая – уздым на вяршыню можа заняць хвілінаў сорак. І гожая, нібыта з каменных карункаў. Але ўражвае і храм, пры якім яна збудаваная, і баптыстэрый побач... Самае цяжкае – сфоткацца на фоне вежы так, каб не патрапілі ў кадр іншыя турысты. Іх тут як блох. “Падпіраюць” вежу ў кадры, “трымаюць” яе на спіне ці на далані... Фоткі з Пізанскай вежай даўно зрабіліся банальшчынай сеціва. Муж, праўда, сам не заўважыўшы, умудрыўся на адным кадры сфоткаць мяне так, што вежа стала працягам майго капелюша.

Пізанскі сабор неверагодна прыгожы. Паводле легенды, калі ён быў дабудаваны напалову, прыехаў рымскі папа, каб асвяціць будынак. Д’ябал раз’юшыўся і паспрабаваў зруйнаваць пабудову, учапіўшыся кіпцямі ў сцяну. Але малебен нячыстую сілу адпалохаў. Затое ў камені застаўся шэраг дзірак ад д’ябальскіх кіпцяў. Паводле легенды, той, хто зможа правільна гэтыя адмеціны пералічыць, здабудзе д’ябальскае шанцаванне. Толькі пакуль нікому не ўдалося. Колькі ні лічыш – вынікі ніколі не сыходзяцца. Хаця студэнты перад кожнай сесіяй спрабуюць. Тут жа ўніверсітэт, праслаўлены імем Галілея, і ў студэнтаў шмат старых традыцый. Каб пашанцавала на іспытах, скачуць вакол сабору на адной ножцы, лічаць знакі ад кіпцяў д’ябла...

Дарэчы, наконт эксперыментаў Галілея – нібыта кідаў з Пізанскай вежы рэчы ды назіраў за траекторыяй палёту – месцічы кажуць, міф гэта. Хто ведае... Ёсць і другі міф: нібыта граф Угаліна, якога за ўдзел у змове замуравалі разам з ягонымі дзецьмі, тых дзяцей з’еў... Насамрэч хутчэй за ўсё на трупах знайшлі ўкусы пацукоў. Але вось на доме, дзе гэта адбылося, дасюль адмысловы металёвы кошык на прэнце – там была выстаўленая галава пакаранага змоўшчыка.

Дантэ Аліг’еры гэтую гісторыю пераказаў у “Боскай камедыі”... Жорстка дакараючы пізанцаў.

Замураваныя персоны ёсць і на Беларусі – Гальшанскі кляштар хаця б успомніць... А вось Пізанскіх вежаў у нас, бадай, больш, чым адна – маю на ўвазе пахіленыя помнікі... Вежы навагрудскага і крэўскага замкаў куды бліжэй да згубы, чым Пізанская – яна, дарэчы, надзейна ўмацаваная нейкімі супер-тэхналогіямі, што ператварылі зямлю пад ёю разам з фундаментам у маналіт.

Мурыны-сенегальцы ўпарта прапаноўваюць нам парасоны з выявамі славутасцяў Італіі і сумкі... Сумку мы набылі ў Фларэнцыі, скасціўшы цану ад трыццаці пяці еўра да дванаццаці. Не тое, каб я ўмела гандлявацца, проста сумка была не так ужо і патрэбная, мы ўжо і ў аўтобус селі, а гандляр усё скакаў пад вокнамі ды паніжаў цану... Нарэшце я выпхнула мужа, каб выкупіў тавар. Белая сумка са штучнай скуры, распісанай пад старажытную карту, прыдалася, каб скласці набытыя сувеніры. Абрастаеш імі падчас паездкі, як карабель водарасцямі... А я яшчэ і каменьчыкі ды ракавінкі збіраю адусюль. Напачатку яшчэ памятала, адкуль што прывезла. Пасля падпісвала – маркерамі, алоўкамі... Вы спрабавалі пісаць маркерам на кавалачку старой цэглы? Вось-вось... Пасля разабраць немагчыма.

Піза адзначылася ў маёй калекцыі белым каменьчыкам.

А вось у Ліда дзі Камаёрэ мы напаткалі антыкварную крамку. Выпадкова. Спрабавалі дайсці да гор – надта спакусна яны высіліся, здаецца, зусім побач, але дайшлі толькі да шашы. Вось там і была гэткая драўляная хібара, застаўленая розным барахлом, ад плеценых крэслаў да бляшаных цукарніц і пажаўцелых фотаздымкаў невядома каго ў рамачках. Тыповы рэпертуар блышынага рынку. Гаспадар гэтага дабра, хударлявы месціч сярэдніх гадоў, падобна, там і жыў, бо нават сіесту праводзіў, рыхтуючы на жалезнай старажытнай рагульцы гарбату. Там я і выкупіла падсвечнік – “кандэлябру” – з жоўтага цяжкога металу, хутчэй за ўсё – латунь, у выглядзе цмока з адкінутымі крыламі і выгнутай доўгай шыяй, за якую можна “кандэлябру” трымаць, як за ручку. Гаспадар запэўніў, што рэч прывезеная з горада Лукка.

І сапраўды – калі мы апынуліся ў гэтым горадзе, пабачылі дакладна такіх цмокаў: у ліхтарах на пляцы, на фасадзе старога банка, у рашотках... Гід нам адразу паведаміла, што лукіянцы – людзі непрыемныя, славяцца як сквапнікі і нядобразычліўцы. Так што не дзівіцеся, маўляў, калі на вас будуць скоса паглядаць і сварыцца – лукіянцы чужых не любяць. Спрадвеку гэта быў горад купцоў, якія ведалі галоўнае: няхай у іншых гарадах пасмейваюцца, але, калі сустракаешся з чужынцам, лепш апрануць на сябе старое падзёртае адзенне, а новае і багатае прыхаваць. Іначай чужы купец паглядзіць, што тут жывуць багатыя людзі, і наступным разам прывядзе сюды войска. Хіба такая ментальнасць не ўласцівая беларусам? Бабулі хавалі прывезеныя дзецьмі з горада транты “на лепшы дзень” альбо “на смерць”, пакуль тая адзежа не спарахнее ці моль не пажарэ. Прызнацца суседу, што ў цябе добры набытак – нізавошта... Лепш прыбядніцца, паскардзіцца на няўдачу...

На адным з пляцаў Луккі стаіць помнік правадыру-патрыёту, якога падчас аблогі выдалі ворагам, каб улагодзіць. Небараку ў палоне закатавалі і забілі. Дантэ выкрыў лукіянцаў у сваёй універсальнай паэме. Праз колькі стагоддзяў прададзенаму патрыёту на няўдзячнай радзіме паставілі помнік... Нічога не нагадвае?

Тым больш назва “Лукка” паходзіць ад слова “балота”. Горад будавалі лігурыйцы, і былі тут балаты. А яшчэ калісьці тут сустракаўся трыюмвірат – Цэзар, Крас і Пампей. Горад тады быў багаты і вялікі. Цяпер на месцы тутэйшага калізея – пляц, па краях якога, паўтараючы авальныя абрысы калізея, дамы... Звонку непаглядныя. Але з самымі дарагімі ў горадзе кватэрамі. Экскурсаводка кажа – лукіянец нізавошта не ахвяруе грошай на грамадскія патрэбы, кшталту рамонту фасаду... Не ведаю, наколькі нагаворвала наша гід на месцічаў – у прынцыпе, нідзе нас не аблаялі. Хаця погляды сапрады сустракалі даволі калючыя: звычайна ўсе ў Еўропе ўсміхаюцца пры сустрэчы. А тут бабулькі, дзядулькі, раварысты і кіроўцы так паглядалі на зграю турыстаў, што перашкаджала ім рухацца па вузкіх брукаваных вулках, што непамысна...

Тут шмат дамоў-вежаў. На адным нават растуць дрэвы. Не абы-якія – дубы. На вышыні ў сорак чатыры метры. Кажуць, у пятнаццатым стагоддзі дубы тут ужо раслі.

На сцяне кафедральнага сабору Сан-Марцін – таксама цудоўнага, з ляпнінай, з карункамі на калонах – мы знайшлі выяву лабірынта. Надпіс сведчыць, што гэта схема менавіта таго лабірынта Дэдала, з якога выбраўся Тэсей, забіўшы Мінатаўра.

Ну, не ведаю... Муж, павадзіўшы пальцам, неяк вельмі лёгка знайшоў з таго лабірынта выйсце. І без дапамогі Арыядны. Мусіць, яму падаравалі б жыццё за гэта – у лабірынт Дэдала заводзілі асуджаных на смерць, але той, хто з першай спробы выходзіў, атрымліваў памілаванне.

На пляцы бязрукі мастак малюе, заціснуўшы пэндзаль зубамі. Яго карціны тут жа можна купіць. Побач гітарыст – грае штосьці з Бітлз. Лукка – горад музычны. Адсюль родам кампазітар Пучыні. І помнік яму стаіць. І музей. І ў тэатры граюць ягоныя оперы. Пучыні вельмі шмат курыў, і бронзавы – працягвае згубную звычку, ад якой і памёр.

У вітрынах вабяць лукіянскія прысмакі: пірагі з зялёнай накрыпкай, кшталту шпінату, вялізныя булкі. Мы абедаем у рэстаранчыку – сэлфі, дзе працуюць афіцыянткі-палячкі. У кошт – даволі сціплы – уваходзіць шклянка к'янці.

Дарэчы, цэны ў “сквапным” Лукку не такія ўжо высокія. Магчыма, таму, што тут не гандлююцца: лукіянцы ведаюць, што са сваімі гандлявацца бескарысна, і адразу ставяць пажаданую цану.

На руцэ скульптуры святога Мікалая, якая прыкрашае царкву імя святога – пярсцёнак з сапраўдным дыяментам. Прыгледзеўшыся, можна заўважыць востры бляск. А ў другой царкве ў шкляной труне спачывае святая Зіта – апякунка прыслугі: лёкаяў, пакаёвак, афіцыянтаў. Вось да каго трэба было звяртацца героям рамана Элізы Ажэшкі “Хам” і аповесці Змітрака Бядулі “Салавей”!

Да святой Зіты мы не патрапілі, але Лукка, абнесеная старажытнай сцяной, запомнілася...

І вось жоўтыя дамкі і зялёныя вінаграднікі Італіі змяняюцца аўстрыйскімі пейзажамі. Потым – Баварыя...

Экскурсаводка адразу пачала гаварыць, што Мюнхен – не галоўная “калыска фашыстоўскага путчу”... Рэакцыя экскурсаводкі, рускай, якая даўно тут жыве і любіць Баварыю, зразумелая. У гісторыі горада ёсць ганебныя старонкі. Тут у ратушы гаварыў сваю чалавеканенавісніцкую прамову Гебельс, тут пачыналіся пагромы, на Каралеўскім пляцы нацысты палілі кнігі... Цяпер кожны год 9 лістапада ў ратушы нямецкія школьнікі зачытваюць спісы габрэйскіх дзяцей, якія загінулі падчас Халакосту, а на Каралеўскім пляцы ўсе, хто жадае, зачытваюць старонкі з кніг, якія падлягалі тады спаленню. Нам паказалі нават так званую “залатую дарогу” – калі Гітлер загадаў паставіць на пляцы помнік сваім “героям”, гараджане, каб не ўскідваць руку перад тым помнікам, абыходзілі пляц завулкам. Вось іхні шлях і пазначылі, вызалаціўшы каменьчыкі брукаванкі. І хаця завулак

празвалі “Завулкам баязліўцаў”, ён, як кажуць, лічыцца сімвалам грамадзянскай смеласці. Часам смеласць – і ў тым, каб проста ўхіліцца ад удзелу ў ганебным. Затое цяпер за любыя праявы сімпатыі да фашызму – ускідванне рукі, выказванне, ужыванне сімволікі – неадкладны арышт і турма, і апеляцыі не прымаюцца. Нас адмыслова папярэдзілі, каб хтось з турыстаў не пажартаваў па-дурному, бо тады не давядзеш, што проста жартаваў.

Тут доўга жыў у якасці дыпламата расейскі паэт Фёдар Цютчаў. Ажаніўся з графіняй Ботмер, пасля – са сваёй старой палюбоўніцай Дзёрнберг, сябраваў з Шэлінгам і Гейне... Наша гід па Мюнхене мастацтвазнаўца Вера Гітнікава сцвярджае, што бачыла арыгіналы рукапісаў Цютчава: ён пісаў на нямецкай не толькі публіцыстыку і крытыку, але і вершы! Прычым самыя цяпер вядомыя як руская класіка. Іх нібыта перакладала на рускую паэтава дачка, кшталту “Люблю грозу в начале мая”. Нічога, што тая навальніца была ў Баварыі? Праўда, большасць расейскіх літаратуразнаўцаў сцвярджаюць, што Цютчаў пісаў вершы па-руску, яго, наадварот, перакладалі на нямецкую... Спрачацца не буду, няхай даследуюць спецыялісты...

Сёння Цютчаву ў Мюнхене стаіць помнік, ёсць мемарыяльная пліта на доме, яго творчасць прызнаюць часткай нямецкай культуры...

Мюнхен сустрэў дажджом. І гэта пасля сонца Тасканы... Нядзеля, усе крамы да адной зачыненыя. Хоць праз вітрыны палюбаваліся і тут нацыянальным адзеннем: яно, як і ў Аўстрыі, абавязкова ёсць у кожнай сям’і. Шалёныя грошы каштуе хвост, які прычапляецца ззаду да мужчынскага капелюша. Носяць яго толькі сябры манархічнага клуба. Бачыш, што ідзе такі дзядулька, у шляпе з хвастом – неадменна які барон альбо граф. А банцік на поясе фартуха сведчыць пра становішча жанчыны. У залежнасці ад таго, дзе ён – справа, злева, спераду – значыць, яна замужняя ці не, і ці гатовая да знаёмстваў.

Апоўдні мы пабачылі прадстаўленне, якое разыгрываюць фігуркі гадзінніка гатычнага сабору на Марыенплац: кароль з каралевай назіраюць рыцарскі турнір, танцоры выкоўваюць маўрытанскі танец... Пытанне – хто быў першы з такім гадзіннікам, Прага ці Мюнхен, аказалася рытарычным. Пражскі гадзіннік “Арлой” – пятнаццатага стагоддзя, а сабор – “навадзел”, неаготыка... Лепш бы не гаварылі пра ягоны ўзрост, далібог! Расчараванне...

Удалося з сябрамі ў вольны час пасядзець у мюнхенскай піўной, і не абыякой – “У францысканцаў”. Манахі першымі пачалі тут варыць піва. Добра, што хлопец з італьянскага клубу, куды мы напачатку ламануліся, пачуўшы запыты пра “бір” і “міт”, параіў перабрацца туды, дзе традыцыйная кухня. У прыбіральні піўной плату з наведнікаў збірае мажная немаладая руская жанчына, чые плечы абхінутыя стракатай хусткай. Яна беспамылкова пазнае тым, з кім можна гаварыць без перакладу.

Калі нямецкія назвы за вакном змяніліся польскімі, адчулі сябе амаль дома.

У Беларусь прыехалі а чацвёртай ночы. Тут было цёмна і холадна, але гэта была радзіма, дзе ў дзяцей скончыліся вакацыі.

Забыць Венецыю... А заадно і Рым...

Не дачакаецеся.

*2014*

прачытанне

# Здалёк і зблізку

## *Маладыя гомельскія даследчыкі – пра сучасны літаратурны працэс*

***Літаратурныя пакаленні існуюць не толькі ў асяроддзі пісьменнікаў, але і ў навуцы, прысвечанай асэнсаванню мастацтва слова. І маладое пакаленне даследчыкаў як будучых крытыкаў і літаратуразнаўцаў уяўляе асаблівую цікавасць. Пра што б ні пісалі сённяшнія студэнты-філолагі, які б аб'ект даследавання ні абіралі для аналізу ці інтэрпрэтацыі, іх працы нязменна характарызуе ўласцівая маладосці смеласць. Так, за апошнія пяць-шэсць гадоў студэнты і магістранты Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны звярталіся да зусім не распрацаваных тэм, да прыкладу, асэнсавання спецыфікі фантасмагорыі – папулярнага як у сённяшняй прозе, так і навуцы тэрміна, які не меў нават кароткага азначэння ні ў адной з даступных на той час беларускамоўных, рускамоўных і англамоўных крыніц. Або замахваліся на глабальныя, маштабныя праблемы, вызначаючы спосабы ўзаемадзеяння мастацкай і нон-фікшн літаратуры ў сучаснай культурнай прасторы, спрабуючы стварыць тыпалогію беларускага рамана XIX стагоддзя, асэнсоўваючы антрапалагічны катарсіс у беларускай літаратуры... Пералік можна доўжыць, але ўжо і гэтага кароткага спісу дастаткова, каб гаварыць пра перспектывы айчыннага літаратуразнаўства. І няхай некаторыя тэзісы і высновы маладых даследчыкаў будуць палемічнымі, у спрэчках, як вядома, нараджаецца ісціна.***

**Настасся АНЦІМОНІК**

## Горад здалёк і зблізку

***Рудак, А. Верхні горад : вершы / Антон Рудак. – Мінск : Кнігазбор, 2014. – 86 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).***

*Здалёк горад выглядаў суцэльным лесам*
*фабрычных труб і саборных шпіляў,*
*а зблізку апынуўся складзеным*
*з цэглы і закапцелых камянёў...*

А. Камю

Менавіта гэтая цытата Альбера Камю з твора “Шчаслівая смерць” пасуе дэбютнаму зборніку вершаў “Верхні горад” Антона Рудака. Падчас першапачатковага азнаямлення з кнігай (“здалёк”) узнікае занепакоенасць: а раптам “фабрычныя трубы” напусцяць дыму ў вочы, а “саборныя шпілі” калі й не прадзіравяць тваю свядомасць, то ўсё адно без болю не адпусцяць? Своеасаблівы “дзіцяча-ваяўнічы” дызайн вокладкі разам з заяўленым у назве кнігі адмысловым топасам толькі ўзмацняюць збянтэжанасць. На справе, пры ўдумлівым прачытанні (“зблізку”), аказваецца, што ў “Верхнім горадзе” мірна суіснуюць “фабрычныя трубы” будзённых успамінаў ды роздумаў лірычнага героя і гістарычнае мінулае, гэткія “цэглы і закапцелыя камяні”.

Гартаючы старонка за старонкай невялічкі адмысловы архіў жыцця соцыуму і асобнага чалавека (а досвед лірычнага героя не можа не здзіўляць, улічваючы, што аўтару толькі 25 гадоў), заўважаеш, што гэтак жа, як інтымна-асабістае і прыватнае (“1989”, “Команда молодости нашей”, “жнівень”, “аўтапілот”, “сон у апошнюю летнюю ноч”, “Травень, Чэрвенка”), маладога паэта хвалююць сур’ёзныя пытанні асэнсавання рэчаіснасці “здалёк”, у гістарычнай перспектыве. Найперш – Вялікая Айчынная вайна, а таксама рэпрэсіі 1937 года, халакост, Варшаўскае паўстанне. Прычым спалучэнне гарадской прасторы з падзеямі вайны стварае адметны хранатоп, які ў многім вызначае мастацкую рэальнасць кнігі. Мінулае Мінска, што быў акупіраваны падчас падзей Другой сусветнай, не магло не паўплываць на сучасны стан горада. Чорны пыл і прах вайны (вершы “1943”, “Падпольніцкі раманс”), стос пажоўклых лістоў/дакументаў (“Тучынка”, “29.10.1937”) – гісторыя, вартая таго, каб пра яе ведалі. Шэры *колер шматпавярховак* і бляск трамвайных рэек (“Завакзалле”, “Трамвай”, “серабранка”), колеры неба (“гарадское”, “аэрадромная”) – цяперашняе, вартае таго, каб над ім задумаліся. Мінулае і сучаснае не спрачаюцца за галоўнае месца ў кнізе, бо час тут не з’яўляецца статычным, як, зрэшты, і прастора.

Ёсць у зборніку і свае “саборныя шпілі”, увасобленыя ў цэнтральнай метафары Верхняга Горада. Гэта рэальнае гістарычнае месца Мінска (вядомае таксама як Высокае Места, Новае Места, Высокі Рынак). У XVI стагоддзі яно стала лічыцца новым цэнтрам горада. Зараз там знаходзіцца Кафедральны касцёл Найсвяцейшай Панны Марыі, гасціны двор, “Дом масонаў” і іншыя пабудовы. У кнізе Верхні Горад сакралізуецца, выступае духоўным вытокам, гэткім Эдэмам, у які хочацца вярнуцца. Таму лірычны герой упэўнены, што кожны ў рэшце рэшт мусіць апынуцца ў межах такой прасторы:

спі спакойна, мой верхні горад
веру – усе там будзем.

*(“верхні горад”)*

Дзякуючы ўменню аўтара словамі дэталёва маляваць наваколле, абставіны і падзеі, горад паўстае не проста галоўным героем кнігі, а сапраўднай жывой істотай са сваёй гісторыяй, сваёй памяццю, сваімі радасцямі і няшчасцямі. А. Рудак выкарыстоўвае простыя сцверджанні і негрувасткія трапныя вобразы. Горад прымае чытача, даверліва пачынае шаптаць, выбіваць рытмы, танцуючы па брукаванцы... І варта слухаць, каб пачуць.

Нягледзячы на тое, што Мінск з яго Верхнім Горадам (а таксама згаданымі аўтарам ваколіцамі аэрапорта, Нямігай, вакзалам, Серабранкай, Тучынкай) – гэта скразны лейтматыў зборніка, дзеянне адтуль пераносіцца то ў Варшаву (“Godzina W”, “Muranowska”), то на бераг Дняпра (“Валодзя Караткевіч на беразе Дняпра”), то на прыпынак па дарозе ў Маладзечна “Станцыю Беларусь”, то на мяжу Камароўкі з Пярэспай (“Рэквіем”), то ў Падляшша (“г.а.р.”). Бесперапынны рух, што ўсё адно павінен скончыцца.

Невыпадкова немалаважная роля ў кнізе належыць матыву смерці. Адпаведны антураж забяспечваецца вобразамі могілак, трамвая, што “загінуў на няскончанай вайне” (“Трамвай”), і іншых істот (анёл, зайчык, людзі), якія страцілі жыццё. У вершах на тэму вайны смерць, як правіла, традыцыйна суадносіцца з катэгорыяй гераічнага (“Гэта шчэ не смерць – мы трымаем абарону” “Рэквіем”), і ўяўляецца немінучай (“іншага канца снежня не будзе” “і.к.с.”). Даволі шмат у зборніку твораў, дзе смерць разглядаецца як неад’емная частка заведзенага парадку рэчаў. У адрозненне ад большасці людзей, якія адчуваюць страх у дачыненні да патубаковага небыцця, аўтар не бачыць нічога жудаснага і няправільнага ў гэтай “падзеі”:

найбольшы ўзровень маўчання прыпаў на могілкі
супаўшы з адсоткам шчасця нібы выпадкова

*(“перадкалядная”)*

Наадварот, складанасць і неадназначнасць таго, што адбываецца “на гэтым свеце”, падкрэслівае думку, што адыход “на той свет” – самая натуральная з’ява. Жыццё страшнейшае за смерць, сцвярджае паэт з уласцівай маладосці зухаватасцю:

зайчыку цёпла
бо ён даўно ўжо мёртвы
а мы жывём.

*(“жнівень”)*

І нават дае дзёрзкую параду:

Кінь чытаць гэты чортаў верш.
Помні: аднойчы і ты памрэш:
у рэшце рэшт, паміраць не страшна.

*(“Бабуля слухае музыку”)*

Што да “гучання”, то ў зборніку дамінуюць эмацыйна сцішаныя, спакойныя інтанацыі (“Могілкі Менска”, “Пінгвінам”, “каляндарная хроніка падзеяў”). Часам такая размераная роўнасць радкоў разбаўляецца іроніяй, якая з’яўляецца даволі папулярным модусам мастацкасці ў цяперашняй літаратурнай прасторы (у кнізе А. Рудака прыкладам можна лічыць творы “Альберт Эйнштэйн”, “дробязі”, “Станцыя Беларусь” і некаторыя іншыя). Такое амаль эпічнае гучанне, адсутнасць традыцыйнай экспрэсіі, уласцівай лірычнаму роду, немудрагелістасць стылю і вобразнай сістэмы вершаў, тым не менш, не пазбаўляе твораў паэтычнасці.

У цэлым, нягледзячы на сур’ёзнасць праблематыкі, асэнсаванне сітуацый, аддаленых у часе, а таму не падмацаваных асабістым вопытам аўтара, прачытанне зборніка не выклікае эмацыйнага напружання і непрыняцця тэксту. Знаёмства з

"Верхнім горадам" нагадвае прыцемкавую сустрэчу сяброў, якія даўно не бачыліся, і вось адзін з іх пачынае гаварыць. Адкрыта і шчыра. А потым наступае ранак, і, значыць, "гаснуць словы застаюцца толькі шкло бетон і камень".

## Хрысціна БАНДУРЫНА

## Выяўленне антрапалагічнага катарсісу ў беларускай літаратуры

За сваю гісторыю чалавецтва не аднойчы сутыкалася з рознымі выпрабаваннямі: экалагічнымі катастрофамі, прыроднымі катаклізмамі, эпідэміямі і войнамі. Гэтыя катастрофы пакідалі свой след не толькі на зямным абліччы, але і на светаадчуванні чалавека. Духоўная эвалюцыя чалавека, праблемы распаду маралі сталі фундаментальнымі пытаннямі літаратуры. У сваім артыкуле "Пасрэднасць як сацыяльнае зло" Вольга Седакова выказвае такую думку: *"Тое, чым займаецца мастацтва, можна назваць пашырэннем сэрца. Пераадоленнем уласнай дадзенасці... Мастак звяртае ўвагу на тое нябачнае зло, пра якое паўсядзённая мараль забывае ці, нават, спрыяе таму, каб гэтая невядомая загана – загана пасрэднасці – развівалася і адчувала сябе гаспадыняй становішча"* [1].

Для таго, каб асоба самаўдасканальвалася, пашырала сваю свядомасць, на думку аўстрыйскага псіхолага Віктара Франкла, чалавек павінен мець сэнс жыцця. Калі ж сэнс адсутнічае, страчваецца ці яшчэ не знойдзены, адбываецца паступовая дэградацыя асобы: *"Быццё чалавека заўсёды арыентавана зусім не на нешта, што не з'яўляецца ім самім, на штосьці ці на кагосьці: на сэнс, які неабходна ажыццявіць, ці на іншага чалавека, да якога мы цягнемся з любоўю. У служэнні справе ці любові да іншага чалавек ажыццяўляе сам сябе. Чым болей ён аддае сябе справе, чым больш ён аддае сябе свайму партнёру, тым у большай ступені ён з'яўляецца чалавекам і тым у большай ступені ён становіцца самім сабой"* [2, с. 8]. У сувязі з гэтай канцэпцыяй псіхолагамі з розных краін былі праведзены апытанні асобных сацыяльных груп. Вынікі гэтых апытанняў былі не суцяшальнымі: найбольш выразна адсутнасць сэнсу жыцця праяўлялася ў злачынцаў: *"На самой справе агрэсіўныя імпульсы разрастаюцца перш за ўсё там, дзе відавочны экзістэнцыйны вакуум"* [2, с. 10].

Адлюстраванне працэсу дэградацыі грамадства выпала на долю літаратуры.

Пытанне пра заняпад чалавечай годнасці востра паўстала ў творах Сяргея Грахоўскага. Яго аповесць "Зона маўчання" – гэта разважанні аб сутнасці і межах маралі і амаральнасці, грахоўнасці і духоўнай прыгажосці асобы. Гэта глыбокі роздум над лёсам чалавецтва, увасоблены ва ўспамінах пра лёсы асобных людзей: ахвярах і карніках, якіх аўтар сустрэў на сваім жыццёвым шляху. Мастацкасць выкладання матэрыялу дазваляе глыбей зазірнуць у сутнасць праблемы, якую складаюць не проста пытанні агульначалавечага характару, праблема насамрэч нашмат глыбей: мяжа падзелу паміж *сваімі* з аднаго боку і *сваімі* з другога. Адсутнасць сэнсу жыцця аўтаматычна каталізуе заняпад маральных каштоўнасцей: *"Хто страляў? Нібыта ніхто не ведае.<...> А сумленне? Не муляе і не мучыць. Чаго не было, таго няма. За многія гады духоўнага спусташэння гэтая маральная катэгорыя назаўжды страчана ў паслухмяных служак і прыслужнікаў крывавага рэжыму, гатовых выканаць любы бязглузды і злачынны загад. Яны, як манкурты, па загадзе родную маці застрэляць"* [4, с. 134].

Псіхалогія пасрэднасці спрацоўвае на самым прымітыўным узроўні – фізіялагічным. Пісьменнік спрабуе знайсці адказы на свае пытанні, якія не давалі спакою многім з тых, хто прайшоў праз пакуты канцлагероў: *"Якому д'яблу служаць тыя, што апантана ламалі рэбры старым камуністам, што жанчынам заганялі ў саскі завостраныя алоўкі, што ножкамі крэслаў раструшчвалі пальцы ног і месяцамі*

*гнаілі ў халодных і цёмных карцэрах?"* [4, с. 107]. Але нават у такіх абставінах людзі захоўвалі сумленне і знаходзілі сэнс жыць. У многім дзякуючы менавіта гэтаму сэнсу тыя рэпрэсаваныя пісьменнікі, чые кнігі мы зараз чытаем, змаглі вытрымаць катаванні і выжыць. Падставы верыць у нешта ў кожнага былі розныя. У кагосьці па той бок дроту былі дзеці ці бацькі, хтосьці быў адданым радзіме, а кагосьці проста падтрымлівалі сябры і аднадумцы. Сярод такіх і выпала быць Сяргею Грахоўскаму. *"Павярнула на вясну... задубянелі ад маразоў рукі, на нагах, асабліва ў цяпле, нылі і торгалі прымарожаныя пальцы. Але трымала нас сяброўская еднасць"* [4, с. 124].

"Споведзь" Ларысы Геніюш пацвярджае думку пра ўстойлівае змаганне і развіццё асобы, калі яна мае сэнс быцця, і поўную маральную і фізічную дэградацыю, калі сэнсу няма: *"Хрысціяне сябе нейк узаемна пазнавалі..."* [3, с. 241].

Алесь Адамовіч у сваёй аповесці "Vixi" таксама асэнсоўвае тэму маральнай дэградацыі асобнага чалавека, з аднаго боку, і маральнай велічы, увасобленай у вобразе маці. Гэты твор – даніна памяці маці, мужнай і вартай усялякай павагі жанчыне, якая ў небяспечныя для многіх часы ратавала чужыя жыцці. А. Адамовіч узгадвае неаднаразовыя даносы на іх сям'ю з боку суседзяў, у якіх на той час сям'я Адамовічаў здымала пакой (сям'я Пагоцкіх), якія даносілі на Адамовічаў і пры Саветах, і пры немцах, і пасля вайны. На фоне такога маральнага заняпаду асобнага чалавека выразна паказана абсалютная духоўная чысціня іншага, маці. Пісьменнік быццам супрацьпастаўляе маці і ўвесь астатні сусвет: *"Тады я маму не дужа разумеў, затое зразумеў пазней. Так, менавіта пасля такой вайны, такога ўсплёску нянавісці, лютасці, трэба было пачынаць перарываць ланцуг, хаця б на сваім узроўні, участачку. Наўрад ці яна пра гэта думала або так разважала. У яе свае доказы: яна адмаліла сыноў у Бога, і цяпер не яна, а Ён усяму суддзя"* [5, с. 91]. Для гэтага чалавека выратавальнай сілай былі дзеці.

Васіль Быкаў у прыпавесці "Жоўценькі пясочак" не адлюстроўвае такіх характараў, якія маглі б пацвердзіць тэорыю Віктара Франкла. Але ён выразна паказвае на прыкладзе сваіх персанажаў аблічча тых, хто дзейнічаў на баку зла: *"Да таго ён гатовы быў месяц таму, нават да суда, ведаў, яго не памілуюць. Стрэльнуць. Бо тое, што яму прад'явілі для абвінавачвання, увогуле было папраўдзе: дапушчаў і перавышэнне, і незаконныя метады – і біў, і ламаў косці – даваў дразда. Але ж хіба ён адзін? У іхнім упраўленні так працавалі ўсе – стараліся, не спалі начэй, выбівалі ўсё, што можна было выбіць з арыштаваных"* [6, с. 514].

Такім чынам, існуе шмат фактараў, сукупнасць якіх каталізуе негатыўныя працэсы як у свядомасці асобнага чалавека, так і грамадства ў цэлым. Адным з такіх фактараў з'яўляецца стварэнне ўмоў для страты ў асобнага індывіда ўсялякіх праяў свядомасці, у тым ліку сэнсаў, мэт, жаданняў. Ва ўмовах поўнай падпарадкавальнасці сістэме гвалт выходзіць на паверхню і дасягае жудасных маштабаў. Разгледзеныя намі творы беларускай літаратуры выразна пацвярджаюць тэзісы Віктара Франкла і Вольгі Седаковай.

Літаратура:

1. Седакова, О. Посредственность как социальное зло [Электронны рэсурс]Рэжым доступа: http://www.olgasedakova.com/Moralia/280. – Дата доступа: 06.09.2014.

2. Франкл, В. Человек в поисках смысла / В. Франкл. – М.: Прогресс, 1990. – 196 с.

3. Геніюш Л. Споведзь / Ларыса Геніюш. – Мн.: Мастацкая літаратура, 1993. – 270 с.

4. Грахоўскі, С. Выбраныя творы / Сяргей Грахоўскі. – Мн.: Беларускі кнігазбор, 2007. – 544 с.

5. Адамовіч, А. Vixi / А. Адамовіч // Полымя. – 1993. – Лістапад (775). – С. 3-107.

6. Васіль Быкаў. Выбраныя творы – Мн.: Беларускі кнігазбор, 2004. – 672 с.

Арыя ГАТАЛЬСКАЯ

## "Крамольны" Макаёнак

Крамольны? Такім, бадай, класіка беларускай драматургіі, ніколі не лічылі. Наадварот, ідэалагічна вытрыманым, наскрозь камуністычным і да прэснасці правільна-савецкім. Калгасная тэматыка і праблематыка, што для нас патыхае архіўным пылам, толькі адштурхоўвае сучаснага чытача. І ўрэшце, пагартаўшы "крытыку", напісаную, дарэчы, у махрова-савецкія ж часы, сучаснік проста не захоча чытаць самі творы і мець аб іх думку будзе пэўную: дубовая савецкая ідэалогія ў стылі фільма-агіткі "Кубанскія казакі".

Але ці такі адназначны Андрэй Макаёнак?

Першае, што кідаецца ў вочы – хранатоп, характэрны для большасці ягоных твораў: калгас, пасляваенная вёска. Другое, што проста дзярэ вочы цяперашнім аматарам беларускага слова – нематывавана, неапраўдана шмат русізмаў, калекаватых калек ды і проста рускіх слоў. Гэта адштурхоўвае ад аўтара, адцягвае ад паглыблення ў мастацкія вартасці, кампазіцыйныя пабудовы, сюжэтныя хады і знаходкі ў галіне характараў і вобразаў. Але ў абарону драматурга маглі б сведчыць фактары часу: такой тэматыкі патрабавалі, хоць хлусі, а дай. Ды і гады выдання кніжак намякаюць на тое, што мова тады ішла простым курсам на збліжэнне з рускай паводле загадаў зверху, якія ў саракавыя-пяцідзесятыя былі такімі ж неаспрэчнымі, як і законы фізікі. Нельга выключаць тут і суаўтарства стыльрэдактуры і карэктуры. У пазнейшых творах Андрэя Ягоравіча ламавая трасянка знікае, і мова мае ўжо стандартны савецкі выгляд, не адрозніш ад слова іншых савецкіх карыфеяў.

А што пад гэтым шурпатым лускавіннем? О, зерне, што пакінуў Макаёнак, захавала для нас шмат таго, што прагледзелі цэнзары.

"Махрова-савецкі ідэолаг" ўшчэнт, да разгрому крытыкуе заганы сучаснага яму ладу, выказвае такія нелаяльныя думкі, што дзівішся, як можна было не толькі выдавацца як аўтару, але і ўседзець на кіраўнічых пасадах. Ці, можа, мы дрэнна думаем пра савецкі лад? Такія абсягі і ўзровень крытыкі (у сэнсе таго *што* і каго можна было закранаць) цяперашняй літаратуры і публіцыстыцы могуць толькі сніцца. Праўда, і рэаліі іншыя. Але гэта не змяншае загадкі: як аўтар мог так смела выказвацца наконт бяспашпартнага бяспраўя сялян, працы за палачкі-працадні, страшэннай аддаленасці вёскі ад дабротаў цывілізацыі, плана і цыфіры "юбер алес", начальства ў статусе паўбагоў, непрасыхаючых ад п'янак памаўзліўцаў-старшынь, дыктаце зверху ў сельскай гаспадарцы і поўным, аглушальным непрафесіяналізме кіраўнікоў. А яшчэ наконт крывадушша грамадскай маралі, "грашы, ды не пападайся", эгаізме эліт і іх поўнай пагардзе да плебса, непадсуднасці пераможцаў, чыя версія звычайна і застаецца ў гісторыі, несправядлівасці ў прыватнасці і наогул... І менавіта Макаёнак, сялянскі сын, уголас абверг пастаральна-слінявыя сантыменты наконт рамантыкі сялянскай сахі. Грубавата, крыху ў ключы часу, які патрабаваў узяць ад прыроды ўсё, што захоча чалавек, аўтар сказаў: "Гэта цяжкая праца, нелімітаваная па часе". А сяляне яшчэ мусілі і "на сябе" папрацаваць. І той, хто хаця б ускапаў зямлю на сваім лецішчы пад грады, пагодзіцца, што гэта праца, не лягчэйшая за прамысловую. Міф пра букалічны лад жыцця ў вёсцы і быў мішэнню Макаёнка. Цяпер і падумаць дзікавата, што за тыя цяжкія ўмовы, працу і няпэўнасць заўтрашняга дня дзяржава не лічыла неабходным плаціць грашыма. Лічылася, што праца – гэта калі ля станка, канвеера. А вёска – курорт.

Макаёнак сумленна піша пра гэты "курорт" без святла, медыцыны, крамаў, дарог, аўтамабіляў і г. д. узору сярэдзіны пяцідзесятых. Практычна ўсе яго творы аднесены да камедый, і ў той жа час смяяцца ў іх можна ў рэдкіх месцах: інтэрмедыйных устаўках у стылі народнага тэатра, батлейкі ці ў момантах смеху супрыналежнасці са станоўчым героем. У астатнім праблематычныя творы схіляюць да роздуму.

Вось на першы погляд смешны старшыня калгаса Гарошка з "Выбачайце, калі ласка!". На другі ж – ягоны жах за сябе і сям'ю ўжо не выглядае пацешным, калі ведаеш рэаліі сталінізму. Жыве, бедны, як бульба: не кончаць да вясны, дык пасадзяць. Намёк Макаёнка на безнадзейнасць персанажа, які знаходзіцца акурат паміж Сцылай і Харыбдай, у прымаўцы Гарошкі: "Хоць круць-верць, хоць верць-круць...". І небарака круціцца, хоць і ведае загадзя вынік.

І Макаёнак ведаў не з далёкай гаворкі: ягоны бацька, старшыня калгаса, быў рэпрэсаваны. І, вярнуўшыся, усё жыццё даводзіў сваю вернасць, лаяльнасць, адданасць, каб паказаць ўсім, што ні ў чым і не быў вінаваты.

Калі чытаеш творы класікаў, выдадзеныя ў розны час, то нават здаецца, што не толькі творы, але і аўтары розныя: наколькі можа ўжытковая форма мовы змяняць рэч. Ну й ідэалогія, вядома: ад Купалы, напрыклад, заставалася нязменнай часам толькі назва. Таму, магчыма, наспеў момант прачытаць, (не псуючы ўражання састарэлымі падручнікамі), невядомага нам Макаёнка ў новым выданні, сучаснай беларускай мовай, на маніторы або добрай, а не закрэмзанай яшчэ чарнільнымі занатоўкамі, паперы бібліятэчных тамоў, дзе вылучаны і падкрэслены ўсе ідэалагічныя бязглуздзіцы, часта прыўнесеныя пісьменнікам толькі для маскіроўкі. Як у хрэстаматыйнай "Лявонісе на арбіце": ідэалагічна правільная Лушка сама сябе абвяргае адной фразай, калі прызнае, што ўся яе "высокая свядомасць" ад усведамлення: трымацца ім з Лявонам і няма за што... Вось і знішчана ўся "правільнасць" персанажа, а цэнзары нават і не заўважылі. Віртуознае мастацтва гэта – пісаць між радкоў. Варта толькі ўчытацца. А то з ідэалагічнай пенай ледзьве не вылілі на ўзбочыну літаратуры творы глыбокага, няпростага драматурга: тэатры яго ігнаруюць, школьная і вышэйшая адукацыя ўсё часцей забывае. І гэта пасля ўсесаюзнай славы...

Перачытайце Макаёнка як дэтэктыў-шараду і знайдзіце ў ім дысідэнта, хулігана, вальнадумца, праўдашукальніка, перакананага партыйца, адэпта справядлівасці, забіяку, функцыянера і яшчэ каго-небудзь.

**Настасся КАЦЮРГІНА**

## Літаратуразнаўчае эсэ: магчымасці зместу і формы

Мэтазгоднасць існавання ацэнкі твора сфармулявана многімі даследчыкамі і працягвае асэнсоўваецца дагэтуль. Яшчэ на пачатку XX стагоддзя выдатны беларускі пісьменнік і гісторык літаратуры М. Гарэцкі сцвярджаў, што "крытыкаваць – значыць шукаць таго ж, чаго шукаў аўтар, і рабіць думку яго яснейшай чытачу, і даводзіць, ці добра выклаў думку аўтар і як выклаў і як бы мог выкласць лепей" [1, с. 187]. Ужо ў канцы гэтага ж стагоддзя вядомы даследчык В. Каваленка пачынае настойваць на своеасаблівай сутворчасці мастака слова і таго, хто ацэньвае напісанае ім: «...крытыка мае на гэта права, і яно выцякае з яе спецыфікі. Вядома, неабавязкова, каб кожны крытык заўсёды дапісваў за пісьменніка дыялогі, цэлыя старонкі тэксту. Сутнасць гэтага права ў іншым — не толькі абагульніць пэўную з'яву, але разам з тым абагульніць праз «прадаўжэнне» гэтай з'явы, праз большую гушчыню і насычанасць жыцця, бачачы ўсе магчымыя вынікі яе далейшага лёсу» [2, с. 35].

Заўважная тэндэнцыя да сутворчасці мастака і крытыка набліжае сучасную навуку пра літаратуру да рэцэптыўнай. Прычым суб'ектамі рэцэпцыі ў ёй нярэдка становяцца самі даследчыкі, а істотнай асаблівасцю ацэнкі твора з'яўляецца праяўленне ў ёй «асобаснасці», што ад самага пачатку дапускае адвольнасць выбару кампазіцыі аповеду, некаторую адсутнасць вычарпальнай глыбіні і строгай сістэмнасці аналізу.

Актыўныя інтэграцыйныя працэсы, зменлівасць культурнай парадыгмы ў сённяшнім свеце не могуць не ўплываць на суб'ектыўную рэфлексійнасць, не ўзмацняць ролі адметнай і вольналюбівай формы эсэістычнага творчага мыслення. Па перакананні вядомага даследчыка М. Эпштэйна, "эсэізм з'яўляецца напрамкам значна больш шырокім і магутным, чым кожны іншы з філасофскіх або мастацкіх напрамкаў, шырэй, чым фенаменалогія або экзістэнцыялізм, сюррэалізм або экспрэсіянізм – менавіта таму, што ён не ёсць кірункам адной з культурных галін, а ёсць адмысловай якасцю ўсёй сучаснай культуры, усеабдымнай галіной творчай свядомасці, якая стаіць над тымі плынямі, што ў яе ўліваюцца, як і міфалогія, з якой усе яны аб'ядналіся, злучаючы рознае: вобраз і паняцце, выдумку і рэчаіснасць, але не знішчаючы іх самастойнасці" [3, с. 377 – 378].

Тэндэнцыя да эсэізацыі ў рускай літаратуры і крытыцы заўважна выявіла сябе ўжо ў Срэбным стагоддзі. У беларускай – пасля Другой Сусветнай вайны. І асабліва плённа ў 50-60-ыя і наступныя гады ХХ ст., шчасліва пазбегнуўшы істотнага ўплыву метаду сацыялістычнага рэалізму. Найперш маюцца на ўвазе літаратуразнаўчыя эсэ М. Стральцова, У. Караткевіча, Б. Сачанкі, Я. Сіпакова і іншых вядомых аўтараў. Нягледзячы на разыходжанні ў часе пашырэння эсэ ў айчыннай і іншых культурах, бясспрэчным застаецца факт «уплывовасці агульнай тэндэнцыі да эсэізацыі гуманітарнага досведу» [4, с. 328]. І ўсё ж, кажучы словамі І. Шаўляковай, нельга не ўлічваць той факт, што да апошняга часу «плён асэнсавання ключавых для нацыянальнай літаратурнай парадыгмы пытанняў урэчаўляўся найчасцей не ў эсэ, а ў розных жанравых мадыфікацыях праблемнага артыкула» [4, с. 329].

Паводле меркавання В. Рагойшы, у значнай ступені эсэ ўласціва «падкрэсленая суб'ектыўнасць выказвання, свабодная кампазіцыйная структура твора. У ім празаічная мова нярэдка пераходзіць у вершаваную, само ж апавяданне падчас набывае выразную паэтычна-вобразную афарбоўку, афарыстычную сцісласць і трапнасць» [5, с. 290].

У сённяшняй тэндэнцыі да эсэізацыі і запатрабаванасці даследчыкамі формы літаратуразнаўчага эсэ пераконваюць творчыя наробкі Д. Бічэль, П. Васючэнкі, Л. Галубовіча, С. Дубаўца, В. Зуёнка, К. Камейшы, А. Разанава, У. Саламахі, Ю. Сапажкова і многіх іншых. Прычым акрамя ўзмацнення суб'ектыўнага пачатку, сярод устойлівых характарыстык гэтай разнавіднасці жанру найбольш істотнымі падаюцца асобасная скіраванасць крытычных рэфлексій, актуалізацыя незаўважаных іншымі даследчыкамі адметных момантаў зместава-фармальнага ўвасаблення пісьменніцкай задумы, вобразнасць мыслення, нечаканасць супастаўленняў, фрагментарнасць тэксту і інш.

Да прыкладу, пры адрознай манеры падачы матэрыялу і мове напісання, але аднолькава прыкметнай метафарычнасці стылю аўтараў кніг крытыкі «Сыс і кулуары» (Л. Галубовіч) і «Меж духом и словом» (Ю. Сапажкоў) прываблівае не толькі веліч постацей абраных для разгляду творцаў і іх мастацкіх наробкаў, але і ў цэлым праявы літаратурнага працэсу апошніх дзесяцігоддзяў. І калі першы з даследчыкаў ужо ў назве кнігі акрэслівае кропку адліку вышыні і самабытнасці сапраўднага таленту праз зварот да лірыкі аднаго з самых яркіх паэтаў апошняй трэці ХХ ст., то другі абапіраецца пераважна на вопыт рускіх пісьменнікаў.

Пры ўсёй дакладнасці аналізу, выверанасці назіранняў асноўнымі характэрнымі рысамі эсэістычных тэкстаў С. Дубаўца прадстаюць паэтызацыя і метафарычнасць. Гульнёвы пачатак, фрагментарнасць вылучаюць крытычныя рэфлексіі П. Васючэнкі. Але разам гэта не перашкаджае аўтарам прыйсці не толькі да канцэптуальна новых высноў адносна сучаснага літаратурнага працэсу, але і ўвасобіць новыя ракурсы бачання гісторыі мастацтва слова.

У арыгінальнасці эсэ як з'явы сучаснай крытыкі сведчаць такія яго мадыфікацыі,

як літаратурна-філасофскае эсэ (А. Разанаў), літаратуразнаўчае эсэ з элементамі лінгвістычнага даследавання (В. Зуёнак), пятрогліфы і філалагемы (П. Васючэнка) і інш.

Так, кніга літаратурна-філасофскіх эсэ "З апокрыфа ў канон" А. Разанава засведчыла факт стварэння адметнай аўтарскай канцэпцыі аналізу гісторыі станаўлення і далейшага развіцця нацыянальнай літаратуры. У зборніку "Паміж небам і зямлей" В. Зуёнак імкнецца акрэсліць уласнае бачанне дынамікі прыгожага пісьменства праз эвалюцыю мовы і ўлік уздзеяння на мастацкі тэкст яе асобных кампанентаў. Актуалізацыя філасофскага і лінгвістычнага пачаткаў у дадзеным выпадку толькі на карысць уласна літаратуразнаўчаму аналізу, бо відавочна спрыяе абнаўленню яго метадалогіі, забяспечвае шматузроўневасць ацэнкі мастацкіх тэкстаў.

Зразумела, што многія са створаных сучаснымі аўтарамі працы нельга назваць літаратуразнаўчымі эсэ ў іх чыстым выглядзе. У гэтым пераконвае арганічнае спалучэнне элементаў мемуарнай прозы, рыс публіцыстычнага стылю і пісьменніцкай эсэістычнай крытыкі ў творах К. Камейшы, сінтэз думкі і пачуцця ў развагах Людкі Сільновай, метафізічная прастора тэкстаў І. Шаўляковай, сінкрэтызм біяграфічнага і аналітычнага пачаткаў у артыкулах Л. Алейнік, арыентацыя на эстэтычныя крытэрыі разам з разняволенасцю мыслення ў даследаваннях Ц. Чарнякевіча, многіх іншых пісьменнікаў і крытыкаў. Аднак неаспрэчна і тое, што асобныя ўстойлівыя адзнакі гэтай разнавіднасці жанру досыць прадуктыўна сцвярджаюць сябе ў сучаснай навуцы пра прыгожае пісьменства, тым самым не толькі дэманструючы багатыя магчымасці дадзенай змястова-фармальнай адзінкі, але і ў цэлым спрыяючы росту аўтарытэту і доўгачаканаму абнаўленню бягучай крытыкі і акадэмічнага літаратуразнаўства.

Літаратура:

1. Гарэцкі, М. Развагі і думкі / М. Гарэцкі / Александровіч, С. Х., Александровіч, В.С. Беларуская літаратура XIX – пачатку XX ст. Хрэстаматыя крытычных матэрыялаў. – Мінск: Выд-ва БДУ, 1978. – С. 184 – 188.

2. Каваленка, В. А. Праблемы сучаснай беларускай крытыкі / В. А. Каваленка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1977. — 192 с.

3. Эпштейн, М. Парадоксы новизны [Текст] / М. Эпштейн. – М.: Советский писатель, 1988. – С. 331 – 381.

4. Шаўлякова, І. «Рэпутацыя» пасля (аўта)дыскваліфікацыі. Беларуская літаратурная крытыка 2000-х. / І. Шаўлякова // Дзеяслоў. – 2012. – № 60. – С. 326 – 330.

5. Рагойша, В. П. Літаратуразнаўчы слоўнік: тэрміны і паняцці: для школьнікаў і абітурыентаў / В. П. Рагойша. – Мінск: Нар. асвета, 2009. – 303 с.

**Марыя КІРУШКІНА**

## Феномен жаночай паэзіі ў сучаснай беларускай літаратуры

У сучасным сацыяльна-культурным асяроддзі важным для абмеркавання з'яўляецца пытанне аб спецыфіцы жаночай суб'ектыўнай рэпрэзентацыі ў мастацтве або іншых яго падсістэмах, што разглядаецца двухбакова: з пазіцыі крайняга адмаўлення або асэнсавання ў кантэксце культурнага / сацыяльнага мужчынскага вопыту. Полароlевыя нормы паводзін індывіда ў грамадстве вызначаюцца праз наступныя дэфініцыі: мужчына – гэта чалавек, жанчына – гэта толькі прадстаўнік жаночага полу, бо, калі яна паводзіць сябе як чалавек, мяркуюць, што яна пераймае сацыяльныя функцыі і ролю мужчыны. Насуперак культурнай парадыгме, дзе жанчыне найчасцей адводзіцца другасная роля, жаночы дыскурс шырока прадстаўлены ў літаратуры.

Актуальная ў сучасным культурным кантэксце і праблема выяўлення спецыфічных “жаночых” сродкаў мастацкай выразнасці пры адлюстраванні жаночай суб’ектыўнасці ў літаратуры. Гэта звязана з імкненнем жанчын-творцаў паказаць тыя эстэтычныя і маральна-духоўныя ўяўленні, што не фіксуюцца ў мастацкіх тэкстах мужчынамі. Паводле Т. Фіцнер [1], праблемы самасцвярджэння жанчыны ў літаратуры вынікаюць са становішча жанчыны ў грамадстве: жанчына-пісьменніца ў першую чаргу інтэрпрэтуецца культурай як жанчына і толькі потым – як пісьменніца.

Функцыя аўтарства ў традыцыйнай культуры, па словах Р. Барта [2], служыць тлумачэннем паходжання тэксту, яго адзінства і гамагеннасці, таму традыцыйная інтэрпрэтацыя тэксту здзяйсняецца ў тэрмінах аўтарскай біяграфіі, гістарычнай сітуацыі таго, хто піша, сацыяльнай пазіцыі, жаданняў – як спроба зафіксаваць і кантраляваць значэнне і ўнутраную звязнасць тэксту. Жанчыны-аўтары здольныя ствараць мастацкія тэксты ў межах мужчынскай традыцыі. Але ў іх творчасці абавязкова прысутнічаюць творы / тэксты, у якіх рэалізуецца ўнікальная “жаночая сутнасць”. На думку С. дэ Бавуар, “праблема жаночай рэпрэзентацыі і самапрэзентацыі рэалізуецца ў філасофскую праблему жаночага аўтарства і тэксту. У сучаснай культурнай сітуацыі канцэптуалізацыя жаночага знаходзіць адлюстраванне ў паэтычных тэкстах” [цыт. па: 3].

У беларускім літаратуразнаўстве “жаночая паэзія” – выраз даволі ўмоўны. Актуальным падаецца пытанне пра творчую самаідэнтыфікацыю жанчын, іх эстэтычна-філасофскі досвед. Псіхалагічная матывацыя паэтак да аб’ектывацыі ў літаратуры суб’ектыўнага лірычнага пачатку разглядаецца ў межах дыскурсу. Аўтарская пазіцыя ў паэзіі такога кшталту набывае статус мастацкай аберацыі або прэтэндуе на суаднесенасць з прыгожай літаратурнай традыцыяй сучаснікаў-паэтаў, то бок мужчын. У якасці pro et contra (за і супраць) існавання тэрміна “жаночая паэзія” прапануем меркаванні сучаснага беларускага літаратуразнаўства:

– у межах дыскурсу пра “жаночую паэзію” – катэгарычнае адмаўленне ад падзелу літаратуры па палавой прыналежнасці аўтара са сцвярджэннем, што літаратура можа быць толькі добрай або дрэннай або поўнае прызнанне паняцця яе культурнага феномена (І. Шматкова) [4];

– “жаночая паэзія” – гэта “феномен высокай культурнай велічыні”. Раскрыццё жаночай суб’ектыўнасці абумоўліваецца шырынёй кругагляду аўтара, яго светапогляднымі пазіцыямі, магчымасцямі таленту (С. Калядка) [5];

– паэзія пра жаночую долю ўяўляе новую аўтаномію. “У сённяшняй паэзіі ёсць і “проста” паэткі – пераемніцы Арсенневай, Геніюш і Пфляўмбаўм, ёсць і бязмоўныя Фрузыны, ёсць і бабскія галашэнні ды сіратлівыя нараканні” (С. Дубавец) [6];

– беларуская жаночая паэзія – гэта “дакумент, які зафіксаваў гендарную асіметрыю пэўнай эпохі”. Магчымасць пісаць адкрылася для саміх пісьменніц толькі ў 2-ой пал. 20 стагоддзя, гэта вынік іх сумарнага творчага вопыту, што прывёў да большай адкрытасці, шчырасці пры самавыяўленні (Т. Фіцнер) [1].

Асноўная задача феміністкага аналізу літаратуры, на думку Э. Шоўолтэр, наступная: “у кантэкст праблемы “жаночай літаратуры” ўваходзіць вывучэнне тэм, жанраў і структур літаратуры, створанай жанчынамі; у лік прадметаў – псіхадынаміка жаночай крэатыўнасці, лінгвістыка і праблема жаночай мовы, гісторыя літаратуры і даследаванні асобных пісьменніц і іх твораў” [цыт. па: 3].

Сёння “жаночая паэзія” разглядаецца як адметная з’ява ў літаратурным працэсе. Яе праблемна-тэматычную сферу вызначае эстэтычнае асэнсаванне ўнутранага свету, мастацкае даследаванне жаночых стэрэатыпаў, якія складаюцца з пэўнай жыццёвай філасофіі і рэфлексіі на сучасную рэчаіснасць.

У кантэксце “жаночага прачытання” сучасная беларуская жаночая паэзія аналізуецца з трох пазіцый:

– гендэрнага даследавання паэтычных твораў. У сваіх вершах сучасныя паэткі (В. Аксак, Я. Дашына і інш.) культывуюць ідэалы жаночай суб'ектыўнасці, мадэлюючы адметныя кампаненты феміннага пачатку, які прадугледжвае наяўнасць у свядомасці асобы такіх псіхаэмацыйных складнікаў, як пасіўнасць, эмацыянальнасць і прыгажосць. "Жаноцкасць" як эстэтычная катэгорыя ўвасабляе прыродныя каштоўнасці жанчыны. Напрыклад, дамінантным атрыбутам такога вызначэння для гераіні В. Аксак з'яўляецца цела – "найлепшы ланч, // любімы трунак днём, // апоўначы жаданая вячэра" [7, с. 9]. І таму пасродкам інтымна-фізічнага паказчыка прэзентуюцца інтэрсуб'ектыўныя, ідэнтычныя якасці жанчыны як асобы. Паэткі могуць даследаваць змест ідэнтычных жаночых вартасцяў, рэалізацыю "цялеснага" і "духоўнага" ў свядомасці і паводзінах асобы.

– традыцыйнага асэнсавання лірычных твораў з элементамі гендарнай паэтыкі. У дадзеным аспекце ў сучаснай беларускай жаночай паэзіі рэалізаваны канцэпт "каханне". Дамінаваннем любоўнай тэматыкі вызначаецца творчасць Д. Ліс, Я. Дашынай, А. Спрынчан, Л. Сом, В. Куставай і інш. Паэткі ствараюць асабістую мастацкую гісторыю, праз якую можна вызначыць не толькі канцэпт "жаночага кахання", але і даследаваць філасофскае і псіхалагічнае самавызначэнне аўтара. Да прыкладу, у паэзіі Я. Дашынай каханне-страсць мае двухаспектны патэнцыял. Гэта ірацыянальнае свабоднае захапленне аб'ектам любові (яго цялеснасцю) і чысты, прыгожы акт рэалізацыі пачуцця як вышэйшы сэнс іспавання асобы (яго духоўны пачатак): "Мы жывем у вачах адно аднаго, // бесцялесна згасаем. <...> Німбы нашага цела ўжо расквітнелі" [8, с. 85]. Каханне – гэта складаны комплексны канцэпт, паколькі ўзнікае ў прасторы ўзаемадзеяння супрацьлеглых пачаткаў: індывідуальнага і агульнасацыяльнага, цялеснага і духоўнага, асабіста інтымнага і ўніверсальна важнага.

– аналізу вершатэкстаў з улікам філасофскага дыскурсу і асабістай рэфлексіі паэтак. Абсалютызацыя філасофскіх катэгорый, рэалізацыя ўнутраных перажыванняў асобы праз успрыманне пейзажных замалёвак, стварэнне ўласнай гармоніі паміж светам лірычным і светам рэчаіснасці знаходзяць адлюстраванне ў творчасці М. Вайцяшонак, Л. Рублеўскай, В. Трэнас, М. Барадзіной. Напрыклад, катэгорыя быцця рэалізуецца ў паэзіі Л. Раманавай пасродкам вызначэння пэўных кодаў-сімвалаў – нябёс, свячы, зорак: "Нябёсы – побач // заўсёды – побач" [9, с. 7]. У паэзіі І. Багдановіч прырода – крыніца рэфлексійных адчуванняў лірычнай гераіні: "У гэтай белай // імпрэзе // маўчання // напятасць" [10, с. 52]. Пачуццёвая прастора вершаў выяўляецца сучаснымі жанчынамі-творцамі праз вызначэнне зместу пэўных філасофскіх катэгорый і паэтызацыі прыроды.

Сучасная беларуская жаночая паэзія – неаднародная мастацкая сістэма, што ўтрымлівае розныя мастацка-эстэтычныя канцэпцыі і разнастайныя падыходы пры даследаванні своеасаблівай вершатворчасці жанчын. Рэалізацыя розных эстэтычных прыёмаў у творчасці аўтарак абумоўліваецца арыгінальнасцю іх светаўспрымання, а таксама маральна-этычнымі прыярытэтамі.

Літаратура:

1. Фіцнер, Т. Гендарны аспект у беларускай літаратуры ХХ стагоддзя / Т. Фіцнер. – Гомель: Выдавецтва УА "ГДУ імя Ф. Скарыны", 2005. – 244 с.

2. Барт, Р. Избранные работы : Семиотика. Поэтика / Р. Барт; пер. с фр., сост., общ. ред. и вступ. ст. Г. Косикова. – М.: Издательская группа "Прогресс", "Универс", 1994. – 616 с.

3. Жеребкина, И. Прочти моё желание... Постмодернизм, психоанализ, феминизм / И. Жеребкина. – М.: Идея-Пресс, 2000. – 256 с.

4. Шматкова, І. Беларуская жаночая паэзія: да пытання эвалюцыі / І. Шматкова // Полымя. – 2011. – № 12. – С. 88 – 97.

5. Калядка, С. Беларуская сучасная жаночая паэзія : мастацкія канцэпцыі "жаночага шчасця" / С. Калядка. – Мн.: Бел. навука, 2010. – 163 с.

6. Дубавец, С. “Жаночая паэзія” / С. Дубавец // Вершы. – Мн.: “Медысонт”, 2007. – С. 13 – 24.
7. Аксак, В. Віно з Каліфорніі / В. Аксак. – Мн.: Юніпак, 2003. – 72 с.
8. Дашына, Я. Графіці на сэрцы / Я. Дашына. – М.: Литература и Искусство, 2007. – 128 с.
9. Раманава, Л. Птушкі і рыбы: Паэзія / Л. Раманава. – Мн.: Беларускі кнігазбор, 2004. – 92 с.
10. Багдановіч, І. Душа лістападу / І. Багдановіч. – Мн.: “Кнігазбор”, 2012. – 100 с.

**Ганна НОВІК**

## Спосабы ўзаемадзеяння мастацкай і нон-фікшн літаратуры ў сучаснай культурнай прасторы

Феномен non-fiction існуе ў дзвюх іпастасях: як самастойная “літаратура факта” (слоўнікі, даведнікі, артыкулы, альманахі, статуты, тэзаўрусы, травелогі, кулінарныя кнігі і інш.), так і ў выглядзе дакументальнага пачатку мастацкага твора. “Непрыдуманым” тэкстам уласцівы змешванне розных тыпаў факалізацыі ў межах аднаго тэксту, павышаная ступень транстэкстуальнасці, зварот да публіцыстычнасці, эсэізацыі і белетрызацыі. Балансіроўка нон-фікшн на мяжы рэальнасці і вымыслу абумовіла разнастайныя суадносіны дакументальнага і мастацкага пачаткаў у тэксце.

Найбольш прадуктыўным спосабам іх узаемадзеяння з’яўляецца стварэнне мастацкіх тэкстаў на дакументальнай аснове, якая дазваляе дыферэнцыраваць два тыпы дакументальнай прозы – аўтабіяграфічную і дакументальна-мастацкую. Розніцу паміж імі абумоўліваюць спецыфіка выяўлення аўтарскага пачатку (эгацэнтрызм – адлюстраванне знешніх падзей), тэмпаральнай арганізацыі (рэтраспектыўнасць, строгая храналогія, аўтарская сегментацыя часу – інтраспектыўнасць, зніжэнне ролі хранатопу), спосаб выкладу інфармацыі (спантанная плынь аповеду – сюжэтнасць), а таксама мэты напісання тэкстаў (самарэпрэзентацыя, перадача ўласнага вопыту, апраўданне, самарэклама – уздзеянне на эстэтычныя пачуцці чытача, дыдактызм). Акрэсленаму спосабу ўласціва жанрава-фармальная стракатасць. Так, ён рэалізуецца ў форме дзённіка (“Дзённік” С. Яновіча, “Белавежская пушча. Рэзалюцыя SOS” В. Дранчука, “Дзённік” Н. Гілевіча, “Лісты абляцелыя”А. Жука, “Шпітальны дыярыуш” П. Васючэнкі і інш.), жанры мемуараў (“Не жаль пражытага” С. Яновіча, “Душа прасілася ў Мікольцы” К. Камейшы, “Горад майго дзяцінства” У. Лякіна, “Мінская зямля” А. Клышкі, “Мой шыбалет” П. Садоўскага, “Армейскі блакнот” В. Гапеева і інш.), наджанравай інтэнцыі споведзі (“Споведзь збалелай душы”С. Законнікава, “Споведзь бяссонай душы”, “Таемнасць споведзі” Л. Галубовіча, “Споведзь струны”Ю. Нератка), фрагментарнай прозе (“Наўздагон” Ф. Сіўко, “Дзядоўскія мудрасці” В. Сазонава, “Рассыпаныя каштаны” Ю. Пацюпы, “Навучыцца любіць” А. Гібок-Гібкоўскага і інш.), белетрызаванай біяграфіі (“Крыж на зямлі і поўня ў небе” В. Карамазава). Асобна трэба вылучыць наджанравае ўтварэнне creativenon-fiction, якое выявілася ў дзённіках (“Трынаццаць дзён з дзённіка Антона Кудлатага” А. Кудласевіча), мемуарах (“Сіняя кніга беларускага алкаголіка” А. Кулона, “Альбом сямейны” В. Мудрова, “Requiem па непатрэбных рэчах” В. Шалкевіча), белетрызаваных біяграфіях (“След матылька. Освальд у Менску” А. Лукашука).

У межах другога спосабу ўзаемадзеяння мастацкая літаратура выступае ў якасці фактаграфічнай асновы нон-фікшн, што характэрна як для крыніц альтэрнатыўнай інфармацыі (напрыклад, для “Слоўніка Свабоды” ці “222 альбомы беларускага року” В. Мартыненкі), так і для крытыкі. Асноўнымі характарыстыкамі

апошняй з'яўляюцца прымеркаванасць да літаратуры; азнаямляльная, арыентацыйна-рэпрэзентатыўная і гнасеалагічна-рэфлексійная функцыі; публіцыстычнасць, аўтарская суб'ектыўнасць; несупадзенне метадаў даследавання з літаратуразнаўствам, а таксама набліжанасць да мастацтвазнаўства і эстэтыкі. Сучасная крытыка характарызуецца стракатасцю стыляў ("Сапраўдныя хронікі Поўні", "Рэстаўрацыя шчырасці" І. Шауляковай, "Адлюстраванні першатвора", "Ад тэксту да хранатопа" П. Васючэнкі, "Blondattack" Г. Кісліцынай, "Сыс і кулуары" Л. Галубовіча, "Вершы" С. Дубаўца і інш.). Яскравым прыкладам мастацкай крытыкі выступае "Гамбурскі рахунак" А. Бахарэвіча, адметны альтэрнатыўнасцю і палемічнасцю аўтарскіх інтэрпрэтацый, спалучэннем элементаў публіцыстычнасці і мастацкасці, а таксама шырокім выкарыстаннем постмадэрнісцкіх сродкаў.

Трэцім спосабам з'яўляецца semi-fiction, ці эклектычнае суіснаванне дакументальнага і мастацкага пачаткаў. У паўфікшн ствараецца гіпатэтычная мадэль рэальнага жыцця празспалучэнне эмпірычнага фокуса нарацыі і мастацкіх элементаў. Семі-фікшн мае на мэце неабходнасць аспрэчвання раней існуючых меркаванняў, узмацненне чытацкай эмпатыі. Тыпалагічна семі-фікшн набліжана да гістарычнай прозы.Сучасныя творы семі-фікшн паглыбляюцца ў мінулае не столькі з мэтай выяўлення лакун, колькі падкрэслівання пераемнасці падзей даўніны ў будучыні ці футурыстычнага прагнозу. Камбінаванне элементаў паняццяў "праўда – вымысел" тут істотна адрозніваецца. Так, у аўтабіяграфічным рамане А. Аркуша "Палімпсест" фактычныя падзеі падаюцца вачыма рэальна існуючай асобы, ад асобы выдуманых персанажаў рэальныя падзеі і факты перадаюцца ў творы С. Егарэйчанкі "Аповесць пра чалавека, які не хацеў быць Богам", футурыстычны раман Ю. Станкевіча ("Пятая цэнтурыя, трыццаць другі катрэн") з'яўляецца спробай рэканструкцыі рэчаіснасці праз фарміраванне мастацкіх гіпотэз.

Чацвёрты спосаб уяўляе сабой феномен псеўданон-фікшн, ці містыфікацыю, якая ўтвараецца праз аўтарскі падман / пародыю (літаратурная містыфікацыя) ці зварот пісьменнікаў да выдуманых фактаў і гістарычных крыніц, што пазіцыянуюцца як праўдзівыя (псеўдадакументальныя творы). Містыфікацыі ўвасобленыя ў каляаўтабіяграфічных творах ("Пра тое, як я..." Л. Дранько-Майсюка), псеўданавуковых даследаваннях ("Зямля пад крыламі Фенікса" С. Балахонава) і іранічных інтэрпрэтацыях ("Здані і пачвары Беларусі" У. Ахроменкі і М.Клімковіча, "Звяры-суайчыннікі" С. Харэўскага, "Гісторыя савецкай беларускай літаратуры" І. Сідарука), а таксама творах, прыпісаных іншым аўтарам ("Мімікрыя" С. Календы, "Сіняя кніга беларускага алкаголіка" А. Астапенкі). Псеўдадакументальныя творы ўтрымліваюць адмысловы абсяг для постмадэрнісцкай гульні.

Такім чынам, шырокая распаўсюджанасць нон-фікшн абумовіла разнастайнасць спосабаў узаемадзеяння мастацкай і дакументальнай літаратуры. Пры гэтым стварэнне мастацкіх тэкстаў на дакументальнай аснове, выкарыстанне мастацкай літаратуры ў якасці фактаграфічнай асновы нон-фікшн, эклектычнае суіснаванне дакументальнага і мастацкага пачаткаў выразна адлюстроўваюць сінтэтычны характар узаемаадносінаў двух тыпаў літаратур, у той час як псеўданон-фікшн уяўляе сабой падробку.

**Таццяна ПЯТРОЎСКАЯ**

## Візуальная паэзія як антыпрадукт кліпавага мыслення

Сучасныя камп'ютарныя тэхналогіі дазваляюць адлюстраваць любы аб'ект. Тым самым пашыраецца роля візуалізацыі ва ўсіх сферах жыцця, у тым ліку у навуцы і мастацтве. Як вынік, чалавецтва сутыкнулася з неабходнасцю часцей

успрымаць інфармацыю праз вобраз, малюнак, што дазволіла навукоўцам гаварыць пра развіццё новага тыпу мыслення – кліпавага. Здольнасць рабіць лагічныя сувязі паміж прадметамі і спачуваць ужо зараз знаходзіцца пад пагрозай. Выратаваннем ад будучай дэгуманізацыі чалавецтва з’яўляецца кніга, якая ў святле пануючага “кліпа” яму ж і прайграе.

Сам тэрмін “кліпавае мысленне” паходзіць ад англійскага слова «clip», што літаральна абазначае “рабіць выразкі”. Кліпавае мысленне – гэта чарга падзей, малюнкаў, часта практычна не звязаных паміж сабой, што ўдала і выкарыстоўваецца сучаснымі СМІ. Артыкулы ў часопісах, падзеленыя на блокі, хуткая і яркая рэклама, сюжэты навінаў, што не звязаныя паміж сабой, – усё гэта лёгка ўспрымаецца адпаведным спажыўцом, якому не трэба будаваць лагічныя сувязі паміж рознымі часткамі той ці іншай інфармацыі. Да таго ж, хуткаплыннасць і аб’ём інфармацыйнага патоку не пакідае магчымасці для рэфлексіі. Візуальная паэзія, на першы погляд, з’яўляецца лагічным працягам кліпавага мыслення ў мастацтве, бо будуецца па такім жа прынцыпе: змест падаецца праз блокі і ў першую чаргу разлічаны на эмацыянальны водгук. Аднак для “кліпавіка” візуальны твор так і застанецца авангардным малюнкам, які выклікае не такі ўжо і вялікі інтарэс. Такім чынам, візуальная паэзія – антыпрадукт кліпавага мыслення, бо яго знешняя абалонка ніяк не стасуецца з неабходнасцю аналітычна ацэньваць арт-аб’ект.

Візуальная паэзія – дастаткова шырокі і загадкавы тэрмін. І да сённяшняга дня няма адзіных крытэрыяў, якія б маглі вызначыць межы гэтага феномена. Верш, які мае хаця б крыху адрознае афармленне ад традыцыйнага, фота з паэтычным подпісам, калаж з часопісаў – што з гэтага візуальная паэзія, а што не? Адназначнага адказу няма, як і канкрэтнага азначэння паняцця візуальная паэзіі, прынамсі ў беларускім літаратуразнаўстве. Ёсць толькі адзіны артыкул В. Жыбуля “Кароткая гісторыя беларускай візуальнай паэзіі”. У ім аўтар праводзіць паралелі паміж візуальнай паэзіяй і эпохай барока, у якую і была распачата традыцыя фігурных вершаў.

Па сутнасці ўсе фармулёўкі візуальнай паэзіі перадаюць дакладна і ўпэўнена толькі адзін факт: візуальная паэзія – гэта сінтэз літаратуры і жывапісу. Усе астатнія азначэнні ці прыраўніваюць візуальную паэзію да фігурных вершаў ці прадстаўляюць візуальную паэзію ў шырокім разуменні – “літаратурна-мастацкі жанр, які выконвае высокія эстэтычныя функцыі і аб’ядноўвае графічныя і вербальныя магчымасці дыскурсу” [1, с. 45]. Так, у літаратуразнаўчым слоўніку М. Гаспарава і паэтычным слоўніку А. Квяткоўскага ўвогуле няма тэрміна візуальная паэзія, а ёсць толькі азначэнне фігурных вершаў. Адносіны паміж візуальнай паэзіяй і фігурнымі вершамі з’яўляюцца прадметам дыскусій у замежным літаратуразнаўстве, дзе існуюць два розныя паняцці: візуальная паэзія і фігурная паэзія і тры погляды на іх адносіны. У адпаведнасці з першым поглядам, гэтыя два паняцці – сінонімы, згодна з другім меркаваннем, візуальная паэзія – гэта толькі частка фігурнай паэзіі, згодна з трэцім меркаваннем, візуальная паэзія выкарыстоўвае адрозныя ад фігурнай візуальныя формы, бо выкарыстанне тыпаграфічных элементаў тут з’яўляецца другасным, а часам і непатрэбным. Вось адна з сучасных фармулёвак, прынятая ў рускай крытыцы: “Візуальная паэзія — від мастацтва, які злучае ў сабе славесную і наглядную творчасць — вершы, радкі якіх утвараюць дэкаратыўныя або надзеленыя *эмблематычным* сэнсам фігуры і знакі.” [2, с. 45].

У беларускіх літаратуразнаўчых слоўніках увогуле не сустракаецца паняцце візуальнай паэзіі ці фігурных вершаў, хаця ў рускіх артыкулах часта сустракаецца імя нашага суайчынніка — Сімяона Полацкага. Верагодна, што толькі ў сувязі з паходжаннем С. Полацкага, які з’яўляўся пачынальнікам ўсходнеславянскай візуальнай паэзіі, у “Паэтычным слоўніку” В. Рагойшы і сустракаецца невялікая

інфармацыя пра фігурныя вершы. Уся справа ў тым, што фігурныя вершы С. Полацкага адносяцца ўсё ж да яго творчасці ў маскоўскі перыяд, таму яны не маюць прамых адносін да беларускай літаратуры. Прыкладам бездакорна фігурнага верша з'яўляецца верш С. Полацкага "Крест пречестный церкве слава", у якім форма крыжа абсалютна адпавядае зместу. Такі крыж з'яўляецца не ўласным вынаходніцтвам С. Полацкага, бо вядомы прыклады вершаў у форме крыжа, якія складалі сярэднявяковыя манахі, мастацтва якіх, а менавіта стварэнне іконаў, таксама з'яўляецца "недакліпавым мысленнем". Так званае іконацэнтрычнае мысленне таксама накіравана на ўспрыманне інфармацыі ў вобразах. Аднак прынцыповае адрозненне такога мыслення ад кліпавага – здольнасць "паглыбляцца" ў вобраз, сузіраць. Дарэчы, С. Аверынцаў падкрэсліваў, што старажытнаруская культура не насіла логацэнтрычны характар, меркаванні тут успрымаліся прасцей і лягчэй у вобразах.

Сучасная візуальная паэзія прадстаўлена арыгінальнымі творамі з рознымі спосабамі спалучэння жывапісу і літаратуры ў іх. Аднак асаблівую цікавасць прадстаўляюць творы, дзе сама па сабе кніга з'яўляецца арт-аб'ектам. Такія праекты відавочна ілюструюць неабходнасць развіцця аналітычнага мыслення для разумення візуалістыкі. Дадзеныя праекты прадстаўляюць сабой кнігі, у якіх падпарадкаванне зместу форме даведзена да абсалюту, бо для разумення асобнага твора важным з'яўляецца сама канцэпцыя кнігі, спасцігнуць якую можна з яе афармлення, з кожнай візуальнай дэталі. Прыкладамі такіх цалкам візуальных кніг з'яўляюцца "Ліра спіралі" Дзм. Дзмітрыева і "АКРЫ" Арцёма Кавалеўскага. У першай кнізе асноўным сродкам візуалізацыі з'яўляецца гульня з графічным афармленнем слова, што жанрава выяўляецца ў амбіграмах. Амбіграма – гэта своеасаблівы каліграфічны ўзор, які дазваляе сумясціць два розныя прачытанні слова. Для тых, хто будзе не здольны расшыфраваць каліграфічны ўзор, аўтар унізе аркуша дае расшыфроўку твора. Кожны аўтар амбіграм сам вырашае, якую функцыю яна будзе выконваць: ці будзе яна выкарастана як лагатып у рэмламнай індустрыі, ці яна стане трансляцый глыбокай думкі. Амбіграма Дзм. Дзмітрыева якраз выконвае другую функцыю, бо яго графічныя паліндромы не абмяжоўваюцца простай гульнёй. Часцей за ўсё ў адным слове аўтар аб'ядноўвае два паняцці, аднолькава блізкія і супрацьлеглыя. Паказальным у гэтым сэнсе з'яўляецца амбіграма, у якой аднолькава чытаецца як словы *"адам і ева"*, такі і слова *"адзінота"*. Той факт, што аўтар зашыфроўвае ў адным творы невыпадковыя словы, якраз і гаворыць на карысць мастацкасці такіх эксперыментаў. Афармленне кнігі, яе дызайн, створаны самім жа аўтарам, яе назва звязаны з ідэяй кнігі, якая ў мастацкай форме ілюструе трэці закон дыялектыкі, руху па спіралі. Адзін паэтычны радок з'яўляецца другім паэтычным радком, які адмаўляе першы. У рэчышчы гэтай ідэі аформлены старонкі кнігі, яе каляровая гама, ілюстрацыі. Праект Арцёма Кавалеўскага ўвогуле прапануецца чытаць у рэжыме стэрэа, тым самым падкрэсліваецца непарушальнасць слова і малюнку ў кнізе. У аўтара паняцце візуалізаці вельмі блізкае да тлумачэння гэтага тэрміна ў псіхалогіі, дзе яно атаясамліваецца з разумовымі ўяўленнямі, якія выклікаюць эмацыянальны водгук. У дадзеным выпадку аўтар не зашыфроўвае змест, а эмацыянальна ўзмацняе яго. Чорны квадрат з белымі літарамі на вокладцы кнігі выклікае асацыяцыі з бессмяротным тварэннем К. Малевіча, якое па адной з версій з'яўлялася прапановай да адмовы ад неабходнасці зместу ў мастацтве. Спалучэнне слова і малюнка нараджае прадказальныя асацыяцыі. Аўтара цікавіць сам працэс стварэння такога эфекту, а не змест твора. Яскравым прыкладам у гэтым сэнсе з'яўляецца верш "Брудны гарадскі трыпціх". Без аўтарскага афармлення яго можна прадставіць наступным чынам: "Тут Брук. Тут Бруд. Тут Бррр!!!" [4, с.15]. Акрамя алітэрацыі візуальна на эфект руху працуе і шрыфт, які паступова павялічваецца. Чырвоная

пляма каля апошняга слова выклікае падсвядомае пачуццё грэблівасці і нават жаданне хутчэй перагарнуць старонку і адмыць рукі ад крыві. З аднаго боку, твор не патрабуе ніякага аналітычнага асэнсавання. А, з другога боку, аўтар заклікае прааналізаваць "дзівацтвы" нашай свядомасці, працэс стварэння такой асацыяцыі.

Кліпавасць і антыкліпавасць візуальнай паэзіі абумоўлена сінтэзам жывапісу і літаратуры. Іх спалучэнне нараджае рух, робіць статычныя віды мастацтва дынамічнымі, а гэта і неабходна носьбіту кліпавага мыслення. Аднак за межамі свядомасці "кліпавіка", зразумела, застанецца аўтарскае жаданне сузіраць свой твор і прадставіць яго для сузірання свайму чытачу. Аўтар візуальных твораў не імкнецца здзіўляць, яму хутчэй самому падабаецца здзіўляцца ўсяму таму, што ён стварае, таму, як працуе прадукт яго творчасці. А гэта ўжо ніяк не стасуецца з умовамі, у якіх пануе кліп.

Літаратура:

1. Жыбуль, В. Кароткая гісторыя беларускай візуальнай паэзіі [Тэкст] : /Жыбуль В. // [Эл. рэсурс]. Рэжым доступу: baj.by/belkalehium/index_bel.htm - 13k

2. Квятковский, А. П. Поэтический словарь [Текст] : / А. П. Квятковский // М. : «Сов. Энциклопедия», 1966. – 455 с.

3. Полоцкий, С. Вирши [Текст] : сост., подг. текстов, вступ. ст. и комм. В.К.Былинина, Л.У. Звонаревой / С. Полоцкий // Мн.: 1990. – 455с.

4. Кавалеўскі, А. М. АКРЫ: візуальна-паэтычны праект/ Арцём Квалеўскі, Руслан Найдзен. -Мінск: Артыя Груп, 2013. – 36 с.

5. Дзмітрыеў, Дзм. Ліра Спіралі / Дзмітры Дзмітрыеў. – Мінск: Логвінаў, 2013. – 80 с.

**Яўгенія ШЧОКІНА**

## Эксперыментальны раман у сучаснай беларуска літаратуры

Актыўныя змены ў літаратурным працэсе прыводзяць да зрухаў і мадыфікацый у галіне даўно вядомых паняццяў літаратратуры, сярод якіх і знаходзіцца буйная эпічная форма. І. Шаўлякова так характарызуе памкненні сённяшніх пісьменнікаў да эксперыментаў: «Цягам апошніх дзесяці-пятнаццаці гадоў пераўтварэнні рамана адбываюцца ў кірунку своеасаблівай кентаўрызацыі: пісьменнікі зусім не жадаюць адмаўляцца ад саліднага, асвечанага часам і аўтарытэтам жанравага "брэнду", але імкнуцца зарабіць і асабісты капітал. Адсюль раскашаванне match рознага кшталту ўдакладненняў-"прышчэпак": раман-міф, раман-метафара, раман-пункцір, раман-кантрапункт, нават рака» [1, с. 123]. Практыка паказвае, што ў шэрагу сітуацый руйнуецца сама структура рамана, распадаючыся на фрагменты. Разгледзім гэты тэзіс на некалькіх прыкладах.

Раман В. Гапеевай «Рэканструкцыя неба» (2003) скіроўвае чытача да гульні з пісьменнікам і створаным ім тэкстам. Твор складаецца з фрагментаў-"дэталяў", размешчаных у адвольным парадку. Чытач сам вырашае, у якой паслядоўнасці чытаць тэкст, што цалкам адпавядае тэхніцы алеаторыкі – адной з плыняў постмадэрнізму. Іншымі словамі, фрагментарнасць і калажнасць становяцца тэкстаўтваральнымі прынцыпамі рамана В. Гапеевай. Адно з першых патрабаванняў да рамана – маштабнасць ахопу жыццёвых падзей – у творы не вытрымліваецца. Тут няма разгалінаванага сюжэта і належнай колькасці персанажаў. Галоўнай дзеючай асобай з'яўляецца «Я», якое вядзе аповед пра самую сябе. Нягледзячы на эгацэнтрычную скіраванасць твора, герой тут пазбаўлены індывідуальных рыс, гэта постмадэрнісцкі тып, чалавек-маска, чытачу не вядомы яго мінулае і будучае. «Дэталі» рамана – урыўкі ўспамінаў, мараў, уяўленняў персанажа, часам пададзеныя праз прыём інтэртэкстуальнасці. Крыніцай запазычання стала кніга Ф. Хэндэрсана «Мэры, каралева шатландцаў». Урывак прысвечаны біяграфічным звесткам аб Марыі Сцюарт, якую гераіня быццам бы сустрэла на вуліцы.

Ігнараванне ключавых для раманнай формы характарыстык дазваляе сцвярджаць, што твор В. Гапеевай больш мэтазгодна кваліфікаваць як «квазіраман».

І. Шаўлякова спрабуе ідэнтыфікаваць жанравую прыналежнасць твора, называючы яго «раман-cocktail»: «Адшукаліся і зародкі “рамана выхавання” (гл. “дэталі” 0, 9, 28, 83), і аскепкі ў стылістыцы “новага французскага рамана” (3а, 5, 12 і інш.), і фрагменты бессмяротнага сюру (4, 13, 7, “ДэТаль 47”), і салата з аскабалкаў мастацкага ды навуковага дыскурсаў (дэталь 31) – інгрэдыенты беспамылкова пазнаюцца і цяпер» [2, с. 104]. Тэкст твора пацвярджае характарыстыкі жанру, пададзеныя даследчыцай. У «дэталях», што маюць адносіны да «сюра», пераплятаюцца сон і рэальнае жыццё, пададзеныя праз абсурдныя апісанні. «Дэталь 0», своеасаблівы пачатак адліку, сімвалічна распавядае пра выпадак з дзяцінства гераіні, ілюструючы тым самым рысы «рамана выхавання».

Аўтарскае вызначэнне жанравай прыналежнасці твора «раман у дэталях», або «дэталь у рамане» (неабходнае чытач павінен падкрэсліць сам), з’яўляецца своеасаблівым «ключом» да разумення фармальнай і праблемна-тэматычнай канцэпцыі тэксту. Варыянт «раман у дэталях» паказвае на структурны бок аповеду – раман уяўляе сабой узор фрагментарнай прозы. Другі магчымы выбар чытача – «дэталь у рамане» – заклікае звярнуць увагу на тое, якім дэталям надаецца ўвага.

Арыгінальнае вызначэнне свайго рамана «Імя грушы» (2005) – «раман у трох мемуарах» – падае і С. Балахонаў. Твор складаецца з мемуарных запісаў трох жанчын, якія па-рознаму бачаць адны і тыя ж падзеі. Успаміны Наталлі Клыкоўскай з-пад Гомеля займаюць большую частку твора, яны найбольш сістэматызаваныя і паслядоўныя. Другая частка рамана – ліст Камілы Свентажэцкай да спадара Аляксандра Ельскага. Аповед гэтай жанчыны скрозь прасякнуты аналізам падзей, што адбываліся на яе вачах. Выклад інфармацыі сухі, досыць лаканічны. Трэці фрагмент рамана прынцыпова адрозніваецца ад папярэдніх сваёй урыўкавасцю, экспрэсіяй і асацыяцыямі. Усе разам гэтыя жанчыны становяцца сведкамі падзей, што адбываюцца ў Мінску ў коле ўдзельнікаў добраахвотнай краязнаўчай суполкі «Дасканалы Крывіч». Адзін з удзельнікаў, Вайніслаў Боўт, дзіўным чынам арыштаваны, а потым увогуле знікае бясследна. Праз увесь твор праходзяць звесткі пра жахлівыя забойствы маладых дзяўчат у горадзе. Кожная з гераінь мае свой погляд на сітуацыю. Такая кампазіцыя апелюе да паняцця “множнасці ісцін”, бо кожны аповед перадае суб’ектыўны погляд персанажа на праблему.

Назва рамана “Імя грушы” гукавой абалонкай выклікае асацыяцыю з класічным творам У. Эка «Імя ружы». Такі прыём характэрны для постмадэрнізму з яго імкненнем да парадыйнасці і пастышу. Акрамя назвы, творы блізкія і наяўнасцю дэтэктыўных рыс: таямнічага забойства або знікнення чалавека, характэрнага персанажа – следчага-аматара, які шукае адказ, дынамікі сюжэта з нечаканымі паваротамі. Але твор С. Балахонава з’яўляецца хутчэй пародыяй на папулярныя дэтэктыўныя аповеды. Героі паказаны недарэчнымі і неразумнымі, а нават напружаныя па сваёй сутнасці моманты напоўнены іроніяй.

С. Балахонаў выкарыстоўвае і прыём літаратурнай містыфікацыі. У якасці эпіграфа ўзяты радкі з быццам бы з перакладзенай Ф. Скарынам Бібліі: «Всегда ўслышыш шум, а он ідзець па верху грушэй, тагды пачнешы бой...» [3, с. 10]. Яшчэ адзін эпіграф узяты з «народнай песні»: «Мы ігрушу пысадзілі. // А я, мыладзенька, скачу і плачу» [3, с. 10]. Трэці неіснуючы ўрывак – з паэмы А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш»: «А *wszystko przes pane jak by wstega miedza // Zielona na niej zrzadka ciche grusze siedza*» [3, с. 10]. Містыфікацыяй з’яўляецца і кніга беларускіх мусульман «Мэнкі джаханам», што ўзгадваецца ўдзельнікамі «Дасканалага Крывіча». Аўтар падае яе як адзін з асобнікаў аль-кітабаў, што існавалі на Беларусі ў XVI стагоддзі. Напрыканцы твора змешчаны «Тлумачэнні», якія таксама павінны падтрымаць ілюзію праўдзівасці запісаў.

У рамане прысутнічаюць элементы ўласна моўнай гульні, характэрнай для постмадэрнізму. Трэцяя гераіня, Ірэна Клыкоўская, стварае новыя назвы месяцаў, укладаючы ўласныя сэнсы ў аказіяналізмы. Месяц «ваяслаў» (насамрэч ліпень) названы ў гонар Вайніслава Боўта, якога ўпадабала жанчына. Дваццаць сёмага *дзясятніка* – гэта дваццаць сёмага кастрычніка. Этымалогія гэтай назвы – нумар месяца. Гульня працягваецца на ўзроўні цытат, разлічаных на адукаванага чытача. У цытаце *«Кідайце паліць, каб не ўмёрлі»* [3, с. 135] лёгка пазнаецца славуты заклік Ф. Багушэвіча, хаця алюзія пазбаўлена свайго сімвалічнага сэнсу і набывае жыццёва-практычнае значэнне.

Твор І. Бабкова «Адам Клакоцкі і яго цені» (2001) таксама мае нестандартнае вызначэнне – «раман у дзесяці гісторыях з жыцця адважнага асветніка й энцыклапедыста Яна Марыі Клакоцкага і ягоных ценяў, з дадаткам зацемаў аўтара, двух эпіграфаў з лістоў сусветнавядомых творцаў ды пасляслоўем Францішка Эн., у якім той упершыню ў беларускім літаратуразнаўстве скарыстоўвае пост-каланіяльны панятак галюцыягеннай прысутнасці Сябе як Іншага, а таксама фрагмэнтаў двух ненапісаных раманаў, якія – з глыбокай мэтафізічнай пэрспектывы – бачацца як адзін ненапісаны раман пад рознымі назвамі». Такім чынам, аўтар ужо ў загалоўку пералічвае ўсе структурныя элементы тэксту. Форма твора характарызуецца фрагментарнасцю і эклектычнасцю: у канву аповеду ўплецены ўрыўкі з ненапісаных раманаў, часткі «энцыклапедый» і інш. Калажавасць структуры не разбурае, аднак, цэласнасці задумы, і ў выніку разнародныя кавалкі тэксту складваюцца ў больш-менш зразумелую чытачу карціну свядомасці Адама Клакоцкага.

Для стварэння эфекту інтэрактыўнасці І. Бабкоў падае своеасаблівую інструкцыю для прачытання твора. Названыя ўмовы сведчаць пра арыентацыю на рознаўзроўневую аўдыторыю. Сярэднестатыстычны чытач можа пабачыць «кнігу гісторыяў, калі перакананы, што ня варта склейваць у адно чарапкі ад розных вазонаў» [4, с. 4]. Удумлівы, здольны знайсці ўнутраны прыхаваны падтэкст, – убачыць тут філасофскі трактат. Гульня з рэцыпіентам працягваецца на моўным узроўні. Адна з такіх вынесена ў назву раздзела «Кафэ “У Топія”». Як і С. Балахонаў, І. Бабкоў звяртаецца да прыёму літаратурнай містыфікацыі. У творы прыводзяцца ўрыўкі з запісаў А. Клакоцкага, з быццам бы напісанай ім энцыклапедыі сноў. Падаюцца ўрыўкі з дыярыўшаў аднаго са шматлікіх «Я», што ўзнікаюць у рамане, алюзіі на знакамітыя творы, да прыкладу, на кнігу Д. Кіза «Пралятаючы на гняздом зязюлі», а таксама аднайменную кінастужку.

І. Бабкоў заўважна адыходзіць ад класічнай канцэпцыі раманнай формы: адсутнічае разгалінаваная сюжэтная лінія і вялікая колькасць дзеючых асоб, значны ахоп жыццёвых падзей, галоўны герой, Адам Клакоцкі, выступае статычным вобразам, не падаецца ў развіцці. Дзесяць яго «ценяў» – гэта своеасаблівыя маскі без мінулага і будучага, створаныя пісьменнікам. Вышэйпералічаныя рысы сведчаць, што твор адносіцца да так званага «антырамана», або «новага французскага рамана».

У творы заўважна праступаюць і рысы сюррэалізму. Часава-прасторавыя межы ў рамане размыты. Сам А. Клакоцкі існуе ў XIX стагоддзі, а вось яго «цені» – сведкі падзей XX стагоддзя. Падзел паміж рэальнасцю і сном празрысты, два гэтыя полюсы існавання чалавечай свядомасці пазначаны паняццямі «тут» і «там». Перыядычна героі апынаюцца ў рэчаіснасці, адрознай ад нашай, *«калі Вітаўт ды Сапега стаяць на кожным пляцу, а партрэт Барбары Радзівіл упрыгожвае ледзь ня кожную парфумную крамку»* [4, с. 21]. Больш за тое, часам герой дакладна не ўпэўнены, дзе ён зараз: *«Мне здаецца, што я ўжо не адрозніваю – калі сплю, калі абуджаюся. Гэты пераход – ад аднаго да другога – такі крохкі, такі незаўважны. Калі жыццё – сон, дык сон, напэўна, таксама жыццё»* [4, с. 23].

Такім чынам, у эксперыментальным рамане аўтары шукаюць нестандартную форму падачы матэрыялу. Агульнай тэндэнцыяй з’яўляецца зварот да

фрагментарнай, калажавай пабудовы тэксту. В. Гапеева ў рамане «Рэканструкцыя неба» абірае для сябе форму «дэталяў», С. Балахонаў у «Імя грушы» стварае 3D-пародыю на дэтэктыў. Раман І. Бабкова дэцэнтралізаваны па сваёй сутнасці: тут адсутнічае разгалінаваная сюжэтная канва, у структуры эклектычна спалучаны ўрыўкі з ненапісаных раманаў, дзённікі, часткі «энцыклапедый», сны і да т. п. Ідэі множнасці ісцін падпарадкаваны шматлікія алюзіі, яўныя і прыхаваныя цытаты, прыём містыфікацыі.

Л і т а р а т у р а:

1. Шаўлякова, І. Крыж піянерскасці / І. Шаўлякова // Маладосць. – № 12. – 2004. – С. 122 – 129.
2. Шаўлякова, І. Сапраўдныя хронікі поўні / І. Шаўлякова. – Мінск: Літаратура і мастацтва, 2011. – 181 с.
3. Балахонаў, С. Імя грушы: раманы, апавяданні / С. Балахонаў. – Мінск: Логвінаў, 2005. – 226 с.
4. Бабкоў І. Адам Клакоцкі і ягоныя цені. Раман у дзесяці гісторыях / І. Бабкоў. – Мінск: «БАС», 2001. – 110 с.

*Аўтары – студэнты і магістранты Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны:*

**Анцімонік Настасся,** студэнтка 3 курса



**Кірушкіна Марыя,** магістрантка



**Бандурына Хрысціна,** студэнтка 3 курса



**Новік Ганна,** выпускніца магістратуры 2014 года



**Гатальская Арыя,** студэнтка 5 курса



**Пятроўская Таццяна,** магістрантка



**Кацюргіна Стася,** магістрантка



**Шчокіна Яўгенія,** магістрантка



Віктар Сазонаў



...“Павук” не раскрывае сутнасць зла
і не ўзносіць да нябёс веліч дабра...

# Запаўняць пустоты вершамі

***Рэцэнзія на кнігу Сержука Сыса***

***Сяржук Сыс. Павук. – Мінск: Галіяфы, 2014. – 98 с.***

Гісторыя ідзе сваім шляхам. Хуткім, магутным і несупынным, як палёт планет і зорак. Хто паспявае ісці з ёй у нагу, той адчувае сябе натуральна і ўпэўнена, як банкір на банкеце. Яму спрыяюць зоркі, поспех і навакольныя знаёмыя ды незнаёмыя людзі. Яго праблемы дробныя і хутка вырашальныя, нібыта адмыслова для таго й прыдуманыя, каб цешыць самалюбства свайго ўладальніка. Шчаслівы той, хто адчувае свой час і крочыць разам з ім пераможным маршам непераможнага чалавека.

Горш таму, хто не заўважае бегу гісторыі і апынаецца ззаду. Застаецца жыць ужо пражытым некім, і таму не зусім сваім жыццём. І вымушаны па сваёй прастасці паўтараць ужо зробленыя некім памылкі, наступствы якіх даўно вядомыя ўсім, акрамя яго самога.

А найгорш паэту з абвостранымі пачуццямі і агаленымі нервамі, які бачыць, як і куды ляцяць гісторыя і час, хоча і здольны паспяваць за імі, але не можа гэтага сабе дазволіць. Бо




мусіць быць са сваім народам, які нібыта крот не заўважыў бегу часу і гістарычнай перспектывы ды застаўся недзе збоку ад хады гісторыі. І жыве не ў часе, а насуперак часу. Вось і носіцца паэт туды-сюды, не маючы ні прытулку, ні прыстанку, ні ў будучым, ні ў мінулым. І толькі ў яго мроях уяўленне рэальнасці становіцца рэальнасцю. Толькі ў яго марах уяўленне рэчаіснасці становіцца рэчаіснасцю.

Ён стварае вершы. І верыць, што вершаванае слова знойдзе душу, якая адгукнецца яму. Што менавіта яно запоўніць пустоты, пустэчы і вакуум у душах, розумах і сэрцах...

Паэта бывае шкада. Шкада яго абвостраных пачуццяў. Шкада яго акрываўленай, босай душы. А пасля разумееш, што вось менавіта гэты паэт не можа не пакутаваць. Ён жа паэт. Сапраўдны паэт. Ён сваімі пакутамі ўздымае іншых, незнаёмых і невядомых яму людзей.

Вось таму і выходзяць з пад пяра паэтаў такія назвы зборнікаў як “Стрэмка”, тая самая “Стрэмка”, з-за пакутлівага верша-адчаю з рамантычнай назвай “Дзяўчына” у мяне спёрлі столькі асобнікаў гэтай кнігі з аўтарскім подпісам для мяне асабіста, колькі разоў я гэтыя кнігі паказваў чытачам. Ці вось цяперашні “Павук”...

Павук. Чаму павук? Перш за ўсё так вырашыў назваць свой зборнік сам аўтар. Таму што аўтара завуць Сяржук Сыс. Таму што чалавек Сяржук Сыс лётае з мінулага ў будучыню, бо бачыць як і куды ляціць гісторыя і час, хоча і здольны паспяваць за імі, але не можа гэтага сабе дазволіць. Бо мусіць быць са сваім народам, які застаўся недзе збоку ад хады гісторыі. І жыве не ў часе, а насуперак часу...

А паэт Сяржук Сыс ведае, як хутка і імклівa, “нібы ад свечкі тонкі дым”, зыходзіць час. Але ўпэўнены, што Творца створыць таго, хто падхопіць пачатае ім (“Несуцяшальна і нястрымна”).

Таму што паэт Сяржук Сыс цалкам, усёй сваёй істотай, з душой і нервамі так уваходзіць у вобразы сваіх герояў, што сам становіцца імі. Сам становіцца тым сябрам, якому прысвячае некалькі шчырых радкоў, сам становіцца горадам, па бруку якога сам жа і крочыць, і месяцам, з якім сам жа і п’е віно, і віном, якое п’е з месяцам, і павуком... Гэта пра такіх сказана, што на кожным вяселлі ён маладая, а на кожных паховінах нябожчык (“П’яны сон”). І ў кожным разе застаецца беларусам. Беларускім нябожчыкам, беларускай маладой, беларускім горадам, беларускім месяцам, беларускім віном, беларускім сябрам, беларускім павуком...

Ён, гарадскі на сённяшні дзень паэт, размаўляе з ветрам у вясковым коміне (“Размова з ветрам”), а на прыродзе, седзячы над Сожам, успамінае чужыя гарады, дзе вітае даўніна беларускага духу, (“Смаленск”), (“Беласток”), (“Вільня”). Або ўзгадвае мясціны, куды хоча ўцячы на нейкі кароткае імгненне яго беларускі дух (“Уцёкі ў Парыж”), каб хутчэй зноў вярнуцца ў сваю рэчаіснасць, у сваю рэальнасць, і ў такі знаёмы, такі свой і такі чужы час. І натхняцца там таямнічымі пейзажамі роднага краю з яго непаўторнымі, патаемнымі і сакральнымі з’явамі, якія наводзяць на роздум пра вечнае (“Дуб”).

Ну а падчас быцця ў тых чужых гарадах яго сэрца вяртаецца да сваіх сяброў, якія як і ён сам да паранаідальнага стану апантаныя беларушчынай ды ідэямі справядлівасці, і ён прысвячае ім шчырыя ды цёплыя радкі... І Алесю Бяляцкаму (“Абагрэты дзівосным святлом”), і Барысу Пятровічу (“Жыць не страшна”), і сярод іншых, пахвалюся, хаця крыху і нясціпла, і маёй сціплай персоне (“Усё было тут не аднойчы”).

І канечне ж бацьку (“Разальецца Дняпро па вясне”), і канечне ж жонцы (“Штогод з тумановае ніткі”)...

І многім іншым. Але толькі тым, каму, як і яму самому, у галаву прыходзяць роздумы пра дабро і зло. І ніколі тыя роздумы галаву не пакідаюць...

Але “Павук” не раскрывае сутнасць зла і не ўзносіць да нябёс веліч дабра. Не ставіць такой мэты. Адваротнага таксама не паказвае. І нічога не сцвярджае. Творчасць паэта застаецца недзе на мяжы разумення дабра і зла, там, дзе пачынаецца яшчэ ні ім, і ні кім іншым не асэнсаваная і неспазнаная ягоная зямная місія паэта і чалавека з прапіскай у Беларусі. Тая місія, якую калі яму да канца не ўдасца ажыццявіць, то ім усё адно мусіць быць пачатая. Бо калі яна будзе пачатая, то Творца пасля пашле на зямлю яшчэ некага таго, хто падхопіць і прадоўжыць пачатае ім, сённяшнім беларускім паэтам.

“Павук” сабраў вершы розных гадоў. І як сказана на пачатку зборніка, гэта дае мажлівасць прасачыць эвалюцыю аўтара. Я не майстра такога даследвання. Але з упэўненасцю магу сказаць, што канкрэтна аб’ядноўвае ўсе яго вершы за ўсе тыя гады, акрамя імя аўтара. Усе яны адпавядаюць вялікай місіі паэта запаўняць пустэчы вершамі. Пустэчы ідэяў, пустэчы навукі, пустэчы чалавечых душ, пустэчы розумаў, пустэчы сэрцаў... Усе пустэчы. І тыя дзе патрэбны смутак, боль і слёзы, і тыя, дзе неабходныя злосць, рашучасць і бітва, і тыя, дзе патрэбны цяпло, пяшчота і радасць ...

І яшчэ беларускі дух. Можна быць сусветным творцам касмічнага маштабу, але з беларускай прапіскай. З той, дзе прапісалася душа... Душа якая баліць і крывавіць, бо муляе глыбока заселая стрэмка...

І каб вытрымаць гэты боль ад заселай глыбока стрэмкі, патрэбна мець цярпенне павука (“Павук”, прысвечаны Галіне Дубянецкай). І той мудры беларускі павук шчодра дзеліцца сваім цярпеннем нават з такой эмацыйнай постаццю, як Сяржук Сыс. Зрэшты, дастаткова прачытаць гэты верш, каб зразумець, што іх сімпатыі адзін да другога ўзаемныя.

Таму “Павук”! Канечне ж “Павук”. Што ж яшчэ, акрамя павука? А што далей? Далей пакажа час. Час пакажа паэту, а паэт нам.

Кажуць, што вершы лепш успрымаюцца і глыбей западаюць у душу, калі чытач не ведае творцу асабіста. Зборнік “Павук” чытаецца лёгка, цікава і захапляльна нават пры ўмове, што аўтара ведаеш асабіста з усімі складанасцямі яго няпростай і непрадказальнай натуры. А таксама натуры творчай, мэтанакіраванай, цэльнай і беларускай. Там ёсць усё для чытання і роздуму.

Там жыццё і пачуцці, парывы душы, захапленні, надзеі, боль...

Там смутак і туга пераплеценыя аптымізмам.

Там крык.

Там цішыня, якую, як павучыную павуцінку, разрывае цішыня.

Там вершы, якія запаўняюць пустоты вершамі.

Ганна Навумава



...стагнус...

# Таямніца сербскай душы

## *Рэцэнзія на кнігу Джорджы Нікаліча*

***Джорджа Нікаліч. Таямніца часу. Выбранае / Укладанне, прадмова, каментарыі І. Чароты / Пераклад І. Чароты, Л. Рублеўскай, В. Шніпа. – Мінск: Белпринт, 2013. – 136 с.***

Кніга Джорджы Нікаліча стала першай асобная кнігай выбраных твораў сербскага паэта, выдадзенай у Беларусі. Першапраходца – выхадзец з Сербіі, які, тым не менш, большую частку свайго жыцця правёў у эміграцыі.

У зборніку прадстаўлены выбраныя творы з дзевяці паэтычных кніг, якія выйшлі ў розныя часы. Джорджа Нікаліч адзначаны дзясяткам прэстыжных літаратурных прэмій, і беларускія чытачы заслугоўваюць таго, каб нарэшце патрымаць у руках кнігу паэзіі Дж. Нікаліча і адчуць асалоду ад знаёмства з ей, побач з англічанамі, амерыканцамі, балгарамі, іспанцамі, італьянцамі, македонцамі, румынамі, рускімі і японцамі, на чые мовы творы паэта таксама перакладаліся.

Лірычны герой паэзіі Дж. Нікаліча – яскравая асоба.




З аднаго боку, гэта абстрактны мысляр, філосаф, вырашальнік агульначалавечых праблемаў, з другога – прадстаўнік канкрэтнай нацыі, выхадзец з канкрэтнай сям'і. Вось менавіта ў гэтым і заключаецца складанае спалучэнне ўніверсальнага і лакальнага, якое заўсёды забяспечвае інтарэс замежнага чытача пры знаёмстве з творчасцю іншанацыянальнага паэта.

Зварот да нацыянальнага вельмі выразна ўвасобіўся ў лірыцы, прысвечанай гісторыі сваёй Радзімы. Шмат у кнізе пра трагічнае мінулае сербаў – народ смелы, самаадданы. Няшчасная "галава серба" пакутуе пад ярмом захопнікаў (*"Галаве серба, як вядома..."), а абараняе дарагую сэрцу аўтара зямлю Каралевіч Марка, вядомы герой сербскага эпасу (*"Замест братэрства падзелы..."). Праз глыбокае асэнсаванне гісторыі і сучаснасці свайго народа паэт прыходзіць да высновы пра прадвызначанасць лёсу яго суайчыннікаў: "Якой песні мы навучаны / Акрамя змагарскай" (верш "Сербская песня").

Будучыня Радзімы глыбока неабыякавая паэту – ён аддалены геаграфічна, але ўвесь час нясе яе з сабой, перажывае разам з ёй кожны момант гісторыі – актуальнай і мінулай. Прычым у сваіх творах Дж. Нікаліч не тлумачыць чытачу сваё разуменне гісторыі – ён, здаецца, спрабуе адчуць гісторыю і падзяліцца сваім адчуваннем з намі. У вершы "Сербія" лірычны герой рашуча сцвярджае: "Наканавана..." – і гучыць гэта даволі фатальна. Тым больш тое, што наканавана Сербіі, складаецца заўсёды з суіснавання супрацьлегласцяў, узаемазмянення і ўзаемадзеяння антыномій: паўсюль "магілы скрозь адна на адной", але і "прарастае трава"; калыскі – сімвалы нараджэння і жыцця, а побач – груганы, спадарожнікі смерці. "Наканавана: гінь да выжывай" – сцвярджае лірычны герой. Сапраўды, шмат трагічнага выпала на долю сербаў, і заўсёды ім прыходзілася выжываць, знаходзіць для гэтага шляхі і магчымасці. Здаецца часам, што іх тэмперамент, менталітэт, культура, звычкі, знешнасць – усё гэта створана з разлікам на тое, што прыйдзецца ўсё жыццё змагацца і выжываць. А лепшыя дапаможнікі ў гэтым – сербскі невычарпальны аптымізм, схільнасць да самаіроніі, пачуццё гумару.

Тып светаўспрымання паэта, які абапіраецца на суіснаванне супрацьлегласцяў, праяўляецца не толькі адносна гісторыі краіны і не толькі ў вершы "Сербія". Гэта, як гаворыцца ў аднайменным творы, у нейкім сэнсе ваганні – елка ўзвіваецца ўвысь, але пры гэтым яна "у глебу родную заземлена глыбока"; у церна пяшчотныя лісцікі, але, каб абараніць іх, яму прыходзіцца выстаўляць калючкі. У вершы "Высокія прабачэнні" аўтар не толькі канстатуе такую закальцаванасць законаў жыцця, але і фармулюе глыбокі маральны сэнс гэтага: як кожны саджанец, кожнае дрэва квітнеючага сада сілкуецца глыбока схаваным пад зямлёй коранем, так і "у кожнай радасці ўзвышэння" непазбежна ёсць "дараванне тых, хто ў прыніжэнні"... У такой злучанасці нараджэння і смерці, стваральнага і разбуральнага пачатку – закон існавання жыцця, ён непазбежны, непарушны, пры гэтым адзіна магчымы і справядлівы. А канкрэтныя жыццёвыя законы застаюцца для нас неспасцігальнымі, таму і "схавана ад нас гэтая / часу таямніца вялікая" (верш "Таямніца часу").

Для Дж. Нікаліча навакольны свет – цуд, а любая праява жыцця – увасабленне чароўнага і незвычайнага. Кожны дзень мінае ля нас незаўважаным, а ў творах паэта ён напаўняецца асаблівым сэнсам пры дапамозе арыгінальных вобразаў ("Дзень"). Крануць радкі вершаў Дж. Нікаліча і тых, хто хоць аднойчы быў у Бялградзе: літаральна па адным слове ў кожным радку верша "Бялград", і кожнае

з іх трапляе ў самае сэрца і адносіць усіх аматараў сербскай сталіцы ў колазварот эмацыйных успамінаў.

Увага паэта часта фіксуецца на вузкім фрагменце прасторы, у аскетычнай велічы якога ён чэрпае натхненне для лірычных роздумаў. Ён амаль што абагаўляе свет прыроды вакол нас – ластаўку, салаўя, пчалу, траву... Творы Дж. Нікаліча – гэта гімн усяму наваколлю, гімн свету, які стварыў Бог, ва ўсіх яго праявах (верш “Пахвала дрэву”). Дарэчы, светаўспрыманне паэта адназначна хрысціянскага парадку. Намагаючыся спасцігнуць таямніцу існавання быцця і ходу часу, ён канстатуе Боскую прадвызначанасць усяго гэтага, а пакутуючы за сваю маці-Радзіму, ён горача моліцца за будучыню роднай Сербіі, праваслаўнай Русі і ўсяго чалавецтва (верш “Малітва”).

З асобных вершаў паэта вынікае, што ўсё самае важнае, сапраўднае – па-за светам, улоўным для чалавечага вока, у асобным вымярэнні, убачыць прыгажосць якога здольны толькі паэт. Сімвалічны ў гэтым сэнсе вобраз гнязда: падкрэсліваецца, што яно “ні на небе ні на зямлі” – дзесьці між чалавечай рэальнасцю і нябёсамі.

Здаецца, ўсё самае прыгожае аддалена ад людзей, але пры гэтым паэт надае шмат увагі чалавеку і апявае яго. Лірычны герой разважае пра месца кожнай асобы ў гэтым свеце, бо ўсе аднолькава незаменныя, і займаюць сваё, унікальнае месца на планеце. І калі хтосьці сыходзіць – няхай самы незаўважны, самы маленькі чалавек – штосьці ў гэтым свеце губляецца. Як з тым дворнікам, якога “...праводзяць у апошні шлях / З двара / Пакрытага апалым лісцем” (верш “Дворнік”). Задаецца аўтар і пытаннем пра тое, як выглядае свет без чалавека – пытанне цікавае, бо звычайна мы бачым свет такім, якім яго ўспрымае наша свядомасць. Паглядзець на ўсё з боку мы не маем магчымасці. Філосафы нават спрабавалі паставіць пытанне, як кажуць, рубам: што з’яўляецца першасным – свядомасць ці матэрыя? Свой погляд на свет не сваімі вачыма ёсць і ў Дж. Нікаліча – гэта верш “Пазнака”.

Творы Дж. Нікаліча ў некаторым сэнсе ўяўляюць яго біяграфію – хутчэй духоўную, чым фактаграфічную. Ён асэнсоўвае ўласнае жыццё ў кантэксце быцця: напрыклад, сваё 33-годдзе як асаблівы этап у жыцці. Шмат сказана паэтам прыгожых словаў, працятых любоўю да родных і блізкіх, – да сваёй матулі, пра чыё месца ў сваім жыцці так пранікнёна разважае лірычны герой, уздымаючы яе да самага неба. На самога сябе паэт спрабуе паглядзець у межах свайго роду, уласнае жыццё разглядае праз памяць пра сваіх продках, абапіраецца на іх вопыт. Адсюль шмат твораў пра прадзедаў, дзядоў, бацькоў. У вершы “Помнік” паэт задумваецца пра тое, што было б, каб яго “тут Бог скамяніў, / які б гэта помнік быў бацьку і маці?”. Тут мы бачым глыбокае ўсведамленне сваёй ролі і адказнасці як нашчадка сваіх дзядоў і бацькоў.

Прадстаўлена ў зборніку і любоўная лірыка паэта. Каханне, па Дж. Нікалічу, таксама ўпісваецца ў вечнасць, мае дачыненне да ўсяго сусвету ў самым шырокім яго разуменні: пярсцёнак для сваёй нарачонай лірычны герой дастае з “аднаго сузор’я / Што знікла навек / У яе вачах” (верш “Нарачоная”).

Цікавымі падаліся нам творы Дж.Нікаліча і з пункту гледжання формы. У вершах амаль адсутнічае пунктуацыя – радкі нанізваюцца на нашую свядомасць, нічым не прыпыненыя, у тым тэмпе і з тымі акцэнтамі, якіх патрабуе нашае адчуванне. Гэта спрыяе, на нашу думку, больш творчаму ўспрыманню тэкстаў чытачом. Паэт шмат эксперыментуе з формай сваіх твораў. Ён карыстаецца нават усходнімі формамі вершаў – хаіку і танка. Звяртаецца паэт і да класічных формаў, такіх як санет, прычым “Санет пра песню”, амаль на самым пачатку зборніка – быццам уступны матыў да ўсёй кнігі, пачатковы акорд. Вобразна, сакавіта, натхнёна, з размахам піша паэт пра тое, як нараджаецца песня. І пасля

гэтага, ужо ўзняты на вяршыню запалу чытач быццам акунаецца ў багатую, разнастайную стыхію паэзіі Дж. Нікаліча.

Джорджа Нікаліч працягвае доўгую і багатую традыцыю айчыннай літаратуры і ўпісвае сябе ў яе няспынны і павольны рух, звяртаючыся ў сваіх вершах да постацяў такіх сваіх папярэднікаў, як Ёван Дучыч. Гэты сербскі паэт, як і сам Нікаліч, некаторы час знаходзіўся ў эміграцыі. Фігуруюць у творах Нікаліча і рускія паэты – М. Цвятаева, Б. Пастарнак, А. Вазнясенскі і А. Салжаніцын. Дарэчы, калі спрабаваць звязваць творчую гісторыю Нікаліча з іншымі паэтамі, варта ўспомніць, што у яго ёсць супольны зборнік з Ёсіпам Бродскіім і Тыматэушам Карповічам (Three Slavic Poets, 1975).

На беларускай мове вершы Дж. Нікаліча выйшлі дзякуючы ўкладанню І.Чароты, з яго прадмовай і каментарыямі, у перакладах Л. Рублеўскай, В. Шніпа і, у першую чаргу, самога ўкладальніка. Кожны перакладчык, як заўсёды гэта бывае, па-свойму перадаў хараство твораў паэта. У перакладах І. Чароты паэзія Дж. Нікаліча надзвычай лаканічная, сэнсы канцэнтраваныя ў кожным слове, выразы афарыстычныя і быццам выкрышталізаваныя. З-пад пяра В. Шніпа выйшлі радкі мілагучныя і задумёныя, а вершы, пераствораныя Л. Рублеўскай, больш яскравыя, эмацыйна насычаныя. Кожны перакладчык прапусціў творы праз свой уласны сусвет, але пры ўсёй рознасці ўспрымання знаходзіцца так званы “агульны множнік” – выражаны ў высокамастацкай форме духоўны вопыт вельмі глыбокай адоранай асобы. А ўсё астатняе – за чытачом, якому мы і прапануем звярнуцца да таямнічага паэтычнага свету твораў Дж. Нікаліча.



# Н...

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*




**Ратуша: літаратурны альманах. Віцебск. 2014 / укл. А.П. Лазебная. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 178 с.**

Першы выпуск "Ратушы" падрыхтаваны Віцебскім абласным аддзяленнем Саюза беларускіх пісьменнікаў. Нагадаем, што кожны з беларускіх рэгіёнаў дзякуючы СБП мае сваё літаратурна-мастацкае выданне.

*"Спытаеш, чаму "Ратуша"? (Да гэтага часу на Віцебшчыне выходзіў альманах "Дзвіна"). Адказ просты. Ратуша для Віцебска — гэта сімвал волі і росквіту. Ратуша – гэта любімае месца віцябчан. Гэта іх гісторыя і сённяшні дзень"*, – тлумачыць укладальніца зборніка, пісьменніца, старшыня Віцебскага абласнога аддзялення СБП Анастасія Лазебная у прадмоўцы.

Жанры, прадстаўленыя ў альманаху — паэзія, проза, эсэ, творы для дзяцей, пераклады, гумарэскі, — паказваюць, наколькі актыўна развіваецца прыгожае пісьменства ў рэгіёне на сённяшні дзень. У "Ратушу" ўвайшлі творы 37 аўтараў, руска- і беларускамоўных, якія прадстаўляюць розныя пакаленні. Ад маладзейшых — напрыклад, Наталля Гапеева, Алесь Замкоўскі, да старэйшых — Алесь Аркуш, Франц Сіўко. "Цвік" нумара — кароткая проза Германа Гесэ, перакладзеная на беларускую мову Арцёмам Арашонкам, і нямецкая паэзія з розных эпох у перастварэнні Уладзіміра Папковіча.





# Нашыя аўтары

**Навумава Ганна** – перакладчык, даследчык сербскай літаратуры. Студэнтка БДУ. Некалькі яе прац – рэцэнзій, перакладаў, навуковых артыкулаў, прысвечаных творчасці пісьменніка Іва Андрыча, – апубліканвана ў Сербіі. Нарадзілася ў 1991 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Паўлухін Андрэй** – празаік. Па адукацыі бібліятэкар-бібліёграф. Асноўны від дзейнасці ў дадзены момант – трэнер дзіцячых каманд па інтэлектуальных гульнях. Адзін з пераможцаў літаратурнага конкурсу «Новая беларуская фантастыка» (2011) у намінацыі «Аповяд». Аўтар кніг «Белаполіс», «Партал», «Электрычныя сны», «Час ценяў». Доўгі час у творчасці пераважаў кіберпанк, аднак ёсць тэксты, якія можна вызначыць як НФ, фэнтэзі, альтэрнатыўная гісторыя, сцімпанк, пост’ядзерная і нерэалістычная проза. Нарадзіўся ў 1980 годзе ў Рагачове, дзе і жыве.

**Тачыцкая Надзея** – празаік. Студэнтка 2 курса Інстытута журналістыкі (спецыяльнасць “Друкаваныя СМІ”). Нарадзілася 14 мая 1996 года ў вёсцы Сваткі Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. Жыве ў Мінску.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца*** ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**

**Лаўрэаты літаратурнай прэміі «Залаты апостраф» — за лепшыя публікацыі ў часопісе «Дзеяслоў» у 2014 годзе:**

*«Проза».* **Сяргей ДУБАВЕЦ. За апавяданне "Вайна і мір. Справаздача", №71.**

*«Паэзія».* **Людка СІЛЬНОВА. За нізку вершаў "Тэхніка дэтэктыўнага пісьма", №69.**

*«Дэбют».* **Мікіта НАЙДЗЁНАЎ. За нізку вершаў "Гэта не зразумее ніхто апроч", №73.**

*Прэмію часопіса «Дзеяслоў» і Алеся Усені «За ўклад у развіццё сучаснай беларускай літаратуры»* **атрымаў Ніл ГІЛЕВІЧ.**






**«Дзеяслоўцы» шчыра віншуюць новых лаўрэатаў.**



У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Юрыя Дзядзінкіна, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша,
Уладзіміра Крука, Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.